ББК 84Бел7
А90

ПРАДМОВА Л. САВІК

В своем романе автор широко и правдиво рассказывает о событиях первых шести месяцев войны, не скрывает растерянности, неопытности, отчаяния людей, которые очутились под фашистской оккупацией.

Оторванные войной от мирных занятий, пять коммунистов остаются в тылу врага. Роман многоплановый, остросюжетный, глубоко психологичный.

А $\frac{4702120201-110}{М302(03)-89}$ 97—89

ISBN 5-340-00303-5 (т. 1)
ISBN 5-340-00302-7

## ВЕРНАСЦЬ ПРЫЗВАННЮ

У творах А. Асіпенкі, празаіка пераважна ваеннай і сучаснай тэматыкі, знайшлі сваё ўвасабленне шляхі пакалення, да якога належыць сам аўтар. Гэта пакаленне перамагло фашызм у Вялікай Айчыннай вайне, аднавіла разбураную гаспадарку, не страціла веры ў ідэалы Савецкай улады. Лёс народа — лёс пісьменніка, якога не абышлі выпрабаванні і цяжкасці веку. Калі началася вайна, А. Асіпенку ішоў дваццаць другі год. Ён паспеў ужо скончыць сямігодку, рабфак, правучыцца два гады ў Віцебскім педагагічным інстытуце, папрацаваць настаўнікам у школе. Ваяваў у партызанах, і калі ў 1943 годзе пачалося вызваленне ўсходніх абласцей Беларусі, А. Асіпенку як памочніка камісара партызанскага атрада накіроўваюць сакратаром райкома камсамола ў Горацкі, затым Краснапольскі раёны Магілёўскай вобласці. Жыццё пасляваеннай Беларусі таксама добра вядома яму — маладому карэспандэнту, пасля рэдактару «Чырвонай змены», «Маладосці», «ЛіМа», кінастудыі «Беларусьфільм». У А. Асіпенкі свой свет, свая канцэпцыя жыцця, якое ён добра ведае і адкрывае людзям.

Ніхто і нішто не можа расказаць пра пісьменніка так, як расказваюць аб ім яго кнігі. Думкі і пераконанні, уяўленні аб грамадзянскім абавязку, разуменне дабра і зла, духоўнай прыгажосці чалавека — усё гэта знаходзіш у творах мастака. У апавяданнях, аповесцях, раманах А. Асіпенкі — жыццё вёскі і горада, творчы і працоўны патэнцыял народа, яго гераізм і мужнасць, сучаснасць і гісторыя. Вялікі жыццёвы, пісьменніцкі вопыт дазваляе празаіку аднолькава ўпэўнена валодаць самым розным матэрыялам. Яго даследчыцкі тэмперамент, аналітычнае мысленне, актыўнасць аўтарскай пазіцыі праяўляюцца перш за ўсё ў асваенні новых тэм, у праблематыцы твораў. І гэта заўважалася ў самых ранніх апавяданнях, аповесцях, дзе асабліва адчуваль-

ныя аўтабіяграфічныя матывы, звязаныя з вайной, працай сакратара сельскага райкома. Творы пра вайну, напісаныя яе ўдзельнікамі, цікавыя для нас тым, што ў іх засведчана праўда ўласнага ваеннага вопыту. Няшмат пакуль што ў беларускай прозе сказана пра складаныя абставіны першых месяцаў вайны. Менавіта гэты перыяд цікавіць А. Асіпенку ў рамане «Вогненны азімут» (1965). Для работы над раманам быў выбраны не лепшы час. Гэта быў пачатак застойнага перыяду, калі пасля адлігі, прынесенай XX з'ездам партыі, афіцыйная крытыка ў літаратуры, ды і не толькі ў літаратуры, выступала супраць так званай акопнай праўды, патрабавала ад пісьменнікаў ружовага аптымізму і прыгожага самаахвярнага гераізму. Аднак празаіку ўдалося раскрыць атмасферу, што панавала ў сталінскія гады, прымусіць і чытача разам з героямі задумацца над прычынамі цяжкіх страт і ваенных няўдач. Выразна падкрэслена, што 1941-му папярэднічалі 1937—1938 гады, калі быў рэпрэсіраваны амаль увесь камандны склад Савецкай Арміі, ды і не толькі арміі, «...калі тых, хто ў ваеннай справе разбіраўся, пад корань вынішчылі...». Ці не таму падставілі ворагу пад удар непрыкрытыя грудзі, што сталінскія рэпрэсіі, недаравальныя памылкі, злачынная непрадбачлівасць адносна пачатку вайны з Германіяй афіцыйна прыкрываліся дзейнасцю «ворагаў народа», «шпіёнаў, дыверсантаў, здраднікаў», калі людзей свядома нізводзілі да паслухмяных «вінцікаў», зневажалі чалавечую годнасць. Вастрыня ўсіх гэтых праблем не здымаецца аўтарам, але цікавяць яго ў рамане галоўным чынам моманты арганізацыі партызанскай барацьбы на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Учарашнія мірныя людзі — старшыня райвыканкома Галай, загадчык райана Тышкевіч, начальнік райаддзела міліцыі Валенда, старшыня калгаса Каршукоў, сакратар сельсавета Прусава — вось на плечы якіх розных па занятку, а яшчэ больш розных па характарах людзей была ўскладзена адказная, амаль непасільная ноша першых арганізатараў партызанскага руху. Ні ведаў, ні вопыту — адзін абавязак, нянавісць да ворага. Героі рамана ідуць няходжанымі сцежкамі, робяць вялікія і малыя памылкі, за якія часам расплачваюцца жыццямі. Шырока і праўдзіва расказвае аўтар пра падзеі першых шасці месяцаў вайны, не хавае разгубленасці, нявопытнасці, адчаю людзей, што апынуліся пад фашысцкай акупацыяй. Перад чытачом паўстаюць многія карціны і эпізоды, калі грувасткі, неадладжаны адміністрацыйна-бюракратычны апарат памалу, часта не ў той бок, пачынаў свой рух, дапасаваны да ваенных дзён. Нечаканы выклік Галая ў абком партыі, прызначэнне яго кіраўніком пяцёркі, непрадуманасць многіх рашэнняў, няўзгодненасць дзеянняў, недавер і прамая шпіёнаманія, якая ўжо мела падставы ў сувязі з высадкай фашысцкіх

дэсантаў,— вось тая атмасфера, у якой пачынае дзейнічаць падпольная пяцёрка. Аднак нягледзячы на неспрыяльныя, цяжкія ўмовы, у народзе расло ўнутранае супраціўленне, рашучае непрынядце парадкаў, якія ўстанаўліваліся фашыстамі. Аўтар яскрава выяўляе тое асноўнае, што зламала гітлераўскую ваенную машыну,— высокі перамаганосны і патрыятычны дух савецкага народа, імкненне змагацца да апошняга за вызваленне Радзімы ад фашысцкай навалы.

Рыхтуючы раман да новага выдання, А. Асіпенка істотна дапрацаваў некаторыя раздзелы, давёў да лагічнага завяршэння няпростыя лёсы сваіх герояў.

...Само жыццё, складанае, непрыхарошанае, абцяжаранае ваенным ліхалеццем, паўстае ў многіх іншых творах А. Асіпенкі, дзе закранаецца тэма вайны («Пяцёрка адважных», «Два дні і дзве ночы», «Маці», «Пастка», «Белы камень» і інш.). Усе яны, аднак, прасякнуты глыбокім антываенным пафасам, страсным заклікам да захавання міру на зямлі, што патрабуе агромністага напружання маральных, духоўных сіл грамадства.

Але ці можам мы забыць пасляваеннае разбурэнне, працу народа, які перамог, выстаяў і зноў павінен быў цярпліва, неймавернымі намаганнямі ўзнімаць краіну з руін? Да гэтых момантаў жыцця народа звернута аповесць А. Асіпенкі «Жыта». У ёй праявілася выразная тэндэнцыя па-новаму асэнсаваць праблемы рэчаіснасці таго часу. У праўдзівым і глыбокім адлюстраванні паўстаюць перад намі вобразы людзей, якія пачынаюць аднаўляць разбураную вайной гаспадарку. Пісьменнік дакладна вызначыў сацыяльны тып героя часу. Атмасфера асаблівай маральнай чысціні і працоўнага гераізму зыходзіць ад вобраза галоўнага героя аповесці Язэпа Каліны. Уся ўвага аўтара скіравана на тое, каб паказаць, што такія, як Каліна, з яго ваенным мінулым, не толькі добрыя арганізатары і кіраўнікі, але і чулыя, уважлівыя людзі. Яны ўвасабляюць у сабе ў той або іншай ступені маральныя якасці, духоўнае багацце, уласцівыя савецкаму чалавеку. Язэп Каліна толькі пачынае свой працоўны шлях пасля фронту, толькі знаёміцца з абавязкамі старшыні калгаса. Пачынаць адраджэнне роднай вёскі яму даводзіцца на папялішчы. Нялёгка склаўся і яго асабісты лёс. Цяжка паранены, застаўшыся без рукі, ён, аднак, нясе ў сабе незвычайны зарад аптымізму. Ён чалавек справы, мужных грамадзянскіх паводзін. Усё яго жыццё — барацьба. Барацьба за вызваленне Радзімы ад фашыстаў, барацьба за сябе, за лёс аднавяскоўцаў, барацьба супраць абыякавасці і фармалізму. І важна тое, што рысы характару галоўнага героя аповесці аўтар раскрывае праз рэальныя, часам драматычныя сутыкненні з жыццём. Пісьменнік падкрэслівае, што асабістыя інтарэсы Ка-

ліны непарыўна звязаны з інтарэсамі грамадства. Праз гісторыю яго нялёгкага лёсу А. Асіпенка разгортвае шырокую карціну пасляваеннага вясковага побыту, раскрывае значныя сацыяльныя і маральныя канфлікты. З вобразам галоўнага героя звязана асноўная ўнутраная тэма твора — тэма працоўнага подзвігу народа, вернасці свайму грамадзянскаму абавязку, роднай зямлі. У гэтым і заключаецца тое асноўнае, што вызначае маральны і духоўны крытэрый асобы савецкага чалавека, яго сапраўдны гуманізм. Ды і наогул, своеасаблівасць творчай індывідуальнасці А. Асіпенкі праяўляецца ў абвостранай увазе да лепшых якасцей чалавека, у прынцыповай праўдзівасці раскрыцця рэчаіснасці.

Апавяданням, аповесцям А. Асіпенкі ўласцівы глыбіня пранікнення ў грамадскія з'явы жыцця, лірычныя і драматычныя адценні. Пісьменнік часта выкарыстоўвае самыя розныя нечаканасці, выпадковасці, часта трагічныя, якія служаць найбольш рознабаковаму выяўленню супрацьлеглых сіл. Такімі драматычнымі сітуацыямі аўтар падкрэслівае вастрыню грамадскіх і маральных канфліктаў, якія ў яго творах могуць быць абумоўлены цяжкімі ваеннымі, пасляваеннымі абставінамі або выдаткамі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, могуць быць простымі, лакальнымі, адкрытымі ці схаванымі ў глыбінях чалавечай душы, сацыяльна значнымі ці асабістымі, але яны заўсёды патрабуюць прынцыповасці, высокага чалавечага напружання. Характар чалавека ў такіх выпадках часта становіцца зразумелым адразу або, наадварот, вымалёўваецца праз складаныя і супярэчлівыя абставіны. Сюжэт сваіх твораў А. Асіпенка ўмее будаваць займальна, карыстаючыся часта прыгодніцкімі, нават дэтэктыўнымі прыёмамі. Цікава, што ў многіх аповесцях не назіраецца поўнай завершанасці сюжэта. Такія фіналы заўсёды актыўныя, выклікаюць у чытача глыбокі роздум, пачуццё суперажывання. Галоўнае, што аб'ядноўвае творы А. Асіпенкі ў адно цэлае,— гэта імкненне аўтара паказаць уздзеянне народнага жыцця на фарміраванне светапогляду нашых сучаснікаў, асабліва маладых, што павінны вызначаць будучыню краіны.

Пісьменнік вострасацыяльных, надзённых тэм, А. Асіпенка ў рамане «Святыя грэшнікі» звяртаецца да праблем сучаснасці, аднак разглядае іх у цесным спалучэнні з падзеямі гістарычнага мінулага. Галоўны герой рамана кінарэжысёр Лазар Богша, які здымае фільм пра бітву на Нямізе, падарожнічаючы ў прасторы і часе, а разам з ім і мы, чытачы, спазнаём многае з філасофіі быцця, гісторыі, маралі. «Адтуль, з далёкіх глыбінь старажытнасці, да нас дайшлі не толькі фаліянты мёртвых летапісаў, адтуль прыйшлі людскія страсці: і подласць, і вернасць, і крывадушнасць, і вера ў будучыню, і вернае каханне, і смерць. І мяне

захапілі ў сцэнарыі,— гаворыць Лазар Богша,— не знешнія прыкметы таго часу, хоць я стараўся перадаць іх не проста добрасумленна, а як найбольш верагодна, мяне захапілі біццё думкі, жывое трапятанне часу і, як крык душы чалавечай,— «Слова аб палку Ігаравым»...» Дзякуючы аўтарскай фантазіі, мы трапляем у дванаццатае стагоддзе, каб лепш зразумець, многае аднавіць у памяці, а то і ўведаць новае з эпохі Усяслава Полацкага, пабываць у старажытным Полацку і Менску, паназіраць, як мяняне рыхтаваліся сустрэць Яраславічаў, пазнаёміцца са звычаямі нашых продкаў, княгіняй Рагнедай, «ганарлівай полацкай князёўнай». Але найбольш моцнае ўражанне пакідаюць сцэны, дзе пісьменнік малюе старажытны Полацк, Ефрасінню Полацкую, Баяна, майстра Лазара Богшу, які зрабіў славуты крыж Ефрасінні Полацкай. Дарэчы, аўтар надзяляе галоўнага героя прозвішчам старажытнага майстра-мастака, падкрэсліваючы гэтым пераемнасць пакаленняў. Тым і цікавыя «Святыя грэшнікі», што пісьменнік, заглыбляючыся ў гістарычнае мінулае, імкнецца раскрыць праблемы дня сённяшняга, і менавіта праблемы развіцця сучаснага мастацтва. Якім яно павінна быць, чым і як павінна ўздзейнічаць на фарміраванне духоўнага свету асобы, якія тэмы найперш закранаць? Спрэчкі кінарэжысёра Лазара Богшы са сваім калегам-антыподам Кірылам Лыкавязавым аб сутнасці мастака і мастацтва цікавыя і актуальныя, таму што даюць магчымасць зразумець, як цяжка сапраўднаму таленту прабівацца да гледача праз панаванне шэрасці, рамесніцтва, прыстасавальніцтва, бо такія, як Лыкавязаў, здымаючы фільмы на патрэбу дня, фарміруюць у гледачоў, асабліва моладзі, адпаведна зніжаныя густы і погляды. Сапраўдны мастак, чалавек-грамадзянін не можа абыякава ставіцца да гісторыі. Яшчэ А. Пушкін у свой час падкрэсліваў: «Павага да мінулага — вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікасці». А. Асіпенку ўдалося доказна сцвердзіць безумоўнае адзінства, знітаванасць гісторыі і сучаснасці, паказаць, чым пагражае забыццё, адарванасць ад каранёў. Многія старонкі рамана адкрываюць малавядомы мацярык — нашу гісторыю, ствараюць вобраз і сімвал часу, пакідаюць будучым пакаленням боль і радасць далёкіх і блізкіх эпох.

Некалі на самым пачатку пісьменніцкай дзейнасці А. Асіпенку, маладога тады аўтара, падтрымаў К. Чорны, прачытаўшы старонкі першых літаратурных вопытаў. Добразычлівыя парады класіка беларускай літаратуры, своеасаблівая, нялёгкая школа жыцця, дзе былі і вайна і самаадданая праца камсамольскага работніка, газетчыка і журналіста, нямала далі ў назапашванні цікавых назіранняў, сустрэч з людзьмі, выпрацоўкі мастацкіх навыкаў. Пастаянная ўвага да праблем сучаснасці, глыбокае разу-

менне патрабаванняў жыцця па кожным новым этапе, асэнсаванне падзей вайны, гісторыі ў духу лепшых традыцый савецкай літаратуры — усё гэта садзейнічае таму, што творы беларускага празаіка набываюць агульназначны — грамадскі і маральны рэзананс. Не ўсё, зразумела, з напісанага А. Асіпенкам вытрымала выпрабаванне часам, асабліва тыя апавяданні, аповесці, што былі прадыктаваны жаданнем зараз жа адгукнуцца на падзеі дня.

Але гэтага не скажаш пра этапныя творы: «Вогненны азімут», «Жыта», «Непрыкаяны маладзік», «Святыя грэшнікі», дзе выразна адчуваюцца глыбокі роздум, пастаноўка і разуменне вострых праблем, яркае, эканомнае слова, суровая праўда жыцця, гранічная дакладнасць у абмалёўцы характараў, уменне сярод жахаў вайны і пасляваенных разбурэнняў выявіць і яскрава паказаць жыццястойкасць народа, які заўсёды жыў, працаваў, змагаўся, нягледзячы ні на якія выпрабаванні. А вобраз Язэпа Каліны, адзін з лепшых вобразаў, створаных сучаснай беларускай прозай, і сёння ў шэрагу барацьбітоў за перабудову нашага жыцця, бо змагаецца гэты моцны духам чалавек за гуманістычныя прынцыпы, выступае супраць непрымальных метадаў кіраўніцтва бюракратычнага апарату. А. Асіпенку заўсёды хвалявалі суадносіны духоўнасці і бездухоўнасці ў нашым грамадстве, яго прываблівалі непрыкаяныя, няўрымслівыя людзі, якія, становячыся героямі твораў, засцерагалі нас ад прагматызму, мяшчанскіх памкненняў, прыстасавальніцтва, абыякавасці.

Ужо ў гэтым кароткім аглядзе творчага шляху А. Асіпенкі можна ўбачыць, як паступова фарміравалася яго пісьменніцкая індывідуальнасць, вызначаўся прынцып адлюстравання: няўхільны зварот да тых асноўных момантаў жыцця, якія прыйшліся на долю яго пакалення. Цесная ўзаемаабумоўленасць асабістага і грамадскага, імкненне дайсці да глыбіннай праўды свайго часу складае ўнутраную напружанасць лепшых твораў вядомага беларускага празаіка. А. Асіпенка заўсёды пісаў і піша пра тое, што добра яму вядома, што перажыта, передумана. І хоць пісаць сучасніку пра сучаснасць нялёгка, аднак А. Асіпенку-пісьменніку ўласціва ўменне вытрымліваць свой пастаянны курс у нашай складанай, супярэчлівай рэчаіснасці, захоўваць незалежнасць і самастойнасць меркаванняў. Апавяданні, аповесці, раманы, сцэнарыі для фільмаў, цікавыя, займальныя творы для дзяцей пацвярджаюць словы іх аўтара, у якіх дакладна выказана сутнасць яго творчага крэда: «Мне хацелася садзіцца да аналоя з чыстым сэрцам, каб засведчыць на тысячагоддзі праўду пра свой век».

*Л. Савік*

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## Дзе цвіў чабор

### 1

Стары Кацярынінскі шлях у бярозавых прысадах, на прыканцы мінулага стагоддзя вымашчаны каменнем, пад самую раніцу абудзіўся скрыгатлівым, нясцерпным для вушэй грукатам.

Цімох Пархвенавіч Галай, старшыня Падзвінскага райвыканкома, ашалела падхапіўся з сельсавецкай канапы. Падскокваючы на аднойназе, спрабаваў насунуць цеснаватыя ў калашынах галіфэ. Ступня не лезла ў вузкую гарлавіну штаноў, а яго самога вяло набок. Нарэшце ён здагадаўся сесці і ўжо без натугі ўсцягнуў галіфэ, насунуў на босую нагу боты, накінуў на плечы фрэнч, выбег на сельсавецкі падворак.

Яшчэ ў хаце ён зразумеў, што па шашы ідуць танкі. Ад нечаканасці, што яны пайшлі ўначы, ад роспачы, што гэта нямецкія танкі, і ад таго, што яны заспелі яго ў камандзіроўцы, Галай з галавы да пят абліўся халодным потам.

На ўсходзе за шашой ружавела неба. Не астылая за ноч зямля дыхала пыльнай гарачынёй. У перадсвітальных прыцемках па шашы сунуліся чорныя сілуэты танкаў. У Галая адлегла на сэрцы — танкі ішлі з усходу.

Значыць, свае!..

Яму адразу лёгка дыхнулася, а нясцерпны жалезны грукат ужо не рэзаў, а лашчыў слых.

Перасекшы невялічкі пляц перад сельсаветам — гуменца з вытаптанай і падгарэлай на прыпеку травой,— Галай падышоў да шашы, абапёрся аб бярозавы камель спіной.

У танкавай калоне, мабыць, існаваў прасвет-інтэрвал, бо тыя танкі, што прайшлі на захад, былі ўжо ледзь чутны, а з усходу толькі нарастаў грукат новых танкаў.

— Нарэшце,— не баючыся быць пачутым, уголас сказаў Галай, як дзіця, узрадаваны той магутнай сілай, што спяшалася спыніць нямецкае войска недзе на падыходзе да Падзвінска.— Во яны, нашы рэзервы! І, мусіць, не па адным жа гэтым шляху спяшаюцца яны на помач Чырвонай Арміі, што дасюль стрымлівала немцаў. Цяпер пагонім гітлерука без прыпынку да самага Берліна і далей, пакуль не вызвалім усю Еўропу.

Думалася ўсхвалявана і прыемна.

Адсюль, з грудка пад бярозай, шаша, лічы, не праглядалася: на ўсходзе над роўняддзю палёў уздымаўся крутабокі вал Невельскай грады, а на захадзе шаша нырала ў шырокую пойму некалі мнагаводнай рачулкі без назвы.

Слухаючы нарастаючы гул машын, Галай неяк не заўважыў, як на грэбені грады ўзнік магутны танк з доўгім хобатам гарматы. Ён пёр проста на яго. Аж Галай не стрымаўся і адступіў за бярозу, быццам яна магла ўстаяць перад магутным поступам баявой машыны. Танк прагрукатаў міма. Галай убачыў чорную вежу, а над ёю чалавечую постаць у танкісцкім шлеме.

«Яшчэ падумаюць, што я шпіёню»,— мільганула ў аглушанай грукатам галаве, і адразу прыгадаўся нейкі фільм, дзе вось так ішлі танкі, а варожы лазутчык, схаваўшыся за рог дома, падлічваў, колькі іх прайшло праз вёску.

Ля сельсавета нехта чакаў яго. Толькі падышоўшы бліжэй, Галай пазнаў старшыню сельсавета Самароса. Быў той у падштаніках, чырвонай майцы з глыбокім выразам на грудзіне і ў сінім брызентавым плашчы наапашкі. Галай адразу здагадаўся, што і Самарос таксама напалохаўся танкаў.

— Танкі разбудзілі? — спытаўся ён, пазіраючы на босыя Самаросавы ногі.

— Ага, падумаў, што немцы,— прызнаўся Самарос.— А тут яшчэ жонка падштурхнула: уцякай, кажа, з-за цябе і нас пастраляюць. Ну, я кінуўся ў сельсавет. Раптам вы спіцё і нічога не чуеце.

У думках Галай пахваліў Самароса, што найперш кінуўся будзіць яго.

— Кажуць, немцы ноччу не наступаюць. Хоць чаго там, усякае можа быць,— сказаў ён.

— Я ўжо, як сюды дабег, здагадаўся, што нашы,— за-

хоплена гаварыў Самарос.— Але ж і сіла, Цімох Пархвенавіч!..

— Дык жа нездарма недаядалі, за трантамі не гналіся, абы магутнасць краіны была на ўзроўні. Во ён, прымат развіцця цяжкай прамысловасці перад лёгкай!.. Індустрыялізацыя!.. Цяпер небяспека мінавала. Перад такой сілай ніводная армія не ўстаіць...

Танкі ўсё яшчэ грукаталі па бруку, і гэты іх грукат уздымаў апалы за апошнія тры-чатыры дні настрой. Самарос сеў на прыступкі сельсавецкага ганка, задумаўся і закурыў.

— Добра, што небяспека мінавала,— сказаў ён.— З маёй сямейкай кідацца ў адступленне немагчымая справа. А і тут заставацца не выпадае.

У яго асінавым лістом задрыжаў голас.

— Што гэта ты разнюніўся? — падкалоў яго Галай.

— У гэтыя дні маёй Сцепанідзе надавалі парад. Хто спачуваючы, а хто і са злосці. А як жа. Пасада ў мяне, самі ведаеце... Незадаволеныя былі... Пакрыўджаныя таксама. А парады ўсе на адно збіваюцца: уцякайце, пакуль немцы не прыйшлі.

— У народ верыць трэба,— сурова адказаў Галай, не знайшоўшы для Самароса цяплейшых слоў.

— Я не пра народ.— Самарос кінуў на зямлю недакурак, прытаптаў яго голай пяткай.— Можа, яшчэ падрэміце?..

— Не да сну... Хоць небяспека мінавала, вайна яшчэ працягнецца,— разважліва сказаў Галай.— Учора мы з табой на чым спыніліся?..

У старшынёўскім пакоі пахла пракіслым махорачным дымам, нежылым духам казённай установы. Патрывожаны людзьмі, абурана гуў, б'ючыся аб аконнае шкло, калматы чмель. Самарос адчыніў акно, выпусціў чмяля. Дастаў з шуфляды папку, пасунуў Галаю.

— Дырэктыва ваша, шчыра скажу, таварыш Галай, курам на смех. Мы, само сабой, і графікі распрацавалі, і адказных вызначылі, і транспарт падлічылі, а толькі адно не магу зразумець: хто касіць будзе? Мужчыны, дай божа, каб к зіме вярнуліся...

— Ну, во праедзем па калгасах і паглядзім,— ухіліўся ад прамога адказу Галай.

У яго на гэта былі падставы.

— То найлепш,— адразу пагадзіўся Самарос, хоць, па-

праўдзе, зусім не ўяўляў, што будзе рабіць у калгасах Галай.

Начальству заўсёды бачна далей.

У Жыжанскім сельсавеце было чатырнаццаць калгасаў, трэць з якіх лічылася вялікімі, ледзь не гігантамі, бо мелі больш як па сто пяцьдзесят двароў, астатнія належалі да малалюдных. У трох калгасах не набіралася і паўсотні сем'яў.

Сталыпінская рэформа раскідала вёскі па хутарах. За апошнія тры гады — і найперш у шматсямейных калгасах — большасць хутароў пасцягвалі ў пасёлкі. Замест абжытых хутароў у садах і прысадах, да ладу давезеных хат, хлявоў і хлеўчукоў, паветак і свірнаў, такоў і пуняў павырасталі на галу пературэсеныя са старых хаты з несамавітымі халоднымі сенцамі, абы-як скіданымі хлявамі, у якіх вымушаны суседнічаць карова, свінчо, авечкі, куры. Добрыя хаты людзі папрадавалі, балазе на іх быў попыт. Вось і паявіліся пасёлкі, якія трэба было некалі прыводзіць у божы выгляд.

Самарос збіраўся везці Галая ў вялікі калгас. Там і ў канторы некага знойдзеш, ды і людзей пабачыш. Але спачатку трэба паснедаць. Не везці ж галоднага старшыню райвыканкома ў калгасы.

Самарос з дарагой душой пакарміў бы Галая, але добра ведаў, што ў ягонай хаце хоць шаром пакаці. Жыў Самарос на невялікую сельсавецкую зарплату, якой ледзьве хапала на ягоныя сем душ. А з таго часу, як пачалася вайна і парушылася забеспячэнне сельпоўскай крамы, і на гэтую зарплату не было чаго купіць. Жонцы кожны дзень даводзілася бегчы ў горад, каб раздабыць хоць хлеба.

За пятнаццаць гадоў сельсавецкай працы Самаросу ледзь не кожны дзень даводзілася прымаць розных упаўнаважаных, клапаціцца аб іхнім начлезе, снеданнях, абедах і вячэрах. Таму і меў ён у кожным калгасе надзейных людзей, якія давалі прытулак і яму і камандзіраваным самых розных рангаў.

Што праўда, Самаросу не на душу кладліся гэтыя абавязкі, а папярок яе. Чулася ў іх нешта брыдкае, паганае, абразлівае, хоць і разумеў: прыезджаму чалавеку патрэбны і начлег, ды і святым духам ён сыты не будзе.

Цяпер усё пераблыталася. Надзейныя людзі ў арміі. Жонкам жа не да ягоных клопатаў. У іх сваіх пад завязку. Заставалася напрасіцца на снеданне да сакратара сельсавета Прусавай.

Запрэгшы сельсавецкага каня ў брычку, Самарос павёз Галая так, каб не абмінуць хату Прусавай.

— Пачакайце, Цімох Пархвенавіч,— схітрыў ён, спыніўшы каня каля адзінокай хаты,— мне да сакратара сельсавета трэба забегчы. Я ў адзін міг...

Маці Прусавай паліла ў печы. Сама Прусава, Вера Гаўрылаўна, прычэсвала перад люстэркам жорсткія касмылі валасоў.

— Што-небудзь здарылася? — спытала яна, саромеючыся Самароса, які заспеў яе за такім, не вартым актывісткі, заняткам.

— Там Галай,— без аніякай падрыхтоўкі пачаў Самарос.— Паснедаць бы...

— Дык што ж ты яго не запрасіў у хату?..

— Во, і запрасі... Сама...

Вера выбегла на двор.

— Мікітка, а ці можна яму бутэлечку паставіць? — спыталася Верына маці Таклюся.

— Самагонкі?..

— Крый божа!.. Крамнай...

— Пастаў...

Няхітры Самаросаў манеўр, канечне ж, быў разгаданы Галаем з самага пачатку. Ці адзін Самарос, бывала, вось так заходзіў у хату быццам бы па нейкай неадкладнай справе, а потым адтуль выбягалі гаспадар ці гаспадыня, а то і абое разам, прасілі не адмовіць, уважыць, даравацъ за простае сялянскае частаванне.

Падзвінцы славіліся гасціннасцю.

Не заходзячы ў хату, Галай памыўся на двары халоднай калодзежнай вадой. Доўга расціраўся вышываным ручніком, даючы гаспадыні час на тое, каб паставіць снеданне на стол. Распытваў у Прусавай пра настрой людзей.

Нарэшце яго запрасілі ў хату.

Ён павітаўся з Таклюсяй за руку. Старая аж запунсавелася ад такой высокай павагі. Галая пасадзілі на покуць, за доўгі канец стала, на карацейшым, гаспадарскім, канцы — Самароса. Насупраць Галая твар у твар села Вера. Таклюся, як ні ўгаворвалі, за стол не пайшла, але колькі кропляў настойкі выпіла.

Хвілін дзесяць усе былі засяроджаны на ядзе, нібы старанна адраблялі адвечны прыемны абавязак. Па тым, як Вера нясмела ўскідвала вочы на Галая і тут жа апускала іх, як няўседліва трымала сябе, нібы сядзела на мулкім, Самарос здагадваўся, што яна хоча спытаць пра нешта

ў старшыні райвыканкома. Самарос баяўся гэтага Верынага пытання.

Дзён пяць назад, калі нямецкі дэсант асядлаў шашу каля кардона, нехта з гарачых галоў аддаў загад усім чыста жыжанцам адступаць за Дзвіну, а вёску спаліць, каб праклятаму ворагу засталіся адны папялішчы. Так пяйначай нехта зразумеў прамову Сталіна, якая перадавалася па радыё трэцяга ліпеня.

Загад па тэлефоне прыняў адказны ўпаўнаважаны па сельсавеце Чыгілейчык, загадчык райземаддзела. Ён тут жа выклікаў жыжанскіх актывістаў, аб'явіў ім, што і як яны павінны рабіць.

Прусава, як і Чыгілейчык, ставілася да загадаў з трапяткой пашанай, але на гэты раз адчайна запратэставала, абазвала і тых, хто аддаваў загад, і самога Чыгілейчыка панікёрамі і здраднікамі.

І загадчык райза і сакратар сельсавета мелі непрабіўныя жалезабетонныя характары. Але на баку Чыгілейчыка мелася перавага: ён быў начальства, таму і загадаў участковаму арыштаваць Прусаву як сабатажніцу, адправіць пад узмоцненым канвоем у горад.

На шчасце, усё вельмі хутка абышлося. Спахапіўшыся, нехта адмяніў загад аб эвакуацыі. Прусаву, хоць і арыштавалі, тут жа вызвалілі з-пад аховы.

Інцыдэнт быў, як кажуць, вычарпаны. Ды не зусім. Прусава запатрабавала пакараць Чыгілейчыка. На яе патрабаванне ніхто не звярнуў увагу. Было не да разгляду асабістых крыўд.

Самарос баяўся, што Вера звернецца да Галая з гэтай нікчэмнай, на думку Самароса, скаргай. Толькі сапсуе настрой.

Самарос асцярожна наступіў наском бота на Верын брызентавы чаравічак. Вера няўцямна глянула на Самароса, узняла вочы на Галая.

— А я, Цімох Пархвенавіч, хачу паскардзіцца вам,— рашуча пачала яна, прывёўшы Самароса ў роспач.— Што гэта ў нас робіцца? Людзі хочуць выконваць свой свяшчэнны абавязак, а нейкія сабатажнікі ім у гэтым адмаўляюць...

У Самароса — камень з душы, хоць і не мог даўмецца, на каго і чаму скардзіцца Вера. Ён глянуў на Галая. У таго па твары шэрай хмаркай прабегла незадаволенасць.

— Пра што вы? — з суровай строгасцю спытаўся ён.

— Маё месца на фронце, каб з усім народам адстой-

ваць свяшчэнныя рубяжы Радзімы,— мітынгапула Прусава.

— I што ж? — спытаўся Галай, глянуўшы на Прусаву пацяплелым позіркам.

— А тое, што ваенком ад маёй заявы адмахнуўся, а гэта ва ўмовах ваеннага часу пасобніцтва ворагу...

— У ваенкомаў зараз клопатаў шмат. Яны дзень і ноч працуюць,— заступіўся за ваенкома Галай.

Ён ведаў тое, чаго не ведала, не магла ведаць Прусава. З першых дзён вайны на ваенкаматы нахлынула такая процьма работы, якую не змог бы ажыццявіць і ўтрая большы штат. Зрэшты, справа была не толькі ў штатах. Тыя мабілізацыйныя планы, якія складаліся па ўсіх правілах ваеннай навукі, неаднойчы «прайграваліся» і інспектаваліся, у першыя два дні страцілі практычнае іх прымяненне. Пункты збору мабілізаваных апынуліся пад пагрозай масіраваных бамбёжак, а адпраўка мабілізаваных у вайсковыя часці, да якіх яны былі прыпісаны, зрывалася, бо не хапала транспарту, ды і невядома было, дзе зараз знаходзяцца патрэбныя часці. Яшчэ горш было з узбраеннем рэзервістаў. Зброя была, але прызначалася яна дзеля нейкіх іншых патрэб, і, пакуль ішло ўзгадненне, мабілізаваных тэрмінова накіравалі на Лепель.

Тым часам падзеі разгортваліся хутка. Нямецкія войскі па ўсіх напрамках нястрымна рваліся на ўсход. Паўсюль высаджваліся вялікія і малыя дэсанты і дыверсійныя групы, якія заводзілі ў зман мясцовыя ўлады. Адзін з такіх дэсантаў і ўзнік на шляху калоны рэзервістаў. Няўзброеныя людзі былі павернуты на Сянно, адтуль калону скіравалі на Гарадок і Невель.

Зморапыя галодныя людзі не маглі зразумець, чаму іх ганяюць па дарогах, а таму, калі наляцелі самалёты, нехта кінуў, як агонь у сухую траву, пагібельнае слоўца «здрада». Яго было дастаткова, каб раздзьмуць па лясах і пералесках калону цывільных людзей, якія так і не сталі салдатамі.

Тым часам у ваенкаматы пасыпаліся заявы з патрабаваннем неадкладна адправіць на фронт. Не дзіва, што ваенкомам было не да добраахвотнікаў. Хоць бы неяк справіцца з запаснікамі.

— Ваенкаматам да вайны трэба было вось так, як цяпер, працаваць,— у голасе Прусавай упартая нязгода з Галаем.— Дык чухаліся. Па дзесяць раз на год бралі зводкі, хто з запаснікаў і які памер шапак носіць. Быццам

галовы кожны месяц мяняюцца. Пра шапкі падумалі, а на зброю забыліся.

— Ну-ну, Вера,— спалохана прыкрыкнуў на яе Самарос.— Цяпер не да таго, каб вінаватых шукаць...

— А калі крыўдна...

— Ты пра сваю крыўду забудзь,— параіў Самарос.— Вайна ўсенародная ідзе.

— Во-во, усенародная, а народ, які хоча на фронт, не пушчаюць. Дык хіба гэта парадак?..

— Вечна ты, таварыш Прусава, факты на галаву ставіш,— да смешнага афіцыйна адпарыраваў Самарос.

— Яшчэ невядома, хто на галаве стаіць,— не здавалася Прусава.

Галай у спрэчку не лез. Прыглядаўся, прыслухоўваўся да Прусавай. Стараўся прыгадаць, а што ён пра яе ведае? Лічы, нічога. У памяці ўсплыў адзін-адзіны выпадак. Гады чатыры назад з Жыжана паступіла скарга, што сакратар сельсавета Прусава адмовілася даваць даведкі выпускнікам школы для паступлення ў тэхнікумы.

З Прусавай тады гаварыў намеснік Галая Трыпутнікаў. Пасля размовы ён зайшоў да Галая.

— У прынцыпе — Прусавай праўда,— сказаў Трыпутнікаў.— У вёсцы застаюцца горшыя з моладзі, хто і ў школе не хацеў вучыцца, ды і на працы сябе не паказаў. Лепшая частка здольных маладых людзей ідзе ў горад. Калі так будзе, дык вёска год праз дваццаць вырадзіцца. Хто ж будзе вырошчваць хлеб?..

Ён, Галай, прысароміў тады свайго намесніка. Цяпер гэта прыгадалася ў іншым святле. Сапраўды вёска аддавала гораду лепшае, таму пры агульным высокім узроўні адукацыі сама павінна была задавальняцца моладдзю, якая з горам папалам неяк заканчвала чатыры класы.

Прусава ўсё яшчэ спрачалася з Самаросам. Галай падзякаваў гаспадыні, вылез з-за стала.

— Цяпер, таварыш Прусава, усюды фронт,— сказаў ён, паціскаючы ёй руку.— Але я пагавару з ваенкомам...

## 2

За доўгія гады работы — аж з вясны трыццаць першага — Галай удоўж і ўпоперак аб'ездзіў свой Падзвінскі раён. Зрэшты, гэта толькі так гаворыцца. Звычайна ён даязджаў да сельсавета. Было іх у раёне семнаццаць. Гойсаць па хутарскіх вёсках, а потым і па калгасах, у якіх

невядома дзе размяшчаліся канторы, было заняткам малакарысным.

Але раён Галай ведаў, асабліва пасля таго як пачалі сцягваць хутары і па ўсім раёне хоць троху абазначыліся будучыя калгасныя пасёлкі, яшчэ вельмі несамавітыя, непаглядныя, але ўжо нейкім чынам перспектыўныя.

Пасля трэцяга ліпеня, калі па радыё выступіў Сталін, у Падзвінскім раёне адбылася кароткая і вельмі абмежаваная нарада. На ёй прысутнічалі нават не ўсе члены бюро райкома. Сярод іншых і вельмі неадкладных пытанняў было і пытанне эвакуацыі жывёлы, тэхнікі і людзей на выпадак акупацыі раёна нямецкімі войскамі.

Райкому і райвыканкому сумесна з іншымі ўстановамі належала за фантастычна кароткі час скласці планы эвакуацыі раёна, вызначыць адказных, распрацаваць маршруты эвакуацыі. Складанасць заключалася ў тым, што да пэўнага часу планы гэтыя павінны былі трымацца ў сакрэце, каб не нарабіць часам панікі сярод насельніцтва. Так узнікла ідэя праводзіць усю работу пад выглядам падрыхтоўкі да сенакосу.

Галай, як і іншыя ўпаўнаважаныя, павінен быў пабачыць, як спрацуе «сенакосны» механізм на эвакуацыю. Таму і хацеў ён аб'ехаць як можна больш калгасаў.

Раніца, як і ўсе ваеннай пары дні, была без расы, сухая і гарачая, з пякучым усходнім ветрыкам, нібы дзесьці там, за градою казённага лесу, палыхаў пажар. Увачавідкі чырванела неба, скідаючы свой непаўторны блакітны колер. Усё той жа нябачны пажар расплаўляў пяшчотную паліву неба. Далягляд памалу акрываўся белаватай, як высушанай, смугой.

Самарос з Галаем сядзелі спіной да спіны. Сельсавецкая брычка на жалезным хаду і перасыпаных нядаўна рысорах мякка пагойдвалася, нячутна каціліся па пясчанай дарозе з дзвюма градкамі мурожнай травы пасярэдзіне. Справа вачам адкрывалася прасторная далячынь, узгорыстая, з бародкамі лесу і раскіданымі па пагорках вёскамі і хутарамі. Злева далягляд закрываў казённы лес, які цягнуўся аж да самага Панізоўя і далей, па Смаленскіх прасторах. Перад лесам віхляла паміж пагоркаў рачулка ў нізкіх берагах і густых хмызняках, сёлета асабліва зялёных і пышных. Дарога то набліжалася да рачулкі, то адступала ад яе. А можа, наадварот, рака ўнікала дарожнага неспакою.

Недзе там, у лесе, запознена кукавала зязюля. Можа,

таму, што яна кукавала на самым заходзе зязюльчыных заляцанняў, голас у яе быў хрыплы, з непрыемным клекатаннем, быццам зязюлю нехта душыў.

Першы калгас — імя Мархлеўскага — уразіў Галая здзічэлай бязлюднасцю. Ляжаў ён у баку ад дарогі, за неглыбокім ровам. Абапал вуліцы, яшчэ не выраўнянай, не выбітай, стаялі хаты, ператрэсеныя з хутарскіх; амаль у кожнай бялелі падрубы і падаконныя вянцы, сляды вымушанага рамонту.

З сярэдзіны пасёлка, за ўзгоркам, вуліца, наткнуўшыся на замшэлую сажалку, раздвойвалася. Левае крыло яе, прыспусціўшыся з пагорка ў нізіну, тут жа выкарабквалася па крутаватым беразе на поле, дзе пад старымі соснамі туліліся могілкі ў зарасніках кашкі. Правае крыло пасёлка агінала парослы чаротам бераг сажалкі, упіралася ў грамадскія будынкі: хлявы, канюшню, свіран і калгасную кантору.

На канторскім ганку сядзеў стары з шырокай пярэстай барадой: у кужэльную яе бель затканы чорна-медныя ніткі.

— Старшыня дзе? — не злазячы з брычкі, спытаўся Самарос.

Яму было непрыемна, што з канторы ніхто не выбег насустрач, хоць прыехала не абы-якое начальства, а нейкі дзед невядома чаму расселся на ганку як у сябе дома.

— Калі пра Варанца пытаешся, дык ён знабілізаваны,— пазіраючы то на Самароса, то на Галая, адказаў стары.— А калі пра Трылісценкаву, дык яна сённячы на світанні паехала ў адступленне.

— Хто дазволіў, чаму? — сумеўся Самарос.

— Дык брацянік яе, Яшка Лятоха, учора прыскочыў на антанабілі. Напалохаў людзей, аж мароз па скуры дзярэ. Кажа, немцы ўсіх актывістаў і яўрэяў падчыстую страляюць. А Лізавета Трылісценкава, ізвеснае дзела, першая актывістка. Кінула ўсё і паехала з брацянікавай сям'ёй... Можа, таварышок, закурыць знойдзецца?..

— Дык што, калгас без кіраўніцтва застаўся? — стрымліваючы ў грудзях лютую злосць, спытаўся Самарос.

Яму было няёмка перад Галаем — першы калгас і такая прамашка!..

— Чаму без кіраўніцтва? — запярэчыў стары.— А я, па-твойму, чаму тут сяджу? Не дзеля небелі.

— Дык ты старшыня? — усумніўся Самарос.

Стары палез у кішэню, дастаў зашмальцаваны капшучок, выцягнуў з яго калгасную пячатку.

— Во, пячатка. А раз пячатка ў мяне, значыцца, я і ёсць старшыня. Лізавета, ад'язджаючы, так і сказала: бяры пячатку і кіруй, а кім кіраваць? Во вапрос... Дык і вы без курыва? — нагадаў ён Самаросу.

Той дастаў партсігар з дзюралю, у якім была і махра, і папяросная папера. Стары закурыў.

— А вы хто будзеце? — спытаўся ён.

Стары стаяў перад брычкай, і Галаю стала няёмка: яны, як паны, сядзяць, а ён, нібы парабак, стаіць. Злез, падаў руку.

— Старшыня райвыканкома Галай,— назваўся ён.

Стары недаверліва паглядзеў на яго.

— А дакуменцік на гэты конт маеш?.. А то цяперачы ўсякія ездзяць.

Галай паказаў пасведчанне. Стары доўга разглядаў яго. Нарэшце аддаў. Галая забаўляла гэта гульня ў пільнасць.

— Можа, і сам назваўся б? — нагадаў ён.

— Можна назвацца... Арцёха я, Прахор Кузьміч Арцёха...

— Ты хіба нетутэшні? — саскочыў з брычкі Самарос.— Тут зроду Арцёхаў не было...

— Верна, не было... Маці мая, па прозвішчу Катовічава, адсюль родам. Яна замуж у горад выйшла за Кузьму Арцёху. А я ягоны сын.

— Ану, дай сюды пячатку,— рашуча загадаў Самарос.— Хто дазволіў нейкай прыблудзе быць старшынёй?.. Чорт ведае што робіцца...

— Толькі дзякуй скажу, што забраў пячатку. Мне яна без патрэбы,— Арцёха сунуў пячатку Самаросу і пайшоў.

— Сам цяпер будзеш за старшыню? — пажартаваў Галай.

— Трызненне нейкае,— абурана сказаў Самарос.— Дурня ён валяў ці здзекаваўся з нас?..

— Людзей трэба шукаць,— параіў Галай.— Не пайшлі ж яны ўсе ў адступленне.

У адной з хат Самарос знайшоў бабулю. Тая і падказала, што людзі зараз у рове капаюць бункеры, каб схавацца ў іх ад снарадаў і куль.

Пакінуўшы брычку ў вёсцы, Самарос з Галаем пайшлі ў роў. Там сапраўды была ўся вёска. Вестка, што прыехаў

старшыня райвыканкома, вельмі хутка абляцела вялізны, зарослы векавечнымі хвоямі і густымі хмызнякамі роў.

На беразе ручая, што цёк па каменьчыках на дне рова, сабраўся ці не ўвесь калгас. Частка калгаснікаў з левага крыла пасёлка капала сховішчы ў другім рове, па той бок могілак.

Галай прыглядаўся да людзей. Бабы, барадатыя мужыкі, якіх не прызвалі ў армію, хлопцы-падлеткі, дзеўкі. Насцярожаныя твары. У вачах адно-адзінае пытанне: ці прыйдзе немец і нямы на яго адказ: калі прыйдзе, не ўратуешся.

— Немца мы разаб'ём,— важка сказаў Галай і пабачыў, як засвяціліся твары ў маладых.

Старыя або не паверылі, або ўмела стрымалі радасць. Хутчэй не паверылі.

— Страшная сіла прэ,— адгукнуўся нехта збоч Галая.

— Самалёты іхнія як у сябе дома лятаюць — строем.

— Да вайны паўвёскі варашылаўскімі стралкамі былі. А цяпер паляць з зенітак па самалётах, а ім хоць бы хны. Ад іх, кажуць, снарады як ад сцяны гарох адскокваюць.

— Еўропу захапіў...

— Я так думаю: нашы знарок адступаюць. Заманяць і накладуць па карку...

Адзінокі голас гэты падштурхнуў Галая.

— Во мы з Мікітам Лявонавічам сёння былі сведкамі, як ішлі на фронт танкі. Сі-ла! Перад такой — немцу не ўстаяць. Так што вышэй галовы, таварышы...

Галай чакаў нейкіх бурных выяўленняў пачуццяў, а ягоныя словы сустрэлі моўчкі.

— Дай бог,— у маўклівай цішыні пачуўся жаночы голас.

— А навошта ж тады заклікаюць ствараць партызанскія атрады? — спытаўся барадаты мужчына з маладымі вачамі.

— А чым мы не партызаны,— вясёлы хлапечы голас.— Нам толькі зброю...

— Маладым толькі б скаліць зубы...

— У немца самалёты, а мы на іх з вінтовачкай...

Галай зноў перапыніў гаворку.

— Не сакрэт, таварышы,— узважваючы кожнае слова, загаварыў ён,— што вялікая частка рэспублікі апынулася пад часовай акупацыяй. Я падкрэсліваю: часовай. Во там і будуць стварацца атрады. Думаю, нам не давядзецца займацца гэтай справай. У нас сенакос на носе, а там жні-

во... Ну а калі, не будзем выключаць і такога горкага факта, немцы будуць пагражаць захапіць Падзвінне, мы дружна эвакуіруем тэхніку, жывёлу, людзей. Не пакінем ворагу ніякіх набыткаў...

Галай пачуў, як завісла над людзьмі трывожная цішыня.

— І куды ж нас вакуіруюць? — як стрэліла ў Галая рабая і маўклівая дасюль цётка.

— Пра гэта гаворка пойдзе тады, калі наспее небяспека,— адказаў Галай.

— А я так скажу: нікуды мы адсюль не паедзем. Калі паміраць, дык на сваёй зямлі.

— Верна!..

— Пра жысць нада думаць, а не пра вакуацыю...

— Хату кінуць, а потым што? Я хату не адзін год будаваў...

— Зямлю сіраціць не станем...

Галай быў не рады, што распачаў не да часу размову. На шчасце, выручыў яго Самарос.

— Ото ж народ,— з дакорам сказаў ён.— Вы вот крычыцё, што зямлю сваю, потам палітую, не кінеце. Правільна!.. А кінулі ж яе. Кінулі! Гэта ж нада, прышламу чалавеку пячатку даверылі. Ён вамі накіруе. Дык я і пытаюся: парадак гэта ці форменнае разгільдзяйства? Во, лепей давайце памазгуем, каго старшынёй абраць, калі пастаўленая намі Лізавета Трылісценкава, не пабаюся сказаць гэта слова, ганебна дэзерціравала.

Едучы з калгаса імя Мархлеўскага ў калгас «Чырвоная зорка», Самарос, старанна адводзячы вочы, спытаўся ў Галая:

— Я, Цімох Пархвенавіч, за сваё жыццё розныя загады выконваў. І цяпер, калі спатрэбіцца, выканаю. Але аднаго не магу зразумець, насур'ёз гаворыцца пра эвакуацыю ці так...

— Насур'ёз, таварыш Самарос,— афіцыйна адказаў Галай.

— Нешта я не бачыў дасюль эвакуіраваных з другіх мясцін, якія ўжо захапіў немец.— Самарос выцяў каня пугай, і той ад нечаканасці рвануў адразу на галоп, аж абодва яны адкінуліся назад, на высокую спінку брычкі.

Галай і сам ужо разумеў, што распрацаваны план эвакуацыі і знішчэння грамадскіх даброт, якія маглі памагчы немцам у вайне, не мае пад сабой трывалага грунту. Як сарваць з месца тысячы сем'яў, адправіць у далёкую

дарогу?.. Што чакае іх там?.. На паперы ўсё выглядала даволі гладка. А наяве?..

Пад самы вечар, калі яркае сонца распаленым вогненным шарам пачало хіліцца к далягляду, сакратарская «эмка» знайшла Галая ў калгасе «Новае жыццё». Інструктар райкома перадаў Галаю канверт. У кароценькай запісцы сакратара — некалькі фраз: сёння ж ноччу пачаць эвакуацыю жывёлы ў Папізаўскі раён Смаленскай вобласці. Дзейнічаць згодна з планам. На тваім месцы застанецца тав. Лябедка (інструктар, які і прывёз запіску). Сам неадкладна выязджай у абком партыі.

— Што здарылася? — спытаўся Галай у інструктара.

— Танкавы заслон знішчаны,— адказаў той.— Немцы ў адным пераходзе ад горада...

— Давайце памяркуем, як лепей арганізаваць эвакуацыю жывёлы,— прапанаваў Галай.— Цяпер, таварыш Самарос, можна сказаць, што адказныя за сенакос гэта адказныя за эвакуацыю жывёлы. Так што ламаць галаву, хто пагоніць жывёлу, не трэба...

Самарос пахітаў галавой.

— Сакрэты!.. Усё сакрэты!.. А палова адказных дзеля такой справы непрыгодныя. Ну ды нам не прывыкаць... Зробім...

Пакінуўшы за сябе Лябедку, як і было вызначана ў раёне, Галай на прыцемку выехаў у горад.

Каля ўвахода ў абком — двое ўзброеных мужчын са знішчальнага атрада. У вестыбюлі абкома — паўзмрок. Дзяжурны міліцыянер доўга правяраў дакументы.

— Вам да першага,— сказаў ён, заглянуўшы ў паперу, што ляжала пад шклом.

Па шырокай мармуровай лесвіцы Галай падняўся на другі паверх. У прыёмнай першага сакратара — дзяжурны па абкому Чэкіна.

— Чуў? — спыталася яна.— Баі ідуць пад Астроўнай.

— Чаму мяне выклікалі і так тэрмінова? — пацікавіўся Галай.

— Цяпер многіх выклікаюць і ўсіх тэрмінова.

З кабінета першага сакратара выйшаў лысы ўзапрэлы чалавек. Выцер лысіну кепкай і тут жа нахлабучыў яе на галаву. Пастаяў у роздуме і, махнуўшы ў адчаі рукой, выйшаў з прыёмнай.

Галай пераглянуўся з Чэкінай, без слоў зразумеўшы адно аднаго. З кабінета выглянуў першы сакратар. На

твары сляды нядаўняга гневу. Убачыўшы Галая, коратка загадаў:

— Заходзь...

У кабінеце сядзелі двое: начальнік упраўлення НКВД і незнаёмы Галаю ў зеленкаватым фрэнчы з вялікімі накладнымі кішэнямі. Галай сеў на ўказанае яму месца. Настала вымушанае няёмкае маўчанне. У куце, за спіной Галая, ляніва цікаў стары, ці не купецкі яшчэ, гадзіннік з вялікім пазалочаным маятнікам і пазалочанымі стрэлкамі.

— Абстаноўка, спадзяюся, вам вядома,— парушыў маўчанне незнаёмы, звяртаючыся да Галая.

— Больш па слухах,— адказаў Галай і зразумеў, што не патрапіў, бо першы глянуў на яго коса.

— Прамову таварыша Сталіна чыталі? — зноў спытаўся незнаёмы.

— Чытаў,— адказаў Галай, разумеючы ўжо, што ў ягоным лёсе наспела нейкая перамена.

— І якую выснову зрабілі?..

— Вораг будзе разбіты,— як адчэпнае кінуў Галай.

— Іменна,— падхапіў незнаёмы.— А дзеля гэтага вайна супраць фашызму павінна стаць усенароднай... Усенароднай!..

Здаецца, на гэтым незнаёмы сваю місію выканаў. У гаворку ўступіў першы сакратар абкома.

— Ёсць думка, Цімох Пархвенавіч,— пачаў ён,— пакінуць цябе ў тыле ворага арганізатарам партызанскага руху ў раёне.

Галай пачуў, як у галодным жываце пахаладзела. У ашаломленай нечаканасцю свядомасці ўзнікла горкая, як палын, думка: чаму я?.. Намаганнем волі Галай перамог холад у целе, адагнаў чужую для яго думку.

— Дык яшчэ мы не ў тыле,— пастараўся пажартаваць ён.

— Пасля будзе позна...

— Не малы, разумею. Выказваць сваю згоду ці нязгоду, напэўна, было б недарэчы.

— Скажыце больш выразна: не па-партыйнаму,— азваўся незнаёмы.

— От іменна... Я хацеў бы ведаць, хто застаецца са мной.

Сакратар абкома пасунуў яму аркуш паперы.

— Пярэчанні будуць?..

Галай, як чужое, убачыў сваё прозвішча і яшчэ чатырох чалавек.

— Будуць,— сказаў ён.

У незнаёмага зламалася левае брыво і засохла. Сакратар абкома прытворна кашлянуў. Адзін начальнік абласнога ўпраўлення НКВД не выявіў ніякіх адносін.

— Мы не чух-чубарахты рашалі,— пакрыўджана сказаў сакратар абкома.— Ты супраць каго?..

— Самароса...

— Ну, ведаеш,— папракнуў яго сакратар абкома.

— З якіх меркаванняў супраць? — спытаў незнаёмы.

— Не з палітычных, вядома,— адказаў Галай.— У яго пяцёра дзяцей. Жонка без адукацыі і спецыяльнасці. Ды і сам ён не малады ўжо...

— Камуніст да самай смерці ў страі,— не пагадзіўся з Галаем незнаёмы.

— У цябе канкрэтная прапанова наконт замены ёсць? — як бы становячыся на бок Галая, спытаў сакратар абкома.

— Ёсць... Прусава...

— Хто такая?

— Сакратар таго ж сельсавета, дзе старшынёй Самарос.

На ягонае здзіўленне, з кандыдатурай Прусавай адразу пагадзіліся. Сакратар абкома дастаў з сейфа карту, паклаў на стол.

— Тваё поле дзейнасці — усходняя частка раёна,— ён абвёў тупым канцом алоўка восем сельсаветаў.— Базу мяркуецца стварыць вось тут,— сакратар тыцнуў алоўкам далёка на ўсход ад мяжы раёна.— Галоўная задача заключаецца ў тым, каб з першых дзён акупацыі стварыць падпольныя пяцёркі і тройкі ў кожным сельсавеце, калгасе, вёсцы. Але спачатку трэба вырашыць некаторыя прыватныя пытанні...

— Безумоўна,— пагадзіўся незнаёмы.

— З членамі маёй пяцёркі ўжо гаварыў хто-небудзь? — спытаўся Галай.— Я ў тым сэнсе, што, можа, будуць аб'ектыўныя прычыны...

— Ніякіх аб'ектыўных прычын,— рашуча перапыніў яго незнаёмы.— Кожны з вас лічыць сябе мабілізаваным...

— А цяпер пагаворым аб практычных справах. Часу на дыскусіі ў нас у абрэз,— сказаў сакратар.

## 3

У пятніцу дваццатага чэрвеня палкоўнік штаба тылу групы акупацыйных войск на поўначы Францыі Ота Віцінг атрымаў загад неадкладна здаць справы і адбыць у Берлін.

Загад быў нечаканы і не сказаць каб прыемны.

У штабе палкоўнік карыстаўся рэпутацыяй афіцэра, які дасканала ведае службу, адданы Германіі і верны слаўным традыцыям вермахта. Загад, безумоўна, азначаў нейкую перамену ў жыцці, і хоць палкоўнік звыкся з няўстойлівасцю вайсковага лёсу, жыла ў ім глыбока схаваная прага да аселасці і грунтоўнасці. Можа, тлумачылася яна немаладымі гадамі, а можа, крывёю, якая перадалася па матчынай лініі. Ягоны дзед, а матчын бацька, як, зрэшты, і ўсе яе продкі, з далёкіх часоў бязвыезна жылі ў радавым маёнтку, які пакідалі разы тры на год і не больш як на тыдзень.

На здачу спраў і зборы ў дарогу пайшлі рэшта пятніцы і ледзь не ўся субота. Увечары афіцэры штаба ў гонар палкоўніка наладзілі провады і ўжо ноччу пасадзілі на цягнік, які і павінен быў даставіць яго ў сталіцу вялікай Германіі — Берлін.

Сталіца сустрэла палкоўніка аглушальнай музыкай дынамікаў, гудкамі аўтамабіляў і гоманам натоўпу. Здавалася, шаленства ахапіла людзей і яны выбеглі на вуліцы, каб засведчыць сваё адзінства ў масавым вар'яцтве.

З натоўпам пасажыраў, найбольш вайскоўцаў, Ота Віцінг выйшаў з вакзала на пляц. Музыка раптам абарвалася. Пачалі перадаваць зводку ваенных дзеянняў з Усходняга фронту. Дыктар гаварыў з пафасам, узнёсла і па-вайсковаму сцісла, нібы выступаў не перад мікрафонам, а перад самім фюрэрам.

Зводка ўражвала. Але ў чымсьці і палохала. Як у часе хуткай язды: весела і страшна.

Яна і падштурхнула Ота Віцінга зазірнуць да стрыечнага брата, Вілі Віцінга, які ў адрозненне ад яго, Ота Віцінга, належаў да кола дзелавых людзей, займаў салідную пасаду ў нейкім акцыянерным таварыстве, якіх нямала вырасла на ўрадлівай ваеннай глебе.

Вілі быў дома.

— Ну як табе падабаецца? — спытаўся ён, як толькі Ота Віцінг пераступіў парог ягонай кватэры.

— Грандыёзна,— адказаў Ота Віцінг.— Калі нават да-

пусціць, што службы інфармацыі і перабольшваюць, усё роўна грандыёзна!.. І такі нацыянальны ўздым...

— Уздым, як марская хваля, варта падзьмуць ветру... Я гляджу на падзеі як дзелавы чалавек. Што мы будзем мець? Хлеб? Лес? Жалезныя і марганцавыя руды? Вугаль? А нам патрэбна нафта. Яна кроў эканомікі. Вось тут, мне здаецца, вайскоўцы мысляць у духу старых ваенных дактрын. Вы скіравалі ўсю магутнасць арміі на два цэнтры, якія самі па сабе не маюць рашаючага значэння ў зыходзе вайны. Вы спадзяецеся, што, захапіўшы Маскву і Ленінград, пераможна закончыце вайну. Фатальная памылка!

Ота Віцінг не чакаў такой размовы. Ён не любіў, калі цывільныя ставілі пад сумненне захады вайскоўцаў. Калі хто і ўмее думаць і рабіць, дык гэта вайскоўцы. Астатнія або ўмеюць думаць і не ўмеюць рабіць, або нешта робяць, не задумваючыся над тым, навошта робяць.

— Уся Еўропа ў нагах Германіі,— важка сказаў ён.

Вілі няйначай злавіў у адказе стрыечнага брата незадаволенасць ягонымі развагамі.

— Я кажу пра цану стратэгічных разлікаў,— у голасе яго былі ноткі вопытнага дыспутанта.— Уяві, наша армія ўдарам на Волгу недзе каля Сталінграда выходзіць на рубеж Паўднёвага Урала, адразаючы ад Масквы вугаль Данбаса, нафту Каўказа і Прыкаспія, усю Сярэднюю Азію з яе багаццямі. З поўначы такім жа ўдарам мы выходзім на рубеж Сярэдняга Урала. Такім чынам вялізныя прасторы цэнтра Расіі застаюцца без хлеба і выкапняў, а галоўнае — нафты. Тады Маскве і Ленінграду застанецца здацца на літасць пераможцы. Ну як?..

Ота Віцінг у душы пасмяяўся са стратэгічных разваг брата і... не стаў пярэчыць.

— Мне здаецца,— сказаў ён,— што выклік мяне ў Берлін звязаны з гэтымі падзеямі. Ты, Вілі, быў у Расіі...

— Мае назіранні павярхоўныя,— адказаў Вілі.— Баюся, што яны такія ж павярхоўныя і ў нашых ваенных і палітычных стратэгаў.

Ота Віцінг адчуў, як пад афіцэрскі кіцель запоўз халадок сумнення, а можа, страху.

Праз дзве гадзіны яму ўручылі прызначэнне ў штаб групы армій «Цэнтр».

Ота Віцінг ехаў у легкавой машыне, якую выдзелілі яму разам з белабрысым дужым шафёрам. Дарога злёгку

пыліла, за машынай слаўся рэдзенькі белаваты шлейф, які адносіла на зялёныя палеткі.

Віцінг сядзеў на заднім сядзенні, пазіраючы, як на ветравым шкле, перад тварам шафёра, гойдаецца, падскоквае на гумавай ніточцы Санта-Клаус — пацешны чырванатвары гномік. Санта-Клаус прыносіць шчасце — так кажуць людзі,— і Віцінг радаваўся, успамінаючы гэтую прыкмету. Яго хвалявалі і быстрая язда, і нейкія празрыстыя, пранізаныя сонцам далі, і нешта яшчэ, што павінна было напаткаць яго ў канцы гэтага падарожжа.

Цяпер, калі германскія войскі пераможна ішлі па варожай зямлі, Віцінг з затоенай усмешкай прыгадваў першыя свае пачуцці. І тады на вакзальным пляцы, калі перадавалі першую зводку, і пасля, калі Вілі развінаў свае стратэгічныя планы. І ўсё ж лепш, што ён не там, дзе гавораць гарматы. Вядома, ён, Віцінг, з радасцю загінуў бы за справу вялікай Германіі, але не адны салдаты вырашаюць місію, якая заўсёды захапляла яго,— абжываць заваяваныя землі.

Невялікі гарадок, пустынны і чысты, нібы яго спецыяльна прыбіралі ў гонар прыезду Ота Віцінга, купаўся ў сонечных праменнях. Звярнуўшы з галоўнай вуліцы ў ціхі зялёны завулак, машына спынілася перад штабам. Шафёр спрытна адчыніў дзверцы.

Самавіта вытрымліваючы ваенную выпраўку, Ота Віцінг пайшоў па сцежцы, пасыпанай свежым жоўтым пяском.

Перад ганкам на хвіліну спыніўся, зняў форменную шапку, белай як снег насоўкай выцер шырокі лоб, шыю і толькі потым нырнуў у змрачнаваты вестыбюль.

Дзяжурны афіцэр уважліва прагледзеў дакументы. Вяртаючы іх Віцінгу, сказаў:

— Другі паверх, пяты пакой. Генерал Зімерынг.

Генерал Зімерынг сустрэў яго па-свойску, стоячы сярод доўгага пакоя з наглуха зачыненымі вокнамі. Віцінг прывітаўся, як і належыць па субардынацыі. Дружба дружбай, а дысцыпліна вышэй за ўсё! Зімерынг, здаецца, ацаніў гэта.

Дзеля прыліку запытаўся пра фраў Віцінг. (Дзякуй богу, усё добра, хоць, вядома, непакоіцца.) Потым, пячутна ступаючы цыбатымі нагамі ў ботах на высокіх абцасах, пайшоў да стала, жэстам запрасіўшы Віцінга садзіцца.

Абодва селі, пазіраючы адзін на аднаго з той цікавас-

цю, якая бывае пасля доўгага расстання. Абодва знаходзілі адзін у другім даволі прыкметныя змены. Віцінг патаўсцеў, раздаўся і цяпер здаваўся яшчэ больш грузным. Зімерынг быў падцягнуты, сухарлявы, строгі, хоць у куточках рота блукала ўсмешка.

— Мне вельмі прыемна, Ота, што давядзецца працаваць разам,— пачаў генерал, усё яшчэ дружалюбна ўсміхаючыся.

Віцінг нахіліў галаву: яму таксама прыемна. Зрэшты, ён ведаў, пра што ідзе гаворка, хоць яшчэ і не ўяўляў, якую пасаду знайшлі яму ў штабе.

Зімерынг устаў, адсунуў белую фіранку, пад якой на сцяне вісела карта.

— Падыдзі, Ота.— А калі Віцінг падышоў, сказаў: — Вось гэтая тэрыторыя будзе захоплена ў першую палову ліпеня. Ты, Ота, прызнаешся галоўным камісарам акругі, якая называецца Падзвінскай. Я высвятляў і таму кажу шчыра, што акруга гэта багатая, а горад, у якім давядзецца жыць, даволі прыстойны, наколькі наогул прыстойныя паўазіяцкія гарады. Зрэшты, многае залежыць ад цябе. Не, не, ніякага будаўніцтва, паляпшэння. Усё застаецца, як было. Але парадак трэба наводзіць адразу.

Ота Віцінг падзякаваў. Пасада і памеры тэрыторыі, што аддавалася пад яго поўную ўладу, выклікалі задавальненне.

— Мне хацелася б пазнаёміцца з эканомікай акругі,— сказаў Віцінг.

— У гатэлі табе пакінута месца. Капітан Шлозе пазнаёміць цябе з інструкцыямі і даведнікамі па Падзвінскай акрузе. Праз тры дні ты павінен выехаць у штаб 4-й арміі. Справа, дарагі Ота, у тым, што, у адрозненне ад астатняй тэрыторыі Беларусі, Падзвінская акруга застанецца ў зоне армейскага тылу. Гэта накладае на камісара акругі пэўныя абавязкі, мае свае перавагі і складанасці. Але пра гэта пагаворым пазней. Увечары чакаю цябе ў сябе. Спадзяюся, не адмовіш?

Ота Віцінг падзякаваў у другі раз.

## 4

Уначы, калі стомленыя пераходам чырвонаармейцы паваліліся спаць, са штаба прыляцеў веставы. Вартавы, малады, не абстраляны яшчэ баец, зябка ўздрыгваючы,

спыніў яго на ўскрайку лесу. Веставы нецярпліва асадзіў каня.

— Лазарэт дзе? — коратка запытаўся ён.

— А ліха тут разбярэш. Недзе ў лесе. А можа, вунь там, на ферме.

Вартавому хацелася пагаварыць, выведаць, якія там у штабе навіны, але веставы павярнуў каня, галопам пагнаў на ферму. У цішыні звонка цокалі падковы аб сухую ўгрэтую зямлю.

Лазарэт і сапраўды ён знайшоў на ферме. Вялізныя санітарныя фуры стаялі ў строгім парадку. Коні не выпражаныя. На фурах параненыя. Не шмат.

— Лейтэнанта Герасіменю ведаеш? — спытаў веставы ў ездавога, што паходжваў ля абозу.

— Яна вунь там. Усё начальства... — Ён працягнуў руку кудысьці ў цемру.

Веставы памалу аб'ехаў абоз. У невялікай хацінцы над самым ровам свяцілася вузенькае акенца. Побач з хаткай стаяла санітарная машына. Матор не заглушаны, працаваў на поўныя абароты.

Прывязаўшы каня, веставы ўвайшоў у хату. Салодкі пах эфіру і крыві шыбануў у нос. Веставы стараўся не дыхаць, шукаў вачамі старэйшага па званні.

Усе былі ў халатах і марлевых павязках на твары. Хто старэйшы — не разабраць. Людзі, занятыя аперацыяй, не заўважалі веставога. Ён кашлянуў, зусім так, як кашляў бы дзе-небудзь у вёсцы, каб звярнуць на сябе ўвагу. Таўставаты, у акулярах чалавек, не адрываючыся ад работы, злосна сказаў:

— Што вам?

— Таварыш ваенурач, дазвольце звярнуцца: веставы штаба...

— Я заняты, не бачыце? Пачакайце.

— Таварыш ваенурач, гэта неадкладна.

— Я сказаў: пачакайце. Нават калі немцы ў двух кроках, я не магу кінуць аперацыю.

На твары ў хірурга кроплі поту. Адна з сясцёр узяла марлевы тампон, выцерла твар хірурга.

«Спакойна рэжа»,— падумаў веставы і выйшаў.

На двары лапатаў матор аўтамашыны. Гулкае рэха адбівалася недзе ў пустых хлявах і вярталася назад. Здавалася, працуе не адзін, а пяць... дзесяць матораў.

Веставы прысеў на прызбу, закурыў. Ці хутка кончыцца аперацыя? Затрымлівацца яму не дазволена. Вяртацца

без гэтай Герасімені — таксама. Навошта яна спатрэбілася начальству? Уначы. Гэта не так сабе. Можа, жонка начштаба? Чорта з два жонка... Прыгожая, мабыць, сцерва... Каму вайна, адступленне, а каму бабы.

Ён плюнуў у чарнату ночы, растаптаў ботам недакурак. Думаў гэтай ноччу выспацца. Дудкі!.. Каб хоць за чым важным пасылалі... Крыўдна!..

Яркая паласа святла шуганула з адчыненых дзвярэй. Потым на малочна-белай віднаце паявіўся цень. Веставы ўскочыў. Хірург марудна знімаў павязку, мабыць, стаміўся.

— Дзе вы тут, веставы? Зусім не бачу.

Хірург працёр акуляры, уздзеў на нос.

— Я тут, таварыш ваенурач.

— Давайце пакет.

— Таварыш ваенурач, загадана даставіць у штаб лейтэнанта медыцынскай службы Герасіменю.

Хірург зусім не па-вайсковаму здзівіўся:

— Бацянька, у мяне сёння яшчэ адна аперацыя. Там што, не разумеюць гэтага?

— Загадана даставіць зараз жа...

— Люда,— паклікаў урач, зрабіўшы паўабарота на парозе,— цябе ў штаб выклікаюць.

Ён зачыніў дзверы, прайшоўся перад хаткай. Пацягнуўся, аж затрашчаў па швах халат.

— Надвор'е, малады чалавек,— любата. Цяпер бы ў Крыме пад тэнтам ляжаць.

З хаты выйшла дзяўчына. Пышныя валасы, пранізаныя святлом з хаты, здаваліся белымі.

— Лейтэнант медыцынскай службы Герасіменя,— звонка далажыла яна.

— Пойдзеце са мной,— сказаў веставы і раптам сумеўся: ён жа на кані, а яна як? У штабе нічога не сказалі. На ўсякі выпадак рашыў весці каня на повадзе.

— Далёка гэта?..

— Кіламетра паўтара.

— Безабразіе,— азваўся хірург.— Доўга, Люда, не затрымлівайся.

Веставы ўсміхнуўся: дзівак, быццам і не па вайне. Не затрымлівайся... Ну і дзівак!

...Штаб размяшчаўся ў вёсцы, што патанала ў садах. З агародаў на вузкую пыльную вуліцу далятаў волкі пах пацінны і маку. Людміла першы раз за ўсе гэтыя дні адчувала не пах эфіру, а кветак — і дыхала на поўныя грудзі.

«Як хораша пахне мак,— падумала яна і прыгадала сваю хату, гародчык, абнесены парканам, і кветнік пад акном.— Мабыць, і ў нас цвітуць мак і браточкі на градцы».

— Направа, таварыш лейтэнант,— сказаў веставы, зварочваючы ў вузкі цёмны завулак. Праз крокаў сорак ён сказаў: — Прыехалі...

Паўз вартавога яны прайшлі ў сенцы, адтуль у хату.

Тут ярка гарэла лямпа. Вокны шчыльна завешаны, і таму ў хаце душна і дымна. За сталом, паклаўшы галаву на рукі, спаў чалавек. Ён прахапіўся адразу, як толькі Людміла і веставы зайшлі.

Герасіменя бачыла, што веставы чамусьці збянтэжыўся. Ён, відаць, сустрэў тут не таго, хто пасылаў яго па яе. Спачатку ён намерваўся далажыць па форме, што заданне выканаў, але штосьці яму перашкодзіла.

— Можаце ісці,— сказаў палкоўнік.— А вы, лейтэнант, застаньцеся. Заўтра з вамі будуць гаварыць афіцыйна...

Людміла нічога не зразумела. Веставы, казырнуўшы і моцна грукнуўшы абцасамі, выйшаў. Герасіменя ўсё яшчэ стаяла ля парога.

— Праходзьце, сядайце. Я вось задрамаў быў...

Палкоўнік нагадваў Людміле іх выкладчыка па дзіцячых хваробах, вечна зморанага сямейнымі непаладкамі чалавека. Здавалася, ён вось-вось дастане з кішэні хустачку, зацісне ёю велікаваты мясісты нос і потым ужо скажа: «Дзеці, дарагія мае, прыносяць бацькам невымерна многа клопатаў і хвалявання, асабліва калі хварэюць. На жаль, дзеці не помняць гэтага, калі становяцца дарослыя».

Пад столлю гулі сонныя мухі, навяваючы маркоту і сум. У Людмілы пачалі зліпацца векі. Пасля лазарэтнага тлуму і нецярплівай узбуджанасці аперацыйнай тут было занадта ціха. Гэта расслабляла.

— Вы пісалі,— пачаў палкоўнік,— аб пераводзе вас у баявыя парадкі войск. Вам хіба не падабаецца медыцына?

«Ага, вось чаму выклікалі»,— падумала Людміла; яна сапраўды выказала жаданне быць на перадавой. Тады на яе накрычалі, загадалі служыць Радзіме там, дзе яна служыць.

— Медыцына мне падабаецца, але я лічыла, што магу прынесці больш карысці на перадавой. Я — снайпер і радыстка. Потым я канчала аэраклуб. Нарэшце, я доб-

ра ведаю нямецкую мову і магла б служыць у разведцы. А медыкаў і без мяне хапае. Зрэшты, я — камсамолка.

Палкоўнік яе не перабіваў, і яна збянтэжана змоўкла. Чакала, што ён скажа. Мабыць, пачне сварыцца. Няўжо толькі для гэтага і выклікалі яе сюды.

— На перадавой, лейтэнант, не ў лазарэце. Там цяжка, а вы вунь якая далікатная.

Людміла сапраўды выглядала зусім яшчэ маладзенькай дзяўчынай. Высокая, стройная. З-пад пілоткі выбіваюцца светлыя валасы. Твар прыгожы. Занадта прыгожы ў гэтай суровай абстаноўцы.

— Таварыш палкоўнік, мне не да кампліментаў. Я адразу ж з аперацыйнай, і мяне там чакаюць.

— Так... Зразумела.— Палкоўнік прайшоўся па хаце.— А калі вам прапануюць штосьці другое, вы згодзіцеся цяпер?

— Вядома.

Палкоўнік штосьці абдумваў, схіліўшы галаву на левае плячо. Потым ён спыніўся перад Людмілай.

— Вам давядзецца застацца ў тыле ворага. Без глыбокай разведкі армія перамагаць не можа. Пажывяце ў сваіх Высачанах, потым паступіце на работу да немцаў. Ну, а канкрэтна з вамі будуць гаварыць... Вы што — супраць?..

— Проста ўсё вельмі нечакана. Я нават не развіталася са сваімі.

— І добра. Мы павінны вас падрыхтаваць да работы як след.

— Дзякую, таварыш палкоўнік. Я буду старацца.

У тую ноч Людміла доўга не магла заснуць. На гарышчы, дзе яе памясцілі, усё яшчэ было душна. Новы дах з сасновай дранкі пах смалой. Недзе пад залобкам у гнёздах сонна ціўкалі вераб'і, а з вуліцы даляталі гоман, цоканне падкоў і натужнае рыпенне колаў.

Усё адбылося нечакана-негадана і не зусім так, як калісьці думалася. Там, у палкоўніка, яна сказала, што будзе старацца, і такім чынам дала згоду стаць разведчыцай. Але марыла яна пра іншае. Пра адкрытыя баі на тачанцы, пра самалёты-знішчальнікі, пра рэйды па тылах ворага — пра ўсё тое, што бачыла ў фільмах, чытала ў кнігах, газетах. Яе раптам збянтэжылі словы палкоўніка: «Потым паступіце на работу да немцаў». Як жа гэта так пайсці працаваць да ворага? У кнігах пра такое не пісалі. Там усё было наадварот: ворагі подла скарыстоўвалі нашу

прытупленую пільнасць, уладкоўваліся на працу і шпіёнілі. Дык гэта ж ворагі!.. А мы — савецкія людзі.

Людміла старалася знайсці прыклад з кніг або з кінафільмаў, які памог бы ёй апраўдаць сваё паступленне да немцаў на работу. Напружаная памяць, аднак, падсоўвала іншых герояў, іншыя ўчынкі, смелыя, незалежныя, якія не стасаваліся да яе будучай работы. Ёй давядзецца хлусіць, прыкідвацца, хаваць свае сапраўдныя думкі. Гэта было падобна на здраду сабе, сваім пачуццям, усяму святому, чым яна ганарылася.

Будучыня здалася ёй такой жа непагляднай, як і гэтая цемра на вышках. Людміла спалохалася і падумала: «Заўтра адмоўлюся. Няхай пасылаюць у звычайную разведку, толькі не да немцаў на працу».

Рашэнне было цвёрдае, і Людміла пастаралася заснуць. Здаецца, яна задрамала, бо прахапілася ад голасу і пачула толькі канец размовы.

— ...ну яго, а мы рызыкавалі.

Хтосьці другі злосна сказаў:

— Сволач... Гітлераўскі выкармак. Каб мне ў рукі трапіў,— сказаў бы...

— Эйх, дзівак. Што ён скажа, калі так выхаваны. Кажа, што ён рады, калі памрэ за фюрэра, а ты...

— Хто дазволіў курыць? — перапыніў іх размову нечы начальніцкі голас.

— Дык мы ж у кулак курым.

— Усё роўна нельга. Дэмаскуеце...

Там, унізе, адразу стала ціха. Людміла лягла на спіну, глядзела ў чарнату, густую і вязкую, як патака.

«Не, адмовіцца ўжо нельга,— падумала яна.— Згоду дала, а цяпер назад. Сорамна. Ды і чаго я спалохалася? Гэта ж усё роўна як у падполлі працаваць. А на работу да іх можна і не ісці».

## 5

На выпадак нечаканай змены абставін — меўся на ўвазе раптоўны прарыў немцаў з пагрозай захопу Падзвінска — было прадугледжана, што пяцёрка Галая збярэцца ў першы чацвер між дванаццаццю і трыма гадзінамі дня на Войтавай гары, што ў пяці кіламетрах ад Падзвінска.

Дзень і месца збору, як на добрую развагу, былі прызначаны лішне паспешліва і зусім непрадумана. Кіраваліся

больш эмоцыямі. Да таго ж Галая падганялі: камусьці абавязкова трэба было ведаць падпольныя клічкі і прозвішчы, паролі, час і месца першага збору.

У чацвер першымі на Войтаву гару прыйшлі Іван Анісімавіч Тышкевіч — загадчык Падзвінскага райана, падобны на дабрадушнага вясковага дзядзьку, грузнаваты, крыху сутулы, у цесным папошапым пінжаку і ў памятай кепцы, і Віктар Васільевіч Валенда — начальнік раённага аддзялення міліцыі, кашчавы даўгарукі чалавек з бурым васпаватым тварам, з цяжкім позіркам шэрых вачэй і натапыраным вожыкам кароткіх валасоў.

Яны ляжалі ля вялізнага, абраслага мохам каменя і паціху размаўлялі.

— Гадзіну ўжо тут сядзім, а Галая няма,— абураўся Валенда.— Начальства!.. Мог бы і раней прыйсці.

— Можа, заблудзіўся?

— Ды тут дурань дарогу знойдзе. Проста за-тры-маўся. Падумаеш, пуп зямлі! А мы — чакай...

— Ды і Прусавай з Каршуковым няма.

— Па мне Прусава няхай зусім не прыходзіць.

Тышкевіч усміхнуўся.

— Чаму ты яе не любіш? Чалавек як чалавек.

— Баба была, бабай і застанецца.— Валенда сеў, абхапіў калені доўгімі рукамі.— Ты мне скажы, наліха яны баб пакідаюць? Ваякі з іх... сам знаеш — адно званне. Там, дзе баба паявілася, парадку не чакай. Я, браце ты мой, у міліцыі толькі і рабіў, што іхнія сваркі разбіраў.

Тышкевіч не падтрымаў размовы. Валенда пакрыўдзіўся, пачаў закурваць. Тышкевіч, падпёршы рукамі галаву, маркотна пазіраў, як ірвуцца на шашы снарады: паяўляецца буры слупок дыму — пругка гакае выбух, зноў слупок дыму — зноў выбух. Снарады кладуцца роўна, як па шнурочку. А шаша пустуе — на ёй ніякага руху. Затое злева на прасёлкавай дарозе бясконцая плынь бежанцаў, ваенных абозаў. Адступаюць усе: салдаты, жанчыны, дзеці.

За імі гарэў горад. Хмара чорнага дыму заняла паўнеба, закрыла сонца, і яно таму не сляпуча белае, як заўсёды, а чырвонае, мутнае. З дыму адзін за адным выныралі самалёты, тупарылыя, чорныя, з белымі крыжамі на крылах. Выстраіўшыся ў ланцужок, яны крута пікіравалі; метраў за дзвесце ад зямлі з-пад самалётаў адрываліся чорныя кропкі — бомбы.

Выходзячы з пікіравання, самалёты агідна выюць, а ўздоўж дарогі грукочуць выбухі. Людзі, коні бягуць у поле,

пад ахову негустога лесу, што цягнецца ўздоўж дарогі рваным шнурком.

Кончыўшы бамбіць, самалёты развярнуліся над лесам, выстраіліся па тры ў рад, паляцелі на захад.

— Не, ты паглядзі! Як на парадзе, сволачы...— У голасе Тышкевіча чуліся гнеў, роспач і захапленне — усё адразу.

— Чым не парад...— буркнуў Валенда.— Такі парад, аж моташна. З пачатку вайны хоць зеніткі па іх білі — усё весялей было. А цяпер вунь лятуць, як над сваёй зямлёй.

— Зенітчыкі яшчэ ўчора адступілі.

— Дакуль жа адступаць будзем?..

Валендава пытанне павісла ў паветры, як хаўтурны звон. Тышкевіча і самога грызлі цяжкія неадчэпныя думкі, можа, нават больш, як Валенду.

Колькі разоў ён гаварыў вучням пра свяшчэнныя і недатыкальныя рубяжы Радзімы, і не проста па абавязку, а шчыра і горача, бо верыў у тое, пра што казаў. Палітруком роты ўдзельнічаў ён у паходзе ў Заходнюю Беларусь і Літву. Бачыў там і нашы цяжкія танкі на маршы, і артылерыю, і пяхоту ў шчыльных стройных калонах. Усё было пераканаўча, прыгожа... Толькі панікёр мог не верыць у непераможнасць Чырвонай Арміі.

Прыгадаўся адзін залаты ў асеннім убранні дзень. З Літвы яго адклікалі на работу ў райана, і ў першы ж дзень яму давялося выступаць на злёце выдатнікаў вучобы.

У вялізнай зале раённага Дома культуры было сонечна і трохі шумна, калі ён падняўся на трыбуну. Хлапчукі з захапленнем і зайздрасцю пазіралі на яго, як на славутага героя. І гэтае захапленне, і апладысменты, і ўся атмасфера злёту, урачыстая і ўзнёслая, памаглі яму, скупому на словы, гаварыць натхнёна і вобразна.

«Я, сябры мае, бачыў мора, якое кожны дзень наступае на бераг і адкочваецца назад, пакідаючы за сабой горы пяску. Нават штормы не могуць памагчы хвалям дабрацца да лесу, дзе кожнае дрэва падобна на пільнага вартавога. Сусветны імперыялізм, як і шалёныя штармавыя хвалі, кідаецца на Савецкі Саюз, які стаіць як гранітная скала, і я зайздрошчу вам, што вы ніколі не пазнаеце жахаў вайны, разбурэнняў і інтэрвенцыі, якую зведалі мы на сваім жыцці...»

Яму дружна пляскалі ў далоні.

Тышкевічу здалося, што ён і зараз чуе воплескі (гэта па вяршалінах прайшоўся вецер), але яны выклікалі не радасць, а боль і сорам. «Што думаюць тыя хлапчукі і дзяўчынкі, якія так заўзята апладзіравалі? Абураюцца? Пагарджаюць? Ненавідзяць? Хіба ён вінаваты ў тым, што здарылася? І хто вінаваты?..

Ну так, была нечаканасць нападу. Нечаканасць — фактар. А пільнасць хіба не фактар? Ці мала гаварылася аб ёй, а праглядзелі, што рабілася пад носам. Ганебна праглядзелі. А калі не праглядзелі? Адзін шмат не можа ўбачыць. А народ, армія?.. Народ усемагутны, ад яго нішто не схаваеш... А што, калі здрада? Неверагодна!.. Проста не маглі ўстаяць. Значыць, не былі такія моцныя, як думалі. Гэта горш за здраду. Падбадзёрваць сябе словамі і падстаўляць ворагу пад удар непрыкрытыя грудзі. Горш!..»

Тышкевіч хмурыўся, стараўся спакойна разабрацца ў першых промахах вайны, быццам яму трэба было трымаць адказ перад былымі сваімі вучнямі за ўсё, што адбывалася на свеце.

— Я так думаю,— перабіў яго думкі Валенда.— Наша армія адыходзіць на Дняпро. Рубеж, брат, у стратэгіі галоўны козыр. На Дняпры немцам дадуць пад дыхаўку, вось пабачыш. А там з-пад Ленінграда ўдараць напярэймы. Як піць даць ударадзь. Балтыйскія матросікі — гэта табе не пяхота.

Валенда стаяў на каленях, чарціў на выгаралай траве план. У яго прыгорбленай постаці было нешта пацешнае, што выклікала ўсмешку.

— Давай, давай, стратэг,— падахвоціў яго Тышкевіч.— Цяпер усе ў стратэгію кінуліся. Самая модная навука. А немец прэ.

— А ты не смейся.

У гушчары штосьці трэснула. Абодва крута павярнуліся. Нехта лез на гару, асцярожна рассоўваючы галлё. Панвілася Прусава, сакратар Жыжанскага сельсавета. Яна была мокрая ад поту. Прысела ля мужчын, доўга астуджвала твар, памахваючы бярозавай галінкай.

— Ну што там новага? — спытаў Тышкевіч.

— Усе ўжо эвакуіраваліся. Забегла ў райком — нікога няма.

— Драпанулі,— удакладніў Валенда.

— А ты бачыў? — нядобра зыркнула на яго Прусава.

— Мне і так відаць,— сказаў Валенда, а сам падумаў: «Да нашага берага нічога добрага не прыплыве. Каму лод-

кі ды баркі, а нам смецце ды палкі. Хоць бы ўжо бабу прыгожую пакінулі, а так чорт ведае што...»

Прусава і сапраўды выглядала блага: кароткія жорсткія валасы паабсякаліся, на рабаватым твары ручайкі ад поту, на носе сіняватая гарбінка, рот шырокі, шыя доўгая, грудзі маленькія, бы іх зусім няма.

Тышкевіч сеў, па-татарску падкурчыўшы ногі, правёў далоняй па галаве. Веру ён ведаў даўно. Тры гады вучыў яе ў Жыжанскай школе. І таму, што гэта была яго вучаніца, якая яшчэ ў школе вызначалася цвярозым розумам і шчырасцю, і таму, што яна нядрэнна разбіралася ў бягучай палітыцы, і яшчэ таму, што маўчаць было вельмі цяжка, яму захацелася раздзяліць з ёй свае трывогі.

— Што ж гэта будзе, Вера? Усе адступаюць... а мы застаёмся.

У карых, амаль чорных вачах Прусавай бліснулі агеньчыкі.

— Панікуеце, таварыш Тышкевіч?

Валенда ўсміхнуўся. «Такая што хочаш прыклепле. Ды і яму не варта так гаварыць. За такія размовы па галаве не пагладзяць».

Тышкевіч і Прусава спрачаліся. Прусава гаварыла гучна, горача, быццам выступала на мітынгу. Тышкевіч — нібы чытаў лекцыю, спакойна, упэўнена.

— Я ведаю толькі адно,— чырванеючы, крычала Прусава,— СССР не Польшча і не Францыя. У нас два з паловай мільёны камуністаў, пяць мільёнаў камсамольцаў, і кожны з гонарам памрэ за сваю Радзіму. Немцы ніколі не здолеюць нават наблізіцца да Масквы. Можа, цяпер нашыя войскі падыходзяць ужо да Берліна. А вы панікуеце...

— Не крычы толькі, Вера. Ты не ў сельсавеце, а ў лесе... Што ты пляцеш пра Берлін, калі мы адступаем... Здаём гарады, вобласці. Ды што там вобласці...

Прусава сціснула зубы, уперлася рукамі ў калені.

— Якая вы, аднак, сволач, Іван Анісімавіч! Ды такое, ведаеце, як называецца? Здрада!..

— Гэта ж між намі,— нясмела азваўся Валенда, думаючы над тым, якой лініі трымацца яму, калі гэтая вар'ятка раскажа пра размову Галаю.

Прусава адразу ж наляцела на Валенду.

— Як жа вы ваяваць будзеце, калі ўжо цяпер сумняваецеся? Сёння памылкі шукаеце, а заўтра, можа, да немцаў пабежыцё?..

Спакойны дасюль, Тышкевіч ускіпеў:

— Замнога на сябе бярэш, Прусава. Я не сумняваюся, а хачу... да ўсяго хочацца сваім розумам дайсці, каб знаць, што людзям гаварыць. І не маеш ты права сволаччу мяне абзываць.

Прусава назірала на Тышкевіча спадылба, цярпліва чакала, пакуль ён кончыць апраўдвацца. Тышкевіч нарэшце змоўк, выцер хустачкай галаву.

— Таму і сказала, каб паніку не ўзнімалі. З другімі я размаўляла б інакш.— Яна выцягнула з кішэні браўнінг.

Валенда жахнуўся. Такая застрэліць. А Тышкевічу, здаецца, Верына рэзкасць спадабалася.

— А яно і праўда, Вера, цяпер не час шукаць прычыны няўдач. Але ж каб ты ведала, як балюча! Недаядалі, недасыпалі, босыя хадзілі, голымі рукамі краіну з багны выцягвалі і выцягнулі, а цяпер усё дымам ідзе... Калі ўчора раніцай убачыў, як загарэўся горад, хацеў сабе кулю ў лоб пусціць.

— Думаеце, Леніну лягчэй было, калі Дзянікін пад Маскву падыходзіў?

— Эх, Вера, Вера...— паківаў галавой Тышкевіч.

— Выстаім! — бадзёра адказаў Валенда.

— Маўчы ты, Валенда,— перабіў яго Тышкевіч.— Ні чорта ты не зразумеў.

Валенда пакрыўдзіўся.

— Добра, што ты разумееш. Універсітэты не ўсе маглі канчаць. Каму і ў абозе горб гнуць даводзілася.

Спрэчка як нечакана ўзнікла, гэтак жа нечакана і атухла. Людзі, незадаволеныя адно адным, ляжалі моўчкі. Валенда соп носам — злаваўся.

Тышкевіч глядзеў на неба, па якім паволі расцякалася бурая хмара дыму. Учора над горадам яно было яснае, сіняе. І нішто, здаецца, не прадракала бяды. А гадзіне дзесятай горад загарэўся. Кажуць, тры фашысцкія танкі ўварваліся на ўскраіну і хтосьці паспяшаўся аддаць загад знішчальнаму батальёну.

Было крыўдна, што горад гарыць, калі немцы недзе яшчэ кіламетраў за трыццаць ад яго. Відаць, ніхто не збіраецца абараняць горад. Здадуць немцам без бою.

Ад гэтай думкі ў Тышкевіча набеглі слёзы. Ён неўпрыкметку выцер іх. «Прусавай мяне не зразумець,— падумаў ён.— Маладыя на гатовае прыйшлі. А я помню, як закладваўся падмурак кожнай фабрыкі. І не таму я пачаў з ёй гаварыць, што сумняваюся. Балюча мне. Так балюча, што

сэрца заходзіцца. Яна не ведае, як цяжка ўсё спачатку пачынаць. А я ведаю. Яна проста наіўная. Дзеўчанё яшчэ. Ды і ўсе мы наіўныя. Вось і расплачваемся».

Яму здалося, што ён адшукаў нейкую важную думку, якая паможа яму разабрацца ў падзеях...

Тышкевіч і не заўважыў, як паявіўся Галай. Пачуў ужо, як той вітаўся з Валендам.

— Каршукоў не прыходзіў? — запытаўся Галай.

— Чакай, прыйдзе ён...— адказаў за ўсіх Валенда.

— Прыйдзе. Станіслаў Цітавіч чалавек акуратны,— адказаў Галай і прысеў на траву.— Ля Цішкаўкі, чуў, немцы дэсант высадзілі, пэўна, таму Каршукоў і затрымаўся.

— Дачакаемся, што і тут высадзяць дэсант,— незадаволена бурчаў Валенда.— Трэба хутчэй хавацца, а то цёпленькімі ў іхнія рукі трапім.

— А ў цябе хіба на лбу напісана, што ты падпольшчык?

— Схопяць, тады даказвай, што не вярблюд.

— Што ж ты прапануеш?

— Высветліць трэба, ці дома Каршукоў. Можа, і чакаць не варта.

— Ну вось і сходзіш у Цішкаўку,— спакойна сказаў Галай.

Валенда разгубіўся. Хай бы Прусава пайшла па Каршукова, дык не, яго пасылаюць. Трэба было вытыркацца... Не, спяшаўся.

— Давай, Віктар Васільевіч, ідзі. Ды асцярожна там.

Валенда пайшоў. Марудна пацягнуўся час. Гаварыць не было пра што. Ды і што ты скажаш, калі ўсё навокал гарыць і чорны густы дым засцілае неба, калі бясконца адступаюць войскі, а па дарогах і палях ідуць і ідуць бежанцы.

А тут яшчэ гэты Каршукоў, які недзе затрымаўся.

Пад вечар людская хваля на дарогах паменшала. Немцы пастулова спынілі абстрэл, і стала раптам ціха і маркотна.

Чакалі Валенду. Нарэшце той паявіўся і неяк узрадавана аб'явіў:

— Змыўся ваш Каршукоў.

— Як змыўся? — здзівіўся Галай.

— Кароў у адступленне пагнаў.

Навіну кожны ўспрыняў па-свойму. Прусава хрыпла вылаялася і, мабыць, ад сораму закрыла твар далонямі. Тышкевіч недаверліва паглядзеў на Валенду: ці праўду

сказаў чалавек? Адзін Галай, здаецца, не здзівіўся. Ён нават усміхнуўся.

— Смяешся,— абурыўся Валенда.— А ваяваць з кім будзеш, калі ўсе, як Каршукоў, пачнуць уцякаць?

— А я і не трымаю,— спакойна адказаў Галай.— Можаш хоць зараз ісці.

Валенда збянтэжыўся, падумаў: «Ведаю я цябе... Заікніся толькі, што не хочаш у варожым тыле заставацца, дык ты не так заспяваеш».

— Цябе не тое непакоіць,— закончыў думку Галай,— што ўчацвярых засталіся, а што не ты кароў пагнаў.

— Каршукоў — сволач, дэзерцір,— закрычала Прусава.— Такіх мала з партыі гнаць — расстрэльваць варта.

Галай паглядзеў на Прусаву з несхаваным жалем, потым пасуровеў.

— Спачатку разабрацца трэба, а потым страляць. От што, таварышы, мітынгаваць няма часу. І яшчэ — давайце адразу дамовімся не зайздросціць тым, хто хоча вайну ў цішы перасядзець. Для камуніста гэта — смерць. І, паверце мне, упрошваць каго-небудзь з вас змагацца супроць фашыстаў я не стану. У нас хопіць сумленных.

«Правільна кажа,— падумаў Тышкевіч,— у партыйнае падполле сілком не цягнуць. Гэта ж не на прафсаюзны суботнік. Тут сумленне патрэбна мець».

Галай устаў, прайшоўся па паляне. На захадзе ў барвовай смузе хавалася сонца. Недзе далёка грукаталі танкі, чые — не ўгадаць. Галай напружана слухаў іх рокат.

— Дык я наконт Каршукова,— сказаў ён глухім, як бы пастарэлым голасам.— Далёка ён не ўцячэ. Вунь як немцы спяшаюцца. Вернецца дамоў. Гэта нават лепш, што ён пагнаў кароў. Менш падазронасці. Думаю я, што Каршукову давядзецца ісці на працу да немцаў. Каму ж яшчэ?.. Яму!

Валенда з Прусавай пераглянуліся.

— Жартуеш, ці што? — спытаўся Валенда.— Як гэта на працу да немцаў?.. Мы хіба дзеля гэтага тут засталіся?

— Ну во, бачыш,— аж узрадавана звярнуўся Галай да Тышкевіча.— Яго пашлі — у першы дзень дроў наламае.

— Мне лепей смерць, чым супрацоўніцтва з немцамі,— ускіпеў Валенда.

— Загадаюць — пойдзеш,— сурова сказаў Галай.— Мы сваіх людзей усюды мець павінны. Усюды!..

— А хто адказваць будзе, калі немцы яго завярбу-

юць? — у голасе Валенды зларадныя ноткі перавагі.— А такое і вельмі проста можа здарыцца.

— Табе ж я давяраю,— парыраваў Галай.— І не пра тое гаворка, бо недавер між намі горш за самую злосную правакацыю. Улічы, Валенда. І хопіць аб гэтым. Першае пасяджэнне нашай баявой групы лічу адкрытым. Прусава, вазьмі сшытак з алоўкам, пратакольна ўсё запішаш. На парадку ў нас тры галоўныя пытанні. Першае: явачныя кватэры, паролі і сродкі сувязі. Другое: стварэнне падпольных пяцёрак у калгасах зоны. Трэцяе: наконт лясной базы. Ну, і ў розных — бягучыя клопаты. Пярэчанняў не будзе?

Пярэчанняў не было.

## 6

На ўзлеску, дзе шырокая, добра наезджаная дарога разбягалася ў трох кірунках, бежанцаў спыняў рыжы сухарлявы капітан у новенькай форме. Усмешліва пазіраючы на разгубленых людзей, ён неахвотна адказваў на ўсе іх пытанні:

— Вяртайцеся назад... Я тут ні пры чым. Энь-ке-ве-дэ загадвае. Энь-ке-ве-дэ!..

Людскі натоўп спалохана шарахаўся назад, расцякаўся па полі, зарослым кустамі. Міхась Ланкевіч паспрабаваў спрачацца. Даказваў, што загад неразумны. Людзі не хочуць заставацца пад акупацыяй. Дык чаго іх прымушаць ісці ў горад, які вось-вось захопяць фашысты?

Капітан азіраўся па баках, потым нечакана для Міхася пачаў даставаць пісталет. Маладая светлавалосая жанчына ўхапіла Міхася за рукаў, пацягнула за сабой. Напалоханы і збянтэжаны, Міхась не супраціўляўся, ішоў следам за ёю.

Спыніліся яны ў неглыбокім рове, ля крынічкі. Жанчына стала на калені, напілася, потым зачарпнула прыгаршчы вады, апырскала твар.

— Халодная якая, аж зубы ломіць,— сказала яна, развязваючы хустку.

Валасы ў жанчыны былі белыя і мяккія. Яна прыгладзіла іх рукой і ўсміхнулася:

— Лічы, што ад смерці цябе выратавала.

— Няўжо немцы? — яшчэ не верачы ў сваю здагадку, запытаўся Міхась.

— А то хто! Я дык адразу здагадалася. Кабура чужая

і не так, як у нашых камандзіраў, на баку, а спераду. Ён цябе вельмі проста мог кокнуць.

Міхась толькі цяпер зразумеў небяспеку. Яго пачало калаціць ад страху.

— А ты напіся вады. Яна супакойвае,— параіла жанчына.

Міхась апусціўся на калені. Ад халоднай вады адразу зайшліся зубы, але дрыжыкі прайшлі.

— А вы таксама бежанка? — запытаўся ён.

— Цяпер усе бежанцы.

— То, можа, разам пайшлі б?

— Я да бацькоў іду ў Высачаны. Яны ў мяне старэнькія. А вы паспрабуйце праз Альшэўку і Глоданікі на Дзямідаўскі шлях прабрацца. Там, кажуць, можна праскочыць.

Яна зноў павязала хустку і — адразу пастарэла. Міхась нават здзівіўся, як хутка гэтая жанчына можа мяняць аблічча. Толькі што была дзяўчо, а вось ужо сталая жанчына.

— Пайшлі б разам...— нясмела папрасіў ён.— Удваіх весялей. Ды і не так страшна.

Жанчына адмовілася. Міхасю зрабілася крыўдна: усё роўна што на караблі, які гіне,— ратуйся хто як можа.

Жанчына, мабыць, заўважыла гэта.

— Цябе як завуць? — запытала яна ласкава.

— Міхась Ланкевіч.

— Адкуль ты?

— З Кавалёў. Кіламетраў дзесяць ад горада па Бабарскім шляху.

— Студэнт, мабыць?

— Год настаўнікам працаваў. Скончыў два курсы тэхнікума. Рыхтавалі нас у заходнія вобласці. Але застаўся тут у сямігодцы. Мову выкладаў.

— Камсамолец, мабыць?

— Быў сакратаром школьнай арганізацыі.

— Актывіст.

Міхась не зразумеў, ухваліла яна, што ён быў актывістам, ці асудзіла.

— А вы не баіцеся немцаў? — асцярожна запытаўся ён.

— Медыкі заўсёды знойдуць работу. Вам цяжэй будзе. Ну, ды калі я займею добрае месца, памагу ўладзіцца. Бывайце.

— А як вас зваць?

— Людміла.

Яна пайшла. Міхась разгублена пазіраў ёй услед. Калі яна схавалася за крутым паваротам равочка, Міхась спалохаўся. Наліха было гаварыць, хто ён? Выпытала пра ўсё і знікла. Можа, адной хеўры, што і той руды капітан?

Свет выглядаў цесным і няўтульным. Зашыцца б кудынебудзь, перачакаць навалу. Хіба цяпер разбярэшся, дзе свой, дзе чужы? Нейкая няўпэўненасць пануе ўсюды, і ніхто не скажа, што павінен рабіць ён, Міхась Ланкевіч.

Прыгадаліся манеўры, якія праводзілі сёлета напрадвесні. Міхась быў за дзяжурнага па штабу мясцовай абароны. Тады вайна ўяўлялася даволі прыемнай гульнёй, крыху мітуслівай, але заманлівай, як цікавая кніга. І вось усё перавярнулася, перайначылася. Трэба вырашаць самому, як жыць і што рабіць.

У равок тым часам нашылася шмат народу. Людзі неспакойна ўзіраліся ў неба, ціха перамаўляліся. Усюды адчуваліся ўзрушанасць, нейкая страшная абыякавасць да ўсяго, што адбывалася на свеце, і празмерная ўвага да свайго ўласнага жыцця.

У небе загулі самалёты. Іх выццё, натужнае і надакучлівае, зусім прыгнула людзей. Кожны хацеў забрацца пад куст, схавацца далей ад смерці.

У натоўпе, што імгненна радзеў, Міхась заўважыў куртатага няўклюднага чалавека і вельмі ўзрадаваўся. Сухарэўскі, Васіль Васільевіч, ваенрук іх тэхнікума!

Сухарэўскі зашыўся пад калматыя нізкарослыя елкі, парыжэлыя галіны якіх амаль краналіся зямлі. Міхась палез следам за ім.

— Што, месца болей нідзе няма? — Сухарэўскі ўпёрся ў Міхасёвы грудзі дужымі рукамі.

— Гэта я, Васіль Васільевіч. Ланкевіч я.

Сухарэўскі пасунуўся. Міхась сеў побач з ім. Неяк адразу стала спакойна на душы. Свой чалавек і вайсковец. З такім не прападзеш...

— Адкуль жа ты ўзяўся? — Сухарэўскі, здаецца, быў незадаволены.

— Адступаў вось, ды на дэсант напароўся. Мабыць, і вы таксама? Капітан там рыжы камандаваў.

Сухарэўскі маўчаў. Недзе непадалёк з трэскам разарваліся бомбы. Ад назойлівага гудзення самалётаў, здавалася, дрыжыць зямля.

— Васіль Васільевіч,— пачаў Міхась,— тут адна дзяў-

чына казала, што на Дзямідаўскі тракт яшчэ можна праскочыць праз Глоданікі.

— Чаму ж ты не пайшоў з ёю?

— Яна да бацькоў ідзе...

— Бачыш, да бацькоў. А мне праз Глоданікі... Дзівак ты, менш слухаць трэба.

Тут, у гушчары, было душна. Сухая ігліца асыпалася з галін, трапляла за каўнер, балюча калола. Міхасю надакучыла сядзець. Як толькі перасталі бамбіць, ён вылез са сховішча.

У раўку стаяла тая ж, як і раней, сляпучая відната. Як і раней, над дзяцелінай гулі пчолы і, здаецца, пахла ў паветры свежым мёдам. Пад горкай на самым прыпёку раскашаваў чабор, здавалася, што схіл гары засыпаў хтосьці кветкамі бэзу. «Чабор цвіце,— падумаў Міхась,— і вечна будзе цвісці. Нават тады, калі нас не будзе».

Цяпер, калі не было чуваць выбухаў, здавалася, што на свеце няма вайны, адступлення, што ўсё гэта — страшны сон.

Абодва стаялі, пазіраючы ў чыстае, сіняе неба. На ім ні хмурынкі. Яркае сонца рэзала вочы, перад імі скакалі жоўтыя кругі.

Па вузкай сцежачцы падняліся ўгору. Спыніліся на ўзгорку.

Месцы былі незнаёмыя, але краявід той жа, што і ў родных Кавалях, дзе прайшло Міхасёва дзяцінства. Адсюль мясцовасць падымалася на ўсход ланцугом зеленаватых, парослых маладым ельнікам узгоркаў. На захад — тыя ж узгоркі, але яны відаць як бы зверху. Між іх — балацявіны, ручаі, паплавы, сінія грыўкі лесу. Адсюль мясцовасць паніжаецца аж да самага горада. Адсюль, як з птушынага палёту,— усё роднае Падзвінне.

Міхась глядзеў на гэтую вабную прыгажосць, забыўшыся раптам на вайну.

— Куды ж мы пойдзем? — запытаўся Сухарэўскі.— Відаць, кожны сваёй дарогай.

Міхасю зрабілася крыўдна: другі чалавек не хоча ісці разам з ім. Падарожжа ў адзіночку палохала. Нарвешся дзе-небудзь на дэсант — прыстрэляць, і ніхто ніколі не даведаецца пра гэта. Сказаў, не ўтойваючы расчаравання:

— Мне, відаць, лепей дамоў павярнуць. Усё роўна ўжо...

— А ты адкуль будзеш?

— З Кавалёў я.

Сухарэўскі ўзрадаваўся:

— Чакай, дык гэта ж нам па дарозе!..

Міхась быў рады.

Цяпер яны не пільнаваліся дарог. Ішлі напрасткі палямі. Больш маўчалі, таму час цягнуўся марудна. Хацелася прылегчы дзе-небудзь, адпачыць. Балелі ногі, ламала плечы.

Неўзабаве ім сустрэліся немцы. Гэтыя ўжо не маскіраваліся пад савецкіх салдат.

— Цурык! — закрычаў на іх рослы белабрысы немец.

А другі на чыстай рускай мове запытаўся:

— Уж не догоняете ли вы своего вождя и учителя? Его и след в Москве простыл. Так что во избежание осложнений советую идти домой.

На палыновым узмежку, пад навіссю жытнёвых каласоў, яны прыселі адпачыць. Сухарэўскі сцягнуў з галавы шапку, прыгладзіў рэдзенькія валасы.

— Тэ-эк, пагулялі з адступленнем.

Міхась здзіўлена паглядзеў на яго, не адказаў. Прыгнуў колас, густа абвешаны жаўтаватымі пыльнымі тычынкамі, хукнуў. Жоўты пылок зацерушыў пальцы.

— Цвіце,— кіўнуў галавой Сухарэўскі.— А мы адцвілі, выходзіць... пустацветам. Усё «ўра» крычалі, у далоні пляскалі. А нас як плесканулі, дык ачухацца не можам. Крышка! Я, Ланкевіч, трохі ў гэтай справе кумекаю. Конная Будзённага, як мы пелі, цяпер нуль без палачкі. На танкі, на самалёты яе не пашлеш. Мы коням хвасты грабянцамі расчэсвалі, а немцы танкі рабілі, самалёты.

Міхась хацеў запярэчыць, але нешта насцярожвала, прымушала маўчаць, а Сухарэўскі ўсё гаварыў:

— Я, Ланкевіч, дзякуй богу, нагледзеўся на нашы парадкі. Аж моташна. Тых, хто ў ваеннай справе разбіраўся, пад корань вынішчылі, а на іх месца дурняў панаставілі. Смех і гора! Служыў я ў такога спеца, што нават карту прачытаць не мог. Затое дужа добра разбіраўся, як трэба ямкі капаць. Глыбіня шэсцьдзесят сантыметраў, у дыяметры дваццаць чатыры. Чаму дваццаць чатыры, сам не ведаў, а патрабаваў. Бывала, паўсантыметра не даруе. Вось так і рыхтаваліся да вайны.

Сухарэўскі закурыў самакрутку, захлынуўся дымам, доўга кашляў, надрываючы грудзі. Міхась, пазіраючы на ваенрука, чакаў, пакуль той адкашляецца: Сухарэўскі інтрыгаваў расказам.

— Учора я з адным камандзірам гаварыў. Ён у акру-

жэнні паспеў пабываць, ледзь вырваўся. Расказаў такое, што ўсё нутро ў мяне перавярнула. Нас як вучылі: прапусці танкі — знішчай пяхоту ў рукапашным баі. Сувораўская тактыка ў дваццатым стагоддзі! Ганьба, сорам! Дык вось, расказваў мне той камандзір, ляжаць яны ў акопах, а танкі на іх пруць. Падаюць каманду: танкі прапусціць, пяхоту адрэзаць і ў штыкавым баі знішчыць. Прапусцілі. Ляжаць. Чакаюць. А пяхоты — няма. Гадзіну ляжаць, дзве. Пасылаюць сувязнога на КП, а там анікога. Прыйшлі пад вечар у вёску, а ім гавораць: «Немцы ўжо вёрст на дваццаць наперадзе». Вось табе і штыкавы бой! Горка, брат, а нічога не зробіш.

Сухарэўскі падняўся на крываватыя ногі, доўга стаяў, пазіраючы з-пад рукі на шырокія палеткі жыта. Над імі слаўся рэдзенькі жаўтаваты пылок. Далей, за жытнёвым полем, раскінууся поплаў, жоўты ад кветак люціка. Пасярод поплаву купкамі зелянелі лозы, ды зрэдку паблісквала на сонцы рэчка, вузенькая, пакручастая, з круглымі затокамі. Між хмызнякоў па адным, па два прабіраліся чырвонаармейцы са скруткамі шынялёў на плячах і нязменнай трохлінейнай вінтоўкай. Нават здалёк было відаць, што салдаты стаміліся. Яны брыдуць памалу, валочачы натруджаныя ногі па высокай траве.

Сухарэўскі цяжка ўздыхнуў. Яго патрэсканыя, перасмяглыя вусны ледзь прыкметна варушыліся, мабыць, ваенрук размаўляў сам з сабою. Ці не страціў розум? Міхасю зрабілася страшна. Сказаў, каб адарваць яго ад пакутлівых думак:

— Можа, Васіль Васільевіч, усё пераменіцца... Было такое, што Маскву французы бралі, а пасля аж да Парыжа ўцякалі.

Сухарэўскі глянуў спадылба, у вачах пагарда.

— Так толькі прафаны могуць думаць,— ускіпеў ён.— Усюды прафаны, малакасосы, таму і адступаем. Кутузаў армію збярог, а цяпер яе дывізіямі немцам здаюць, без сэнсу і розуму знішчаюць.

Ён пайшоў па полі, шырока расстаўляючы крываватыя ногі. Міхась дыбаў следам, пазіраючы на згорбленую спіну ваенрука. На ёй між лапатак густа бялела соль, а крыху вышэй праступала чорная пляма поту. Пот сцякаў па шыі з-пад глыбока насунутай шапкі, і калісьці белы каўнерык цяпер ільсніўся на сонцы, туга ўразаўся ў загарэлую і такую ж чорную, як каўнерык, шыю.

Міхась шкадаваў Сухарэўскага. Было балюча глядзець

на яго маленькую прыгорбленую постаць. І сябе шкада. Сваёй маладосці, якая цяпер нікому не патрэбна.

І праўда, адцвілі мы пустацветам. А хто вінаваты ў гэтым?.. Сухарэўскі не сказаў, але Міхась зразумеў, на каго намякаў ён. І яму зрабілася ніякавата. Упершыню ён чуў, што так адкрыта і дрэнна гаварыць пра таго, каго любіў, з чыім імем было звязана ўсё жыццё.

Ён пастараўся адагнаць непрыемныя думкі. Прыгадаў дом, маці, сваю вёску. Як там? Можа, прыйшлі ўжо немцы?.. І што ён будзе рабіць, калі вернецца дахаты?..

Увечары яны расклалі невялікі касцёр на беразе рэчкі. На тым баку, у лозах, не зважаючы на вайну, заходзіліся салаўі.

У кастры патрэсквалі дровы, і шызы дымок падымаўся ў неба, раставаў. Было ціха. Ні выбухаў, ні стрэлаў. Толькі далёка на захадзе чырванела зарыва — гарэў горад. Недзе там вісела чорная хмара, мабыць, дым. Міхасю здавалася, што ён нават чуе пах дыму, і ён сказаў пра гэта Сухарэўскаму. Той на хвілінку адарваўся ад панурай задуменнасці, панюхаў паветра.

— Расіяй пахне,— загадкава сказаў ён,— дзікай першабытнай Расіяй, як і тысяча гадоў назад.

Міхасю не хацелася зноў слухаць надакучлівыя скаргі ваенрука, і ён пайшоў у лясок, каб набраць сухога ламачча, а заадно пабыць на адзіноце. Хмуры, нелюдзімы Сухарэўскі толькі наводзіў журбу. Ён усё часцей і часцей нешта шаптаў, і тады яго патрэсканыя вусны крывіліся, а пачарнелы абветраны твар балюча перасмыкаўся.

У лесе было душна. Густы сасновы настой трымаўся тут стойка, і нават рачная прахалода не мела сюды доступу. Міхась пахадзіў па сухім верасковым узгорку, назбіраў ломкіх перасохлых сукоў і раптам адчуў, як падкрадаецца да яго страх і не хапае сіл пераадолець яго. Міхась кінуў ламачча і паспешліва пайшоў да рэчкі.

Там, ля кастра, згорбіўшыся, сядзеў Сухарэўскі, нешта мармытаў, не адрываючы вачэй ад агню.

Міхасю хацелася пачуць, што шэпча Сухарэўскі, пранікнуць у яго думкі, зразумець гэтага чалавека, які так адкрыта і, здаецца, шчыра гаварыў пра тое, пра што Міхась баяўся нават падумаць. Але ніводнага слова нельга было разабраць. Міхась бачыў толькі, як варушацца вусны, як хмурацца, выгінаюцца бровы ды зрэдку з-пад іх пабліскваюць вочы — у іх адбіваецца полымя кастра.

Потым Сухарэўскі баязліва азірнуўся, нешта выцягнуў з кішэні і доўга глядзеў на яго.

— Грошай колькі пераплаціў,— пачуў Міхась ягоны голас і спалохаўся: ваенрук страціў розум. Зрабілася страшна. Лепей бы не сустракаўся з ім.

Сухарэўскі паднёс руку да кастра, трымаючы штосьці над агнём. Міхасю было цікава пабачыць, што ён хоча спаліць. Ён асцярожна ступіў пару крокаў: пад нагамі гулка трэснула галінка. Сухарэўскі крута павярнуўся, а тое, што ён трымаў у руцэ, упала на касцёр.

— Хто там? — крыкнуў ён спалохана і злосна.

— Гэта я, Васіль Васільевіч.

— Чаго ты, як злодзей, крадзешся?

Міхась нясмела і баязліва падышоў да кастра. Між двух смаляных карчоў дагарала кніжачка. Сінявата-зялёныя лісткі гарэлі полымем, і на кожным з іх праступалі вялікія і, як здалося Міхасю, ярка-чырвоныя літары «ВКП(б)».

Міхась ашалела паглядзеў на свайго былога ваенрука. Убачыў на імгненне ягоныя шэрыя маленькія вочы, напалоханыя, збянтэжаныя і нейкія вінаватыя. Падумаў: «Чаму ж ён не закапаў, а спаліў білет? Закапаць жа прасцей».

Сухарэўскі пакорпаўся ў вогнішчы яловым сучком, попел рассыпаўся.

— Садзіся, Ланкевіч, павячэраем,— сказаў ён тым надтрэснутым, грубаватым голасам, які Ланкевіч прывык чуць на занятках у тэхнікуме.

Міхась сеў, стараючыся не глядзець на Сухарэўскага. Чамусьці было сорамна, няёмка. Ваенрук узяў адразу два яйкі, стукнуў адно аб адно, тонкімі далікатнымі пальцамі спрытна абадраў іх, але есці не стаў, паклаў у шапку.

— Хто твае бацькі, Ланкевіч? — нечападзявана запытаўся ён у Міхася.

— Сяляне. Калгаснікі, вядома,— Міхась разгубіўся.

— Ды гэта я ведаю,— нецярпліва адрэзаў той.— З бедных ці, можа, з багатых? У анкетах праўды не пісалі.

— Бацька пяць дзесяцін меў, серадняком лічылі.

— Рэпрэсіравалі калі-небудзь?

Міхась памаўчаў, прыгадаўшы сем тыдняў пакутлівага чакання. Адказаў шчыра:

— У трыццаць першым арыштоўвалі...

— Та-ак...— Сухарэўскі глянуў спадылба.— Што ж ён, агітацыяй займаўся ці шкодзіў?

Міхась пакрыўдзіўся:

— Ды што вы, Васіль Васільевіч! Накляпаў адзін прайдзісвет.

— Мне дык усё роўна. А толькі рэпрэсіраваным цяпер лафа. Немцы такіх не патрывожаць. А вось мне горш. Ты, Ланкевіч, жыцця не разумееш. Табе ўсё проста. А я шмат на свеце пабачыў і шмат што, пастарэўшы, зразумеў. Светлымі ідэаламі вось такіх, як ты, хлапчукоў шпігуюць, каб яны сябе не шкадавалі, у любую хвіліну гатовы былі за сваіх бяздарных кіраўнікоў галовы пакласці. Я, брат, таму кажу, што сам дурнем быў. Таксама са скуры вылузваўся, каб адданасць паказаць. А думаеш, ацанілі? Дзе там!

— Немцы не супраць кіраўнікоў, а супраць Радзімы нашай, супраць народа ідуць,— не ўтрымаўся Ланкевіч.

— Радзіма!.. Народ!.. Бачыў я такіх, што словы гэтыя бясконца паўтаралі, а іх у карцэр, на канвеер. Па сем сутак дапытвалі, пакуль яны не падпісвалі тое, што следчаму хацелася. А потым на этап або ў спецкамеру. Ні гучныя фразы, ні заслугі, ні ордэны — нічога не памагала.

— А вы адкуль ведаеце?

— Будзеш цікавіцца — састарышся... Я тут усё жыццё сваё перабраў і зразумеў, што далей дурнем быць не варта. За гэтую кніжачку вельмі проста на той свет адправяць. А сэнс які? Ніякага. Хопіць той падзякі, што за ўсё сваё суровае жыццё атрымаў. Думаў, як ты: народ, Радзіма, партыя, вернасць, а мяне за каўнер ды — вон з арміі.

— За што? — мімаволі вырвалася ў Міхася.

Сухарэўскі памаўчаў, быццам вырашаў, ці варта спавядацца перад гэтым хлапчуком. Потым пачаў расказваць:

— Бацька мой пры цару меў няшчасце быць адвакатам. У васемнаццатым годзе балтыйскія матросікі яго кокнулі. Ён, Ланкевіч, бунтаваў супраць бальшавікоў. Яго злавілі на Царскай ветцы і там жа, у пясчаным кар'еры, з маўзераў расстралялі. А я з імі пайшоў. Ваяваў. Жыцця не шкадаваў. Калі даведаўся, што маці з белымі ўцякла, аж зубамі скрыгатаў. Каб злавіў, сваёй рукой застрэліў бы. Як жа, перадавы баец Чырвонай Арміі! Адданасць! Рэвалюцыйная нянавісць! Гатовы быў у пекла лезці. Сорам успамінаць, да чаго дурны быў. Роднага дзядзьку ў ЧК здаў. А мяне ў трыццаць сёмым па гэтаму самаму месцу...— Сухарэўскі з усёй сілы ўдарыў сябе па карку.— Усе заслугі мае к чортавай матары.

— Але ж во разабраліся, не судзілі, як вы кажаце, ні за што.

У вачах Сухарэўскага загарэлася і патухла нянавісць.

— Многа ты ведаеш... Разабраліся... Бяры, еш...

Ён раптам аціх, зрабіўся змрочны і натапыраны, быццам каяўся, што нагаварыў лішняе.

Міхасю ўжо не хацелася есці, не хацелася наогул сядзець ля кастра, дзяліць з Сухарэўскім начоўку. Зноў, як і днём, свет здаваўся цесным, няўтульным.

Ланкевіч усё думаў над тым, што гаварыў Сухарэўскі. Успамінаў лекцыі былога свайго настаўніка Тышкевіча і ў іх як бы знаходзіў адказ на разварушаныя ваенруком думкі. «Такія, як Сухарэўскі,— часовыя спадарожнікі! Ясна! Яны толькі да першай цяжкасці ідуць за партыяй, а потым здраджваюць...» З гэтай думкай ён і заснуў, а калі прачнуўся, Сухарэўскага ўжо не было.

## 7

У тую ноч, калі Міхась Ланкевіч вярнуўся дамоў, вёску азаралі водбліскі пажару: горад ціха дагараў. Хаты, дрэвы, трава і паруслая лазой балацявіна, у якой ашалела кумкалі жабы,— усё навокал афарбавалася злавесным зарывам. Недзе ў завулку, дзе сіратліва чарнелі зрубы недабудаваных хат, раз'юшана роў бык, чуўся сухі трэск паламанага плятня і спалоханы выкрык, падобны на лямант:

— Абухом, абухом яго!.. А-а-а, маць мая траяручыца!..

Па агародзе, нізка прыгінаючыся да зямлі, быццам не мог вытрымаць духаты ночы, насоўваўся на збянтэжанага Міхася расплылы, няўклюдны цень. Цень выпраставўся. Міхась пазнаў маці. Усё яшчэ адчуваючы ліпкі халодны страх на спіне, ён падбег да яе. У баразне, бялеючы на чорнай зямлі, ляжала торба.

— Ці ты, Міхасёк? Ой, як жа я напалохалася! — задыхана азвалася маці.— Адкуль ты?

Маці паспрабавала падняць торбу, але не змагла. Нібы апраўдваючыся, сказала:

— У гарачцы падхапіла і несла хоць бы што, а цяпер не падніму.— І, прыцішыўшы голас, растлумачыла:— Хлеб дзеляць. Хапаюць, хто колькі можа. Каб не пачула, дык так нічога і не дасталося б.

Яе голас заглушыў неяк па-чалавечаму журботны роў быка. Абое ўздрыгнулі.

— Чаго ён раве? — запытаўся Міхась.

— Лягачы, няхай іх халера, прыблуднага быка ўхайдошыць хацелі. Вырваўся, усе плятні паламаў. І наліха

ён ім? Гарачыня цяпер — прападзе мяса... Усё людзям мала. А ты чаму вярнуўся?

— Немцы перанялі.

— Божа мой, як жа мы жыць будзем?..— Маці зноў нагнулася над торбай. Міхась адхіліў яе, узваліў ношу на плечы.

Да хаты дайшлі моўчкі. Абаіх прыгнятала насцярожаная вясковая цішыня, якая зрэдку абуджалася ровам недарэзанага быка.

Не запальваючы лямпы, Міхась павячэраў і лёг спаць. Здарожанае цела соладка ныла, падэшвы ног, натруджаныя дарогай, гарэлі, быццам Міхась яшчэ дыбаў па гарачым жвіры. Нейкая млявасць, сцішаная асалодай спакою, завалодвала Міхасём. Ён ляжаў, закінуўшы за галаву рукі, стараўся адагнаць мітуслівыя думкі. Іх было шмат. Яны чапляліся адна за адну, блыталіся.

Сон падкраўся знячэўку. Міхась чуў яшчэ далёкую прыглушаную матчыну гаворку, нават адказваў нешта, але праз сон. Прачнуўся ён нечакана. Здалося, што нават не заснуў, бо той жа глухі, але насцярожаны матчын голас чуўся з ложка:

— Сыночак, сыночак, прачніся. Нехта стукае.

І праўда, у цішыні пачулася асцярожнае дзынканне шкла. Міхась падхапіўся і, ужо зусім прачнуўшыся, падбег да акна. Па той бок, прытуленая да сцяны, віднелася чалавечая постаць.

— Хто там? — запытаўся Міхась, адчуваючы, як калоцяцца ногі.

— Свае. Адчыні, Ланкевіч.

Голас як бы знаёмы. Міхась хацеў адкінуць кручкі на раме, але маці не дазволіла.

— Не адчыняй,— шапнула яна і ўжо гучна, каб чуваць было на вуліцы, запыталася:— Каго вам трэба? Чаго вы да ўдавы ломіцеся?

З панадворка даляцеў голас. Хутчэй падсвядома Міхась зразумеў, што голас Тышкевіча. Пабег адчыняць дзверы.

Іван Анісімавіч спыніўся ў парозе, трохі зухавата прывітаўся.

— Не чакалі, відаць? А я ішоў міма, дай, думаю, загляну. Шчыра кажучы, не спадзяваўся, Міша, цябе дома застаць.

— З горада, відаць, ідзяце? — запыталася маці.— Як там?

— Гарыць...

— Нашто ж паліць? Людзям жа жыць трэба...
— Пасля адбудуем.
— Яно так. Павячэралі б, можа?
— Кіслага малачка з'еў бы.
— Знойдзецца.
Іван Анісімавіч прысеў на лаўку, абапёр галаву на далоні.
— Як жа ты, Міша, жывеш? — спытаў Тышкевіч.
— Якое цяпер жыццё...
Маці, ставячы на стол збан, падтрымала размову:
— Цяпер не пра жызню думаеш, а пра тое, як жывому застацца.
— Нічога, перамелецца.
— Не відно нешта. Казалі, немца на старой граніцы затрымаюць, потым на Бярэзіне, а ён ужо і сюды дапяў.
Размова ні гарэла, ні тлела. Ад слоў вырастала журба. Міхась стараўся ўгадаць, чаго паявіўся Тышкевіч. Сустракаліся яны апошні раз год назад. З таго часу не бачыліся. Здзіўляла, што Тышкевіч застаўся тут. Загадчык райана, камуніст. Няўжо і ён гэтакі ж, як і Сухарэўскі?
Іван Анісімавіч сёрбаў кіслае малако, хваліў, што халоднае і вельмі смачнае. Маці вяла няхітрую жаночую размову, прымерваючыся і так і гэтак да будучага жыцця.
За акном, па той бок дарогі, у імшарыне, кумкалі жабы. Парная, духмяная ноч дыхала сухой, перагрэтай сонцам зямлёй.
Тышкевіч адсунуў жбан, яшчэ раз пахваліў малако і, звяртаючыся да Міхася, зноў не то спытаў, не то ўзрадавана адзначыў:
— А я думаў, што ты на ўсход падаўся...
— Хацеў, ды вярнуўся.
Маці перабіла, паспешліва ўступаючы ў размову:
— Што ўжо яму, калі і вы, Іван Анісімавіч, засталіся. Дасць бог, абыдзецца. Школы ўсягды будуць.
Міхасю было крыху няёмка ад такога матчынага намёку, але ён з нецярплівасцю чакаў, што адкажа Тышкевіч. Іван Анісімавіч не спяшаўся. Выцягнуў папяросу, доўга мяў у пальцах, затым, гэтак жа не спяшаючыся, прыкурваў.
— Бадай, нам з Міхасём у тых школах працаваць не давядзецца.
— Ды Міхась яшчэ і на плуг не забыўся.
Тышкевіч крактануў, закашляўся:
— Вучылі яго вы, вучылі, а цяпер — за плуг. Нічога, ён

яшчэ і настаўнікам будзе, а можа, інспектарам ці наркомам.

— Дай жа бог,— азвалася маці і пайшла слаць пасцель.

— Можа, на прызбу выйдзем? — запытаўся Міхась. Хацелася яму пабыць з Тышкевічам сам-насам, спытаць, што той намераны рабіць. Сябе думаў не выдаваць. Але як толькі яны селі на прызбу, Тышкевіч ашаламіў Міхася:

— Што ты, Міхась, рабіць думаеш?

— Хіба хто ведае, што будзе рабіць заўтра? — з мужыцкай развагай адказаў ён.

— Давай без хітрыкаў,— спыніў яго Тышкевіч.— Можа, верыш, што немцы Маскву забяруць? Савецкі Саюз да Урала захопяць?.. А... вось што...

Тышкевіч злосна вылаяўся. Міхась быў здзіўлены: упершыню чуў брыдкае слова з вуснаў Тышкевіча.

Памаўчаўшы, Міхась пачаў здаля, не толькі таму, што ўсё яшчэ не давяраў свайму былому настаўніку, а больш таму, каб развеяць сумненні:

— Я так думаю, Іван Анісімавіч, лёгка было адступаць, а наступаць цяжэй будзе. Пакуль партыя падполле наладзіць, канспірацыю, пакуль паўстанне падрыхтуе, выкарыстае рэвалюцыйную сітуацыю,— не адзін год пройдзе.

Іван Анісімавіч зноў перабіў яго:

— Сам прыдумаў ці дурань які нагаварыў?

— Сам,— пакрыўдзіўся Міхась.

— Значыць, сам дурань. Начытаўся кніг і радуецца. Ды зразумей ты, тэарэтык, што немца ў Маскву да зімы не пусцяць, хай ён распераджэцца, а не пусцяць яго. А адтуль ён хутчэй за Напалеона пабяжыць. І біць яго будуць на ўсіх дарогах.

— Чым біць? Віламі?

— Во, таму і прыйшоў да цябе. Калі не баішся, прадоўжым гаворку. Баішся — скажы адразу, цяпер.

— Што вы! Толькі скажыце як? — узгарэўся Міхась.

Усё неяк адразу стала на сваё месца. Знікла адчуванне адзіноты, няўпэўненасці, смутку. Быццам не было рыжага фашыста-дыверсанта, Сухарэўскага, бамбёжкі. Быццам зноў паўтарыліся вясновыя манеўры з іх захапляючай таямнічасцю, рамантыкай начных паходаў.

— Тады слухай і запамінай,— Іван Анісімавіч падсунуўся бліжэй.— Па лясах ды равах засталося шмат зброі. Сабраць яе трэба. Ясна? Адзін, вядома, не справішся. Хлопцаў, дзяўчат арганізуй, камсамольцаў, але такіх, хто язык за зубамі трымаць умее. Самі ніякіх глупстваў не ра-

біце. Дысцыпліна — гэта, брат, галоўнае. Пра мяне не гавары нікому. Ясна?

— А вы не адзін? — запытаўся Міхась і сам збянтэжыўся: такіх пытанняў не задаюць. Але Тышкевіч як бы не заўважыў яго промаху.

— З намі, брат, уся партыя. Ясна?

У сенцах рыпнулі дзверы. Іван Анісімавіч адразу перавёў размову на іншае:

— Неба якое чыстае. Раней бы гэтаму радавацца толькі — сенакос... А цяпер хай бы дождж ішоў. Усё — нашым лягчэй.

Падышла маці, прысела побач.

— Тая вайна таксама ў спёку пачыналася. А калі кончылася, не памятаю.

8

Месца для начлегу аблюбавалі на поплаве ля невялікага Стайкаўскага возера. Закутае з трох бакоў у стромкія берагі, адкрытае на поплаў з чацвёртага, возера вабіла свежасцю і блакітнаватай вадой, што лагодна плюхалася аб пясчаную водмель. Хацелася памыцца, спаласнуць пыл, што ўеўся ў скуру, набіўся ў валасы, запарушыў вочы. Але Каршукоў распарадзіўся даіць кароў. Возера не ўцячэ... Жанчыны неахвотна бралі даёнкі: надакучыла аднастайная праца, якая не мела цяпер ніякага сэнсу. Сам Каршукоў і двое хлопцаў-пагоншчыкаў пачалі наладжваць сепаратар.

Вечар, як і ўсе вечары ў тое лета, быў ціхі і цёплы. Асмужанае барвовым пылам сонца паволі сплывала за лес. Лёгкі, гуллівы ветрык зусім аслабеў, як дзіця, што ўволю набегалася за дзень, і ўсё навокал — паветра, вада, дрэвы і нават трава — застыла, супакоілася. Толькі стрыжы імкліва луналі ў небе ды стромкія свечкі камароў злёгку трымцелі над самай вадой. Панаваў расслаблены спакой: лёг бы на траву, закінуў рукі пад галаву і, ні пра што не думаючы, ляжаў бы пад гэтым высокім і чыстым небам.

Хлопцы-пагоншчыкі памалу збіралі сепаратар — нанізвалі капялюшыкі-талерачкі на металічны стрыжань, нібы знарок блыталіся і зноў усё пачыналі спачатку. Каршукоў прыслухоўваўся да іх размовы, не вытрымаў:

— Менш бы гаварылі, вунь зараз малако прынясуць.

— Адстань,— ляніва адгукнуўся меншы, Лёшка.— Нам

гэтае малако ў пячонках сядзіць. Свету з-за яго не бачым. Іншыя вунь пакідалі кароў — і па хатах...

Каршукоў якраз прывінчваў ручку, спыніўся, здзіўлена глядзеў на Лёшку. Кірпаты нос, выгаралыя валасы, дзіцячыя, наіўныя вочы — хлапчук, а бачыш ты яго! Раскідваць кожны дурань умее, а нажываць!..

Лёшка прымацаваў рэзервуар, шмыгануў носам.

— Можа, няпраўда? Гаруем во. А дзеля чаго? Нам усё больш за іншых трэба...

Другі пагоншчык кпліва ўсміхнуўся, чакаў, відаць, што Каршукоў скажа Лёшку. А Станіслаў Цітавіч маўчаў. «Можа, і праўду кажа гэты кірпаты недаростак. Наліха ўсе старанні... Сабаку пад хвост такая работа. Хоць бы галаву зберагчы».

Думка гэтая была не новая. Упершыню яна прамільгнула, калі да яго заявіўся Галай і знячэўку ашаламіў прапановай застацца ў тыле ворага для партызанскай барацьбы. Заставацца пад немцам Каршукоў не хацеў, але і адмовіцца не адважыўся. Даў згоду. А назаўтра з раёна прывезлі загад: пад асабістую адказнасць старшыні калгаса неадкладна пагнаць жывёлу ў глыбокі савецкі тыл. Каршукоў пра дамоўленасць з Галаем прамаўчаў. Сам узначаліў эвакуацыю. Падумаў тады, што партызанская барацьба калі яшчэ пачнецца, а жывёлу трэба ратаваць зараз. Яна — народнае багацце. Выходзіць, закралася ў разважанні нейкая недакладнасць, калі кожны шпінгалет папікае, што валаводжуся з жывёлай. Яму напляваць, што я сваім жыццём рызыкую. Лёшку абы хутчэй дамоў дабрацца. Ды і ці аднаму Лёшку. Ну і людзі! Рабі ім дабро, старайся, а яны табе... Хоць якія там людзі. Лёшка — шчанюк, малакасос. А глядзі, у контры ідзе. Раней ён такое не пасмеў бы сказаць: адстань! Я табе адстану!.. Хоць што ты яму зробіш? Ляпнуў і выскаляецца. Распусціўся. Не баіцца нічога.

Каршукову да слёз зрабілася крыўдна за сваю бездапаможнасць. Месяц назад гэты самы Лёшка не азваўся б, а цяпер глядзі — тыкаецца, як з роўным. «Ты!» Ах, шэльма, мала цябе вучылі...

— Пайшлі прэч, калі лянуецеся,— сказаў Каршукоў, адбіраючы ў хлопцаў талерачкі.— Сам зраблю.

Лёшка выцер рукі аб калашыны, уразвалку пайшоў да павозкі.

— Віця, нясі курыва,— паклікаў ён другога пагоншчыка.

— Нясу,— адказаў Віктар.

Каршукоў думаў, пазіраючы на хлопцаў, што масціліся на траве пад возам: «Усё к чортавай матары ляціць. Няма парадку, і чакаць няма адкуль. Тут толькі заікніся... Дык то ж хлапчукі. Такіх па добрым часе бацька дзягай вучыў. А не дай бог вернуцца хадынскія шляхцюкі!.. Ці Макар Сідаронак. Ого, гэты ціхі-ціхі, а за руп дваццаць яго не возьмеш. Ну, ды мне што. Я за сваё адкажу не баючыся. Ядзі шкада. Сідаронак ёй не даруе».

Хлопцы курылі, разваліўшыся на траве, шапталіся. Каршукову здалося, што яны спадцішка пазіраюць на яго і выскаляюцца. Напэўна, гавораць пра яго і Ядвісю.

Раней на такія размовы ён не звяртаў ніякай увагі, плёткі не дасягалі яго, як бога. І людзі спакваля прывыклі бачыць яго, Каршукова, з Ядвісяй. Быццам так і трэба. А можа, толькі здавалася, што прывыклі? Цяпер успомняць. Усё прыгадаюць: і любоў гэту, і Сідаронка. Скажуць, з-за бабы чалавека ў турму пасадзіў. Ім жа не дакажаш, за якія грахі Макара пасадзілі.

Яму захацелася паламаць сепаратар, кінуць-рынуць усё і пайсці куды глядзяць вочы. Ён на хвіліну адарваўся ад работы, азірнуўся, быццам у апошні раз хацеў пабачыць свет.

У яркім чырвоным марыве апускаўся за лес вялізны шар сонца. Ад яго падымаліся ўгору тры вогненныя залатыя слупы. Яны праткнулі белае доўгае воблака і трымалі яго, як вілы ахапак сена.

Ад лесу ўжо клаліся на зямлю густыя і нейкія халодныя цені, вострыя, як пікі. Здавалася, яны вось-вось узнімуцца з зямлі, праткнуць грудзі. Адтуль, з лесу, веяла прахалодай і сырасцю.

Каршукоў адвярнуўся, шукаючы вачам прытулак. Перад ім ляніва пясцілася ў берагах возера, а за ім, на небасхіле, цьмяна свяціўся шчарбаты месяц. Ён быў ледзьве бачны ў промнях сонца, як далёкі след на свежым снезе. Але ён штосьці нагадаў. Што? Ага, якраз і тады ўзыходзіў месяц і так, як цяпер, тры вогненныя слупы пранізвалі хмару. Каршукова везлі ў сваты...

...Ажаніўся Каршукоў не па каханню, а з гора. Ад тыфусу памерлі бацька з маткай і старэйшая сястра, самая работніца ў полі і дома. Станіславу тады было няпоўных шаснаццаць гадоў. А гаспадарка, як ні кажы, немалая: каровы, конь, авечкі, куры, качкі. Зімой яшчэ памагала дзядзіна, а вясной прыступіла не па жарт — жаніся, і ўсё тут.

Станіслаў упарціўся: было сорамна — які ён жаніх. Але і выйсця не знаходзіў. Адпаму з гаспадаркай не ўправіцца.

— Ладна, жаніце,— сказаў ён і пачырванеў.

Дзядзіна ўзрадавалася:

— На гэтым тыдні і абкруцім. Сам знаеш, людзям цяпер не да вяселля — сяўба.

— Рабіце, як ведаеце,— згадзіўся Каршукоў.

Увечары ён доўга думаў пра сваю жаніцьбу, стараўся ўявіць жонку і не мог. У галаву лезла адно глупства.

Назаўтра ён паспрабаваў зрабіць выбар па душы.

— Калі ўжо трэба жаніцца, дык вядзіце ў сваты да Мазавецкіх.

Дзядзіна залямантавала, адмахвалася рукамі, нібы адганяла пчол.

— Здурэў, хлопец. Ды хто за цябе аддасць Агнеску. Яна ж багачка, ды і дзіця яшчэ. Табе, Стасік, гаспадыня патрэбна, каб рабіць магла, а не з лялькамі гуляць. Я табе сама жонку знайду.

Цяпер Станіславу было ўсё роўна, каго прывядуць яму ў хату. А дзядзіна і сапраўды знайшла дзеўку з падгародскіх мяшчанак — нейкую далёкую сваю радню, Альбіну.

Была яна высокая, тады на галаву вышэй Каршукова, здаровая, з карымі, навыкаце вачамі. Каршукоў яе баяўся. Альбіна чагосьці ўсё хмурыла рыжаватыя бровы, крычала на яго як на хлапчука. Ды ён і быў тады хлапчуком.

Мужчыны груба пакеплівалі з яго, набіваліся ў памагатыя. Каршукоў адмоўчваўся, замыкаўся, стараўся не бываць на людзях. Цягнуў апрыклую лямку засценкавага гаспадара. З ім ніхто, вядома, не лічыўся. Засценак вёў справы з Альбінай.

Праз чатыры гады нямілага, надакучлівага жыцця Каршукова прызвалі ў Чырвоную Армію. Альбіна ўсю ноч праплакала на яго грудзях, але Станіслаў ведаў, што яна шкадуе рабочыя рукі. У армію ён ішоў з ахвотай.

Паўтара года праляцела, як дзіўны сон. Трэба было вяртацца дахаты. Каршукоў падумаў, падумаў і папрасіўся на звыштэрміновую.

Яшчэ адзін год праляцеў незаўважна, і тады як снег на галаву звалілася Альбіна са сваім траюрадным братам Васілём Сухарэўскім. Альбіна плакала, слюнявіла насоўку, упрошвала Каршукова вярнуцца на зямлю. Сухарэўскі тым часам абіваў парогі ў начальства.

Яны дамагліся свайго. Назад ехалі трое. Каршукоў спадылба цікаваў за жонкай. Яна, здаецца, без яго падабрэ-

ла і нібы памаладзела. Але была такая ж, як і раней,— чужая яму.

Сухарэўскі раіў у вёску не вяртацца. Што там рабіць, калі, па ўсім відаць, хутка пачнуць ствараць калгасы. Каршукоў не ўпарціўся.

Асталяваўся на інструментальнай фабрыцы. Працаваў як вол, па дванаццаць гадзін не выходзячы з цэха. Як ударніку яму далі кватэру. Альбіна стала гараджанкай. Гаварыла па-гарадскому, чытала старыя прыгодніцкія раманы, даглядала чацвёра пухнатых сібірскіх кошак. Дзяцей у яе не было.

У ліку дваццаціпяцітысячнікаў зімой трыццатага года Каршукоў паехаў на вёску, дамоў. Альбіна засталася ў горадзе. Ён яе не клікаў, і яна не вельмі імкнулася за ім. Дарогі іх спакваля разыходзіліся, і ніхто не шкадаваў гэтага. Каршукову проста не хапала часу. Працаваў ён тады ў МТС.

Аднаго разу, было гэта ў самае жніво, яго выклікалі ў райком. Пасяджэнне зацягнулася, і ён надумаў пераначаваць у Альбіны.

Яна адчыніла дзверы і чамусьці збянтэжана адступіла. Са спальні даляцеў басавіты мужчынскі голас: «Аля, хто там? Не па мяне?»

Каршукоў спатыкнуўся, глядзеў паблажэлымі вачамі на жонку. Такога ён не чакаў. Захацелася пабачыць таго дзівака, што пагнаўся за гэтай пераспелай краляй. Рыўком адчыніў дзверы. На ложку з газетай у руках ляжаў тлусты лысаваты чалавек. «Дзе я бачыў яго?» — падумаў Каршукоў.

Альбіна ўвайшла следам, узяла са стала папяросу. Рукі ў яе трэсліся. «Чаго баіцца?— здзівіўся Каршукоў.— Я хіба супраць. Няхай жывуць».

— Ага, зразумела,— сказаў лысаваты. Скіўіца ў яго адвісла, быццам стала адразу цяжкай.— Спадзяюся, як культурныя людзі, мы пагаворым без лішніх эксцэсаў.

«Во хто гэта — адвакат Люлін»,— успомніў Каршукоў.

— Я нічога,— паспешліва, нібы прасіў прабачэння, сказаў Каршукоў.— Я рэчы забраць прыйшоў.

Праз дваццаць хвілін ён выходзіў з чамаданам на цёмную лесвічную клетку. Альбіна дагнала яго, узяла за рукаў:

— Ты ж бы кінуў мяне, усё роўна кінуў,— казала яна.— Ну, яшчэ гадоў пяць-шэсць...

— Я не супраць,— адказаў Каршукоў і бегма рынуўся ўніз па лесвіцы.

Работы тады хапала. Цішкаўскі калгас ледзьве ліпеў, вось-вось мог разваліцца. А родная Каршукову Хадынка па-шляхецку, напаказ, жыла весела і тлумна. Жыццё, як на талерачках вагаў, схілялася то да калгасаў, то назад, у мінулае, да аднаасобнай вёскі; Каршукоў ваяваў за калгасы. Заваяваў... І вось цяпер усё павярнулася назад.

...Жанчыны прынеслі першыя надоі. Туркова жонка, нізенькая, зграбная, як дзяўчынка, выліваючы малако ў малакамер, сказала нізкім, грудным голасам:

— Станіслаў Цітавіч, што ж гэта робіцца? Надоі ўсё большаюць. Каб не вайна, заліліся б малаком. Гэта ж во ад аднае Ласкі...

Каршукоў кінуў вокам на рэйку малакамера. Адзінаццаць літраў! Вось дык Ласка! Каб не вайна, атрымала б сёлета на выстаўцы залаты медаль.

Гэтую Ласку ён маленькай цялічкай прывёз з племгаса, выхадзіў яе. І недарма стараўся — была б рэкардыстка. Шостае цялё ад яе ходзіць у статку, і ўсе пародзістыя, па маці. Ды і статак не абы-які. Халмагоркі, бура-чырвоныя латвійкі. Што ні карова — біяграфія. А Лёшка кажа — кінуць. Ён не нажываў. Яму гаварыць лёгка. Нічога ён не разумее. Такі статак выгадаваць не адзін год патрэбна. Кінуць — проста...

Лёгкай хадой падышла Ядвіся. Доўгія бровы, акуратна вышчыпаныя, падфарбаваны алоўкам. У вачах іскрынкі смеху.

— Чаго хмурышся, старшыня? На мой бабскі розум, дык дамоў і вяртацца не варта. Будзем вандраваць, як цыганы. Дужа мне спадабалася такая жызня.

— Вылівай малако,— зморана сказаў Каршукоў, але неяк адразу павесялеў.

Потым аднастайна гуў сепаратар. Жанчыны вёдрамі пасілі малако. Каршукоў вёў улік. Усё ішло, як і даўней, строгім парадкам. Па прывычцы людзі працавалі дружна. Толькі Лёшка ленаваўся і раз-пораз пазіраў на возера.

Кароў падаілі, калі зусім сцямнела. Жанчыны адразу пабеглі на возера, спаласнулі даёнкі, потым пачалі распранацца. У цемрачы бялелі іх постаці. Чуўся смех, вясёлая валтузня.

Хлопцы таксама спяшаліся закончыць работу. Не цярпелася і ім хутчэй акунуцца, змыць гарачы ўедлівы пыл.

Але Каршукоў зноў знайшоў работы: трэба палічыць статак, напаіць ягнят.

За дні вандровак цішкаўскі статак вырас удвая. Па шляху дамоў сустракалася нямала кінутай калгаснай жывёлы. Каршукоў кожны раз бурчаў, лаяўся: «Гаспадары, ліха матары, пакідалі жывёлу! А што яны рабіць будуць, як нашы вернуцца». Разам з хлопцамі Каршукоў выбіраў лепшых кароў і авечак, далучаў да свайго статка.

Пакуль лічылі жывёлу, жанчыны падрыхтавалі вячэру. Елі пад зорным небам. Пасля вячэры Каршукоў прылёг на возе тварам дагары. Над галавой — Млечны Шлях, абапал ціха падміргвалі зоркі. Ноч, а цёпла. Вясна была дажджлівая, халодная. Цяпер жа цеплыня. Напэўна, на палях раскашуе збажына, прэ ўгору! Даўно не бывала такога лета. Ці пачалі толькі сенакос? Яхім, праўда, чалавек сталы, але гаспадарскае вока і за ім трэба. Нічога, заўтра буду дома, калі што не так, як трэба, папраўлю. Сена далей ад дарог стагаваць трэба. Немцы па дарогах адступаць будуць, дык са злосці чаго не зробяць. А такі статак пракарміць не жартачкі! Кароў у лесе пакуль схаваем, у Хадынскім рове. Хвігу іх немцы знойдуць. А там увосень і нашы падаспеюць. Вось тады няхай пазайздросцяць тыя, што ўсю жывёлу разбазарылі. Хопіць і дзяржаве і калгасу.

Пра сябе Каршукоў не думаў. Не так страшны чорт, як яго малююць. Перажывалі і не такія навалы. І немцаў перажывём. Галай пасля вайны будзе шумець. Канечне, будзе. А я яму казырнага туза на стол. Хто ў раёне столькі жывёлы збярог? А збярог жа, бо верыў, што немцы доўга тут не пратрымаюцца. Гаспадарку бурылі тыя, што ў перамогу не верылі. А я веру. Напалеон таксама пёр на Маскву галопам, а назад яшчэ хутчэй уцякаў. Гітлер не Напалеон. Кацяня ён супраць ільва...

Ад такіх думак станавілася лагодна на душы. Ён, Каршукоў, прадбачлівы. Гаспадару інакш і нельга. Які ты гаспадар, калі далей носа не бачыш. А ён, Каршукоў, бачыць. Гэта Лёшка можа вырашаць усё дужа проста. Ён на гатовым гадаваўся.

Каршукову зрабілася сорамна за тую думку, што прамільгнула была ў галаве: «Сабаку пад хвост такая работа!» Збіў недаростак гэты з тропу. Пабачым, як узрадуюцца людзі, калі заўтра вернемся дамоў. Аднаго топленага масла пудоў дваццаць. Во які ён гаспадар!

Пачуліся мяккія крокі па траве. Цёплая, крыху шурпа-

тая рука крапулася галавы. Ядзя! Каршукоў прыкрыў яе руку сваёй:

— Чаго не спіш? Позна...

Ядзя прысела побач, паклала галаву на яго расхрыстаныя грудзі.

— Баюся я, Стасёк. Ой як за цябе баюся.

Ён, расслаблены жаночай ласкай, паклаў руку на яе плечы, доўга маўчаў. Ядзя прыўзнялася, пачала цалаваць яго вусны, шчокі, лоб.

— Родны мой, не вяртайся ў Цішкаўку. Ідзі сёння ж у Забалоцце, да маёй цёткі. А што, калі Макар вернецца? Як падумаю — жыць не хочацца.

Каршукоў расчулена пагладзіў яе галаву. Валасы яшчэ не прасохлі пасля купання, духмяна пахлі азёрнай вадой.

— Дзівачка ты, Ядзя... Макара твайго даўно ў Сібір выслалі. Назад яму доўга ісці. А немцы... Думаеш, што немцы тут доўга ўтрымаюцца? Вось таму і ў паніку кідаешся. А я ўсё разлічыў. Як па-пісанаму вайна ідзе. Цяпер вось пагода стаіць, ну і прэ немец. На машынах там ці на матацыклах дзе хочаш можна ехаць. А пойдуць дажджы, дык уся ягоная тэхніка стане. Мы от ужо два тыдні як у дарозе. Дзесяць дзён у варожым тыле. А ці многа ты гітлераўскіх войск бачыла. У тым і справа, Ядзя. Салдат у Гітлера няшмат. Б'е браніраваным кулаком, а тыл — дзіравы. Кінь ты сюды конніцы некалькі эскадронаў, дык да самага Берліна можна ісці без прыпынку...— Каршукоў крыху памаўчаў.— Перад самай вайной трапіла мне ў рукі кніжка аднаго царскага палкоўніка. Чытаў я тады яе без асаблівай ахвоты. Думаў, што там можа царскі афіцэр сказаць? Аж цяпер бачу: разумны чалавек быў. «Напалеон, кажа, усяму свету даказаў: перамагчы рускіх нікому не ўдасца». Хоць і царскі афіцэр, а словы правільныя.

Станіслаў Цітавіч сеў на калёсах, дастаў махорку, закурыў. Гаварыў, быццам хацеў пераканаць сябе:

— Гітлер, як і Напалеон, на Маскву б'е. Думае, сатрэ Маскву і — канец Расіі. А таго не разумее, што ад ягонай граніцы да Масквы тысяча вёрст. А за Маскву яшчэ дзесяць тысяч. Па аднаму салдату на кіламетр пастаў — і ўсё гітлераўскае войска патоне ў Расіі, як жменька макрыц у акіяне. Во чаму, Ядзечка, не баюся я немцаў. Во чаму і кароў назад ганю. Гітлераўцы гэтыя падохнуць, як тараканы, ад марозу. А нам жыць трэба.

Каршукоў выказаўся і змоўк. Сядзеў, абапёршы падбародак на вострыя калені. Правая рука абыякава ляжала

на Ядвісіным плячы. Гэтая безжыццёвая халодная рука чамусьці раздражняла Ядвісю. Бывалі такія мінуты, калі гарачая па любоў Ядвіся адчувала, што Каршукоў як бы аддаляецца ад яе, угадвала гэтыя мінуты сваім жаночым чуццём. Адхіснулася, быццам апякло плечы.

— А цяпер паслухай, што я табе скажу. Распісаў ты ўсё добра, як план пасяўной. Толькі і план, бывае, кулём ляціць. То дажджы, то замаразкі. А тут жа вайна... Слава пра цябе па ўсім раёне ішла, і нездаволеных было нямала. Вернешся ты са статкам гэтым, і на ўвесь раён зноў чутка пойдзе: Каршукоў вярнуўся. А хто такі Каршукоў? Камуніст. Думаеш, немцы дурні? Адразу арыштуюць. Во чым усё гэта кончыцца. А мне як жыць? Ні ўдава, ні замужняя. Казала я табе: запішамся, Стась. Адмоўчваўся тады. Думаеш, не знаю чаму? Бо Сідаронкава жонка — ворага савецкай улады... Ладна, змірылася. Любіць і без дазволу сельсавета можна, без паперкі. Любоў яна без пратаколаў абыходзіцца. І я цябе любіла, хоць людзі коса глядзелі на мяне. І слухалася. Слова наперакор не сказала. Але цяпер як хочаш, а ты павінен мяне паслухаць. Я табе дабра жадаю. Пакуль не схаваешся, спакою нідзе не знайду.

Каршукоў усё ніжэй апускаў галаву. Разумеў, што Ядвіся гаворыць слушна. Хацелася згадзіцца з ёю, але яшчэ цяжэй было адмовіцца ад свайго рашэння захаваць да прыходу Чырвонай Арміі калгас.

— Што ж ты маўчыш, гора маё любімае? Ці, можа, няпраўду сказала?

— Чаму? Разумна... Таму і люблю цябе. А вось як падумаю, што людзі скажуць: «Здрэйфіў Каршукоў, схаваўся, а нас кінуў», дык уся твая праўда наперакос ідзе.

— Мала што людзі сказаць могуць. Якая табе да іх справа?

— Не, Ядзечка, людскога слова слухацца трэба. Разам жылі ў шчасці, разам і гора дзяліць будзем. Канечне, асцерагацца трэба.

— Сам разумееш, а сунешся ў пекла.— Ядзя зноў абняла Каршукова, заглядаючы ў вочы, папрасіла: — Ідзі, Стасёк, зараз. Да раніцы ў Цішкаўцы будзеш. Калі ўсё ціха, чакай. А не, дык адразу ж шыбуй у Забалоцце.

Ядвіся тулілася да Каршукова, гладзіла пыльныя, жорсткія, як дрот, валасы. Ласкай хацела вырваць згоду. Але Каршукоў заставаўся няўмольным.

— Уцякаць і не падумаю. Асцерагацца абяцаю.

Разышліся пад раніцу, незадаволеныя адно адным.

3 Зак. 1801

## 9

Прусавы спрадвеку славіліся беднасцю. Зямлі — кот наплакаў, і тая падзол, імшары, узгоркі, парослыя сіўцом. Але з усіх Прусавых самы бедны быў Гаўрыла. Тры дзесяціны зямлі, старую хатку, launched ператрэсеную са свірна, карову-перадойку і абшчыпанага пеўня — вось і ўсё, што атрымаў Гаўрыла пасля раздзелу бацькавай гаспадаркі. Такога абыходзіла за вярсту любая жабрачка. І ўсё ж Гаўрыла ажаніўся з рабой, няўклюднай і вечна маўклівай Таклюсяй. Таклюся — сірата, жыла пры мачысе — узрадавалася, калі прыехалі ў сваты. Вяселле згулялі адразу пасля пакроваў, за год да вайны. Гаўрыла ў армію не трапіў. Хлопцам яшчэ пакалечыў руку на млыне, таму і выратаваўся ад фронту.

Пражыла Таклюся з Гаўрылам два гады, нарадзіла дачку — маленькага заморка, а праз два месяцы пахавала Гаўрылу. Малілася Таклюся богу, прасіла не пакінуць яе з дачкой. І бог нібы пачуў яе словы. Спачатку скінулі цара, і добрыя людзі надзялілі яе зямлёй, не дужа добрай, але хоць карову можна куды выгнаць. Потым паявіўся бежанец з-пад Гродні, лысы гарбаты Болесь. Пераначаваў ды так і застаўся ў хаце. Памог падгадаваць Верку. Ды і зямлю прывёў да ладу. Прапаў ён так жа нечакана, як і паявіўся. Не венчаны, хіба ўтрымаеш.

Цяпер Таклюся малілася, каб Верцы лёгка было ў дарозе. Хоць яна і бязбожніца, павыкідала абразы і лампадку, а ўсё ж бог паможа ёй, бо Таклюся не вельмі слухалася дачкі і тайком заўсёды малілася богу.

У сенцах нехта загрукаў. Таклюся хуценька паднялася з каленяў: у хату ўваходзіла Вера.

— Авой!..— спалохалася старая.— Ці ж цябе немцы перанялі? Ці раздумала ехаць?

Таклюся глядзела насцярожана, адчуваючы нейкую бяду, што ўвайшла разам з дачкой у хату. Чаму Вера не паехала? Там, са сваімі, спакайней было б. А немца, дасць бог, прагоняць. Вось так у дваццатым годзе паўзлі па полі вусені, з'ядаючы ўсё жывое, а пасля за адну ноч падохлі.

— Во што, маці: дома я доўга не затрымаюся. Як там на вёсцы? Мне пабываць трэба.

— Сысоя бачыла,— пачала маці, думаючы пра тое, што Вера вярнулася не ў час.— Выскаляецца, мабыць, рад, што немец прыходзіць.

— А што я табе казала? Недабітак кулацкі. Дык ты за яго заступалася.

— Ці скора ж ты вернешся?

— Хутка прыйду. Дзверы не зачыняй.

Вера пачакала, пакуль сцямнела, пайшла.

Хата іх стаяла наводшыбе, метраў за восемсот ад вёскі. Яе павінны былі перавезці ў пасёлак і не паспелі. Вера Гаўрылаўна ішла па знаёмай сцяжынцы ў вёску. Па ёй яна хадзіла ў школу, пасля ў сельсавет на працу. На ёй, вунь ля тых лазовых кустоў, аднаго разу сустрэлася з Мікітам Самаросам. Даўно гэта было.

— Ты чыя будзеш? — запытаўся ён тады ў Веры.

— Тэкліна.

— Прусава?

— Ага.

— Малайчына! Ад усёй савецкай улады табе дзякуй. Класавы вораг, дзяўчынка, не дрэмле. Яму старое хочацца вярнуць, вось ён хавае хлеб, рэжа жывёлу. Цяпер гэты сабатажнік Сысой папацее для народа.

На Самаросу былі кароткая чорная скуранка, перапаясаная папругай, скураная шапка з маленькім брылём, сінія галіфэ, натапыраныя ўшырку, таму Самарос пры сваім вялікім росце здаваўся яшчэ больш доўгім. Вера паглядала на яго знізу ўверх, стаяла, сарамліва хаваючы рукі за спіну.

— Вучыся харашэнька, дачка,— гаварыў Самарос, падкручваючы чорныя вусы.— Нам да зарэзу такія, як ты, партыі адданыя, патрэбны. Кончыш сямігодку, прыходзь да мяне. Любую работу дам.

Вера старалася вучыцца, пацела над кнігамі, адказвала на ўроках бойка. Яе хвалілі, раілі паступаць у тэхнікум ці на рабфак. Але Вера пайшла ў сельсавет. Паставілі яе рахункаводам.

Работы тады хапала. Ішло наступленне на аднаасобную вёску. Мужык, моцна ўчапіўшыся за зямлю, здаваўся туга. Агрызаліся кулакі і падкулачнікі, спадцішка, непрыкметна вялі атакі на новы лад. Самарос з Верай кідаліся з вёскі ў вёску, мітынгавалі, даказвалі, ушчувалі. Часам Мікіта хапаўся за выслізганую ручку нагана, калі асатанела лезлі ў прэзідыум бабы, каб сцягнуць Самароса за шырокае галіфэ са сцэны на расправу барадатым дзядзькам.

Мікіта Самарос — чалавек нястрымнай энергіі, нечалавечай упартасці — быў перапоўнены лютай нянавісцю да багатых і ўсіх тых, хто хоць адным словам выказваў неза-

даволенасць новымі парадкамі і цягнуўся да старога, агорклага жыцця. Ненавідзеў ён і жонку, таўстапятую вялікагрудую Сцепаніду.

Праз увесь дзень сядзела Сцепаніда на ганку былога папоўскага дома, лузгала гарбузікі, цікавала соннымі маленькімі вочкамі за панылай вясковай вуліцай, угледзеўшы баб, клікала да сябе, скардзілася ім на Мікіту, выпытвала, з кім ён і дзе бывае. За дзень набірала поўны прыпол плётак, а ўвечары поедам ела Мікіту, крычала, плакала, шпурляла ў Самароса ўсё, што траплялася пад руку.

Часам яна ўрывалася ў сельсавет, адчыняла дзверы Самаросавага кабінета — закутка для прыезджых у былой карчме — і, калі заставала там якую жанчыну, налятала на яе каршуном:

— Не зачыняйся, сука, з маім мужыком.

Самарос стараўся не зачыняцца ў сваім пакоі, паглядаў на Сцепаніду коса, гразіўся пакінуць яе. Сцепаніда ўпіралася рукамі ў крутыя мясістыя клубы, басавіта пыталася:

— Каго? Мяне кінуць? Ды я цябе на тым свеце знайду.

Бяссільнай нянавісцю ўзненавідзела яна і Веру. Ненавідзела і баялася пасля аднаго выпадку.

Мокрай, пахмурай раніцай пайшла Сцепаніда да тарфянога кар'ера. Стаяла ў лазовых кустах, чакаючы Веру, каб з вока на вока пагаварыць з Мікітавай прысухай. Ведала: іншай дарогі ў сельсавет у Веры няма. Чакала доўга. Вера не паяўлялася. Тады Сцепаніда не вытрымала, пайшла ў хату. Вера збірала ў партфель нейкія паперы. Насцярожылася, убачыўшы Сцепаніду, пачырванела. «Чуе кошка, што ў шкоду залезла»,— мільганула ў Сцепаніды думка. Закрычала ахрыплым голасам:

— Што, паскуда, думала, не дабяруся да цябе? Мала табе мальцаў на вёсцы, на Мікіту пакваплілася...

Вера засунула рукі ў кішэні жакеткі, пайшла насустрач.

— Слухай ты, кулацкая падпявала, на Салаўкі захацела, контра? — Вера гаварыла праз зубы, ціха, але пагрозліва.— Людзі за новую жызню галовы кладуць, а ты языком, як хвастом, трэплеш. Вымятайся з хаты! Ды і ў сельсавет болей каб носу не паказвала!

Страшнае слова «контра» спалохала Сцепаніду не на жарт. Успомніла, як не так даўно везлі ў горад граеўскага хутаранца Мялешку, звязанага вяроўкай. Запыталася тады ў Мікіты:

— За што яго?

— Даўно гэтую контру шлёпнуць трэба было,— адрэзаў Мікіта.— На настаўніцу з сякерай кінуўся.

Сцепаніда моўчкі выслізнула за дзверы і ніколі нават словам не прагаварылася Мікіце, што хадзіла да Веры. Самарос жа дзівіўся, што за перамены адбыліся з жонкай — у сельсавет больш не паяўляецца!

Каб не той выпадак, бадай, і Вера ніколі не закахалася б у Мікіту. Спачатку апякло яе жаласлівае жаночае спачуванне Самаросу. Трэба ж, каб так пакутаваў добры чалавек з-за дурніцы-жонкі! Пасля, прыгледзеўшыся лепей, убачыла прапозлівыя Самаросавы вочы, ледзяныя на людзях, цёплыя, прыветныя з ёю. Заглянулі яны неяк у Верыну душу і быццам запалілі аганёк надзеі. «Каб я была ягонай жонкай...» — нясмела падумала Вера і хоць не магла ўявіць, што ад таго змянілася б у Самаросавым жыцці, але сэрцам адчула,— усё было б інакш.

К таму часу Вера працавала ўжо за сакратара. Ездзіла разам з Мікітам па сельсавеце, спаганяла цвёрдыя заданні, насыпала насенныя фонды, памагала Самаросу ствараць калгасы.

Аднаго разу яны вярталіся позна. Сельсавецкі конь стрыг вушамі, весела трухаў дамоў. Самарос курыў. Ад сустрэчнага ветру ляцелі ў ноч яркія пырскі іскраў. Вера спадылба пазірала на Самароса, любавалася ў водбліску папяросы яго сухім, нібы высечаным з каменю, тварам. Хацелася прытуліцца да яго, і было боязна такіх думак. Няхай бы паляцелі пад ухаб калёсы, тады Мікіта, напэўна, ухапіўся б за яе, пастараўся ўтрымаць. Калёсы каціліся роўна. Самарос сядзеў прама, перакінуўшы адну нагу цераз біла.

— Чула, што пра нас плятуць? — Самарос кінуў папяросу, вецер падхапіў іскры, панёс цераз канаву ў кусты.— І на што толькі класавы вораг не ідзе, каб зганьбіць нашу справу!.. А мы, на злосць яму, дружым, як салдаты. Бо які ж ты камуніст, калі ў цябе гайкі па ўсіх стацціх слаба закручаны! І любоў гэтую слюнявую паны ды буржуі ад няма чаго рабіць выдумалі. Гані яе ад сябе, Вера, бо яна замінка нам, а не памочніца. А дружбай даражы.

І замоўк гэтак жа нечакана, як і пачаў. Здагадваўся ён пра Верыны пачуцці ці проста так, пачуўшы чарговую плётку, захацеў выказацца перад Верай? Але з Самаросам яна пагадзілася. Асіліла, задушыла любоў.

Дзе цяпер Самарос? Едзе дзе-небудзь на старым сель-

савецкім кані, уцякае ад вайны. Два дні назад вось па гэтай шашы паехаў ён на ўсход, сурова, па-салдацку развітаўшыся з Верай.

Шаша абязлюдзела. Кацярынінскія бярозы самотна звешвалі доўгае голле, узбягалі на пагорак, хаваліся за ім.

Вера спынілася на шашы. Глядзела, як гарыць горад, азараючы неба бура-чырвоным зарывам. Густы чорны дым пад лёгкімі павевамі ветру агромністай хмарай плыў на ўсход. Пуста і няўтульна навокал. Ні агнёў, ні гоману. Быццам вымерла зямля і ў апошнім кананні дагарае горад.

Веры не цярпелася хутчэй распачаць сваю падпольную дзейнасць. Яшчэ ідучы з лесу дахаты, у роднае Жыжана, яна намеціла людзей, з кім можна будзе пагаварыць, каго прыцягнуць да падпольнай работы. Такіх, каму Прусава давярала, набралася няшмат.

Яна павярнула з шашы, каб прайсці ў вёску напрасткі паўз калгасную ферму. Над чорнымі панурымі лозамі, што цягнуліся абапал вузкай сцежкі, над вострымі пікамі двух громаадводаў барвавела неба, а ў ім, нізка над гарызонтам, ярка свяціла мігатлівая зорка.

Вера ішла асцярожна. Пачуўшы наперадзе цяжкія грукатлівыя крокі, адступіла за куст. Чалавек соп і штосьці мармытаў.

Зусім блізка ўспыхнуў агеньчык цыгаркі, потым паявіўся чалавек, а за ім яшчэ хтосьці. Вера выйшла на сцежку. Чалавек прыпыніўся і, як здалося, спалохана запытаўся:

— Хто тут?..

Па голасе Вера пазнала Архіпа Сысоя. Падышла бліжэй, убачыла на повадзе ў яго карову і каня, здзівілася: адкуль ён іх вядзе?

Архіп зацягнуўся цыгаркай, яна ярка ўспыхнула, асвятляючы Верын твар.

— А я думаю, хто так позна ходзіць,— сказаў Архіп.— Таксама на ферму бяжыш? То спяшайся, бо расхопяць жывёлу. Там ужо мала чаго засталося. Цяляткі ды жарабяты...

Вера хацела абмінуць Сысоя, не ўсчынаць гаворкі — памятала наказ Галая,— але Архіп загарадзіў дарогу, не хацеў, мабыць, саступаць.

Вера злосна думала: «Ах ты, гніда, кулак няшчасны, цягнеш калгаснае!.. Рады, што немцы прыйдуць. Пачакай, мы яшчэ табе прыпомнім...»

Сысой памаўчаў крыху.

— Дык ты ідзі, а то разбяруць..

— Мне калгаснае не трэба...

— Табе яно, можа, і не трэба, а маці прыгадзіцца.

Вера адчувала, як яе пачынае разбіраць злосць. Аж калола ў скроні.

— Вы хоць з дарогі саступіце,— стрымліваючы сябе, сказала яна.

— Можна і саступіць... Мы прывыклі саступаць. Калі-небудзь і ты навучышся гэтаму. От гляджу я на цябе і хоць твару не бачу, а ведаю, што ты аж зелянееш ад злосці. А чаго?

Вера маўчала, хоць ёй так і хацелася выказаць Сысою ўсё, што думала пра яго. «Забыўся,— думала яна,— як да самага марозу пасвіла тваіх кароў, як працавала на цябе дзень і ноч, а ты яшчэ маці скардзіўся, што гультайка». Былое ўспаміналася ярка, выклікала крыўду і злосць.

— Не табе злаваць трэба, а мне,— гаварыў Сысой.— Па тваёй міласці калісьці тры гады адседзеў. А за што?..

І тут ужо Вера не стрымалася:

— Мала табе тады дасталося.. Хацеў савецкай уладзе нашкодзіць, ды каб яна ўсё цярпела. Ты яе зроду не любіў.

Сысой, здаецца, разгубіўся, потым далёка ў кусты кінуў цыгарку.

— А завошта мне любіць яе? Яна такіх, як ты, сагравала. Я, можа, усё жыццё чакаў гэтай ночы, калі забяру сваю кароўку, коніка і зноў гаспадаром стану.

— Пачакай, ты іх яшчэ назад павядзеш, як міленькі павядзеш.

— Ты мне цяпер не пагражай.— У голасе Сысоя ўпэўненасць.— Хопіць, надрыжаўся з-за вас.

— Глядзі, вельмі храбры стаў! Усё роўна ворагаў мы скруцім..

— Хто гэта? Ці не ты? Ды каб я не шкадаваў тваю маці, заўтра цябе тут не было б...

Ён пацягнуў повад, прайшоў міма разгубленай Веры. Яна адступіла ў лозы і ледзь не плакала, што ўжо нічога не можа зрабіць гэтаму кулаку, ворагу, якіназаляецца над ёй.

У вёску Вера не пайшла. Вярнулася дамоў.

— Мама,— пабудзіла яна маці.— Я, мусіць, дома не застануся. Пайду да цёткі. Калі будуць пытаць, дзе я, скажаш — пайшла ў адступленне.

Яна пасядзела крыху ў хаце, да чагосьці прыслухоўвалася і ўсё думала пра сустрэчу з Сысоем. «Трэба ж было

напаткаць гэтага павука!.. Цяпер ён будзе помсціць... Ну і няхай. Вельмі я яго спалохалася! Хоць выказала яму ўсё, што думала. Хай ведае, што мы, камуністы, сваіх слоў не выракаемся».

І, ужо зусім перакананая, што зрабіла правільна, развіталася з маці.

## 10

У тую ноч, калі Галай так неспадзявана стаў кіраўніком падполля па ўсходняй зоне Падзвінскага раёна, сапёрная рота спецыяльнага прызначэння 19-й арміі, што абараняла Падзвінне, атрымала загад адбыць у раён Высачан і за ноч пабудаваць два аб'екты, захоўваючы пры гэтым найстражэйшыя правілы маскіроўкі.

Уручаная камроты карта-двухвёрстка з абведзеным на ёй кружком — месца будаўніцтва аб'ектаў — прывяла роту ў глыбокі роў сярод Высачанскіх лясоў. Схілы рова, як і ягонае рэчышча з неглыбокім ручаём, хаваліся ў густых хмызняках, сярод якіх ушчыльную раслі векавечныя яліны, абраслыя сівым мяккім мохам.

Аб'ектамі асобага прызначэння называліся два бліндажы ў тры накаты, якія рота і збудавала за кароткую летнюю ноч. У сем нуль-нуль, згодна з загадам, рота павінна была пакінуць аб'екты. Таму на дасканалую маскіроўку ўжо не хапіла часу. Ды і схаваць сляды начнога будаўніцтва было надзвычай цяжка. Іх сяк-так прыкрылі дзірванам, закідалі зялёным голлем і папаратнікам.

Маскіруючы сакрэтныя аб'екты, сапёры паціху перагаворваліся, дзівіліся, каму і навошта спатрэбіліся два штабныя бліндажы ў лясной глухамані? Камроты загадаў спыніць размовы, вяртацца ў часць. Дзве паўтаратонкі, прыхаваныя на ўзлеску, памалу вырулілі на ледзь прыкметную палявую дарогу, што выводзіла да шашы.

Бліндажы будаваліся для пяцёркі Галая.

З-за іх у абкоме партыі між асобаўпаўнаважаным і першым сакратаром абкома напярэдадні адбылася даволі бурная тэарэтычная сутычка.

Асобаўпаўнаважаны — чалавек рэзкі, упарты, бясконца ўпэўнены ў правільнасці сваіх рашэнняў, якому належала ідэя стварэння падпольных пяцёрак,— настойваў, каб падпольшчыкі былі побач з народам, сярод народа, натхняючы яго на барацьбу з акупантамі, а не хаваліся па глухіх лясах. Была ў ягоных развагах свая і не такая ўжо

бязгрунтоўная логіка. Але першы сакратар абкома — партызан часоў белапольскай акупацыі — рашуча запярэчыў. У яго таксама быў свой, і бясспрэчны, погляд. Любое падполле асуджана на правал, як бы яно старанна ні канспіравалася. Таму трэба ствараць мабільныя партызанскія атрады, няхай сабе і пяцёркі, будаваць для іх базы ў лясах і з першых дзён акупацыі пачынаць узброеную барацьбу.

Тэарэтычная спрэчка пагражала перарасці ў канфлікт з вынікамі, якія ніхто не мог прадугледзець. На шчасце, у штаб арміі, дзе сакратар абкома быў членам ваеннага савета, прыехаў прадстаўнік Стаўкі. Да яго і звярнуліся асобаўпаўнаважаны з сакратаром абкома.

— А чаму немагчыма і тое і другое разам? — спытаўся прадстаўнік Стаўкі, на хвіліну адарваўшыся ад нейкіх сваіх больш важных думак.

Гэтай заўвагі, аднак, хапіла на тое, каб памірыць асобаўпаўнаважанага з сакратаром абкома, а камандуючаму арміяй аддаць загад усяляк дапамагаць абкому.

Пасля гаворкі ў абкоме, якая зацягнулася ледзь не да раніцы, Галай на абкомаўскай «эмцы» выехаў шукаць лясную базу. Трэба было спяшацца, каб застаць сапёраў і сустрэць забеспячэнцаў, якія павінны былі прывезці зброю і прадукты.

Шаша пуставала. Насустрач машыне, чуць справа, узнімаўся над лесам ярка-барвовы сонечны круг. Сляпучыя промні, здавалася, асмальваюць лес; ён увачавідкі рабіўся чорны, як бярозавае вугалле, атушанае для кавальскіх патрэб. Затое азіміна і ярына, наадварот, святлелі, іскрыліся на сонцы шчодрай расой.

Да высачанскай паваротківі даехалі хвілін за пяцьдзесят — вымашчаная булыжнікам шаша абмяжоўвала хуткасць. За паваротkай шафёр дадаў газу, але праз паўгадзіны Галай папрасіў ехаць цішэй: наперадзе замаячыла сасна, арыенцір, які ўказваў дарогу на базу.

Сапраўды, кіламетры праз паўтара, злева, яны ўбачылі дарогу ў жыце, а на даляглядзе паласу лесу. Кульнуўшыся з крутаватага насыпу, «эмка» мякка пакацілася па пясчанай дарозе, уздымаючы за сабой хвост пылу, ружовага ў сонечных промнях.

Перад лесам дарога раздвоілася: не ўгадаць, па якой ехаць. Галай выбраў менш уезджаную, вырашыўшы, што базу ўсё ж будавалі дзе-небудзь у глухамані, а не каля бойкага бальшака. Лес хутка кончыўся. Машына выскачыла на поле, ускрай якога пад ахоўвай маладога ельніку туліў-

ся невялікі хутар: хата з сенямі, хлеў, свіран, паветкі і на дубовых шулах вароты.

Гадзіннік паказваў без пятнаццаці сем — яшчэ не позна было паспець на месца. Шафёр спыніў «эмку». Галай вылез з яе, думаючы над тым, як лепей распытаць пра канечны пункт свайго падарожжа, каб не выклікаць падазронасці і не раскрыць тайны. З хаты насустрач Галаю выйшаў мужчына ў гадах, моцны, каржакаваты, з падазронасцю ў позірку глыбока схаваных вачэй.

— А я гляджу, машына быдта чужая, не нашага раёна,— першы загаварыў ён, углядаючыся ў твар Галаю, нібы хацеў запомніць яго на ўсё жыццё.

— Заблудзіліся,— прызнаўся Галай.— Павярнулі, ды, відаць, не там, дзе належала.

— А дзе належала?..

— Казалі, непадалёк ад сасны...

— Сказалі, пад сасною, не сказалі пад якою,— з'едліва ўсміхнуўся стары.

— Сказалі і пад якою,— азваўся Галай.— Мабыць, не ў той бок павярнулі...

— Пераблыталі, дзе права, а дзе лева?.. А дакуменцікі ў вас ёсць?

Дакументы, вядома, былі, але Галаю не хацелася іх паказваць. Толькі выклічаш больш пытанняў.

— Дакументы ў парадку,— сказаў ён.

Краем вока Галай бачыў, што з хаты нехта цікуе за імі. Гэта насцярожвала.

— Гапанькоў,— паклікаў ён шафёра,— прынясі камандзіровачныя...

Шафёр не спяшаючыся ішоў ад машыны, несучы ў працягнутай руцэ дакументы. Раптам ён спыніўся, задраў галаву ўгору. З-за лесу вынырнуў самалёт, пачаў рабіць разварот. Над полем з яго, як з дзіравага меха, пасыпаліся парашутысты.

Усё адбылося так нечакана і так неверагодна, што Галай напачатку ніяк не мог даўмецца, што адбываецца.

— Малышаў, дэсант! — крыкнуў гаспадар хутара, і ягоны голас вярнуў Галая да цвярозай развагі.

Ён падумаў, што трэба ўцякаць адсюль, бо ў яго неадкладная справа і ён не мае права рызыкаваць.

— Няўжо немцы? — са страхам у голасе спытаўся шафёр.

— Хутчэй у машыну,— загадаў яму Галай.

Азіраючыся на парашуты ў небе, яны пачалі адыходзіць к машыне.

— Стой!.. Ні з месца!..

Уладны, як адліты з металу, голас прыкаваў абодвух на месцы. Галай азірнуўся. Крокаў у дзесяці ад іх стаяў чалавек у фрэнчы, галіфэ і новых хромавых ботах, наставіўшы на Галая і шафёра кароценькую рулю нямецкага аўтамата. Гаспадара нідзе не было. Але і ён тут жа аб'явіўся, выбегшы з хаты са стрэльбай у руках.

У Галая нядобра ёкнула пад лыжачкай. Хутар у лесе, гаспадар, чалавек з нямецкім аўтаматам і парашутны дэсант — усё неяк склалася ў адно цэлае: шпіёнскае гняздо! Значыць, яго, Галаева, справа дрэнь. Амба! Адсюль жывым не выбрацца. Трэба ж было так недарэчна тут апынуцца!..

— Кто будзеце? — спытаўся чалавек з аўтаматам, падыходзячы ўпрытык да Галая.

Хавацца далей не было сэнсу.

— Старшыня Падзвінскага райвыканкома,— з выклікам адказаў Галай.

Хай фашыст не думае, што Галай баіцца смерці.

— Что же вы драпаць собраліcь... Надо браць діверсантов. Оружіе есць?..

— Наган,— зусім машынальна прызнаўся Галай.

З хаты выйшла жанчына.

— Не чапайце вы іх,— папрасіла яна.— Можа, не зойдуць?..

— Как можно, Петровна,— запярэчыў чалавек з аўтаматам.— Оні такіх бед натворят... Савеліч, отдай руж'ё шофёру. Тебе мой пістолет. Мы займем позіцыю здесь. От леса отрежем. Вы обойдіце хату, заляжце за хлевом. Не дайце окружіць нас слева. А вы, Петровна, скоренько на шоссе. Останавлівайце военных і сюда...

Незнаёмы распараджаўся талкова, без мітусні. У кожным ягоным слове чулася ваенная мова. А камандны голас прымушаў слухацца без аніякіх пярэчанняў. Гэта надавала ўпэўненасць і веру ў поспех.

Парашутысты прызямліліся адзін за адным, гасілі парашуты і тут жа вызваляліся ад іх.

Галай з шафёрам залеглі пад кустамі парэчак. З-пад густой навісі галін, шчодра ўпізаных гронкамі зялёных ягад, добра бачылася тарфяная прастора з мноствам кар'ераў, а злева ад іх — поле з мноствам купін, рудаватых ад зязюлінага лёну. Па полі на хутар не спяшаючыся, быццам

на шпацыры, ішлі сямёра дыверсантаў. Урассыпную, хоць і даволі шчыльна, крокаў па чатыры ў інтэрвале. Усе яны былі ў новенькай чырвонаармейскай форме. У таго, што дыбаў пасярэдзіне — няйначай камандзір,— меўся савецкі аўтамат. Яшчэ адзін, што ішоў крайнім на левым флангзе, нёс кулямёт Дзегцярова. Астатнія, здаецца, былі няўзброеныя.

Яны ішлі без аніякай засцярогі, і гэтае іхняе нахабства выклікала ў Галая адчуванне несапраўднасці таго, што адбываецца. Не хацелася верыць, што гэта фашысты, дыверсанты, па якіх трэба страляць. Наогул не верылася, што людзі гэтыя, такія здаля спакойныя і бяскрыўдныя, могуць быць ворагамі.

Адкрываць агонь Малышаў загадаў толькі тады, як дыверсанты наблізяцца да іх метраў на дваццаць, каб страляць напэўна, без промаху. Пакуль што яны былі далекавата.

Галаю чамусьці балелі вочы, хоць ён вельмі выразна бачыў кожную драбязінку ў гэтай сонечнай раніцы: карлікавую бярозку на ўзмежку, плісіцу, якая бегла па градах, трасучы доўгім хвастом, каню, што з крыкам пранасілася над галовамі парашутыстаў. Яму здавалася, што дыверсанты ідуць вельмі марудна, нібы дражняцца з імі. Маўклівае, стоенае чаканне выводзіла Галая з раўнавагі.

Ён азірнуўся. Шафёр ляжаў, угнуўшы галаву, трымаючы навісу стрэльбу. Галай падумаў, што яму замлеюць рукі і ён не зможа потым трапна страляць.

— Адкрыем агонь, калі яны падыдуць да град,— шэптам сказаў ён шафёру.

Той прамаўчаў.

Парашутысты тым часам набліжаліся да агарода, які вострым клінам уразаўся ў куп'істае поле. Трое з іх зусім нечакана павярнулі направа, сюды, дзе ляжаў Галай з шафёрам, але пайшлі не па агародзе, а ўзмежкам, няйначай хацелі падабрацца да хутара з боку ельніку. Чацвёра, з камандзірам і кулямётчыкам, кіравалі напрасткі, туды, дзе залеглі гаспадар і Малышаў.

— Будзеш страляць па крайнім справа,— загадаў Галай шафёру.— Без каманды агню не адкрываць...

Ён чамусьці выбраў сабе сярэднята дыверсанта — даўгалыгага і рудага.

Галай ніколі ў арміі не служыў. Уся ягоная вайсковая падрыхтоўка праходзіла ў асаавіяхімаўскіх гуртках, што было засведчана значкамі і пасведчаннямі да іх. На

стрэльбішчах ён страляў трапна. Меў значок Варашылаўскага стралка.

Паклаўшы сагнутую ў локці левую руку перад сабой, Галай прымасціў на ёй ствол нагана, пастараўся злавіць на мушку аблюбаванага ім дыверсанта. Мушка скакала ва ўсе бакі. Да ўсяго яна не ўзнімалася вышэй каленяў цыбатага дыверсанта: перашкаджала рукаятка, якая ўпіралася ў зямлю. Тады Галай паспрабаваў цэліцца з выцягнутай рукі. Яго здзівіла, што мушка наогул заскакала, як ашалелая. Ён адчуваў сябе спакойна, а рука трэслася, нібы ў ліхаманцы. Трэба было шукаць нейкае апірышча. У вочы кінулася разгатая галіна, уся ў чырванаватай грыбковай плесені. Галай прыладзіў ствол нагана, упёрся локцем у зямлю і цяпер пабачыў, што наган ляжыць надзейна.

Трое дыверсантаў дайшлі да канца агарода, павярнулі на хутар — проста на Галая з шафёрам. Галай прыкінуў: як толькі дыверсанты параўняюцца з кустом ядлоўцу, ён адкрые агонь. Даўгалыгага дыверсанта ён усё не спускаў з мушкі. Гэта надзіва супакойвала.

Кароткая аўтаматная чарга застала Галая знянацку. Ён, забыўшыся на тое, што адразу ж павінен адкрыць агонь, спалохана азірнуўся. Крайні парашутыст на левым фланзе раптам спатыкнуўся, выпусціў з рук кулямёт і сам паваліўся на яго. Трое астатніх кінуліся на зямлю. Доўгая аўтаматная чарга ўдарыла адтуль па хутару.

Гэта нагадала Галаю пра ягоны абавязак. Крыкнуўшы: «Агонь!», Галай пачаў націскаць на курок нагана, адчуваючы даволі моцную аддачу ў руку. Цыбаты дыверсант цяпер вельмі хутка набліжаўся да хлява і чамусьці не падаў ад Галаевых стрэлаў.

Раптам Галай не адчуў аддачы ў руку, хоць прадаўжаў націскаць на курок. Яго працяла роспачная думка, што барабан патронаў расстраляны і перазарадзіць наган ужо не хопіць часу.

— Страляй!.. Што ж ты не страляеш? — ускрыкнуў ён шафёру і азірнуўся — шафёра поруч не было. Ён адпаўзаў задам, як рак, нязграбна адпіхваўся рукамі. Яму замінала вопратка. Картовы пінжачок, трыкатажная кашуля і майка-сетачка ўсё вышэй і вышэй закасваліся на спіну, скручваліся пад грудзямі комам, які душыў шафёра. Галай бачыў белую спіну з зубчатым плотам хрыбетніка. Ягоныя ногі ўжо былі за вуглом.

Галай схапіў стрэльбу, якую шафёр кінуў пад кустом,

адцягнуў абодва куркі і, не вельмі цэлячыся, стрэліў амаль ва ўпор па цыбатым парашутысту. Той ухапіўся левай рукой за правае плячо, нахіліўся наперад, як бы кланяўся Галаю, але на нагах устаяў. Два дыверсанты абагналі цыбатага, нешта сказаўшы яму, і кінулі ў бок Галая штосьці круглае, якое ўдарылася аб сцяну і гулка грымнула, аж заклала вушы. Галай толькі мацней уціснуўся ў мяккую зямлю. Цяпер у яго не было ніякага ратунку, і ён ляжаў нерухома, бяссільны паварушыць нагой ці рукой.

Зусім побач гергеталі дыверсанты. Потым іхнія галасы сціхлі. І там, дзе адбіваліся ад дыверсантаў гаспадар з Малышавым, адзін за адным прагучалі два выбухі, такія ж, як і тут, толькі крыху слабейшыя, і адразу настала жахлівая цішыня. У гэтай цішыні выразна, як побач, прагучалі словы каманды: шнель! шнель!..

Галай асцярожна прыўзняў галаву, азірнуўся наўкруг, выцягнуў са стрэльбы гільзы, зарадзіў яе. Засунуў наган у кішэню і падняўся на ногі.

Першае, што кінулася яму ў вочы — шафёр. Ягоныя ногі былі за вуглом, а галава па гэты бок вугла. Па белай спіне скочвалася нешта чырвонае.

Гэты чырвоны ручаёк і безжыццёвая рука, што ўсё яшчэ ўпіралася ў зямлю, падштурхнулі Галая кінуцца ў ельнік, падалей ад смерці. Ён ужо сарваўся з месца, як раптам пачуў тарахценне матора, і яго разанула вострая, як лязо, здагадка: дыверсанты завалодалі абкомаўскай машынай.

Не задумваючыся ён кінуўся праз двор, каб неяк затрымаць машыну.

Яшчэ са двара ён убачыў, як двое парашутыстаў запіхваюць у машыну трэцяга, мабыць, забітага. Ён закрычаў:

— Стойце... Стойце!..

Але дыверсанты селі ў машыну, і тая, набіраючы хуткасць, памчала ў бок шашы.

Галай стрэліў наўздагон і яшчэ чамусьці прабег крокаў дваццаць за ёю.

Астыўшы, ён падумаў, што вёў сябе бязглузда, і памалу пайшоў назад, валочачы за сабой стрэльбу. Ён спыніўся, не разумеючы чаму, і здрыгануўся ад таго, што пабачыў. Каля кастра дроў, перад выганам, чарнела нешта бясформеннае ў лужыне запёкшай крыві, а над ім ужо гулі тлустыя чорныя мухі.

Быў нейкі час, які выпаў з Галаевай памяці. Толькі та-

ды, калі пачуліся мужчынскія галасы, Галай ачнуўся, нібы ад цяжкога сну, і пабачыў сябе ў квадратнай яме, якую выкапаў ужо вышэй каленяў — адну на трох брацкую магілу.

## 11

Цяпер Галай дабіраўся да базы пеша. Была ў гэтым перавага, можна ісці напрасткі, а гэта нашмат бліжэй, як па шашы.

Густая плынь бежанцаў, што выбягала з горада, незаўважна расцякалася па прасёлках, асядала па вёсках і хутарах у надзеі перачакаць навалу.

Галай пазбягаў вёсак і шматлюдных дарог. У ягонай кішэні ляжаў пашпарт на імя Нікалаева і даведка, што гэты самы Нікалаеў у красавіку адбыў тэрмін як асуджаны за прагул і быў накіраваны на цагельню чорнарабочым.

Пашпарту Галай не давяраў, хоць яго і запэўнілі, што ніякіх праблем узнікнуць не можа. Магчыма, з пашпартам праблемы і не ўзнікнуць, але куды дзенешся ад сябе. Галая ў раёне ведалі ў твар і не толькі добразычліўцы.

На прыканцы летняга спякотнага дня Галай дайшоў ледзь не да самай мяжы Беларусі са Смаленскай вобласцю.

Рабая няўклюдная кабета з панылым тварам кінула на шырокую скрыню ў сенях парудзелае ад часу радно, камкаватую падушку ў паркалёвай, мытай-перамытай насыпцы і старэнькі армяк, каб накрыцца. Вячэраць не запрасіла. Але Галай і таму быў рады — у астатніх трох хатах яго не пусцілі і на парог.

Галай як лёг, так і праваліўся, нібы ў бездань, у моцны непрабудны сон. Разбудзіла яго на світанні пачварнае трызненне: пачуў, як наяве, што з ім нехта гаворыць на чужой мове, якую ён не ведае, але добра разумее, што тое, пра што яму кажуць, вельмі важна. Ён падхапіўся, усё яшчэ чуючы чужую мову.

У вачах муляла і пякло, нібы пад павекі нацерусілася пяску. А ў вушах стаяў звон. Каб не разбудзіць гаспадароў, Галай узяў пад пахі вопратку, у рукі абутак і ціха выслізнуў на двор. За склепам адзеўся і абуўся, так і незаўважаны гаспадарамі негасціннай хаты, пакінуў начлег.

Раніца, як і тая, калі ён ледзь не загінуў ад дыверсантаў на лясным хутары, была са шчодрай расой і яркім сонцам. У ранішняй прахалодзе ішлося лёгка, і, можа, гадзіны праз паўтары Галай выбіўся на пустую змярцвелую шашу.

Першабытны інстынкт засцярогі сагнаў яго з шашы. Галай пайшоў па той бок канавы, зарослай лазой і алешнікам. І вельмі ў час, бо раптам пачуўся гул матораў. Галаю яшчэ падумалася, што ідуць нашы машыны. Ён выглянуў з кустоў і адскочыў назад: па шашы залішне павольна ішлі тры варожыя танкі. У пярэднім, высунуўшыся па пояс з люка, стаяў з непакрытай галавой немец і спакойна азіраўся па баках, жуючы нейкую сцяблінку.

Галая асабліва ўразіла, што немец быў без галаўнога ўбора і жаваў сцяблінку. Такая нахабная самаўпэўненасць!.. Адкуль яна? Ад таго, што чуе сваю сілу і непераможнасць? Ці звычайны авантурызм азартнага іграка, якому пакуль шанцуе?..

Трымаючыся лесу, Галай прайшоў кіламетры чатыры, і там, дзе шаша забірала ўлева, на ўсход, ён убачыў бярозу, тую, патрэбную яму, а крыху згадзя — дарогу, якая і прывяла яго да рова.

Сапёры добра наслядзілі, і хоць яны стараліся схаваць сляды, тыя нахабна лезлі ў вочы. Зямлянкі, праўда, былі няблага прыкрыты мохам і дзёрнам, але і іх Галай адшукаў без аніякай цяжкасці.

Нечага хвалюючыся, затаіўшы дыханне, Галай паціху адчыняў дзверы, быццам баяўся, што за імі хаваецца нейкая пачвара. На яго патыхнула смалістым пахам свежага бярвення і сырой зямлі. Прывыклыя да яркай віднаты вочы не ўмелі прабіцца праз цемру, што панавала ў зямлянцы. Цемра была, як сцяна,— непранікальная.

Галай дастаў запалкі. Кволы агеньчык асвятліў няўтульную прастору, абмежаваную дрэнна абчасаным бярвеннем. Запалка адразу ж патухла, але і гэтага імгнення хапіла, каб угледзець, што ні зброі, ні прадуктаў у ёй няма.

Падумалася, што іх згрузілі ў другую зямлянку. Але і там яго сустрэлі голыя сцены.

У лютай злосці Галай грукнуў дзвярыма, аж у вершалінах старых ялін адгукнулася трайное рэха. Як утрапёны, ён пайшоў берагам ручая да шчодра асветленай сонцам паляны; хацелася як найхутчэй выбрацца з пачварнай цемрадзі, якая ахінала яго.

Бераг ручая тут быў стромкі, падмыты вясновымі разлівамі. Галай лёг на траву. Яго ахапіла несусветная роспач. Хоць вый, а хочаш, кідайся галавой уніз, тапіся сам і тапі сваю бездапаможнасць. Толькі і ўтапіцца недзе. Ручаёк быў мелкі, вераб'ю па калена. Серабрыстая вада ў ім перакочвалася па шэрых, вякамі адшліфаваных камень-

чыках, бруіла ля падмытага берага, капаючы сабе мякчэйшае і глыбейшае ложа.

У адной такой вымоіне па пясчаным дне перакочваліся павольныя шыцікі, пакідаючы за сабой невыразны след, а некалькі малькоў шуснулі з-пад берага цераз перакат і зніклі пад навіслай да самай вады вярбою яшчэ ў адной вымоіне, але ўжо пад тым берагам.

Галай ляжаў, не чуючы свайго цела. Быццам не было яго, а душэўны боль жыў сам па сабе, без цялеснай абалонкі. Галавы не было таксама; нейкім чынам прапалі ўсе думкі, як бы выпарыліся ў паветра. Затое вочы існавалі, бясстрасна назіралі за ўсім, што адбывалася перад імі. Дзіўны стан чалавека, які прыбыў сюды не для таго, каб назіраць за нейкімі дробязнымі з'явамі. Галай меў задачу аграмадзістую, а тут ляжы і назірай сабе за незразумелым існаваннем ледзь прыкметных істот.

Па самым краі берага, дзе канчалася травяное царства, саступаючы месца аголенай пясчанай зямлі, мітусілася колькі чорных дробненькіх мурашак. На шырокім лісце трыпутніка рожкі ў рожкі сядзелі дзве божыя кароўкі з зацятай няўступчывасцю. Адкуль паявілася страказа з пукатымі вачамі. Яна села па той бок ручая на галінку брызгліны, трапечучы шырокімі, у пражылках крыламі, гатовая кожную хвіліну сарвацца з галінкі і паляцець. Яна і сапраўды дужа лёгка ўзнялася, спікіравала да самай вады, паляцела над ёю, нібы вяла разведку.

На яе месца, на тую самую брызглінавую галінку, быццам яна мела выключную прывабнасць, прысеў матылёкжалобніца, распластаў цёмна-карычневыя, з жоўтай аблямоўкай крылцы. Але і ён хутка зняўся з аблюбаванага месца.

Яму, Галаю, ісці не было куды. Роў як пастка, з якой не выберашся. Па шчырасці, дык Галай дапускаў, што не знойдзе ні зброі, ні прадуктаў. Але думалася пра гэта паблажліва, несур'ёзна. Наадварот, жыла ўпэўненасць, што ўсё будзе зроблена як трэба, бо і яны заставаліся не дзеля балаўства, а на сур'ёзную, можа, смяротэльную, небяспечную справу. І вось табе маеш! Зямлянкі неяк агоралі, а на астатняе не хапіла часу ці, можа, жадання.

Пустыя зямлянкі выклікалі ў ягонай свядомасці атрутлівую, як гадзючын укус, думку: кінулі на згубу, выкручвайся сам, душа з цябе вон!

У памяці паўставаў даўнаваты ўжо, але цяпер такі балючы выпадак з ягонай дзейнасці.

Суцэльную калектывізацыю Галай сустрэў старшынёй сельсавета ў Высачанскім раёне Падзвінскай акругі.

Заканчваўся дваццаць дзевяты год і перадапошні ў ім месяц — лістапад.

Была субота. Галай толькі што прыйшоў з лазні, як па яго прыбеглі з сельсавета — прыехала начальства і з раёна і з акругі.

Насунуўшы на ногі валёнкі, апрануўшы кажух з дублёных чорных аўчын, нахлабучыўшы на галаву трусіную шапку, Галай з неахвотаю паплёўся ў сельсавет.

Начальства тады было бязлітаснае. Але Галай не дужа яго баяўся — шэсцьдзесят працэнтаў гаспадарак калектывізаваны, астатнія ўступяць у калгасы да вясны.

Каля сельсавета стаяла парка коней, запрэжаных у вазок. Коней Галай пазнаў — Салодкавы, старшыні раённага выканаўчага камітэта, па-вясковаму, «рыка». Бярозавым галяшком Галай абмёў снег з валёнак, зайшоў у сельсавет.

За ягоным сталом сядзеў Салодка, курыў папяросу. А па пакоі апантана бегаў чарнявы, дробнай косці чалавек з абветраным тварам, на якім сінявата паблісквалі маленькія вочы ў чырвоных ад недасыпання павеках.

Убачыўшы Галая, ён спыніў сваю беганіну.

— Чакаць сябе прымушаеш,— злосна крыкнуў ён, пазіраючы знізу ўверх у Галаеў твар.

— Сёння субота, дык трэба было ў лазенцы папарыцца,— адказаў Галай.

— Чуеш, таварыш Салодка,— крута павярнуўшыся да старшыні рыка, загаварыў чарнявы.— У яго кулакі пад носам арудуюць, сорак працэнтаў не ахоплены калектывізацыяй, варожы элемент здзекуецца з палітыкі партыі і ўрада, а старшыня сельвыканкома ў лазенцы парыцца, працвітае сабе і дабрадушнічае. Ну проста хрыстосік з апосталамі. Ты, таварыш Салодка, паглядзі, як ён апрануты: самы што ні на ёсць кулак. Барады хіба не хапае... Я цябе зараз так папару, што забудзеш усё на свеце і будзеш помніць толькі два словы: суцэльная калектывізацыя...

— Дарэмна ты так, таварыш Сакольчык,— уступіўся за Галая Салодка.— Таварыш Галай у нас адданы партыец і наша апора...

Сакольчык, здаецца, не пачуў слоў Салодкі.

— У сельсавеце ёсць такія вёскі, дзе няма ніводнага калгасніка? — спытаўся ён у Галая.

— Кажамякі і Фокіна,— не падумаўшы, адказаў Галай.

— Паедзем зараз туды. Да раніцы калгас створым. Іначай грош нам цана ў базарны дзень.

Было падобна, што ўпаўнаважаны з акругі жартуе.

— Ноччу людзі спяць,— нагадаў Галай.

— Затое ворагі не дрэмяць,— падхапіў Сакольчык.— І хопіць пустых размоў...

Галай далей не стаў пярэчыць. Ягоная справа выконваць указанні. Тым больш што ёсць старшыня рыка. Няхай ён і рашае, ехаць уначы ці не ехаць.

— На вашых конях паедзем ці сельсавецкія запрэгчы? — спытаўся ён.

— Нашы хай адпачнуць,— адгукнуўся Салодка.

Галай паслаў дзяжурнага па конюха.

Тым часам у сельсавеце зазваніў тэлефон. Тэлефаністка папрасіла да апарата Салодку.

— І пад зямлёй знойдуць,— бурчаў старшыня рыка, беручы трубку, але слухаў, як здалося Галаю, задаволена.— На жаль, мушу вяртацца ў Высачаны. Дужа тэрміновая справа,— сказаў ён, павесіўшы трубку на рычажок і даўшы адбой.

— Ну што ж,— пагадзіўся Сакольчык.— Я спадзяюся, і двое нас — сіла.

— Шкада, якая шкада, што не пабуду з вамі,— гаварыў Салодка, паціскаючы на развітанне руку Сакольчыка. Галаю ён пагразіў пальцам: — Глядзі, таварыш Галай, не падвядзі раён...

У Кажамяках спалі. Свяцілася толькі адно акно — у хаце бондара Захара Кажамякіна. Галай вырашыў спыніцца ў яго. Сакольчыку гэта спадабалася: бондар бліжэй да рабочага класа.

Найперш Сакольчык загадаў сабраць упаўнаважаных сельсавета і камбедаўцаў. А калі тыя прыйшлі, выступіў перад імі з прамовай, сэнс якой зводзіўся да аднаго: усе ўпаўнаважаныя павінны зараз жа напісаць заявы ў калгас.

Упаўнаважаныя сядзелі на лаўцы, як вераб'і на плоце: і цесна, і нязручна. Сакольчык паходжваў перад імі, засунуўшы рукі ў кішэні галіфэ. Тужурка — наросхрыст. З-пад тужуркі нахабна лезла ў вочы калодка маўзера з доўгім чорным шнурком.

Пісалі яны заявы па чарзе за сталом, цераз плячо пазіраючы на Сакольчыка. Той складаў заявы ў планшэтку,

пад празрысты цэлулоід. Паклаўшы апошнюю заяву, спытаўся:

— Вы дзе звычайна збіраецеся? У царкве?.. Ну што ж, падымайце сяльчан сваіх па трывозе, будзем калгас ствараць, калі пачатак зроблены...

Царкву зачынілі ранняй вясной. Але перарабляць яе пад клуб не спяшаліся — не хапала грошай. Пазалочаны іканастас матава пабліскваў у рассыпчатым святле ліхтароў «Лятучая мыш». На ягоным фоне нават несамавітая постаць Сакольчыка выглядала паважна.

Народу напрыходзіла шмат. Многія прыйшлі з жонкамі — засцерагала позняя пара. Людзі пераступалі з нагі на нагу, кашлялі і ад холаду і ад нязвычнасці. Віліся над галовамі белыя свечкі пары — у царкве было холадна, як у полі.

Прамову Сакольчык гаварыў з амбону, якраз з таго месца, дзе поп даваў прычасце. Пакуль ён расказваў пра міжнароднае становішча, людзі слухалі цярпліва. Але як толькі загаварыў пра калгасы, загулі, нібы той разварушаны вулей.

Не перастаючы расказваць пра перавагі калгаснай гаспадаркі перад аднаасобнай, Сакольчык дастаў маўзер, доўгім ствалом паляпаў па далоні, заклікаючы да цішыні,— гул аціх.

Здаецца, гэта надало Сакольчыку большай упэўненасці. Ягоны голас падужаў, зазвінеў пад царкоўным купалам:

— Дык вось, шаноўныя грамадзяне, зараз мы распішамся пад калектыўнай заявай, што жадаем уступіць у сельскагаспадарчую арцель як грамадзяне свядомыя і верныя курсу партыі на пабудову сацыялізму. А з заўтрашняга дня,— Сакольчык глянуў на гадзіннік, паправіўся: — Ды ўжо і з сённяшняга, абагульнім як насенне, жывёлу, так і розны інвентар: калёсы, плугі, бароны, хамуты і іншую вупраж...

— А хто не захоча той арцелі? — адзінокі сярод амярцвелай цішыні голас.

— Той наш вораг і, як пяецца ў песні, павінен быць знішчаны,— не задумваючыся адказаў Сакольчык.

Натоўп загуў, калыхнуўся, абуджанай хваляй упёрся ў прыступкі амбону. Галай не на жарт спалохаўся. У такія адчайныя хвіліны недалёка да бяды. Засланяючы шырокай сваёй спіной Сакольчыка, Галай стаў перад раз'ятраным натоўпам, падняў угору рукі.

— Людзі, адумайцеся! — як бы чужым голасам закры-

чаў ён і пабачыў, што натоўп калыхнуўся назад, аслабіў напор.— Не ворагі ж мы адзін аднаму. Можна ж пагаварыць па-добраму, па-людску. Таварыш Сакольчык троху перабраў меры. Ніхто не стане парушаць прынцып добраахвотнасці. Ён найпершы і найважнейшы. Але, дарагія таварышы, у селяніна сапраўды няма іншага выйсця, як жыць калектыўна. Давайце ж разам і памазгуем, як нам жыць далей? Палова раёна ўжо ўступіла ў калгасы. Людзі жывуць, працуюць калектыўна і вельмі нават задаволены. І праца ў іх ідзе спарней, і часу на адпачынак больш. Людзі зразумелі сваю выгаду, таму і пацягнуліся ў калгасы...

— А мы хочам жыць без выгады,— упарты ад дзвярэй голас.

— Праўда...

— Пажывём троху аднаасобна, агледзімся...

— Не хочам калгаса...

Крычалі, аднак, не злосна, а па прывычцы. Па вопыту Галай ведаў: чым гучней крычыць натоўп, тым лягчэй колецца, як той лёд перад крыгаходам. Цяпер толькі варта набрацца цярплівасці...

Сакольчык чакаць не хацеў. Ён вынырнуў з-за Галаевай спіны, спытаўся гэткім паблажліва бесклапотным голасам:

— Дык не хочаце калгаса?..

— Не хочам,— ужо весела адгукнуўся натоўп, няйначай адчуўшы сваю перамогу.

— Тады пагаварыце, памяркуйце,— сказаў Сакольчык, як бы жартуючы, але Галай у ягоным тоне пачуў прытворнае каварства.— А як нагаворыцеся і вырашыце ўступаць у калгас, мне скажыце. Я на гадзінку адлучуся, і часу ў вас на размовы хопіць.

Натоўп зусім развесяліўся: выходзіць, упаўнаважаны гэты не такі ўжо і страшны. Дзівак нейкі гэты ўпаўнаважаны. Пагражаў рэвальверам, казаў, што ворагі, а кончыў тым, што загаварыў па-чалавечы. Людзі рагаталі ад душы.

Сакольчык спусціўся з амбону, пайшоў да дзвярэй сярод людзей, якія з ахвотай расступаліся перад ім. Галай не ведаў, што рабіць: ісці за Сакольчыкам ці заставацца тут. З амбону Галай бачыў, як Сакольчык адчыніў дзверы — на чорным фоне забялеў снег — і тут жа зачыніў іх.

У царкве ўсё яшчэ панавала вясёлая ажыўленасць, якую перапыніў бабскі пранізлівы голас:

— Людцы, ён жа дзверы падпёр!..

Натоўп аднёсся да свайго палону як да яшчэ аднаго ад-

мысловага жарту ўпаўнаважанага. Але неўзабаве настрой рашуча памяняўся. Выбрацца з царквы аказалася справай немагчымай: вокны закрачаны і са званіцы можна спусціцца хіба на вяроўцы.

Людзі падступілі да Галая. Ён ледзьве давёў ім, што не падзяляе такіх метадаў упаўнаважанага. Галая разбірала злосць. Ён цвёрда вырашыў, што паедзе ў акругком, раскажа там пра дзівацтвы Сакольчыка.

Накрычаўшыся ўволю, людзі аціхлі, зажурыліся і падобраму ўжо звярнуліся да Галая за парадай.

— Думаю, дарэмна вы ўпарціцеся,— сказаў Галай.— Не сёння дык заўтра, а ўсё адно давядзецца ўступаць у калгасы...

Праз гадзіну Сакольчык спытаўся з-за дзвярэй: ці надумалі грамадзяне паступаць у калгас?

З царквы ён выпускаў па адным. Соваў у рукі аловак, тыцкаў у паперыну на планшэтцы:

— Распішыся...

Галай выйшаў з царквы апошні. Злосна сказаў Сакольчыку:

— Гэта гвалт і глумленне над ідэяй...

Сакольчык спадылба глянуў на яго.

— За апартунізм з партыі цябе гнаць трэба,— і ўжо больш памяркоўна сказаў: — Перапалохаўся, слабачок?.. Запомні раз і назаўсёды: рэвалюцыі ў белых пальчатках не робяць. А калектывізацыя — тая ж рэвалюцыя, якую мы павінны завяршыць у самы бліжэйшы час. Так што не распускай нервы, яны нам вельмі яшчэ згадзяцца...

Чуткі аб падзеях у Кажамяках хутка распаўсюдзіліся па сельсавеце, і як толькі Сакольчык прыязджаў у якую вёску, мужыкі без лішніх размоў падавалі заявы ў калгас. За месяц сельсавет быў калектывізаваны на сто адзін і тры дзесятых працэнта. Пра іх загаварылі ў раёне, акрузе і нават у Мінску. Галай захадзіў у героях. І сама па сабе выспявала ў яго думка, што, можа, так і трэба, можа, іначай і нельга рабіць вялікія справы.

Праз два месяцы ў «Правде» з'явіўся славуты артыкул «Галавакружэнне ад поспехаў». На прыканцы сакавіка Галая выклікалі на нараду ў Высачаны.

У той год зіма зацягнулася і ў сакавіку завывалі па начах завірухі, а марозны ўсходні вецер намятаў гурбы снегу ўпаравень з вільчакамі хат. Снежныя сумёты, як крапасныя валы, перагароджвалі і вуліцы Высачан. Былая Ёселева карчма, якая цяпер называлася Домам селяні-

па, хавалася за двума такімі сумётамі. Тут, у Доме селяніна, Галай сустрэў Сакольчыка. Той сядзеў за сталом, засланым цыратай, сёрбаў рэдзенькі чай з кубка.

— Прысаджвайся,— запрасіў ён Галая неяк вельмі пасвойску.— Чуў, якія навіны?.. Перагібы!.. Якія перагібы?.. Створаныя намі калгасы не распаліся ж. Дык што ад нас хочуць? Перагібы перагібамі выпраўляць? Ты, таварыш Галай, не зважай на крытыку. Усё гэта часовае адступленне. Такія байцы, як мы з табой, партыі вельмі патрэбны. Таму памаўчы. Не лезь у спрэчкі. Я выступлю і ўсе кропкі над «і» пастаўлю належным чынам... Будзь упэўнены!..

Даклад рабіў той самы Салодка, які збег тады ў Высачаны. Бязлітасна біў ён за тое, за што нядаўна хваліў. Галаю дасталося больш за іншых. Выходзіла так, што не Сакольчык зачыняў сялян у царкве, а Галай, што не Сакольчык пагражаў людзям маўзерам, а зноў жа ён, Галай. Як і раіў Сакольчык, Галай маўкліва цярпеў няпраўду, чакаў выступлення Сакольчыка.

Той узяў слова пад самы канец нарады. Галай вушам сваім не верыў, але факт заставаўся фактам: Сакольчык пераклаў усю віну на Галая, назваўшы яго злосным перагібшчыкам, якім не месца ў партыі...

Назаўтра яму закацілі суровую вымову з занясеннем у асабістую справу, ды яшчэ папярэдзілі, калі пачне скардзіцца — выключаць з партыі.

Галай не паслухаўся. Напісаў апеляцыю ў акругу. Але неўзабаве акругі ліквідавалі, а раёны ўзбуйнілі. Зліквідавалі і іхні Высачанскі раён. Апеляцыя недзе загубілася. Вымова засталася. А з ёю засталася ў душы крыўда. З часам і яна забылася. І вось цяпер нагадалася зноў.

Галай адагнаў брыдзенькія думкі — не час цяпер корпацца ва ўласных адчуваннях. Дэмагогі і кар'ерысты былі і будуць, а жывыя справы жывых людзей нашмат мацней за іх.

Ён стаў разважаць, што рабіць далей, і неяк само па сабе ўзнікла рашэнне пайсці на той лясны хутар, дзе ён атрымаў баявое хрышчэнне, дзе пахаваны абкомаўскі шафёр, гаспадар хутара і таямнічы Малышаў.

Па шашы цяпер рухаўся вялізны абоз: паходныя кухні, параконныя фуры са скарбам, падводы з параненымі, гарматы на коннай цязе, а па ўзбочынах ішлі без строю чырвонаармейцы з вінтоўкамі і без іх.

Галай зразумеў, што цяпер хавацца па ўзлесках дужа рызыкоўна, а высоўвацца на шашу і таго горай. Не дай бо-

жа хто задумае пацікавіцца ягонымі дакументамі. У адной кішэні пашпарт на Нікалаева, які адбыў тэрмін зняволення, а ў другой — наган. Цацкацца з ім не стануць...

Заставалася адно: адседзецца ў лесе, пакуль пройдзе абоз ды і наогул спыніцца рух па шашы.

Зашыўшыся ў густы ельнік, Галай праспаў гадзіны тры. Прачнуўся ад невыноснай задухі і дрыготкага звону ў небе. На ўсход чорнай хмарай ішлі варожыя бамбавозы.

У канцы доўгага летняга дня Галай прыйшоў на хутар. Яшчэ здаля ўбачыў курганок зямлі і адзін на трох крыж, выкаваны з ліставога жалеза. Ён і пайшоў да той брацкай магілы, якую капаў тады ў чорнай няўцямнасці. Яму драпаў грудзі боль і гарачы туман засцілаў вочы. Праз гэты туман Галай невыразна бачыў латунную дашчэчку з прозвішчамі, а на жоўтым пясочку зялёныя качанкі цмену.

— А я гляджу, хто гэта стаіць у самоце,— пачуў ён за сабой жаночы голас і азірнуўся: гаспадыня блізарука жмурылася, прыглядаючыся да яго.— Вы ж той самы чалавек, што пад'ехаў тады на машыне?..

— Той самы...

— Хадзіце ў хату. Хоць малачком вас напаю...

У хаце панавалі раннія змрокі — усё відаць і ўсё невыразна. Галай прысеў да стала. Гаспадыня наставіла на яго розныя стравы. Еш, згаладалы!..

— Не баіцёся адна? — спытаўся ён.

— Спачатку было страшнавата. Усё баялася, што вернуцца тыя забойцы. Потым разважыла: ім не да мяне. Яны, пэўна, недзе яшчэ некага забіваюць, пакуль самі галовы не складуць...

Павячэраўшы, Галай папрасіўся пераначаваць.

— Начуйце,— пагадзілася гаспадыня.— Але вам бы паспяшыць варта, бо па шашы, кажуць, прайшлі танкі.

— Я не збіраюся адступаць,— сказаў Галай.— Хачу прызнацца вам, што я цяпер не старшыня выканкома...

— Як жа так? — падзівілася гаспадыня.

— Я пакінуты ў тыле ворага са спецыяльным заданнем. Не здзіўляйцеся, калі я скажу вам, што па пашпарту я цяпер Нікалаеў Іван Максімавіч, судзімы за прагул...

— Добра, што сказалі,— адгукнулася гаспадыня.— Цяпер усяго можна чакаць... Дык Іван Максімавіч вы?..

— Ага...

— Вам прытулак патрэбны?

— Прасіў бы вас узяць мяне ў кватаранты...

Гаспадыня задумалася.

— Хаты не шкада... Але вам лепей у вёсцы пажыць. У мяне там сваякі. Я вам памагу...

Галай падзякаваў.

Калі ўжо зусім сцямнела, гаспадыня павяла яго ў вёску Лісіныя ямы.

Па дарозе Галай усё думаў: а чаму гаспадыня не захацела, каб ён пажыў у яе? Хутарок гэты хаваў нейкую глыбокую тайну.

## 12

Уначы пачалася высадка дэсанта. А на золаку па радах бежанцаў праляцела страшная, як смерч, вестка: немцы наперадзе. Людзі тыкаліся ва ўсе бакі, як сляпыя шчаняты. Нельга было разабраць, дзе фронт, а дзе тыл. Усюды стралялі, усюды рваліся снарады і міны. Толькі на захадзе панавала цішыня. І бежанцы, якія дасюль прагнулі як можна далей на ўсход, цяпер паспешліва адыходзілі на захад.

У гэтую калатнечу трапіў на сваёй сельсавецкай брычцы і Мікіта Самарос. Сцепаніда даўно перамянілася: пацішэла, асунулася, пастарэла. Пад вачамі сінія кругі. Немцаў яна баялася горш як смерці. Мікіта як мог супакойваў, але і ў самога трывожна ныла сэрца.

Сумленнай салдацкай кулі ў адкрытым баі Самарос не баяўся. Палохала смерць на краі ямы. Па ўсім было відаць, смерці такой на кані не абмінуць. За ноч немцы параскідалі лістоўкі і ў кожнай абяцалі «смерць жыдам і камуністам». Каго-каго, а Самароса зайздроснічкі пастараюцца выдаць немцам.

Сельсавецкі конь памалу цягнуў брычку. Мікіта, згорбіўшыся, крочыў следам. Ехалі наўпрасткі, дзе лугам, дзе па вузенькіх пясчаных прасёлкавых дарогах. Немцы не сустракаліся. Не было відаць і нашых. Здавалася, прагуляўся віхор, параскідаў людзей, як трэскі,— настаў зацішак.

На ўзлеску, што крута апускаўся да імклівай рачулкі, Мікіта ўбачыў Каршукова. Цішкаўскі старшыня стаяў ля калёс, напакаваных бліскучымі ацынкаванымі бітонамі, курыў. Пад вылінялай гімнасцёркай тырчалі вострыя лапаткі. Самарос, кінуўшы лейцы дзецям, пабег па чабаровай квецені да Каршукова.

— Ты як тут апынуўся?! — ляпнуў ён Каршукова па плячы.

Той уздрыгнуў, яго патрэсканыя вусны растуліліся, агаліўшы чорныя ад махоркі зубы. Але вочы засталіся калючымі, злымі.

— Самарос!..— здзівіўся ён.— А ты чаму тут? Мяне вось з калгаснымі каровамі дэсант пераняў. Ганю назад.

— Ашалееў... Каму гоніш?

— Людзям. Іх дабро, няхай і распараджаюцца.

Каршукоў гаварыў неахвотна. Наглядаў за статкам. Пяцёра жанчын даілі кароў. Два падросткі, прымайстраваўшы сепаратар да брычкі, пераганялі малако. З плоскіх даўгаватых рыльцаў ліліся два малочныя струменьчыкі: адзін сіняваты — перагон, другі жаўтавата-белы — вяршкі.

— А пра сябе ты падумаў? Ды цябе на самай высокай асіне павесяць. Дэпутат, ардэнаносец... Каго ж ім вешаць, як не цябе?

Сустрэўшы знаёмага чалавека, Мікіта акрыяў духам і, як некалі на нарадах, жартаваў саланавата і груба. Усе сумненні і страхі асталіся на возе са Сцепанідай і дзецьмі.

— Я ўжо думаў: аднаго мяне павесяць. Перад смерцю не будзе каму і рукі пацiснуць. Ну, ды нічога, Станіслаў Цітавіч, будзем паміраць, дык з музыкай і з «інтэрнацыяналам». Закурыць ёсць? А то я апошнюю махру салдатам раздаў.

Пакурылі, пагутарылі аб дэсантах, самалётах і дыверсантах праціўніка, успомнілі, як аднаго разу закацілі ім на бюро па вымове. І яны са скрухі распілі паўлітэрка ў райвыканкомаўскім пад'ездзе, абмяняліся думкамі наконт перспектыў вайны, згадзіліся, што англічане слабаватыя, ды і кансерватары ў дадатак. Амерыканцы — тыя нішто, але на дапамогу спяшацца не будуць. Прывыклі нажывацца на войнах. Скрушліва паківалі галовамі: труднавата будзе.

Сцепанідзе, відаць, надакучыла чакаць, спіхнула з воза малога — выліты Мікіта Самарос! — паслала па бацьку.

Хлопчык цягнуў за штаніну, скуголіў:

— Татка, ну, татка, пойдзем ужо...

— Адчапіся ты! — сыкнуў Мікіта.— Не бачыш — заняты.

Каршукоў узяў бляшаны літр, зачарпнуў смятаны, падаў малому:

— Выпі вось.

Хлапчук прыпаў да пасудзіны. Піў цёплую, рэдкую і ўжо кіславатую смятану. Соп носам.

— Во, брат, час настаў...— развесяліўся Самарос.— Ра-

пей ты з мяне за гэты літр грошы садраў бы, а цяпер поіш бясплатна. Любата.

— Давай і табе зачарпну.

— Я да малочнага не ахвочы... Дык ты сур'ёзна дамоў едзеш? Я дык пабойваюся. Кажуць, немцы здорава лютуюць.

Каршукоў махнуў рукой:

— Мала што кажуць. Яны на нас, мы на іх пішам. Пажывём — пабачым, як пойдзе. Спяшацца няма куды.

Гаварыў Каршукоў разважліва, стала, але Самарос ніяк не мог уцяміць, жартуе ён ці прыкідваецца. Чорт яго разбярэ, гэтага цішкаўскага старшыню, калі ён заўсёды быў хітруном! Бывала, пераканае ўсіх, што сеяць рана, а сам пасее і рагоча — абдурыў і першую прэмію адхапіў.

— Ты жартачкі, Каршукоў, кінь. Цяпер не да іх. Тут жыццё на карту пастаўлена.

— А я і не жартую. Прычапіўся ты да мяне, як калючка да сабачага хваста: не аддзярэш. Адно табе скажу, калі баішся, дык перасядзі ў зацішку, пакуль фронт прыйдзе, а тады прызнайся, павініся. Авось даруюць...— Ён зноў усміхнуўся і, неяк адразу стушыўшы ўсмешку, дадаў: — А цяпер, выбачай, трэба ісці гаспадарку глядзець.

Сутулячы спіну, Каршукоў падыбаў да даярак. Самарос здзіўлена глядзеў яму ўслед.

Дадому заставалася вёрст трыццаць. За рэчкай выбіліся на панылую дарогу. Ні кустоў, ні дрэў — гола. То там, то сям ляпіліся да ўзгоркаў вёскі, такія ж панылыя і пустыя, як дарога. Ні людзей, ні жывёлы. Толькі на даляглядзе сінелі лясы.

Прыпякала сонца, бурая выгаралая зямля не цешыла вока. З канаў патыхала тванню. Надакучліва, аднастайна верашчалі жабы. Усё было не так, як дома. Пуста, няўтульна.

Самарос пасля размовы з Каршуковым раскіс. Дыбаў поруч з возам, зацята маўчаў. Хацелася ўпасці на зямлю і ляжаць нерухома, адчуваць востры пах траў, бачыць сіняе-сіняе неба і жыць у думках такім прывабным учарашнім днём. Сённяшняга не было. І спадзявацца няма на што.

Сцепаніда плакала, шморгала распухлым носам, туліла да грудзей малодшых — Валерку і Волечку. Калючы жаль раздзіраў Самаросу сэрца, муціў галаву.

«Жартаваў Каршукоў ці прыкідваўся?» — мо ў соты раз пытаўся Самарос у сябе. І раптам надзіва просты

адказ жыгануў Мікіту: «Каршукоў хітрыў, бо не паверыў ні аднаму майму слову: падумаў, што я знарок застаўся ў немцаў».

Было крыўдна. Разбірала злосць на недаверлівага, заўсёды скрытнага Каршукова. «Мне, Самаросу, не паверыў. Ах ты, шляхцюк пракляты! Забыўся, як я ў трыццаць першым ваяваў з кулакамі? Як граміў трацкістаў? Ніколі ні ўправа, ні ўлева не хістаўся. Ішоў па генеральнай лініі, як цягнік па рэйках. А ён не давярае». Самарос яскрава ўявіў сваю смерць. Стаіць на краі ямы, а салдаты цэляць яму ў сэрца, закрытае партыйным білетам. Стаіць Самарос роўна, з высока ўзнятай галавой. «Няхай жыве партыя!» Залп, і ён падае ў чорную яму. «Харошы быў чалавек Самарос, наш, камуніст,— скажуць калі-небудзь таварышы і з дакорам паглядзяць на Каршукова.— А ты яму не верыў!»

Маркотная думка адгукнулася ў грудзях вострым болем, расчуліла да слёз. Самарос неўзаметку змахнуў слязу, пракаўтнуў горкі, палыновы камяк, што засеў у горле.

Пад вечар зусім прыстаў конь. Лянівa махаў хвастом, калі яго seклі лазовым дубцом, ды па-чалавечы азіраўся ў аглоблях — шукаў літасці.

Спыніліся ў маленькай вёсачцы Лісіныя ямы, атуленай вялікім балотам. Згорбленая бабуля паслала дзецям на падлозе, Сцепаніда палезла на печку. Мікіту сон не браў. Неадчэпна хадзілі за ім думкі пра фронт, пра Каршукова, пра свой няўдалы лёс. Ратуючыся ад іх, Мікіта пайшоў на вуліцу. На тым баку, на прызбе, свяціліся ў цемрачы цыгаркі, чулася прыглушаная гутарка:

— На Расею хто толькі не выскаляў зубы.

— Ахвотнікаў многа, ды Расію праглынуць цяжка. Падавіцца можна.

— І Гітлер падавіцца, народу толькі пераб'е.

— А што яму народ...

Нехта заўважыў Самароса, шэптам папрасіў:

— Прытрымалі б вы языкі. Ходзяць тут розныя.

— Ходзяць такія, што і самі немца баяцца.

— Усё роўна. Хто іх разбярэ.

Самарос паплёўся па вуліцы. У садку за плотам іграў патэфон. Знаёмы да болю голас выводзіў з лёгкім сумам:

Я с молодостью-ю-ю не прощаюсь
И не прощусь никогда-а-а.
Тем лучше я с ней обраща-ю-юсь,
Чем старше мой-и-и-я года-а-а.

Нехта цяжка ўздыхнуў. Песня абарвалася, толькі глуха шуршала іголка па пласцінцы.

— Знімі, іголка псуецца.

— Жыццё сапсавалася. Хутка на лучыну сядзем.

— Немцы гандаль адкрыюць.

— Разяўляй рот шырэй.

— Та-ак, дажыліся.

— Былі медыкі, педыкі, а цяпер хто?

— Ой, дзяўчаткі, якія мы дурныя былі! Вярнулася б старое, дзень і ноч вучыліся б.

Кончылісь дні залатыя
Раковой непрадажнай любві...

Смутак аддаваўся ў душы Самароса. Яму захацелася падысці да людзей, шчыра, ад душы пагаварыць, развеяць сумны настрой. Ужо зусім сцямнела, і Мікіта не бачыў веснічак. Пайшоў паўз тын, прытрымліваючыся рукой за жэрдкі.

Недзе ў чорным небе між яркіх, трапяткіх зорак адзінока і журботна гудзеў самалёт. Самарос насцруніўся, задраў галаву ў неба. Затаіўшы дыханне, слухаў. Самалёт ляцеў на захад.

— Наш ляціць,— пачуўся за плотам голас.

— Нямецкі...

— Вушы табе пазакладала. Наш...

— Адзін, бедненькі...

Самалёт доўга гудзеў, бы заблудны чмель. І вось ужо растаў у цішыні ночы яго маркотны голас. І зноў Самароса ахінула ноч.

Насустрач чорным прывідам рухаўся чалавек. Ён сутыкнуўся з Самаросам нос да носа. Буркнуў: «Прабачце...»

— Цімох Пархвенавіч?! — здзівіўся Самарос, пазнаўшы Галая.

— Хто гэта? Які я табе Цімох?

— Я... я... гэта... Самарос,— паспешліва гаварыў Мікіта, баючыся страціць блізкага чалавека.

— Цішэй ты...— Галай узяў яго за руку, павёў па вузкай сцяжынцы праз агароды за вёску.

Ля старэнькай лазні яны селі на камень. Галай абняў Самароса за плечы.

— Не паспеў?

— На адзін дзень раней — праскочыў бы...

— Жонка дзе?

— Вунь у той хаце,— Самарос тыцнуў рукой у чарнату ночы.

— Сям'я ў цябе вялікая, а то знайшлі б работу.

— У немцаў? — Голас у Самароса задрыжаў.

— Чаму ў немцаў? Хоць і ў іх работа знойдзецца... Але табе не так проста да іх прабрацца.

— А я ўжо думаў, і вы, як Каршукоў, параіце мне прадацца за трыццаць сярэбранікаў.

Рука Галая ўздрыгнула, потым мацней сціснула Самаросава плячо.

— Дзе ты яго бачыў?

— За Тадулінам. Кароў дамоў гоніць.

— Так, так...— Галай аблакаціўся на калені, абхапіў галаву рукамі.— Дык што ён табе казаў?

Галай слухаў моўчкі, не перапыняў, не пытаўся. Капаў наском бота зямлю і ўсё ніжэй апускаў галаву. Самарос разумеў гэта па-свойму і знарок расказваў пра такое, што выкрывала Каршукова як здрадніка. Але Галай раптам здзівіў Мікіту:

— Каршукоў свой... Вось так, Мікіта Лявонавіч. Чалавек ён хітры, разважлівы. Што не прызнаўся — хвалю... І ты на яго не злуйся. Вайна. Давяраць — давярай, але з аглядкай.

Багаты навінамі дзень зусім выбіў Самароса з сядла. Здагадаўся ён цяпер пра многае. Папракнуў сябе за тое, што праз меру накляпаў на Каршукова, расказваючы Галаю пра гаворку з ім. Навёў на чалавека цень.

— Вы ўжо, Цімох Пархвенавіч, надта да яго не прыдзірайцеся,— папрасіў Самарос.— Ён, Каршукоў, такі скрытны. А я лішняга нагаварыў.

Галай, думаючы аб нечым сваім, запытаўся:

— А што, каб табе тут астацца? Мясціны ціхія, а людзі добрыя. Га? Наконт кватэры не турбуйся, уладжу. На торфазаводзе хаты пустуюць, абжываць іх трэба.

Самарос гатоў быў абняць Галая, ды пасаромеўся.

## 13

На вышках было душна, пахла гноем і зляжалай саломай. Пад страхой надакучліва крычалі вераб'і. Ад іх чырыкання, ад гарачыні і ўдушлівага паху, а больш ад думкі, што месца для часовай канспіратыўнай кватэры аказалася няўдалае, у Валенды балела галава. Ён лаяў сябе за паспешлівасць, з якой выбраў гэтае сховішча на

даволі люднай прасёлкавай дарозе, за тое, што застаўся на дзень у вёсцы, калі можна было перачакаць фронт у лесе, нарэшце, за тое, што згадзіўся застацца ў варожым тыле. Каршукоў вунь знайшоў прычыну — уцёк. І цяпер дзенебудзь сярод сваіх, а Валенда — хавайся, чакай, пакуль схопяць. Хоць бы ўжо кватэру дзе ў глухамані знайшоў. Дык не, папёрся ў гэтыя Высачаны.

Потым ён падумаў, што ў лесе, бадай, было б яшчэ страшней. Тут усё ж побач людзі, і чалавек, які хавае яго,— свой. Калі яго і ўбачаць, дык гаспадар скажа, што Валенда яму радня.

Ад такіх думак станавілася лягчэй. Потым зноў апаноўвалі сумненні, і зноў ламаў скроні надакучлівы, востры боль.

З раніцы вёска пуставала, бы вымерла. Ляніва курыліся над комінамі дымы, рэдзенькія, бялёсыя, як вясновыя воблачкі. Крыху пазней, калі дымы расталі ў блакітнай чысціні ліпеньскага неба, то там, то тут паяўляліся людзі. Болей моладзь. Сядзелі ў цяні палісадаў. Валенда праз шчыліны паміж дошакназіраў за гэтым не вядомым яму, незразумелым жыццём. Пра што гавораць людзі цяпер, калі настала часовае безуладдзе? Валендзе вельмі хацелася пачуць, што гавораць вунь тыя тры дзяўчыны, што сядзелі на агародзе суседскага двара, за густым кустом агрэсту. Дзяўчаты, відаць, думалі, што іх ніхто не бачыць. Яны высока падкасалі плацці, выцягнулі белыя вышэй калень ногі — загаралі.

«Ві-і-шш ты, кабылы!..— Валенду пачала разбіраць злосць.— Пазадзіралі спадніцы... Людзі кроў праліваюць, а яны загараюць. Нябось камсамолкі, у савецкіх школах вучыліся, а загараюць. Што немец ідзе, іх не трывожыць. Ляжаць спакойненька. Дачакаецеся гора, ды позна будзе...»

У хляве кашлянуў гаспадар. Неўзабаве яго сівая, стрыжаная «пад бобрык» галава паказалася над жэрдкамі.

— Віктар Васільевіч, як ты тут?

— Моташна, Даніла, моташна! Страшна. Ты мне скажы, што людзі сабе думаюць! Печы паляць, кароў у поле выправілі... Цяпер сядзяць па прызбах, а дзеўкі вунь загараюць. Думаў я, людзі раўці будуць, па лясах разбягуцца, знішчаць усё, каб ворагу праклятаму нічога не засталося. А тут спакой...

— Які там спакой, Віктар Васільевіч.— Даніла па старой звычцы падначаленага называў Валенду па баць-

ку.— Яно і я спакойны, а на душы пагана. Так і ў кожнага. Можа, і ёсць адна-дзве сям'і, дзе рады немцам, ды і то больш па злосці на савецкую ўладу, што прыціснула іх. Ты во кажаш, спакойныя. Бабка тут у нас жыве. Багамолка, свет прайдзі — не знойдзеш. Дык пасля таго як закрылі царкву, пры ўсім народзе лаяла савецкую ўладу. У сельсавет яе выклікалі, і пагражалі, і ўпрошвалі, каб перастала агітацыяй займацца,— ні ў якую. Махнулі на яе рукой. Бабцы той пад дзевяноста. Што ты з яе возьмеш? А надоечы сустракае мяне і пытае: «Ці чуў ты, Данілка, быццам правіцель наш гаварыў з народам і плакаў?» — «Чуў, кажу, але, здаецца, не плакаў».— «Вернае слова, плакаў. Такія людзі баялі, што ніколі не схлусяць. Ды і дзіва, што заплачаш, калі нячысцік на праваслаўны люд прэ. Кажуць жа, у аднаго з германскіх цароў хвост, не прымяраючы, як у цялка гадавалага,— ад заду гладкі, а на канцы з валасамі. Я ўчора сорак разоў «Спасі, гаспадзі, людзі твая» перад іконай скарбяшчай багамацеры прачытала. Да таго мне жаласць сэрца сціснула, як пачула, што Сталін называў нас дарагімі брацямі і сёстрамі. У сваёй сям'і ўсякае бывае, самі і разбяромся. А во што гэтым гіцлям трэба?» Так што, Віктар Васільевіч, народ разумее ўсё. А маўчыць, чакае.

— Каго чакае? Немцаў твой народ чакае. А ты вушы развесіў. Гэтыя старыя бабкі самыя контры. Ім царкву адчыняць, дык яны пачнуць і за Гітлера лбы разбіваць.

— Можа, злез бы, Віктар Васільевіч,— памаўчаўшы, пачаў Даніла.— Людзям я ўжо намякаў, што родзіч мой далёкі па шляху з Заходняй прыпыніўся.

— Ну, гэта ты, брат, дарэмна.

— Усё роўна калі-небудзь давядзецца адсюль злезці.

Валенда засумаваў. Ліха яго ведае, як трымаць сябе! А што, калі Даніла задумае ратаваць сваю шкуру? Тады бывай, Віктар Валенда. Накінуць на шыю пятлю — і на асіну.

— Не, ужо лепш тут пераседжу, пакуль немцы пройдуць.

Даніла пакінуў Валенду ў большай разгубленасці, чым было дасюль. Завірушлівая сумяціца думак мучыла і без таго асцярожнага Валенду. Хоць бы хутчэй прыйшоў Галай. Нагаварыў мех з торбаю. Паспрабуй разгарніся тут, дык адразу немцам данясуць. Дурань, што згадзіўся. Ваяваў бы цяпер на фронце...

Не ляжалася, не сядзелася. А хадзіць было няможна.

Адна вузенькая цалёўка між жэрдак вяла ў сховішча Валенды.

Час, як на злосць, здавалася, спыніў свой бег. Недзе ў зеніце стаяла сонца, агрызалася гарачымі, яркімі промнямі, не хацела каціцца на захад.

Раптам знізу пачуўся насцярожаны шэпт:

— Віктар Васільевіч... Віктар... Ідуць...

Валенда адчуў, як штосьці абарвалася ўсярэдзіне, як аслаблі рукі і ногі, а ў вушах гулка зазвінела.

«Фу чорт, няўжо баюся? Камуніст жа я»,— падумаў Валенда і падпоўз да залобка, прыпаў вокам да маленькай вузенькай шчыліны. Вуліцу — як вымела. Нідзе нікога.

Потым пачуўся гул машын. Падстрэшша запоўнілася глухім рокатам танкаў, вясёлым гуркатаннем матацыклаў. Валенда адсунуўся ад залобка, ляжаў, услухоўваючыся ў гоман вуліцы. Нарэшце ўсё сціхла, і тады са звонкай цішыні даляцелі чужыя, адрывістыя словы каманды.

«Усё»,— падумаў Валенда. Намацаў у кішэні цёплую ручку нагана. Уздрыгнуў. Ручка адразу ўзмакрэла, прыліпла да пальцаў. Валенда рыўком выхапіў наган, вялікім пальцам крутнуў барабан з жоўтымі вочкамі гільзаў. «Шэсць па іх, сёмую ў лоб»,— падумаў ён і раптам апусціў руку — унізе весела і звонка смяяліся дзяўчаты. Валенда зноў падпоўз да залобка. Унізе, зусім побач з хлявом, стаяла некалькі жанчын і хлапчукоў, а пад вішняй сядзелі тыя тры дзяўчыны, што яшчэ нядаўна загаралі. Адна з іх, бронзавая ад загару, русавалосая, у сарафане на вузкіх шлейках, размаўляла з немцамі, што стаялі перад ёю голыя па пояс.

Кожнае слова чужой мовы далятала да Валенды, быццам яго вымаўлялі побач. Валенду вельмі хацелася зразумець, пра што гаворыць гэтая дзяўчына з немцамі. Бач ты, як рэжа па-нямецку! Мабыць, даўно ўжо ў іх на службе...

На танку, звесіўшы ногі, сядзеў рыжы танкіст, пілікаў на губным гармоніку. Дзяўчына, мусіць, паклікала яго, бо танкіст саскочыў на зямлю, падышоў да яе.

— Танцыер, танцыер,— запляскала ў далоні дзяўчына.

Танкіст прыклаў гармонік да вуснаў. Мелодыя была знаёмая, але Валенда ніяк не мог прыпомніць, дзе чуў яе, і толькі тады, калі дзяўчына, падхапіўшы суседку, заскакала, ён зразумеў — немец іграе польку. Віктар Ва-

4 Зак. 1801

сільевіч са стогнам бухнуўся ў прэлую салому. Бяссільныя слёзы ярасці сціснулі грудзі.

«Здраднікі, здраднікі!..— калаціўся ад роспачы Валенда.— Што робяць? Пад фашысцкую дудку танцуюць! Такія прададуць, гады, за будзь здароў! І няма чаго ім даказваць, што фашысты звяры».

Валенду да болю захацелася, каб гэтую вясёлую, гулівую дзеўку згвалцілі салдаты. Тады, здаецца, не ўляжаў бы пад страхой, саскочыў і крыкнуў бы на ўсё сяло: «Ну што? Бачылі, чулі, весяліліся?..»

Ён чуў, як зноў завуркаталі машыны, як сціхла гамонка...

— Віктар Васільевіч,— пачуўся голас Данілы.— Мінула бяда. Ператрособся я, не дай бог. Трэба ж было пад самым хлявом клуб наладзіць.

Валенда падняў галаву. Даніла збянтэжана пазіраў на яго заплаканы, злы твар.

— Якая гэта прастытутка ў сарафане з імі заігрывала?

— Ты пра доктарку? Людміла Герасіменя. Наша, вясковая.

— Я яе, суку, першую да сценкі пастаўлю.

Даніла здзіўлена глядзеў на яго, маўчаў.

## 14

Калону разбамбілі на прывале. Канвой кінуўся ў канавы, узняў страляніну. Ашалелыя людзі не ведалі, куды падацца. Крык, енкі, мітусня, страляніна, выбухі, натужнае выццё самалётаў. Макар Сідаронак неяк хутка асвойтаўся. Спачатку яму здавалася, што першая ж бомба паставіць кропку на ягоным жыцці. Але бомбы падалі, а ён жыў. Тады Макар ускочыў, пабег. Можа, па ім стралялі, але кулі абмінулі яго.

У рэдзенькім бярэзніку Макар упаў тварам на мяккі, прапахлы цвіллю мох і толькі цяпер зразумеў, што жывы і на волі. Гэта і радавала і засмучала. Лепей бы, канечне, вызваліцца па закону. Але калі тое будзе? Вайна, разруха, неразбярыха. А тут надарыўся такі выпадак, дык як жа было не скарыстаць яго? Ды і немец прэ, як чорт па грэшную душу.

Справа ў Макара была дробязная — так, прынамсі, лічыў ён,— але тэрмін далі вялікі. Пачалося ўсё з-за жонкі.

Ажаніўся Макар з вясёлай, не па-вясковаму смелай Ядвісяй з суседняга шляхецкага засценка Хадыпка. Гады

тры хадзіў за ёй па пятах, а яна нібы і не звяртала на Макара ўвагі, нават насміхалася, суцяшаючы ціхмянага Сідаронка: «Пачакай, Макарык, пагуляю ўволю, абавязкова за цябе замуж пайду. Дужа ты мяне любіш».

Хлопцы пакеплівалі з Макара, расказвалі такое, ад чаго Макар чырванеў, згараў ад сораму і крыўды ды кляўся, што ніколі не гляне на кручаную няверную Ядвісю. А потым сустракаў яе, забываўся на ўсё — прысушыла яго праклятая дзеўка. Чакаў цярпліва, хаваў у глыбінях душы крыўду на Ядвісю і зацятую злосць. Думаў: «Пачакай, ажанюся, тады ты ў мяне паскачаш».

Яна прыйшла аднаго разу сама, з вялікім вузлом у руцэ.

— Прымеш ці, можа, разлюбіў ужо?! — і, не чакаючы яго запрашэння, пачала развязваць вузел.

Ноччу, у пасцелі, Макар, хаваючы ў карунках жончынай кашулі твар і бясконца рады, што ўсё, пра што гаварылі, няпраўда, нясмела папрасіў жонку:

— Ты вось што, Ядзя, кінула б цяпер свае выбрыкі. Людзям не дакажаш, якою ты да мяне прыйшла. А яны рознае пляўузгаюць.

— А мне напляваць,— адрэзала жонка.

Макар разгублена змоўк, але нейкае незнаёмае дасюль пачуццё тачыла яго, не давала спакою.

— Людзей, канечне, не перапслухаеш. А толькі іх праўда ёсць. Дазваляла ты сабе многа. Ды зноў жа, кажу, да старога я нічога не маю.

Ядвіся выпрастала з-пад коўдры ногі, пачала заплятаць касу.

— Я думала, ты не такі, як усе. Ну, як хочаш. Дзверы ў тваёй хаце я ведаю.

Яна пачала звязваць у хатуль свой пасаг: тонкія фабрычныя кашулі, плацці, шэсць даматканых ручнікоў і яшчэ розную драбязу. Макар глядзеў на яе зборы з усмешкай. Куды яна дзенецца такая, што пабыла ўжо замужам: ні баба, ні дзеўка... Але Ядвіся, відаць, сабралася ўсур'ёз.

І Макар не вытрымаў, упрасіў застацца.

Гады два цешыўся ён сямейным шчасцем. За гэты час у іх нарадзілася дачка Сабіна, і Сідаронак паверыў, што жонка пасталела, назаўсёды забылася пра гулі.

Шчасце, здавён вядома, не заседжваецца пад адным дахам, затое бяда не спяшаецца пакідаць хату. У пачатку трыццаць другога года старшынёй калгаса быў выбраны Каршукоў з Хадынкі, паўшляхцюк, паўмужык, высокі,

белабрысы, з сінімі халоднымі вачамі. І пайшло па ўхаб Макарава жыццё.

Ездзіла Ядвіся з Каршуковым па розных сходах і злётах, прыязджала позна ўначы вясёлая і, як раней, гарэзлівая. А часам і зусім не прыязджала папач. Тады Макар ляжаў да самага світання, уставіўшы вочы ў столь, верыў і не верыў людскім плёткам.

На вёсцы сапраўды зашмат гаварылі пра Каршукова і Ядвісю. Абзывалі Макара дурнем, а пад злую руку раілі правучыць баламутную маладзіцу. Каршукову даравалі ўсё: мужчына, ды і калгас павёў угору.

Затое Макар вінаваціў ва ўсім Каршукова. Каб не ён, жыў бы сабе Макар прыпяваючы, а вось паявіўся, і паляцела ўсё к чорту на рогі.

Рабіў Макар усё на злосць старшыні, лаяў яго спачатку за вочы, а пасмялеўшы, і ў вочы. Выпіўшы, пагражаў прыстукнуць у цёмным закутку.

Гады праз тры Каршукову далі ордэн. Дні два запівалі яго ў сельпоўскай карчме — скупаваты Каршукоў з такога выпадку грошай не шкадаваў. Два дні не было дома і Ядвісі. Пад вечар Макар уварваўся ў краму, але не буяніў, а толькі лаяўся і зноў пагражаў забіць Каршукова. Тыдні праз два яго выклікаў пракурор.

Было гэта пад восень. Ліў дождж. Дарогу развязло. Макар клыпаў паволі, лаяўся кожны раз, як халодная вада пералівалася праз халявы гумавых бахілаў. Нёс з сабою паўлітра, спыняўся час ад часу, піў з рыльца гарачую, як кіпень, гарэлку. Узвінчваў нервы, гразіўся не забыць гэтую прагулку.

У першы раз за ўсё сваё сумеснае з Ядвісяй жыццё пераламаў у хаце гаршкі і міскі, пасадзіў жонцы гузак пад вока і заваліўся спаць.

Прачнуўся ад шуму і гоману. Трашчала галава, быццам тысяча чарцей малацілі ў ёй гарох. За сталом, нахіліўшыся над паперамі, сядзеў міліцыянер, насупраць Ядвіся. На ложку ў адной кашулі сядзела Сабіна, пазірала на яго спалоханымі вачамі. Суседзі-панятыя стаялі ў парозе.

Думаў Макар — каюк: засадзіць праклятая баба ў турму. Аж надзіва выбавіўся. Далі два гады ўмоўна і яшчэ раз моцна папярэдзілі.

Жонку Макар болей не чапаў. Жыў чужаком у сваёй хаце. А на ўсё лета ішоў пасвіць коней. Начаваў і дняваў на высечках ля казённага лесу, зрэдку толькі прыходзячы ў хату па харчы.

Лета было спякотлівае. Гарачыня пазаляла людзям і жывёле. Затое ноччу было прывольна. Толькі крыху адзінока і сумна.

Аднаго разу пад вечар ля рэчкі спыніўся цыганскі табар. Макар доўга глядзеў на кастры, слухаў звонкае пілікание скрыпкі і не вытрымаў — пацягнула да людзей.

Цыганы сядзелі ля кастроў, курылі люлькі. Голыя чорныя цыганяты плёскаліся ў рэчцы, лавілі вядром рыбу. Макара прынялі гасцінна. Пасадзілі ля вогнішча побач з маладой чарнавокай цыганкай.

— Давай, добры чалавек, пагадаю. Хочаш на руку, хочаш на планету.

Макар усміхнуўся, гарэзліва падумаўшы: «Добра было б кінуць усё і паехаць вось так з табарам па белым свеце».

— Гадаць мне няма чаго. Я сваю жысць наскрозь бачу. Я коней пасу, а жонку —старшыня. Так і жыву.

— Што ж ты яе, гадаўку, за касу не возьмеш?

— Браў, ды апёкся.

Цыганку паклікалі. Яна пайшла, дражнячы Макара стройным, гнуткім целам. Нагадвала цыганка Ядвісю, і Макару раптам зрабілася маркотна. Табар, цыганы, голыя дзеці, худы буланы конь, што чамусьці таптаўся на адным месцы, і ружовыя прыцемкі летняга вечара — усё здавалася несапраўдным, выдуманым, як і ўсё Макарава жыццё. Хацеў быў пайсці, але зноў паявілася цыганка, а з ёю стары цыган.

— Харошаму чалавеку мы рады...

Цыган прысеў побач, загаварыў пра даўнія часы, называў Макару знаёмых людзей, Макаравых аднавяскоўцаў, з якімі калісьці сябраваў. Аднекуль паявілася гарэлка. Макар выпіў раз, другі. Потым глядзеў, як танцуе перад ім цыганка, трасе худымі плячамі, накрытымі чырвонай турэцкай хусткай. Яму падносілі ў меднай цяжкай конаўцы гарэлку, пахучую, відаць, настоеную на травах. Потым ён ішоў следам за цыганкай, спатыкаючыся аб карэнні, лавіў яе п'янымі рукамі і не мог злавіць. А яна паварочвалася да яго і, выскаляючы белыя ў цемнаце зубы, усміхалася, шаптала таямніча і глуха:

— Далей, харошы мой, каб у табары цыганы не чулі.

Так і не дагнаўшы яе, ён упаў ля абамшэлага пня, праспаў да світання. Табара ўжо не было. Макару здалося, што наогул не было нічога — проста сон. Але ля берага, гэтак жа, як і ўчора ўвечары, круціўся на адным месцы

буланы конь. Каня Макар прывёў у калгасны табун, палічыўшы, што цыганы проста кінулі яго Макару на памяць аб сабе. Але пасля, калі не далічыўся трох пародзістых жаробак, зразумеў, што яго хітра абдурылі.

У поўдзень цыганскі конь здох. Макар прыкрыў яго голлем, ды так нічога і не сказаў калгаснікам, баяўся — тыя будуць смяяцца.

Пакуль міліцыя шукала зладзеяў, здарылася новая бяда — захварэлі на менінгіт коні. Макар здагадаўся, што хваробу прынёс буланы цыганскі конь, які здох, але маўчаў — і так клопату хапала. Менінгіт перакінуўся ў другія калгасы. А неўзабаве па раёне пакацілася чутка, што хваробу прывіваюць коням шкоднікі. І тут як снег на галаву знайшлі здохлага цыганскага каня. Адмаўляцца не было як. Макар прызнаўся. Таго ж дня яго забралі з вёскі.

Судзілі Макара закрытым судом. Далі дзесяць гадоў за шкодніцтва. Потым пераглядалі справу яшчэ разоў пяць, пластуючы на яе розныя грахі, пра многія з якіх Макар даведваўся толькі ад следчых.

Макар, аднак, не траціў надзеі на вызваленне. «У чым вінаваты, дык вінаваты. За тое адкажу. А ў астатнім нявінны»,— цярпліва паўтараў ён адно і тое ж. Можа, каб не пачалася вайна, дык дамогся б ён адмены суровага прыгавору.

...Макар доўга ляжаў, дыхаючы парнай зямлёй, і ніяк не мог надыхацца. Думак не было — апанавала слабасць, бяздумная, цяжкая.

Голад прымусіў яго падняцца. Месцы былі незнаёмыя, чужыя. Лезці людзям на вочы не выпадала. Куды цяпер падацца, Макар не ведаў.

Было вельмі ціха. Спынілася нават страляніна на захадзе. Прамільгнула была думка, што вайна кончылася. Гэта нават спалохала Макара. Што ж тады з ім? Вайна, як ні кажы, а нейкі ратунак.

І раптам ён успомніў пра Каршукова. «Дзе ён цяпер? Папіў, гад, крыві... Пачакай жа, дай бог сустрэцца!»

Думка апякла, прыдала сілы. Сідаронак пайшоў па вузкай сцяжынцы ў жыце. Сутоньвалася. У жыце крычала перапёлка. Удалечыні чорнай хмарай ляцела на начлег вараннё.

Над лесам, разразаючы прыцемкі, узляцела ракета, асвятліўшы жыта і поле зялёным святлом. Калі яна пачала гаснуць, Макар убачыў трох, што выйшлі яму насу-

страч з-за кустоў. Ён хацеў кінуцца ў жыта, але стрымаўся.

Людзі падышлі, павіталіся.

— Хто такі?

— Чалавек,— насцярожана адказаў Макар, думаючы, што ўцячы ўжо не зможа.

— А куды ідзеш?

— Дамоў.

Адзін з іх зняў Макараву шапку.

— Салдат? Дэзерціруеш?..

— Не,— адказаў Макар і тут жа вырашыў, што лепей прызнацца.— У турме быў.

— А-а-а... Палітвязень, значыць. Ну-ну, ідзі. Бальшавікі вунь за Урал бягуць, спяшаюцца вашы месцы заняць. Вось так.

Яны пайшлі, у лад грукаючы ботамі. Макар ашалела глядзеў ім услед.

«Няўжо немцы? Тады, лічы, выбавіўся з турмы».

Ён павесялеў. Стомы як і не было.

За ўсю дарогу да Цішкаўкі Макар Сідаронак запомніў толькі сустрэчу з трыма пераапранутымі немцамі. Далей ужо нічога не помніў: ні дарог, ні сцежак, ні вёсак, якія ён абыходзіў, нібы зацкаваны воўк. Болей бег трушком, угнуўшы галаву ў плечы.

Пад раніцу спыніўся на цішкаўскім могільніку. Абапёрся аб жалезны крыж, адсопваючыся, углядаўся ў абрысы роднай вёскі. Яшчэ толькі пачынала шарэць, і ўсё навокал патанала ў мяккіх, шызых прыцемках, але Макаравы вочы бачылі і праз гэтую смугу: калодзеж з вечкам, дзве маладыя бярозкі пад акном, пахілыя веснічкі, якія ён не дарабіў, сенцы без дзвярэй, у якія зімовым часам наносіла снегу. Бачыў тое, што ніяк не мог убачыць адсюль і ў гэтую пару сутак. Але верыў сабе, і ад гэтай веры натруджанае дарогай бурна білася ў грудзях сэрца.

Крыху аддыхаўшыся, ён паволі пайшоў у вёску. І толькі тады, як перайшоў невялікі равок і ступіў на былы калгасны двор, цяпер апчэраны ўсімі дзвярыма, адчуў, што дома. Як ні хацеў патапіць яго Каршукоў, а ён выжыў і вярнуўся да сваёй хаты. Ага, вярнуўся! Выкусі вось! Цяпер не я цябе, а ты мяне баяцца будзеш.

Навокал панавала цішыня. Сідаронак, абіваючы буйную расу з бульбоўніку, бег наўпрасткі да хаты. Саладка-

ваты пах бульбоўніку і ўгноенай зямлі ап'яняў, аж кружылася галава.

Дзверы былі зачынены. Макар пастукаў — ніхто не азваўся. Падбег да акна і з усяе сілы загрукаў у шыбу. Водгулле рэхам пракацілася па вёсцы. На суседнім двары забрахаў сабака. Сідаронак адскочыў за бэзавы куст, быццам баяўся, што яго хтосьці зловіць за руку. Выглянуў на вуліцу — нідзе нікога. Абышоў вакол хаты і зноў спыніўся пад дзвярыма. І толькі цяпер заўважыў: хата замкнута вялізным замком, якім замыкаюць конскія жалезныя путы.

«Збегла, халера, з ім уцякла!..» — мільганула думка. А другая балюча кальнула ў грудзі: «Сабінку, дачку, звезла...»

Ён сеў на парог сенцаў, абшчапіў галаву рукамі, да крыві закусіў губу. Думак не было. Толькі звінела ў галаве, нудна, надакучліва.

Кіламетры за два адсюль, у Пальгуях, жылі яго сястра і маці, і ён парашыў ісці туды. Падняўся. Насупраць па двары хадзіў Парфіл Бабраўнічы, зграбаў граблямі трэскі.

— Вярнуўся? — запытаў ён так, быццам Макар толькі ўчора адлучыўся з дому.— А твая з Каршуковым махнула. Кароў калгасных пагналі. Ды ці праскочаць... Позненька Станіслаў Цітавіч спахапіўся. Баюся, пяроймуць іх немцы.

Сідаронак вылаяўся.

— Сабіну яна... таксама з каровамі перад сабой пагнала?

— Дачка ў тваёй маці. Ну, а ты як? Адпусцілі?

— Адпусцілі... Так адпусцілі, ледзь галаву прынёс.

...Маці ўзрадавалася, выцірала фартухом слёзы. Сястра чамусьці дрыжала, ці ад ранішняй свежасці, ці ад нечаканай сустрэчы. Сабіна спала моцным, ранішнім сном. Калі мінулася першая неразбярыха бесталковых пытанняў і такіх жа адказаў, кароткіх, наспех, Макар падняўся з лавы, пагразіў кулаком у акно.

— Не дай бог вернецца Каршукоў —скуру з жывога здзяру...— Ён скрыгатнуў зубамі і крыж-накрыж ударыў сябе рукамі ў грудзі.

Сястра скаланулася, паспешліва захінулася ў хустку. Маці замерла ля печы, потым кінулася да Макара:

— Сыночак, сыночак, родненькі, што ж ты гаворыш? У нашым жа родзе ніколі забойцы не было. Засцеражы цябе божа ад такога!

Яна тройчы перахрысціла сына дрыжачай рукой і раптам гнеўна, без праваслаўнага смірэння задыхана крыкнула:

— Пракляну, калі што зробіш! На ўсё жыццё пракляну!

## 15

З роты, якая была пакінута прыкрываць адыход нашых войск — на скрыжаванні шашы і чыгункі,— засталося трое: сяржант Васіль Дзячкоў і радавыя Цімохін і Саханчук. Яны трымаліся да ночы. Загаду на адыход не было. Дзячкоў разумеў, што і не будзе,— варожыя войскі абышлі іх, прасунуліся далёка на ўсход. Дзячкоў загадаў адыходзіць, прарывацца да сваіх.

За кароткую летнюю ноч яны прайшлі кіламетраў дваццаць пяць, прабіраючыся на ўсход па палявых дарогах, старанна абыходзячы вёскі. Дзень адлежваліся ў лесе. Ноччу пайшлі далей. Фронту не было чуваць. Варожыя войскі таксама не сустракаліся. Глуха і ціха.

Раніцай яны зайшлі на хутар. Гаспадар, чалавек у гадах, запрагаў каня ў саху — збіраўся акучваць бульбу. Саха была старэнькая, як з музея. Ён сказаў, што немцаў тут не было, а па шашы, кажуць, прайшлі яшчэ заўчора. Ён падбадзёрыў акружэнцаў, запэўніў іх, што можна смела ісці да фронту і днём. Тут вясковая глухамань і бездарож, а немцы, кажуць, ездзяць толькі па вялікіх дарогах.

Дзячкоў вырашыў, што фронт у такім разе яны могуць насцігнуць наступнай ноччу. А там будзе відаць.

Вёсачак шэсць яны прайшлі без аніякага клопату, а ў сёмай напароліся на нейкі абоз пад аховай бронемашыны. З яе і ўдарыў па трох акружэнцах буйнакаліберны кулямёт. Усе трое ўрассыпную кінуліся да лесу. Мясцовасць тут была моцна перасечаная, што і выратавала Дзячкова і яго сяброў. Далей ішлі з асцярогай і не па дарогах, паўз іх.

Неўзабаве яны выйшлі да ракі, неглыбокай, але ў стромкіх берагах. На тым беразе, за мостам, стаяў на пагорку наш танк са знесенай вежай і перабітай гусеніцай. Дзячкоў павёў групу ў абход, цераз лес.

На ўзлеску, непадалёк ад падбітага танка, яны ўбачылі танкіста на плашч-палатцы. Той ляжаў на спіне, па ягоным твары поўзала муха, ён не адганяў яе.

— Кінулі, сволачы,— сказаў Дзячкоў.— Давайце пахаваем па-чалавечы.

— Глядзі, каб саміх тут не пахавалі,— адказаў Саханчук.— Яму ўжо ўсё адно...

Цімохін рашуча запярэчыў:

— Усё, ды не адно,— і пайшоў да забітага.— Браточкі, ён жа жывы!..

Танкіст адным вокам мёртва глядзеў у неба, але ягоныя пальцы варушыліся, цягнуліся да пустой кабуры.

Дзячкоў адвінціў каўпачок біклагі, стаўшы на калені, загадаў Цімохіну:

— Патрымай галаву. Я паспрабую даць яму спірту.

Разбаўлены спірт выдалі роце разам з пажоўклым салам, сухарамі, цукрам і махоркай. Ён так і застаўся ў біклагах — было не да яго...

Танкіст прагна хапіў спірту, задыхнуўся, закашляўся, а хвіліны праз тры ачомаўся, абвёў незнаёмыя яму твары памутнелым яшчэ позіркам.

— Дзе я? — спытаўся ён слабым голасам.

— Не ў гасцях у цешчы,— пажартаваў недарэчы Саханчук.

— Сяржант,— папрасіў танкіст Дзячкова,— будзь чалавекам, прыстрэль мяне. А камдыву трыста шаснаццатай скажы, што капітан Баталаў заданне выканаў...

— Кінь, капітан, казаць глупства,— сурова сказаў Дзячкоў.— Мы цябе не пакінем...

Дзячкоў добра ведаў, што капітан Баталаў ускладняе іхнюю задачу як найхутчэй выйсці за лінію фронту, але сумленне не дазваляла яму зрабіць іначай.

Кіламетры тры яны неслі Баталава на плашч-палатцы. Змагліся, і кожны цяпер разумеў, што прабіцца за фронт з цяжка параненым ім не ўдасца. Трэба было шукаць нейкае прыстанішча: часовае, можа, для іх, доўгае — для капітана.

У разведку Дзячкоў паслаў Цімохіна. На Саханчука не спадзяваўся.

Цімохін вярнуўся пад вечар.

— Ну што? — спытаўся Дзячкоў.

— Справы не вельмі каб... За лесам, кіламетраў за пяць, вёска Высачаны. Днём у ёй бываюць немцы. Ды і ляжыць яна на бойкім шляху. За ёй — мясціны бязлесныя. На поўнач ад яе некалькі хутароў. На поўдзень многа вёсак. Немцы заязджаюць і на хутары. Так што пакінуць

там капітана не выпадае. І несці яго — верная справа патрапіць немцам у лапы...

— Уліплі,— буркнуў Саханчук.

— Што ж рабіць? — спытаўся Дзячкоў.

— Тут вось якая са мной гісторыя здарылася. Назад я вырашыў махнуць напрасткі. Патрапіў у нейкі роў. Думаў, не выберуся. Дужа ён густа зарос хмызнякамі. У самым гушчары мне трапіліся дзве зямлянкі. Замаскіраваны даволі ўмела. Можна падумаць, што рабілі вайскоўцы. Але навошта?.. Глухамань жа беспрасветная.

— Ты што, можа, надумаў у тыя зямлянкі залазіць?— спытаўся Саханчук.

— А чаму не?..

— Калі іх нехта рабіў, дык ён у іх і прыйдзе. А мне не хочацца з імі сустракацца...

— Наадварот,— падтрымаў Цімохіна Дзячкоў.— Не чужыя ж іх рабілі, а хутчэй за ўсё свае. Так што пажывём у іх, пакуль капітан крыху ачуняе або мы яму прытулак знойдзем...

Да зямлянак у рове яны дабраліся позна ноччу. Днём усе трое наведаліся на хутары, прынеслі адтуль хлеба, бульбы, яек і два гладышы маслёнкі.

Баталаў ляжаў непрытомны.

— Трэба ісці ў Высачаны,— падаў думку Дзячкоў.— Вёска вялікая, не можа быць, каб у ёй не знайшоўся які лекар.

— Пачакаем да заўтра,— параіў Цімохін.— Ісці трэба пад вечар. А сёння я паназіраю за Высачанамі. Як да іх зручней падступіцца...

У Высачаны Дзячкоў прыйшоў, калі вечарэла. Па раўчуку, як і раіў Цімохін, бо сапраўды лепшага падыходу да вёскі не было, ён дабраўся да агарода, шмыгнуў на двор. Пастаяў крыху, слухаючы пругкую вясковую цішыню, зайшоў у хату.

За сталом, горбячыся над міскай, сядзеў пажылы мужчына. Прыўзнятая рука з лыжкай замерла. З лыжкі вылівалася на стол кіслае малако.

Ля печы застыла жанчына. Вочы глядзяць здзіўлена, з асцярогай.

— Не чакалі? — хітравата прыжмурыўшы вочы, знарок весела запытаўся Дзячкоў.

— Госпадзі, няўжо нашы вярнуліся!..— выдыхнула жанчына, пазіраючы на сяржанцкія трохкутнічкі, што ярка blішчалі ў змроку.

— Думалі, не вернемся? Вярнуліся.— На Дзячкова напала гэткая гарэзлівая весялосць. Хоць на хвіліну — ды герой!

Гаспадар, аднак, радасці не выказваў. Хмурачыся, паглядаў на Дзячкова спадылба.

— А дзе ж астатнія? — запытаў ён.

— Я, дзядзька, разведчык,— схлусіў Дзячкоў.— Мне помач патрэбна і верныя людзі. Сказалі, што вы паможаце. І людзі ў вас на прыкмеце ёсць.

Дзячкоў адчуваў, што гаворыць лішняе, але неяк было няёмка прызнацца, што схлусіў.

А тут і гаспадыня памагла:

— Пакліч, Даніла, Віктара Васільевіча. Няма чаго яму хавацца.

— Давай сюды свайго Віктара Васільевіча,— падтрымаў Дзячкоў.— Няма чаго яму хавацца.

— Здурэла ты, Анюта. Якога яшчэ табе Віктара трэба. Ну, прыйшлі... Ну, добра...— Ён падняўся з-за стала і паволі пачаў падыходзіць да Дзячкова.

Цяпер ужо здзівіўся Дзячкоў. Чаму раптам так узгарэўся ціхмяны з выгляду гаспадар? Ці не камандзіра якога хаваюць? Во здорава было б!

Стары ішоў насустрач, расставіўшы рукі, быццам хацеў абняць свайго вызваліцеля, і раптам не па гадах спрытна заламаў Васілёву руку за спіну.

— Нясі вяроўку! — крыкнуў жанчыне.

Дзячкоў паспрабаваў вырвацца, але гаспадар трымаў яго моцна.

— Пусці, дзядзька,— хрыплым голасам папрасіўся Васіль.— Я палонны... Пажартаваў я.

Гаспадыня звязала рукі. Вяроўка балюча ўпілася ў цела.

— Выйдзі, Анютка, на хвілінку. Мне з ім сам-насам пагаварыць трэба.

Жанчына кінула спалоханы позірк на сяржанта.

— Данілачка, баюся я...

— Нічога, ідзі.

Дзячкоў стаяў пасярод хаты са скручанымі рукамі. «Што ён хоча?» — мільганула ў галаве, як толькі за жанчынай зачыніліся дзверы. Гаспадар наблізіўся ўпрытык, зверавата зірнуў у твар.

— Дзе ж твая зброя, разведчык?

— Развяжы рукі, тады ўбачыш, дзе зброя.

— А ты так пакажы.— Гаспадар тырчком ударыў пад дыхавіцу.

Дзячкоў ахнуў, упаў, як сноп ад ветру.

— Дзядзечка, родненькі, адпусці,— крыху ачомаўшыся, закленчыў Дзячкоў.

— Я цябе адпушчу, гада!.. Перш чым немцам здаць, так распішу — і да вяселля не дажывеш! — Гаспадар біў кароткімі, рэзкімі ўдарамі.

Дзячкоў ашалела круціў галавой. Схавацца не было як. Удары сыпаліся часта. Паспяваў толькі вымаўляць адно слова:

— Дзядзечка... Дзядзечка...

«Заб'е, гад,— як пра нешта далёкае падумаў Дзячкоў.— Хоць бы ўжо немцы, а то свая сволач...»

Лютая ярасць паставіла Дзячкова на ногі. Свой! Ах ты, гад! Злаўчыўшыся, ён пхнуў старога нагой, крыкнуў, забыўся пра ўсё:

— Бі, гад! Кулак, здраднік, у бога маць!.. Дабяромся да вас, фашысцкае ахвосце. Страляць, паразітаў, будзем!.. Адразу да сценкі.

Ён чакаў, што гаспадар зноў ударыць яго, і ўжо гатовы быў абараняцца нагамі, галавой, зубамі. Але той нечакана апусціўся на падлогу і, пазіраючы на раз'ятранага Васіля, выставіў наперад рукі, як быццам баронячыся ад сяржанта.

— Пачакай, ты хто будзеш?

— Акружэнец. Сяржант. Вочы табе павылазілі, ці што, у бога...— І Дзячкоў зноў загнуў мацюка, у якім памянуў усіх святых і праведных.

— Свой, каб ты спрахнуў! — падскочыў стары і пачаў развязваць вяроўку.— Анюта, хадзі!..

Жанчына адчыніла дзверы, баязліва прасунула галаву. Дзячкоў выціраў далоняй рот.

— Ну, малец, шчасліва ты адбаярыўся. Так я цябе і скалечыць мог... Накармі сяржанта, Анютка.

Дзячкова пасадзілі на кут. Сёрбаючы халоднае, прапахлае пограбам малако, Дзячкоў слухаў Данілу Сапуна і памалу пачынаў разумець, як няўдала ён пажартаваў.

— Ты, малец, таго, не вельмі крыўдуй на мяне. Час цяпер сур'ёзны, жартаваць няма калі. Надоечы ў Міхаевічы заявіліся вось так, як і ты, трое. У форме, чын па чыну. Зайшлі да былога дырэктара школы. Прыкінуліся разведчыкамі. Па-руску, брат, лепей за мяне гавораць. Сёе ды тое: дзе немцы стаяць, ці ёсць хто з камуністаў у вёс-

цы... А хто сваім не прызнаецца? Дырэктар усё начыстату і выклаў. Добра яшчэ, што нікога з камуністаў у вёсцы не было. На фронт пайшлі. А то магло горш быць. Пакарміў ён іх, як вось мы цябе. Пачалі развітвацца. «Праўдзі нас, кажуць, да могілак. Хочам там месца для батарэі аблюбаваць. Сёння ўначы прывязём яе». Ну і пайшлі з ім. А яшчэ праз паўгадзінкі жонка пачула з могілак немы крык. Муж крычыць! Яна туды. Бачыць, тыя трое над мужам нахіліліся і нешта чырвонае з яго цягнуць. Яна так і самлела. Што ж ты думаеш? Жывому ўспаролі жывот і кішкі вакол шыі абматалі. Гадзіны тры, бедны, пакутаваў, пакуль памёр. А яны стаялі побач і рагаталі. Гэта ж звяры, а не людзі.

Дзячкоў адсунуў міску. У грудзях знібела, і зубы ляскалі, як на холадзе.

— Выдумка, можа?

— Якая там выдумка! Праўда.

— Праўда, сыночак,— пацвердзіла гаспадыня.

— Вось я і падумаў, ці не прыйшоў ты мяне выпрабоўваць? Б'ю і дзіўлюся. Немец даўно ўжо не вытрываў бы, прызнаўся б, хто ён. На якое ліха яму пабоі цярпець? А ты маўчыш. Ну, думаю, папаўся цвёрды, а я цвярдзей за цябе. А як мацюкнуўся ты — бачу, памылка выйшла. Дарма толькі стараўся. Усё роўна яшчэ давядзецца немцам сваю адданасць даказваць.

— А гэты Віктар Васільевіч хто будзе? — не ўтрымаўся Дзячкоў.

— Сусед наш,— абыякава адказаў Даніла і перавёў размову на іншае: — Дык, значыць, за фронт пуць пракладваеш?

Дзячкоў расказаў пра Баталава, пра сяброў, што засталіся ў лесе.

— Доктара б знайсці. Хай паглядзеў бы...

— Доктар у нас ёсць.

— Далёка ён?

— Збегай, Анюта, да Герасіменяў. Няхай прыйдзе Людмілка. Толькі старым не кажы нічога.

Праз ноч яны адправіліся ў лагер. Дзячкоў дыбаў наперадзе, нёс незапалены ліхтар. За ім басанож, лёгка, як на прагулцы, крочыла Людміла Герасіменя. Апошнім ішоў Даніла, цягнуў на плячы цяжкую, з чырвоным крыжам сумку і вялізны кошык з правізіяй.

Над лесам слаўся туман. У рэдкія прасветліны відаць было неба, блеклае, але чыстае, без адзінай хмурынкі.

Буйная раса халадзіла ногі. Сагравала толькі шпаркая хада.

У зямлянцы спалі. Цімохін мармытаў у сне. Дзячкоў асцярожна ткнуў яго ботам пад бок. Салдат ашалела ўскочыў. Прывычна шукаў ля бока вінтоўку. Угледзеўшы Дзячкова, пазяхнуў:

— А хай цябе, перашкодзіў... Такі, брат, сон бачыў...— і, заўважыўшы чужых, змоўк.

— Хто хворы? — запыталася Людміла.

— Капітан. Вунь там, у куце,— адказаў Цімохін.

Даніла запаліў ліхтар. Падняўшы перад сабой, прыглядаўся да параненага. Баталаў ляжаў на баку. Не спаў.

— Памажыце разбінтаваць,— папрасіла Цімохіна Людміла.

Прачнуўся Саханчук, падазрона паглядзеў на Данілу, пасля на Герасіменю, запытаўся ў Дзячкова:

— Хто яны? Не выдадуць?

Дзячкоў прамаўчаў.

Герасіменя асцярожна змотвала закарэлыя бінты. Цімохін трымаў нагу Баталава навісу; яго нудзіла ад смярдзючага, прыкрага паху жывога гніцця.

Сцягно Баталава — суцэльная рана, чырвоная, з чорна-сінімі краямі. Людміла асцярожна кранула нацягнутую і таму тонкую, як папера, скуру. Баталаў застагнаў.

— Цярпіце, капітан,— сказала Герасіменя.

— Ёсць цярпець,— адказаў Баталаў і моцна сціснуў зубы.

— Кацялок ёсць? Зараз жа вады накіпяціць,— загадала Герасіменя Саханчуку.

— Паліць касцёр небяспечна. Заўважыць могуць,— не пагадзіўся той.

— Спыніць размовы. Рабіце, што загадана,— павысіла голас Герасіменя.

Саханчук моўчкі ўзяў кацялок, пачаў спускацца да ручая. Дзячкоў распаліў агонь. Людміла не спяшаючыся дастала з сумкі пінцэт, марлю, некалькі індывідуальных пакетаў, бутэльку хлараміну.

«Бач ты, якая спакойная,— падумаў Даніла.— Вось табе і Людмілка... А Валенда яшчэ збіраўся яе да сценкі ставіць».

Узыходзіла сонца, і водсвет ад яго промняў пранікаў у расчыненыя дзверы зямлянкі. Герасіменя загадала вынесці капітана наверх. Паклалі яго на тую ж плашч-палатку, на якой прынеслі сюды.

— Маці раджала — цярпела, цяпер ваша чарга цярпець,— сказала Герасіменя, стаўшы на калені.— Будзе вельмі балюча.

— Цярплю, доктар. Для вас пацярплю.

У Герасімені ўздрыгнулі вейкі, левае брыво зламалася, выгнулася.

— Будзеце цярпець для сябе.

— Ну і дзеўка!..— Цімохін глядзеў на Людмілу поўным захаплення позіркам.— Дзе ты яе, Васька, адкапаў?

— Гэта вось ён,— кіўнуў Дзячкоў галавой у бок Данілы.— Спачатку аддубасіў мяне, пасля з гэтай красуняй звёў.

Цімохін недаверліва хмыкнуў.

— Загінаеш...

— Запытайся сам.

— Трохі было,— прызнаўся Даніла.

Цімохін спачатку рагатаў, пасля спахмурнеў.

— Жывога рэзалі? — Ён як бы не верыў усяму, пра што расказваў Дзячкоў.

— Думаеш, мёртвага?

— Ды іх жа, гадаў, як сабак, біць трэба.

Баталаў сціскаў зубы, закусваў ніжнюю губу да крыві.

— Доктар, не магу болей,— прасіпеў ён.

На ягоным ілбе — густая раса.

— Можа, яму спірту даць? — спытаўся Дзячкоў.

— Калі ёсць, дайце...

Баталаў прагна прыпаў вуснамі да біклагі. Выпіў усю і раптам заснуў неабудным сном.

— Патрымайце яго,— папрасіла Герасіменя, звяртаючыся да Дзячкова як старэйшага па званні сярод траіх.

Людміла Герасіменя зноў узялася за скальпель. Спрытна, дакладнымі рухамі тонкіх далікатных пальцаў рабіла аперацыю.

## 16

Апошнія тры-чатыры дні Валенду апанавала ліпучая санлівасць. Не паспее пакласці галаву на падушку, як вочы зліпаюцца і адразу ж ахоплівае забыццё. Спіш не спіш — дрэмлеш, глядзіш наяве сны, разумееш, што сны, і верыш ім.

Валенда сніў толькі прыгожае: нарады міліцыі, сходы, дэманстрацыі ды яшчэ Галая, які ўласнаручна падпісваў яму загады.

Сон ратаваў Валенду ад суму, адзіноты, панурых думак, ад усяго таго, што было звязана з гэтым вымушаным хаваннем пад застрэшшам чужога хлява. Да вайны Валенда не меў спакою ні ўдзень ні ўночы. Яму падабаўся няспынны тлум міліцэйскага аддзялення, вечныя трывогі, допыты, якія хоць і выматвалі нервы, але прыносілі задавальненне.

У міліцыі ён быў гаспадар, начальнік. Яго слухаліся. Самы апошні злодзей стараўся спадабацца яму, падлізваўся, каб прытупіць Валендаву пільнасць. Было радасна разгадваць хітрыкі зладзеяў — Валенду не правядзеш. І таму ён вырастаў у сваіх вачах, здаваўся сам сабе разумным, хітрым, прадбачлівым.

Свет ён бачыў праз міліцэйскія рапарты і пратаколы, меркаваў аб ім па нумарах казённых шэрых папак. Перажыткаў мінулага было мнагавата. Але Валенду гэта не трывожыла. Калі-небудзь усіх перавыхаваем!..

Цяпер не было прывычных спраў. Яго агортвалі адзінота і сум. Словам перакінуцца няма з кім. З дня на дзень Валенда чакаў Галая. Хутчэй бы на волю. Надакучыла сядзець, як барсуку ў нары.

Днём трэба было ляжаць на хляве. Рызыкаваць Валенда не любіў. Ён не хлапчук, разумее сваю адказнасць.

Ноччу часам злазіў з гарышча, стаяў на двары, услухоўваючыся ў насцярожаную цішыню вёскі. Хацелася штосьці рабіць, але дырэктыў на гэта не было. Трэба чакаць Галая.

Валенда спаў. Ранішні сон моцны, салодкі. Калі Даніла падняўся на вышкі, дык убачыў, што Валенда ўсміхаецца ў сне і варушыць таўставатымі вуснамі.

— Віктар Васільевіч,— пакратаў Валенду за плячо Даніла. Той, мабыць, пачуў голас, але не прачнуўся.— Паслухай, што са мной было.

Валенда адкрыў вочы, пазяхнуў.

— Ну, што табе? Снедаць ужо?.. А я сон бачыў. Першамайскую дэманстрацыю...

— Разумееш, Віктар Васільевіч, іх у лесе чацвёра. Акружэнцы. Сабіраюцца за фронт. Толькі ў іх капітан паранены.

Валенда нарэшце зусім прачнуўся. Ляжала сена, і ад яго ішоў духмяны водар. Пад страхой вісела павуцінне — вялізны ажурны круг, пранізаны сонцам.

— Хто ідзе за фронт?

— Дык я і кажу, нашы байцы і капітан.

— Дзе яны? — Валенда падхапіўся, выцяўся галавой аб крокву.— Фу чорт!..

— У рове за борам.

Санлівасць, абыякавасць як рукой зняло.

— Што ж ты мне ўчора не сказаў. Капітана да цябе перанясём, а самі — за фронт. Не векаваць жа мне тут. Колькі чакаю — ні слыху ні дыху. Э-э-э, Галай з Тышкевічам не дурні, даўно за фронт махнулі, а я, дзівак, чакаю. Не, хопіць... Вядзі, брат, мяне да салдат.

З абрывістых слоў Валенды Даніла нарэшце ўразумеў, што ягоны госць невыпадкова хаваўся. Няўжо быў пакінуты тут? Чаго ж ён тады маўчаў?

— Васільевіч,— перапыніў Даніла Валенду,— пра каго гэта ты? Нешта не ўцямлю я.

Валенда абмяк, пасля набычыў шыю, нядобра скасавурыў жаўтлявыя вочы.

— Ты вось што, Даніла, забудзь на ўсё. Так і табе і мне лепей. А то, чаго добрага, і не пагляджу на твае заслугі. Запомні адно: мне за фронт — во як трэба.

— Не палохай, Віктар Васільевіч, адной мы з табой вяровачкай звязаны. І наконт таго, што ты прагаварыўся,— не турбуйся. Магіла... А за фронт яшчэ паспееш. Танкіст хворы. Вадзіў да яго Людмілу Герасіменю. Сказала, што не раней як праз два тыдні зможа ісці.

— Якую Людмілу? Тую самую сволач, што з немцамі рагатала? Ды ты так і да мяне яе прывядзеш.

Валенда ўхапіў Данілу загрудкі. Той спакойна адарваў Валендаву руку.

— Не шалей, Віктар Васільевіч.

— Эх ты... Прадасць яна іх. Вось пабачыш, прадасць...

Даніла сумеўся. Валенда гаварыў так упэўнена, быццам штосьці ведаў пра Герасіменяў. Ліха іх разбярэ, што ў людзей наўме.

Успомніў, як Герасіменя доўга не ішоў у калгас. Як яго былі абклалі цвёрдым заданнем. Тады адразу падаў заяву. Значыць, ратаваўся, а сам, можа, злосць таіў. Людміла, праўда, за бацькоў не адказвае. Яна вучылася. Ды зноў жа яблыка ад яблыні далёка не падае. Дзе яна была, што рабіла,— пацёмкі. З трывогай у голасе запытаўся:

— А ў цябе што, ёсць падазрэнне?..

Валенда шматзначна памаўчаў. Значыць, ёсць. А вораг — ён каварны.

— Сяржант, разумееш, прыстаў, ну, а больш нікога, апроч Герасімені, не было... Аперацыю яна добра зрабіла...

— Глядзі, будзе вам аперацыя... Ты вось што: паназірай за ёю...

— Дабро...

— Ледзь што... Ну, сам знаеш.

## 17

Каршукоў прыгнаў статак у Цішкаўку пад вечар. За чорныя руіны горада апускалася барвовае сонца. Горад адсюль быў відзён добра, як на далоні, і Каршукоў паглядаў на яго, не верачы сваім вачам. Зіхатлівыя калісьці карпусы швейнай фабрыкі цяпер выглядалі рудым страшылішчам. Навокал пустэча. А сярод яе комін, чорны і вельмі высокі.

Ля фермы збіраліся калгаснікі. Людзі хацелі паглядзець бежанцаў, якія вярнуліся нібы з таго свету. Распытвалі, дзівіліся, што статак не толькі не паменшыўся, а яшчэ вырас, хвалілі Каршукова. Але радасці чамусьці не было. Станіслаў Цітавіч адчуваў гэта, і крыху было крыўдна, што ён вось захаваў жывёлу, а людзі як бы і не ацэньваюць гэта.

— Заганяйце ў хлявы. Ды вартавых трэба паставіць,— сказаў ён Яхіму Сапрыку, свайму намесніку.— Заўтра абмазгуем, што будзем рабіць далей. А дзе Пракоп?..

Пракоп Вазняк — загадчык фермы — разам з кладаўшчыком знімалі з павозак бітоны.

— Тут я, Станіслаў Цітавіч,— адгукнуўся ён.— Што загадаеце?..

І тое, што Вазняк, як і да вайны, спытаў: «Што загадаеце?», і тое, што ён, не чакаючы загаду, ужо ведаў, што трэба рабіць (Каршукоў ацаніў яго руплівасць), і тое, што навокал стаялі знаёмыя людзі, з якімі ён разам працаваў усе гэтыя гады,— усё гэта напоўніла Каршукова гордасцю і зноў зрабіла яго ўпэўненым, рашучым.

— Вось што, Пракоп, прызнач пастухоў, і не абы-якіх, а сталых. Статак раздзеліш на чатыры гурты. У кожным пастаў па тры пастухі. Пасвіць давядзецца па гушчарах, так што людзей трэба пабольш.

— Зробім, Станіслаў Цітавіч...

— Чакай. Коней у нас колькі засталося?

— Малавата.

— Возьмеш сабе чатыры кані. Зразумеў? Толькі бяры з горшых. Лепшыя спатрэбяцца на полі. З сенакосам як?

— Ды так, што, лічы, і не пачыналі,— азваўся Парфіл Бабраўнічы.

— Касілкі ўцалелі?

— Быў загад тэхніку знішчыць,— умяшаўся каваль Хведар Вазняк.— Мы сказалі, што знішчылі, але ўсё збераглі. Разумелі, што і да чаго.

Ён падміргнуў, як, бывала, падміргваў Каршукову, калі даставаў недзе лімітаванае жалеза або вугаль.

— Дабро. Тады заўтра ж пачнём касіць. Жыта вунь на падходзе. Касьбу трэба за тыдзень кончыць.

— Пастараемся, Станіслаў Цітавіч.

— Жняяркі рыхтуй і малатарні. МТС цяпер няма.

— Знама. Рухавічок мы прыхавалі. Толькі з гаручым загваздка.

— Знойдзем,— упэўнена адказаў Каршукоў.

Цямнела. Натоўп паступова разыходзіўся. Некалькі жанчын-добраахвотніц памагалі даяркам даіць кароў. З хлява далятала нетаропкая гаворка і звон малака аб вёдры. Толькі цяпер Каршукоў успомніў, што не спытаў пра самае галоўнае — пра немцаў... Ён ужо хацеў запытаць, як яго штурхануў пад локаць Бабраўнічы:

— Станіслаў Цітавіч, ці чуў ты? Сідаронак вярнуўся...

Брыдкая ніякаватасць ахапіла была Каршукова, але ён хутка справіўся з ёю.

— Дзе ён цяпер?

— У Пульгаях... Пагражае ўсё. Кажа, вернецца Каршукоў — сквітаемся... Паасцерагаўся б ты, Станіслаў Цітавіч.

Каршукоў прамаўчаў, думаючы не пра сябе, а пра Ядвісю. «Чалавек, факт, азлоблены. Каб чаго дрэннага не зрабіў Ядвісі. Хай бы да мяне пераходзіла. Толькі цяпер нязручна. Скажуць, каму вайна, а ў іх вяселле... А можа, усё ж сказаць, каб не ішла ў сваю хату? Пачуе Сідаронак, што вярнулася, ноччу прывалачэцца. Хоць чорт яму собіў... Гультай».

Ён так і не вырашыў, як быць з Ядвісяй. Падышоў Сапрыка, завёў гаворку пра тое, як чакалі баёў, а фронту так і не ўбачылі. Ішлі толькі бежанцы, ды адступалі абозы. Немцы за ўвесь час двойчы прыязджалі. Так сабе. Мянялі спірт і цыгарэты на курэй. А за шашой, кажуць, хтосьці падпаліў жыта. Ледзь патушылі. Не зразумець, навошта гэта? Людзям жа жыць трэба...

Каршукоў слухаў уважліва. Падумалася: «Можа, Галай загадаў падпаліць жыта? Не, ён не мог. А можа, Ва-

ленда? Хутчэй выпадак... Немцам ад таго, што жыта спаляць, ніякай шкоды. Цікава, застаўся Галай ці пайшоў? А дзе Самарос? Дарма я тады з ім так гаварыў... Хоць ліха яго разбярэ, што ў чалавека наўме. Прычапіўся са сваімі размовамі».

Жанчыны кончылі даіць кароў. На хаду павязваючы хустку, падышла Ядвіся.

— А мне ўсё яшчэ не верыцца, што дома...— І, не звяртаючы ўвагі на мужчын, дадала: — Можа, правядзеш, старшыня? Адной штосьці страшна ў пустую хату ісці.

— Пачакай, разам пойдзем.

Яны ляжалі ў Ядвісінай хаце на ложку. Каршукоў курыў, пазіраючы на акно, дзе ўсё было заліта блакітным месячным святлом. Ядвіся тулілася да пляча, маўчала. Каршукоў думаў пра Сідаронка. Во каго прынесла не ў час! Сказаў, усчынаючы размову, што вялі яшчэ па дарозе сюды:

— Мне помсціць яму няма за што. А за цябе баюся. Нап'ецца ды ўдарыць... З яго што возьмеш.

— Няхай паспрабуе... Ды ён толькі харахорыцца. Ты яго дрэнна ведаеш. А вось да немцаў можа збегаць.— Яны памаўчалі, потым Ядвіся дадала: — Паслухай, Стась, а што, каб табе першаму да іх пайсці?

— Спачатку прыгледзецца трэба. Спяшацца не варта.

Назаўтра Каршукову абавязкова трэба было пайсці ў Пальгуі. Ішоў ён туды з трывожнай надзеяй, што сустрэнецца з Сідаронкам. Чамусьці цягнула пагаварыць з былым Ядвісіным мужам, а заадно пацікавіцца справамі ў пальгуёўскай брыгадзе.

Макара ён убачыў здалёк. Той ладзіў плот, абчэсваў на калодзе бярозавы кол. «У калгасным гаі бярозкі сек»,— па прывычцы падумаў Каршукоў. Падышоў да Сідаронка:

— Калгасны гай высякаеш?

Сідаронак маўчаў, сціскаючы зубы. Рабіў выгляд, што на Каршукова яму пляваць. А той не адступаўся, хацеў раз і назаўсёды вырашыць свае сямейныя справы.

— Што ж ты дарма дрэва псуеш? Зусім вунь кол ссек.

Макар злосна адкінуў кол, па самы абух загнаў у калоду сякеру.

— Слухай, Каршукоў,— сіпата пачаў ён,— чаго прывалокся?

У яго трэсліся рукі. Ён засоўваў іх у кішэні і зноў вымаў. Аброслы рыжай шчэцццю твар пабляднеў, і без таго маленькія вочы звузіліся.

— У турму ты мяне завошта кінуў? Жонку ўзяў. Што яшчэ хочаш? Душу? На яе...

Ён ірвануў кашулю, агаліў парослыя рудымі доўгімі валасамі грудзі. Сідаронак цяпер быў зусім не страшны, а смешны ў сваім гневе.

— Ты, Макар, не шалей, во што я табе скажу. Кашулі рваць — апошняе дзела... Паркалю цяпер не скора прычакаем. Наконт таго, што я цябе ў турму пасадзіў,— брахня. Сам сеў. А за што — лепей за мяне ведаеш. Пракурору, праўда, я пісаў. Коней не ў мяне, а ў цябе пакралі, і адказваць за іх не Ванька, а ты павінен быў. Пра астатняе нічога не ведаў, а калі даведаўся,— здзівіўся. Цяпер аб Ядвісі. Бабе, сам знаеш, не загадаеш, каго любіць...

Горкая ўсмешка скрывіла Макаравы вусны.

— Выходзіць, кругом вінаваты я адзін. Ігнат не вінават, і Аўгіння — нявінна, а вінавата хата, што пусціла нанач Ігната...

— Тут не хата,— сказаў Каршукоў,— а жызня такі паварот зрабіла.

— Глядзі, каб яна яшчэ куды не зрабіла паварот, твая жызня. Мне цяпер, пасля турмы, сцежак не выбіраць,— табе іх пільнавацца. Ночкі цяпер цёмныя, а сябры-таварышы верныя...— І раптам крута пераміяніў размову: — Думаеш, не знаю, чаго ты паявіўся? Паглядзець захацеў, ці да самай зямлі Сідаронка прыгнуў. А я толькі цяпер плечы распрастаў. Беражыся, Каршукоў, наперад кажу. Каб не наракаў тады... Гэта ты прывык з-за вугла біць. А я ў адкрытую іду...

— Ну, ну, давай...— весела сказаў Каршукоў, хоць апошнія словы Сідаронка прымусілі сумецца.

## 18

Верына цётка, Макрэна, жыла ў Рассеках, невялікай вёсачцы на ўзлеску. Ад Жыжана да Рассек напрасткі пяць вёрст. Сюды і прыйшла Вера, каб пераседзець фронт.

Цётка сустрэла пляменніцу не надта прыветліва. Доўга ківала галавой, падтульвала тонкія, бяскроўныя вусны, коса паглядала на Веру.

— Во, плямутка мая, дажылася ты, ні ў галовы, ні пад бок.

Макрэна як бы спачувала Веры, але за кожным словам адчувалася, што яна асуджае пляменніцу. Раней бы Вера не сцярпела. Было ў запасе ў яе некалькі слоў, што

затыкалі глоткі вось такім недарэчы спагадлівым цёткам. Цяпер жа яна прамоўчала. Няхай пагаворыць.

Верына маўклівасць падахвоціла цётку. «Маладых, здавён вядома, вучыць трэба. А Таклюся хіба чаму навучыць? Па той што хочаш рабі — слова не скажа. Распусціла дзеўку, а цяпер во і самой гора»,— думала Макрэна, пазіраючы на Веру.

Да сваёй старэйшай народнай сястры (Макрэніна маці даводзілася мачыхай Таклюсі) Макрэна адносілася крыху з пагардай як багацейшая і крыху шчаслівейшая, але і шкадавала яе. Свая ўсё ж. Верай яна нават ганарылася. У людзі выбілася. Толькі з народам суровая. Гэта Макрэна не ўхваляла. Сама яна не замуціла вады нікому.

Падаючы снедаць, цётка не ўтрывала:

— З людзьмі, плямутка мая, па-харошаму жыць трэба. Усіх на свой капыл не павернеш. Начальства вунь села на поезд і паехала, а табе з тымі, каго цвёрдым заданнем абкладала, кожны дзень давядзецца сустракацца. Сказана ж: не капай яму другому, бо сам у яе ўвалішся.

Такая размова для Веры, як вострый нож у сэрца. Развяла цётка бабскія антымоніі. Ну і моцна ж сядзіць у людзей рабскі дух. Але змоўчала. Не да таго цяпер.

— Жыць жа як думаеш? — не сціхала Макрэна.— Матцы адной з гаспадаркай не ўправіцца. Ці, можа, зноў свайго сельсавета чакаеш?..

— А думаеш, немцы тут навекі?

— Калі ж іх выганяць? Яны вунь куды дапялі. У тую вайну і то так далёка не заходзілі.

— Табе ўсё хочацца да старога прымярацца. Пагоняць твайго немца, пачакай.

— Ён такі мой, як і твой. Толькі вось я ў сваёй хаце, а ты з-за свайго языка хавацца мусіш.

— Хаты шкада?..

— Ды жыві. Ці ж я пра хату? За розум трэба брацца. Дужа ты яршыстая, таму і замуж не ідзеш.

«Ну, раз пра замуж пачала — цяпер яе не спыніш»,— падумала Вера і пастаралася не слухаць.

Цётка не дала Веры заседжвацца ў хаце. Вайна вайной, а работу спраўляць чорт не паможа. Папрасіла выпалаць граду. Потым падвярнулася яшчэ работа. І так да ночы.

Без прывычкі ў Веры балелі плечы, ныла паясніца. «Не дай бог Галай затрымаецца, дык здохнеш тут ад работы»,— засынаючы, падумала Прусава.

Немцы ў Рассеках не паяўляліся. Вёска ў баку ад да-

рог. З поўначы лес. З поўдня грэбля. На матацыклах сюды не праедзеш.

Вера хутка асвойталася. Здавалася, нішто асабліва не змянілася. Тыя ж людзі, тое ж поле. А тады на гары яны спрачаліся, як лепей перачакаць фронт. Смешна. Каб ведаць, дык прыйшлі б у гэтыя самыя Рассекі і перачакалі б. Але ж думалася, што фронт, як у тую вайну, пойдзе — салдат пры салдаце. А тут праскочылі немцы па шашы ды па дарогах — вось і ўвесь фронт.

Мусіць, праз тыдзень Вера запыталася ў цёткі:

— Не ведаеш, ці ёсць у вас камсамольцы?..

Цётка, занятая справай, адмахнулася.

— Мусіць жа, ёсць. А табе навошта?..

— Так... Цікава...

Камсамольцаў аказалася трое: дзве дзяўчыны і хлопец. Праз Макрэнінага сына Ігната наказала, каб камсамольцы па адным прыйшлі ў лес, да вывернутай бурай яліны. Месца гэта Прусава аблюбавала зараней.

У лесе душна, ціха. Пад нагамі трашчала igліца, перасохлая за гэтыя гарачыя дні. Ля вываратня гулі пчолы. Мабыць, недзе непадалёк быў чыйсьці вулей. Вера прысела за вываравень ля густога куста пад'ядлоўца. Пачала думаць над тым, што скажа камсамольцам. У думках усё было гладка.

Дзяўчаты прыйшлі адразу ўдзвюх. Баязліва азіраліся, бо не ведалі, хто і навошта іх кліча. Убачылі Веру, здзівіліся.

— Ой, а мы думалі, хто кліча... Думалі, жартуе хто з хлопцаў.

— Сядайце... Цяпер не да жартаў.

— А што тут будзе? — запыталася адна з іх, зусім яшчэ дзяўчынка.

— Дазнаецеся пасля, калі ўсе збяруцца,— сказала яна, захоўваючы таямнічасць.

Так было калісьці, калі сабіралі іх, сельсавецкіх актывістаў, у пачатку трыццатых гадоў. Яны тады не пыталіся, чаго іх выклікаюць праз ноч. Відаць, трэба. Пра ўсё дазнаваліся пасля, калі хтосьці з адказных таварышаў выступаў з прамовай.

Веры такая тактыка падабалася. Другой яна не ведала. Дзяўчаты пераглядаліся, баязліва ціснуліся адна да адной. Не разумелі, каго чакае Прусава, што ёй ад іх трэба.

Хлопец прыйшоў не адзін. Прывёў яшчэ двух. Веры гэта не па душы. Анархіст. Сказана было аднаму прыйсці,

а не паслухаўся. Думала, што рабіць цяпер. Хто іх ведае, што за хлопцы.

Дзяўчаты пажвавелі. Дзівіліся, што такая нечаканая сустрэча выйшла. Усе свае, а як бы чужыя.

Прусава адным позіркам спыніла размовы. Загадала:

— Сядайце, калі прыйшлі.

Хлопцы засталіся стаяць. Усёй паставай паказвалі, што сядзець ім няма часу.

Веру слухалі ў глыбокім маўчанні. Яна хвалявалася, лавіла іх позіркі і таму хутка адчула, што прамовы не атрымліваецца. Словы былі каструбаватыя, цяжкія і зусім не тыя, якія хацелася сказаць. Недзе ў сярэдзіне падрыхтаванай загадзя прамовы Вера са страхам падумала, што не ведае, куды ёй скіраваць моладзь. Раней кожнае выступленне канчалася канкрэтна і ясна: уступайце ў калгасы, падпісвайцеся на пазыку, усе як адзін — на суботнік, заўтра дружна выходзім на асушку балот... Словы вязаліся са справай і былі патрэбны, каб падняць людзей на іх вырашэнне. Цяпер яны здаваліся лішнімі, пустымі, бо за імі Вера не бачыла той аголенай канкрэтнасці, да якой прывыкла за гады работы ў сельсавеце.

Гэта збянтэжыла яе. Яна пачала шукаць у думках, што параіць гэтым хлопцам і дзяўчатам. Напісаць лістоўку? Пайсці па вёсках праводзіць гутаркі? Збіраць зброю? А дзе яна? Стварыць падпольную арганізацыю? Дык арганізацыя павінна штосьці рабіць.

Яна закончыла прамову нечакана і адчула, што замарылася як ніколі.

Дзяўчаты хавалі вочы. Хлопцы перагаворваліся. Усе былі чымсьці прыгнечаныя.

«Сарвалася,— роспачліва падумала Вера.— Не прыгодная я да такой работы. Так і скажу Галаю».

Ёй стала шкада сябе і вельмі прыкра, што не ўлічыла свае сілы. Падвяла таварышаў. На яе ж спадзяюцца. Баявая адзінка! Вось табе і баявая...

Маўчанне зацягвалася. Вера не ўмела парушыць яго. Здавалася, тут патрэбны словы, каб працялі чалавека наскрозь.

— А з параненымі што рабіць?

Пытанне прагучала нечакана, і Вера не адразу ўцяміла, пра што гаворыць вяснушкаваты, кірпаносы хлапец.

— Якія параненыя?..

— Ну, калі абоз бамбілі. Трое засталіся.

— Дзе яны?..

— Мы іх у свірне на Дарожкавым хутары паклалі. Перавязаць бы іх трэба.

Вера раптам набыла ўпэўненасць і сілу, цяпер было зразумела, што трэба рабіць і ёй, Прусавай, і гэтым хлопцам і дзяўчатам.

— Вось што, размову адкладзём надалей. Зараз галоўнае — параненыя байцы. Ты,— яна паглядзела на худзенькую дзяўчынку з тонкай кароткай касічкай,— адказваеш за медыкаменты. Патрэбны ёд, вата, бінты. Ясна? Цябе як завуць? Вера. Ну добра. А ты за харч. Хлопцы будуць выяўляць параненых. Лазарэт устроім. Паправяцца чырвонаармейцы — хтосьці павядзе за лінію фронту.

Яна распараджалася энергічна, не даючы магчымасці пярэчыць, сумнявацца. І сама набывала пахіснутую было волю да барацьбы.

Да паляны туліўся разамлелы ад гарачыні лес. На каравых ствалах ялін плавілася смала, жаўцела на сонцы горкай бурштынавай слязой.

## 19

Толькі на трэці дзень, як Тышкевіч прыйшоў да Міхася, у Кавалях убачылі немцаў. Па шашы яны прагрукаталі на танках даўно, а тут панавала трывожная прыгнётлівая цішыня.

Спачатку на брыючым палёце са свістам і выццём пранесліся два знішчальнікі. Потым з-за лесу паявілася чорная калона машын у слупах шызага пылу. Калона рухалася спакваля. Часта спынялася. Тады з-за галоўнага танка вылятаці матацыклісты, шустра ўзбіраліся на пагоркі, што падыходзілі да самай дарогі.

Немцы асцерагаліся. А баяцца не было чаго — Чырвоная Армія адступіла, і тут, у вёсках, засталіся хіба тыя, хто ў франтавой неразбярысе задумаў застацца ў тыле.

Тышкевіч назіраў за немцамі з гарышча Міхасёвай хаты. Ён быў надзіва спакойны і ўраўнаважаны, хоць за гэтыя дні чакання не раз думаў, як сустрэне паяўленне нямецкіх войск, спалохаецца ці не?

Немцы ехалі, як на манеўрах. Грукаталі танкі, лапаталі матары матацыклаў, і недзе ў небе гулі самалёты. Гэты зладжаны, пунктуальна разлічаны поступ, як ні дзіўна, выклікаў у Тышкевіча зайздрасць. «Здорава ідуць, сволачы; мабыць, вось так ішлі і па Чудскім возеры».

Калона памалу ўлівалася ў шырокую вясковую вуліцу.

На двары — ні душы. Тышкевіч бачыў, як матацыклісты-разведчыкі збочвалі да платоў, беглі ў хаты. «Няўжо вобыскі?» Не... Салдаты вярталіся назад, штосьці падавалі з пілотак тым, што ехалі на машынах. «Яйкі п'юць,— здзівіўся Тышкевіч.— Ну і зброд».

Думалася без злосці, нават радасна. Тое ўражанне, што было паявілася, калі глядзеў на калону ў паходзе, змянілася пагардай. Тышкевіч паспешліва пачаў спускацца з гарышча.

У хаце поўна яркіх сонечных зайчыкаў. Яны асляплялі і весялілі. Дзень які сонечны!

Міхась стаяў ля акна, і маці прасіла, каб ён адышоўся. Хлопец упарта маўчаў. Потым тыркнуў кулаком у раму, і яна расхінулася. У хату ўварваліся гарачы пах агарода і гулкі лязгат машын. Калона хавалася недзе за пагоркам, з акна яе не відаць.

Міхась сеў на падаконнік. Вострыя калені падцягнуў да грудзей. Твар у яго белы і акамянелы, а калені ўздрыгвалі, быццам іх раздражняюць электрычным токам. «Нервуецца,— падумаў Тышкевіч,— а я спакойны, нават дзіўна».

— Можа б, вы не паказваліся ім,— сказала Міхасёва маці.

— Ім не да нас, грэшных,— усміхнуўся Тышкевіч. Самотна дадаў: — Прычакалі гасцей, хай на іх...

З-за пагорка спачатку паявіўся доўгі гарматны ствол, потым чалавек, які па пояс вылез з вежы. На ім не было ні шлема, ні фрэнча. Карычневае цела льснілася на сонцы.

Танк узабраўся на горку і замёр. Тры вёрткія браневічкі абагналі яго, спаўзлі ў нізінку, упоравень з Міхасёвай хатай. За імі пацягнуліся матацыклы, калону якіх замыкаў легкавы аўтамабіль.

«Гэта ўжо начальства»,— адзначыў Тышкевіч.

— Міша, чым на падаконніку сядзець, выйшаў бы на двор. На віду тырчаць не варта.

— Не, вы тут пасядзіце, лепей я пайду,— заспяшалася Мішава маці.

Праз акно Тышкевіч бачыў, як павольі збіраецца на абочынах народ — жанчыны, дзяўчаты, дзеці. Немцы пазлазілі з машын, стаяць пасярод вуліцы. Чужая, ніколі не чутая гамонка заглушае жаночыя галасы.

Ад натоўпу салдат адрываюцца чацвёра, подбегам кіруюць да хат. Адзін з іх паварочвае на Міхасёў двор.

— Іван Анісімавіч,— шэпча Міхась,— схавайцеся вы.

Ён бянтэжыцца, убачыўшы ўсмешлівыя, лагодныя вочы Тышкевіча.

— Праўда...

— Дзівак!.. Ды ён па яйкі чэша. Яны дзе ў вас?

— Пад ложкам, у кубле.

Салдат зайшоў не пастукаўшы. Высокі, русы, у пыльных ботах, за шырокія халявы якіх так-сяк запраўлены калашыны зялёных штаноў. На хвіліну яго вочы зашнырылі па хаце. Мабыць, спалохаўся, пабачыўшы двух мужчын.

— Пан, яйка, млека, масла, шпэк...

Ён выпаліў гэта адным дыхам. Быццам спяшаўся. Міхась быў памкнуўся, але Тышкевіч утрымаў яго.

— У Польшчы быў? — запытаў ён у салдата.

— Вас?

— Я кажу Польшча... Варшава... адтуль.

— О, я, Польша...

— Відаць па млеку,— усміхнуўся Тышкевіч.

— Польша — капут... Москва — капут. Фарштэйн?..

— Пабачым...— Тышкевіч, пазіраючы скоса на немца, прыгнуўся, дастаў з-пад ложка два яйкі.— Вось табе, лопай...

— О, данке шойн... Млеко іст... Іх трынке...

— Міхась, дай яму шклянку малака,— сказаў Тышкевіч.

Яму было цікава назіраць, як немец п'е малако, заплюшчыўшы вочы, потым выцірае рукавом губы і смачна цмокае. Хто ён? Рабочы? Селянін? Адзін чорт — фашыст.

Немец пайшоў, схаваўшы яйкі ў кішэні штаноў. Здранцвелы ад перажытага страху, Міхась накінуўся на Тышкевіча:

— Навошта вы яго дражнілі? Ён жа вунь з пісталетам...

— А ты пачакай... У мяне сваё ў галаве. Можа, такі выпадак не надарыцца.

Міхась не разумеў, пра што кажа Тышкевіч. Прамаўчаў.

Хвіліны дзве яны пазіралі за акно, дзе рос натоўп вяскоўцаў. Салдаты цэліліся фотаапаратамі, рагаталі. Афіцэр, разгарнуўшы карту на радыятары машыны, пра штосьці пытаў у хлапчукоў. Тыя паціскалі плячамі, хаваліся адзін за аднаго.

Тышкевіч уздрыгнуў, раптам пачуўшы рыпенне дзвярэй. Крута павярнуўся. У хату лез яшчэ адзін салдат, рыжы, голы па пояс, з аўтаматам на шыі.

— Яйка ест, млеко ест?

У прыжмураных вачах Івана Анісімавіча бліснулі і патухлі вясёлыя чорцікі.

— Нікс, пан, вшыстка забралі,— і шырока развёў рукамі.

— Этот... пітух ест?

— Там, на вуліцы... на двары... пуф-пуф, і няма пятух...

Рыжы крута павярнуўся, моцна грукнуўшы дзвярыма, выйшаў. З Міхасёвых плячэй як гара звалілася — ну, добра, што так абышлося...

— Іван Анісімавіч, хай усё забіраюць, толькі не чапайце вы іх.

— А чаму — цікава. Псіхалагічны эксперымент. Ты які з усяго гэтага вывад зрабіў? Ага, ніякага. А я зрабіў. Польшчу яны як ліпку абадралі — факт. Вось і паверыў гэты рыжы, што і нас паспелі ўжо абрабаваць. Ну, а цяпер пайшлі на вуліцу, зблізку паглядзім на фашыстаў.

На іх не звярнулі ўвагі. Салдаты заняты сваёй справай. П'юць сырыя яйкі. Дужаюцца. Размінаюць цела. Кураць. Фатаграфуюць натоўп, найбольш басаногіх дзяцей і старых. Чацвёра дужых загарэлых салдат з аўтаматамі на шыі стаяць абняўшыся і штосьці паказваюць дзяўчатам. Тыя сарамліва апускаюць вочы, не хочуць браць нейкія карткі. «Парнаграфія, мабыць»,— думае Тышкевіч.

Ён стаіць сярод натоўпу, але так, што бачыць усё. Людзі нібы пасмялелі, яны гавораць гучна і шмат размахваюць рукамі. Але за гэтай баявітасцю Тышкевічу чуюцца разгубленасць, збянтэжанасць і страх за заўтрашні дзень. Жанчыны дзівяцца, што немцы на машынах, што яны гладкія, чыстыя, што зброя ў іх зусім не такая, як у нас,— вінтовак не відаць. У голасе скруха.

«Вось у гэтым напрамку і працаваць трэба,— думае Тышкевіч.— Мне дык зразумела, чаго яны на машынах і тлустыя, а цёткам няўцям».

Па натоўпе прабягае хваляванне. Жанчыны спалохана шэпчуцца, а салдаты раптам наструніліся. Тышкевіч не паспеў зразумець, што здарылася, як трое салдат кідаюцца праз агароды да імшары ў альховай зяляніне. Неўзабаве яны вядуць адтуль двух. Рукі закладзены за шыю. Гімнасцёркі расшпілены, без папруг. Па радах жанчын, як шум па жытнім полі, праносіцца самотны шэпт. Хтосьці з іх выходзіць наперад, просіць унтэра:

— Пан, яны ж без вінтовак. Вайне — капут. Адпусціце іх.

Унтэру столькі незразумелых слоў не пераварыць да самай смерці. Ён ідзе да палонных, знімае з іх пілоткі.

— О, золдатэн! Война — капут.

Палонныя стаяць, усміхаюцца, стараючыся спадабацца немцам. Жанчыны крычаць уразнабой, просяць адпусціць іх. Ад карты падымае галаву афіцэр, штосьці гаворыць унтэру. Той стаіць, прамы і доўгі, як жэрдка. Яволь! Яволь!

— Адкуль вы? — пытаецца афіцэр, і жаночы натоўп насцярожана сціхае.

— З-пад Беластока мы,— кажа адзін з палонных.

Тышкевіч адзначае, што хлусіць. Падзвінскія хлопцы.

— Ідзіце дамоў. Мы з палоннымі не ваюем,— кажа афіцэр і зноў схіляецца над картай.

Па натоўпе прабег гул палёгкі, потым рознагалосы гоман: «Моцныя, значыць... не баяцца... Бач, па дамах адпускаюць. Можа, і нашы вернуцца...»

Тышкевіч наматвае ўсё на вус.

Праз паўгадзіны калона, пакідаючы за сабой лязгат і клубы пылу, коціцца на ўсход. Спакваля расходзяцца людзі. Іван Анісімавіч ловіць чужыя і такія зразумелыя размовы:

— У мяне з кублам яйкі забраў. Кубел разбіў...

— Добра, што масла схавала...

— Бабанькі, як ён на хлеб глядзеў!.. Я ж толькі спякла і са стала не прыбрала. Дык у салдата аж сліна пацякла.

— Ты ж паглядзела б — усё без хлеба ядуць...

— А ў мяне пеўня забіў. Дае дзве цыгарэты. Узяла, а курыць няма каму.

— Жаруць наша, а свае не бралі.

— Дык жа загад такі... Браць і прасіць не дазвалялася — чырвонаармейцы ж.

— У нас строга...

Дзён праз пяць Тышкевіч з Міхасём ляжалі пад узмежкам на сонцы. Рукі пад галавой, на мяккай траве, што пахне зелянінай і шчаўем. Ляжаць хораша. Угрэты ўзмежак, як чарэнь печы.

Міхась глядзеў у сіняе глыбокае неба з кучомкамі густых белых воблакаў. Яны, як статак гусей на полі, разбрыліся па небе, ляніва паўзлі на паўночны захад. У небе

цішыня і спакой. Толькі недзе над імшарай звінеў запознены жаўранак ды зрэдку шасталі лозы над сажалкай, калі па іх прабягаў летні гуллівы ветрык.

Думаць і гаварыць не хацелася, абодвума валодала салодкая лянота. Нечакана стройную гармонію дня парушыў гул самалёта. Міхась ускочыў і ўбачыў, як з-за ліпавых прысад Антонаўскіх хутароў імкліва набліжаецца самалёт. Ён прайшоўся над самымі галовамі, асляпляючы Міхася яркай чырванню зорак. Над горадам крыху ўзняўся, і тады там, недзе над цэнтрам, узніклі бурыя фантанчыкі дыму. Гул даляцеў пазней, ужо тады, як з нямецкага аэрадрома, нібы з асінага гнязда, густа ўзняліся «месершміты». Яны абкружалі бамбардзіроўшчык з усіх бакоў, як звяглівыя сабакі мядзведзя. Цяжкі двухматорны самалёт паволі зрабіў разварот, нейкім незразумелым чынам выкаўзнуў з кола знішчальнікаў і пачаў набіраць хуткасць.

З зямлі ўдарылі і змоўклі зеніткі. «Месершміты» перастройваліся, каб рынуцца ў атаку. Паветраны бой разгараўся над самымі Кавалямі. З лопатам прайшлася па сажалцы кулямётная чарга. Узрываючы неба, гармата біла па знішчальніках. Адзін з іх, што наблізіўся блізка, раптам успыхнуў, разматваючы чорны пояс дыму, пайшоў на пасадку.

Бамбардзіроўшчык прарываўся ўгору, туды, дзе бялелі воблакі, а «месершміты» заходзілі з поўдня, пад прыкрыццё сонца, абрушваючы на самалёт шквал кулямётнага агню.

Яшчэ адзін знішчальнік, кульнуўшыся на крыло, як падбіты птах, куляючыся, пайшоў на пасадку, потым закруціўся, выпісваючы ў паветры віткі.

Міхась з Тышкевічам не зводзілі вачэй са свайго самалёта, сачылі за ім затаіўшы дыханне. Уцякай, хутчэй уцякай! Ну, яшчэ аднаго падбі!.. З-пад белага бліскучага пуза самалёта раптам папоўз чорны дым, выбухнуў зверху, і тады бамбардзіроўшчык клюнуў носам уніз, выпраміўся і хутка-хутка пачаў зніжацца. Над ім, як каршуны, кружылі «месершміты».

— Усё,— сказаў Тышкевіч.

— Якая бязглуздзіца. Што мог зрабіць адзін самалёт?..— У Міхася задрыжаў голас. Хлопец упаў на траву, тварам уніз.

Нейкі час яны маўчалі, ураженыя трагедыяй, што разыгралася на іх вачах.

— «Безумству храбрых поем мы песню»,— ціха сказаў

Тышкевіч, крануўшы Міхася за плячо, прадоўжыў: — Колькі разоў ты чытаў гэта, а пабачыў «безумство храбрых» і расчуліўся, нават абурыўся. Бязглуздзіца, кажаш? А калі самаахвярная храбрасць?.. Ты не матай галавой...

— Дык жа, Іван Анісімавіч, на што можна было разлічваць? Адзін самалёт супраць дзесяткаў іхніх. Гэта як самагубства.

— Вядома, глядзець у кіно, як прыгожа паміраюць героі,— адно. Марыць пра подзвігі і папікаць нас, старых, за тое, што мы жылі ў гераічныя гады, а вам на долю засталося спакойнае жыццё,— проста. Вялікага розуму на гэта не трэба. А перамогі патрабуюць ахвяр. Рымляне казалі: «Ad augusta per angusta». Праз цяжкасці да перамогі. Вось так. Вайна, Міша, асаблівая. Людзі яшчэ не адчулі гэтага. Помніш, як тады здаваліся два чырвонаармейцы. Афіцэр іх адпусціў. І людзі ўзрадаваліся: во, бачыце, якія немцы чалавечныя. Хлусня! Глупства! Усё гэта дробненькая палітыка ў разліку на дурняў. Навошта баявой часці важдацца з двума палоннымі? Ідзіце дамоў!.. А праз дзесяць вёрст іх схопяць тылавыя часці і загоняць у лагер. Там гэтыя двое зойдуцца з голаду. Загінуць. Дык ужо лепей спачатку забіць немца і памерці так, як гэтыя лётчыкі.

— Трэба ўмець перамагаць без лішніх ахвяр,— не здаўся Міхась.— Самі ж казалі, што немцы марудна рухаліся, хоць небяспекі не было. А пасля... пасля вы мне скажыце, чаму за памылкі камандавання павінен пакутаваць народ?

Словы гэтыя вырваліся нечакана, і Міхась спалохаўся іх. Упершыню, і не тайна, а ўголас, ён сказаў такое, пра што не мог нават нядаўна падумаць. Тышкевіч як быццам разгубіўся, правёў рукой па галаве, потым сеў, па-татарску скрыжаваўшы ногі.

— Я схлусіў бы табе, каб сказаў, што мне ўсё зразумела.— Ён памаўчаў, як бы збіраючыся з думкамі.— У тым, што здарылася, калі-небудзь разбярэцца гісторыя, і то не адразу.

— Нас тады ўжо не будзе. І мне напляваць на тое, што яна разбярэцца.

— Людзі, аднак, застануцца, а сэнс жыцця, калі падыходзіць да яго па-філасофску, якраз і заключаецца ў тым, што папярэднія пакаленні жывуць для будучых. Толькі жывёла жыве для сябе.

— Ну, няхай так. Але што з гэтага вынікае?..



Алесь Асіпенка, бацька Харытон Рыгоравіч,
брат Васіль (справа). 1925 г.



Маці пісьменніка Праскоўя Рыгораўна,
бацька Харытон Рыгоравіч,
сёстры Ганна (злева), Ніла. 1929 г.

— А вось што... Над намі, Міша, над усім народам, такая вісіць небяспека, пра якую мы пакуль не здагадваемся. Людзі павінны гэта зразумець. Інакш яны загінуць. Знікнуць. Ну, так, памылкі былі, і нехта вінаваты ў іх. Але ж смешна было б, каб у часе пажару гаспадар шукаў падпальшчыка, а не ратаваў сваіх дзяцей, скарб.

— А пажар гэты голымі рукамі тушыць? Вунь яны ўсе на машынах, у танках.

— Тэхнікі ў іх шмат, гэта праўда. Але ж яна сама не ходзіць.

Яны памаўчалі, не задаволеныя адзін адным. Разважлівая доказнасць Тышкевіча абурала Міхася. Ён жыў пачуццямі, якія штодзень мяняліся, і таму ў яго не было нейкай цвёрдай лініі.

Сёння хацелася на злом галавы кінуцца ў барацьбу. Назаўтра як бы што ламалася ў душы, і тады апускаліся рукі, і Міхася агортвала туга.

Тышкевіч, відаць, разумеў гэта; сам калісьці быў малады і не заўсёды цвёрды ў рашэннях. Ён не асуджаў, а шкадаваў хлопца. Такім цяжэй, як старэйшым. На крутых паваротах яны ацэньваюць падзеі не цвярозым розумам, а гарачымі пачуццямі. Памылак тут не пазбегнуць.

— Ну, добра,— зноў пачаў Міхась,— я не толькі розумам, але сэрцам адчуваю, што фашысты — ворагі. Я нават згодзен загінуць. Але ж ні я, ні вы не прагонім немца. А народ?.. Вунь я пачаў гаварыць з хлопцамі — смяюцца. А Даніла Іванёнак сустрэў мяне і кажа: «Ты, можа, па сваёй пасадзе бядуеш, а мужыку абы шыя была, а хамут знойдзецца. Яму баяцца няма чаго». Як гэта зразумець?..

— Бачыш, Міша, каб людзі адчулі небяспеку, ім трэба гаварыць пра гэта. З вінтоўкай і кулямётам ваяваць — эфектна. Але ж камусьці рыхтаваць людзей трэба. Нялёгка гэта, і славы не дачакаешся. Толькі мы не дзеля славы жывём. Мне, Міша, вельмі на людзі паказвацца нельга. Магу вас падвесці. А табе давядзецца з народам гутарыць. І не раз, і не два — увесь час. Непрыкметная гэта работа, але зараз неабходная. Пра сумненні свае забудзь, яны табе не памочнікі. Адно помні: фашысты — лютыя ворагі. Гэта і паможа табе знаходзіць словы, прыклады... Ну дык што, згодзен?..

— Усё я разумею, Іван Анісімавіч, а толькі на душы пагана. Магло ўсё быць інакш, і ніхто ніколі не даруе нам, што немец пад Маскву падбіраецца.

— Не даруе, калі не пераможам. А мы пераможам. Вось пабачыш...

І пацяклі дні, падобныя адзін на адзін трывогай, самотай і чаканнем нейкіх вялікіх падзей.

## 20

Упраўленне галоўнага камісара Падзвінскай акругі Ота Віцінга асталявалася ў Пакроўскай царкве на беразе прытока Дзвіны. Па той бок гэтай мелкаводнай у стромкіх берагах рэчкі, у будынку сельскагаспадарчага інстытута, размясціўся начальнік СС і паліцыі, непасрэдна і асабіста падпарадкаваны галоўнаму камісару.

Вялізныя сутарэнні яшчэ дарэвалюцыйнай будыніны з цэментавымі падлогамі, з вузкімі шчылінамі акон, з высокімі жалезнымі кратамі, з доўгімі, заўсёды цёмнымі калідорамі лепш за ўсё падыходзілі для крывавай работы эсэсаўцаў. Тут жа, на двары інстытута, ў новым вучэбным корпусе размяшчаўся спецыяльны атрад СД «Вількс І-а», які падпарадкоўваўся паліцыі бяспекі і СД.

Само ўпраўленне паліцыі бяспекі і СД абрала рэзідэнцыяй светлы, з лоджыямі ў венецыянскім стылі будынак мастацкага вучылішча. У прылеглым да яго лабараторным корпусе палітэхнікума, дзе год чатырыста назад жылі манахі-кармеліты, размясцілася гестапа.

Абодва будынкі стаялі на крутым беразе Дзвіны. Пад імі з незапомных часоў хаваліся ў зямлі амаль не вядомыя гараджанам каменныя нішы-скляпенні, нібы спецыяльна прыстасаваныя для допытаў зняволеных.

Гарадскі і сельскі каменданты з палявой жандармерыі занялі памяшканні банка і скурна-венерычнага дыспансера. Іх кампетэнцыя фармальна абмяжоўвалася інтарэсамі вайсковай адміністрацыі, фактычна ж яны кіравалі горадам і раёнам, займаючыся цывільнымі справамі.

У цэнтры горада, там, дзе каталіцкі касцёл праткнуў неба двума гатычнымі шпілямі, у будынку аблвыканкома размясцілася штаб-кватэра 4-й арміі. Яна пакуль і распараджалася лёсам амаль мільёна людзей, што засталіся пад акупацыяй.

Загадам Гітлера кіраванне акупіраванымі ўсходнімі абласцямі павінна было ажыццяўляцца органамі цывільнай улады, якая змяняла ўладу вайскоўцаў. Але для таго каб вайскоўцы перадалі ўладу цывільным органам, у кожным канкрэтным выпадку патрэбна было яшчэ спецыяль-

нае распараджэнне Гітлера. Паколькі баі на Падзвінні нічэ толькі закончыліся і адпаведнага распараджэння фюрэра аб перадачы ўлады не было, у акрузе загады выдавалі і ваенныя і цывільныя. Камандаванне арміі з дня на дзень чакала распараджэння Гітлера. І вось яно прыйшло.

У канцы ліпеня ў штаб-кватэру арміі прыехаў спецыяльны ўпаўнаважаны стаўкі і рэйхсміністра па акупіраваных абласцях палкоўнік Штынцгоф. Нарада сабралася ў сераду пасля абеду ў кабінеце камандуючага арміяй генерала Крэйкембона.

Акон не адчынялі, хоць у кабінеце стаяла сухая спякота. Па-першае, нарада была выключна сакрэтная. Па-другое, з руін і пажарышчаў паднімаўся над горадам удушлівы пах гары і тлену. Ад яго не было як схавацца.

Генерал Крэйкембон, высокі, грузны, з выгляду флегматычны, з вялікімі белаватымі вачамі, што хаваліся за шкельцамі акуляраў, пачынаючы нараду, павіншаваў прысутных з пераможным ходам вайны, аддаў належнае фюрэру і яго палкаводчаму генію і адразу ж перадаў слова палкоўніку Штынцгофу.

Худы і доўгі, з высокімі залысінамі ў рэдкіх рыжаватых валасах, дасканала раздзеленых прамым праборам, з халоднымі сінімі вачамі і адтапыранымі вушамі, палкоўнік Штынцгоф зачытаў загад Гітлера і яго распараджэнне аб поўнай перадачы ўлады цывільнай адміністрацыі Падзвіння. Адзінаццаць пунктаў загаду вызначалі кампетэнцыю камісарыята і яго ўзаемадзеяння з вайсковымі часцямі.

Прысутныя слухалі не вельмі ўважліва: загад быў ім вядомы. Затое другая частка прамовы выклікала агульную ўвагу. Адступіўшы ад прынятага тону звычайнага вайсковага даклада, палкоўнік Штынцгоф даволі падрабязна, быццам ён сам прысутнічаў пры той «гістарычнай» размове, расказаў пра нараду ў стаўцы рэйхсляйтэра Розенберга, рэйхсміністра Ламерса, фельдмаршала Кейтэля, рэйхсмаршала Герынга і рэйхсляйтэра, кіраўніка партыйнай канцылярыі Бормана.

За пяць гадзін фюрэр і яго падручныя вырашылі асноўныя праблемы і мэты вайны супраць Савецкага Саюза і яго народа. Увагу членаў нарады ў штаб-кватэры, прыкоўвала не гэта — ваенныя планы ім былі вядомы,— а вось тыя палітычныя аспекты, што вынікалі з прамоў Гітлера.

Генерал Крэйкембон, утаропіўшы позірк некуды на сцяну, уздоўж доўгага, засланага зялёным сукном стала,

слухаў палкоўніка і чамусьці ўспамінаў, як у першыя дні вайны фюрэр, схаваўшыся ў сваёй стаўцы, калаціўся ад страху. Ён баяўся, што савецкія войскі з Прыбалтыкі і Беласточчыны адкінуць яго палкі і адным ударам зоймуць Кёнігсберг і ўсю Усходнюю Прусію. Тады ён нерваваўся і не верыў у планы вермахта. Ён заўсёды быў баязлівы, гэты фюрэр у чыне яфрэйтара. А цяпер, калі армія перамагае рускіх, Гітлер ужо не хоча лічыцца ні з адной дзяржавай Еўропы. Бач ты, як ён абурыўся заметкай у французскай газеце, якая прапаноўвала паслугі Францыі на ачышчэнне Расіі ад камунізма. Але, крыху падумаўшы, Крэйкембон згадзіўся, што і сапраўды даваць зброю гэтым распусным французам для барацьбы з камунізмам небяспечна. Генерал нават у душы ўсміхнуўся ходу сваіх думак. Ну што ж, без каварства вайны не бывае, будзем крычаць пра вайну з камунізмам, паціху знішчаючы народы Еўропы. І ўсё ж генерал больш верыў не ў геній фюрэра, а ў разлікі вайскоўцаў.

Галоўны камісар Ота Віцінг, які сядзеў побач з генералам, успрымаў даклад палкоўніка па-свойму. Ён чамусьці ўвесь час бачыў перад вачамі старую геаграфічную карту свяшчэннай Рымскай імперыі, на якой не было ніякіх граніц. Карта гэтая вісела калісьці на кватэры ў школьнага настаўніка, непахіснага прыхільніка Бісмарка і кайзера Вільгельма. Тады, яшчэ хлапчук, Ота Віцінг, прывыклы да строгіх правіл, ніяк не мог дацяміць, чаму свяшчэнная Рымская імперыя не мела на карце граніц, і добры гер Гуткельх не раз даводзіў яму, што зямля і ўсе народы на ёй павінны належаць імперыі, бязмежнай і адзінай у свеце краіне людзей з блакітнай арыйскай крывёй. Цяпер Ота Віцінг слухаў палкоўніка Штынцгофа з салодкім заміраннем сэрца, быццам слухаў самога гера Гуткельха. І перад вачамі паўставала новая карта Германіі.

Насупраць галоўнага камісара, адкінуўшыся на спінку крэсла, прыплюшчыўшы павекі, нібы ад стомы, сядзеў начальнік паліцыі бяспекі і СД штурмбанфюрэр Ютнер. Ота Віцінгу здавалася, што штурмбанфюрэр з-пад рыжых кароткіх павек увесь час сочыць за ім, Ота Віцінгам. Гэта перашкаджала і слухаць і ўспрымаць пачутае.

Ютнер і сапраўды назіраў за Віцінгам. Галоўны камісар, з яго пульхным выпешчаным тварам, з пагардлівай складкай ля рота, нагадваў Ютнеру аднаго з афіцэраў СА, якога давялося прыстрэліць у славутую ноч «доўгіх нажоў». «Можа, радня якая? — думаў Ютнер.— Вельмі ўжо

ён падобны на таго афіцэра». Ютнер хацеў успомніць прозвішча застрэленага і не мог. У галаву чамусьці лезла другое: Віцінг — знаёмы генерала Зімерынга. Гэта ставіла галоўнага камісара ў асаблівае становішча. Яшчэ Ютнер думаў пра тое, што ў лясах засталося нямала акружэнцаў са зброяй у руках. Яны непакоілі Ютнера, і толькі аптымізм палкоўніка Штынцгофа вярнуў яго ад панурых думак.

Палкоўнік Штынцгоф нечакана кончыў расказваць пра планы фюрэра і задачы адміністрацыі на Усходзе, доўгімі белымі пальцамі — на сярэднім быў залаты пярсцёнак — узяў з рук ад'ютанта кубак кавы, зрабіў два глыткі і тут жа адсунуў кубак убок. Сухаватыя пальцы зноў моцна абаперліся на стол. На белых руках напружыліся блакітныя вузлаватыя вены. Калючы позірк, нібы прамень пражэктара, слізгануў па тварах чыноў.

— І так, панове,— пачаў ён,— перад германскім салдатам стаяць задачы, якія сёння выходзяць за рамкі звычайных абавязкаў воіна. Тут, дзе мы знаходзімся цяпер, не Францыя або Нарвегія, а чырвоная Расія. Я не хачу ўтойваць ад вас, што народ гэтай краіны, за выключэннем нямногіх, а моладзь амаль пагалоўна, заражаны ідэямі камунізма. Тая нечаканасць, раптоўнасць, з якой абрушылася на іх вайна, часова прыглушылі іх. Але варта нам паказаць сваю слабасць, сваю, я сказаў бы, паблажлівасць, як непазбежна ўспыхнуць хваляванні. Наша задача трымаць народ у стане штодзённага шоку. Акупацыйныя ўлады павінны ўсяляць страх, які адбіў бы ў народа ахвоту да супраціўлення. Поўнае падпарадкаванне загадам, нягледзячы ні на якія ахвяры,— вось ключ да вырашэння той задачы, якую ставіць перад намі фюрэр.

Штынцгоф падняў кубак і зноў паставіў яго на сподак. У цішыні пачуўся прыглушаны звон фарфору. Палкоўнік прадаўжаў:

— Некаторыя нашы кіраўнікі просяць у стаўкі падмацаванняў для тылавых гарнізонаў занятых абласцей. Камандуючы лічыць, што салдаты патрэбны фронту. Мы раім павялічыць суровасць, і яна заменіць вам тых салдат, якіх вы просіце. Чым больш будзе знішчана заражанага бальшавізмам народу, тым лепей для Германіі. Галоўны камісар адказвае за становішча ў акрузе — гэта само сабой. Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на адну акалічнасць. Паводле звестак, якія ў мяне ёсць, у вашай акрузе пакуль што ціха. Але мне вядома і тое, што тут засталіся партыйныя прапагандысты і камісары. Я думаю, той, хто застаў-

ся, нешта робіць. У такім выпадку мы не можам чакаць ні іх дыверсій, ні любой прапаганды. Рускія не павінны нават думаць пра супраціўленне. Нават думаць!.. Ім павінен быць дадзен наглядны ўрок, як небяспечна думаць. Вы зразумелі мяне, камісар Віцінг?

— Яволь! — Віцінг устаў з крэсла і тут жа сеў, пабарвавеўшы ад няёмкай паспешлівасці.

Ютнер ледзь усміхнуўся, расплюшчыў вочы:

— Намі вырашаюцца гэтыя праблемы, пан палкоўнік.

Штынцгоф згодна кіўнуў галавой. Нарада прадаўжалася. Цяпер вырашаліся прыватныя пытанні кіраўніцтва, і ў размову ўступалі то адзін, то другі з запрошаных у штаб-кватэру.

Пасля нарады Ота Віцінг запрасіў да сябе сельскага каменданта Вейса. Невысокі, каранасты, з раскосымі неарыйскімі вачамі, Рыхард Вейс нечым быў сімпатычны і адначасова насцярожваў, адштурхоўваў. Віцінг ведаў, што Вейс амаль да самай вайны жыў у Савецкім Саюзе, і цяперашняе супрацоўніцтва з ім абяцала нямала выгад.

З таго часу, як Віцінг перасек граніцу, і аж да сённяшняга дня яго не пакідала адно дзіўнае пачуццё, навеянае, здавалася б, зусім недарэчнай дэталлю. Недзе, на нейкай чыгуначнай станцыі, у тупіку, яму паказалі спальны мяккі вагон з надпісам: «Стоўбцы — Маньчжурыя». Спачатку ён амаль не звярнуў на гэты надпіс увагі. Потым, у дарозе, калі ён ехаў і ехаў, а ўсё не было відаць канца яго падарожжу, ён раптам адчуў неабсяжныя прасторы гэтай краіны. І яму зрабілася няўтульна і страшна. Вось тады эмаліраваная таблічка на старым вагоне здалася яму сімвалам нечага бяскрайняга і глухога, як пустыня. Цяпер пустыня выдавала такой жа бяскрайняй, але населенай прыціхлым да часу людам, які, нібы той акіян, калі прарве плаціну, гатовы затапіць, знішчыць на сваім шляху заваяванні германскай зброі.

«Опель-капітан» вёз паціху. Вузкія вуліцы ўсё яшчэ былі перагароджаны гурбамі бітай цэглы, заваламі, а часам глыбокімі супрацьтанкавымі траншэямі. З руін патыхала гарам. Пругкае смярдзючае паветра праз бакавое акенца біла ў твар, выклікаючы нудоту. Ота Віцінг выцягнуў хусцінку, прыклаў да носа, хоць і рызыкаваў быць высмеяным капітанам Вейсам.

Людзі туліліся недзе на ўскраінах у драўляных хатах, і тут, у цэнтры горада, было зусім як на могілках. Зрэдку, праўда, трапляліся салдаты, групамі па тры-чатыры чала-

векі. Заўважыўшы «опель-капітана», салдаты казыралі.

Узабраўшыся на гару, машына пайшла вальней. Тут стаяў амаль неразбураны квартал. У дамах не было акон, але дзе-нідзе на рамах віселі нейкія посцілкі — значыць, за імі хтосьці жыў. Ота Віцінг адчуў, як па спіне прабеглі дрыжыкі, і ў галаву цюкнула, што ён дарэмна едзе на такой машыне. Здавалася, вось-вось нехта кіне з аднаго з гэтых чорных правалаў гранату, і тады бывай, сям'я, служба, кар'ера.

Усё абышлося, аднак, добра. Машына спынілася ля царквы. Вейс першы вылез на брук, чакаў, пакуль не спяшаючыся выйдзе з машыны галоўны камісар. Міма вартавога яны ўзышлі на высокі каменны ганак. Толькі цяпер Віцінг адчуў сябе ў бяспецы.

Яны прайшлі па вузкім калідоры з дошак у самы канец царквы. Царскія вароты, абабітыя знадворку фанерай і лямцам, знутры аставаліся такія ж, як і раней,— па чорнай лакіроўцы залатыя разводы. На месцы алтара стаяў стол, а сам алтар адсунуты ў куток. Віцінг знарок пакінуў убранства алтара — і сапраўды яно рабіла ўражанне.

— Нядрэнна жывяце, палкоўнік...

Віцінг не адказаў. Моўчкі прайшоў у куток да шафы, адчыніў дзверцы, дастаў чорную пляшку і дзве пасярэбраныя чаркі. Моўчкі наліў і, сказаўшы: «За перамогу», выпіў.

— Што скажаце, капітан Вейс? Якое ваша ўражанне?

— Фюрэр — геніяльны, пан палкоўнік.— Вейс паставіў чарку на стол.

— Так, мы доўга, можа, не адзін век чакалі гэтага часу.— Віцінг сеў на крэсла, запрасіў прысесці Вейса.— Вы, капітан, жылі ў Расіі. Мне хацелася б пачуць ад вас вашу думку. Вы разумееце, капітан Вейс, пра што я хачу ведаць? Нам давядзецца працаваць разам.

— Я шчыра ўдзячны, палкоўнік Віцінг, за той выключны давер, які вы аказваеце мне. Наша армія перамагае, і я думаю, што планы вярхоўнага камандавання будуць ажыццёўлены своечасова.

Вейс пазбягаў шчырай размовы. Ён быў, як заўсёды, карэктны, але карэктнасць гэта толькі злавала Віцінга. Зрэшты, ён запрасіў Вейса не дзеля таго, каб абмяркоўваць з ім загады фюрэра. Ён хоча ведаць, як лепш, з большай карысцю для рэйха, павесці сваю работу ў гэтай неабсяжнай, незразумелай і варожай краіне.

— Мяне цікавіць, капітан, як будзе выконвацца трэці

параграф першай часткі «Зялёнай папкі» рэйхсмаршала Герынга.

— Я дакладваў ужо, што неабходныя нам памеры рэквізіцый патрабуюць вялікай колькасці салдат. Потым, прашу заўважыць, ля вялікіх дарог нашы часці забралі ўсё, што маглі. Амаль усё, бо грамадская жывёла, мой камісар, была эвакуіравана і нам даводзілася браць асабістую ў сялян. А вы ведаеце, мабыць, што бальшавікі дазвалялі калгасніку мець толькі адну карову. Далейшыя рэквізіцыі могуць выклікаць незадавальненне. Нас не зразумее насельніцтва.

— Але вы чулі, што казаў палкоўнік Штынцгоф?

— Так, усё гэта правільна, нас могуць цікавіць толькі інтарэсы нашай арміі, але я прашу заўважыць і тое, што рускі не зразумее нас.

Віцінг раззлаваўся.

— Якая мне справа, што будуць думаць гэтыя рускія.

Вейс сваімі раскосымі вачамі пазіраў некуды ўгору, паверх галавы Віцінга.

— Усё гэта так, дарагі палкоўнік, але я добра ведаю рускіх. Калі яны пачнуць хаваць свой набытак або, яшчэ горш, калі яны стануць хавацца ў лесе, тады мы ўжо нічога не зробім.

— Што ж вы прапануеце?

— Пакуль нічога. Але мне здаецца, што аднымі расстрэламі шмат не дасягнеш. Не, палкоўнік, я за іх. Без страху, што паралізуе насельніцтва, нам не абысціся. Але патрэбна нешта іншае, што прыхінала б людзей да нас.

— Згодзімся, капітан, што нешта патрэбна. Колькі вам даць часу, каб вы наладзілі забеспячэнне войск?

— Месяцаў сем-восем...

— За гэты час мы павінны закончыць вайну.

— Я разумею.

Яны змоўклі. Зверху, праз рознакаляровыя шыбы ў вокнах, падала ў пакой мройнае залацістае святло. Пад ім весела паблісквала пазалота на ўзорчатым акне.

Вейс паварушыўся ў крэсле, абапёрся рукамі на падлакотнік.

— Наша армія акружыла ва ўсходняй частцы акругі вялікія статкі. Але забраць жывёлу амаль немагчыма. Каб прачасаць лясы і балоты, нам спатрэбіцца дывізія, не менш. Я аддаў загад, што пакараю смерцю тых, хто вярнуўся дамоў без жывёлы. Некаторыя спалохаліся і пайшлі шукаць кароў, авечак, коней. Але што я магу зрабіць, ка-

лі насельніцтва хавае тых, хто адганяў жывёлу, хто тапіў у рэках і балотах трактары? Без мясцовых улад нам будзе цяжка справіцца, палкоўнік.

Віцінг слухаў на гэты раз уважліва, але толькі таму, што не згаджаўся з Вейсам.

— Больш жорсткасці, капітан. Больш жорсткасці!

Вейс не адказаў. Вейс думаў. Вейс вырашаў.

## 21

З мінулым было пакончана. А што чакае ў будучым? Сухарэўскі дачытаў загад каменданта, зябка пацёпаў плячамі, азірнуўся.

Нешырокая пясчаная вуліца пуставала. Сухарэўскі выцер лоб, зноў пачаў чытаць загад. «Няўжо немцы і праўда захапілі дакументы? — падумаў ён.— Няўжо захапілі? Ну, гэта чорт ведае якая бяспечнасць. Усё палілі, а паперы забыліся. Ды ў нас так...»

Ён узлаваўся. Сам не ведаў, на каго. Можа, нават на сябе. Трэба ж было тады быць такім непрадбачлівым. «Не, мабыць, усё ж згарэлі. Дом спалілі. Значыць, і паперы згарэлі. Брэшуць людзі. І ніхто нічога не ведае».

Яму стала весялей. «Трэба зрабіць толькі адзін крок,— падумаў ён.— Хоць немцы і не дурні, ды ім няма калі да ўсяго дакопвацца. А за гэты час я паспеў бы заслужыць давер'е. Я — жылісты».

Сухарэўскі паволі ішоў па рыпучым драўляным тратуары. У агародзе за невысокім тынам дацвітаў мак. Яго абляпіла чародка вераб'ёў. Мак хіліўся да зямлі. Сухарэўскі падняў камень, кінуў яго ў гэтую гаманлівую чараду — вераб'і ўзляцелі. Раптам яму падумалася, што паспяшаўся спаліць білет. Навошта зрабіў гэта? Хто паверыць, што ён знішчыў яго, а не схаваў? І наогул, ці павераць, што ён парваў з мінулым? Як даказаць такое?

Мінулае ішло за ім, як цень, і ён не ведаў, як пазбавіцца яго. Трэба было на штосьці рашацца, пакуль не позна, пакуль можна пайсці самому і сказаць: «Вось я, Сухарэўскі Васіль Васільевіч, былы вайсковец і камуніст, прыйшоў да вас... буду верна служыць вам...»

І ўсё ж было боязна.

Ужо два дні, як Сухарэўскі жыў на ўскраіне горада ў Елагах — пасёлку, што раскінуўся ўздоўж чыгункі. Барак, у якім ён знайшоў прытулак, выходзіў вокнамі на стары паравозны могільнік. Тут у даваенны час хаваліся ад мі-

ліцыі ў паравозных топках і сярод пакарэжаных вагонаў зладзеі, адсюль яны рабілі налёты на ціхія цёмныя вуліцы пасёлка.

У Елагах, здавалася, прасцей загубіцца сярод разнашэрснага і не вельмі цікаўнага люду. Але ўсё атрымалася іначай. Сусед па бараку, чырванашчокі, з рознымі па колеру вачамі, Устым Лакіза, паявіўся зранку, прынёс бутэльку спірту, а калі Сухарэўскі адмовіўся піць з ім, пакрыўдзіўся:

— Што, і знацца не хочаш? Грэбуеш... А Лакіза цяпер во — нікога не баіцца! Лягашы цю-цю — уцяклі... Так што ты са мной асцярожней, былы таварыш. Бачу я, якая ты птушка. З тых, што намі кіравалі...

Было непрыемна ўспамінаць, як Лакіза, прыжмурыўшы сіняе вока, пазіраў на яго другім, жоўтым і насмешлівым. Такі данясе немцам, а ты потым даказвай, што не вінаваты.

Сухарэўскі пайшоў шпарчэй. Калі-небудзь усё роўна трэба ісці рэгістравацца. Лепей цяпер. Пакуль гэты тып спіць п'яны.

Ля вакзала, на пуцях, працавалі немцы. Усе чорныя ад загару. Стары сіваваты афіцэр у форменным фрэнчы з павязкай на рукаве стаяў на пероне, курыў. Сухарэўскі падышоў да яго, шырока расставіўшы крывалапыя ногі, спыніўся.

— Пан, айн цыгарэтку...— папрасіў ён закурыць, хоць у кішэні ляжала махорка.

Афіцэр не спяшаючыся дастаў пачак.

— Бярыце. Толькі адну. Як кажуць, вёсачка маленькая, а жабракоў шмат.

Сухарэўскі здзівіўся, што афіцэр так добра ведае чужую мову. Яму хацелася пагаварыць, але афіцэра паклікалі, і ён пайшоў спакваля прэч.

«От чорт, якая культура!..— падумаў Сухарэўскі.— Не тое што ў нас. Сваёй мовы добра не ведаем». І, ужо неяк адразу павесялеўшы, пайшоў на пункт рэгістрацыі.

«Дай божа мне толькі атрымаць работу,— падумаў ён.— Тады я гэтаму Лакізе пакажу дзе ракі зімуюць».

Насустрач яму два палявыя жандары гналі ў гета яўрэяў. Сухарэўскі звярнуў у завулак. Мільганула радасная думка: «Мяне не пагоняць — я сам іду».

## 22

Каршукоў вярнуўся з Пальгуеў супакоены размовай з Сідаронкам.

Прайшло дні чатыры ў клопатах па гаспадарцы. Станіслаў Цітавіч стараўся менш быць дома — пабойваўся немцаў. Больш прападаў на полі.

У чацвер у Цішкаўку прыехаў нейкі тып з маладым немчыкам. Тып гэты добра гаварыў па-беларуску і прадстаўляў нейкую ўладу пры сельскагаспадарчым камендантуре. Ён загадаў склікаць сход.

Станіслава Цітавіча ўпрасілі пайсці на сход. Крыху пабойваючыся, ён ішоў, несучы ў душы невыразную трывогу. Стаяў высокі і трохі прыгорблены, як ляшчына. Рукі назад. Разглядаў начальства. Тыпа гэтага Каршукоў недзе бачыў, але не мог прыгадаць дзе. Немчык яго здзівіў: невысокі, кругленькі, з бульбінкай-носам, на якім горбіліся ў металічнай аправе акуляры, ён выклікаў і як бы спачуванне і горыч. Няўжо такія нас гоняць?!

Тып адразу ж даў слова немцу. Той даволі прыстойна гаварыў па-руску.

— Я прасіль бы назваць кандзідатуру на пост староста, то есць упраўляюшчэго іменіем. Как говорітся, дом у хозяіна сіротка быль.

— У нас ёсць,— зашумелі жанчыны.

— Другога не хочам.

— Каршукова, каго ж яшчэ!

— Кароў прыгнаў. Гаспадар.

Немчык блізарука жмурыўся, згодна ківаў галавой.

— Хорошо, отчень лутче. Как говорітся, глаз народа — ёсць божій око. Кто такі Каршукоў?

Тып нешта шаптаў немчыку на вуха. І тады Каршукоў успомніў, дзе бачыў яго: аграном з абласнога земаддзела. Народ прыціх, чакаючы, чым кончацца перагаворы. Адчувалі, што тып нагаворвае на Каршукова. Але немчык здзівіў усіх:

— Комуніст — это хорошо. Комуніст строіл много. Я согласен. Пусць выйдет Каршукоў.

Каршукоў выйшаў, стаяў наперадзе ўсіх у запыленых ботах, пазіраў зверху на малога немчыка.

— Ты і ёсць Каршукоў? — з цікавасцю разглядаючы Станіслава Цітавіча, запытаўся немчык.— О, какой большой комуніст!.. Ваяваць нас будзеш?

Каршукоў усміхнуўся:

— Няма чым, а то з дарагой душой.

Людзі ўгнулі галовы — наліха лезці на ражон. Але немчыку адказ, мабыць, спадабаўся. Ён, падняўшыся на наскі хромавых ботаў, паляпаў Каршукова па плячы.

— Отчень хорошо. І отчень рэально. Ваяваць ужасно глюпо, когда армія разбіта. Как говорітся: досталісь козлíку рожкі і ножкі. Нам нужен хорошій хозяін. Грос-бауэр. Вы довольны, народ?

Калгаснікі загулі. Верылі, Каршукоў не падвядзе. Немчык усеўся ў брычку, памахаў на развітанне рукой.

Каршукоў не ведаў, радавацца ці засмучацца. Калі немцы ўсе такія, дык абдурыць іх — раз плюнуць. Ён, Каршукоў, умее абводзіць вакол пальца.

Назаўтра давялося ісці ў горад, у раённую ўправу. Прыняў яго бургамістр Сташэўскі, былы дырэктар падсобнай гаспадаркі, пажылы, інтэлігентнага выгляду чалавек, з пышнымі фельдфебельскімі вусамі. Трымаючы перад сабой на стале маленькія зморшчаныя кулачкі, вучыў, што і як трэба рабіць, хваліў Каршукова.

— За тое, што жывёлу прыгналі, хвалю... Гаспадара адчуваю. А што раней не прыйшлі — дарма. Немцы, дарагі Станіслаў Цітавіч, нацыя культурная, ашчадная. Гаспадарлівых людзей паважаюць. А што камуністамі былі, дык гэта не ваша віна. Як іграюць, так і скачы — ісціна старая. Дурні ды анархісты, яны заўсёды чымсьці незадаволеныя. А народу ад таго лягчэй не бывае. Мужыку што трэба? Зямля і спакой у свеце.

Каршукоў стараўся зразумець думкі бургамістра. Здавалася, што той нешта недагаворвае.

— Вы, Станіслаў Цітавіч, можа, не ведаеце,— манатонна і глуха гаварыў Сташэўскі,— што я адразу пасля рэвалюцыі свяшчэннікам служыў. А потым адмовіўся. І не каюся. Мае калегі з амбона прапаведзі казалі, хацелі языком уладу знішчыць. Дзе яны цяпер, ніхто не ведае. А я жыву. І вось маю гонар з вамі размаўляць. Спрачацца, як бачыце, бескарысна. Слоў няма, чужаземцы — вялікае зло, але ж не мы яго клікалі да сябе. Гэта разумець трэба, дарагі Станіслаў Цітавіч.

«Чаго ён мне спавядаецца?..— падумаў Каршукоў.— Не разбярэш, куды гне чалавек...»

— З богам прасцей,— сказаў Каршукоў, калі Сташэўскі выказаўся.— А вось як быць з хлебам — у галаву не вазьму. Мусіць жа, падаткі трэба плаціць?

Сташэўскі, здалося Каршукову, хітра прыплюснуў павекі, пакрытыя чырвонай сеткай жылак.

— Памагаць нямецкай арміі наш абавязак. Ды і ўраджай у вас, слава богу, добры. У другіх горш. Армія ўсе палі вытаптала.

— Як жа яны будуць жыць?

— Быў я ў сельскага каменданта Вейса, дамовіўся, што з патраўленага або знішчанага падаткі не будуць браць. Вось цяпер акты складаем, усё ўлічваем. Нават калі падаткі не адменяць, няхай дакуменцік будзе. Пасля яно ўсё спатрэбіцца.

Не хаваючы здзіўлення, Каршукоў глядзеў на Сташэўскага. «Хто ж ён такі, гэты Сташэўскі? Бач, куды махнуў...»

На развітанне ён моцна паціснуў далікатную руку бургамістра.

На развілцы дарог, адна з якіх ішла на Цішкаўку, другая на Хадынку, дзе жыў Каршукоў, яго сустрэла Ядвіся, перапалоханая, збянтэжаная.

— Ой, ледзьве дачакалася,— кінулася яна да Каршукова.— Не хадзі, Стась, у Цішкаўку — немцы там.

— Ну і што? Хіба мяне пыталі?

— Не, пра цябе не пыталі. А толькі мне здаецца, што недарма яны тут.

Каршукоў сумеўся толькі на адно імгненне. «Каб прыехалі па мяне, дык шукалі б ужо. Ды і што такое, калі паявіліся немцы? Усё роўна рана ці позна, а сустрэчы такой не абмінуць»,— падумаў ён. Сказаў Ядзі:

— Вось што, Ядзя, ты ідзі ў Хадынку. А я пайду ў Цішкаўку. Горш будзе, калі я пачну хавацца.

— Я таксама пайду з табой...

— Не, ты пойдзеш, куды я табе сказаў. Ясна? — нецярпліва загадаў ён, заўважыўшы, што Ядвіся не згаджаецца з ім.

Малады вясёлы афіцэр, камандзір нейкага дзіўнага атрада, займаў палову хаты Насці Турковай. Каршукова ён прыняў ветліва. Наліў Станіславу Цітавічу чарку саладкаватай гарэлкі, сказаў, што сам хацеў выклікаць пана старасту.

Афіцэр спакваля распытваў, як жылося раней пану Каршукову. Хваліў яго за гаспадарлівасць. Станіслаў Цітавіч дзівіўся, што афіцэр шмат што пра яго ведае, стараўся паказаць сваю адданасць немцам.

Потым афіцэр сфатаграфаваў яго. На памяць, як ён сказаў. Зноў выпілі па чарцы. Афіцэр пажадаў пабываць на полі, паглядзець, як працуюць сяляне.

— О-о, пан Каршукоў, вы сапраўдны ўпраўляючы маёнткам, але вам абавязкова трэба пабываць у Германіі. Вам неабходна падвучыцца. Мы вельмі цэнім адданых нам людзей.

Каршукоў згодна ківаў галавой. Ён рады будзе паглядзець Германію.

У той жа дзень афіцэр перабраўся на кватэру да Каршукова.

## 23

Галай не прывык яшчэ да працы ў новых умовах. Не хапала прастору, людзей, якімі Галай прывык кіраваць, ясных і строгіх дырэктыў, дзе ўсё было распісана, раскладзена па паліцах; не хапала прывычнай сувязі — пазваніў у любое месца і ўсё ведаеш, газет, без якіх раней не мог пачаць працоўны дзень, а галоўнае — яснага ўяўлення аб сваёй новай дзейнасці. Савецкую і партыйную работу ў мірных умовах Галай ведаў назубок. Сказалі б: «Станавіся, таварыш Галай, наркомам»,— не спалохаўся б і працаваў бы. А тут усё ад пачатку і да канца невядомае. Жывеш і працуеш нібы з завязанымі вачамі.

Тады, на прыёме ў сакратара абкома, усё здавалася простым і ясным. Пяцёрка — цэнтр падпольнага руху. Яна будзе растлумачваць людзям звярыную сутнасць фашызму, арганізоўваць падпольныя групы, якія ўступяць у барацьбу з захопнікамі. Цяпер усё выглядала інакш. Тут, у далёкай ад вялікіх дарог вёсцы, немцы яшчэ ні разу не паяўляліся, і ўсё жыццё ішло так, як і да вайны. Людзі хадзілі на работу, брыгадзіры вялі ўлік працадзён. Савецкая ўлада жыла, і ніхто пакуль на яе не рабіў замаху. Гэта радавала. Во якая яна, савецкая ўлада! За трыста вёрст у тыле ворага, а жыве! Недарэмна, відаць, працавалі бальшавікі, калі так моцна стаіць узведзены імі будынак. Потым пачынала непакоіць другая думка. Для каго працуюць людзі? Прыйдуць фашысты, забяруць усе набыткі. Немцам выгадна, што людзі дбайна працуюць. Успамінаўся загад — нічога не пакідаць ворагу. Гэта таксама было зразумела і вельмі лагічна. Напалеон калісьці і пацярпеў паражэнне, што адступаў па спустошаных смаленскіх землях. Здыхалі тады акупанты, як мухі. Ад го-

ладу, ад холаду, гразі. А цяперашнім адступаць можна: хлеб і бульба для іх ёсць у кожнай вёсцы.

Дык якой жа лініі павінен трымацца ён, Галай, старшыня райвыканкома?

У Лісіных ямах Галай не сядзеў без справы.

Як ён любіў казаць Самаросу, «абжываў» акаляючыя вёскі Веляшковіцкага сельсавета ды і самыя Веляшковічы. У Высачаны ён пакуль не лез: там Валенда і, напэўна ж, дзейнічае, стварае падполле. Працаваць паралельна — толькі шкодзіць справе.

У вёсках Галай шукаў патрэбных людзей, заводзіў знаёмствы, але асцярожнічаў, не выяўляў сябе да канца.

Найбольш яго цікавілі Веляшковічы — там адразу, як прайшлі франтавыя часці, была ўтворана сельская ўправа, бургамістрам якой быў прызначаны настаўнік сямігодкі Данільчык.

Галаю, і не з пустой цікаўнасці, хацелася ведаць, чаму менавіта Данільчык стаў бургамістрам?..

Хадзілі па людзях чуткі, што Данільчык завербаваны фашыстамі — шпіён. Галаю і верылася і не верылася. Ён пабываў у пана бургамістра. Той цямніў, хваліўся, быццам у імперыялістычную вайну трапіў у палон, жыў у нейкага баўэра, а ягоны сын знайшоў цяпер Данільчыка, паставіў бургамістрам. Паказаў ён Галаю і паперу з чырвонай пячаткай, у якой нібы было напісана, каб пану бургамістру вайсковыя часці аказвалі дапамогу.

У Галая склалася ўражанне, што Данільчык, можа, свой, падпольшчык, якому даручана ўвайсці ў давер да акупацыйных улад.

Але навошта такая складаная легенда падпольшчыку? У гэтым варта было разабрацца. Галай адклаў больш грунтоўную гаворку з Данільчыкам на потым.

За тым паходам у Веляшковічы Галай сустрэўся з былым старшынёй сельсавета Слюдой. Параіў яму стварыць пяцёрку, шукаць зброю і рыхтавацца да больш рашучых дзеянняў. А якіх? Нават у Высачанах не было варожых гарнізонаў. Дык як весці барацьбу супраць акупантаў, калі людзі амаль не бачаць іх у вочы?..

Вечарэла. Чорныя цені ад вербаў дасягалі аж далёкага ўзгорка, хаваліся за ім. З балота над глухім алешнікам узнімаўся рэдзенькі туман. Сонца прабівала яго наскрозь, таму здавалася, што туман як бы падзалочаны.

Галай паклаў малаток, перакуліў бочку дагары дном, прысеў, усё яшчэ думаючы, як бы хутчэй пачаць дзейні-

чаць. Толькі пачаць, а там само пойдзе... Жыццё падкажа...

З-за лазні вынырнуў Самаросаў хлапчук. Трымаючы штаны аберуч, ён задыхана сапеў і ніяк не мог вымавіць слова.

— Дзядзька, тата па вас прыслаў,— нарэшце вымавіў ён.— Там людзі чакаюць, са стрэльбамі.

— А ты не крычы. Якія людзі?

— Чэснае піянерскае, не знаю. Са стрэльбамі. Хочуць з вамі гаварыць.

Галай насцярожыўся. Ліха іх ведае, тых людзей. Правакатары, можа, якія, а Самарос вушы развесіў.

Нетаропка пачаў збірацца. Прыхаваў інструмент, закаціў бочку ў выгарку і зноў спытаў:

— Дык што за людзі там?

— Не знаю. Бацька паслаў. Наказваў хутчэй ісці.

Непакой узрастаў. Чорт яго ведае, ісці ці не? Зазірнуў у лазню, паклаў у кішэню лімонку, загнаў у ствол пісталета патрон. Падумаў: «Калі правакацыя, адаб'юся. Не так проста ўзяць Галая...»

Торфапасёлак ляжаў адразу за глыбокімі кар'ерамі. Вузкія перамычкі аддзялялі кар'ер ад кар'ера. Яны, як тыя масткі, злучалі поплаў з пасёлкам. Хлопчык бег наперадзе. Галай углядаўся ў пасёлак, нейкі пустынны і таямнічы. Прыкідваў на вока, як лепш адступіць, калі правакацыя.

На двары забаўляліся Самаросавы дзеці. На Галая яны не звярнулі ўвагі. Хлапчук хацеў першы забегчы ў хату, але Галай не пусціў яго. Дзверы адчыняў з асцярогай.

На лаўках сядзелі і ляжалі людзі, аброслыя бародамі, счарнелыя ад загару і нейкія залішне ўзбуджаныя і вясёлыя. Ва ўсіх вінтоўкі-карабіны. На стале, пабліскваючы лакам, ляжаў нямецкі аўтамат.

З-за стала прыўзняўся каржакаваты чорнабароды дзед.

— Што, Цімох Пархвенавіч, не пазнаеш?

— Шамшура! Ды цябе і жонка, чорта, не пазнае! Адкуль ты? Во неспадзяванка...

Яны абняліся, доўга ляпалі адзін аднаго па плячах.

— Адкуль ты такі? — запытаўся Галай.

— Давай па парадку,— прапанаваў Шамшура.— Гэта ўсё са знішчальнага батальёна хлопцы. Нашы хлопцы,

падзвінскія. А цяпер пра тое, як камандзірам стаў. Сцяпана Фёдаравіча помніш?

— Ляскова, сакратара вашага?..

— Яго. Забілі Сцяпана Фёдаравіча пад Дзямідавам. Ён батальёнам нашым камандаваў. Паклалі мы шпікаў ды дыверсантаў-дэсантнікаў шмат. Яны ў туташніх мясцінах і ўдзень і ўначы высаджваліся. Але і самі нямала страт панеслі. Спачатку мы на Высачанскім тракце дзейнічалі. Там дэсант з гарматамі і танкамі высадзілі. Горача было. Адтуль на чыгунку падаліся. Пачулі, што опергрупа ЦК у Лёзне знаходзіцца. Дапялі туды. Хацелі ў армію ўліцца. А нам Гарчакоў ад варот паварот зрабіў. Мы зноў у тыл пад Дзямідаў. А наогул у Шчаўбоўскія лясы кірунак трымаем. Пасля смерці Ляскова ўзвалілі камандаванне на мяне. Вось і ўвесь сказ.

— А Гарчакоў дзе? Паспеў эвакуіравацца?

Шамшура крыху здзіўлена паглядзеў на Галая.

— Куды эвакуіравацца?.. ЦК у Гомелі. Адстаў ты, Галай, ад жыцця. А я хацеў цябе за камісара прасіць.

Галай нічога не мог зразумець. Здаецца, не жартуе Шамшура, а паверыць цяжка. Як мог утрымацца Гомель?

Шамшура выцягнуў карту, разаслаў на стале. Дастаў з кішэні акуляры ў металічнай аправе, спакваля працёр шкельцы.

— От глядзіце, што палучылася. Галоўны ўдар немцы на Маскву скіравалі. Таму і пранесліся тут, як віхор. А на Палессі фронт во як выгнуўся. Так што нашы войскі ўвесь час вісяць і над паўночнай і над паўднёвай групай войск. Клінням Гітлер ідзе, але кліны гэтыя мы пасля падсячом.

— Слухай, Шамшура, каб ведаў, якую ты мне навіну прынёс!..— Галай расшпіліў каўнер кашулі: пачутае ўзрушыла яго.— Кожны дзень думаў, што мне рабіць, і нічога пэўнага не мог прыдумаць. А цяпер ведаю.

— Згодзен, значыць, камісарам да мяне?

Галай паківаў галавой.

— Не, брат, з табой не магу пайсці. У цябе свой раён, сваё заданне. У мяне сваё.

— Тады Самароса забяру.

— І Самарос тут патрэбен,— цвёрда сказаў Галай.— Падтрымліваць адзін аднаго будзем. А разам не выходзіць. І тут трэба камусьці працаваць. А то пачуюць людзі пра твае справы і скажуць: а нашае начальства ўцякло.

Падрыў веры, брат ты мой, самае горшае цяпер. Людзі верыць павінны.

— Гэта ты праўду кажаш,— падумаўшы, азваўся Шамшура.

— А за навіны яшчэ раз дзякуй. Ты мне толькі вось што скажы, як немцы ў баі? Ну, калі на іх знячэўку нападзеш.

— Гэта табе няхай хлопцы раскажуць. Яшчэ западозрыш, што хваліцца Шамшура.

Хлопцы загаманілі наперабой:

— Лесу, як чорт крыжа, баяцца.

— Нагледзеліся, як у іх пяткі блішчаць.

— Панікуюць дай божа...

— Галоўнае — не даць ім залегчы. Калі хто залёг, дык да апошняга адбіваецца. Біць з ходу трэба: цяпнуў і ўцякай.

— Тэхніку нішчыць трэба. Масты таксама, а галоўнае — чыгунку.

— Тол з нашых снарадаў выплаўляць можна. Лёгка плавіцца і ўзрываецца здорава...

У хаце зрабілася цёмна. Але агню не запальвалі. Проста забыліся на яго. І без агню было хораша, утульна.

— Ну, нам пара ў дарогу,— сказаў Шамшура.

Галай, падаючы руку, думаў: «Варта папрасіць у Шамшуры карту ці не?.. Не дасць чорнабароды скупярдзяй». Але спакуса была вялікая. Папрасіў. На здзіўленне Галая, Шамшура зняў планшэтку з картай.

— Бяры, картамі нас Гарчакоў забяспечыў.— І, звярнуўшыся да высокага, загадаў: — Падары ім бінокль. У нас жа два.

На двары развітваліся доўга, па некалькі разоў паціскалі адзін аднаму рукі. У Галая было такое адчуванне, быццам страчвае самых дарагіх людзей на свеце.

Група Шамшуры паволі раставала ў цемрыве ночы. Нарэшце зусім знікла. Галай з Самаросам яшчэ доўга стаялі на двары. Абодва зайздросцілі Шамшуру. Глядзі ты, як адразу вырас Шамшура. А быў жа непрыкметны: звычайны старшыня пасялковага Савета. І вось табе — камандзір! І які ўпэўнены, быццам усё жыццё камандаваў дывізіяй ці корпусам!

— Во як павярнулася, Мікіта Лявонавіч, сапраўдная партызанская вайна пачынаецца...

Яны памаўчалі крыху.

— Трэба і мне, Мікіта Лявонавіч, тыдні на два адлучыцца...

— Паасцярогся б...

— Па сваёй зямлі ходзім,— сказаў Галай.— Няхай яны нас баяцца. Ну, ды зараз не пра гэта. Што я цябе папрашу, таварыш Самарос. Па-першае, вось табе план, дзе ў нас зямлянкі пабудаваны. Будзеш адводзіць туды людзей, якіх я стану да цябе на Лісіныя ямы прысылаць. Зямлянкі таксама ўмоўна назавём Лісінымі ямамі. Па-другое, сходзіш у Высачаны. Там у Данілы Сапуна — знойдзеш яго — хаваецца наш начальнік міліцыі Валенда. Хай ён са сваімі людзьмі ў лес выходзіць. Пароль я табе дам. Па-трэцяе, на ўсякі выпадак, запомні адрасы надзейных людзей у Веляшковічах і акаляючых вёсках. Ледзь што, хай ідуць у лес. І зброю, зброю трэба дабываць. Без яе ваяваць нельга...

Самарос па даўняй вайсковай прывычцы слухаў Галая, апусціўшы рукі па швах.

## 24

Яшчэ ў Лісіных ямах Галай спланаваў спачатку наведаць Тышкевіча, цераз яго звязацца з Каршуковым і толькі потым забраць Прусаву. Ды планы, бывала, і ў мірны час парушаліся — вайна яшчэ больш блытала іх.

На паўдарозе да Кавалёў, там, дзе гравійка злучала дзве ніткі шашы, Галай напароўся на варожыя гарнізоны. Абыходзячы іх, даў добрага, кіламетраў у пятнаццаць, кругу, і само сабой прыйшло рашэнне найперш цяпер ісці да Прусавай, а там абставіны пакажуць, што рабіць далей.

Пад Косавам ён перабраўся цераз шашу, адышоўся ад яе кіламетры на два, пайшоў да Жыжана паралельным курсам. Ішоў праз вёскі, папярэдне высветліўшы, што ў іх няма гарнізонаў.

Казалі, што гарнізона няма і ў Жыжане. Але Галай паасцярогся адразу перці ў хату. Пачакаў, пакуль зойдзе сонца, паназіраў. Верына маці хадзіла па двары. Самой Веры — не бачна.

Мяккае сутонне памалу апускалася на зямлю. Галай вылез з кустоў, перабежкамі дабраўся да хаты. Адчыніў дзверы. У твар ударыла жылым духам.

— Хто там?

— Свае.

Таклюся злезла з печы. Прыглядалася да Галая.

Мутнае святло, што цадзілася праз акенца, мала памагала Таклюсі.

— Я да Веры Гаўрылаўны.

Таклюся доўга не абзывалася.

— Няма яе, у адступленне пайшла.

— Калі?

— З усімі разам.

— Вы, цётка, мяне не бойцеся.— Галай зразумеў, што Таклюся асцерагаецца незнаёмага чалавека.— Галай я. Старшыня райвыканкома. Памятаеце, снедалі ў вас з Самаросам?.. Пільная справа да вашай дачкі.

— Старшыня выканкома... Не прызнала я вас. Вочы ўжо не тыя.

— Проста цёмна ўжо,— усміхнуўся Галай.

— Няма Верачкі. Баіцца Верачка начаваць дома. Да цёткі пайшла.

Галай сеў ля стала.

— Немцы ў вёсцы бываюць?

— Ноччу няма, а днём прыязджаюць. За тры вярсты ад нас гарнізон іхні. Адтуль налятаюць. Яек набяруць, курэй настраляюць або парасё ў каго зарэжуць і — назад.

— Хацеў я вашу дачку пабачыць.

— Тады пачакайце да заўтра. Яна абавязкова зойдзе. Усё некага чакае. Па вачах бачу, а спытаць баюся. Сварыцца, што нос соваю ў яе дзялы.

— То яна мяне чакала.

— Калі вас, то і не адпушчу з хаты. Даведаецца, што не ўтрымала вас, яшчэ горш сварыцца будзе.

Галай вагаўся, не ведаў, што рабіць: чакаць Прусаву тут ці ісці да яе цёткі. А можа, папрасіць маці, каб схадзіла па Веру? Самае найлепшае, але было няёмка пасылаць старога чалавека праз ноч у дарогу. Рашыў: застануся тут...

— Мне на вочы немцам трапляць не дужа хочацца,— асцярожна сказаў Галай.

— А нашто трапляць... Схаваю вас, Цімох Пархвенавіч. Ды і не заходзяць яны сюды. Адна кароўка засталася ды кот. Вот і ўся гаспадарка.

Таклюся вывела Галая на агарод. Там, пад кустом парэчак, быў бункер.

— Гэта ж думала, што фронт будзе. Упрасіла Самароса акопчык мне выкапаць. Дзякуй яму, не адмовіў. Можаце спакойна спаць.

Прачнуўся Галай, разбуджаны страшным сном. Здаец-

ца, крычаў нават. У бункеры душна. Пахла палыном і рутай. А навокал цішыня. Галай выбраўся наверх, азірнуўся. Таклюся палола грады. Прыгінаючыся да кустоў, падышоў бліжэй, запытаўся:

— Ціха ў вёсцы?

— Як быццам ціха. Мо паснедаеце? Я прынясу сюды.

І зноў далікатнасць не дазволіла турбаваць жанчыну.

— Пойдзем у хату. Мы цяпер, цётачка, ямо ў запас.

Таклюся пачала завіхацца ля печы. Наліла міску крупені, нарэзала хлеба.

— Еш на здароўе.— Яна прысела побач.

— Дзякуй, цётка. Ды і вы садзіцеся. Талакой і за сталом весялей.

— Я пасля...

Галай зачэрпнуў лыжку, апёкся гарачай, як кіпень, стравай.

— Ну і крэпкая ў вас крупеня!..

— Смалякамі печ паліла.

Падзьмухаўшы ў лыжку, Галай памалу сёрбаў, пацеў. Было душна.

Паснедаўшы, Галай не спяшаўся пайсці ў сховішча. Таклюся мыла міску, расказвала пра няхітрыя вясковыя навіны.

— Пайду я, пахаджу па балоце. Не сядзець жа ў склепе,— сказаў Галай.— Вельмі ваша хата зручна стаіць. Равок пад бокам, балота, хмызнякі да самага парога.

— Глядзіце самі,— адказала Таклюся.

Галай нахлабучыў шапку, пайшоў да дзвярэй, адчыніў іх і... нос у нос сутыкнуўся з варожым афіцэрам.

— Цурык,— крыкнуў той і падштурхнуў Галая, каб ішоў у хату.— Хто ёсць такі?

Галай спакойна зайшоў у хату, падміргнуў яшчэ Таклюсі, каб не баялася. Ні страху, ні разгубленасці не адчуваў. «Наган у правай кішэні»,— успомніў ён.

Каб памагчы Таклюсі справіцца з хваляваннем, Галай знарок гаварыў павольна:

— Зняволены я, пацярпеўшы ад савецкай улады. А прозвішча маё Нікалаеў Іван Максімавіч. Іду дамоў, а дом яшчэ ў бальшавікоў...

— Дакументы ёсць? — спытаўся афіцэр.

— Якія цяпер дакументы, гаспадзін афіцэр. Пашпарт хіба.

Пашпарт ляжаў у нагруднай кішэні. Спакойна дастаў

пашпарт. Афіцэр узяў пашпарт, заглянуў у яго і падступіў да Таклюсі.

— Дзе дачка?

— У адступленне пайшла.

Афіцэр Галаевым пашпартам выцяў Таклюсю па твары.

— Хлусіш. Учора была тут.

«Выдалі»,— роспачліва падумаў Галай. Пастараўся прыйсці на выручку Таклюсі:

— Гаспадзін афіцэр, яна праўду кажа.

— А ты адкуль ведаеш?

— Дык я ў яе тыдзень ужо жыву. Чакаю, пакуль вы маю радзіму вызваліце,— ён хлусіў упэўнена і, здаецца, пераканальна.

Афіцэр адступіўся ад Таклюсі.

Салдаты хадзілі па хаце, заглядалі пад ложак, пад печ, адчынілі шафу, пачалі выкідваць Верыны кофты, спадніцы.

Афіцэр стаяў, заклаўшы рукі за спіну, назіраў, як салдаты робяць вобыск. Адзін з іх выграбаў з куфра сувоі палатна, посцілкі, ручнікі. Выцягнуў з самага дна кнігу. Галай пазнаў яе: «Гісторыя грамадзянскай вайны». Падумаў: «Неабачліва» і ледзь не закрычаў ад роспачы. З кнігі на падлогу ўпаў Верын партыйны білет. «Чаму яна не здала яго? — падумаў Галай.— І я, ёлупень, вінаваты...»

— Ваша дачка — бандыт, камуніст!..— закрычаў афіцэр, разглядаючы партбілет.— Кажыце, дзе яна?

Старая перахрысцілася.

— Крыж святы, не ведаю.

— Ах, так! Ганс...

— Яволь!

Ганс падскочыў да Таклюсі, падкаваным цяжкім ботам ударыў у пахвіну. Старая, разявіўшы рот, асунулася на падлогу, скурчылася. Ганс падхапіў яе за валасы, паставіў на ногі, наводмаш ударыў па твары. Тоненькая стужачка крыві выпаўзла з куточка рота, пацякла па падбародку.

— Што ж вы робіце?!. Не вінаватая яна.— Не стрымаўшыся, Галай ліхаманкава засунуў руку ў кішэню. Учапіўся мёртвай хваткай за рукаятку. Наган засеў у глыбокай кішэні. Галай ірвануў яго, вывернуў кішэню і, не цэлячыся, выстраліў. Ён паспеў убачыць, як салдат зламаўся ў паясніцы, стаў паволі падаць на падлогу. Але і ў яго

самога раптам падкасіліся ногі, а падлога выкаўзнулася з-пад іх, і ён паляцеў у прорву.

Галай расплюшчыў вочы. У галаве гуло, а перад вачамі плылі зялёныя, з чырвоным акаймаваннем кругі. Ён бачыў чорную столь, а бакавым зрокам нейкае святло, але не мог павярнуць галавы, каб разгледзець, адкуль яно.

Нехта выліў на яго цэбар вады. Галаю стала холадна, і зубы самі заляскаталі, як тая трашчотка.

— Хто ты? Прозвішча, імя? — пачуўся далёкі голас.

— Грамадзянін Савецкага Саюза.

— Глядзі ты, ён яшчэ жартуе,— сказаў нехта побач.— Будзеш гаварыць?

— Больш нічога не скажу.

— Дзівак... Назаві нам сваіх хаўруснікаў, і мы цябе адпусцім. Мы паважаем смелых.

Кругі перад вачамі зніклі. Афіцэр стаяў насупраць. Два салдаты падхапілі Галая пад пахі, паставілі на ногі. Яшчэ два стаялі абапал Таклюсі. «Мнагавата іх, не ўцячы»,— падумаў Галай і ўжо з гэтай мінуты думаў над тым, як бы памерці з гонарам.

Ачнуўся ён каля ганка былога сельсавецкага будынка. Ён ляжаў на траве. Над ім роем гулі мухі, ліплі на твар, надакучліва звінелі над галавой. Таклюся сядзела згорбіўшыся побач, шаптала малітву.

— Не трэба, цётка, бог нам цяпер не паможа,— сказаў ён.

Яна глянула на яго з немым дакорам, патрэсканыя вусны заварушыліся яшчэ жвавей.

Да сельсавета зганялі людзей. «Няўжо з-за нас усіх расстраляюць?» — скалануўся Галай.

Людзі спыняліся воддаль, спалохана перашэптваліся. Галай сеў, глядзеў у натоўп, лавіў баязлівыя позіркі. Людзі хавалі вочы, быццам былі вінаваты ў тым, што іх злавілі. Галасілі бабы, нягучна, але так жаласна, што ў Галая варушыліся пад кепкай валасы.

Афіцэр выйшаў у суправаджэнні цывільнага, як відаць, мясцовага чалавека, і яшчэ нейкіх двух чыноў з белымі павязкамі на рукавах.

— Загадайце маўчаць,— пастукваючы бізуном па халяве, сказаў афіцэр.

Мясцовы памахаў у паветры рукой.

— Грамадзяне, нямецкі пан афіцэр гаварыць хоча. Прашу цішыні.

Людзі змоўклі адразу. Усхліпнула ў апошні раз ней-

кая жанчына, і гэты надрыўны ўсхліп так і павіс у напружанай, злавеснай цішыні.

— Мы ёсць гуманная армія,— пачаў афіцэр.— Мы ваюем не супраць вас. Мы супраць бальшавікоў і камуністаў. Вось гэтыя бандыты стралялі ў нашых салдат. Хто ведае гэтага чалавека? Ён ваш?

— Не-е-е...— пранеслася над натоўпам.

— Гэта добра. Хто ж ён? Вы павінны яго ведаць.

Маўчанне было невыносна доўгае і напружанае.

— Харашо. Не хочаце гаварыць! — У афіцэра задрыжаў, наліўся свінцом голас.

Салдаты навялі на натоўп два тупарылыя рашотчатыя кулямёты. Рулі слепа пашукалі натоўп, замерлі. Нехта закрычаў, забіўся ў прыпадку. Ля яго расступіліся, але ніхто не стаў падымаць чалавека.

— Я лічу да трох. Пасля мы страляем,— выгукнуў афіцэр і ўзняў бізун над галавой.

Натоўп калыхнуўся, зашумеў.

— Маўчаць. Раз,— і зноў настала напружаная цішыня. І раптам яна трэснула ад дзікага, істэрычнага крыку:

— А-а-а-й, людцы, Галай гэта!..

Натоўп качнуўся, як ад ветру, замёр. Стары барадаты дзед выйшаў на крок з натоўпу, доўга прыглядаўся да Галая.

— Ваша благароддзе, пан афіцэр, цяжка пазнаць, хто гэта. Твар разбіты. Тут роднага сына не пазнаеш. Можа, і старшыня нашага раёна, а можа, і не.

Афіцэр сарваўся, падбег да Галая.

— Ты і ёсць Галай?

— Так, Галай, а далей што?

— Устаць!

— Можна і ўстаць.— Галай прыўзняўся, абвёў натоўп вачамі, крыкнуў: — Таварышы, Савецкая Армія б'е немцаў! Не верце фашыстам!

Яго збілі з ног, а людзей разагналі.

Расстралялі іх з Таклюсяй на пустыры за сельсавецкім хлявом. Грузнае, цяжкое Галаева цела спіхнулі ў старую сіласную яму. Таклюсю пакінулі на пустыры. Пад вечар жанкі пахавалі яе на могілках.

Пра смерць Галая Тышкевіч пачуў толькі на трэція суткі. Як найчасцей бывала ў вайну, чутка дасягнула Кавалёў у скажоным выглядзе: расказвалі, нібы Галай з Верай Прусавай адстрэльваліся, пакуль былі патроны. Потым выйшлі, абняўшыся, насустрач немцам. Іх так і рас-

стралялі ў абдымках. Нават пасля смерці не маглі раз'ядпаць. Тышкевіч засабіраўся ў дарогу на партызанскую базу. Але хацеў яшчэ наведацца да Каршукова.

Апошні раз Вера Гаўрылаўна плакала год пятнаццаць назад. То былі лёгкія, яшчэ дзіцячыя слёзы, якія высахлі адразу. Цяпер Вера плакала, не саромеючыся слёз. Старая рабаватая цётка Макрэна, матчына сястра, суцяшала як умела, угаворвала зміравацца. Вера нічога не чула. Ляжала ніцма на падушцы, калацілася ад плачу. Жывы, вясёлы, разважлівы, Галай стаяў у яе перад вачамі. Было цяжка паверыць, што ён мёртвы, што ніколі ўжо яна не пачуе яго голасу.

На другі дзень Вера ўгаварыла цётку схадзіць у Жыжана, разведаць, як загінуў Галай. Тая неахвотна сабралася, пайшла. Вера чакала яе, нецярпліва ходзячы па старой, з падгнілымі маснічынамі хаце. Слёз ужо не было, толькі калючы боль сціскаў грудзі.

Цётка прыйшла ў абед, калі пастухі гналі кароў на полудзень. Села. Выцірала ражком хусткі сухія вочы. Расказвала, дзе і як пахавалі Верыну маці.

— А Галай дзе? — нецярпліва спытала Вера.

— Ляжыць у яме, і нікога не падпускаюць да яго.

— Хто іх выдаў? — памаўчаўшы, запытала Вера.

— Каб жа хто ведаў... Толькі, плямутка мая, без Сысоя не абышлося. Усе так гавораць.

Вера моўчкі пачала збірацца. Цётцы ні слова, хоць тая і пыталася, куды пойдзе пляменніца. Ужо на парозе, пазіраючы кудысьці ў кут, поўны старых абразоў, сказала:

— Вы, цётка, крыж на матчыну магілку пастаўце, каб можна было пасля вайны знайсці. Потым я на ёй помнік збудую.

Яна выйшла на двор. Маленькая раскіданая вёска лягіва драмала ў яркіх промнях нізкага на заходзе сонца. Касыя доўгія цені кладіся праз увесь поплаў і недзе хаваліся за лысым курганом.

З двара па агародах Вера пайшла на бульбяное поле. Ішла пратаптанай у баразне сцежкай, згарала ад нецярплівай помсты.

Неўзабаве за лесам схавалася сонца. Пачало змяркацца. Нізка над гарызонтам сіняватым яркім ліхтарыкам успыхнула зорка. Вера намацала ў кішэні браўнінг.

Усё ўяўлялася проста і звычайна. Яна ўвойдзе ў хату,

возьме на прыцэл ненавіснага Сысоя, як малітву, прачытае прыгавор: «Імем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік за здраду і смерць нашых людзей мне дадзена права расстраляць цябе, фашысцкі прыхвасцень, былы кулак і шкоднік Архіп Лявонавіч Сысой!..»

Да Жыжана было вёрст пяць. Недзе на паўдарозе зрабілася цёмна. Вера ішла напрасткі незнаёмай, ніколі не ходжанай сцежкай. Але яна не баялася заблудзіцца: здаецца, з завязанымі вачамі знайшла б Жыжана, а ў ім хату з вялікім палісаднікам.

На шашы яна спынілася, доўга слухала звонкую цішыню. Нават у цемры ночы ёй усё было знаёма. Справа, ведала яна,— глыбокі пясчаны кар'ер, за ім, на гары, стары маяк. Унізе — балота, торфазавод, а крыху ўлева стаяла яе хата. Хаты цяпер няма. Але парэчкі, мабыць, засталіся, а пад імі акоп, сховішча. Ці не там знайшлі Галая? Тады выдаў не Сысой, а нехта іншы, той, хто ведаў пра гэты акопчык. І ўсё роўна без Сысоя не абышлося.

Яна пачала глядзець у тым кірунку, дзе Сысоева хата. Відаць былі толькі дзве бярозы ля пуні. Хата хавалася ў чорных нізкіх прысадах.

За шашой поле збягала ўніз да Марачкінага ручая. На полі рос ячмень, і Вера пачала абыходзіць яго, шукаючы ўзмежак. Недзе ў вёсцы забрахалі сабакі, здаецца, у Кузьмовых. Яна спынілася, адчула, як б'ецца сэрца, і ўзлавалася на сябе — трэба быць спакойнай.

Ручай перайшла па кладцы, пастаяла ў кустах, пазіраючы на Сысоеву хату. Вакол панавала цішыня. Нават сабакі перасталі брахаць.

Вера моцна заціснула ў кулаку браўнінг, пайшла, крадучыся, стараючыся як мага хутчэй дайсці да густых кустоў бэзу.

У палісадніку яна пераввяла дых і ўжо спакойна азірнулася. Два акны выходзілі сюды, на шашу. Між імі ганак з точанымі слупкамі, на якіх трымаецца лёгкі дашчаны навес. Толькі б не былі зачынены дзверы. Справа, як толькі зойдзеш у хату, ложак. На ім заўсёды спіць Архіп з жонкай. «Трэба страляць адразу»,— думае Вера.

Яна падымаецца на ганак. Прыступкі рыпяць, аж коле ў сэрца. Але ў хаце ціха. Вера асцярожна бярэцца за ручку, цягне на сябе. Дзверы закладзены з сярэдзіны. «Дурная, трэба было браць гранату... Усё гняздо іх пад корань...»

Некалькі секунд яна стаіць нерашучая, разгубленая.

У галаву лезуць бязглуздыя думкі. Да слёз крыўдна, што Сысой як у крэпасці. Голымі рукамі яго не возьмеш. Маленькі браўнінг здаецца цяпер непатрэбнай цацкай.

Памалу Вера спускаецца з ганка. Зноў рыпяць прыступкі.

— Хто там? — чуе яна Архіпаў голас і, не зважаючы ні на што, кідаецца ў кусты бэзу, прыслухоўваецца, але, апрача гучнага біцця сэрца, нічога не чуваць.

Доўга цягнецца час. Потым чуваць, як бразгае завала, як рыпяць дзверы. Архіп выходзіць на ганак — Веры добра відаць яго белая постаць.

— Архіп, асцярожней ты,— далятае з хаты жончын голас.

Вера падымае браўнінг, цэліцца. Але нічога не відаць, цёмна.

— Здалося табе,— кажа Сысой.— Вечна табе здаецца. Ціха.

«Ціха, табе ціха. Во табе!»

Вера цісне на курок. Суха гучыць стрэл, і па ўсёй вёсцы коціцца рэха. Брэшуць сабакі.

Вера страляе яшчэ раз, яшчэ. Нехта крычыць. А белая постаць стаіць. Вера зноў націскае курок. Стрэл. Трэба ўцякаць. Але Архіп усё яшчэ стаіць на тым жа месцы.

Над сельсаветам успыхвае белым полымем ракета. Вера заплюшчвае ад непрывычнай віднаты вочы, а калі адкрывае іх, дык нікога не бачыць на ганку. Пуста. Няўжо яна страляла ў прывід?

Веру ахоплівае жах, і яна зрываецца з месца, бяжыць, не чуючы ног; толькі балюча пячэ ў грудзях і рот прагна хапае паветра.

## 25

З поўначы ад Высачан, адтуль, дзе вялізны коўш Мядзведзіцы рассыпаў над лесам яркія зоркі, далятаў да паляны ціхі гул самалёта. Над палянай вісела самотная цішыня, якая зрэдку перарывалася шэптам лісця.

Самалёт бы павіснуў над лесам. Замерлі на хвіліну матары і зноў загулі ўрачыста і весела. З-пад бярозы, разразаючы чорную цемрач ночы, бліснуў некалькі разоў агалёк і стух. Зноў замерлі ў небе маторы, быццам самалёт увайшоў у «піке», а потым яго гудзенне пачулася далёка за лесам.

Вялізны коўш Мядзведзіцы раптам прапаў на небе.

закрыўся шэрым ценем. Цень рос, акругляўся і хутка падаў на зямлю, на лес.

З-пад бярозы мільганула постаць. Знікла ў лесе. Патрэсквала пад нагамі ігліца. Зноў яркі пучок праменняў слізгануў па дрэвах, выхапіў з чарнаты аброслы мохам сук, падобны на прывід: доўгая касматая рука з мноствам пальцаў цягнулася да агню.

— Памажыце, хутчэй, зачапіўся.

— Зараз. Дзе вы, не бачу?

— Тут.— Голас далятаў зверху.

— Ага, убачыла. Адчапляйцеся. Тут нізка, метры два, не больш.

Чалавечыя ногі віселі ў паветры між трох елак. Сам чалавек трымаўся на стропах, намагаўся адчапіць лямкі. Потым упаў на мох — не ўтрымаўся на нагах.

— Давядзецца лезці на яліну,— сказаў ён, падняўшыся.— Не кідаць жа яго тут.

— Трэба адчапіць. Я ўжо думала, не прыляціце. Пятую ноч вартую.

— Не ўдавалася.

Чалавек адчапіў парашут, сабраў, пачаў капаць яму.

— Такі шоўк згніе,— пашкадавала Людміла.

— Затое слядоў не будзе,— адказаў парашутыст.— Расказвай, Людміла, як ты тут жывеш?

Людміла Герасіменя памаўчала, потым сказала:

— Перш, таварыш маёр, хацелася вас паслухаць.

— Вайна, Людмілка, усенародная вайна ідзе. А ваяваць з усёй Еўропай трэба. На Захад спадзяванку няма. Францыя дэмаралізавана. Англія сама чакае дэсанта, хоць баяцца ёй няма чаго: немцы ў нас заселі.

— А ў Маскве як? Спакойна?

— Як табе сказаць... Пакуль спакойна. Асцярожныя патроху выязджаюць, хоць каманды на тое не было. Навін добрых мала. У горадзе была?

— Адзін раз усяго. Тут 52-я армія на перафарміраванні. На аэрадроме два авіяпалкі. Адзін далёкага дзеяння, другі бліжняга. Армія выступае, мабыць, хутка. Застаецца гарнізон. Невялікі. Начальства падбіраецца пакрысе.

— Чорт з ім! Камісарыят дзе?

— На Мікольскай горцы, у царкве.

— Не цікавілася, як там?

— Цікавілася. Строга вельмі.

— А ўсё ж, таварыш Герасіменя, давядзецца туды прабірацца. Як з мовай? Спрабавала размаўляць?

— Спрабавала, Сяргей Паўлавіч.

— Гэта добра. Прыстроіцца ў камісарыяце табе во як трэба. Камісарыят — гэта ключ да астатніх устаноў. У крайнім выпадку на камендатуру нацэльвайся. На меншае нам сіл не варта траціць.

— Лепш ужо ў камендатуру.

Маёр закапаў парашут, замаскіраваў месца.

— Чаму ў камендатуру? Шпіёнамі і рознымі правакацыямі паліцыя будзе займацца, а яна падпарадкавана камісарыяту. Без яе і армія не абыдзецца.

— Страшна там.

— Давядзецца прывыкнуць. Хадзем багаж шукаць. Да раніцы трэба знайсці. Рацыя там.

На дрэвы выпадала раса. Цёплы туман хаваўся па нізінах і альховых кустах. Хадзіць было цяжка, нібы з завязанымі вачамі. Таму часу патрацілі шмат, пакуль знайшлі багаж. На ўсходзе, скрозь дрэвы, ружавела ўжо неба. Абуджаліся птушкі, і спевы іх ажывілі мёртвую цішыню.

— Дома не будуць хвалявацца?

— Не, прывыклі, хоць і не ведаюць, куды хаджу.

— Падазрэння ніхто не выклікае?

— Не. Хоць здарылася тут са мной...

— Што? Расказвай.

— Даніла Сапун, наш, вясковы, аднаго разу прыбег па мяне. Да яго зайшоў акружэнец, сяржант, прасіў параіць доктара. У іх капітан паранены ляжыць у лесе. Дык я схадзіла ў лес, аперацыю зрабіла.

— Неасцярожна, Людміла. Даніла гэты што за чалавек?

— Служыў у міліцыі. Потым ажаніўся, у нас асеў. Харошы чалавек... Толькі вось здаецца, што ён сачыць пачаў за мной. А чаму, не разумею.

— Зусім дрэнна.

Маёр задумаўся. Потым рашуча сказаў:

— Сітуацыя цікавая... Ты як лічыш?.. Цікавая!.. Самы раз табе ў горад перабірацца.

— Я за бацькоў хвалююся. Даведаюцца людзі, што ў немцаў служу, зненавідзяць іх.

— За бацькоў не клапаціся. Штосьці прыдумаем. Галоўнае, табе прыстроіцца трэба. А пасля і мне. Лісіныя ямы ведаеш? Ад іх кіламетры за тры, па гэты бок торфазавод, хутар пры лесе. Ляснік там жыў. Дык я там запынюся. І вось што, Сяргея Паўлавіча няма. Ланге я. Карл Эрнставіч Ланге.

## 26

Жыццё ў лясным лагеры ні гарэла, ні тлела.

У горычы і самоце каціўся пад адхон жнівень. Каціўся павольна, але неяк незаўважна і надзіва хутка. Аднастайныя, падобныя адзін да другога дні перакрэсліваліся чырвонай стужкай вячэрняй зары і назаўсёды стухалі разам з ёю. Быў усход, гарачы поўдзень, адвячорак, і больш нічога, акрамя пуднага, надакучлівага чакання нейкага цуда. Адны і тыя ж размовы даўно абрыдлі, але толькі імі і жылі гэтыя людзі, што знайшлі часовы прытулак у глыбокім рове.

Па схілах рова раслі крушына ў рост чалавека, папараць, крапіва, балігалоў. Гонкі арэшнік пераплятаўся з алешнікам і маладымі елкамі. А над імі раскінулі замшэлае голле калматыя, з сівымі барадамі хвоі.

Над кручай, на маленькай прагалінцы, цвіў чабор, і духмяны пах яго кветак, перамешаны з гнілаватым пахам папараці, асабліва востра адчуваўся пасля паўдня, калі высыхала раса, а нагрэтае паветра пачынала трымцець, пералівацца дробнымі хвалямі. Тады не было як пазбавіцца ад гэтага надакучлівага, п’янага паху і яшчэ вастрэй адчуваліся адзінота і адарванасць ад усяго жывога.

Баталаў у размовах не ўдзельнічаў. Слухаў, а калі хто з хлопцаў пытаўся пра ягоную думку, адказваў коратка і вельмі неканкрэтна. Валенда маўчаў зацята, усім сваім панурым выглядам асуджаючы пустыя размовы. На яго не звярталі ўвагі.

— Во што я вам скажу: мала іх, гадаў, бралі ў трыццаць сёмым,— звычайна пачынаў дыспуты Грышка Саханчук. Голас у Грышкі ломкі, надтрэснуты, з тым адценнем абыякавасці, якая паяўляецца пасля доўгага мусолення адной і той жа думкі.— Рана адбой далі, спалохаліся: перагну-у-улі. А па мне лепш бы сто разоў перагнулі, дык тады не сядзелі б мы з вамі ў гэтым рове. На свае вушы чуў, што камандуючага нашай акругі за здраду расстралялі. Гэта як зразумець?

Пытанне Саханчука доўга аставалася без адказу. Чырвонаармейцы горка раздумвалі над адступленнем. Нарэшце азваўся Цімохін:

— Разбярэшся ў гэтай калатнечы. Я вам так скажу: за няўдачы заўсягды нехта адказвае. Да слова кажучы, сапрэў у нашым калгасе ў трыццаць другім годзе капец бульбы. Згніла бульба, і ўсё. Ці мала такіх выпадкаў бы-

вала!.. Ну, у самога такое здарыцца; пагаруеш і, самае горшае, без бульбы застанешся. Сам сябе за локаць не ўкусіш. Дык вось, значыць, вясной, як зямля растала, бачыць брыгадзір — курыцца над капцом дымок. Падбег ён да капца, пхнуў нагой ды ледзьве бахілы ў зямлі не пакінуў. А з дзіркі гэтай прэллю тхне... Старшыня ў нас труслівы быў, адразу ў горад да пракурора. Так і так: бульба згніла, а што рабіць, не ведаю. Ну і пайшла пісаць губерня... Пачалі вінаватага шукаць. Бо трэба ж неяк гэтую праклятую бульбу спісаць. Капцы ў нас засыпалі трое. Узяліся, значыць, за іх. Хто, ды што, ды як? Ну, адзін з іх, Мацей Даўгяла, успомніў, што Аверка Шпачонак — чапуховы такі мужычок, бяскрыўдны зусім — усягды капцы завяршаў і аднаго разу быццам сказаў: «Ты вось, Мацей, шчыруеш, а дзякуй усё адно не палучыш. Нашаму старшыні хоць зорку з неба дастань, а ён усё роўна сварыцца будзе. Дык чорт з ёю, з гэтай бульбай. Хай яна пагарыць, каб я з-за яе пуп надрываў...» Іншы, можа, ад такіх слоў адмовіўся б, а Аверка прызнаўся, што сапраўды ён такое гаварыў. Ну і прыпаялі яму за шкодніцтва пяць гадоў з пасяленнем у Сібіры.

— Значыць, вінаваты быў,— рашуча адказаў Грышка Саханчук.

— Дык ты ж даслухай,— спакойна запярэчыў Цімохін.— Каб ён збіраўся шкодзіць, дык не адзін бы капец згнаіў, а ўсе дваццаць сем. А пасля вось што ўспомнілі. Аверка Шпачонак у той дзень, як гэты капец засыпалі, у горадзе быў і, натуральна, не мог, значыць, шкодніцтва дапусціць. А капец той сам старшыня завяршаў. Як на тое ліха прыбег на поле, схапіў рыдлёўку і засыпаў капец зямлёй. Ды, відаць, перастараўся, зашмат зямлі накінуў. Бульба, яна грэецца. Ды асабліва калі макраватую ссыпаюць. Вось і перагрэлася, згарэла ўся. Так і тут. Можа, хто недагледзеў, а адказвае зусім іншы,— заключыў Цімохін.

— Не, хлопцы, што ні кажыце, а здрада — факт,— парушыў маўчанне Васька Дзячкоў.— Я ад самай граніцы адступаю. Нагледзеўся. За тыдзень да вайны да нас загад прыйшоў: паставіць танкі на прафілактыку. Паставілі. А вайна пачалася. Гаручага няма, танкі разутыя... Без шпіёнаў тут не абышлося.

— Дык а я што кажу,— зноў азваўся Саханчук.

Валенда прыглядаўся да людзей з неаслабнай трывогай. Не толькі размовы — яму не падабалася ўсё: зямлян-

кі, невядома кім пабудаваныя, роў, з якога ў небяспеку не выберашся, бяспечнасць...

Асабліва бяспечнасць чатырох акружэнцаў!

Даніла Сапун прывёў Валенду да акружэнцаў у навальнічную ноч. Канчэнне свету, а не ноч. Асляпляльныя, па-мярцвяцку сіняватыя маланкі ўдоўж і ўпоперак крамсалі калматую чорную хмару. Няспынна гахалі перуны, аж закладала вушы. Халодны дождж балюча сек твар і плечы, якія не ўберагаў старэнькі Данілаў плашч.

Пры святле маланак яны спусціліся па кручы ў роў. Баяліся, каб вартавы не стрэліў па іх у гэтай несусветнай катавасіі ветру, дажджу і перуноў.

Дзе там! Акружэнцы спалі як пшаніцу прадаўшы.

Усчуванні не падзейнічалі на іх і ў наступныя ночы. Валенда стараўся адаспацца днём — ноччу пільнаваў лагер, іх, сябе. Кінуў-рынуў бы ўсё, ды далёкім агеньчыкам у цемры прыцягвала перспектыва трапіць за лінію фронту, да сваіх. Быць са сваімі было для яго найвялікшым падарункам лёсу. Таму і цярпеў нязвыклы побыт акружэнцаў.

Баталаў здаравеў на вачах, але не так хутка, як хацелася б Валендзе. Кароткую дарогу ён ужо мог адужаць — пра далёкую толькі марыць.

Нечакана бліснула надзея адправіцца за фронт. Неяк Саханчук узяў Валенду па харчы ў знаёмую яму вёску. Там яны і сустрэліся з трыма акружэнцамі, якія прабіраліся за фронт.

Камандаваў імі русавалосы лейтэнант Сяргей Шпарцюк. Валенда рашыў далучыцца да шпарцюкоўцаў, але лейтэнант перадумаў, захацеў адпачнуць. Вярнуліся яны ў роў упяцярых.

А праз два дні ў роў прыбег Даніла Сапун.

— Бяда, таварышы, ой якая бяда,— не павітаўшыся нават, загаварыў ён.— Людміла гэтая Герасіменя ў самаго гебітскамісара працуе...

Валенда злосна мацюкнуўся.

## 27

Сенакосная пара — ад Івана да Ільі.

Ілья ўжо адгрукатаў вогненнай калясніцай зблізку, пагражаў людзям нарабіць гнілля, а паплавы абапал Паланой, уся Абалонь і поле канюшыны на Антонаўскіх хутарах чакалі, не маглі дачакацца касцоў. Грубела на



Алесь Асіпенка (справа) з бацькам і братам. 1930 г.



Алесь Асіпенка (справа) з маці,
сястрой Ганнай і братам Васілём. 1934 г.

караню трава, бурэла пераспелая канюшына, і не таму, што не было каму касіць,— не было каму распарадзіцца.

Надвячоркам мужчыны сабіраліся на калгасным двары, гаманілі пра нядобрыя справы ў свеце, а нагаварыўшыся пра іх, вярталіся да сваіх клопатаў. На адным з такіх зборышчаў найбольш нецярплівыя павялі гаворку, што трэба склікаць агульны сход, як было раней, выбраць хоць якое начальства, бо жыць без яго, што ні кажы, нязручна.

На сход прыйшлі не толькі гаспадары ды гаспадыні, але і моладзь, якой цікава было паглядзець, як робяць уладу. Калгасная кантора не магла ўмясціць усіх, хто пажадаў прыняць удзел у сходзе. З яе вывалаклі на двор доўгі, заляпаны чарнілам канцылярскі стол, паставілі пры ім лаўку — для прэзідыума.

Людзі расселіся на траве, на раскіданых па двары калёсах. Прэзідыум выбралі хутка: старшынёй Астапа Дзялендзіка — гаваркога непаседлівага мужчыну гадоў за шэсцьдзесят, сакратаром Міхася Ланкевіча, прыгадаўшы, што ён калісьці добра пісаў пратаколы, і Адарку Лукашову, прывыклую да прэзідыумаў.

Астап адразу ўзяў слова:

— Паколькі нам, значыцца, трэба весці гаспадарчую і іншую дзейнасць, а былое наша начальства ў асобе старшыні і намесніка зараз ваююць на фронце, давайце выберам вобчаствам чалавека, які разумна распараджаўся б намі да высвятлення ў будучым міжнароднай і ўнутранай абстаноўкі...

Ён развінуў быў выступленне ў сапраўдную прамову, каб яго не спыніў стары Лямза:

— Ты, Астап, лепей скажы, як ён будзе называцца, кіраўнік гэты? Старшыня ці стараста, як ужо ў некаторых вёсках?

Астап толькі на імгненне разгубіўся, пачуўшы ў пытанні Лямзы падкавырку, але, як і заўсёды, хутка знайшоў патрэбны адказ:

— Дзела, Цімох, не ў званні... Касіць нада. Карове ўсё адно, якое званне ёй дало сена...

Натоўп загуў:

— Правільна!..

— Гэтаму Лямзе абы хвасты вязаць...

— Гаспадар патрэбны...

— Мартысёнкава Ягора...

— Іншых хіба няма...
— Дзялендзіка... Астапа...
— Іванёнка Данілу...
— У самую цэль...
— Гэты не любіць языком менціць...
Астап дачакаўся, калі гоман аціх. Важка сказаў:
— Я, канешне, дзякую, але прасіў бы ўважыць...
— Уважым...
— Стаў на галасаванне Іванёнка...
За Іванёнка прагаласавалі амаль усе.
— Ну, бяры, Даніла, уладу,— Астап запрасіў Іванёнка да стала.

— Я адсюль скажу,— узняўся Даніла Іванёнак.— Мне б памочніка, бо, самі ведаеце, і граматнасці ў мяне той няшмат, і на вочы слабы... Прасіў бы Марынінага сына Мішку даць памочнікам...

Міхась аж спалохаўся. Усяго чакаў, але не гэтага. Каб ведаў такое, параіўся б з Тышкевічам. Ён спрабаваў адмовіцца. Дзе там!..

— Цяпер, грамадзяны, дамовімся пра тое, як касьбу будзем весці,— па-дзелавому пачаў распараджацца Даніла, быццам усё жыццё рабіў на гэтай пасадзе.— З касьбой мы запазніліся. Але навярстаць можна, калі дружна возьмемся. Абедзве нашы касілкі спраўныя. Па чатыры кані на касілку паставім. Добра?.. Касілкі пусцім на Абалонь. Будзем прасіць нашых мужчын, якія касілкамі косяць, пастарацца на вобчаства. Параней уставаць — пазней канчаць. Астатнім мужчынам заўтра да ўсходу сонца прыйсці з косамі сюды. Каб не пазніліся. Некаторыя папрывыкалі, што па іх брыгадзіры бегаюць. Будзем сена дзяліць — усё ўлічым.

— А ўдовы і салдаткі як? — насцярожаны голас з апошніх месц.

— Іх не пакрыўдзім, я так думаю. Сена будуць сушыць, у стагі складаць. Усе хай выходзяць: і малады, і стары, і малы. Вапросы будуць?..
— Дзяліць калі?..
Даніла хітра прыплюснуў левае вока:
— Што дзяліць?.. Скасіць нада... Падзяліць і дурань здолее...

Сход закончыўся, а людзі ўсё не разыходзіліся. Міхась, як і наказаў яму Тышкевіч, пакруціўся сярод людзей, паслухаў, пра што гавораць, і вярнуўся дамоў.

— Штосьці дужа хутка закончыліся выбары,— пажартаваў Тышкевіч.

— Павіншуйце, мяне выбралі памочнікам, а каго не ведаю: ці то старасты, як у другіх вёсках, ці то старшыні калгаса.

Яму было важна пачуць, што скажа Тышкевіч.

— Усё, Міша, больш складана, як табе здаецца,— сказаў Тышкевіч, але не стаў тлумачыць, чаму складана.— Расказвай, што чуў, які настрой у людзей...

Міхась прысеў насупраць Тышкевіча.

— Якія там размовы... Пра сена, пра жніво...

— Выдатныя размовы,— падхапіў Тышкевіч.— Заўваж, калі чалавек дбае пра заўтрашні дзень, ён непераможны.— Яны крыху памаўчалі.— Трэба мне пабачыцца з цішкаўскім былым старшынёй калгаса. Як гэта зрабіць лепей, парай...

— Каршуковым, ці што?..

— З ім.

— Тады паспяшайцеся, бо Каршукоў, кажуць, едзе ў Германію па вопыт,— з'яхіднічаў Міхась.

— Ад каго дазнаўся? — У голасе Тышкевіча пачулася трывога.

— Усё кажуць... Ды што там, Іван Анісімавіч, здраднікаў цяпер шмат паявілася. Выслужваюцца. Каршукоў вунь кароў усіх прыгнаў дадому. Думаеце, выпадкова ўсё гэта?

Тышкевіч не адказваў. Сядзеў, схіліўшы галаву. А Ланкевіч ніяк не мог зразумець, чаго раптам спахмурнеў Іван Анісімавіч. Быццам Каршукоў яму радня.

— Не ведаеш, ці ёсць немцы ў Цішкаўцы? — зноў запытаўся Тышкевіч.

— Бадай, няма.

— Авось ды нябось дрэнныя дарадчыкі,— упікнуў Міхася Тышкевіч,— ці можаш ты коней узяць? Разам з'ездзілі б... Усё весялей...

Міхась і спалохаўся і ўзрадаваўся — усё ж нейкая прыгода ў невясёлым жыцці.

Праз паўгадзіны яны ішлі па коней па росным узмежку паўз высокую сцяну жыта. У жыце надакучліва крычаў драч. Часам здавалася, што ён хаваецца недзе побач, потым, зусім неспадзявана, драч падаваў голас здалёк, быццам дражніўся. А можа, іх было два?

Недзе за жытам храплі, тупалі коні. Міхась пакінуў

Тышкевіча, пайшоў туды, адкуль даносіўся конскі тупат. Неўзабаве ён прывёў двух коней.

Паехалі полем. Уброд перабраліся па той бераг рэчкі. На гары, за ляском, была ўжо Цішкаўка.

На ўскрайку лесу пакінулі коней. Тышкевіч працягнуў руку, Міхась наткнуўся на цёплую сталь ствала, спалохаўся:

— Што гэта?..

— Страляць умееш?

— Умею.

— Ну, бяры.

Вёска чарнела недалёка, але ісці давялося доўга. Было ціха і глуха.

На агародзе, дзе над сажалкай раслі пахілыя вербы, спыніліся. Міхась дрыжаў, як у ліхаманцы. Яму было сорамна перад Тышкевічам, які паводзіў сябе дужа ўпэўнена і спакойна, але ён не мог перамагчы агідныя дрыжыкі. Тышкевіч прыслухаўся да цішыні.

— Вось там жыве Каршукоў,— Тышкевіч тыцнуў у чорную пляму на зорным небе.— Ты пойдзеш адзін. Пастукаеш у акно. Калі ён адкажа табе, спытаеш дарогу на Кавалі. Нібы ты заблудзіўся. Пастарайся высветліць, ці адзін ён. Калі адзін, скажы, што Тышкевіч хацеў бы з ім сустрэцца. Ёсць пільная справа.

Міхась неахвотна зрушыўся. Ішоў, асцярожна ступаючы па мяккай зямлі. Прыгода не здавалася ўжо вясёлай. «Навошта яму Каршукоў...— падумаў ён, і раптам здагадка спыніла яго.— Няўжо ён расстраляе Каршукова?»

Яму стала яшчэ больш страшна. «Хай бы ён гэта без мяне зрабіў»,— падумаў Міхась.

На двары хрыпата забрахаў сабака. Міхась спыніўся, потым абышоў хлеў, выйшаў на ціхую вуліцу. Нізенькі штыкетнік адгароджваў палісаднік ад вуліцы. Пры ім раслі кусты.

Міхась хацеў пералезці праз яго, але недзе зусім недалёка раздаўся дзіўны пошчак. Міхась ад неспадзяванасці прысеў і тады зразумеў, што пошчак ідзе ад кароткіх аўтаматных чэргаў.

Ён не мог дацяміць, хто і дзе страляе. Здалося, не адзін чалавек, а шмат. Яны страляюць паўсюль: на зямлі і ў небе. Стрэлы гэтыя паднялі яго з зямлі, як зайца з лёжкі, пагналі па агародзе.

...Днём нечакана паявілася Прусава, як з таго свету.

— Іван Анісімавіч у цябе жыве? — спытала яна Міхася.

Той разгублена пазіраў на яе: Прусава гэта ці не Прусава? Яна і сапраўды была як з таго свету: ні крывінкі на доўгім васковым твары, вялікія вочы насцярожана пазіралі з глыбокіх чорных правалаў. І хоць Тышкевіч наказваў яму нікому пра яго не гаварыць, Міхась не стрымаўся.

— Навошта ён вам? — выдаў ён Тышкевіча.

— Зараз жа вядзі мяне да яго.

Калі Міхась пачынаў хадзіць у пяты клас Жыжанскай сямігодкі, Вера працавала ўжо ў сельсавеце. Для вучняў пры школе меўся інтэрнат. Побач знаходзіўся сельсавет, і вучні ўвечары хадзілі туды, каб паслухаць радыё. За доўгім сталом, накрытым чырвоным палатном, ад сцяны крайняя заўсёды сядзела Прусава з навушнікамі на галаве. Хлопцы ёй зайздросцілі, ім навушнікі — адны на двух — даваліся хвілін на пяць, не больш. А Прусава магла слухаць радыё ўвесь вечар.

Тышкевіч, відаць, убачыў іх. Ён выбег на двор, расставіўшы рукі. Прусава спынілася, усхліпнула і раптам прытулілася галавой да шырокіх грудзей Тышкевіча.

Ён абняў яе за плечы, як малое дзіця, гладзіў па галаве і маўчаў. Міхась адчуў, што ў ягоных грудзях раптам стала цесна сэрцу, а горла сціскаюць спазмы. Каб не выдаць хвалявання і слязлівай пачуццёвасці, ён адвярнуўся, пачуў, як Тышкевіч сказаў Прусавай:

— Ах, як нядобра выйшла.

Усе трое яны зайшлі ў свіран. Дзвярэй не зачынялі, бо тут было душна і вельмі смярдзела мышыным памётам.

Прусава доўга піла кіслы і пеністы бярозавік. Выцерла рукавом рот і нечакана для ўсіх сказала:

— А я немца забіла...

— Дзе? — спалохана спытаў Тышкевіч.

— Ля Рассек. Толькі на Маталыжанскую дарогу выйшла, а ён на веласіпедзе тыц. «Стой!» — крычыць на мяне. Сама не помню, як стрэліла, а ён упаў.

— Чорт з ім, з немцам,— сказаў Тышкевіч,— пра Галая расказвай.

Прусава гаварыла неахвотна, цэдзячы скрозь зубы словы. Міхасю здавалася, што яна ведае штосьці большае і таму не хоча расказваць пра тое, як загінуў Галай. Быццам саромеецца чагосьці.

— Цябе тут ніхто не бачыў? — запытаў Тышкевіч.

— А я і не помню. Бегла як ачумелая.

— Адпачні крыху, ды ў дарогу трэба сабірацца,— як пра штосьці вырашанае, паведаміў Тышкевіч.

— І я з вамі,— папрасіўся Міхась, сам здзівіўшыся са сваёй смеласці.

— Табе і тут спраў хопіць,— адказаў Тышкевіч.— Але пра гэта пасля...

— Я нікуды не пайду,— упарта сказала Прусава.— Мне яшчэ з адным здраднікам палічыцца патрэбна.

— Не выдумляй... З якім яшчэ здраднікам?

— З Каршуковым вашым... Сволач... Гад...

— А канкрэтна?

— А канкрэтна во,— і яна, як і тады ў першыя іх зборы, паказала пісталет.

## 28

Нехта біў у вагонны буфер цяжкім шворанам, і трывожнае блямканне пляскалася ў шыбы акон, будзіла людзей. Міхась прахапіўся ад сну і першае, што ўбачыў,— маці на каленях перад іконай. Пачуўшы, што Міхась прачнуўся, яна сказала:

— Рассекі гарадь...

Похапкам апрануўшыся, Міхась выбег на двор.

Было відаць, як з хат выскокваюць кавалёўцы, сонныя і ў адной бялізне. Яны стаяць, кожны ля сваіх веснід. Міхась бег па вуліцы і ўсё крычаў: «Пажар! Пажар!..»

У цэнтры, там, дзе жыў Ахрэм Гулько, ужо сабраўся добры гурт мужчын і жанок. Міхась падбег да іх і змоўк, бо ўсе маўчалі. Потым нехта сказаў ціха, але так, што пачулі ўсе:

— Гора якое, божа наш!..

Тады загаманілі жанчыны:

— Чаго ж вы стаяце, мужчыны?

— Памагчы ж трэба...

— А божа наш, якое няшчасце!..

— У такую пару ды ў сухмень...

— Мужчыны, што вы?..

Мужчыны спачатку неахвотна, а потым неяк адразу зрушыліся з месца. Міхась таксама ўхапіў чыёсьці вядро і пабег за мужчынамі, гучна бразгаючы дужкай.

Яны прабеглі толькі да рова за вёскай. Спыніла іх частая-частая страляніна.

— Назад! — ашалела крыкнуў хтосьці, і натоўп, што бег, замёр, потым рассыпаўся ў розныя бакі.

Пажар і забойства ўсіх жыхароў Рассек узварухнула, перапоўніла жахам навакольныя вёскі. Як толькі карны атрад пакінуў пажарышча, дзікая, звярыная цікаўнасць пацягнула людзей на папялішчы. Паддаўся ёй і Міхась Ланкевіч. «Подла,— думаў ён, ідучы ў Рассекі,— глядзець на забітых...— І тут жа супакойваў сябе: — Такое трэба пабачыць, каб на ўсё жыццё запомніць».

Папялішчы яшчэ курыліся дымам. Свежы ветрык раздзімаў вуголле. Іскры падалі ў высахлую, пажоўклую траву, і яна ўспыхвала чырвоным полымем. За вёскай, на ўскрайку лесу сярод чабаровай квецені, ляжалі людзі. Там сабраўся натоўп. Уголас вылі, галасілі жанкі, шырокімі адурнелымі вачамі глядзелі на забітых дзеці, ціснуліся адзін да аднаго. Міхась прабіўся праз натоўп. У вачах пацямнела, сэрца стукнула разы са два і сціснулася, перахопленае болем.

Забітыя ляжалі грудай, хто як: дарослыя, учапіўшыся за зямлю, адзін за аднаго, скурчыўшыся, нялоўка падвярнуўшы галовы і ногі. Між мёртвых, нібы сляпая, поўзала доўгаваласая сівая жанчына, працягвала бурыя жылістыя рукі к небу і паўтарала адно і тое ж: «Госпадзі, пашлі на іх, госпадзі, кару!..» Яна раптам кінулася на маладую яшчэ жанчыну, якая пакутліва ў прадсмяротных сутаргах учапілася за шыю, закрычала дзіка.

— Дачку пазнала,— пачуў Міхась чыйсьці спачувальны голас.

Расштурхоўваючы людзей, ён пасняшаўся выбрацца з натоўпу. Ззаду паціху перагаворваліся. Міхась прыслухаўся.

— За што ж іх?
— Немца нехта забіў.
— Дык людзі пры чым?
— Схадзі ў Гітлера запытайся.
— Так усіх пераб'юць.
— Не пасаромеюцца.
— Няхай ваююць з салдатамі, а мірных не чапаюць.
— Ім усё роўна.
— Немцы — народ строгі.
— Ідзі ты з іх строгасцю!..
— Ходзяць усякія. Глядзець трэба.
— За ўсімі не ўгледзіш.
— Надоечы, кажуць, у лесе ўзброеных бачылі.
— Здаваліся б у палон.
— Чаму ж ты не здаўся? Дахаты прыпёр.

— Божа, кроў усюды, а чабор пахне.

Не сціхала гамонка. Галасілі жанчыны. Міхась адышоўся крыху, выцер вочы.

З натоўпу выбраўся згорблены чалавек. Моўчкі падышоў да Міхася.

— Наклалі штабялямі.

— І мы дачакаемся,— панура вымавіў Міхась.— Каб ведаць, што такое будзе, кожны лёг бы поперак дарогі, а немцаў не пусціў.

Чалавек спалохана азірнуўся.

— Сябе можна не шкадаваць, а вось такіх малых шкадаваць трэба: заб'еш аднаго немца, а яны сотні пакладуць.

Ланкевіч сумеўся. Страшнае відовішча выклікала нечалавечы боль, лютую нянавісць і жаданне помсціць. Пра іншае ён не падумаў.

«Гэта з-за таго немца, што Прусава забіла, іх расстралялі»,— толькі цяпер здагадаўся Міхась, і яму стала млосна, на твары выступіў халодны пот.

Ён азірнуўся. Раптам здалося, што яго думкі хтосьці падслухаў. Не, людзі на яго не звярталі ўвагі. Але ўсё роўна было страшна, страшна таму, што ён адзін ведае, чаму на верасе ляжаць забітыя.

«Як жа змагацца супраць іх,— падумаў Міхась пра немцаў.— Прусава не ведае, што нарабіў яе стрэл... Не, такое не можа быць. Гэта жорстка. Жорстка за аднаго чалавека забіваць нявінных. Навошта яна стрэліла?.. Чаму ж яны караюць нявінных? Лавіце вінаватага... Калі ўвесь народ паўстане — немцы загінуць. Каб ты, Іван Анісімавіч, пабываў, што б ты сказаў... За аднаго немца стольκі жыццяў... Не, я не пра тое думаю. Яны ўсіх вось так знішчаць. «Безумству храбрых поем мы песню...» Хіба яны смелыя? Проста — людзі. І хтосьці павінен адпомсціць за іх. Я павінен адпомсціць. Але ж зноў будуць ахвяры... Не, зноў не тое...»

Думкі блыталіся. Іх нельга было прывесці да ладу. Жаночы плач, енкі і ўласныя думкі падобны на крык душы. Усё перакруцілася, зблыталася ў адзін вузел.

— Дык што ж, скарыцца? — спытаў ён у таго чалавека, што развярэдзіў душу.

— Не знаю. Нічога не знаю, але і так няможна.

«А чабор пахне...» — чамусьці ўспомніліся Міхасю няўцям кінутыя словы.— Пахне і будзе пахнуць. Жыццё побач са смерцю ідзе. Але жыццё не пераможаш. Чабор пахне наперакор усяму».

Узыходзіла сонца, і людзі смялелі. Тут жа, сярод чаборовай квецені, капалі магілу — адну на ўсіх. Капалі наперамену. Забітых склалі на дно доўгай, падобнай на канаву ямы, засыпалі зямлёй. На кургане паставілі вялізны сасновы крыж. Міхась адышоўся, азірнуўся назад. Распасцёршы рукі, белы крыж, здавалася, узлятае ў неба.

«А чабор пахне...» — падумаў ён зноў.

Праз некалькі дзён мясцовая нямецкая газетка побач са зводкай з фронту пісала:

«Злачынныя элементы ў асобе бальшавікоў і камісараў труслівa нападаюць на нямецкіх салдат-адзіночак. Фюрэр і яго армія, што прыйшла вызваліць рускі народ з-пад ярма жыдоў і камуністаў, будуць сурова караць злачынцаў і іх пасобнікаў.

27 жніўня ля вёскі Рассекі быў знойдзен труп германскага салдата Ота Крамера. Мясцовае насельніцтва ведала аб замаху на нашага вызваліцеля. Але не толькі не папярэдзіла германскае камандаванне, а злачынна маўчала, не выдаючы забойцаў. Вёска Рассекі германскімі войскамі спалена, а насельніцтва расстраляна.

Германскае камандаванне і наперад будзе бязлітасна расстрэльваць, а вёскі спальваць, калі забойствы нямецкіх салдат не будуць спынены самім насельніцтвам.

Выдавайце бальшавікоў і камісараў! Не аказвайце садзеяння ваеннапалонным! Усе ваеннапалонныя абавязаны з'явіцца на спецыяльныя пункты. Там іх накормяць і адзенуць».

Міхась скамечыў трохдзённай даўнасці газету, што хадзіла па руках, задумаўся: «Што ж рабіць? Сапраўды, ці ёсць у каго маральнае права ахвяраваць жыццём соцень сваіх людзей?»

І зноў надакучліва палезла ў галаву фраза: «А чабор пахне...» Міхась дастаў паперу, аловак, прысеў да стала.

Птушыны гоман поўніў лес
І сіні бор.
А па узлеску слаўся бэз,
То цвіў чабор.

Уранку танкі загулі,
Стагнаў прастор.
І кроў лілася па зямлі,
Дзе цвіў чабор.

Знямеў ад страху цёмны лес
І сіні бор.
Счарнеў узлеска колер-бэз,
Ды пах чабор.

Міхась акуратна перапісаў верш у сшытак. І неяк сама сабой прыгадалася тая ноч, калі развітаўся з Тышкевічам. І яго заданне ўспомнілася. Цяпер яно не здалося страшным. Ворагам трэба помсціць за ўсё.

Брычка мякка кацілася па пыльнай лясной дарозе. Каршукоў, адпусціўшы лейцы, адкінуўся на спінку, з усмешкай успамінаў сваю размову з камендантам.

Высокі белабрысы камендант доўга гартаў акты, углядаўся ў неразборлівыя каракулі подпісаў.

— Скажы, пан Каршукоў, чаму палі вашай абшчыны тапталі адны нямецкія салдаты? Сто гектараў патраўленых сенажацей, вытаптанай і знішчанай збажыны. Такое ўражанне, што па вашых землях прайшла ўся нямецкая армія...

Каршукоў прыкінуўся дзівачком. Пацёпаў плячамі, шырока развёў рукі:

— Пан камендант, каб я быў дома, дык хіба дазволіў бы, каб столькі пасеваў вытапталі. Гэта ж трэба, дэсанты проста на жыта высаджваліся. Хіба на поплаве не маглі скідаць парашутыстаў?

Станіслаў Цітавіч заўважыў, як камендант спачатку здзівіўся, потым усміхнуўся і, ужо зусім развяселены адказам, махнуў рукой:

— Ідзіце. Акты мы разгледзім.

Каршукоў не вельмі спадзяваўся, што немцы зменшаць падаткі. Але ўсё ж мець нейкі дакумент трэба.

І таму, што так лёгка ўдалося абдурыць каменданта, і яшчэ таму, што ўсё на гаспадарцы вялося як след, настрой у Каршукова быў добры.

У прапахлай грыбамі нізінцы, дзе сівыя вольхі блізка падступалі да дарогі, раптам грымнуў стрэл. Куля расшчапіла драўляную полачку.

Спуджаны стрэлам конь галопам пабег угору. Услед прагучаў яшчэ адзін стрэл. Недзе над галавой, весела цыўкнуўшы, праляцела другая куля.

А яшчэ праз два дні па Каршукова прыехалі немцы на легкавой машыне.

— Пан Каршукоў едзе ў Германію, каб на свае вочы

пабачыць, як жывуць нашы сяляне, і павучыцца ў іх гаспадаранню,— растлумачыў адзін з іх калгаснікам, якія сабраліся каля старшынёвай хаты, каб заступіцца за яго.

Цішкаўцы толькі сцепанулі плячамі.

## 29

На прыканцы жніўня штурмбанфюрэр Ютнер асабіста абследаваў турму, лагер ваеннапалонных і гарадское гета, што размяшчалася ў руінах былой фабрыкі аптычных прыбораў і амаль дарэшты згарэлай будыніны клуба тэкстыльшчыкаў з прылеглымі да яго інтэрнатамі.

Пра агляд мясцовыя ўлады ведалі загадзя, і таму сякія-такія меры былі прыняты своечасова. Гета, дасюль абгароджанае толькі з двух бакоў, абнеслі і з трэцяга боку невысокай сцяной з калючага дроту. Галоўную вуліцу між фабрыкай і клубам ачысцілі ад цэглы і завалаў, потым прымусілі зняволеных тут людзей вышкрабці яе і вымыць вадой.

Лагер ваеннапалонных на Барвіным перавозе чакаў начальства без асаблівага энтузіязму. Начальнік лагера Нойклінц, ветэран вайны чатырнаццатага года, які сам пабываў у палоне, лічыў, што вайна кончылася і яго падапечныя не вельмі ўжо небяспечныя для роднага вермахта. Таму ён скрозь пальцы глядзеў, як да галоўнага ўвахода ў лагер з раніцы ішлі жанкі з хатулямі за спіной, неслі яйкі, масла, сала і за іх выкуплялі ў аховы каго-небудзь з палонных. Адзінае, што зрабіў Нойклінц,— загадаў у бліжэйшыя дні нікога з цывільных не падпускаць нават блізка да лагера.

Турма рыхтавался па-свойму прыняць Ютнера. У пана Бломберга, начальніка турмы, тоўстага і непаваротлівага, былі свае клопаты. За гэтыя дні акупацыі ў камеры напхалі рознага зброду, і Бломберг, пунктуальны ў выкананні загадаў і верны юрыдычным законам вермахта, хапаўся за галаву, не разумеючы, як і што яму рабіць, калі арыштаваныя і надалей будуць паступаць да яго гэткім густым касяком.

Штурмбанфюрэр падарожнічаў са світай чыноў СС і паліцыі, гарадского і сельскага камендантаў. Яго прыжмураныя, нібы сонныя, вочы былі ўвесь час прыплюснуты, здавалася, штурмбанфюрэр нічога не заўважае навокал сябе. Толькі ў гета, калі яны стаялі над стромкім берагам

Дзвіны, ля насыпу, Ютнер на імгненне расплюшчыў вочы і незадаволеным, жорсткім голасам запытаўся:

— А гэта што такое?

Світа адразу ж павярнула да яго галовы, стараючыся злавіць позірк штурмбанфюрэра. Удалечыні ляжалі руіны, і сярод іх корпаліся шэрыя постаці, невыразныя, як здані. На самым беразе гарэў невялікі касцёр, а над ім, на драўляным кіі, вісела з дзесятак чайнікаў і каструль. Дым падымаўся сіняватым струменем угору, і, гледзячы на яго, здавалася, што вярнуліся старыя біблейскія часы ганебнага егіпецкага палону, калі далёкія продкі гэтых вязняў палілі кастры, каб прынесці разгневанаму богу ахвяры.

Было не зразумець, чым незадаволены Ютнер. Кастром? А можа, людзьмі? Адны панура сядзяць ля кастра, другія варушацца ў руінах, раздражняючы пана штурмбанфюрэра. Світа маўчала. Тады Ютнер запытаўся ў унтэршарфюрэра Фольчэ:

— Ці ведаеце вы, як пачынаюцца эпідэміі?

Фольчэ, безумоўна, не ведаў. Ён стаяў на віду ўсёй світы, выцягнуўшы рукі па швах. Яму, самаму малодшаму па чыну, было брыдка, што ён не ведае, як пачынаюцца эпідэміі.

— Вось так,— Ютнер, не расплюшчыўшы вачэй, тыцнуў рукой уніз, і тады ўсе ўбачылі, што па кручы ад ракі караскаюцца ўгору дзве маленькія постаці. Яны трымалі ў руцэ па чайніку і, здалося, паўзлі, як поўзаюць мурашкі, несучы непасільны груз...

— Асмелюся далажыць: водаправод узарваны... — пажыраючы вачамі начальства, сказаў Фольчэ.

Ютнер паківаў галавой, але твар яго заставаўся такі ж спакойны і недаступна скрытны, як і раней.

— Унтэршарфюрэр, хіба вы пастаўлены тут, каб сачыць за водаправодам, а не за тым, каб у горадзе не было інфекцый? — І ён пайшоў па крутой лесвіцы наверх, туды, дзе стаялі машыны.

Фольчэ зразумеў толькі адно: штурмбанфюрэр незадаволены яго службай і ў гэтым вінаваты дзяўчынкі, што асмеліліся лезці па ваду ў прысутнасці камандавання. Ён зняў з шыі аўтамат і, не цэлячыся, выпусціў усю касету. Дзяўчынкі ўпалі, а белы эмаліраваны чайнік доўга каціўся ўніз, падскокваючы, як гумавы мяч.

Світа тым часам паднялася наверх. Адсюль, з высокага насыпу, відаць быў горад, цасечаны чорнай воспай пажа-

рышчаў і руін. Унізе, проста пад нагамі, бо тут канчаўся насып перад узарваным мостам, сярод сталёвых фермаў кіпела вада. І яшчэ далёка за мостам уніз па рацэ плылі белаватыя ахапкі пены.

Ютнер доўга стаяў над кручай, пазіраючы ўніз, туды, дзе білася аб разбураны мост рака. Ён маўчаў, і ніхто не разумеў гэтае яго маўчанне. Потым Ютнер марудна павярнуўся да світы.

— Пан капітан,— звярнуўся ён да Вейса,— я аддаў загад штурмшарфюрэру Крогеру правесці асобую апрацоўку мястэчак вашага раёна. Спадзяюся, што вы таксама атрымалі неабходныя ўказанні?

— Пакуль што не, пан штурмбанфюрэр...

— Вам выдзяляецца атрад «Вільке І-а». Вашы людзі будуць дзейнічаць у шчыльным кантакце з намі. Прашу аддаць неабходныя распараджэнні кіраўніку жандармерыі. Аперацыя будзе пачата роўна праз тры дні.

Тры дні Ютнеру патрэбны былі для горада.

На світанні другога дня асобы атрад Дэрліндэра паявіўся на турэмным двары. Сонныя салдаты злосна пазіралі на закратаваныя вокны, лаяліся паўшэптам: якога ліха ім не далі выспацца? Паднялі як па трывозе... Дэрліндэр хадзіў збоку па асфальтаванай дарожцы турэмнага двара, чакаў начальніка турмы Бломберга. Той выйшаў з канцылярыі ў суправаджэнні каменданта і старшага наглядчыка. Па тварах было відаць, што турэмнае начальства не чакала асобы атрад. Шчака ў каменданта чырвоная, а на плячы прыліпла белае гусінае пёрка. Нават не паспеў пачысціцца.

— Мне трэба адзінаццаць, пан Бломберг.— Дэрліндэр з нянавісцю глядзеў на тоўстага, па-хатняму цёплага начальніка турмы, і хоць той быў старшы па чыну, Дэрліндэр усё роўна пагарджаў ім.

— Я прасіў вас падрыхтаваць спісы,— не хочучы таго, Дэрліндэр павысіў голас.

— Прашу ў канцылярыю.

Наглядчык трухаў наперадзе, адчыняў краты-дзверы, прапускаў начальства і зноў бег, каб у час падаспець да наступных дзвярэй.

У канцылярыі пахла карболкай. Высокая арачная столь хавалася ў прыцемках. Праз бруднае закратаванае акно відаць была шэрая, аблупленая сцяна турэмнага корпуса з чорнымі квадрацікамі акон.

Наглядчык моўчкі запаліў карбідную лямпу, пачціва

працягнуў рукі па швах. Чорныя вялізныя цені захісталіся па сценах, зламаліся на закругленнях пад столлю.

Дэрліндэр закурыў, каб адагнаць карболавы дух турмы.

— Давайце спіс,— сказаў ён.

Бломберг выцягнуў папку. Паперка падшыта да паперкі. Пачаў гартаць іх, даючы тлумачэнні. Дэрліндэр нецярпліва варухнуўся.

— Вы, здаецца, гатовы сапхнуць мне ўсіх. Я прашу адзінаццаць. Дзесяць мужчын і жанчыну.

Бломберг прадыктаваў спіс.

Неўзабаве з турмы вывелі адзінаццаць зняволеных. Узагналі прыкладамі на доўгую чорную машыну, акружылі салдатамі, павезлі ў горад.

Ля гістарычнага музея ў маленькім трохкутным скверы машына спынілася. Двое салдат закінулі на сук тоўстую пяньковую вяроўку, зашмаргнулі вузлом. Вяроўка гойдалася над самымі галовамі, зняволеныя з жахам глядзелі на яе. Ранішнюю цішыню абудзіў пранізлівы, нечалавечы крык жанчыны, замёр у руінах горада. Два салдаты падхапілі пад рукі бліжэйшага вязня — недарослага, без шапкі чалавека, паставілі на ногі. Трэці салдат злавіў канец вяроўкі, прымерыўся де пятлі — вяроўка была кароткая.

— Фрыц! — крыкнуў ён тым двум, што чаплялі вяроўку на сук.— Вяроўка кароткая...

— Увапхніце яго,— адказаў Фрыц, не хочучы зноў лезці на дрэва.

Зняволены не меў сілы стаяць. У яго падгіналіся ногі, і карнікі вымушаны былі трымаць яго пад рукі.

— Чаго вы марудзіце? Хутчэй!..— загадаў Дэрліндэр, паявіўшыся з-за машыны.

— Вяроўка кароткая,— адказаў салдат.

— Падніміце яго... Радавы Нісін, памажыце.

— Дык ён жа мокры. Хай Фрыц адпусціць вяроўку.

Фрыц рагатаў, пазіраючы з зямлі ўверх, як там, на машыне, трое салдат неахвотна бяруцца за вязня. Яны падымалі чалавека, як мяшок з мякінай, з усяе сілы стараліся прасунуць яго ў пятлю. Чалавек туліў галаву ў плечы і нешта мармытаў перасмяглымі скрываўленымі губамі.

— Давай даўжэйшага,— сказаў адзін з салдат.— Усё роўна якога вешаць...

Салдаты выпусцілі з рук вязня, і ён глуха шлёпнуўся

ў кузаў, упаў і адразу закалаціўся ад рыданняў. Аўтаматчык, што стаяў ля борта, ударыў яго нагой, але чалавек, мабыць, не адчуў болю і ўсё плакаў.

— Што ж вы, гады, госпада бога і ўсіх святых... здзекуецеся? — Аброслы кашчавы чалавек ускочыў на ногі ля самай кабіны, закрычаў надтрэснутым голасам.

Карнікі здзіўлена пазіралі на яго.

— Чаго ён крычыць? — запытаўся салдат, што трымаў пятлю.

— Чорт яго разбярэ,— адгукнуўся другі.— Цягні яго сюды.

Чалавек стаяў ля борта са звязанымі назад рукамі.

— Таварышы, браткі мае,— пачаў ён дрыжачым голасам, які неўзабаве набраў моцы,— бывайце, родныя! За нас адпомсцяць фашыстам! Чырвоная Армія не разбіта. Яна прыйдзе сюды!

Двое немцаў, расштурхоўваючы зняволеных нагамі, дабраліся нарэшце да чалавека, падхапілі пад пахі, пацягнулі на край кузава. Яму ўскінулі вяроўку на шыю, і ён стаяў, ледзь кранаючыся пальцамі памоста, глядзеў некуды паўзверх абгарэлых руін.

Дэрліндэр махнуў рукой — машына, гулка залапатаўшы маторам, кранулася з месца. Чалавек крутнуўся на месцы, адтапырваючы пальцы ног, стараўся дастаць падлогу, а яна ўсё больш аддалялася.

— Капут,— сказаў Фрыц.

Машына зноў пасунулася задам. Цяпер павешаны быў побач з бортам. Яго доўгае пруткае цела ўсё яшчэ ўздрыгвала, а пальцы ног сутаргава варушыліся. Нехта з немцаў падаў наверх дошчачку. На ёй чорнымі літарамі — надпіс: «Я нападаў на нямецкіх салдат». Дошчачку салдат павесіў на грудзі, акуратна прыладзіў яе, каб было відаць з зямлі, што на ёй напісана...

Астатніх дзесяць павесілі на слупах.

У той жа дзень па гарадскіх вуліцах прайшло з дзесятак машын бітком набітых людзьмі з гета. Іх завезлі ў глыбокі Ілаўскі роў, прымусілі выкапаць вялізную, у рост чалавека, канаву, а потым расстралялі.

## 30

Дзве, адна за адной, падзеі — здрада Каршукова і смерць Галая — выклікалі ў Тышкевіча трывожную разгубленасць; затое нечаканы канец ягонага канспіратыўна-

га пустэльніцтва, якраз звязаны з гэтымі падзеямі, абудзіў радасць хуткага дзеяння. Ніпто так не вымотвае сілы, як бяздзейнае чаканне.

Тышкевіч безагаворачна верыў, што Галай стварыў партызанскую базу, магчыма, партызанскі атрад, бо інача ён не пайшоў бы да Прусавай. Ягоная смерць як сігнал да баявых дзеянняў усёй групе.

Яны ішлі бальшаком, які крывулькай узбіраўся на пагоркі або раскошна прамаваў па залацістых сподах,— абапал бальшака рассціпаліся наспелыя жыта і ярына. Прусава крочыла пануро, у зацятай жалобнай маўклівасці. Тышкевіч не чапаў яе, хай перагарыць душэўны боль. Ён і сам пакутаваў ад адной калючай думкі: Галай з Валендам здолелі сарганізаваць базу і людзей, а ён ідзе да іх з пустымі рукамі. Галай ужо не папракне, а Валенда не змоўчыць — падпольшчыкі, ліха матары!..

Што праўда, і Тышкевіч стварыў у Кавалях падпольную пяцёрку на чале з Ланкевічам, але якая гэта дробязь у параўнанні з тым, што зрабілі Галай з Валендам.

Бальшак пуставаў. Толькі аднойчы Тышкевіч з Прусавай убачылі ў празрыстай далечыні жнівеньскага дня чацвёра вайскоўцаў, што перабягалі цераз прагалу з аднаго акварэльнага лясочка ў другі. Вёскі таксама абязлюдзелі. І старыя і малыя рабілі ў полі — жніво!

Пад вечар недзе ўжо за Альхаваткай ім сустрэўся каларытны дзядок у зрэбных штанах, такіх жа да каленяў зрэбных анучах, абуты ў ліпавыя лапці на лазовым падплёце, адзеты ў сінюю, з белым гарошкам сацінетавую кашулю, падпяразаную салдацкім рэменем. На голенай галаве цудам трымалася збітая набакір яшчэ царскіх часоў матроская бесказырка. Два Георгіеўскія крыжы на кашулі сведчылі, што дзед не быў калісьці баязліўцам.

— Здравія жалаем,— ліха казырнуўшы, павітаўся ён.

Бравы адстаўны матрос быў на лёгкім падпітку.

Пацікавіўшыся, хто яны і куды ідуць, і, мабыць, не паверыўшы ў тое, што сказаў Тышкевіч, ён раптам панізіў голас да шэпту:

— Вы, асмелюся сакрэтна пацікавіцца, як падарожнічаеце? Калі, не дай бог, па якой канспірацыі, то або вяртайцеся, або чакайце ночы і чашыце далей лесам, пакуль не мінуеце раснянскую пастку.

Тышкевіча троху збянтэжыла дзедава пытанне наконт канспірацыі, і ён перапыніў яго паблажлівым, але іранічным пытаннем:

— А вы адкуль пра канспірацыю ведаеце і чаму мы павінны туляцца па лесе?..

Дзед рагатнуў.

— Хо-хо, рассмяшылі,— сказаў ён і тыцнуў пальцам у лоб.— Гэтая назва на аколышку табе нічога не кажа? Эх ты! Мы таксама канспірацыю рабілі. Ды і выгляд твой, як на паддзельным пашпарце: адразу бачна — хлусіш. Ну, ды гэта не майго розуму справа. А на другі твой вапрос адкажу без сакрэту: смердзюкоў тут па вёсках, як дзярма ў гальюне. Засады робяць. Запыняюць усіх, хто на ўсход ідзе. Ледзь западозрылі каго, аддаюць немцам, а бывае, і самі страляюць, па-іхняму адпраўляюць у духаўшчыну.

— Паліцэйскія, ці што?

— Ну, яны, бобікі гэтыя. Загалоўны іхні сабака Бахіраў, сынок начальніка нашага сельпа, сядзіць у валасной управе. Кат, якіх свет не бачыў. Такіх не жанчыны, а ваўчыцы і то ў сто гадоў аднаго раджаюць. Во, іду са скаргай на яго да раённага каменданта. Ты — чалавек бывалы, дык, можа, скажаш, ці паможа ён?..

— Думаю, не паможа,—адказаў Тышкевіч.

— І я думаю, не паможа, але ж людзі прасілі. Я адзінокі...

Дзядок гаварыў безупынку, і хоць Тышкевічу было цікава паслухаць яго, але ж трэба ісці далей.

Яны заначавалі ў свірне, які застаўся ад хутара.

— Ты адпачывай, а я падзяжуру,— Тышкевіч аддаў Прусавай выцертую, ад старасці парудзелую скуранку.

Сам выйшаў на двор. Паўз усю сцяну свірна — высокі ганак. Тышкевіч сеў на яго, звесіў ногі.

Над светам распасціраўся чорны аксаміт неба, густа затканы яркімі зоркамі. Хараство ночы абуджала невыразныя ўспаміны, якія гаснулі, не паспеўшы разгарэцца.

Цішыня і суладнасць у прыродзе мірылі з няўладжанасцю жыцця, з няпэўнасцю заўтрашняга дня, з адзінотай у свеце, населеным злом. Яму падумалася, што толькі чалавеку дано захапляцца прыгажосцю прыроды, а ён паскудзіць яе вечнае прыстанішча, як той Бахіраў, пра якога гаварыў дзед. Яму было непрыемна вось так блага думаць пра чалавека, аб якім ён заўсёды гаварыў узнёсла і прыгожа. Тышкевічу захацелася зразумець сябе: адкуль такая зменлівасць у ацэнках? Ды ён раптам пачуў, што нехта ідзе да свірна. Крокаў амаль не чуваць, і толькі

бессвядома напружаны слых мог злавіць гэтыя крокі. Саскочыўшы з ганка, Тышкевіч па-звярынаму нячутна падкраўся да вугла, выглянуў з-за яго — па полі сунуліся сюды чалавечыя постаці. Ён адскочыў, адным, надзіва спрытным рухам ускінуў сябе на ганак, забег у свіран, баючыся напалохаць Прусаву.

На шчасце, Вера не спала.

Яны сіганулі з ганка ў кусты. Упалі пад іх. Стараліся стрымаць дыханне і шалёнае біццё сэрца, такое моцнае ўначы.

Каля свірна чуліся ўжо галасы і не асцярожныя, а ўпэўненыя і ўладныя.

— Казаў — хата, а то свіран...

— Дык жа людзей бачыў. Падумаў — хата...

— Глянь, дзе тыя людзі?

— Схаваліся...

Успыхнуў і патух кволы агеньчык.

— Тужурка!.. Скураная! — даляцеў узбуджаны голас.

Тышкевіч сцяў зубы. Ах, чорт пабяры, забыліся скуранку! Цяпер і пад бок не будзе што кінуць...

— Можа, і харчы забылі? — нейчы насмешлівы голас.

— Давайце, таварышы, зматвацца,— спасцярожліва параіў нехта трэці.— Хто ведае, што за людзі...

— Таварышы, не бойцеся, гэта мая скуранка,— крыкнуў Тышкевіч і, пругка адштурхнуўшыся ад зямлі, пабег да свірна.

Там гучна бразнуў затвор.

— Стой! Хто такі?

— Бежанец...

— Адзін?..

— Двое нас...

Вайскоўцаў — чатыры. Ці не тыя, каго Тышкевіч з Прусавай бачылі днём. Знаёміліся. Двое — малодшыя лейтэнанты. З вучылішча трапілі на фронт пад Гродна. Прабіраюцца за фронт. Двое — радавыя. Тышкевіч пра сябе сказаў, што быў мабілізаваны, не паспеў абмундзіравацца, як трапіў у акружэнне. Ідзе дамоў на Смаленшчыну. Жанчына — спадарожніца. Вяртаецца дамоў з горада да бацькоў.

Няўтульны халадок недаверу пакрысе знікаў — завалодвала імі ўзаемнае спачуванне сваёй валачобнай долі.

— Можа, разам за фронт пойдзем,— прапанаваў Тышкевічу малодшы лейтэнант Чаротны, яўна старшы ў групе.

Далей хлусіць не хацелася. Ды і не любіў Тышкевіч хлусні.

— Бачыце, малодшы лейтэнант, я не ўсё вам сказаў. У нас з Верай Гаўрылаўнай свая місія, і я толькі-толькі збіраўся прапанаваць вам застацца ў тыле...

— Не зразумеў? — натапырыўся Чаротны.

— Падпольшчыкі мы, партызаны. Ідзём на базу. Во і падумаў, а чаго вам за фронт ісці, калі і тут ваяваць можна. Калі вы яшчэ да фронту дойдзеце, ды і ці дойдзеце. Цяжка стала на ўсход ісці. Я не настойваю. Людзі дарослыя, самі вырашайце, як вам лепей.

Вайскоўцы доўга не разважалі. Згадзіліся.

Толькі назаўтра Тышкевіч набрыў на патрэбны арыенцір, павёў групу да рова. Ён першы рынуўся па кручы ўніз, да зямлянак. І разгубіўся ад таго, што пабачыў.

Дзверы зямлянак расчынены. Над патухлым вогнішчам жэрдка. На ёй салдацкі кацялок з недаваранай бульбай. Усюды сляды чалавечага гаспадарання і... ні душы.

Каб высветліць, што тут адбылося, у Тышкевіча заставалася адна надзея — яўка, дзе хаваўся Валенда. Гаспадар яўкі і вывеў іх на Самароса, які трымаў у руках абрэзаны канец падполля, створанага Галаем.

## 31

Прынесеная Данілам Сапуном вестка пра Людмілу Герасіменю нарабіла ў лагеры панікі, якую падагрэў Валенда. Не пад сілу яму было гэтае выпрабаванне падполлем. Спачатку трэба было адлежвацца ў Сапуна, як злодзею на «маліне». Цяпер адседжвацца ў рове, як таму крату пад пагоркам зямлі.

Валенда пераконваў сябе, што ён імкнецца да баявой і канкрэтнай справы, а такая можа быць толькі за лініяй фронту. На самай справе была іншая прычына, якой ён баяўся сам.

Міліцэйская клопатная праца прывучыла Валенду разглядаць навакольны свет і людзей у ім з насцярожанасцю і недаверам. Зашмат было ў ягонай практыцы нечаканых паваротаў, ад якіх у слабакоў лезлі на лоб вочы. Валенда нічаму не здзіўляўся і нікому не давяраў.

У першыя дні свайго жыцця ў рове сярод бяспечных вайскоўцаў, калі даводзілася бавіць ночы без сну, Валенда без асаблівых намаганняў вылічыў, як, бывала, вылічаў

зладзейскія прыстанішчы, што зямлянкі і ёсць тая партызанская база, пра якую гаварыў Галай.

Вылічыць было проста. Зразумець многае з таго, што адбылося тут,— неверагодна складана. Ды Валенда не прывык пасаваць. Думалася яму заўсёды цяжка — аж набракалі на шыі сіняватыя вузлы жыл. Цяпер было цяжка як ніколі. Ні параіцца з кім, ні сабраць факты. Толькі логіка, ці, як казаў ён,— сабачы нюх.

Чаму на базе не аказалася ні зброі, ні прадуктаў? Не завезлі? Чаму? Часу хапала. Значыць, завезлі. Тады завезенае нехта выдаў немцам.

Апошняе выглядала праўдзіва, а галоўнае, адпавядала ягоным поглядам.

Выдаў? Хто?..

Валенда заўсёды дакопваўся да ісціны, ніколі не адступаў. Таму і цаніла яго начальства. Ведала: Валенда калі ўжо ўчапіўся — не адступіцца. За злачынцам ён ішоў, як ганчак за зайцам. Прафесійных ведаў у яго было малавата, а адукацыі і таго меней. Выручалі вось гэтая ўпартая сіла і чуццё.

Пра месца, дзе знаходзіцца база, ведалі двое: Галай і ягоная правая рука — Тышкевіч. Значыць, нехта з іх выдаў базу. Хто? Падазрэнне аднолькава падала на абодвух. Іхнія высокія пасады не бянтэжылі Валенду: ворагі народа і не так умелі маскіравацца, а колькі іх выкурылі з мяккіх крэслаў. Пасада — не алібі. Во яшчэ паганае слова — алібі; пакуль навучышся вымаўляць, дык язык паломіш. А ўсё інтэлігенцыя панавыдумляла на галовы простых людзей.

У Валендавы разважанні па-здрадніцку закрадалася адна, і на ягоную думку нязначная, акалічнасць, якую можна было б адкінуць, але якая трывожыла. Быў жа нехта трэці, хто ведаў пра зямлянкі, будаваў іх. З ім Валенда мог бы разабрацца вельмі хутка, каб ведаў яго. Зрэшты, не ў трэцім справа. Яна ў тым, што над базай навісла небяспека.

Валенда стараўся не думаць пра Галая з Тышкевічам, а чуццё падказвала, што яны, ці адзін з іх, толькі і чакаюць, каб наляцець на базу і захапіць тых, хто асталяваўся на ёй. Валендава ўвага была прыкавана да абодвух, як кандалы да ног катаржніка. У яго ўсё больш набіралася фактаў.

Першы з іх — незразумелая паездка Галая ў гэтыя мясціны, нейкі невядомы дэсант, смерць шафёра і зусім

ужо абсурднае сцвярджэнне, што машыну захапілі дыверсанты. А хто бачыў? Чулі — яшчэ не бачылі. І ці дыверсанты захапілі машыну? Можа, сам прыхаваў яе, каб потым сесці і махнуць у тыл. Шукай Галая тут, калі ён па той бок фронту.

Зброя?.. Тут канцы з канцамі не стыкаліся. Валенда не губляўся. Не стыкаюцца, дык можна надтачыць. Галоўнае ў тым, што Галай не прыйшоў, як абяцаў. Калі ён не здраднік, дык дэзерцір. Артыкулы розныя, а прысуд аднолькавы.

Валенда ведаў Галаева жыццё назубок. Плямак на ім набіралася шмат. Раней пра плямкі гэтыя не думалася. Галаева пасада сляпіла, як сонца ў гарачы летні поўдзень. Цяпер сонца прыкрылі хмары. Можна паразглядаць яго, не баючыся аслепнуць.

Яшчэ больш факцікаў набіралася супраць Тышкевіча. Пальцаў не хапіла б, каб захацеў усе іх падлічыць. Той аднаго разу нават сядзеў пад следствам, ды неяк вылузнуўся, выблытаўся, і, бадай, не без староннян дапамогі.

Валенду раптам аглушыла нечаканая і такая простая думка: а што, калі яны абое рабое?.. І хоць на такую выснову не хапала духу, Валенду падказвала чуццё, што трэба як найхутчэй зматвацца з гэтай базы-пасткі.

На нарадзе, якая адбылася адразу пасля таго, як Даніла Сапун пайшоў дамоў, Баталаў сцяной стаў на абарону Герасімені. Акружэнцы завагаліся. Ім люба сядзець у лесе, чакаць з мора добрага надвор'я. Валенда папрасіў слова. Устаў на ўвесь рост, паправіў папругу, кашлянуў у кулак для большай значнасці.

— Вось вы жывяце ў гэтых зямлянках, а ці задумваўся хто, дзеля чаго іх будавалі ў гэтым рове, удалечыні ад дарог і вёсак? — Валенда зазірнуў кожнаму ў вочы і застаўся задаволены: людзі збянтэжыліся.— А я ведаю, кім і дзеля каго будаваліся яны. Для партызан. Спытаеце, дзе яны? Мажліва, ахвяры здрады, бо ніхто з іх не з'явіўся на базу, як было дамоўлена.

— А табе адкуль вядома? — спытаўся Шпарцюк.

Валенда пахітаў галавой.

— Адзін з іх — я. І прашу лішніх пытанняў не задаваць. Ёсць падазрэнне, што Людмілка гэтая, якую так абараняе капітан,— маленькае звяно ў доўгім ланцугу здрады. Таму быць нам тут далей не выпадае. Вудачкі і тыя няма калі зматваць...

Збіраліся паспешліва. Зборамі кіраваў Шпарцюк, вы-

казваючы салдацкую вынаходлівасць і камандзірскае ўменне. Баталаў у такой жа спешцы пракладаў на карце маршрут.

Нацямку рушылі з лагера. Двое ішлі паперадзе, астатнія крокаў на сто за імі. Зброю трымалі напагатове. Вёскі стараліся абыходзіць.

Перад усходам сонца яны, як было намечана, падышлі да старога Кацярынінскага шляху ў бярозавых прысадах. Уздоўж яго, у абодва канцы, разбягаліся тэлеграфныя слупы. Напятыя правады звонка гулі ў ранішняй цішы. Здавалася, бяжыць па іх чыясьці самотная скарга на горкі сірочы лёс.

Удалечыні відаць быў мост. Дарога перад ім падымалася на высокі жоўты насып. Далей над вадой вісела тонкая рыска моста з ажурнымі парэнчамі. Мост, здаецца, не меў паляў. Ці, можа, так здавалася здалёк.

Ні вартавых, ні прахожых не відно. Спавітая туманам далячынь, аднак, насцярожвала.

Згінаючыся да зямлі, баталаўцы па хмызняках падабраліся як мага бліжэй да моста. Прысеўшы на кукішкі, прыглядаліся. Шпарцюк шарыў біноклем, бубнеў пад нос:

— Пуста. Ні душы.

Баталаў шамацеў картай. Паклікаў Сяргея.

— Глядзі сюды,— сказаў ён, водзячы па карце пальцам.— Вось тут вёска. Яе не відаць — туман. Гэта во лясок. Бачыш, дзе туман здаецца цямнейшы. За ім поплаў, поле, а лявей — балота. Ля берага чарот усюды. З кіламетр давядзецца ісці балотам. Так больш бяспечна. Мост пераходзім па адным. Згодзен?

Шпарцюк думаў, здаецца, не згаджаўся.

— Давай, капітан, спачатку пашлём разведку,— азваўся ён.— Мы вось так на Уле сунуліся былі — трох страцілі... Ну хто, арлы, у разведку?

Шпарцюковы хлопцы не азваліся. Яны нібы не пачулі свайго камандзіра. Тады скамандаваў Баталаў сваім:

— Дзячкоў, Саханчук — у разведку...

Акуратны да службы, Дзячкоў казырнуў:

— Ёсць!..

Нізка прыгінаючыся, яны пабеглі да моста. Баталаў,назіраючы за імі, запытаўся Шпарцюка:

— Што гэта яны ў цябе, лейтэнант, быццам і не пачулі, што іх у разведку пасылаў?

Думаў, Шпарцюк узлуецца на сваіх падначаленых, але ён пачаў абараняць іх:

— Мы, капітан, ужо нахадзіліся ў разведку.

Баталаў не адказаў. Ён сачыў за сваімі байцамі. Бачыў, як Саханчук з Дзячковым выйшлі на поле, пастаялі крыху, потым кінуліся да насыпу.

Пад ім яны зноў пастаялі, потым пакарабкаліся ўверх. Вось яны ўжо на дарозе. Памалу ідуць да моста з вінтоўкамі наперавес.

Іх постаці расплываліся ў тумане, рабіліся амаль непрыкметнымі ў шэрым змроку. «Зараз яны ўзыдуць на мост,— думаў Баталаў.— І мы адразу ж за імі. Трэба хлопцаў папярэдзіць, каб не кешкаліся вельмі». Але перад самым мостам, зусім нечакана для Баталава, разведчыкі раптам кінуліся пад адхон. І адразу ж па той бок моста ў смузе заскакаў чырвоны агеньчык, перадранішнюю цішыню абудзіла аўтаматная чарга.

— Назад! — крыкнуў Баталаў.

Саханчук, нібы пачуўшы яго голас, ускочыў, кінуўся ўздоўж насыпу. Дзячкоў чамусьці марудзіў. Сярод аўтаматнай траскатні прагучаў гулкі вінтовачны стрэл.

— Ашалеў ён, ці што? Назад! — яшчэ раз крыкнуў Баталаў і раптам зразумеў, што Дзячкоў прыкрывае адступленне Саханчука. «Маладзец Вася,— падумаў Баталаў.— Які ён маладзец!»

Нехта ўхапіў Баталава за плячо. Ён азірнуўся. Шпарцюк у збітай набакір фуражцы цягнуў яго ў лес.

— Чаго ты? — вызверыўся Баталаў.

— Адыходзь!..

— А людзі?

— Што людзі?..

— Што? Ах ты!.. Там жа Васька Дзячкоў.— І, адштурхнуўшы Шпарцюка, закрычаў на астатніх: — Чаго стаіліся? Наперад!..

Ён выбег з хмызняку, упаў за купіну, амаль не цэлячыся, стрэліў. Перазараджаючы вінтоўку, убачыў, як з туману вынырнулі чатыры постаці і схаваліся за балясіны. Адтуль замігацелі ярка-чырвоныя агеньчыкі, і недзе над галавой заціўкалі кулі.

Побач нехта стрэліў. У нос ударыла парахавым дымам. «Мабыць, Цімохін»,— падумаў Баталаў і ўжо страляў, стараючыся злавіць на мушку чырвоны агеньчык там, на мосце.

Саханчук адбегся пад насып, залёг, і адразу ж гулка

бабахнуў яго кавалерыйскі карабін. Тады падхапіўся Дзячкоў, укосікі пабег цераз поле ў хмызняк. Ён бег азіраючыся і на хаду страляў. Недзе побач з Баталавым залпамі білі па мосце Шпарцюковы хлопцы. Трасіруючыя кулі вычэрчвалі ў тумане яркі след, гаслі.

Баталаў цэліўся старанна, але не пападаў нават тады, калі немцы перабягалі, стараючыся прарвацца на гэты бок ракі. Жывая цэль не хацела трапляць на мушку.

Задыханы, узапрэлы, падбег Саханчук. Упаў побач з Баталавым, доўга дыхаў, шырока разяўляючы рот, як карась, выцягнуты на бераг.

— А Васіль дзе? — нарэшце запытаўся ён і, пачуўшы адказ, што Дзячкоў ужо дабег да кустоў, пачаў шпарка, бязладна расказваць:

— Мы толькі на насып, а яны адтуль. Хрэн іх ведае, дзе дасюль сядзелі! Я спалохаўся спачатку. Думаў, канец нам з Васькам...

Саханчук дзелавіта загнаў патрон, прыцэліўся.

— Мне хаця б аднаго гада чокнуць. З пачатку вайны ўпустую палюю.

Ён стрэліў, доўга прыглядаўся, ці папаў, потым ад злосці плюнуў:

— Ніяк не пацэлю. Усё па малако ляцяць.

Ломячы кусты, падбег Дзячкоў:

— Прыбыў з разведкі, таварыш капітан! От чэшуць, гады!

Баталаў скамандаваў адступаць. Адыходзілі паўз дарогу, хаваючыся за густым ельнікам. На мосце ўсё яшчэ стралялі. Цяпер там як бы прыбавілася немцаў: да аўтаматных стрэлаў далучыліся вінтовачныя. Потым зусім блізка затакаў кулямёт.

— Во ўсхадзіліся...— Цімохін усміхнуўся нейкім сваім думкам і прыпыніўся.

— Чаго ты стаіш? — здзівіўся Баталаў.

Цімохін выпрастаўся на ўвесь рост, падцягнуў штаны — на немцаў яму пляваць. Следам за ім і астатнія распрасталі спіны. Страху не было. Нават смешна, што немцы б'юць па хмызняку разрыўнымі кулямі і тыя лопаюцца ў галінках, як перaспелыя гарохавыя стручкі.

— Глянуць, ці што, чаго яны там шалеюць? — Цімохін, прыгнуўшыся, палез пад елкі. За ім, не ўтрымаўшыся, папоўз Баталаў. Убачыў дарогу, залёг, азірнуўся.

Адтуль, дзе рэчка, па дарозе сунулася няўклюдная тупарылая бронемашына. З яе амаль бесперапынна біў па

хмызняку кулямёт. Зрэдку машына набірала хуткасць, потым зноў ішла ціха, нібы вынюхвала сляды.

— От гэта ваякі — усляпую чэшуць!..— сказаў нехта побач.

Баталаў пазнаў Шпарцюка.

— Зараз яны па нас часануць,— адказаў хтосьці са шпарцюкоўцаў.

— Спалохаўся?

— А ты не?..

— Паджылкі трасуцца.

— Гранатамі б іх.

Хлопцы размаўлялі спакойна, быццам не на вайне, а на вучэннях.

— Адпаўзай!..— скамандаваў Баталаў.

Яны крыху адпаўзлі. Залеглі пад елкамі. Чуваць было, як гудзе машына, як сакоча кулямёт. Недзе ўверсе над імі хлопалі кулі, абсякаючы лісце,ігліцу. Потым усё сціхла.

Саханчук устаў, абабіў з шыняля пацяруху, пачаў адвязваць гранату.

— Давай сваю!..— загадаў ён Дзячкову.— Ды рубашку знімі, ваяка... Яшчэ ў каго — давайце сюды!.. Яны зараз вернуцца.

Яму падалі яшчэ гранаты. Саханчук звязаў іх разам, наважыў на руцэ.

— Ну, цяпер я з імі сквітаюся...

— Пачакай, Лёша,— спыніў яго Баталаў,— прымерымся, дзе лепей... Грышын, зірні, дзе яны там...

Вяснушкаваты хмуры Грышын неахвотна палез у кусты.

— Здаецца, назад вяртаюцца,— далажыў ён.

Саханчук набычыў шыю, нібы збіраўся дужацца. Абвёў хлопцаў калючым позіркам.

— Ну, дык пайшоў... Калі што якое, адрас, Вася, ты знаеш?

Ён хацеў быў падаць руку Дзячкову, але толькі заматаў галавой, як аглушаны бык.

— Ты гэта кінь, Лёшка... А гранаты сюды аддай. Я здаравей.— Цімохін, нібы ў малога, адабраў у Саханчука звязку, ні слова не сказаўшы, палез у хмызняк.

Страляніна, але не такая частая, як раней, сапраўды набліжалася. Баталаў на ўсякі выпадак, каб часам не захапілі Цімохіна, загадаў залегчы бліжэй да дарогі.

Яны папаўзлі, хаваючыся за пнямі. Спыніліся. Праз

голле Баталаў убачыў чорную з белымі крыжамі машыну. Два немцы сядзелі на заднім борце, звесіўшы ногі. Аўтаматы на шыі. Яшчэ адзін немец скурчыўся ля кулямёта. Ён націскаў гашэтку, і тады глуха такаў кулямёт. Чацвёрты немец сядзеў побач з шафёрам. Баталаў бачыў толькі шапку.

Немцы набліжаліся хутка і чамусьці ўжо не стралялі. Баталаў глядзеў на іх і так моцна сціскаў вінтоўку, што адчуў боль у пальцах. Фашысты! Во яны, зусім блізка!

Адзін з іх, што сядзеў на борце, чамусьці павярнуўся да кулямётчыка. Баталаў убачыў, што немец смяецца. Яго шырокі твар расплыўся, а пульхныя шчокі, здавалася, прыкрылі вочы. Яму было чагосьці вельмі весела. Ён аж заходзіўся ад смеху. Потым твар немца скамянеў ад страху. Па ім усё яшчэ блукала ўсмешка, але вочы раптам вырачыліся, ашклянелі.

— Бі іх, гадаў! — аглушыў Баталава дзікі крык.

Чорная машына ў адно імгненне ахуталася дымам і полымем. Нешта паднялося ўгору і знікла. У паветры павісла толькі чорна-бурае воблачка. А пад ім на баку ляжала машына. Адно кола круцілася.

Усё адбылося хутка. Крык Цімохіна падняў Баталава на ногі, пазбавіў яго развагі, абудзіў няўтрымнае жаданне бегчы, страляць і таксама крычаць.

І ён закрычаў што было моцы, пераскочыў канаву, з размаху ўдарыў прыкладам па коле, якое ўсё яшчэ круцілася. Недзе над вухам цвыкнула куля. Баталаў азірнуўся. Ствол ягонай вінтоўкі дыміўся. Тады ён пабег на той бок машыны, спатыкнуўся аб распасцёртага на зямлі чалавека. Баталаву хацелася біць, ламаць, страляць. У галаве было пуста і звонка. А грудзі распірала нечалавечая прага — крышыць. Ён ударыў прыкладам гэтага, што ляжаў, ужо, мабыць, нежывога, і ў гэты час убачыў, як з-пад машыны падхапіўся немец, здалося нават, той, якога ён ударыў, і пабег укосікі па дарозе. Немец кульгаў на левую нагу. У яго былі шырокія плечы і тоўстая шыя, акуратна паголеная. Баталаў, бегучы за ім, бачыў белую палоску шыі. Ён замахнуўся вінтоўкай, цэлячы прыкладам па карку. Але немец, нібы пачуў каго за спіной, азірнуўся. Зноў перад Баталавым, як прывід, узнік акруглы твар і ашклянелыя, поўныя жаху сінія вочы.

Рука чамусьці здрыганулася. Прыклад ударыў аб плячо. Немец спатыкнуўся, упаў і ўжо на карачках паспрабаваў уцякаць. Баталаў забег яму наперад, з усяе сілы

апусціў прыклад на галаву. Жалезная акоўка прыклада глуха ляснула, і адразу на боты пырснула кроў.

У азарце бою Баталаў паспрабаваў зняць у немца з шыі аўтамат. Але дотык да забітага выклікаў агіду. Непрыемная ліпкая цеплыня цела, здаецца, назаўсёды ўелася яму ў далонь.

Ён павярнуўся і пайшоў да машыны, хістаючыся, як п'яны. Было моташна і агідна. А там, дзе ляжала машына, усё было кончана. Зняты кулямёт, выгружаны патроны, а немцы раздзеты да бялізны. Усё яшчэ адчуваючы на руках цеплыню забітага ім немца, Баталаў абурыўся:

— Вопратку наліха знялі?

— Прыгадзіцца,— хрыпла сказаў Шпарцюк.— Мёртвым яна не трэба.

Баталаў глядзеў, як па адным сігалі ў лес яго людзі, валаклі трафеі. Нешта трэба было рабіць і яму. Успомніў пра аўтамат на забітым немцу, сказаў:

— Там я аднаго прыкончыў — няхай аўтамат знімуць. Ды прытрымай іх. Спяшаюцца вельмі...

На мосце ці, можа, бліжэй стралялі. Баталаў ніяк не мог выцягнуць запалкі, каб падпаліць машыну. Рукі дрыжалі, але не ад страху. Нарэшце ён дастаў карабок, падпаліў яго ўвесь і кінуў у машыну.

На прывале ў раўчуку з арэхавымі зараснікамі па схілах баталаўцы доўга ўспаміналі, перапыняючы адзін аднаго, найдрабнейшыя дэталі бою. Першы поспех, як шклянка першаку, развязаў людзям языкі. Пахмурасць, незадаволенасць зніклі. Людзі наперабой хваліліся сваім спрытам, адвагай, знаходлівасцю. Баталаў моўчкі слухаў іх. Яму не хацелася гаварыць. У вушах, заглушаючы стрэлы і крыкі, стаяў адзін і той жа гук, агідны і страшны: ліпуча глухі ўдар прыклада аб чалавечы чэрап. Таму было няёмка слухаць пахвальбу сяброў.

Калі бязладная, крыклівая размова надціхла, а людзі заснулі, Баталаў ціхенька пакратаў Шпарцюка за рукаў, папрасіў:

— Давай, Сярожа, адыдземся. Нешта не хочацца спаць.

Шпарцюк не запытаўся, чаму трэба адысціся. Ён ускінуў нямецкі аўтамат на шыю, пайшоў за Баталавым.

— Глядзі, капітан, колькі арэхаў,— сказаў ён, калі абодва спыніліся крокаў за дваццаць ад байцоў, і спрытна

палез на таўставатую арэшыну, што выгіналася над ручаём.

Баталаў прылёг на зямлю. Праз густату лісцяў яму відаць было вельмі глыбокае і чыстае неба. Яно нагадвала яму пра нейкі даўні і важны выпадак у жыцці. Недзе вось так ён глядзеў у неба, адчуваючы ў грудзях трымклівае пачуццё перамены і прыглушанае адчуванне сваёй віны. Пачуццё гэтае запомнілася, а выпадак, што нарадзіў яго, забыўся. Баталаву чамусьці вельмі хацелася ўспомніць, што гэта было. Але як ні капаўся ён у памяці, нічога не прыпаміналася.

Над галавой, перапыніўшы ўсе думкі, раздаўся трэск. Баталаў спалохана ўскочыў, здалося, што нехта зноў ударыў кагосьці па галаве.

Шпарцюк сядзеў на суку, грыз зубамі арэхі. Яшчэ дзіцячы твар лейтэнанта ззяў ад задавальнення.

— Во дзе раскоша! — гукнуў ён, выкалупваючы пальцамі жаўтлявае арэхавае ядро.— Трымай!..

Ён кінуў на зямлю прыгаршчы буйных арэхаў, і яны рассыпаліся ў траве. Баталаў знайшоў адзін, паспрабаваў раскусіць. Зубы толькі скрыгаталі аб цвёрдую, як косць, шкарлупіну.

— Сяргей,— гукнуў ён Шпарцюка,— ці даводзілася табе забіваць раней?

— Канечне,— азваўся той, трохі паспешліва, як здалося Баталаву.

— Што ты адчуваў, калі першы раз гэта здарылася з табой?

— Нічога. Здаецца, нічога.— Шпарцюк злез на зямлю.— Чаму ты пытаешся, таварыш капітан?

— Я сёння першы раз за сваё жыццё забіў чалавека...

— Які ж гэта чалавек — фашыст.

— Усё адно — пагана неяк...

— Хіба ты з танка не страляў?

— Страляў, вядома. Але там было інакш. Разумееш, Сяргей, з танка людзі здаюцца несапраўднымі. Імчыш, а яны хто куды кідаюцца, паўзуць у акопы, ну — і страляеш. Бачыш, што чалавек упаў, а здаецца, не ты яго падстрэліў, а ён сам спатыкнуўся, упаў і не хоча падымацца. Не, там не тое... Працэй там, Сярожа. А сёння я чалавека прыкладам забіў. І от цяпер не магу забыцца. Страшна... Не, агідна.

Ён з надзеяй на спачуванне глядзеў на Шпарцюка. Той, здалося яму, адводзіць вочы.

— У цябе, таварыш капітан, нервы здалі...

Баталаў зразумеў, што размова непрыемная Шпарцюку, але яму хацелася выгаварыцца да канца. Няхай Шпарцюк палае яго, няхай няўзлюбіць. Усё роўна. Абы пазбавіцца таго непрыемнага адчування, якое не пакідала яго ні на хвіліну.

— Нервы, Сярожа, само сабой... Але справа не ў гэтым, а ў выхаванні. Я вырас у такой сям'і, дзе курыцы не было каму зарэзаць. Можа, не паверыш, а толькі за ўсё сваё жыццё я нікога пальцам не крануў. Бывала, хлапчукі б'юцца, а мне брыдка. Адыдуся ды стаю ўбаку. Дома, ды і суседзі хвалілі за гэта. Бацька ў мяне скрыпач, музыкант. Маці — настаўніца. У нас дома не тое што сварак, грубага слова не пачуеш.

— А рэзаных курэй, мабыць, елі?

Баталаў збянтэжыўся. Пытанне прагучала недарэчна і груба, здалося страшэнна нетактоўным.

— Навошта ты так, Сярожа,— далікатна сказаў ён.

— Кінь ты!.. Я не дужа паважаю людзей, якія, убачыўшы кроў, лямантуюць: «Ах, дзікунства, ах, грубасць!..» Ты чаму ў армію пайшоў? Думаў усё жыццё ў форме красавацца? Дудкі! Форма для таго і дадзена, каб ты забыўся на свае цывільныя штучкі. Салдатам становіцца, каб забіваць, а не філасофскія дыспуты весці.

— А чаго ты злуешся? — Баталаў хацеў змягчыць усмешкай размову, але і сам адчуваў, што ў грудзях закіпае злосць.— Размова ёсць размова. У спрэчках ісціна нараджаецца. Я, Сярожа, сябе хачу зразумець. Ты от пытаешся, чаго я ў армію пайшоў. Гэта таксама недарэчнасць. Бацькі мае марылі пра іншую кар'еру. Маці хацела, каб я астраномам стаў. Я, Сярожа, змалку астраноміяй захапляўся. Былі ў мяне падзорная труба, карты. Бывала, залезу на дах і да раніцы на зоркі гляджу. Кніг чытаў многа. А потым усе дзіцячыя мары паляцелі к чорту. Аднаадзіная сустрэча пераблытала ўсё. На адной з намі пляцоўцы пасяліўся цікавы чалавек, пра якога калісьці песні складалі. Наслухаўся я пра баі з белапалякамі, пра паходы, налёты, рэйды па тылах і — бывай астраномія. Вось і падаўся ў ваенную школу.

— Раскайваешся цяпер?

— Не, не раскайваюся. Дарэмна ты іранізуеш. Спачатку мяне, вядома, рамантыка цягнула. Усё гэткім ружовенькім здавалася. Але ў высакароднасці сваёй місіі я ніколі не сумняваўся...

— Высакароднасць твая — глупства, вось што. Чалавек да класавых ворагаў нянавісцю, як пiраксiлiнам, павiнен быць начынены. От i ўся фiласофiя.

— Не, Сярожа, ты не тое кажаш. Нянавiсць — не пiраксiлiн. Удар — выбух. Пачуццё гэтае разумна прымяняць трэба. Сляпая нянавiсць толькi шкоду прынясе. Забiваць любы звер можа.

— Iдзi ты,— не вытрымаў Шпарцюк.— Табе лёгка гаварыць. А мне за сваё жыццё на такое давялося наглядзецца, што як успомню, дык зубы ад злосцi скрыгочуць... Я на заставе жыў. З-за кардону на нас аднойчы басмачы наляцелi. Я тады яшчэ саплiвым хлапчуком быў. Помню, мацi схавала мяне з сястрой, а сама з карабiна да апошняга патрона адстрэльвалася. Яе забiлi адразу, як у хату ўварвалiся. Я, як клоп у шчылiне, цiха сядзеў, а сястра заплакала. Выцягнулi яе з-пад ложка. Знаеш, што з ёй выраблялi? Не магаметане, канечне, а нейкiя зладзюгi, тыя ж фашысты. Дзесяты год ёй iшоў... А пасля ў раку кiнулi. Сляды схавалi...

Шпарцюк сыпануў жменю арэхаў у ваду. Пачуўся лёгкi плёскат, i ўсё сцiхла. Уражаны расказам, Баталаў маўчаў. А Шпарцюк зноў гаварыў, суха i злосна:

— Табе, бачыш, немца шкада... А тых, каго яны расстрэльваюць,— шкада? Маленькiх дзяцей страляюць? Табе iх шкада? Ага, шкада! I на гэтым дзякуй. Нянавiсць, кажаш, сляпая! Тут аслепнеш! I пайшоў ты са сваёй размовай... Я сам сябе не шкадую i нiкога не хачу шкадаваць.

— Пачакай, не гарачыся. Ты пра iншае падумай. Хiба рабочы вiнаваты, што яго Гiтлер паслаў ваяваць?

— Вiнаваты,— адрэзаў Шпарцюк.— Калi ты рабочы — пераходзь да нас. Баiшся перайсцi — лiтасцi не чакай. У баi не разбiраюць, хто ты.

— У баi — вядома,— глуха азваўся Баталаў.

— I давай пра гэта не гаварыць. Нам вунь якая дарога наперадзе.

Прымiрэнне як бы адбылося, але Баталаў адчуваў, што Шпарцюк не забыўся на яго ўголас выказаныя развагi. Ён часам здзеклiва ўсмiхаўся, як бы ўсё яшчэ асуджаў Баталава.

Потым яны ляжалi моўчкi, кожны са сваiмi думкамi. Баталаву хацелася зачапiць Шпарцюка, давесцi яму, што ён, Баталаў, не якi-небудзь слюнцяй, што, як i ў кожнага чалавека, у яго ёсць свае думкi i сумненнi i асуджаць iх не варта. Цяпер, пасля спрэчкi, у галаву прыходзiлi са-

мыя важкія, самыя патрэбныя довады. Баталаў падумаў, што іх варта пакуль патрымаць у тайне. Шпарцюк яшчэ не астыў і зноў нагаворыць непрыемных слоў. Але і маўчаць было цяжкавата. Хацелася гаварыць абы гаварыць, не маўчаць.

— Паслухай, Сярожа, што я думаю.— Шпарцюк не адгукнуўся. Баталаў падумаў, што ён заснуў, але калі прыўзняўся, дык убачыў, што Сяргей не мігаючы глядзіць у неба.— Спрэчка наша — толькі зачэпка. Я з табой пра другое хацеў пагаварыць. Ваяваць і тут можна. Ды яшчэ з большай карысцю. Вось табе і сляпая нянавісць... Пачнём партызаніць. Такіх, як мы, у лесе шмат.

— Ну, ты гэта кінь. Я таксама сёе-тое разумею.

— Тым лепей.

— Давай без падколвання.

— Я шчыра.

— Тады паспім.

І ён зрабіў выгляд, што адразу ж заснуў.

## 32

Партызанская база, за якой так і замацавалася цяпер назва Лісіныя ямы, у другі раз за месяц прымала пад свае сховы ўзброены люд.

Тут, каля дзвюх зямлянак, сабраліся рэшткі галаеўскай групы. Пахмуры Іван Анісімавіч, як бы пастарэлы за гэты час, моўчкі сядзеў у засені маладых елак. Побач з ім прымасціўся сутулы Самарос. У апошнія дні Сцепаніда зноў, як і да вайны, пачала грызці яго, прыдзірацца за кожную дробязь. Прычына зразумелая — Прусава. Самарос ніяк не можа даўмецца, што сталася з бабай: раней рэўнасці да Прусавай у яе не было, а цяпер паявілася, як некалі ў маладосці. Пра даваенную размову Веры з жонкай Самарос не ведае. Таму і неўздагад яму, што Сцепаніда больш не баіцца Веры. «Проста адурэла пад старасць,— скардзіцца Самарос на жонку Тышкевічу,— а таго і не разумее, што мне не да баб... Ды і ёй лепей бы пра дзяцей клапаціцца».

Прусава стала яшчэ больш рашучая і злосная, як у першы дзень партызанства. На ёй колеру хакі гімнасцёрка і шыракаватыя салдацкія штаны, здабытыя Самаросам у вёсцы. Валасы падстрыжаны коратка. Ад гэтага доўгі Верын твар пакруглеў і цяпер вельмі падобны на мужчынскі.

— Дай закурыць,— Прусава рашуча падышла да Самароса з Тышкевічам, села.— У роце перасохла.

Самарос моўчкі працягнуў кісет, паперу. Патухлымі вачамі сачыў, як няўмела, па-бабску, круціць Прусава папяросу, рассыпаючы махорку.

— Запалкі ёсць?

Самарос выцягнуў запальнічку, чыркнуў калёсікам. Паднёс агонь да папяросы. Папера ўспыхнула, загарэлася бокам, махра не хацела загарацца.

— Цягні ты,— абурыўся Самарос.— Курэц, трасца табе! Усыпаў бы крапівой, каб век помніла.

— Ты сваёй Сцепанідзе лепей усып. Контра была, контрай і засталася.

— Табе яе не зразумець,— міралюбна адгукнуўся Самарос.— Мела б сваіх дзяцей, дык іначай запела б.

Тышкевіч паглядаў на іх з усмешлівай замілаванасцю, бачыў: за знешняй грубасцю хаваецца ўзаемнае сарамлівае пачуццё. Хто ведае, у што яно можа вырасці і ці ў час, ці тыя для таго абставіны?

— Дарэмна ты, Мікіта Лявонавіч, за намі ў лес падаўся. Казаў жа табе,— з разважлівасцю старога дзеда нагадаў яму Тышкевіч.

— Пра гэта забудзем. Падаўся, і ўсё. Адрэзана і падпісана.

Відаць, што размова пра сямейныя справы Самаросу не па душы.

Чацвёра вайскоўцаў пад наглядам Чаротнага чысцілі вінтоўкі. У іх свае інтарэсы. Яны трымаюцца асобна. Але на іх у Тышкевіча асаблівыя спадзяванні. Вайскоўцы — гэта і начальнік штаба, і камандзір разведкі — наогул мозг будучага атрада.

На палянцы неўзабаве паявіліся яшчэ два чалавекі: Платон Бандарэнка, медзведзяваты, мажны, цяжкі ў хадзе, былы дырэктар прамкамбіната, і Фаня Фрайман, настаўніца з Капліцкай школы, якой не было дзе жыць, бо стараста загадаў ісці шукаць сваіх аднаверцаў.

Бандарэнку, лічы, і не заўважылі. Затое на Фаню ўсе звярнулі ўвагу. Вайскоўцы лішне хутка кончылі чысціць вінтоўкі, і Чаротны першы падсеў да яе. Прусава паглядала на настаўніцу з адкрытай непрыхільнасцю.

Праз гадзіну ў лагер прыйшлі шасцёра мужчын з Веляшковіч на чале з былым старшынёй сельсавета, тоўстым шыракатварым Слюдам. Слюда сеў на пянёк і, зняў-

шы бот, пачаў перакручваць анучу. Рабіў ён гэта не спяшаючыся, быццам у сваёй хаце.

— Ну вось і прыйшлі,— пачаў ён.— Хлопцы як на падбор... Нашы, тутэйшыя. Хоць апошнія гады жылі далёка. Я ім, браце ты мой, некалі пуцёўкі ў людзі даваў. Гэта во фінансіст, Яўген Мікалаевіч Сарока. Раённым банкам кіраваў. Так што трафеі будзе каму падлічваць. А гэта — інструктар райвыканкома з Заходняй Васіль Заблоцкі. Ну, ды што я вас прадстаўляю, самі знаёмцеся.

Яшчэ трое: Іван Іванавіч Гулейка — працаваў начальнікам у ахове базы; Кірыла Восіпавіч Ламазік — недзе быў следчым, хоць і не меў юрыдычнай адукацыі, проста патрэбны былі кадры, і яго паслалі ў заходнія вобласці на гэтую пасаду; трэці — Пётр Апанасавіч Жыбуль — працаваў тут жа на Падзвінні тэхнаруком вапнавага завода. Апошнімі прыйшлі пяцёра мужчын з Храпавіч — вёскі з-пад самых Веляшковіч.

— Таварышы, болей чакаць няма каго. Пачнём,— сказаў Тышкевіч. Набраў поўныя грудзі паветра.— Дарагія таварышы, мы сабраліся сёння тут, каб у варожым тыле, за сотні кіламетраў ад нашай роднай Чырвонай Арміі, якая нястомна адстойвае заваёвы Кастрычніка, аб'явіць людзям, што савецкая ўлада існуе, што яна ніколі не загіне, пакуль будзе на зямлі жыць хоць адзін бальшавік. Праклятая фашысцкая навала будзе знішчана народам. Наша задача, задача ўсіх камуністаў і камсамольцаў раёна, што засталіся ў тыле ворага, павесці вялікую масавую і прапагандысцкую работу на занятай ворагам тэрыторыі. Мы партыйным сумленнем абавязаны арганізаваць народ на барацьбу з гітлераўскімі захопнікамі, стварыць у раёне невыносныя ўмовы для ворага. І мы зробім гэта. Але нам трэба самім арганізавацца.

Тышкевіч чуў, як яго голас набірае моцы, а сам ён — упэўненасці і веры ў блізкую перамогу. Было вельмі радасна, што ў глыбіні варожага стану ён можа шчыра і на ўвесь голас гаварыць пра тое, што думае, не баючыся праклятых немцаў, і святое слова «таварыш», якое часта паўтараў Тышкевіч, гучала неяк урачыста і асабліва важка. Вось яны, таварышы, якія сталі ў строй, якія гатовы загінуць за справядлівасць! Тышкевіч глядзеў на прыціхлых людзей, і грудзі поўніліся гонарам: за сябе, за сяброў, за ўсё харошае, што было гэтыя дваццаць год пасля грамадзянскай вайны. Як і да вайны, яму папляскалі ў далоні.

Адзін Ламазік чамусьці па-блазенску ўсміхаўся. «Чаго ён лыбіцца?» — падумаў Тышкевіч, не ўтрымаўся, сярдзіта спытаў:

— А вам, відаць, смешна дужа?..

— Ды як вам сказаць, трохі смешна. Не паспелі сабрацца разам, давай адзін аднаго агітаваць, як быццам мужыка за калгас. А мы ўжо немцам сагітаваныя.

На яго зашумелі. За галасамі астатніх выразна прагучаў голас Прусавай:

— Каму наша слова не па густу, можа на ўсе чатыры бакі каціцца.

— Ды па мне хоць даклады чытайце,— міралюбіва сказаў Ламазік,— а толькі цяпер не да мітынгаў і пратаколаў. Ваяваць трэба, а мы ніяк старога не забудзем.

«Чорт вазьмі,— падумаў Тышкевіч,— штосьці праўдзівае ёсць у гэтых словах. Толькі ж і так, без прамовы, неяк нязручна. Людзі бальшавіцкае слова хочуць чуць».

Іван Анісімавіч пазіраў на людзей, якія засяроджана чакалі, што ён скажа.

— А цяпер выберам, таварышы, прэзідыум,— парушыў ён маўчанне.

Людзі дружна адказалі:

— Тышкевіч.

— Прусава.

Плыло над лесам яркае сонца, але не такое, як раней, не гарачае, а ўжо асмужанае блізкай восенню.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Трудная восень

### 1

Над прыціхлым Падзвіннем партызаніў сыры балтыйскі вецер. Круціў апалае пажоўклае лісце, узрываў стрэхі на хатах, вылізваў пагоркі, змятаючы пыл і смецце ў ямы і нізіны. Па халодным ярка-сінім небе зрэдку паўзлі нізкія раскалмачаныя хмары, секлі зямлю дробным золкім дажджом.

Няўтульна і сумна на Падзвінні. Як кінуць вокам — голае пачарнелае ржышча, мокрыя бадылі асоту на ўзмежках і палеглая, перастаялая атава на паплавах. Вёскі прыціхлі, насцярожыліся. Зрэдку паявіцца на вуліцы чалавек, свой, тутэйшы пастушок або прагны да работы дзед, якому і ў непагоду не сядзіцца ў хаце. Маладзейшыя стараюцца не паказвацца на людзі.

Ноччу, невядома кім раскладзеныя на ўзлесках, гараць, як воўчыя вочы, маленькія кастры. У вёсках тады, нібы па нябожчыку, panыла выюць сабакі, баючыся вылазіць з-пад паветак. Сабак бязлітасна страляюць, і яны здрадліва прапускаюць у хаты чужых, незнаёмых людзей.

Азяблыя, нецярплівыя і злосныя, людзі паяўляліся з ночы, пагражалі зброяй, мянялі папрэлыя потныя гімнасцёркі і шынялі на цывільную вопратку, без дазволу бралі хлеб і сала. Знікалі нечакана, загадаўшы маўчаць. Потым паяўляліся другія, па-сталаму цікаўныя, але шумныя і неспакойныя. Гэтыя забіралі толькі вайсковае адзенне і харчы.

Удзень прыязджалі паліцэйскія. Шукалі самагонку, стралялі мокрых начубленых варон. Часам аднекуль наляталі немцы, хваліліся: Масква ўзята, фюрэр паехаў прымаць парад на Краснай плошчы.

Чутак хадзіла шмат. Ім верылі і не верылі. У мор на-

мруцца, у вайну налгуцца. Людзі чакалі маразоў. Моцных, такіх, як у фінскую. Рускі ўсё вытрымае, а немец няхай паспытае марозу.

Пры святле газнічак мужчыны рэзаліся ў карты, пілі саладкаваты нямецкі шнапс і горкі, да слёз моцны першачок.

У чаканні нечага лепшага насцярожаным, чуйным жыццём жыло Падзвінне ў тую першую ваенную восень. Надзеі хоць крыху сагравалі людзей.

У меншай — штабной — зямлянцы, дзе начавалі Тышкевіч, Самарос, Чаротны і Прусава з Фаняй Фрайман, пахла жывіцай і грыбной перастаялай плесняй. На сцяне гарэзліва цікалі ходзікі, і вусаценькі хітры каток на цыферблаце весела падміргваў чорнымі вочкамі. Ходзікі раздабыў Яўмен Слюда, калі хадзілі граміць валасную ўправу. Управу разграмілі, і гаспадарлівы Яўмен Слюда зняў са сцяны гадзіннік. Да Лісіных ям Яўмен нёс ходзікі пад палой, ні слова не сказаўшы пра сваю здабычу.

Тады яшчэ ўсе жылі ў адной вялікай зямлянцы. Стомленыя пасля паходу, усе адразу паваліліся на нары, заснулі. Пад раніцу Тышкевіч прачнуўся ад звонкага цікання, ашалела саскочыў на падлогу: здалося, што хтосьці паклаў пад зямлянку міну з гадзіннікавым механізмам.

— Пад'ём! — закрычаў ён, шукаючы ў цемры вінтоўку.

Людзі паўскоквалі з нараў, штурхаючыся, лезлі па крутых сходках наверх.

Калі першы спалох прайшоў, Тышкевіч загадаў Чаротнаму высветліць, што цікала ў зямлянцы. Тады Яўмен нясмела і неяк вінавата прызнаўся:

— То, Іван Анісімавіч, мабыць, мой гадзіннік цікаў...

— Чаго ж ты адразу не сказаў? — узлаваўся Тышкевіч. Яму было сорамна і няёмка.

— Дык я ж не ведаў, чаго вы спалохаліся...

Тышкевіч на імгненне сумеўся, разгублена азірнуўся, потым, як бы выкрасаючы кожнае слова, запытаў:

— А гадзіннік ты дзе ўзяў?.. Купіў?.. Зараз жа аднясеш... і распіску прынясеш. Ясна?..

У зямлянцы збянтэжаны Слюда зняў са сцяны ходзікі і, не ведаючы, што рабіць далей, стаяў, трымаючы іх перад сабой. Ён ніяк не мог даўмецца, чаму павінен несці ходзікі ў разгромленую ўправу, а галоўнае, як пайсці туды аднаму. Ходзікі, як на злосць, усё цікалі і цікалі, а хітрыя вочкі ката весела падміргвалі партызанам. Фаня не ўтрымалася, зарагатала. Было смешна глядзець на

адзеравянелы шыраканосы твар Яўмена і па-блазенску невінаватыя вочы ката.

Калі рашэннем агульнага сходу малая зямлянка была аддадзена пад штаб і туды перасяліліся пяцёра, ходзікі пастанавілі аддаць штабу. Іх павесілі насупраць дзвярэй на глухую сцяну.

Тышкевіч намацаў пад узгалоўем запалкі, доўга шукаў сярод абгарэлых цэлую, злаваў на старую прывычку соваць у карабок абгаркі. Знайшоў. Жаўтаватае полымя адразу разагнала густую чарнату ночы. Было пятнаццаць хвілін на другую. Яшчэ адной запалкай ён запаліў газоўку. Кнот патрэскваў, разгараўся паволі.

На ніжніх нарах прачнулася Прусава.

— Не праспалі?.. А я сон бачыла. Быццам з Галаем ехалі стварацъ калгас у Жыжана.

— Будзі людзей,— сказаў Тышкевіч.

— Я ўжо даўно прачнуўся,— азваўся зверху Самарос,— але падумаў, што яшчэ рана, паспеем.

Прусава прыгладзіла далонямі валасы, зашпіліла гімнасцёрку, туга зацягнула салдацкую папругу. Выбралася з зямлянкі пад дождж. Зайшла ў большую. У зямлянцы моцна пахла мужчынскім едкім потам.

— Ну, што ж вы ляжыцё? Персанальнага запрашэння чакаеце? — крыкнула Прусава ў непраглядную чарнату.

— Устаём,— даляцеў адтуль голас.

Сабіраліся не спяшаючыся і моўчкі ў штабной зямлянцы. Пятро Жыбуль, прыйшоўшы са двара, пацепваў плячамі.

— Дождж ідзе,— сказаў ён, як бы чакаючы, што Тышкевіч адмовіцца ад паходу.

Але той прамаўчаў, а Бандарэнка, падпяразваючы плашч, адказаў:

— Вымакнем, як сабачыя дзеці. Толькі гэтага і не хапала.

На дварэ цёмна. Самотна шумелі дрэвы, і ціха, сіпавата бубнеў у голлі дождж. Людзі зябка туліліся ў каўняры, неахвотна расстаючыся з утульнай цеплынёй, стараліся захаваць яе за пазухай.

— Не адставаць — раз, не шумець — два. А цяпер шагам марш.— Тышкевіч пайшоў першы. За ім, спатыкаючыся, ішлі астатнія. Маўчалі.

Пасля ўдалага паходу на валасную ўправу, дзе ім фактычна не аказалі супраціўлення, людзі падбадзёрыліся і

ўжо самі падахвочвалі Тышкевіча на новую аперацыю. Натрапіўся і зручны выпадак.

Дні тры назад Фаня Фрайман пад Боркамі сустрэла дзвюх дзяўчынак — былых сваіх вучаніц, і тыя расказалі, што кожную суботу раніцай у Веляшковічы прыязджаюць немцы, забіраюць масла і тварог з маленькай, яшчэ панскай сыраварні.

Калі верыць дзяўчатам, немцы заўсёды прыязджалі ўтрох. У двух былі аўтаматы, а ў трэцяга вінтоўка і парабелум. Аўтаматы і парабелум найбольш за ўсё спакушалі партызан. На гэту аперацыю і вёў Тышкевіч сваіх людзей.

Да гравійнай дарогі, дзе Тышкевіч намерыўся зрабіць засаду, далекавата — вёрст адзінаццаць з гакам. Ішлі наўпрасткі, не выбіраючы сцежак. Спакваля прывыкалі да цемры, дажджу і няўтульнай маўклівасці лесу.

На гравійку яны выйшлі на світанні. Абапал дарогі, ушчыльную падступаючы да яе, драмалі хмызнякі.

Атрад ціснуўся да густога мокрага ельніку — дарога палохала. Тышкевіч рассунуў белаватыя ад дажджу лозы, доўга ўзіраўся ў шэрыя даляглялы. Гравійка крута збягала з пагорка і адразу ж падымалася на другі. Усё навокал было знаёмае, роднае і нейкае ўжо чужое, варожае.

Стаяць доўга не выпадала. Тышкевіч памахаў рукой. Першы палез напралом Бандарэнка. Пад цяжкімі ботамі трашчала на ўвесь лес сухое ламачча.

— Цішэй ты,— узлаваўся Тышкевіч.

Бандарэнка апраўдваўся:

— Боты, хай на іх... Мякчэй не ступіш...

Тышкевічу здалося, што Бандарэнка баіцца: у яго шэры, скамянелы твар, напружаная постаць.

— Чаго стаіш? — вызверыўся Тышкевіч.— Куста спалохаўся?

Бандарэнка моўчкі пасунуўся наперад. Па адным падыходзілі астатнія. Стаялі, паглядаючы з-за елак. Наперадзе — Прусава ў цяжкіх кірзавых ботах і сініх шырокіх галіфэ.

— Самы раз тут залегчы,— сказала яна.

— Залегчы проста. Спачатку абмазгаваць трэба, як лепей адысці,— адказаў Тышкевіч.— Чаротны, дзе, па-твойму, лепей: тут ці на горцы?

— На горцы, вядома,— замест яго азваўся Бандарэнка.— Тут, як у катле,— абкружаць, і не ўгледзіш калі.

— А ты, Самарос, што скажаш?

— Я згодзен.

Ланцужком, па адным, пайшлі праз імшару. Узбраліся на пагорак. Рэдкі сасоннік свіціўся тут наскрозь — носа не схаваеш.

Спыніліся ў нерашучасці. Кірыла Ламазік часта ікаў ад холаду.

— Тут нас, як зайцаў, пераловяць...

— А там, думаеш, лепш?..

— Тут хоць наскрозь відно...

— Дык жа і мы тут не схаваемся. Будзем як па далоні...

Людзі спрачаліся напаўшэпт, але злосна. У кожнага былі свае планы.

— Браточкі, чаго ж мы спрачаемся? — заенчыў Сарока, выціраючы шырокі твар рукавом.— Там вунь кусты гусцейшыя...

Вырашылі пайсці далей. Узгорак апускаўся ў купкаватую балацявіну. Пад нагамі прасядаў сівы, перавіты дзеразой мох, хлюпала вада. Людзі ступалі асцярожна.

Прусава ішла апошняя. Да часу маўчала, стрымліваючы шалёную ярасць,— не магла зразумець, чаго шукаюць мужчыны. Ад злосці яна не вельмі разбірала пракладзены пярэднімі след — і па пояс правалілася ў багну.

Самарос падхапіў яе, выцягнуў на сушэйшае месца. Пакуль Прусава вылівала з ботаў ваду, Мікіта пацвельваў:

— Ты, Верка, цяпер на вадзянога чорта падобна. Убачаць немцы — далібог, ачмурэюць ад страху.

Прусава, сцяўшы зубы, збірала з фасоністых галіфэ твань. Маўчала.

— Скора ты там? — не ўтрываў Тышкевіч.

— Ваякі.— У Прусавай гнеўны, калючы позірк.— Месца не знойдуць. Ці не ўсё роўна дзе тых трох задрыпаных немцаў хлопнуць...

Яна павярнула назад, ішла, шырока стаўляючы ногі. Намоклае галіфэ глуха шалясцела.

Залеглі пад маладымі елкамі ў нізіне. Тышкевіч выбраў сабе правы фланг: немцы павінны паявіцца адсюль. На левым флангу залёг Чаротны. Астатнія між іх.

Ляжалі ціха, баючыся нават паварушыцца. З непрывычкі дранцвела цела, надакучалі камары, невядома як уцалелыя такой позняй парой. Бандарэнка, які ляжаў побач з Тышкевічам, варочаўся, як мядзведзь у бярлозе, лаяўся:

— Ну, скажы ты на міласць, адолелі, чэрці. Як хва-

шысты якія, кідаюцца.— Ён памаўчаў крыху ды, мабыць, каб весялей бег час, пачаў расказваць, бліжэй падсунуўшыся да Тышкевіча: — Я, Іван Анісімавіч, за сваю жызню камароў пакарміў — уга колькі. Бацька мой, калі на разрубы зямлю бралі, захацеў палучыць больш хутар. Далі яму аж дзве дзесяціны надбаўкі, за тое, што ён палез у балота. Камароў там — процьма. Таўкуць, бывала, над хатай мак, а ў вёсцы думаюць, што мы праз увесь дзень печку палім. Ды гэта яшчэ нічога. Бывала, прачнешся раніцай, а вачэй не відаць, бо пухлінай занесла. Так і жылі.

Дождж памалу аціхаў, і недзе на поўначы, між стромкіх соснаў, над самай дарогай праяснялася неба. Адтуль налятаў вецер: па той бок дарогі глуха шумелі вяршаліны хвой.

Тышкевіч глыбей зашыўся пад елкі. Затуліўшыся ў каўнер, спрабаваў сагрэцца. Чамусьці хацелася спаць, а праз дрымоту яркія, як сны, паяўляліся ўспаміны. Адзін надакучаў больш за ўсё: ён, Тышкевіч, ляжыць на беразе мора між круглых пясчаных дзюнаў, слухае ярасны прыбой, шум соснаў і лёгкае шорганне пяску, які гоніць вецер. Чамусьці з усяго паходу ў Літву найбольш за ўсё запомніўся гэты выпадак. Дзюны, сосны, мора і салёны вецер, які гнаў па пляжы пясок.

— Іван Анісімавіч, а на дзіка ты не паляваў?

Тышкевічу здалося, што ён быў заснуў і ўбачыў сон. Але голас гучаў наяве. Бандарэнку, мабыць, не ляжалася моўчкі.

— Памаўчы ты, Бандарэнка,— сказаў Тышкевіч, але і сам узрадаваўся, што чуе чалавечы голас, што ў размове хутчэй бяжыць час.

— Дык я ціха, ніхто не пачуе, ды і лес шуміць. Тут на ўвесь голас гавары — не чуваць.— Бандарэнка ямчэй улёгся на мокрым сівым моху, пачаў расказваць, як паляваў калісьці на дзіка.

Пачатак расказу Тышкевіч чамусьці прапусціў, мабыць, больш слухаў глухі і крыху непрывычны пошум лесу. Нешта трывожыла, прыгнятала. Платонаў расказ далятаў як бы здаля, і не было ахвоты напружваць слых, каб улавіць яго сэнс. Потым і неяк нечакана пачалі даходзіць паасобныя словы, а затым Тышкевіч захапіўся расказам, забыўшыся на шум лесу.

— ...Кабанчык, значыць, у мяху вішчыць, а дзік яліну грызе, аж трэскі ляцяць. Ну, думаю, канец табе, Платон.

А кабанчыка выпусціць шкада. Добры такі кабанчык. Я, разумееш, хацеў ад яго новую пароду вывесці. Сяджу на суку, адной рукой за ствол ухапіўся, другой мех трымаю. А дзік як разгоніцца, як урэжа клыкамі ў яліну, аж снег з голля сыплецца...

Далёкі і як бы баязлівы гул матора перарваў Платонаў расказ. Нельга было разабраць, адкуль ідзе машына: гулкі пошчак разносіўся і справа, і злева, і недзе ззаду. Тышкевіч прыслухаўся, лавіў натужнае гудзенне машыны і ўвесь час варочаў галавой.

Справа ад яго густая сцяна маладых елак засланяла дарогу. Злева ён бачыў толькі Бандарэнку, які заціх, прыціснуўся да зямлі, як бы ўрос у яе, і бездапаможна прыладжваў да пляча вінтоўку. Сухі грудок задзіраў рулю, і вінтоўка цэліла кудысьці паўз верх дрэў.

«Чорт мяне спакусіў выбраць гэтую мясціну,— зазлаваў Тышкевіч.— Тут і праўда як у яме. Нічога не відаць».

Ён хваляваўся за людзей, якіх не бачыў, і таму хваляваўся ўтрая, баяўся, што ўпусціць самы зручны момант, калі трэба ўдарыць па немцах усім адразу і тут жа выскачыць на дарогу, каб захапіць трафеі. Потым ён падумаў, што немцы першыя заўважаць засаду, бо ён забыўся папярэдзіць, каб добра маскіраваліся.

— Паслухай,— пачуў ён насцярожаны Платонаў голас,— здаецца, там не адна машына.

Тышкевіч прыслухаўся. Недзе зусім блізка падвываў матор, мабыць, машына ўспаўзала на пагорак. У лесе як бы зрабілася цішэй.

— Адна,— упэўнена адказаў ён і раптам падумаў, што тая машына, якую яны чакалі, павінна ісці пазней.

Пад яго сэрца падкраўся страх. Яно замерла, дыханне перахапіла, недзе далёка прамільгнула думка: а можа, трэба адысці?

Ён адагнаў гэтую думку, сказаў Бандарэнку прыцішаным голасам:

— Перадай, без каманды не страляць.

Цяпер ужо зусім побач, грукаючы на выбоінах, ішла машына, а недзе так, як і раней, падвывала на пад'ёме другая.

«Калі шмат — прапушчу. Немцы не заўважаць»,— падумаў ён, глыбей хаваючыся пад елку.

Час цягнуўся марудна. Здавалася, машына стаіць на месцы, грукоча кузавам. Потым неяк нечакана паявіўся доўгі, крыты брызентам грузавік з высокай кабінай. У ёй,

трымаючыся за руль, падскокваў нямецкі шафёр. Машына праімінула тое месца, дзе ляжаў Тышкевіч,— з-пад брызенту паглядалі на лес нямецкія салдаты. А следам з-за елак паяўлялася ўжо другая машына, і гэтак жа, як і ў першай, шафёр падскокваў на сядзенні.

«Хоць бы не заўважылі»,— падумаў Тышкевіч. Страху ў яго ні каліва — толькі моцна-моцна ціснула на грудзі зямля.

Недзе там, на левым флангу, як удар дзіцячай хлопаўкі, прагучаў адзіночны стрэл. Адразу ўсё сціхла, толькі ў вушах усё яшчэ гучаў стрэл.

«Хто там не стрымаўся?» — гнеўна падумаў Тышкевіч і тут жа ўбачыў, як з кузава выскокваюць на зямлю зялёныя і нейкія надта ж маленькія постаці. Здалося, што яны адразу схопяць яго. Цяпер Тышкевіч хацеў толькі аднаго: хутчэй падняцца і пабегчы. Але над галавой у галлі пачало нешта гулка патрэскваць, і ён яшчэ больш прыціснуўся да зямлі.

У яго́ных руках была вінтоўка. Ён націснуў кручок — адчуў тупую аддачу ў плячо. Стрэлу не пачуў. Ён патануў у траскатні аўтаматаў. Тышкевічу зрабілася страшна і адзінока. Нешта ўладнае, тое, што перамагалася дасюль, пацягнула яго за ногі ў гушчар. На грудзях задзіраліся гімнасцёрка і плашч, усё цяжэй станавілася дыхаць. Тады Тышкевіч паспрабаваў каціцца, але не вытрымаў, падхапіўся і пабег па лесе.

Гулкі пошчак падганяў яго ў спіну. Бегчы было лёгка і радасна. Недзе справа прамільгнула прыгорбленая чыясьці постаць — свой! — і Тышкевіч пабег за ёй, але хутка згубіў і ўжо не стараўся нагнаць яе.

Чамусьці балюча пачало сціскаць грудзі, ён дыхаў, шырока адкрываючы рот, але ўсё роўна не хапала паветра, яно свістала ў горле, як у дзіравым кавальскім мяху. Нейкі час ён ішоў паволі, абыякавы да ўсяго, нават да стрэлаў, якія, здалося, сталі гусцей. Крыху адсопшыся, ён зноў пабег, бо здалося, што страляюць недзе далёка наперадзе — злева.

На сухой, парослай верасам і мохам выспе ён зачапіўся нагой за пянёк, задыхнуўся, упаў на зямлю, паміраючы ад удушша.

Надзіва востра і выразна ўсё дазванне ўспрымаў разгарачаны мозг — хацелася падняцца і бегчы, але сіл ужо не хапала.

«Няхай,— падумаў ён,— усё роўна ўжо...» І гэтая абыякавая думка неяк прагнала страх.

Тышкевіч слухаў стрэлы, і спакваля да яго даходзіла, што ён адбегся далёка, што цяпер яго не зловяць. Ён ляжаў і радаваўся, што так мякка і зручна ляжаць, што прыемна, як пасля цяжкай работы, ные цела і паволі супакойваецца сэрца.

«Як хораша ляжаць і ні пра што не думаць... І як слаўна пахне зямля... Грыбамі, мохам, верасам і кволай цеплынёй. А вось жа раней не чуў, як пахне зямля. Ляжаў на ёй і не чуў. І што я чуў?.. А пах зямлі — гэта ж цудоўна. Калі выжыву, ніколі не забуду, як пахла зямля ў лесе...»

Ён сеў, азірнуўся, убачыў высокія, у самае неба, сосны, а над імі шэрыя хмары. Яны кудысьці спяшаліся, і здавалася, што паціху разам з імі плывуць вяршаліны соснаў.

Цішыня і спакой панавалі ў лесе. Зрэдку недзе звонка падала долу старая, патрэсканая шышка.

Пагорак з векавымі соснамі крута абрываўся ў маленькую балацявінку, парослую белым мохам, на якім слалася ярка-зялёная дзераза. Нізкія каржакаватыя сосны, як вартавыя, стаялі тут сярод разгалістай, амаль голай ужо лазы. За балацявінай пачынаўся хваёвы лес, густы, пануры і цёмны. Праз яго пралегла разора, жоўты пясочак грудка і бела-падзолісты под баразны былі далёка відаць у змроку лесу. Крыху лявей — светлая паласа прасекі падымалася кудысьці ўгору і хавалася там, дзе неба апускалася на вяршаліны хвой. Прасека зарасла маладым, у рост чалавека бярэзнікам. Жаўтавата-аранжавыя лісты аздаблялі ўжо яркую зеляніну лесу.

«Грыбоў, мабыць, тут процьма. Не лес, а кладоўка. Ды і дажджы толькі пачаліся. А я ўжо даўно не хадзіў па грыбы. Здаецца, апошні раз у дваццаць сёмым. Усё не было часу».

Яму зрабілася маркотна, што праляцела так многа год у вечным водавароце спраў. І ці была патрэба вось так выракацца ўсяго, што цешыла сэрца: прыгажосці, пахаў зямлі, грыбных паходаў?.. «Зачарсцвелі мы і толькі адно зналі, толькі адно бачылі — працу. Не было, дык знаходзілі... Цешыліся ёю».

Яму хацелася запомніць гэтую думку, у вольны час давесці яе да лагічнага завяршэння. Цяпер жа трэба было выбірацца з лесу. Але ён не ведаў, у які бок ісці.

Сосны зрэдку шумелі, мабыць, там, угары, прагульваўся па вяршалінах вецер. А тут, унізе, усё было напоена самавітым спакоем і дзіўнай упэўненасцю.

«Лес стаяў і стаяць будзе,— падумаў Тышкевіч.— І яму, мабыць, смешна назіраць мітусню людзей. Ён упэўнены ў сваёй сіле. Гэта самае важнае. А чалавек? Ці ўпэўнены ён? Чалавек хутчэй верыць у сваю ўпэўненасць і баіцца за яе. Гэта іншае. Чалавек слабей, хоць думае, што ён самы моцны».

Недзе, над выгнутай, як ляшчына, сасной з тонкімі махрамі на вяршаліне, праглянула сонца, няяркае, падслепаватае. Далёка-далёка загарэлася медная кара старых соснаў, ярка заблішчала белая, як ручнік, бяроза. Тышкевіч прыкінуў на вока напрамак на Лісіныя ямы — трэба трымацца недзе між прасекай і супрацьпажарнай разорай,— паціху пайшоў уніз з пагорка.

Цяпер, калі ён ішоў у лагер, думкі вярнуліся да падзей на дарозе. Ён чамусьці быў упэўнены, што яго людзі адступілі ў час і, мабыць, ужо даўно на Лісіных ямах, у зямлянцы. За людзей ён не хваляваўся — сам бачыў, як хтосьці бег перад ім. Было прыкра, што засада не ўдалася, што вінаваты ў гэтым ён. Здаецца, каб усё можна было пачаць спачатку, ён выбраў бы для засады лепшае месца і лепей бы растлумачыў кожнаму яго задачу. «Не ўмеем мы ваяваць, факт. Колькі часу патрацілі на вучэнні, на манеўры, а нічому не навучыліся... Ды і не таму вучыліся. Хадзілі ў процівагазах, наступалі ўсё, а простую засаду не ўмеем правесці». І таму, што хтосьці іншы, падумалася яму, а не ён быў вінаваты ў гэтым няўменні ваяваць, Тышкевічу зрабілася лягчэй на сэрцы.

На Лісіныя ямы ён прыйшоў, добра паблукаўшы па лесе, узрадаваны, што нарэшце ўбачыў знаёмыя мясціны, што можна адпачыць пасля перажытага. Спачатку яму здалося, што ўсе на месцы. Ён хацеў быў сказаць штосьці вясёлае, смешнае, але словы заселі ў горле, бо людзі сядзелі панурыя, і гэта толькі зараз кінулася ў вочы. Тышкевіч быстра абвёў вачамі людзей — не было Самароса, Прусавай і яшчэ кагосьці. Ён ніяк не мог успомніць, каго яшчэ не хапае.

— Самарос не прыходзіў?

— Забілі яго...

Тышкевіч стаяў, адчуваючы пустату і холад.

— Сам бачыў? — запытаўся ён у Чаротнага.

— Не, яна,— паказаў Ігнат на Фаню.

Настала няёмкая, глухая маўклівасць. Тышкевіч падумаў, што варта было б знайсці мёртвага Самароса, пахаваць яго па-людску, але ці так ужо важна, як пахаваны чалавек.

— А Прусава дзе?

Людзі не адказалі. Іх маўчанне зацягнулася надоўга, і Тышкевіч адчуў, што яно — бязлітасны прысуд яго камандзірскай дзейнасці. Зрабілася сорамна і крыўдна. І як заўсёды, калі адчуваеш сябе вінаватым, Тышкевіч пачаў шукаць апраўдання. «Каб не той стрэл без каманды,— падумаў ён,— я прапусціў бы машыны, і ўсё было б добра. Вінаваты той, хто стрэліў...» Але другая думка падказала, што ўсё роўна вінаваты ён. Трэба было грунтоўна распрацаваць аперацыю раней, прадугледзець усе нечаканасці.

— Слюды таксама няма,— перапыніў яго думкі Бандарэнка.

Толькі цяпер Тышкевіч заўважыў, што сапраўды няма Яўмена Слюды. Ён хацеў запытацца, ці бачыў хто веляшковіцкага старшыню, але зразумеў, што пытацца пра гэта не варта.

— Гэты драпануў, як толькі машыны загулі,— сказаў Чаротны.

— Прымаць бой з такімі сіламі — вар'яцтва,— адказаў Сарока.

Тое, што Слюда першы пакінуў засаду і дасюль не вярнуўся на базу, устрывожыла Тышкевіча больш за ўсё. Яму прыгадаўся выпадак, на які ён у свой час не звярнуў увагі. Аднойчы Прусава паклікала яго прайсціся па лесе. А калі яны адышліся крыху, пачала расказваць, што Слюда баламуціць людзей, сумняваецца, ці трэба было ім брацца за зброю. Ён тады адмахнуўся ад Прусавай. Было непрыемна, што Вера спадцішка сочыць за людзьмі, якія пераносяць усе цяжкасці ляснога жыцця, што яна падслухоўвае іх размовы і, мабыць, перайначвае ўсё па-свойму. Ён тады не вельмі ўважліва выслухаў Веру і не знайшоў у размовах Слюды нічога дрэннага. Цяпер размова з Прусавай здавалася важным пацверджаннем таго, што здарылася.

Тышкевіч стараўся цвяроза ўзважыць, дзе зараз Слюда: уцёк дамоў ці заблудзіўся ў лесе? Калі ўцёк, дык што рабіць? Ён раптам цвёрда паверыў, што Слюда ўцёк, і жахнуўся: прывядзе, гад, сюды немцаў, абавязкова прывядзе, абы яму паверылі. Трэба было неадкладна шукаць

новае месца для лагера. Але ісці адсюль, пакуль няма Прусавай, пакуль не высветлілася, жывы ці нежывы Самарос, не выпадала.

— Я заўсёды быў супраць авантурызму,— нечакана пачаў Сарока. Ён гаварыў, угнуўшы галаву ў плечы, не падымаючы вачэй. Тышкевіч пастараўся ўспомніць, калі пра гэта гаварыў Сарока, але не змог.— Сённяшняя аперацыя і ёсць вось такая авантура. Чаго мы дамагліся? Згубілі трох чалавек. Яшчэ дзве такія аперацыі — і атрада не будзе. А я помню, як той жа Тышкевіч гаварыў нам, што асноўнай нашай задачай з'яўляецца палітычная работа. Так я кажу ці не?..

Ён абвёў вачамі людзей і спыніў позірк на Тышкевічу. Нібы чакаў адказу. Але Тышкевіч адчуў, што Сарока і сам усё добра ведае. Нават гэтая няўдалая аперацыя больш значыць, як дзесятак добрых і палымяных прамоў. У вёсках пачуюць, што на калону нападалі з лесу, і размовы пра гэта разнясуцца па ўсім Падзвінні. Сарока дамагаўся чагосьці свайго, і Тышкевіч разумеў, куды ён скіроўвае гаворку.

— Па-твойму, нам трэба так закансніравацца, каб пра нас ніхто не ведаў?

— А па-твойму, лепей будзе, калі нас перастраляюць?

— Адседжвацца можна дома...

— Мы, Іван Анісімавіч, не за тое, каб адседжвацца, але ж хто павядзе палітычную работу, калі атрад будзе несці такія страты?

Гэтае «мы» найбольш уразіла Тышкевіча. Значыць, веляшкоўцы заадно і, мабыць, не раз ужо гаварылі між сабой наконт таго, патрэбна ці не весці ўзброеную барацьбу. Тышкевіч пашкадаваў, што няма Прусавай. Яна доўга не шукала б адказу.

— Мы ўсе хацелі гэтай засады і няма чаго вінаваціць Тышкевіча,— падаў голас Чаротны.— Ты, Сарока, не бунтуй. У самых таленавітых палкаводцаў і то былі паражэнні.

Тышкевіч з удзячнасцю падумаў: «Правільна, Ігнат. Дзякуй табе за падтрымку».

На нейкі час усталявалася цішыня. Тышкевіч падумаў, што варта паслаць разведку. Але не паспеў ён загадаць Чаротнаму і Фані пайсці шукаць Самароса, як у зямлянцы паявілася Прусава.

— Седзіцё тут, а Самарос ляжыць,— сказала яна і зноў пайшла, няцвёрда ступаючы.

Самарос ляжаў недалёка ад лагера. На разарванай штаніне запяклася кроў. Калі Тышкевіч з Бандарэнкам падымалі яго, ціхім, несамаросаўскім голасам папрасіў: «Асцярожней, таварышы»,— і глядзеў на людзей спакутаванымі, памутнелымі вачамі.

## 2

Сцямнела непрывычна рана, бо пад вечар з балота па бары папоўз белавата-шэры туман. Стала сыра і цёпла, нават парна. Цяпер яны ўсе сядзелі ў штабной зямлянцы, панура чакаючы нейкі цуд.

Яўмен Слюда так і не вярнуўся ў лагер. І таму, што ніхто не ведаў, забіты ён ці жывы, і таму, што лес ахутваў непраглядны густы туман і можна было незаўважна акружыць лагер, і яшчэ таму, што наперакор усім Прусава паліла вогнішча ў зямлянцы, бо Самароса біла ліхаманка і яму трэба было сагрэцца, а кожны з партызан думаў, быццам пах дыму чуваць па ўсім лесе і можа навесці немцаў на лагер,— у зямлянцы панавала напружаная маўклівасць.

Тышкевіч выбраўся наверх. У рове было цёмна і глуха. З чарнаты на яго насоўвалася штосьці чорнае і вялікае. Ён зразумеў, што гэта вартавы, і паклікаў яго. Платон Бандарэнка аказаўся побач.

— Ціха? — запытаўся Тышкевіч.

— Глуха,— адказаў той.

Памаўчалі, прыслухоўваючыся да мёртвай цішыні.

— Трэба было б, Іван Анісімавіч, перабрацца на Плёсы,— пачаў ён.— Не падабаецца мне ўсё гэта... размовы... ну і Слюда, само сабой.

— Думаеш, што Слюда можа выдаць?..

— Як табе сказаць... Знарок не, а калі добра за яго возьмуцца, можа не вытрымаць.

— З Самаросам як быць?..

— Дамоў бы яго занесці.

— Я ўжо гаварыў — не хоча.

— Тады панясём на Плёсы.

Праз гадзіну атрад рушыў у дарогу. Плёсы гэтыя — бярозавы гай сярод дрымучага бору, ускрай якога ў глухамані стаяла маленькая хаціна з печкай,— былі падказаны веляшкоўцамі як запасная база, на ўсякі выпадак. Навокал запусценне, руіны, кіславаты пах цвілі.

Адпачывалі гадзіны тры, не больш. Нават у сне Тышкевіча трывожыў лёс Слюды. Цяпер, калі ўсе супакоіліся, калі прайшла нервовая ўзбуджанасць, здалося, што дарэмна падазравалі Слюду. Мабыць, загінуў чалавек або заблудзіўся ў лесе і цяпер недзе шукае атрад. Думаючы над тым, каго паслаць у Веляшковічы, Тышкевіч спыніўся на Пятру Жыбулі.

Той згадзіўся не адразу і, як здалося Тышкевічу, пайшоў у разведку неахвотна. Яго ўзяўся праводзіць Ламазік, і, калі яны ішлі па лесе, Прусава глядзела ім услед і чамусьці хмурылася.

— Ты чаго? — спытаўся Тышкевіч.

— Мяккі ты дужа,— адказала Вера.

Дзень прайшоў у тужлівым чаканні ночы. Настала ноч, такая ж, як і мінулая, цёмная і сырая. Тышкевіч размеркаваў дзяжурства, загадаў спаць.

Прачнуўся ён ад дотыку мокрых, халодных пальцаў. Ашалела ўскочыў. Не мог успомніць, дзе ён і што з ім.

Было ціха. Побач саплі ў сне людзі, ды за сцяной сіпеў надакучлівы дождж. «Здалося,— падумаў Тышкевіч і адразу ўспомніў: — А Жыбуля ўсё няма». Зрабілася трывожна.

Ён накінуў плашч наапашкі, выйшаў на двор. Світала. Шэранькія непрыветлівыя змрокі сціралі абрысы лесу.

Недзе за зямлянкай хтосьці паціху бубніў. Тышкевіч, хутаючыся ў плашч, абышоў хатку, убачыў двух на прызбе, пад страхой. Жыбуль і Ламазік, які нёс варту. Значыць, Жыбуль прыйшоў. Як добра!..

Тышкевіч падышоў:

— Ну, што там?..

— Добрага нічога,— слабым голасам адказаў Жыбуль, замоўк.

«Значыць, збег Слюда»,— падумаў Тышкевіч.

Жыбуль паварушыўся, паправіў на галаве шапку.

— Прамок наскрозь...— сказаў ён.— Думаў, не знайду ўжо вас...

Ён цягнуў, і Тышкевіч разумеў, што Жыбулю не хочацца гаварыць пра Слюду.

— Дрэнныя навіны Пятро прынёс,— пачаў Ламазік.— У Валяшковічах поўна карнікаў. Кажа, што ўчора, бадай, мы на іх натрапілі.

— А Слюда дзе? — не выцерпеў Тышкевіч.

— Дома яго няма,— заняты нейкімі сваімі думкамі, адказаў Жыбуль і раптам крута павярнуўся да Тышкеві-

ча.— Я пра такое даведаўся, аж страшна сказаць... Маскву здалі.

Тышкевіч адчуў, як абарвалася штосьці ў грудзях. Ён раптам забыўся пра Слюду, пра свае трывогі. Стала пуста і холадна.

— Ад каго чуў? — перасельм голасам запытаў ён.

— Каб жа толькі чуў... Лістоўку прынёс.— Ён палез за пазуху, дастаў добра ўжо скамечаную паперку.

Іван Анісімавіч узяў лістоўку, акуратна разгладзіў, прыглядаўся. У вачах мітусіліся чорныя радкі набору.

— Дзе ты яе ўзяў?

— У жонкі. У Кажадубах, кажуць, іх многа. Самалёт скінуў.

Ламазік ахінуўся плашч-палаткай, запаліў запалку. Пры яе кволым святле Тышкевіч убачыў у правым кутку словы: «Смерць нямецкім захопнікам!» — падумаў: «Наша».

«Дарагія суайчыннікі, браты і сёстры, таварышы, сябры! Чырвоная Армія пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка вымушана была пакінуць сталіцу нашай Радзімы — Маскву.

Мы звяртаемся да вас у гэтую цяжкую гадзіну нашай гісторыі са словамі гора і смутку, і верым, і спадзяёмся, што вы зразумееце ўсю сур'ёзнасць...»

Запалка дагарэла, і Ламазік не спяшаўся запаліць другую. «Верым і спадзяёмся...» У што верыць і на што спадзявацца? — думаў Тышкевіч.— Няўжо так і давядзецца загінуць у лесе?»

Ад гэтай самотнай думкі і ад жаласці да сябе пакалвала ў сэрцы.

Ламазік запаліў яшчэ адну запалку. Пры яе святле дачыталі лістоўку да канца. Тышкевічу ўрэзаліся ў памяць толькі дзве фразы: «Спыняйце ўзброеную барацьбу. Вяртайцеся дамоў і чакайце новых загадаў».

«А дзе ж той дом? — падумаў ён.— Лепей загінуць у лесе, са зброяй.— Чамусьці ўспомніў, як бег учора з дарогі, чапляўся за жыццё.— А можа, было б лепей, каб забілі... Нічога не ведаў бы...»

— Вось што, таварышы, людзям пакуль не кажыце. І так хапае клопату.

Ён сказаў першае, што прыйшло яму ў галаву. Усё адбылося так нечакана, што ён разгубіўся і нічога лепшага не мог прыдумаць, як схаваць ад людзей страшную навіну. І адразу ж яму прыгадаўся пачатак трыццатага года.

Яны з Самаросам закончылі ў Жыжанскім сельсавеце стопрацэнтную калектывізацыю, і раптам у «Правде» паявіўся артыкул Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў». Тады, як і цяпер, яны раптам абодва разгубіліся. Учора яшчэ іх віншавалі з поспехам, хвалілі, ставілі ў прыклад, а сёння выходзіла, што яны заўзятыя левакі, амаль ворагі савецкай улады.

Самарос адразу ж пачаў лаяць акружное начальства, якое штурхнула іх на памылкі. Яны на месцы строга выконвалі дырэктыву, а што там думалі ў акрузе? Левакі, перагібшчыкі, чорт бы іх пабраў. Тышкевіч ведаў аднаго з гэтых «левакоў» — сакратара акружкома Кірзаня. Якога ліха ён перагібшчык! Сумленны чалавек, які і на крок не адыдзе ад дырэктывы.

Яны доўга раіліся, што рабіць, нават званілі ў раён, але нічога пэўнага ім не сказалі. Было не зразумець, якой лініі трымацца, каб зноў не прыстаць да нейкага ўхілу; і ён з Самаросам вырашылі схаваць «Правду», дачакацца новых указанняў.

А назаўтра хтосьці прывёз «Правду». Іх з Самаросам выцягнулі з сельсавета, насадзілі гузакоў. І той жа акружком запісаў ім па суровай вымове.

«Трэба сказаць людзям, што Маскву здалі. Свае ж усе, добраахвотнікі, камуністы...» — падумаў Тышкевіч. Але ён ведаў і другое: сам ён такое не скажа, не хопіць мужнасці.

Надціхаў дождж. Нізкія валы хмар хутка праплывалі над лесам. Гулка і нудна падаў на зямлю буйны россып з дрэў. Зрабілася зусім ужо светла і яшчэ больш няўтульна, як ноччу. Маленькая паляна перад хаткай здавалася апошнім і зусім ненадзейным прыстанішчам.

Тышкевіч падняўся з прызбы, атрос з плашча пясок.

— Ну што ж, таварышы,— сказаў ён,— цяжка, але не ўсё страчана. З лесу, вядома, мы пакуль не пойдзем. Будзем змагацца да апошняга патрона, да апошняй кроплі крыві. Зрэшты, вырашым, што рабіць далей.

Ён сабраўся быў пайсці, але яго затрымаў Жыбуль.

— Заварылі мы кашу, што да смерці не расхлябаеш,— пачаў Жыбуль.— Пра сябе не буду гаварыць, але пра сем'і нашы, пра дзяцей скажу. Прыйшоў дамоў, а жонка галосіць, дзеці плачуць, маці на каленях поўзае. Не хадзі ў лес, і ўсё. Думаеш, лёгка на такое глядзець?..

Жыбуль замаўчаў. Здавалася, засеў у горле камяк го-

ра і ніяк не пракаўтнуць яго. Пятро сутаргава перасмыкнуўся, і Тышкевічу па-чалавечы стала шкада яго.

— Пятро Андрэевіч, а немцы ведаюць, што ты ў лесе?

Жыбуль паківаў галавой:

— Пра мяне не ведаюць. А да Гуляйкавай жонкі прыходзіў Данільчык, бургамістр, казаў, каб Іван вяртаўся з лесу. «Я, кажа, не магу вас і Івана сваёй спінай засланяць. Хай Іван не баіцца, што немцы яго арыштуюць, бо ёсць загад, хто вернецца з лесу, таго не чапаць. А калі не прыйдзе дамоў, дык усю сям'ю ў заложнікі возьмуць».

— Хлусяць немцы. Знайшоў каму верыць.

— Чалавек заўсёды на лепшае спадзяецца,— пачаў Ламазік, які дасюль маўчаў.— Асабліва калі за сям'ю баіцца. Можна было б па-ўсякаму меркаваць, каб не так крута ўсё павярнулася. Ну, скажы, Іван Анісімавіч, якія мы ваякі, калі армія вунь куды адступіла? Табе што? Ты — адзін. А ў нас сем'і: жонкі, малыя дзеці. Іх пашкадаваць трэба.

Тышкевіч зразумеў, што Жыбуль з Ламазікам, відаць, перад тым як ён выйшаў з зямлянкі, абмяркоўвалі, што рабіць далей. Мабыць, яны цвёрда намерыліся вяртацца дахаты. І не адны, а ўсім гуртам. Але ж гэта — канец атраду. І Тышкевіч добра разумеў, што ён не можа дазволіць, каб веляшкоўцы пакінулі лагер. Трэба было затрымаць іх.

— Думаю, што немцы палохаюць. Хіба дзеці адказваюць за сваіх бацькоў? Калі ўжо лагічна падыходзіць, дык тады трэба браць сем'і ўсіх, хто на фронце ваюе. Не адважацца яны расстрэльваць заложнікаў... Не, не адважацца. У тую Айчынную вайну Напалеон узяў заложнікамі жонку і дзяцей каменданта Бабруйскай крэпасці. Але ж благога нічога не зрабіў.

Ён гаварыў упэўнена, але сам адчуваў, што голас яго паступова траціць гэтую ўпэўненасць. Чорт іх ведае, гэтых фашыстаў, на што яны здатныя.

— На тваім месцы і я каго-небудзь супакойваў бы. А калі самому прыпякло... Ды што там хавацць... Пятро кажа, што Слюда ў жончынай радні хаваецца. Гэта пакуль што. Некалі ж ён адважыцца пайсці рэгістравацца...

З-за хаціны паявілася Прусава з вінтоўкай і ў Самаросавай плашч-палатцы. Мабыць, выйшла падмяніць вартавога.

— А-а-а, во дзе вартавы!.. Чаго гэта вы тут расселіся?

Тышкевіч моўчкі падаў ёй лістоўку, хоць перад гэтым раіў Жыбулю і Ламазіку маўчаць.

— Наша,— здзівілася Прусава.

Яна прагна пачала чытаць, спахмурнела, насупілася. Не дачытаўшы лістоўку да канца, узняла вочы.

— Дзе падхапілі? — хрыпла запыталася ў Тышкевіча.

— Жыбуль з Веляшковіч прынёс... Самалёт раскідаў.

— Вас, як карасёў, на любую прыманку зловіш.— Прусава кінула лістоўку пад ногі.— Маскву ніколі не возьмуць. Ды і папера не наша, фрыцаўская, і шрыфт не такі, як у нас.

— Пакажы...

Тышкевіч падняў лістоўку. І папера, і шрыфт не нямецкія, але цяпер ён і сам быў упэўнены, што лістоўка падробленая, і яму стала радасна, весела.

— Ну, бачыце, таварышы... А вы запанікавалі. Відаць, кепскія ў фашыстаў справы, калі хочуць нас з лесу вось такімі лістоўкамі выманіць.

— Ты пра што? — запыталася Прусава.

— Ды от, Жыбуль кажа, што немцы забіраюць партызанскія сем'і заложнікамі. А хто вяртаецца з лесу, тых не трывожаць.

Іван Анісімавіч чакаў, што Прусава, як заўсёды, пачне гаварыць словамі з падручніка палітграматы, але яна маўчала, пазіраючы пад ногі на жоўтае апалае лісце. Над пераноссем у яе пралегла глыбокая маршчынка.

— У мяне таксама была маці,— сказала яна і пайшла ціхім крокам, трымаючы ў руках вінтоўку.

Настаў шэры маркотны дзень. Сырая надакучлівая імгла ахутвала Плёсы, і ў ёй невыразна бялелі ствалы бяроз, як на зруйнаваным могільніку косці. У хацінцы то ўзгаралася бурная спрэчка, то наступала знямоглівая цішыня. Веляшкоўцы верылі, што Маскву сапраўды здалі немцам, вайскоўцы з усёй страснасцю даказвалі адваротнае. І таму, што ніхто не мог даказаць сваёй праўды, людзі шмат крычалі і балюча абражалі адзін аднаго.

Ніхто не ведаў, што трэба рабіць, як жыць далей, і гэтая няўпэўненасць абуджала ў іх злосць. Тышкевіч баяўся, што спрэчка перарасце ў сварку і тады хто-небудзь найбольш нястрыманы пусціць у ход зброю. Ён стараўся прымірыць людзей, супакоіць іх. На час у хацінцы ўсё сціхала, а потым зноў пенілася спрэчка.

Удзень, калі на варце стаяў Чаротны, у лагер прыйшлі

жанчыны з дзецьмі. Ігнат адчыніў дзверы, спалохана крыкнуў:

— Ідуць!..

Усе напалохаліся: немцы! А калі выбеглі на двор, дык убачылі густы натоўп, што паволі рухаўся сярод бяроз. Наперадзе ішла высокая ў кароткай скуранцы жанчына. Яна трымала на руках дзіця, загорнутае ў ружовую коўдру. Другое, дзяўчынка, трымалася за спадніцу.

Тышкевіч спалохаўся, што за жанчынамі дзесьці хаваюцца немцы або паліцаі. Шапнуў Чаротнаму: паглядай навокал, можа, правакацыя. Той кіўнуў галавой. Іван Анісімавіч бачыў, як ён загнаў патрон у ствол.

Жанчыны, баязліва азіраючыся, спыніліся крокаў за пяць. Адсюль, з партызанскага боку, да іх пайшоў Заблоцкі.

— Навошта ты дзяцей прывяла? — сказаў ён жанчыне ў скуранцы.

Тая моўчкі аддала яму ружовы скрутак. Васіль няўмела трымаў яго, не выпускаючы з рук вінтоўку. У яго быў збянтэжаны, разгублены выгляд.

— Хто тут старшы? — запытала Васілёва жонка. Па голасе чуваць, што жанчына хвалюецца, але хоча паказаць сябе ўпэўненай і смелай.

— Што вы хацелі? — спытаў Тышкевіч.

— Стала быць, ты начальнік?.. Ну, так з табой і гаварыць будзема... Відзіш, колькі іх у нас, сірат будучых.

Тышкевіч думаў над тым, што сказаць жанчынам, як супакоіць іх. Але яны загаманілі ўсе разам, і было вельмі цяжка злавіць у гэтым бязладдзі штосьці галоўнае. Ён слухаў, схіліўшы галаву набок. Краем вока бачыў, як хмурыцца Прусава, кусае вусны.

— Бабы, цішэй! — скамандавала Васілёва жонка, і жанчыны сціхлі.

Іван Анісімавіч спыніў свой позірк на Васілёвай дачушцы, што палахліва ціснулася да мамы, абнімала яе за ногі. У дзяўчынчыных вачах слёзы і страх. Тышкевічу захацелася прыласкаць яе, і ён пайшоў, каб узяць дзяўчынку на рукі...

— Ай-й-й, мама, баюся...— залямантавала дзяўчынка.

— Чаго ты, дурненькая...— паспешліва гаварыў Тышкевіч, адступаючы.— Не бойся. Бачыш, тата не баіцца. Дзеці таксама не баяцца.

— Ты страшны,— сказала дзяўчынка і схавалася за бацьку.

«Напэўна, страшны,— падумаў Тышкевіч, праводзячы рукой па няголеным твары.— Усе мы такія».

Ён першы раз убачыў, што людзі зараслі, што вопратка на іх неахайная, брудная і самі яны чорныя, ускудлачаныя, нейкія не падобныя на сябе. Раней ён не заўважаў гэтага. І цяпер заўважыў толькі таму, што жанчыны былі ніштавата апрануты, чыстыя, прычасаныя, падобныя на людзей з іншага свету.

— Дык вот, таварыш, не ведаю, як велічаць цябе, прыйшлі мы па мужоў нашых,— зноў загаварыла высокім дрыжачым голасам Васілёва жонка.— Адпускай іх дахаты.

— Адны дамоў не пойдзем,— адзінокі жаночы голас з натоўпу зноў абудзіў маўклівасць жанок.

— Чаго тут хавацца?..

— Немцы не звяры...

— Маскву вунь здалі...

— Па-харошаму просяць...

— Жытка свая дарага...

— А дзеці — сіраты.

Тышкевіч падняў руку.

Гоман паступова замёр.

— Таварышы, я нікога не ўтрымліваю. Але я ведаю, што вас ашукалі. Прыйдуць мужчыны дамоў, і іх схопяць, адправяць у лагеры. Гэта іхняя смерць, таварышы.

— Дык што, няхай яго забіваюць.— Васілёва жонка забрала ружовы скрутак, паднесла да Тышкевіча.— Яго табе не шкада.

Ад яе голасу прачнулася дзіця, закугакала, пацешна зморшчыўшы носік, раскрываючы ружовы бяззубы рот.

— Як жа ты мог такое сказаць? Малое неразумнае дзіця асудзіць на смерць?

— Грамадзяначка, я такое не казаў. І яшчэ раз паўтараю. Немцы хітрацъ. Яны хочуць выцягнуць людзей з лесу, каб потым расстралядь іх.

Настала трывожнае зацішша. Васілёва жонка расшпільвала тужурку, кофту. Іван Анісімавіч з нейкай дзіўнай абыякавасцю і бессаромнасцю глядзеў, як жанчына спадыспаду ўзяла на далонь белыя грудзі з карычневым саском, паднесла іх да тварыка дзіцяці. Яно адразу зацiхла, і маці некалькі хвілін пазірала на яго з той трывожнай любасцю, якая бывае ў мацерак у самыя цяжкія хвіліны.

— А што ж нам рабіці? Ну, вот скажы, дарагі наш ча-

лавек. Нам што рабіць? Каб я адна была, думаеш, пайшла б? Але ж дзеці. Звер і той не кідае дзіця ў бядзе. Сам гіне, а дзіця абараняе. А чалавек жа не звер. Як жа ён застанецца ў лесе, калі будзе знаць, што яго дзіця заўтра расстраляюць?

— А калі ён вернецца дамоў, а яго і вас усё роўна расстраляюць?

— І так можа быць.— Яна закрыла твар далоняй, доўга церла высокі белы лоб, думала.— Паміраць, дык разам... Не, калі ён вернецца, дзяцей не зачэпяць. А калі зачэпяць, дык хоць наша совесць чыстай застанецца. Перад імі чыстай.

— Хай самі рашаюць,— сказаў Тышкевіч і пайшоў у хаціну.

Ён разумеў, што сам не можа вырашыць гэтае складанае пытанне. Няма ў яго ні маральнага права, ні жорсткай волі, каб пакінуць людзей у лесе. Ён са страхам падумаў, а як зрабіў бы сам, каб вось так прыйшла жонка з дзецьмі? Што?.. Гэта ж нібы самому забіць дзяцей... Але ж цябе не памілуюць. Ого, не... І іх, магчыма, таксама... У тым і справа, што магчыма...

Адказу ён не знайшоў. Зайшоў у хатку, сеў. Самарос пазіраў на яго, спачуваў.

— Сітуацыя...— І раптам Самарос узгарэўся.— Калі якая сволач пасля вайны скажа, што нам было лёгка, нават калі б мы ўсяго адзін месяц прабылі ў лесе і нічога не зрабілі б тут,— галаву адарву.

— Такое толькі і можа сказаць сволач, якая сама нічога не рабіла,— адказаў Тышкевіч.

У хатку ўваходзіла Прусава.

Яна ішла неяк бокам, няўпэўнена, як тады, калі паранілі Самароса.

— Пайшлі... Не азірнуліся нават,— сказала яна і здрыганулася, быццам апяклася.

— Сорамна і балюча,— падаў з кутка голас Самарос.

— А мне не балюча было, як маці забілі?.. І ты добры... Я іх не трымаю. А іх затрымаць трэба было...

— Вінаваціць іх нельга, але і апраўдаць таксама нельга,— адказаў Тышкевіч.

Самарос прыўзняўся і, абапёршыся на сцяну спінай, доўга глядзеў на прыціхлых таварышаў.

— Я вам цяпер не памочнік. Мяне дамоў трэба адправіць. А калі хочаце маю думку пачуць, дык я вам так скажу. Да горада трэба камусьці дабрацца. У Веры там

радня. Яе і пашлі. Рабочы клас падымаць трэба. Яшчэ раю табе, Іван Анісімавіч, пайсці да Шамшуры. Бяры Фаню і ў дарогу. А вайскоўцы нашы хай застаюцца ў лесе. Толькі варта перабрацца ў зямлянкі, на старое месца.

— Да вясны нашы вернуцца,— не ўтрымалася Прусава.— Таму праз месяц зноў сабярэмся.

— Эх, Вера, добра было б, каб вярнуліся. Хоць я лістоўцы гэтай не веру, але здаецца мне, што вайна і не на год, і не на два.

Спрачацца не было сіл, і людзі пагадзіліся з Самаросам.

## 3

Разведчык не чакае шчаслівага выпадку, але нуль цана яму, калі не скарыстае выпадковай удачы. Гэта не тэорыя — азбука...

Так калісьці гаварыў палкоўнік. І цяпер, калі Людміла Герасіменя працавала ўжо ў камісарыяце, калі прытупіліся першыя трывогі, яна з задавальненнем думала, што чагосьці варта. Зручны выпадак яна ўсё ж не прапусціла. Каб не ён, дык давялося б, бадай, доўга яшчэ дабірацца да гэтага камісарыята. Не памаглі б усе тыя хітрыя і як быццам дасканала распрацаваныя Карлам Эрнставічам планы. Напачатку Людміла не вельмі яскрава ўяўляла сваю дзейнасць. Рыхтавалі яе паспешліва. Не было ні часу, ні вялікіх магчымасцей. Фронт адступаў, і нельга было далёка завозіць дзяўчыну ад родных мясцін. Галоўнае — гэта Людміла ўсвядоміла адразу — заключалася ў тым, каб уладзіцца на работу да немцаў, зарэкамендаваць сябе сумленнай і разумнай. Надзейны тыл ёй быў забяспечаны начальствам, і калі б часам сустрэўся чалавек, які ведаў яе па палявым шпіталі, дык ён, бадай, не здзівіўся б, што яна служыць у немцаў.

Яшчэ да таго, як прыляцеў Ланге, Людміла двойчы наведвалася ў горад. Цывільныя ўстановы тады толькі ствараліся. Горад нагадваў спалены мурашнік. Сярод руін корпаліся нейкія людзі. Жанчыны цягалі клункі з абгарэлых сутарэнняў. Зрэдку кацілі двухколкі бежанцы, змардаваныя, чорныя і брудныя ад пылу. Ля гарадскога рынку, на задворках, мужчыны разбівалі кайламі чорна-бурую гару з солі. А на правым беразе ў другой такой гары, што ўсё яшчэ дымілася, адкопвалі махорку. І соль, і махорка ляжалі, відаць, да вайны, на складзе штабялямі.

Людміла пабывала тады на старой кватэры, дзе жыла першыя два гады вучобы ў тэхнікуме. Вялізны, на высокім фундаменце дом стаяў пад кручай глыбокага рова. З поўдня ля яго, пад гарою, пралягала вузенькая пакручастая вулачка, а на паўночным баку размяшчаўся агарод, які ўзбіраўся ўгору, дзе стаяла старая благавешчанская царква. Дом гэты прыцягваў Людміліну ўвагу не толькі сваім удалым размяшчэннем. У ім жыла сям'я, якая не магла выклікаць падазрэння ў немцаў.

Гадоў за пяць да вайны гарсавет адабраў у гаспадароў палову дома, і гэта назаўсёды пасварыла іх з савецкай уладай. Немаладая, але мажная яшчэ Васіліса Ягораўна вечна скардзілася Людміле на чалавечую несправядлівасць, а гаспадар, выпіўшы лішнюю чарку, лаяў гарсавет, начальства, «галадранцаў», што не дбаюць аб уласным прытулку, савецкія законы і іх выканаўцаў. Людміла тады адмоўчвалася. Ведала, гаварыць наперакор няма сэнсу. Бяздзетным скупярдзяям нічога не дакажаш. Часам яна нават спачувала гаспадыні, каб толькі адчапіцца ад яе надакучлівых скаргаў.

Васіліса Ягораўна ўпадабала Людмілу і ўсё старалася пасватаць яе за свайго пляменніка.

Цяпер Людміла радавалася, што стрымалася да вайны, ні разу не запярэчыла гаспадыні. Як ведала, што давядзецца яшчэ шукаць у яе прытулку.

Дом ужо цалкам належаў гаспадарам. Неяк памаладзелая, радасна ўзбуджаная Васіліса Ягораўна правяла Людмілу па ўсіх пакоях, пахвалілася мэбляй, якую нацягалі з гаспадаром, бо ўсё роўна яе расхваталі б, завяла ў скляпок, дзе ў кулях ляжала соль, а ў скрынях пачкі з махоркай. «Соль цяпер, Людачка, як золата, так ва ўсе войны было. Ну, і на махорку дурняў знойдзецца. Мой дык не курыць».

Людміла ахала, хваліла гаспадыню за руплівасць, спадцішка выпытвала, якія ўстановы працуюць і ці можна ўладкавацца дзе на работу. Васіліса Ягораўна абяцала памагчы.

Але ўсё гэта было не тое, што трэба. Шчасце прываліла нечакана.

У цяністым парку, куды Людміла зайшла выпадкова — захацелася прайсці па знаёмых алеях,— яна сустрэла Эрну Паўлаўну Мюнцэр, настаўніцу нямецкай мовы. Тая сядзела над самай ракой на лавачцы, чытала кнігу. Той жа востранькі носік пацешна рухаўся па радках, тое ж

пенснэ са шнурочкам і тыя ж буклі падвітых валасоў. Усё было такое знаёмае, што Людміла нават не паспела вырашыць, ці варта падыходзіць, як падышла, павіталася.

— О мой бог, Людміла... Адкуль ты, дзевачка мая?..

Гэта таксама быў выпадак у шчаслівым ланцугу заканамернасцей. Эрна Паўлаўна любіла Людмілу. Палюбіла яе пасля аднаго прыкрага здарэння.

Эрна Паўлаўна ніколі не ўспамінала пра Германію, дзе нарадзілася і пражыла да васемнаццаці гадоў. Яна была сентыментальная, як усе немцы, але, як усе немцы, умела стрымліваць пачуцці.

Што адбылося тады? Чаму раптам Эрна Паўлаўна расхвалявалася, Людміла зразумела крыху пазней.

А ў той дзень, як заўсёды, студэнты адказвалі ўрок, Эрна Паўлаўна злавалася, потым пачала перакладаць артыкул, самы звычайны, нудны артыкул пра нейкі горад, здаецца, Шверын. Яе амаль ніхто не слухаў — вучыць нямецкую мову ў тэхнікуме лічылася дурной звычкай. І раптам лёгкі пошум класа прыціх ад абуранага голасу Эрны Паўлаўны.

— О мой бог, не ведаць, што горад стаіць на Шверынзее...

— А вы хіба былі ў ім? — запытаўся хтосьці са студэнтаў.— Раскажыце нам пра яго...

Студэнты, вядома, не вельмі цікавіліся тым нямецкім горадам. Проста хацелі адпачыць. Але Эрна Паўлаўна зусім неспадзявана пачала расказваць пра знаёмы ёй горад, пра яго ваколіцы, пра чысціню вуліц і прыгажосць сквераў. Яна гаварыла з захапленнем. Нават зняла пенснэ, быццам яно перашкаджала яе ўспамінам. Востранькі носік Эрны Паўлаўны пачырванеў, а вочы па-маладому паблісквалі. «Германія — самая культурная, самая вялікая дзяржава свету. О, немцы — разумны народ. Яны любяць працаваць. Яны ашчадныя. У іх парадак. Божа, які ў нас парадак. Я ніколі не бачыла на вуліцы кавалка паперы. Мы з дзяцінства прывучаны да акуратнасці. Раніцай адчыніш дзверы, а на ганку стаіць бітончык з малаком. У скрынцы ляжыць хлеб. Немцы не ведаюць чаргі... А ружы. Божа, якія ружы былі ў фраў Эльзы. Яна кожны год давала нам па кветцы, калі мы канчалі вучыцца. Мне — белую з лімоннай акаймоўкай. І я аднойчы падаравала ружу Гансу. Ён сказаў мне: «Эрна, ты сама найлепшая ружа ў доме старога Паўля Людэнберга».

Студэнты заўсміхаліся, хтосьці, зацiскаючы рукой рот,

не мог стрымацца ад смеху — Эрна Паўлаўна была падобна на дзьмухавец.

Немка неяк спалохана зірнула на клас, у яе вачах яшчэ былі слёзы замілаванасці, але яны патухлі ўжо, зрабіліся шэрымі і невыразнымі.

— Я расказваю вам пра добрую старую Германію. Цяпер там фашызм, і я не ведаю...

У класе выбухнуў рогат. А Эрна Паўлаўна яшчэ больш збянтэжылася. Блізарука прыглядаючыся да студэнтаў, яна ніяк не магла зразумець, чаго яны рагочуць. І, не стрымаўшыся, выбегла з класа.

Быў канец трыццаць сёмага года.

Людміла знайшла Эрну Паўлаўну ў пустой настаўніцкай. Яна сядзела ў кутку і плакала. Людміла як умела супакойвала яе. З той пары Эрна Паўлаўна і палюбіла прыгожую белавалосую дзяўчынку. У яе і навучылася Люда нямецкай мове.

І вось цяпер яны сядзелі поруч на лаўцы на крутым беразе ракі. Удалечыні з-пад вады тырчалі вострыя пікі ледарэзаў, а між іх у вадзе ляжала ўзарваная маставая ферма. Вада там пенілася, бурліла.

— Як я рада, Эрна Паўлаўна, што пабачыла вас. Усе эвакуіраваліся, і нікога знаёмага не засталося,— сапраўды ўзрадаваная сустрэчай, сказала Людміла.

— Я таксама вельмі рада. Цябе хіба не ўзялі на вайну?

— Я нядаўна вярнулася адтуль. Ледзь вярнулася...

— О, вайна, гэта жахліва, Людміла... Я так баялася. Яна перажагнулася, быццам зноў перажывала жахі бамбёжак і артылерыйскага абстрэлу. «А пра фронт не запытала»,— адзначыла Людміла і, стараючыся схаваць халадок непрыязнасці, пачала расказваць пра адступленне, пра свае пакуты.

Эрна Паўлаўна ўсё часцей паўтарала: «Бедная дзевачка, колькі ты перажыла», але сваёй дапамогі не прапаноўвала. Людміла сабралася ісці.

— Мы яшчэ пабачымся,— сказала яна на развітанне.— Я хачу пайсці працаваць у бальніцу. Трэба ж неяк жыць.

— О, Людміла, навошта вам тая бальніца? Я памагу вам. Толькі, разумееце, мне трэба параіцца. У нас строга.

Потым ужо Людміла даведалася, што Эрна Паўлаўна служыць старшай перакладчыцай гестапа. Яна і памагла Людміле трапіць у камісарыят.

Ота Віцінг прыязджаў на работу роўна ў дзевяць. Са

сваёй каморкі Людміла чула, як парыпваюць яго новыя боты, як адчыняюцца і зачыняюцца дзверы кабінета. Праз пяць хвілін у кабінет заходзіў памочнік, малады прыгожы обер-лейтэнант Кругер. Праз паўгадзіны перад камісарам павінна была паявіцца Людміла.

Камісар усміхаўся і заўсёды гаварыў адзін і той жа камплімент:

— Фройляйн Людміла, вы сёння прыгожыя як ніколі.— І ўжо толькі пасля гэтага пачыналася работа.

Часта ў пакойчык да Людмілы заходзіў афіцэр аховы, высокі, белакуры, з сінімі вачамі... Ён садзіўся на мяккае крэсла, закідваў нагу на нагу, вострае калена, абцягнутае чорным сукном, тырчала на ўзроўні твару. За Людмілай цікавалі сінія рамантычныя вочы.

Ён любіў забаўляцца з Людмілінай сумачкай і як бы неспадзявана раскрываў яе, потым прасіў прабачэння. Людміла здагадвалася, што афіцэр сочыць за ёй, баіцца, каб яна не прынесла з сабой міну.

Жыла Людміла ў Васілісы Ягораўны, займала маленькі пакойчык з адным акном на зараслы схіл рова. Па той бок рова, за руінамі канатнай фабрыкі, быў відаць з акна аэрадром. Бамбавозы стаялі ў роўненькай шарэнзе, задраўшы ўгору хвасты.

На аэрадроме працавала суседская дзяўчына Клава. Людміла памятала яе даўганогім дзяўчом. Цяпер Клава нагадвала прыгажуню з паштоўкі, якую афіцэр аховы насіў у кішэні фрэнча.

Сюды, у ціхі пасёлак за ровам, часта прыходзілі лётчыкі. Клава звычайна брала акардэон, іграла вальсы, танга, факстроты. Лётчыкі прасілі сыграць што-небудзь рускае.

Назіраючы за паводзінамі вайскоўцаў, Людміла зрабіла першае адкрыццё: шэрая, аднародная з першага погляду маса салдат і афіцэраў — усё тое, што мела назву фашысты,— стасавалася да старой, чутай у дзяцінстве прымаўкі: бог і лесу не зраўняў. Лётчыкі трымалі сябе незалежна, з нейкай прыгожай ганарлівасцю і рызыкоўнай смеласцю ў выказваннях аб вайне, якія здаваліся Людміле бравадай.

На пасядзелкі зрэдку прыходзіў і афіцэр аховы Эрнст Бахман. Прыносіў бутэльку каньяку ці салодкага, з пахам губной памады допелькумелю. Ён не змаўкаў ні на хвіліну і ні хвіліны не сядзеў на месцы. Лётчыкі, заўважыла Людміла, яхідна пераміргваліся і як бы не заўважалі Бахмана. Яны маўчалі, пілі каньяк і спявалі свае песні,

якіх Бахман, мабыць, не ведаў. Ён толькі прытопваў нагой ды ківаў галавой, аднак не зводзячы вачэй з Людмілы і Клавы.

Людміле карцела спытацца, чаму яны не любяць свайго сабрата па партыі. Цікавасць, вядома, законная, але ці асцярожна паказваць сваю назіральнасць? Людміла рашыла пачакаць, і неўзабаве гаўптман Шпацэль сам запытаўся ў яе:

— Фройляйн, навошта вы запрашаеце гэту тылавую свінню?

— Ён прыходзіць сам, Герхард. Я не магу яму забараніць. Ён нейкім чынам мой начальнік.

— О, тады я зразумеў... Беражыцеся яго, фройляйн, у афіцэраў аховы доўгі нос і сабачы нюх. Яны ўмеюць надзімаць мыльныя бурбалкі.

— А што ён можа зрабіць? Хіба вам будуць непрыемнасці?

Шпацэль паківаў галавой, дзівячыся з яе наіўнасці.

— Фройляйн, вы не ведаеце людзей Гейдрыха. Мы страцілі, фройляйн, на мінулым тыдні восем самалётаў, а за тры дні гэтага тыдня — семнаццаць. Вы разумееце, што гэта азначае. А людзі Гейдрыха лічаць, што толькі яны любяць Германію. Я хацеў бы, фройляйн, паглядзець, як яны трымалі б сябе ў палоне. Вы разумееце, фройляйн, пра што я кажу?..

Людміла разумела, але зрабіла выгляд, быццам дрэнна разбіраецца ў тым, пра што кажа Шпацэль.

Немцы на першы погляд здаваліся бяспечнымі і нават даверлівымі. Але Людмілу не маглі супакоіць ні іх даверлівасць, ні бяспечнасць. Яна раптам зрабіла адкрыццё, што дзесяткі самых разнастайных арганізацый разведкі, службаў бяспекі, паліцыі і агентаў пільна ахоўваюць тайны. Можа, таму звычайныя вайскоўцы і выдаюць бяспечнымі.

Даводзілася напружваць волю, рызыкаваць на кожным кроку, хоць яшчэ Людміла і не прыступала да выканання асноўнай задачы. А што будзе потым?..

## 4

У нізкай, прапахлай цвіллю і макрэчай нішы пад лабараторным корпусам палітэхнікума тулілася чорная густая цемра. Толькі праз маленькае вочка ў акаваных жа-

лезам дзвярах пранікала сюды, ў нішу, цьмянае святло ліхтара. Каршукоў запомніў, калі вялі сюды, што за дзвярыма, у цесным пакоі таксама без вокнаў, стаяла драўлянае крэсла і раскірэка-стол, на якім гарэў ліхтар. У крэсле сядзеў вартавы.

Каршукоў аблюбаваў месца бліжэй да выхаду. Навобмацак адчуў, што тут сушэй. Прысеў.

У дальнім кутку нехта стагнаў і трызніў у сне ці, можа, у гарачцы. Побач шапталіся. У цемры мроіліся страшныя, няўклюдныя цені. Каршукоў паспрабаваў загаварыць з імі. Басавіты голас запытаўся:

— А ты за што сядзіш?

— Сам не ведаю...

— Ну, мы дык ведаем.

Каршукоў, абапёршыся спінай аб мокрую сцяну, драмаў. Думкі блыталіся. Узнікалі галюцынацыі. Часам яны знікалі, тады адчуваў, як баліць цела, быццам яго пераехаў воз.

Недзе далёка-далёка бразнуў засаў, яркі прамень балюча ўдарыў па вачах. «Зноў здаецца»,— падумаў Каршукоў, стараючыся мацней заплюшчыць вочы.

— Каршукоў,— як бы здаля даляцеў чужы крыклівы голас.— Хто Каршукоў?

— Я,— хрыпла адказаў ён, ледзь варочаючы сухім, непаслухмяным языком.

— Выходзь... Шнель, шнель...

Нібы ў памароцы, Каршукоў выйшаў на калідор. Зверху, куды вялі сцёртыя нагамі прыступкі, цадзіўся ўніз халодны струменьчык паветра, ад якога млосна кружылася галава.

Два канваіры павялі яго наверх. Пярэдні штурхануў дзверы — па вачах ударыла сляпучае сонца. Каршукоў заплюшчыў вочы, ступіў некалькі крокаў і, спрабуючы злавіць рукамі апору, грымнуўся на брук.

Ачнуўся ён у машыне. Тыя ж два канваіры сядзелі на доўгай зялёнай лаўцы. Елі намазаны шмальцам хлеб.

Каршукоў абапёрся на рукі, доўга стаяў на карачках, баючыся адарваць рукі ад падлогі. Так і даехаў да месца. Машына рэзка спынілася. Канваіры грукнуліся аб жалезную абшыўку, вылаяліся: «Ах, шайзэ, майн гот!»

Чорны унтэр адчыніў дзверы, скамандаваў:

— Выходзь!.. Шнель, шнель...

Па шырокай лесвіцы яго прывялі ў доўгі змрочны калідор. Загадалі сесці, рукі за спіну. Каршукоў вяла апус-

ціўся на падлогу, марудна падцягнуў вострыя калені да падбародка.

Доўга, аднак, сядзець не далі. Паднялі, увапхнулі ў светлы пакой за абабітыя лямцам дзверы.

Далёка, бы на тым свеце, сядзеў за сталом нейкі чын. Другі прымасціўся на нізкім шырокім падаконніку. Ля яго ног ляжаў чалавек.

Каршукоў сцяўся, баючыся ступіць лішні крок. Чалавек, што ляжаў на падлозе, паварушыўся, паволі падняўся на ногі. На рукавах выразна відаць сляды ад зорак. «Камісар»,— прамільгнула неспакойная думка.

— У апошні раз пытаюся, камісар, згодны ты ці не? — нечакана і недарэчна гучна парушыў мёртвую скаванасць звонкі, вясёлы голас.

Камісар шырока расставіў ногі, крыху нахіліўся наперад, быццам чакаў удару па твары.

— Я ўжо сказаў.

У яго быў ціхі, але цвёрды голас.

— Дарэмна... Хутка мы возьмем Маскву, а цябе ўжо не будзе на свеце.

Камісар нецярпліва варухнуў плячамі.

— Вы яшчэ Беларусь не ўзялі. І не возьмеце. Каб узялі, дык не няньчыліся б са мной. Шлёпнулі б адразу.

— Вывесці! — Нямецкі афіцэр ускочыў з крэсла, падбег да камісара.— Усё! Капут!

— Не палохай! — адмахнуўся камісар і паволі пайшоў да дзвярэй.

Каршукоў спалохана адступіў: губы, нос, вочы — крывавае месіва. Камісар ішоў, як сляпы, намацваў нагамі масніцы. Але Каршукова ён заўважыў.

— Трымайся, таварыш,— пачуў Каршукоў ягоны голас.

— Каршукоў,— гаркнуў немец, але Станіслаў Цітавіч не павярнуўся — не мог адарваць позірку ад камісара, які павольна ішоў за дзверы. Толькі тады, як яны зачыніліся, ён паглядзеў на афіцэраў. Той, што сядзеў за сталом, усміхаўся.

Каршукову здалося, што нехта з іх, ён або афіцэр, страціў розум. Але афіцэр, нібы нічога не адбылося, запрасіў сесці, белай, выпелегаванай рукой пасунуў партсігар.

— Закурвайце, Каршукоў. Напалохаліся? Не варта. Надумаў камісар з сабой пакончыць, і, бачыце, няўдала.

Каршукоў хацеў адмовіцца ад цыгарэты, але падсвя-

домае пачуццё самаахвовы падказала: вазьмі. Нязграбнымі пальцамі дастаў цыгарэту, прыкурыў ад паслужліва паднесенай запальнічкі. У галаве замуціла. Афіцэр, стол, сцяна крутануліся перад вачамі, паплылі.

Яго падтрымаў той, што стаяў побач.

— Што ж вы?..

— З галадухі, відаць,— сказаў Каршукоў.

— Рыхард, пакарміце чалавека.

Той, каго назвалі Рыхардам, выйшаў.

— Чаму ж вы не папрасілі есці? Хіба там вас не кармілі? Ах, якая неразбярыха.

Афіцэр гаварыў без усмешкі, як быццам сур'ёзна, але Каршукоў адчуваў — здзекуецца.

Рыхард вярнуўся з кубкам кавы і маленькай, на адзін зубок, булкай.

Духмяная кава вяртала бадзёрасць. Усё выдавала не так змрочна, як раней. Вельмі хацелася абдурыць гэтых немцаў, як абдурыў каменданта з актамі.

— Смачная кава з ромам? — запытаўся афіцэр, калі Каршукоў паставіў кубак на стол.

— У нас кажуць: смачная кашка, ды малая чашка.

Афіцэр усміхнуўся:

— Усё, пан Каршукоў, залежыць ад вас: і кашка, і чашка, і яшчэ шмат што.

— Рад служыць,— па-вайскова́му адказаў Каршукоў, адчуўшы, што трымае сябе незалежна і гэта падабаецца немцам.

— Вельмі прыемна.— Афіцэр зноў падсунуў цыгарэты.— Але ж вернасць сваю трэба даказаць. Ці не так?

— Справядліва. Толькі, пан афіцэр, калі мяне не еўшы пратрымаюць яшчэ гэтулькі, як трымалі, я хутчэй дакажу, што чалавек не еўшы жыць не можа.

Афіцэр, адкінуўшыся на спінку крэсла, рагатаў, раскрыўшы рот, поўны залатых зубоў.

— Вось гэта зусім іншая размова. Я часта думаю, пан Каршукоў, каму трэба такое геройства, як у камісара? Вайна кончана. Масква ў кальцы. Сталін уцёк у Амерыку. Генералы пераходзяць на наш бок. Памерці, пан Каршукоў, ніколі не позна.

— Святая праўда, пан афіцэр. Жызня ў самы смак уваходзіць, і паміраць аніякага разліку.

— Значыць, будзеце працаваць з намі?

— Дык я і працую.

— Гэта мы ведаем.

Афіцэр доўга глядзеў на Каршукова шэрымі, як сталь, вачамі. Каршукоў вытрымаў позірк. У галаве гулялі вясёлыя думкі: «Старога вераб'я захацеў на мякіне правесці. Падстаўляй вушы, я табе такое наспяваю...»

Афіцэр перасеў на крэсла насупраць Каршукова.

— Пра партызан чулі?

Ад яго ціхіх, праз зубы, слоў у Каршукова забегалі па спіне мурашкі.

— Не, не чуў,— залішне паспешліва адказаў ён і сам адчуў гэтую паспешлівасць.

— Як жа так, пан Каршукоў? Камуніст, ардэнаносец, паважаны ў раёне чалавек і не ведае пра партызан. Хіба вам не давяраюць?

Не было як зразумець, куды цэліць афіцэр. Што ведае пра яго? Страшныя здагадкі перашкаджалі ўважліва слухаць. Здавалася, што вось-вось афіцэр зловіць яго на неасцярожным слове. Стараўся адказваць коратка.

— Святая праўда — не ведаю.

— А падумаўшы...

Каршукоў пайшоў напралом.

— Адкуль жа мне ведаць, пан афіцэр. Спачатку я кароў гнаў у адступленне. Пасля, як вярнуўся дамоў, нідзе не быў. Вёска наша падгародская. Лясоў мала, якія ж тут партызаны.

— Значыць, не давяралі вам, Каршукоў.

— Здаецца, давяралі.

Сказаў і зразумеў, што патрапіў у тон. У афіцэра ўвачавідкі таялі ў вачах халодныя ледзякі. «Значыць, нічога ён не ведае»,— падумаў Каршукоў, і страчаная была вытрымка вярнулася зноў да яго. Спакойна чакаў новых пытанняў.

— Бачыце, Каршукоў, у лясах засталіся рускія салдаты, зведзеныя ў зман камісарамі, і напалоханыя бальшавіцкімі байкамі пра нашы зверствы вялікія і малыя савецкія актывісты. Мы, вядома, маглі б вельмі хутка ачысціць лясы. Але не хочацца лішняга кровапраліцця. Навошта яно, калі вайна закончана. Хай кожны робіць сваю справу: селянін — сее, рабочы — працуе за станком. Як вы лічыце, Каршукоў?

— Лішнія смерці — лішнія слёзы...

— От іменна. Будзем лічыць вашы словы за згоду памагчы нам. Дык вось, Каршукоў, вам трэба пайсці ў лес. Знайдзіце партызан, памажыце нам вярнуць іх дамоў.

Каўнер кашулі балюча ўрэзаўся ў востры кадык, так,

што перахапіла дыханне. Каршукоў расшпіліў яго, выцер рукавом узмакрэлы халодны лоб.

Афіцэр з'едліва ўхмыляўся:

— Чаго ж спалохаўся? Сяброў шкадуеш? Дзівак ты! Пра сябе трэба думаць...

Спрадвечная сялянская хітрасць і на гэты раз выручыла Каршукова. Спадылба пазіраючы на афіцэра, прамармытаў, хутчэй ад страху, як ад цвёрдасці нейкага рашэння:

— А я і думаю пра сябе. З такога задання вельмі проста дамоў не вярнуцца.

Атрымалася натуральна, шчыра. Афіцэр паляпаў па плячы.

— Затое, калі вернешся, мы надзелім цябе зямлёй. Дзесяць гектараў, Каршукоў!..

Станіслаў Цітавіч задумаўся над тым, як быць далей. Афіцэр зразумеў яго задумлівасць па-свойму.

— Мала?

— Ды яно як сказаць — небагата,— выйграючы час, цягнуў ён.

— Добра. Мы аддадзім вам Цішкаўку. О, гэта каласальна! Каршукоў — першы рускі памешчык.

Каршукоў, як бывала, падлічваў прыбыткі, хуценька ўзважыў усе «за» і «супраць». Калі адмовіцца ад прапановы, значыцца, уласнай рукой падпісаць смяротны прысуд. Паміраць не хацелася. Не было ў галаве і таго, каб выдаць сваіх. Хіба ён сволач, здраднік? Няўжо няма іншага ратунку?.. Ёсць!..

— Добра,— як бы неахвотна згадзіўся ён.— От кажаце, мужык няхай сее, а самі ж мяне ад зямлі адрываеце.

І ўздыхнуў, паказваючы, як цяжка яму адарвацца ад зямлі. Афіцэр падсунуў паперку, сказаў:

— Падпішыце. Гэта ваша згода супрацоўнічаць з намі.

Адмаўляцца не было як. Каршукоў распісаўся, знарок не так, як заўсёды, каб пасля, калі што якое, адрачыся ад подпісу.

Яго завялі ў маленькі пакойчык з закратаваным акном на двор. Ля сцяны — тапчан, з чорнай плямай у галавах. У кутку стол.

Грукаючы каванымі ботамі, салдат прынёс рэдзенькі, але наварысты суп, запраўленую шмальцам кашу з кавалачкам каўбасы і дзве лусты хлеба. Скоса пазіраў на Каршукова, не хаваючы сваёй цікаўнасці.

Пасля яды Каршукова размарыў сон. Прылёг на тапчан, думаючы пра тое, дзе і як будзе ўцякаць. Размова з гестапаўцамі, дадзеная ім распіска на супрацоўніцтва яго не бянтэжылі.

Спаў Каршукоў моцным сном. Прачнуўся ноччу. На стале гарэла лямпа, а на крэсле, паклаўшы лысую галаву на стол, спаў чалавек. Нешта знаёмае было ў гэтай пляшывай галаве з рэдзенькімі валасамі.

Каршукоў пастараўся загляпуць у твар і раптам па нейкіх яму аднаму вядомых прыкметах пазнаў. Сухарэўскі! Пакратаў за плячо. Той спалохана ўскочыў.

— Стась! Каршукоў! Я, брацс ты мой, не пазнаў цябе. Спаў ты, шчыра скажу, багатырскім сном.

Пасля першай радасці наступіла няёмкае маўчанне. Каршукоў углядаўся ў знаёмыя рысы, стараўся адгадаць, чаму ён тут. Мусіць, па той жа прычыне, што і ён, Каршукоў?

— От дзе сустрэліся,— гаварыў Сухарэўскі, калі абодва селі поплеч на тапчане.— Ах, Каршукоў, Каршукоў, няўжо так, па-дурному загінем? Ты як сюды трапіў?

— Здагадваюся, што так, як і ты.

— Білі?

— Не, абышлося.

— А мяне, сволачы, білі. Во, глядзі,— Сухарэўскі працягнуў рукі з чорнымі, накіпелымі крывёй пазногцямі.

Каршукоў абняў Сухарэўскага за плечы. Той паморшчыўся, не хаваючы лютага болю.

— Асцярожней, Станіслаў Цітавіч, там у мяне да касці спіна рассечана. Свінцовай нагайкай палаануў.

Каршукоў адчуваў няёмкасць і сорам перад гэтым моцным чалавекам, што вытрымаў усе пакуты. Ён, Каршукоў, здрэйфіў.

— Што ты думаеш рабіць, Васіль Васільевіч?

— Далі падумаць ноч, а там выбірай што хочаш: або смерць, або здраду. Трэцяга няма,— узгарэўся, як порах.— Каб я, чырвоны камандзір, здрадзіў! Мне савецкая ўлада дарогу адкрыла, дык як я яе прадаваць стану.

— Не крычы ты,— параіў Каршукоў.

— Тут закрычыш!.. Тут ваўком завыеш!.. Ты скажы, Каршукоў, што рабіць? Яны мне распіску падсоўваюць. На прыкол узяць хочуць. А я што — дурань? Зімой нашы прыйдуць, распіску знойдуць, і загудзе Сухарэўскі ў Сібір.

— Так ужо і ў Сібір,— усумніўся Каршукоў.

— А ты думаў. Ды ты пачакай, ці не здаўся? Падпісваў што-небудзь?.. Што твая дурная башка думала?

— Тады думала,— азваўся Каршукоў.— Сібір'ю звычайна вярбоўшчыкі палохаюць, а на справе ўсё іначай. Хто сам прызнаецца, таму даруюць. Абы благое не рабіў...

— Ну і дурань, наіўны дурань,— здзівіўся Сухарэўскі.— Ты як з месяца зваліўся. Пачакай, пачакай. Я крыху больш ведаю. Да вайны ўсіх трацкістаў, бухарынцаў, рыкаўцаў-брыкаўцаў, нават калі яны сто разоў сваіх поглядаў выракаліся, НКВД перабрала і ў краі паўночныя выслала. Чаму? Бо за кожным сачыць трэба. Чорт яго ведае, калі ён хлусіў. От так і з тымі, хто распіску даў. А можа, ты знарок явіўся ў НКВД, каб ніякага падазрэння не было, а сам будзеш шпіянажам займацца?

Станіслаў Цітавіч, апусціўшы галаву, панура маўчаў. І праўда, выходзіць, кругом дурань дурнем. Задумаў немцаў абхітрыць. Рубануў бы, як камісар, і крышка. Дык каву піў! Вось і выходзіць бокам кава. Не позна і цяпер адмовіцца, але распіску не вернеш. Застаецца адзін і той жа ў гарачцы прыдуманы шлях — вырвацца адсюль. А там што будзе...

— Чаго замаркоціўся, галава садовая? — адарваў ад панурых думак Сухарэўскі.

— Я так думаю, Васіль, Сібір дык Сібір. А пакуль ёсць нагода ад смерці ўцячы — адмахвацца не варта. Я свой подпіс нямецкай крывёю змыю. А тады прыйду і скажу: «Вось я, Каршукоў, бярыце мяне, таварышы, вінаваты. Падпіску даў, немца-сволач абдурыў, каб ваяваць з ім».

У жаўтаватых вачах Сухарэўскага бліснулі чырвоныя агеньчыкі. Старшы лейтэнант паёрзаў на тапчане, абхапіў галаву рукамі.

— Як жа ты ўцячэш? Думаеш, немцы дурні?..

— Уцячы заўсёды можна. Ты вось не раздумвай. Раз яны ўзяліся за партызан, дык здраднікаў знойдуць. А мы з табой папярэдзім людзей — раз, свой атрад створым — два, немцаў будзем біць — тры.

Сухарэўскі надоўга задумаўся. Сагнуўшыся ў тры пагібелі, разглядаў наскі ботаў.

— Эх, Стась, няўжо ты такі наіўны? Хіба нам паверадь? Каб у цябе знаёмыя падпольшчыкі былі, дык іншая справа.

— Тут справы горш.— Каршукоў падумаў, падумаў: вырашыў прызнацца.

Былі для гэтага ў яго ўсе падставы. У трыццаць сёмым годзе, калі Сухарэўскага выпусцілі з турмы, патрымаўшы там не больш як тыдні два, Каршукова сустрэў капітан Красін. Ён тады і намякнуў Станіславу Цітавічу, што Сухарэўскі не так сабе быў забраны і нічога няма дзіўнага, калі яго так хутка выпусцілі. Затое вунь якая хеўра ў іх палку выкрыта.

Успамінаючы той выпадак і цяперашнія паводзіны Сухарэўскага, які так шчыра лаяў яго за здраду, Каршукоў вырашыў расказаць пра сваю прыналежнасць да падпольнай пяцёркі.

— Я, Васіль Васільевіч, быў у падпольную пяцёрку ўваходзіў. Ды атрымалася так, што страціў усякія сувязі. Мяне на інструктаж павінны былі выклікаць. Чакаю — ні гуку. А тут з райза прыбягае ўпаўнаважаны і патрабуе жывёлу гнаць у тыл. Я і так, я і гэтак. Не скажаш жа чалавеку праўду. А ён настырны такі — пісталетам махае. Плюнуў я на ўсё і пагнаў. Калі ўжо дома быў, дайшлі чуткі, што старшы пяцёркі, Галай, старшыня выканкома, у Жыжане загінуў. Трое недзе засталіся. Толькі дзе іх знойдзеш?

— Няўжо ніякіх явак, пароляў?

— У тым і справа. Усё чакаў, думаў — прыйдуць. А іх няма.

— Гэта дрэнна. Дзе мы партызан знойдзем?

— Дзівак. Немцы падкажуць.

— Не ведаеш, можа, яшчэ пяцёркі ёсць?

— Пра гэта мне не казалі. Думаю, ёсць...

— Рашыў, значыць? Цвёрда?

— Цвёрда! І табе раю. Згаджайся. Удвух весялей будзе... Ды ты што? Ці не спалохаўся?

— Не, Стась, я не гэтага баюся.

Каршукоў уважліва прыглядаўся да Сухарэўскага.

— Што ты на мяне так глядзіш? — нібы спалохаўся той.— Усё гэта авантура. А мне яны надакучылі. Зразумеў?..

5

Ён апрытомнеў на золаку. Знячуленае пасля пабояў цела як чужое. Праз невялікае акенца, аднекуль зверху, цадзілася мутнае світанне. Хацелася піць. Каршукоў паспрабаваў падняцца. Нясцерпны боль аглушаў, вырваў хрыплы стогн.

— Баліць, таварыш?..

Нехта пагнуўся пад ім, памог стаць на ногі. Каршукоў падняў руку да твару. Пальцы намацалі празмерна тоўстыя вусны і расплылы, звернуты набок нос.

— Здорава вас...

— Вады,— захрыпеў ён. Нутро гарэла.

— Зараз, таварыш. Ды вы прысядзьце, вось тут.

Каршукоў сеў. Чалавек прынёс цяжкую конаўку з цёплай смярдзючай вадой. Вада не прагнала смагу. Хацелася спаць.

— Дзе я?

— Не хвалюйцеся, таварыш...

Яго абступілі нейкія людзі. Ён бачыў іх, як праз сіта, і яны здаваліся яму ценямі. Павекі закрыліся самі, і Каршукоў зноў заснуў.

Прачнуўся ён ад гулкага вуркатання матора і гоману ў камеры. У акно прабівалася сонца. На гэты раз, падбадзёраны сном, ён устаў без вялікіх намаганняў.

Два чалавекі, падставіўшы нейкую скрыню і ўчапіўшыся рукамі за краты, глядзелі на двор. Астатнія чамусьці абдымаліся. Твары былі засяроджаныя, суровыя.

— Пяць...— сказалі ад акна.

— Мнагавата.

— Нічога, бог не выдасць — немец не з'есць.

Каршукоў стаяў асобна. Адзін. Дзе ён? Што з ім? Усё здавалася нерэальным.

— Ідуць! — Тыя двое саскочылі са скрыні.

У камеру хлынула больш святла. Твары ў людзей жоўтыя, з сінімі крывавымі плямамі. Зняволеныя стаялі ля сцяны, нечага чакалі.

Доўга і гучна грымелі завалы. Дзверы цяжка адчыніліся. Двое салдат зайшлі ў камеру, наставілі аўтаматы. Між іх праціснуўся нізкі рыжаваты афіцэр. Выцяг з-за абшлага шыняля паперу. Перакручваючы на нямецкі лад прозвішчы, выклікаў зняволеных.

Той, каго выклікалі, адрываўся ад сцяны, ішоў праз камеру, у дзвярах азіраўся і знікаў у калідоры. Калі набіралася пяцёра, афіцэр змаўкаў, потым зноў пачынаў выгукваць людзей.

— Каршукоў...

Станіслаў Цітавіч страпянуўся, зрабіў крок наперад і зноў стаў.

— Шнель, Каршукоў...

Нехта падышоў ззаду, паціснуў руку і злёгку падштурхнуў у спіну.

Каршукоў пайшоў, нічога не разумеючы, не заўважаючы дарогі. Наперадзе яго бег афіцэр. Ззаду тупалі салдаты. Каршукова вялі апошняга.

У доўгім адкрытым кузаве з высокімі бартамі сядзелі людзі. Нехта падаў руку, і Каршукоў узабраўся на машыну.

Сядзець было цесна, нязручна. Пяцёра салдат стаялі ля бартоў, аўтаматы напагатове. Афіцэр сеў у кабіну. Машына з месца ўзяла разгон. Нехта крыкнуў:

— Бывайце, браточкі!

— Маўчаць! — агрызнуўся шыракатвары немец.

Толькі цяпер Каршукоў зразумеў, што іх вязуць на расстрэл. Ні страху, ні жалю, нават прыкрасці не было. Хутчэй бы канец усяму...

На сіне-сінім небе з наміткамі бурых хмар па краях свяціла сонца, па-асенняму скупое і халоднае. З агародаў далятаў пах націння і кропу. Каршукоў глядзеў на мёртвы горад, на абгарэлыя чорныя коміны абыякавымі, безуважнымі вачамі. Толькі тады, як машына выбегла на ўзгорак перад Дзюндзеўскім полем, ён падумаў, што іх расстраляюць у Іллаўскім рове, куды вязуць іх па знаёмай Каршукову з дзяцінства дарозе. Колькі разоў ён ездзіў па ёй на парады, вазіў нарыхтоўкі... Думкі былі абыякавыя і спакойныя.

Машына імчала хутка. Толькі тады, калі звярнула з дарогі, яна прыцішыла ход. Поле было няроўнае. Кузаў трэсла, як у ліхаманцы. Нават канваіры трымаліся ўжо не за аўтаматы, а за барты.

Каршукоў бачыў выносістыя елкі над ровам, па той бок дарогі, і арэхавыя хмызнякі. «Арэхаў сёлета процьма»,— падумаў ён і раптам убачыў, як шыракатвары немец, махнуўшы рукамі, вылецеў з кузава. Нехта сігануў цераз Каршукова, выкуліўся за борт. Над самым вухам чыркнуў і змоўк аўтамат.

Звярыны інстынкт самааховы падхапіў Каршукова. Ён твар да твару сустрэўся з хлопцам, што трымаў немца-канваіра за рукі, не даючы яму стрэліць. Каршукоў выцяў канваіра і, не разбіраючы куды, скочыў, упаў і тут жа падхапіўся. Адчуваў толькі адно жаданне — хутчэй дабегчы да рова. Хтосьці абагнаў яго. Каршукоў задыхаўся. Буйныя гарачыя слёзы засцілі вочы. Збоку і наперадзе ён убачыў фантанчыкі пылу, але не мог зразумець, што

страляюць па ім. Бег і бег. Потым упаў, пакаціўся ўніз. Зноў падняўся, пабег між кустоў. Неяк ускараскаўся на гару, хацеў адпачыць. Але трэба было бегчы і бегчы далей ад гэтага страшнага месца. Страх зноў гнаў яго.

## 6

Пасля бою на Кацярынінскім шляху баталаўцы закружылі па беларускіх ды смаленскіх лясах у радыусе кіламетраў пяцьдзесят. Ноччу наведваліся ў якую-небудзь вёску, запасаліся харчамі, высвятлялі абстаноўку ў блізкіх вёсках, адыходзілі кіламетраў за пятнаццаць — дваццаць, зашываліся ў гушчар пад сховы часовых буданоў. Днём палявалі на паліцэйскіх і немцаў, праседжваючы ў засадах да вечара. Нападалі звычайна не больш як на трох акупантаў ці іх паслугачоў-паліцаяў. Загад быў бязлітасна жорсткі: палонных не браць, трупы хаваць, каб не пакідаць лішніх слядоў і не выклікаць карных аперацый супраць насельніцтва.

Большасць засад пакуль прайшлі без сутычак. І ў той дзень баталаўцам пашанцавала.

На прасёлачнай глухаватай дарозе яны застрэлілі матацыкліста. Палявую сумку, аўтамат, цяжкі інкруставаны парабелум, бліскучую плашч-палатку, гарнітур і навенькія боты, а таксама матацыкл забралі з сабой. Матацыкліста адцягнулі ў хмызнякі: хай фашысты пашукаюць. Ашчадны Цімохін хацеў быў сцягнуць ніжнюю бялізну з тонкага віскознага шоўку, але на яго закрычаў Дзячкоў:

— Ты, стары пень, яшчэ хваробу якую падхопіш.

Стрыманы гаспадарлівы Цімохін адказаў на гэта:

— Думаеш, я яе так адразу і нацягну. Памокне ў вадзе дзён тры — усякая хворасць адстане.— І пасля яшчэ доўга шкадаваў: — Такая бялізна прапала. Дарма я вас паслухаўся.

У афіцэрскай сумцы аказаліся карты, штук пяць чыстых блакнотаў і засургучаваны мноствам пячатак пакет. Пакет распячаталі найперш, але прачытаць не змаглі. З дзесяці слоў Баталаў добра калі ведаў адно.

У кішэнях ляжалі дакументы па імя обер-лейтэнанта Герхарда Опеля, некалькі фатаграфій, калода паштовак і маленькая чорная труна. На фатаграфіях сам Герхард Опель з мілай пышнавалосай дзяўчынай. Зноў Герхард Опель, але ўжо з пажылымі жанчынай і мужчынам. Мабыць, маці і бацька. І яшчэ адна — Герхард Опель на фо-

не выпаленай сонцам пустыні. На заднім плане пясчаныя курганы і адзінокі вярблюд з чалавекам між двух гарбоў.

— Скажы на міласць,— дзівіўся Цімохін,— дзе гэта ён так здымаўся? Хіба ў іхняй Германіі разводзяць вярблюдаў?

— У Афрыцы быў,— адказаў Баталаў.

— Глядзі, у Афрыцы! — Цімохін яшчэ раз узяў у рукі фотакартку, быццам хацеў упэўніцца, што Баталаў кажа праўду.— І да Афрыкі дапёр. Значыць, сілу мае...

— Сілу! — агрызнуўся Шпарцюк.— Якая там сіла, калі яго аж з Афрыкі сюды пераганалі. Значыць, хвост ім пад Масквой прышчамілі, калі сюды пасылаюць...

— Паглядзіце, што ў яго было,— перарваў сур'ёзную размову Саханчук.

Тасуючы як карты, таўставатую калоду паштовак, Саханчук рагатаў, заходзіўся ад смеху. Усе кінуліся да яго, разглядалі элегантных вусаценькіх мужчын і прыгожых дзяўчат у такіх позах, ад якіх толькі краткалі салдаты.

— Выкіньце іх,— загадаў Баталаў.— Брыдка.

— Чаго там, няхай глядзяць,— запратэставаў Шпарцюк.— Няхай на вус матаюць, якую культуру немец нясе. Гэта ж дадумацца толькі: у адной кішэні фатаграфія нявесты, а ў другой паўсотні сцерваў.

Баталаў паштоўкі адабраў, аднак не вельмі быў упэўнены, што ўсе.

Маленькая чорная дамавінка доўга заставалася загадкай. Меркавалі і так і гэтак. Думалі, што гэта тайны фашысцкі знак, а можа, проста цацка. Здатны да ўсякай тэхнікі Грышын доўга калупаў нажом дамавінку, пакуль не адскочыла вечка. У дамавіне ляжаў ружовы металічны пябожчык. У непрыстойным месцы адразу ж загарэўся сiняватым полымем кнот.

Вось табе і афіцэрская культура!

Туманная, пахмурая раніца пераходзіла ў скупаваты на цеплыню асенні дзень. Сіне-чорныя рваныя хмары распаўзаліся па небе, як авечы статак па полі. З-за хмар выплывала на блакітную дарогу велічна прыгожае сонца. Пад яго промнямі іскрыўся памаладзелы лес.

Партызаны адпачывалі на выспе сярод балота, грэліся на сонцы, бавілі час у пустых размовах. Ад няма чаго рабіць Шпарцюк надзеў лейтэнанцкі гарнітур — у самы раз, быццам на яго шыты. Хадзіў па паляне, выгукваў «капут Гітлер».

— Цімохін,— паклікаў Шпарцюк Пятра,— ёсць ідэя.

Апу і ты апраніся немцам. Табе, здаецца, падыдзе той шынель, што на шашы ўзялі.

Цімохін нырнуў у будан. Вылез адтуль, выпукляючы грудзі і страшна вырачыўшы шэрыя добрыя вочы.

— Хайль! — узняў над галавой руку ў фашысцкім вітанні.

Валенда павярнуўся са спіны на бок, паморшчыўся:

— Нечага тут хайліць. Мне гэтая хайля вось тут, у пячонках, сядзіць.

Партызаны рагаталі з Цімохіна: «От, чорт стары, скажы, выліты немец!»

— Давай, стары, з'ездзім у вёску,— сказаў Шпарцюк.

Цімохін адразу ж згадзіўся. Іх зухаватасць не падабалася Баталаву, але і сам ён часам бунтаваў супроць ненавіснага туляння ў лесе. Хацелася разгарнуцца, прайсціся на віду ў людзей, каб зналі, што ёсць на свеце такія, якім сам чорт не страшны. Таму адгаворваў Шпарцюка вяла, без вялікага энтузіязму і напаследак здаўся.

— Асцярожней толькі! — сказаў наўздагон.

Шпарцюк з Цімохіным паехалі. Тыя, што засталіся на выспе, чакалі іх з нецярплівым хваляваннем.

Сляпуча яркае сонца зноў захуталася ў хмары, і ясны дзень адразу змяніўся шэрымі непрыветлівымі прыцемкамі. Нудна і аднастайна шумелі вяршаліны елак, навяваючы трывогу і сум. Баталаў аж зелянеў ад злосці: «Хай Шпарцюк... Малады, на авантуры цягне, а Цімохін чаго ўз'юрыўся?.. І я добранькі. Калі вернуцца жывыя — не пушчу больш».

Ён хадзіў ад будана да тоўстай, прысадзістай елкі, выбіваў нецярплівымі нагамі сцежку. Валенда падбухторваў:

— Мая справа, таварыш капітан, пятая. Але не магу змаўчаць. Палучаецца ў нас анархізма, як у вароўскай маліне. Каму куды ўздумалася — пайшоў. Я, таварыш капітан, з лічнасці сваёй раскажу вам адзін выпадак. Быў у мяне ўчастковы адзін, грамацей і ўсё такое прочае, а дзісціпліны ні ў зуб нагой. Прыбег неяк да мяне, сапе на ўсе грудзі. «На маліну, кажа, натрапіў».— «Ну і што?» — пытаюся ў яго. «Дазвольце ўзяць». А ў мяне ніякіх указанняў. Натуральна, я яму забараняю. Кажу: «Будзе аблава, тады дзейнічай». Не паслухаў. Самаўпраўна, значыць, папёрся. Ну, бандзюкі яго і сцапалі. Да такой нагласці дайшлі, што выкуп за яго просяць. Во сітуацыя была. Так і тут. Захопяць немцы Шпарцюка, а ён нас, каб сваю шкуру ўратаваць, выдасць...

— Ты пра каго гэта? Яшчэ адно падазрэнне, і я цябе з атрада да чортавай матары пашлю,— сарваў на Валендзе ўсю сваю злосць Баталаў.

Гучнае лапатанне матацыкла разагнала накопленую за гадзіны чакання ярасць. «Чорт з імі, добра, што вярнуліся»,— адразу ж дараваў Шпарцюку і Цімохіну падабрэлы Баталаў.

Шпарцюк і Цімохін прыкацілі ў лес героямі. На каленях у Пятра кошык яек, у кішэні кавалак сала. Вялізны бохан хлеба, загорнуты ў белую анучу, прывязаны да руля.

Баталаў ківаў галавой:

— Пад выглядам немцаў рабавалі?

Шпарцюк выцягнуў з кішэняў афіцэрскага плашча дзве чорныя ёмістыя пляшкі і абыякава падаў Устыму Варыводзе:

— Стаў іх на стол у самы цэнтр. Святкаваць будзем.— І толькі пасля гэтага запытаўся ў Баталава: — Думаеш, немцам такое зелле далі б? Хрэну. Нам, партызанам, падарунак.

Валенда асцярожненька напомніў:

— Можа, атручанае? Дарэмна пра партызан прызналіся.

— Ідзі ты, Валенда... Баішся — не пі. Мы там ледзьве людзей сабралі. Убачылі немцаў ды як сіганулі ў лес.— І крута перамяніў гаворку: — А дзеўкі там!.. Хлопцы! Ух, дзеўкі! Заўтра самі пабачыце. Душу чорту закладзеш, каб такая дзеўка абняла.

Баталаў пацягнуў носам паветра. Ад Шпарцюка несла самагонкай.

— Нешта вы такое нарабілі, што без паўлітра не разбярэш,— пачаў Баталаў.

— Дык жа прывезлі. Пайшлі, а то вунь у хлопцаў сліна цячэ.

Баталаў, ды і астатнія гарэлі нецярплівасцю. Але Шпарцюк з Цімохіным цягнулі знарок, перакідваліся толькі ім зразумелымі намёкамі.

— Не травіце вы душы,— папрасіў Баталаў.

— Ага, узяло. Ну, дык слухайце. Вёрст восем адсюль ёсць вёска. А ў ёй, як да вайны, ціха, мірна. Назаўтра запрашалі ў госці. Ты, Саша, скажы, які сёння дзень?

Баталаў і сапраўды не ведаў — у лесе лічыць дні было лішнім заняткам, як і многае з таго, што было да вайны.

— Пятніца, харошы мой, пятніца.— П'янаваты і таму

крыху чуллівы, Шпарцюк абняў Баталава за плечы.— А заўтра субота. У вёсцы лазні паляць. Парацца, а потым гарэлку п'юць. Божа мой, сто гадоў не мыўся! Ці ведаеш, Саша, якое гэта шчасце памыцца ў лазні? А мы, дурні, да вайны не цанілі. Давядзецца ў лазню ісці — жах. Цяпер бы я кожны дзень хадзіў. Ды і што мы цанілі да вайны. Эх, Саша, паглядзеў я сёння на падушкі. Ляжаць пад самую столь пуховыя, мяккія, у белых як снег навалачках з карункамі. І так пацягнула мяне прылегчы, што млосна стала. А ў ваенным вучылішчы мы гэтымі падушкамі кідаліся. Бывала, як пачнём, дык толькі пер'е ляціць. А яе, падушку гэтую, на выцягнутых руках насіць трэба, нямытай мордай грэх дакрануцца.

— Гэта праўда, таварыш лейтэнант,— падтрымаў яго Цімохін,— не бераглі рэчы. А яны, як жывыя, пасля пра сябе напамінаюць. У маёй маці быў камод. Палавіну хаты займаў. Маці ўсё збіралася яго выкінуць. Агоркнуў ён усім, павярнуцца няма дзе. А калі пагарэлі мы, дык бацькі больш за ўсё камод той шкадавалі.

Ахмялелыя хлопцы слухалі няўважліва. Рознагалосы шумок глушыў павольную плынь гаворкі. Было тлумна, сыра, але хораша як ніколі.

Назаўтра пайшлі ў вёску, тоячы ў грудзях агідненькі халадок страху. Валенда праклінаў сябе, што паддаўся спакусе. І заставацца аднаму ў лесе было рызыкоўна.

Вёска, дзевяць раскіданых хат,— у лесе. Стромкія бронзавыя сосны стаялі на агародах і нават пасярод вуліцы. Глыбей у лесе курыліся лазні, і сіняваты дымок слаўся між ствалоў, не маючы моцы вырвацца з-пад густых шатаў.

Баталаўцы пастаялі ў аблезлых мокрых хмызняках, стараючыся заўважыць, ці не хаваецца за цішынёй якая правакацыя. Іх, мабыць, заўважылі хлапчукі — спачатку сыпанулі, як вераб'і, з плота, потым паявіліся зноў, але ўжо не адны.

— Пайшлі,— сказаў Шпарцюк, рассоўваючы рукамі слізкае голле.

Рэдкі ланцужок людзей цягнуўся за ім ззаду. Баталаў нагнаў Сяргея, прыстроіўся ў нагу, глядзеў, як выбягаюць з хат бабы, баязліва хаваюцца за мужчын.

— У госці да вас. Прымеце? — запытаўся Баталаў, спыніўшыся перад натоўпам.

— Міласці просім,— адказаў за ўсіх сухенькі дзядок.

Падцягнуліся хлопцы, сталі паўкругам, няёмка адчу-

ваючы сябе пад цікаўнымі позіркамі незнаёмых людзей. Шпарцюк шукаў вачамі ўчарашняга дзядзьку, што частаваў гарэлкай, і не знаходзіў. Маўчанне зацягвалася.

— У нагах праўды няма,— зухавата сказаў дзядок.— Разбірай, бабы, мужыкоў, калі такое шчасце прываліла. Бабы загаманілі, нязлосна лаючы дзядка:

— Сваёй Парасцы завядзі!..

— Яму ўсюды нос сунуць трэба.

— Чым ён накорміць, калі сам пабіраецца.

— А-ту, няхай золата дастане.

Мажная чырванашчокая цётка з падаткнутым падолам адапхнула дзядка ўбок:

— Ну, хто смелы — дваіх бяру.

Падштурхваючы адзін аднаго, хлопцы пераміргваліся, але храбры не паяўляўся.

— Пойдзем, Васька,— прапанаваў Цімохін Дзячкову.

— Анютка,— паклікала жанчына і, калі наперад выйшла маладзенькая дзяўчына, сказала: — Вядзі хлопцаў у хату.

— Ты ж, Цімохін, далажы, як і што,— крыкнуў наўздагон Баталаў.

Дзядок адразу пачаў супакойваць:

— У нас ціха. Надоечы гэтак жа, як і вы, за хронт драпалі, дык два дні гасцявалі.

— А мы, дзед, не драпаем. Мы вас абараняць прыйшлі,— адказаў Баталаў і заўважыў, як па радах прабег лёгкі шолах.

— Хто ж вы, к прымерачы, будзеце? Нам гэтае дужа анцірэсна ведаць.

— Мы, дзед, партызаны.

— Парцізаны, значыць. Дзед мой у хранцузькую вайну таксама парцізанам быў. Іх тады многа па тутэйшых лясах блудзіла.

— Авой, ён вам нагаворыць.

— Адстань ты, Пракоп, ад людзей. Яй-богу, адзяцініўся са сваімі хранцузамі.

— Хадземце, таварышы, яго век не праслухаеш.

Баталаў не паспеў апамятацца, як яго і Шпарцюка завялі ў хату.

Маладая пышная дзяўчына прашмыгнула на другую палавіну хаты, азірнулася на парозе, стрэліўшы па камандзірах цікаўнымі вачамі.

— Раздзявайцеся, мальцы,— гаварыў гаспадар, першы

знімаючы суконную шэрую бекешу.— Спачатку павячэраем...

— Нам бы ў лазеньцы памыцца...

— Гэта як знаеце. Галка, ты чаго схавалася там, не з'ядуць цябе. Збегай у лазню, чаго там маці корпаецца?

Сарамліва хаваючы вочы, дзяўчына паздароўкалася, падала руку:

— Галя.

— Сяргей.

— Аляксандр, Саша,— чамусьці чырванеючы за сваё нязручнае імя, сказаў Баталаў і моцна паціснуў руку.

— Адкуль жа вы будзеце? — запытаў гаспадар, калі Галя выбегла.

— З розных краёў,— неахвотна адказаў Баталаў.

Шпарцюк яго не падтрымаў.

— Я — дзетдомавец. Маці маю басмачы, мусульманскія бандыты, забілі на граніцы. Бацьку яшчэ раней на кітайскай граніцы тыгр заеў. Чуў я ад маці, што мой бацька з Пінска, але сам я ў гэтым горадзе толькі перад вайной пабываў. Цікава было паглядзець на тое месца, дзе некалі бацька жыў. Нішто сабе гарадок.

— Хто ж твае бацькі, што па свеце ездзілі?

— Тата ў нейкім земстве служыў. Бальшавіцкім камітэтам кіраваў. А маці сястрой рабіла, у іхнім родзе ўсе па медыцыне ішлі. Дзед мой, кажуць, славуты па тым часе ваенны ўрач.

Чужы, праз сэрца прапушчаны ўспамін аб родных навяваў Баталаву самотныя думкі аб уласным доме. Дабрачынную цішыню іх утульнай кватэры, мірныя вечары, калі бацька вяртаўся з тэатра з чорнай скрыначкай пад пахай, зялёнае святло вялікай, з амурамі лямпы — усё ўспомнілася Баталаву адразу, выклікаючы вострыя боль. У далёкай лясной хаце адчуваў сябе назаўсёды адарваным ад роднага дому, з якога пайшоў наперакор бацькам у ваеннае вучылішча.

Колькі тады праліла слёз маці! Калі прыязджаў у першы свой водпуск, убачыў, як яна пасівела. Мітусілася па кватэры той дагодлівай, непатрэбнай мітуснёй, якая бывае ў мацярок, што бясконца любяць адзінага сына.

Бацька таксама згорбіўся, выціраў, забыўшыся на хустачку, далоняй слёзы, чаго з ім ніколі раней не было. І яшчэ адно заўважыў у той прыезд Саша: бацькі з падкрэсленай уважлівасцю глядзелі адно за адным, як асірацелыя дзеці.

Ласкавая, харошая мама, даруй, што так позна адчуў твае трывогі, так позна ацаніў любоў! Калі вярнуся дамоў, ніколі не забудуся на гэтыя думкі, праз усё жыццё пранясу любоў да цябе.

З панадворка прыбегла Галя. Скінула ля парога разбэрсаныя чаравікі. Сарамліва ўсміхнулася, закрыла твар рукой.

«Чаго яна? — Баталаў азірнуўся. Убачыў, як падміргвае Шпарцюк дзяўчыне, падумаў: — Сяргею жыць проста. Можа, так і трэба...»

Прыйшла гаспадыня, маладжавая яшчэ. Віталася за руку, па-мужчынску, моцна і шчыра.

— Сабірайцеся хутчэй, а то мы, бабы, абцямнеем. Я дык нічога не знала, пакуль Галька не прыбегла.

...Распараныя, знямажаныя ад духаты і непрывычна доўгага парання, Баталаў са Шпарцюком сядзелі на покуце пад бела-белымі ручнікамі, што звешваліся з абразоў. Гаспадар наліваў у шклянкі чысты, як сляза, першачок, падымаў перад тварам:

— За ваша здароўе, таварышы,— і, кракнуўшы, як качар, выпіваў да дна.

У хату, мабыць, пачуўшы, што тут спыніліся камандзіры, набілася народу. Адных гаспадар садзіў за стол, другіх не запрашаў. Прыйшла вастравокая рухавая маладзічка, кінула ад парога:

— Хлеб ды соль...

— Міласці просім з намі.

Маладзічка прысела бачком на табурэтку, бліснуўшы зеленаватымі вачамі, сказала:

— Табе, Кузьма Піліпавіч, як усягды, шанцуе. А мне бог пастаяльца паслаў, хоць стой, хоць ляж, не доймеш. Як істукан сядзіць на лаве і ў акно цікуе. Кажу: у лазню, можа, сходзіце? — маўчыць. Можа, сырадою вып'еце? — маўчыць. Адно прыліп да акна, не аддзярэш. Нямы ён у вас ці, можа, баб баіцца. Дык у мяне ж свой на фронце.

«Валенда»,— здагадаўся Баталаў, а ўслых сказаў:

— Вы яго сюды вядзіце, а то ён у нас хлопец сарамлівы. Яго гэтая сарамлівасць да таго давяла, што дасюль халасцяком ходзіць. Скажыце, што я клічу.

Маладзічку як вымела з хаты. Неўзабаве на парозе філёнчатых дзвярэй паявіўся Валенда, хмуры, як асенні вечар. Моўчкі распрануўся, прысеў на табурэтку, кідаючы спадылба непрыветлівыя позіркі. Піў панура, нібы змываў аселую на душы муць.

Мужчыны смялелі. Найбольш гаварыў адзін, шчуплаваты, нізкі дзед з украдлівым голасам і хітрымі вочкамі-прыгунамі.

— Скажы, камандзір, якой нам лініі далей трымацца? — Ён азірнуўся, шукаючы падтрымкі, знайшоў яе і пачаў далей: — Месяцы два пасля прыходу немцаў мы калгасам жылі. Уласці ніякай — і ўказанняў, значыць, няма. Прыязджаў нейкі чын з управы ды хуценька назад: лес у нас. Пажылі мы калгасам і разышліся. Бо во якая канфігурацыя палучылася. Да мяне, скажам, дзве дачкі з горада вярнуліся. Натуральна, працадзён у іх мала, а есці трэба. Рабочы клас зноў жа не вінаваты. От пагаварылі мы і парашылі дзяліць хлеб на душы, а бульбу на двор. Ну, а цяпер якое ўказанне будзе? Ці нам зноў усё абагульняць, ці так жызню дажываць?

Калі ішлі ў вёску, Баталаў не задумваўся, што такія пытанні могуць узнікнуць. Ён салдат, а не палітык. Сказаў, каб ухіліцца прамога адказу:

— На гэта вам хай таварыш адкажа,— і паказаў на Валенду.

Той на імгненне адарваў ад стала асавелыя вочы, рашуча секануў з пляча:

— Той, хто калгасы бурыць,— апошняя сволач і контра. Ясна? І за ўсё перад савецкай уладай адкажа, калі Чырвоная Армія вернецца.

— Значыць, ясна,— падагуліў чалавек з хітраватымі вочкамі.— А мы, грэшным дзелам, па-свойму ўсё павярнулі. От, скажам, хлеб. Раздалі яго, і кожны прыхаваў, што ніякі чорт не знойдзе. А калі б хлеб у свірне ляжаў? Прыедуць немцы — бяры. Думалі, як лепш зрабіць, а выходзіць, проціву ўласці пайшлі.

— І правільна зрабілі,— ціха, але ўпэўнена сказаў Баталаў.— Наш таварыш не разабраўся.

Валенда натапырыўся. На пераносіцы — пучок глыбокіх дробных маршчынак, тонкія вусны скрывіліся. «Палітыкі. На ўхаб махнула»,— падумаў словамі Прусавай, але змоўчаў.

— Цяпер яшчэ адно дзела,— шчуплаваты чалавек ужо звяртаўся да Баталава, адчуваючы ў ім старэйшага начальніка.— Будуць пасля вайны перамены якія ці ўсё па-старому пойдзе?

Валенда насцярожыўся. Адлажыў убок відэлец і Шпарцюк. Стары яму не падабаўся. Лезе са сваімі пытаннямі. Цяпер вайна — і галоўнае не вось гэтыя дробныя клопаты,

а тое, як немца біць. Прыцісنуць цябе — забудзеш пра перамены!

— Пра якія вы, дзед, перамены? — спакойна запытаўся Баталаў.

— Многа ў нас несправядлівасці было. Ды ты маладзейшы, таварыш, не злуйся. Мы людзі цёмныя, што наўме — тое на языку. От, скажам, мэтээс. Хочаш не хочаш, а трактары бяры. У нашым калгасе дзве вёскі. Ну, Выжарцы за лесам. А мы ў лесе. Нашы палі па бору раскіданыя. Мы як на тычцы жывём — нагу няма дзе паставіць. Таму нашу вёску Тычкай і завуць.

— Ты, дзед, карацей...

— Гэта можна. Трактар па лесе пойдзе? Не. А бывала, гоняць трактар. Ускапае ён сяк-так паляну, а мы коньмі даворваем. Трактарысты ўсё лета робяць: абы дзень адбыць. А мы пацеем. Прыходзіць восень. Трактарысту на яго працадні бах па чатыры кіло — хоць хлебам засыпайся. А нам добра, калі па кілу на дзень выйдзе. Дзе ж тут справядлівасць?

— Гэта, дзед, дробязі, унутраныя няўвязкі.

— Зараз да галоўнага дайду,— паабяцаў дзед.— Жыў я, скажам, аднаасобна. Зямлі небагата меў. А ўраджаі па нашых землях збіраў цярпімыя. Меў каровак пару, каня, авечак, свінчо. Выпасаў у нас хапала. Цяпер — чаго я ў калгас пайшоў? От вапрос! — Ён памаўчаў, на хвіліну затрымаў позірк на Валендзе. Той, набычыўшы галаву, пахмура слухаў.— Я, можа, не тое кажу, але пачаў, дык кончу. Не люблю ў дарозе злазіць. Дык от, дарагія таварышы, пайшоў я ў арцель таму, што ўпаўнаважаны наш, таварыш сакратар партыі Лука Іванавіч Пацехін, за сэрца ўзяў сваімі прамовамі. «Перш-наперш, кажа, закінеце вы саху, плуг і прочаю там барану, бо ўсё вам машыны будуць рабіць. Па-другое, не трэба вам будзе на сваім агародзіку корпацца, свой боршч варыць, бо ўсё гэта ў абчэственым маштабе на кухнях зробяць. Па-трэцяе, начальства ніякага не будзе, сазнацельна кожны папрацуе, колькі можа, і ніхто яго не будзе ў спіну гнаць». Дужа мне тады спадабаліся тыя словы, асабліва пра начальства. Мужык, ён тожа сваю выгаду адчувае. Жылі мы, я табе скажу, напачатку добра. Старшыня наш разам з усімі за плугам хадзіў і з касой таксама. Потым нашага старшыню па баку. Прыслалі новага, і пайшла наперакос жызня. Каровак усіх пагдаваў — усё план выконваў, каб прэмію палучыць. Палучыў, а каровак не стала. Пасля бульбу прадаў, тожа на прэмію

цягнуў. Усё яго, бывала, хвалілі. У прэзідыуме сядзеў. А калгас наніз каціўся. Мала таго, нарабіў у нас столькі начальства, што дыхнуць няма як. Брыгадзіры, фуражыры, кладаўшчыкі, вагаўшчыкі, загадчыкі фермаў, звеннявыя. І ўсе сабе работу знаходзяць. Адзін па полі з сажнем, казой па-нашаму, бегае, другі ў свірне сядзіць, трэці сена важыць. Пальцаў на руцэ не хапае, каб усіх пералічыць. От я і думаю, няўжо ж там вышэй не ведалі пра ўсё гэта? Мабыць, ведалі, а слухаць не хацелі, бо, не паспееш рота раскрыць, крычаць: варожы элемент, шкоднік, падпявала. А іць мы харошага хацелі.

Звонка дзынкнуўшы, на стале падскочылі бутэлькі. Валенда, ярасна вырачыўшы вочы, яшчэ раз грымнуў кулаком па стале.

— Контра! Слабінку пачуў!.. Савецкая ўлада табе не па нутры. Скажы шчыра і хвастом не віляй, як сука. Я такія размовы чуў...— Ён задыхнуўся, удыхнуў на ўсе грудзі паветра.— Што ж, грамадзяне, клічце немцаў. Яны вас зямелькай узнагародзяць. А толькі перш, чым мяне стукнуць, шэсць куль па здрадніках.

Баталаў схапіў Валенду за плечы, прыціснуў да табурэткі.

— Сядзі і не рыпайся... Мітынгі пасля будуць.

У хаце бязладна гаманілі:

— Дазволь...

— Не дазволю...

— Між сабой чаго не бывае, а немец усім да зарэзу...

— Я не абараняю... Чалавек па лесе туляецца, нервенны...

— Жыць хочацца, а як — загвоздка...

— Ідзі ты, я сам з вусам.

— Ён табе нагаворыць — падстаўляй вушы...

— Не хочаш — не слухай...

Баталаў угаварыў Валенду пайсці спаць. Каб неяк згладзіць непрыемнае ўражанне, прымірэнча сказаў:

— Спрэчка без гарачкі — як боршч без солі. Толькі пра сур'ёзныя рэчы лепей на цвярозыя галовы гаварыць. І вы, дзед, па-свойму праўду сказалі, толькі вы да жыцця прымяраецеся вашай Тычкай, а Тычка гэтая — макавае зерне, не больш, і па аднаму чарвіваму зерню высыпаць увесь мак у лужу толькі дурны можа.

— Праўду сказаў, ідры яе качан,— згадзіўся дзед.— Нягожа высыпаць. Ды я і без хітрасці...

Людзі разыходзіліся, ажыўлена гаманілі на двары. Баталаў вывеў Валенду з сянец.

— Чаго цябе ўзарвала? — пацікавіўся ён.

Календа панура маўчаў. Успышка гневу не зрабіла яго цвярозым. Ён цяжка абапіраўся на баталаўскую руку, соп.

Праз адчыненыя дзверы на вуліцу лёг белы квадрат святла — гэта выйшла на двор Валендава гаспадыня.

Ішлі ўтрох, спатыкаючыся на карэнні. Над галавой у хмарным небе сям-там свяцілі мутныя зоркі. Валенда вырваў руку:

— Пайду ў лес...

— Ашалееў ты. Я цябе да нашых завяду. Не ведаеце, дзе тут нашы? — запытаўся ў гаспадыні.

— Побач са мной адзін жыве. Чорненькі такі, чубаты.

«Саханчук,— падумаў Баталаў.— Якраз добра. Грышка яму не дасць фокусы выкідваць».

Саханчук іграў на гітары, заплюшчыўшы вочы. На лаўках сядзелі моладзь і Васька Дзячкоў. Баталаў уладкаваў Валенду, выйшаў на чыстую палавіну. Дзяўчаты паціснуліся, даючы месца.

Грышка шаптаўся з русакосай дзяўчынай, ледзь-ледзь кратаючы струны. Потым ён зайграў нейкі незнаёмы матыў, а дзяўчына запела густым грудным голасам:

Не шумі, бяроза,
Не шумі, бяроза,
Не шапчы, бяроза,
Пад маім акном.

Ты пашлі, бяроза,
Ты навей, бяроза,
Ты навей, бяроза,
Дзеўцы ціхіх сноў.

Баталаў пасядзеў крыху, засабіраўся дахаты. Неба зноў зацягнула хмарамі, і дробны дождж церушыўся, шумеў у голлі. Баталаў ледзьве знайшоў дарогу. На ганку пастаяў крыху, прыслухоўваючыся да самотнай цішыні, намацаў рукой клямку, пацягнуў дзверы на сябе. Па вачах ударыла яркае святло. Абдало цёплым жылым духам.

Гаспадыня прыбірала са стала, нешта ціха гаварыла мужу, і ён згаджаўся, п'яна ківаючыся за сталом.

— Хадзем, камандзір, яшчэ па маленькай зробім,— узрадаваўся ён Баталаву.

— Авой табе, Кузьма, хопіць ужо.

Баталаў прысеў, вачамі шукаючы Шпарцюка. На печы шапталіся і хіхікалі: во куды Сяргей забраўся. Скоса

паглядаў на гаспадароў, ці не асуджаюць Шпарцюка? На гарачае шаптанне маладых ніхто не звяртаў увагі. Управіўшыся з начыннем, да стала падсела гаспадыня. Падперла кулакамі шчокі, не мігаючы глядзела на Баталава.

— Гарачы ваш таварыш,— пачаў гаспадар.

— А табе што, усюды свой нос сунеш,— накінулася на яго жонка.

— Вайна,— коратка адказаў Баталаў.

— Вайна-то вайна, але і да вайны такіх гарачых шмат было. А ты раскажы, сумненні развей. За наган хапацца працей простага. Дзед гэты, Максім, па-нашаму, па-вясковаму, Гаварушка, у тую вайну на флоце служыў, боцман. Адтуль і жонку прывёз з дзецьмі. Двое сыноў у яго ваююць ды двое зяцёў. А ваш таварыш на яго — контра...

— Я разумею, нядобра атрымалася.

— Ды мы і не крыўдуем. Прывыклі.

На печы ўжо не смяяліся. Чулася зацятая, упартая валтузня. Баталаў ёрзаў на лаўцы, было няёмка перад гаспадарамі. Хацеў быў падняцца, пасароміць Сяргея, але нешта грымнула, і следам вясёлы з печы голас:

— Палучыў?..

Шпарцюк, расчырванелы, ускудлачаны, выйшаў на віднату хаты.

— Што, камандзір, нашы дзеўкі баявыя? — усміхнуўся гаспадар.

— Я ў атрад забяру яе, баця. Медыцына нам во як патрэбна,— чыркнуў па шыі Шпарцюк.

— Авой, дзіця яшчэ,— азвалася маці.

— Ты спачатку ў мяне запытайся, ці пайду я за табой,— падала голас Галя.

— Змабілізую,— стаяў на сваім Шпарцюк.

Назаўтра пачалі збірацца ў дарогу. Шкада было пакідаць утульныя хаты, але на дзень заставацца боязна. Прывыклыя да лесу, людзі адчувалі сябе ў вёсцы ніякавата.

За вёскай іх нагналі чацвёра хлопцаў.

— А вы куды? — здзівіўся Баталаў.

— З вамі.

— Хто дазволіў?

Цімохін усміхаўся на ўвесь шырокі твар.

— Няхай ідуць. Хлопцы баявыя. Кажуць, што з навакольных вёсак многія хацелі б у лес. Толькі самім боязна з месца крануцца.

— Я з сябе адказнасць здымаю,— заявіў Валенда.

— А ты іх правер,— спакойна сказаў Шпарцюк.

У лагеры Валенда выклікаў хлопцаў па адным, дапытваў. Баталаў доўга слухаў яго панылыя, надакучлівыя пытанні.

— Дык, кажаш, Бурэйка? Та-ак.

— Бурэйка. Мяне тут усе ведаюць.

— Та-ак. З радні ў паліцыі хто-небудзь ёсць?

— Няма.

— Та-ак. Значыць, няма? А Слімук кажа, ёсць.

— Віктар?

— Та-ак, няма кажаш?

— Няма, ды што вы...

Баталаў перапыніў допыт.

— Ну, вось што, Валенда, хопіць. Людзей правяраюць на справе. Заўтра пойдзем управу граміць, там і праверыш хлопцаў.

Валенда, пакрыўджаны, спыніў «праверку».

Дні пабеглі весялей. Пасля разгрому ўправы атрад вырас удвая. Новыя клопаты зваліліся на галаву Баталава. Людзей трэба было карміць, апранаць, забяспечваць зброяй і боепрыпасамі. Ноччу хлопцы хадзілі ў далёкія вёскі, прыводзілі кароў, прыносілі рэквізаваную ваенную амуніцыю.

Баталаў і Шпарцюк глядзелі на гэта скрозь пальцы. Вайна! Людзі галоў не шкадуюць, дык ці варта звяртаць увагу на дробязі.

**7**

— Вы, Сухарэўскі, асёл... Партыйны білет вы павінны былі здаць нам.

— Прызнаюся, я не падумаў,— сказаў Сухарэўскі, абражаны тым, што гаўптштурмфюрэр назваў яго аслом.

— Ён бы вам вельмі спатрэбіўся ў тых акалічнасцях, якія могуць узнікнуць... Ды мы людзі прадбачлівыя. Так што ацаніце,— гаўптштурмфюрэр адчыніў шуфляду, кінуў на стол партбілет.

Сухарэўскага аж страсянула — ягоны білет, які ён спаліў.

— Навошта ён мне,— баючыся правакацыі, Сухарэўскі вельмі паспешліва і рэзка адсунуў партбілет падалей ад сябе.

— Не бойцеся, Сухарэўскі, гэта ваш білет,— гаўптштурмфюрэр узяў партбілет са стала, амаль сілком сунуў у рукі Сухарэўскага.

Усё яшчэ асцерагаючыся пейкай каверзы, той разгарнуў партбілет: з фотакарткі на яго глянуў ён сам, не той маладзейшы, што быў на сапраўдным партбілеце, другі, цяперашні, схуднелы і натапыраны. Але ўзносы пастаўлены правільна. Камар носа не падточыць. Затое роспісы за ўзносы!.. Заліхвацкія завітушкі, росчыркі. Хоць за росчыркамі ўгадваліся правільныя прозвішчы сакратароў.

— Ліпа,— знарок з выклікам сказаў Сухарэўскі, паказваючы, што ён трымаецца незалежна.

— Я і кажу, ваш сапраўдны білет быў бы вам вельмі дарэчы,— пагадзіўся гаўптштурмфюрэр.

Сухарэўскі здагадваўся, што за ўсім гэтым хаваецца нешта важнае, можа, ягоны шчаслівы лёс, бо страшнае ўжо далёка ззаду і пэўна ніколі не вернецца.

— Вы мне ўсё не давяраеце? — спытаўся ён.

Гаўптштурмфюрэр пазіраў на Сухарэўскага насмешліва, вытрымліваў паўзу.

— Мы маем падставу давяраць вам,— нарэшце сказаў ён, і Сухарэўскі не стрымаўся, з палёгкай уздыхнуў.— Вы добра вытрымалі першы экзамен. Каршукоў жа ваш стары і добры сябар? Ці не так? Я шчыра прызнаюся вам, Сухарэўскі, што Каршукоў грунтоўна праверыў і вас. І вы на яго, я спадзяюся, не будзеце крыўдаваць. Ён выконвае адно наша заданне. Цяпер ваша чарга, Сухарэўскі.

Гаўптштурмфюрэр зноў вытрымаў паўзу. Сухарэўскі ў гэтую хвіліну думаў над тым, што тады адбылося. Ён гаварыў з Каршуковым так, як яго вучыў стары, пасівелы ўжо чын у цывільным. Яму было загадана выведаць у Каршукова, ці мае той дачыненне да падполля. І ён зрабіў гэта. А цяпер выходзіць, што не ён, а яго правяралі. «Дык вось чаму Каршукоў павёў тады гаворку пра ўцёкі. Ах, сволач, шляхцюк пракляты,— Сухарэўскі шчыра ўзлаваўся на Каршукова.— Мяне хацеў утапіць. Ды не выйшла. Мяне не вельмі абдурыш. Я сам каго хочаш абдуру...»

— Дык вось, Сухарэўскі, мы давяраем вам надзвычай важную справу. У лясах засталося шмат салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі, партыйных і савецкіх служачых, з якімі мы не хочам ваяваць. Трэба дапамагчы ім зразумець, што вайна хутка будзе закончана, што іхнія спробы пачаць партызанскую вайну асуджаны на правал. Мы адправім вас з групай салдат, якія ўжо зразумелі марнасць супраціўлення, і вы разгорнеце там сваю дзейнасць. Вы добра ведаеце тутэйшыя мясціны і, я думаю, хутка наладзіце кантакты. Пра ўсё астатняе вам скажуць асобна.

Аказанаму даверу Сухарэўскі ўзрадаваўся, хоць заданне яму было не па душы. Але ён разумеў, што адмовіцца ад яго не зможа.

— Пан афіцэр, хачу вам сказаць, што тыя, хто дасюль шастае па лясах, нас не паслухаюцца. Што рабіць у такім разе? — запытаўся ён.

— Вы вельмі прадбачлівы, Сухарэўскі,— пахваліў гаўптштурмфюрэр.— На гэты конт вы палучыце асобныя тлумачэнні.

— Яшчэ адно пытанне... Хутчэй просьба. Я не вельмі давяраю Каршукову, хоць вы кажаце, што ён працуе з вамі. Ён можа выдаць мяне, абы выратаваць сябе. Зрабіце так, каб мы не сустракаліся.

За ўвесь час афіцэр упершыню ўсміхнуўся.

— І якія ж вы, рускія, недаверлівы народ,— сказаў ён.— Але ж усё залежыць ад вас. Бітвы выйграваe той, хто першы нападае. Запомніце гэта, Сухарэўскі. Мы не можам быць для вас нянькай. Будзьце бязлітаснымі. І яшчэ, Сухарэўскі, вы павінны дакладна выконваць усе загады. Ад гэтага залежыць не толькі лёс аперацыі, але і ваша жыццё. А мы давяраем вам.

У пакой зайшоў унтэршарфюрэр у чорным франтаватым гарнітуры.

— Ідзіце за мной,— сказаў ён.

На двары іх чакала чорная легкавушка з зашторанымі акенцамі. Унтэршарфюрэр сядзеў наперадзе, побач з шафёрам. Сухарэўскі на заднім сядзенні — адзін. Машына паціху кацілася па гарадскіх вуліцах. Сухарэўскі мог глядзець толькі праз пярэдняе, ветравое шкло, якое з аднаго боку прыкрываў унтэршарфюрэр, з другога — шафёр. Але ён добра ведаў горад і неўзабаве здагадаўся, што яго вязуць на Царскую ветку — залінейны раён, які карыстаўся ў гараджан благой славай.

У грамадзянскую вайну і пасля яе, аж пад канец дваццатых гадоў, тут арудавалі свае, гарадскія, і прыблудныя, з Адэсы і Растова, банды пад кіраўніцтвам нейкай удачлівай зладзейкі-авантурысткі Сонькі Залатая Ручка. Народныя чуткі казалі, што ўся Царская ветка прарэзана падземнымі хадамі, па баках якіх збудаваны вялізныя сховішчы, дзе можна хаваць нарабаванае і адседжвацца гадамі. То, безумоўна, быў міф, каб неяк апраўдаць няўлоўнасць амаль легендарнай Сонькі. Затое другая пагалоска мела пад сабой праўду: у васемнаццатым годзе, калі

ў горадзе ўспыхнуў эсэраўскі мяцеж, тут расстрэльвалі яго ўдзельнікаў і тых, хто падтрымліваў мяцежнікаў.

Нагадак пра расстрэлы скалануў Сухарэўскага. Чорт ведае па якой асацыяцыі, яму раптам падумалася, што і ён, як бацька, будзе расстраляны на Царскай ветцы. Толькі бацьку расстралялі балтыйскія матросы, а яго нямецкія эсэсаўцы. Можа, вось гэты чорны унтэршарфюрэр. Расстраляе, каб не замінаў Каршукову. Маўр зрабіў сваю справу — маўр можа памерці. Маўр — ён. Яму і памерці.

Думка была абсалютна неверагодная. Сухарэўскі разумеў, што патрэбны акупантам, што яго рыхтуюць да нейкай вельмі адказнай справы, але наперакор усяму яна брала верх над цвярозай развагай. Кожнае слова гаўптштурмфюрэра набывала цяпер нейкі іншы, каварны сэнс. Сухарэўскі пачуў, як па спіне цурочкам пакаціўся брыдкі пот.

— Куды вы мяне вязеце? — не стрымаўся ён.

Унтэршарфюрэр крута павярнуўся да яго.

— О-о-о, вам не сказалі?.. Пазнаю Курта Венцаля... Мы едзем у адну... чароўную мясцінку. Вам спадабаецца...

Пачварная ўсмешка унтэршарфюрэра зусім выбіла Сухарэўскага з раўнавагі.

— Я зараз адчыню дзверы і выскачу з машыны,— сказаў ён.

Унтэршарфюрэр зарагатаў. Сапраўды, пагроза была вар'яцкай: машына мела толькі дзве дзверцы — спераду. Каб выскачыць праз іх, спачатку трэба выкінуць з машыны унтэршарфюрэра. Сухарэўскі ў поўным адчаі адкінуўся на сядзенне, супакоіўшы сябе дзедаўскім выслоўем: чаму быць, таго не абмінуць...

У трыццатыя гады Царскую ветку забудавалі двухпавярховымі драўлянымі дамамі — кожны на два пад'езды. Пасёлак назвалі Камунаркай — Царская ветка нагадвала мінулае, Камунарка — позірк у будучыню.

Цяпер ад Камунаркі засталіся чорныя пажарышчы ды абгарэлыя высачэзныя каміны. Толькі там, дзе пасёлак упрытык падыходзіў да манастырскай пустэчы, на якой некалі горбіліся скіты манахаў-пустэльнікаў, захаваліся дзве пабудовы. Адна з іх — вялізны дом з мезанінам, абнесены высокім плотам з дубовай, на вякі, брамай.

Брама адчынілася, як толькі машына пад'ехала да яе. У будцы за брамай дзяжурылі два ўзброеныя аўтаматамі вайскоўцы. Яны дружна прывіталі унтэршарфюрэра, узняўшы рукі ўгору.

Легкавушка спынілася перад высокім ганкам. Унтэршарфюрэр лёгка ўзбег па прыступках, адчыніў дзверы ў прыхожую. У ёй таксама сядзеў дзяжурны — афіцэр, здаецца, не ў вялікім чыне. Ён нешта сказаў унтэршарфюрэру, і той пайшоў да дзвярэй злева.

У вялікаватым пакоі за чатырма школьнымі партамі сядзелі шасцёра чалавек. Яны ўскочылі, як звычайна ўскокваюць вучні, калі ў клас уваходзіць настаўнік.

Быў, зрэшты, і «настаўнік» — афіцэр у чыне обер-лейтэнанта.

Унтэршарфюрэр ліха прывітаў обер-лейтэнанта: хайль Гітлер! Той даволі неахвотна ўзняў руку і яшчэ больш неахвотна прамармытаў: «Хайль Гітлер» і ўжо зусім не па-вайсковаму сказаў:

— Рад бачыць вас, унтэршарфюрэр... Вы, як заўсёды, дакладны...

Пакуль афіцэры абменьваліся кампліментамі, Сухарэўскі няўлоўным позіркам спадылба прайшоўся па тварах шасцярых, што сядзелі за партамі, паклаўшы на іх рукі. Яны былі дужа розныя і няўлоўна чымсьці падобныя. Сухарэўскі перавёў позірк на сцены. На іх — нічога выдатнага, апрача партрэта Гітлера ў рамцы. На партрэце — Гітлер з сабакам. У Гітлера задумлівы позірк, сабака, здалося, смяецца.

— Панове,— перапыніў назіранні Сухарэўскага обер-лейтэнант,— пазнаёмцеся з вашым камандзірам Сухарэўскім Васілём Васільевічам, старшым лейтэнантам Чырвонай Арміі, у распараджэнне якога вы паступаеце. Вам належыць выконваць яго загады безагаворачна, не задаючы пытанняў і не сумняваючыся ў правамернасці ягоных загадаў.

Сухарэўскі не верыў сваім вушам. Усё было куды больш ашаламляльна, як ён мог уявіць. Ён не ведаў, радавацца яму ці засмучацца — дужа прывідным было шчасце на згадцы тых падзей, якія кідалі яго ў бездань адчаю або выцягвалі адтуль, каб зноў кінуць у яшчэ глыбейшую бездань. Цяпер, было падобна, яго выцягнулі надоўга, можа, назаўсёды. Усё залежыць ад яго...

Шасцёра адзін за адным выразна называлі яму свае прозвішчы, чамусьці пазбягаючы гаварыць пра свае прафесіі. Сухарэўскі слухаў няўважліва: вельмі быў узрушаны тым, што пачуў.

Обер-лейтэнант аб'явіў перапынак, і ўсе пацягнуліся па махорку, каб закурыць. Сухарэўскі адчуваў сябе дужа

няёмка: што ён павінен рабіць, падыходзіць да сваіх падначаленых ці заставацца поруч з афіцэрамі?

— Вас чакае оберст,— сказаў обер-лейтэнант і пайшоў на другі канец дома.

Сухарэўскі, нават не азірнуўшыся на падначаленых, пайшоў за ім. Замыкаў шэсце унтэршарфюрэр.

У вялізным пакоі з круглым сталом пасярэдзіне іх чакаў немалады палкоўнік вермахта.

— Сядайце,— запрасіў ён за стол і, як толькі ўсе расселіся, па-ваеннаму зберагаючы кожную хвіліну, адкрыў нараду, калі можна было назваць так іхняе зборышча.— Хачу папярэдзіць вас, старшы лейтэнант, калі вы адчуеце, што па нейкіх прычынах не здольны выканаць задачу, якая будзе ўскладзена на вас, скажыце адразу. У нас дзейнічае прынцып добраахвотнасці, і прымушаць вас ніхто не стане...

У душы Сухарэўскі пасмяяўся з наіўнасці палкоўніка: ён не дурань, каб прызнавацца ў сваёй няздольнасці. Прызнайся — адразу ў расход.

— У мяне няма прычын адмаўляцца,— сказаў ён.— Гатовы выканаць любы загад.

— Гэта найлепш,— оберст сашчапіў пальцы, паклаў рукі на стол.— Сутнасць задачы заключаецца ў тым, што вы павінны вывесці з лясоў як мага больш салдат і афіцэраў, якія па нейкіх прычынах баяцца здавацца ў палон. Мы разумеем, што перашкаджаюць гэтаму фанатыкі камісары і камуністы, якія палохаюць салдат і камандзіраў зверствамі і іншымі выдумкамі. Мы — гуманная армія і вядзём барацьбу толькі з узброенымі людзьмі. Мы не хочам кровапраліцця, таму і накіроўваем вас на такое важнае заданне. А цяпер аб канкрэтных вашых дзеяннях у канкрэтных умовах. За вамі слова, обер-лейтэнант Хайслер.

Обер-лейтэнант разгарнуў карту Падзвіння.

— Па нашых звестках вось у гэтым трохкутніку Высачаны — Камарова — Асінаўскае сканцэнтраваліся паасобныя групы салдат і камандзіраў, якія намерваюцца прабівацца за фронт, а пакуль нападаюць на паасобных салдат і афіцэраў нашай арміі. Магчыма, што тут дзейнічаюць і так званыя партызаны — камуністы і актывісты, сарганізаваныя злачыннымі элементамі ў банды. Ваша задача аб'яднаць па магчымасці найбольшую колькасць разрозненых груп пад сваім камандаваннем з тым разлікам, каб можна было вывесці людзей з лесу. А тых, хто будзе

ўпарта супрацiўляцца, перадаць у рукi нямецкiх спецыяльных войск...

Хайслер азiрнуўся на палкоўнiка, нiбы хацеў спытацца, цi варта яму гаварыць далей, цi хопiць i гэтых, даволi агульных указанняў.

— Цяпер унтэршарфюрэр Вiнкельберг дакладзе аб плане, па якiм вы будзеце дзейнiчаць,— сказаў палкоўнiк.

— Служба бяспекi, якую я маю гонар прадстаўляць,— пачаў унтэршарфюрэр,— намерана закiнуць вас у зону пад выглядам ваенных, якiя актыўна дзейнiчаюць у тыле працiўнiка, гэта значыць, нямецкiх войск. Вы будзеце адпаведным чынам экiпiраваны. Вам належыць правесцi некалькi аперацый, якiя далi б вам права на аб'яднанне разрозненых груп ваенных, а таксама банд з пакiнутага тут падполля. Аперацыi будуць адпаведным чынам падрыхтаваны. Я хацеў бы папярэдзiць вас, а на гэта мы маем узгодненасць з армейскай контрразведкай, што вам давядзецца пашырыць сваю дзейнасць на выяўленне ў зоне камунiстаў, камсамольцаў, актывiстаў i спачуваючых iм. Спадзяюся, што гэта будзе няцяжка зрабiць, калi вы станеце актыўнай групай, што дзейнiчае, магчыма, па заданню з-за лiнii фронту. Што датычыць падрабязнасцей, то мы маем на гэта час.

Папраўдзе, Сухарэўскi дрэнна пакуль разумеў, як сямёра чалавек змогуць аб'яднаць разрозненыя групы чырвонаармейцаў i камандзiраў, якiя iдуць за лiнiю фронту, а затым вывесцi iх з лесу. Смярдзела гэта авантурай, ды яшчэ якой! Тут вельмi проста пакласцi галаву нi за нюх табакi. Галавой Сухарэўскi даражыў. Спадзяваўся неяк выкруцiцца i з гэтай сiтуацыi.

Можна, вядома, запытаць. Але па вопыце ён ведаў, што маўчанне золата. Таму слухаў уважлiва, стараючыся разабрацца ў хiтрыках дзвюх тайных службаў германскай iмперыi.

— У вас усё, унтэршарфюрэр? — спытаўся палкоўнiк.— Я хацеў бы дадаць, што падрыхтоўка аперацыi, як i дамоўлена, будзе весцiся обер-лейтэнантам Хайслерам, а канкрэтнае кiраўнiцтва пойдзе пад наглядам унтэршарфюрэра Вiнкельберга. Вам, старшы лэйтэнант Сухарэўскi, належыць зразумець гэтую iсцiну... Пытаннi будуць?..

— Будуць.— Сухарэўскi прыняў малайцаватую паставу, адчуўшы сябе гаспадаром становiшча.— Я хачу дакладна ведаць, наколькi магу давяраць сваiм падначале-

пым і да якой мяжы маю права дзейнічаць у рамках маёй кампетэнцыі...

Оберсту, здаецца, спадабалася, як трымае сябе Сухарэўскі.

— Унтэршарфюрэр, пытанне вам,— звярнуўся ён да унтэршарфюрэра.

Таму пытанне яўна не па душы, але субардынацыя патрабавала падпарадкавання.

— Мы старанна падбіралі кандыдатуры,— сказаў ён.— Ва ўсякім разе, вам прадастаўлена права дзейнічаць, не азіраючыся на маральныя нормы, да якіх вы прывыклі як камандзір Чырвонай Арміі...

— Былы, былы, пан унтэршарфюрэр,— удакладніў Сухарэўскі, каб не застацца ў даўгу.

Оберст устаў з крэсла, даючы зразумець, што аўдыенцыя закончана.

## 8

Міхась Ланкевіч пакутаваў адзінока, і не было з кім падзяліць пакуты, боль і сумненні.

Тады, калі ён, выконваючы загад Тышкевіча, ляжаў у вербалозах, каб выканаць прысуд над Каршуковым, у ім жыло адно, і як ён верыў, светлае пачуццё помсты. Ён зусім не думаў, што давядзецца страляць у чалавека, ды і не быў Каршукоў для яго чалавекам — знак здрады, які загадана сцерці. Усяго знак...

Каршукова, і то не зблізку, Міхась бачыў разы тры, калі дванаццатага ліпеня, у дзень вызвалення Беларусі ад белапалякаў, у бярэзніку каля Цішкаўкі наладжваліся вялікія гулянні. Каршукоў звычайна паяўляўся на гулянні ў часе мітынгаў — стаяў на трыбуне, заклаўшы рукі за шырокую папругу з металічнай зоркай на спражцы.

І там Каршукоў быў знакам, толькі знакам пашаны. Як ён будзе выконваць прысуд, Міхась не думаў. Наогул не ўяўляў, як усё будзе. Ляжаў і чакаў. Без думак. Толькі б хутчэй. Чакаць усё ж было непрывычна і нудна.

Дзікая бязглуздзіца выканання прысуду пачалася адразу, як з-за паваροткі паявіўся конь, брычка, а на ёй Каршукоў. Па-першае, Міхась не чакаў, што брычка паявіцца вось так нечакана. Павінны ж грукатаць колы, гопаць капытамі конь, а тут нібы здань узнікла на прасёлку. Да ўсяго здраднік, якога Міхась павінен быў ненавідзець, чамусьці не выклікаў нянавісці, нават звычайнай злосці. Ён

сядзеў, апусціўшы рукі на калені, нямоцна трымаў у іх лейцы і... смяяўся добрай, шчаслівай і нейкай сонечнай усмешкай.

Датуль Міхась ніколі не бачыў, каб чалавек так бесклапотна і весела смяяўся на адзіноце. Было проста немажліва страляць па чалавеку, які смяецца. Больш таго, Каршукоў яшчэ размаўляў сам з сабою: ці то думкі ўголас, ці то тэатральны маналог. Усё, што адбывалася на паляне пры лесе, раптам страціла для Міхася рэальны сэнс — засталася гульня ў нешта пачварнае, дзікае.

Міхась глядзеў на Каршукова і на сябе неяк збоку. Бачыў каня, які паволі пераступае ногі, колы, якія памалу коцяцца па пясчаных каляінах, цяжкія рукі Каршукова, якія трымаюць лейцы, твар з сонечнай усмешкай — усё гэта марудна праплывала перад Міхасёвымі вачамі. Раптам усё знікла — вясёлкавы малюнак засціла шырокая спіна, абцягнутая фрэнчам з чорнай плямкай поту паміж лапатак... Брычка памалу аддалялася. І ўжо другое пачуццё завалодала Міхасём: трэба ж страляць.

Ён стрэліў не цэлячыся. Раз. Другі. Конь панёс брычку ў Цішкаўку. Міхась, так і не зразумеўшы, ці выканаў ён прысуд, кінуўся наўцёкі падалей ад страшнага цяпер месца.

Яму было прыкра і брыдка ад таго, як ён паводзіў сябе: распусціў нюні, расчуліўся, замест таго, каб рашуча выконваць загад. Але была і задаволенасць, падобная на здраду,— дзякуй богу, здаецца, не патрапіў...

Пасля, калі пра Каршукова завандравалі сляпыя чуткі, Міхась адчуў страх за тое, што мог зрабіць, і прыкрае адчуванне нечага незавершанага. У ім нешта зламалася, а сам ён раздвоіўся, і абедзве палавіны яго душы вялі балючае і непатрэбнае змаганне, ад якога пакуты толькі павялічваліся.

Ён па-дзіцячы крыўдаваў на Тышкевіча: прыйшоў, растрывожыў душу надзеямі. Пагуляўся, як з хлапчуком, і кінуў — жыві як знаеш. Вось табе таварыскасць, узаемавыручка, баявое брацтва!

Туманным надвячоркам Міхась Ланкевіч выйшаў на двор. Пасля першых халодных дажджоў пацяплела. Густая імжа вісела над зямлёй, церушылася.

Агнёў у хатах яшчэ не палілі — эканомілі газу. Толькі наводшыбе, там, дзе чарнелі прысадзістыя і доўгія будынкі калгаснай фермы, у хаце Шлычонкаў цьмяна паблісквау агеньчык газнічкі.

Міхась звярнуў на сухую травяністую дарогу. Тут не трэба асцерагацца лужын, і Міхась пайшоў весялей на гэты нямоглы агеньчык у вечаровым змроку, чамусьці саромеючыся сваіх пажадлівых намераў.

Удзень яго сустрэла Васілініна Нюра, бліснуўшы спадылба, з-пад рэдзенькіх рудых броваў чорнымі вочкамі, спыталася:

— Што-та вы намі грэбуеце? Прыходзьце, не пашкадуеце...

Міхась не тое што грэбаваў — саромеўся бываць у Шлычонкаў. Нюрка карысталася на вёсцы нядобрай славай: вадзіла дружбу з гарадскімі блатнякамі, гуляла напрапалую з ласымі да маладых дзяўчат дзядзькамі, не прапускала і маладзенькіх хлопцаў, далучаючы іх да тайнаў кахання.

Міхась раней цураўся Нюркі. І вось пацягнула да яе, як муху на згубу.

Пра самую Васіліну хадзіла па вёсцы нямала плётак. Адно было вядома дакладна: трое дзяцей яе ад розных мужоў, пра якіх Васіліна казала, што яны косяць сабакам сена.

Сенцы былі адчынены. Рабы сабака, спалохана цяўкнуўшы, выскачыў адтуль, падтуліўшы хвост, адбегся ў палісаднік. Міхась зайшоў у хату.

— А-а, зяцёк, заходзь, госцем будзеш,— прывітала яго Васіліна, павёўшы чорнымі тонкімі бровамі.

З печы звесіла галаву Нюра, працягнула руку, голую да пляча. У выразе сарафана відаць маленькія шышачкі грудзей. Міхась адвёў вочы.

За сталом сядзелі трое хлопцаў. Гулялі ў «буру», спрытна тасавалі патрапаныя, зашмальцаваныя карты. На Міхася ніхто не звярнуў увагі. Ён прысуседзіўся на лаўцы. Назіраў, як гуляюць хлопцы, шморгаючы насамі, крывяцца, калі прайграюць, паплёўваюць на карты, каб шанцавала.

Васіліна сагнала Нюру з печы, каб забаўляла госця, бесцырымонна выгнала хлопцаў з хаты, забралася на печ, сказаўшы Міхасю з Нюркай:

— Я вам перашкаджаць не буду. Пасядзіце, пагаварыце — у маладых ёсць пра што пагаварыць.

У маленькай каморцы, адгароджанай ад хаты вялізнай печкай і квяцістай выцвілай шырмай, яны сядзелі на ложку. Гаварыць не было пра што. Міхась проста не ведаў, пра што можна гаварыць з гэтай невялікага розуму дзеў-

кай. Нюра нешта пацёпвала плячамі, апускала вочы, быццам ёй было нечага сорамна.

Міхась адчуваў страшэнную скаванасць ва ўсім целе і неадольнае жаданне паваліць Нюрку на ложак, падмяць пад сябе, захлынуцца ад такой жаданай бессаромнай блізкасці. Яго ліхаманіла, і ўсё трымцела ўнутры, але не хапала адвагі, як тады, у вербалозах, калі ён ніяк не мог адважыцца стрэліць Каршукову ў твар. Тады ад стрэлу яго засцерагала ўсмешка на твары Каршукова, цяпер дзявочая безабароннасць. Яму было шкада Нюрку, быццам ён хацеў зрабіць ёй зло, і таму шкадаваў.

«Дурань я, дурань! — сказаў ён сабе ў думках.— Ды гэтая Нюрка пабачыла ўсяго на свеце, а я раблю з яе святую».

Яму было не сорамна ад такой думкі, бо яна імкнула насустрач ягоным жаданням.

Нясмела і як бы ненарокам ён абняў яе за талію, чакаючы, што з таго будзе.

— Ой, што-та вы.— Яна засмяялася і, скочыўшы на падлогу, выбегла, але неўзабаве вярнулася з чырвоным тоўстым сшыткам.— Напішыце мне сюды што-небудзь.

Міхась адгарнуў вокладку. На першай старонцы, увітае незабудкамі, васількамі і яшчэ чорт ведае якімі кветкамі, наўкось напісана чатырохрадкоўе:

Наши дни пролетят незамеченны,
Юность милая тает, как дым,
Розы тоже увянут сердечные,
Ах, зачем я рассталася с им.

— Праўда, здорава?

— Яшчэ як!..

— А ты зверху ўніз прачытай. Бачыш — Нюра. Тут на ўсе імёны ёсць вершы. Хочаш, тваё знайду?

— Ці варта? — Міхась абхапіў яе рукой за плечы. Яна ўпала на падушку. Міхась заўважыў, як мільганулі ў паветры босыя ногі і паціху апусціліся, з-пад нацягнутага сарафана паказаліся вастранькія шурпатыя калені. Нюра ляжала прыціхлая, з шырока адкрытымі вачамі і складзенымі на грудзях рукамі. У прыцемках яна выглядала маленькай і дурной дзяўчынкай, якую абылгалі паганыя, злыя людзі.

«Як я вінаваты перад ёю»,— падумаў ён і пастараўся вызваліць з-пад яе спіны прыціснутую руку, папрасіць прабачэння і пайсці...

Яна ўзяла гэтую вызваленую руку, сказала: «Нямож-

на» — і адцягнула яе ўніз, да худзенькага і як бы вострага клуба. Другой рукой яна абхапіла Міхася за шыю і, нейк злаўчыўшыся, задзьмула газнічку.

— Ты ж мяне кахаеш,— шапнула яна, быццам апраўдваючыся перад ім за сваю смеласць.— Я цябе даўно хацела завабіць, а ты нейкі дужа сур'ёзны, аж страшна падступіцца. Ды не бойся, я недакучлівая. Ты толькі свісні — прыбягу...

Пасля трох ці чатырох начлегаў у Шлычонкаў узбунтавалася Міхасёва маці:

— Во што, сыночак,— сказала яна з неўласцівай суровасцю,— ты маю сівую галаву не ганьбі. Уся вёска смяецца. Падабраў падаліцу. Кінь гэтыя начлегі, а то я ў Шлычыхі ўсе вокны пералічу і цябе, як цюцьку, буду гнаць цераз усю вёску. Ты мяне ведаеш...

Міхась і сам адчуваў, што ўдосыць нацешыўся гэтым сладастрасным каханнем. Увечары ён застаўся дома, падумаўшы, што робіць подла, ганебна, але гэтым як бы здзірае з сябе рамантычнае рыззё.

Недзе праз тыдзень Міхась Ланкевіч падахвоціўся павезці на нараду старасту. Хацелася на свае вочы пабачыць «новыя парадкі» і тых людзей, што іх устанаўліваюць.

Ехалі на порсткім маладым жарэбчыку, які ўсё наравіў бегчы рыссю. Тонкія колы выразалі на дарозе глыбокія каляіны, у якіх адразу ж паяўлялася мутная бурбалістая вада. Жарэбчык слізгаўся някованымі нагамі, пад сядзёлкай на спіне цямнела буланая поўсць.

Дождж то надціхаў, то зноў барабаніў па шэрых прагумаваных плашчах. Астап Дзялендзік — кавалёўскі стараста, прызначаны валасной управай замест Іванёнка,— туліў бараду ў башлык, але дождж даставаў, і яна была падобна цяпер на рэдзенькае страпанае мачала, з якога капала на армяк халодная вада.

Над лесам, тужліва курлыкаючы, ляцелі жураўлі. Астап Дзялендзік задраў галаву:

— Зіма на носе — нізка жураўлі ляцяць. Верная прыкмета, я табе кажу,— і, чамусьці ўздыхнуўшы, дадаў: — Адзін чалавек са сваімі мясцінамі неразлучны. Дрэнна табе ці добра, холадна ці горача, весела ці страшна — жыві. А яно іншым разам хацелася б ад такой жыткі пад зямлёй схавацца, перасядзець.

Маркотна курлыкалі жураўлі над лесам, і іх развітальны крык будзіў у Міхасёвай душы самотныя думкі.

Не курлыкайце, не плачце, жураўлі,
Не паверу, што вам жаль знявечанай зямлі,
Не паверу, хоць паверыць быў бы рад,
Што баіцеся зімы, а не салдат.
Смерць палохае вас, знаю, жураўлі,
Уцякаеце у тыл вы ад вайны...
Адсядзецца хочаце за морам, у цішы,
Без трывог і гора, што ў маёй душы.
Мне не па дарозе з вамі, жураўлі,
Я прырос душою да гэтай зямлі.
І таму я сёння ўпершыню ў жыцці
Не магу вам крыкнуць: «Добрага пуці».

...Маленькі клуб дома санітарнай асветы смярдзеў фармалінам і спіртам. Старасты туліліся ў двух невялічкіх пакоях музея. Знаёмых не было відаць. Большасць — аброслыя барадамі, старыя ўжо людзі.

Міхась прайшоўся па калідоры, зайшоў у адзін, потым у другі пакой, злосна падумаў: «Кулакі павылазілі. От бы бомбу сюды, каб адразу ўсіх здраднікаў к чортавай матары на той свет».

Ён спыніўся ля акна з фанернай шыбай уверсе. Адчуваў сябе чужым, як палонны ў варожым стане. Непадалёк, пад чэзлым, з жаўтаватымі лістамі фікусам паціху размаўлялі трое мужчын. Міхась аж падаўся наперад, стараючыся ўлавіць сэнс іх размовы. Пачуў толькі ўрывак незакончанай фразы:

— ...Як секануць па немцах...

Даўгаваты чалавек штурхнуў свайго суседа, той крута павярнуўся, з недаверам і прытоенай палахлівасцю ў карых вачах зірнуў на Міхася. Той крыху адышоўся, глядзеў праз брудную шыбу на загрувашчаны бітай цэглай двор, лавіў насцярожаны шэпт.

— Асцярожней вы...

— Ды ён не чуе...

— Яшчэ як сказаць.

Яны адышліся. Іх месца пад фікусам адразу ж занялі чацвёра самавітых мужыкоў. Адзін з іх, чорнабароды, у шэрай, вузкай па таліі бекешы, гаварыў гучна, нібы хацеў, каб яго слухалі ўсе:

— Немцы, ого! У іх парладачак, не тое што ў нас. Хадзіў я нядаўна ў камендатуру, да самога Вейса дабраўся. Вельмі субцірны афіцэр. На нашага губерлнатара, царлства яму нябеснае, падобны...

Міхась не стаў слухаць, чым упадабаў гэты картавы барадач нямецкага каменданта Вейса. Адшукаў Астапа Дзялендзіка ў зале. Той сядзеў у другім радзе, пазіраючы

на пустую брудную сцэну з трыма чорнымі кулісамі і вялікай трыбунай, з якой сарвалі герб і пяўмела зафарбавалі тое месца цямнейшай фарбай.

— Чаго вы, дзядзька, так блізка селі? — запытаўся Міхась.

— Вочы слабыя, а новае начальства хочацца дабранька разгледзець.

— Можа, лепей далей сесці, не люблю на віду тырчаць.

— І то праўда...

Яны забраліся на сярэдзіну залы. Калі абое ўмасціліся ў нязручныя крэслы, Міхась пажартаваў:

— Тут не так небяспечна... А што, калі пад сцэну бомбу падклалі?..

Астап успрыняў жарт усур'ёз.

— А што, якраз могуць падкласці. Мне адзін чалавек з Лучосы казаў, у іх мост падарвалі.

— Партызаны?..

— Каб зналі, што ты пацікавішся, мусіць, перадалі б, хто і чаму зрабіў.

Дзялендзік ёрзаў на крэсле, яго цікавіла ўсё: і людзі, што заходзілі, і беднае ўбранства залы з партрэтам Гітлера.

— Чаго вы, дзядзька, круціцеся?

— Дужа цікаўлюся,— узрадаваны, што можна пагаварыць, пачаў Дзялендзік.— Анцірэсна, чаго яны нас сабралі? Ты як думаеш?

— Указанні будуць даваць...

— Мелка арэш, хлопча. Я, Ланкевіч, у палітыцы сабаку з'еў. Мне, па маёй галаве, наркомам быць, няйначай. От толькі граматнасці недахват. Начальства языком менціць, калі справы ў яго кепска ідуць. Глядзі, дрэнны старшыня калгаса брэша, выкручваецца. Хоць у гэтым ды яго-ны верх. Так і тут. Недзе нешта сарвалася, таму і збіраюць нас. Каб ішло ў іх, як задумалі, хрэн яны з намі гаварылі б.

Па праходу між крэслаў мітусіўся нізкі вяртлявы чалавечак, махаў над галавой званочкам. З калідора і бакавых пакояў у залу хлынуў натоўп. Вузкія філёнчатыя дзверы прапускалі сюды толькі па адным — зала напаўнялася паволі.

Вяртлявы чалавечак спыніўся ля Міхася. Цяпер быў добра відаць яго твар, пасечаны дробнымі маршчынкамі, з сіняватымі, як налітымі вадой, капшучкамі пад вачамі

і вострапькім падбародкам, на якім рос рэдзенькі, як у скапца, пушок. Чалавек выклікаў брыдлівую агіду.

Міхась раптам адчуў на сабе чужы дапытлівы позірк. Яго страсянула падсвядомае пачуццё самаахövы, прымусіла адразу адарваць позірк ад брыдкага чалавечка, пашукаць тое, што трывожыла. Ён сустрэўся позіркам з бялявай дзяўчынай. Яна адразу ж перастала глядзець на яго, загаварыла з нейкім вайсковым чынам, але не стрымалася і, як бы незнарок, зноў кінула на Міхася пранізлівы позірк.

Цяпер Міхась пазнаў яе. Адчуў, як адразу ўзмакрэлі ногі. Яна — тая дзяўчына, з якой сустрэўся пры адступленні, калі напароўся на нямецкі дэсант. Дзіўныя яе паводзіны яшчэ тады выклікалі ў Міхася здагадку, што дзяўчына нямецкая шпіёнка. Цяпер здагадка пацвярджалася. Дзяўчына размаўляла з немцамі, як са сваімі. Ці запомніла яна яго? Мабыць, запомніла!.. А ён, дурань, тады вываройваў перад ёй душу наспод. Цяпер яна прыпомніць яго размовы!..

З-за сцэны ў залу выйшаў яшчэ адзін афіцэр, высокі і бялявы. Дзяўчына, заглядаючы яму ў вочы, усміхалася шчаслівай, бесклапотнай усмешкай і зноў паглядала на Міхася, быццам хацела ўпэўніцца, тут ён ці ўжо збег. Міхась праклінаў сябе: на чорта было ехаць.

Скапцаваты чалавек нясмела падкраўся да вясёлай купкі чыноў, як той пабіты сабака. Дзяўчына першая пайшла за сцэну, за ёю афіцэры. Чалавек лыпаў вачамі, потым зноў падняў над галавой званочак.

Зала запоўнілася дарэшты. Пуставалі толькі пярэднія два рады крэслаў. Міхась падумаў, што, мабыць, не аднаму яму прыйшла думка пра бомбу.

На сцэну вынеслі стол, накрылі зялёным сукном. Тады аднекуль з-за куліс выкаціўся на крываватых нагах лысы прыгорблены чалавек з шэрай папкай пад пахай. Ён сеў за стол, начапіўшы на гарбаты нос акуляры, гартаў паперкі.

Побач з Ланкевічам пуставала крэсла, бо Міхась паклаў на яго шапку і людзі думалі, што яно занята. Загледзеўшыся на лысага, Міхась не заўважыў, як побач з ім паявіўся паліцэйскі з белай павязкай на рукаве. Пачуў толькі тады, калі паліцэйскі паклаў шапку яму на калені. Міхась здрыгануўся: «Цяпер усё. Трэба было раней уцякаць».

— Ты з якой абшчыны?

— З Кавалёў мы,— паспяшаўся адказаць Астап Дзялендзік.

— А ты хто будзеш?

— Я — стараста.

— А ён?

— Няграматны я, дык во ўзяў хлопца, можа, запісаць што трэба, а я не магу.

Міхась ліхаманкава шукаў адказу на нейкія выдуманыя ім самім пытанні. Усё залежала ад таго, што ён скажа паліцэйскаму. Але той запытаўся пра самае простае, да чаго Ланкевіч якраз не рыхтаваўся.

— Тваё як прозвішча?

— Міхаіл Ланкевіч,— перапалохана адказаў Міхась.

— А-а-а. Ну, сядзі. Гэта добра, што ты прыехаў са старастам. Нам, маладым, цяпер дарога шырокая.

Ён устаў і пайшоў, пакінуўшы Міхася разгубленым, прыніжаным гэтай грубай паліцэйскай размовай. Усё складалася як найгорш. Не было сілы падняцца і пайсці, пабегчы адсюль. Ды і ці ўратуешся?

— Чаго ён прычапіўся? — запытаўся Дзялендзік.

Міхась толькі махнуў рукой: пасля.

Пругкая цішыня павісла ў зале. У ёй раздаліся гулкія крокі. На сцэну выйшаў высакаваты выпешчаны чын з той бялявай дзяўчынай, якой так баяўся Міхась. За імі цягнулася світа цывільных.

Старшыня ўправы Стоцкі ўрачыста аб'явіў:

— Слова прадастаўляецца гебітскамісару нашай акругі пану Ота Віцінгу.

Камісар гаварыў адрывіста, злосна, нібы падаваў каманду.

— Камісар гаворыць,— не спяшаючыся перакладала бялявая,— што германскія войскі, перамагаючы супраціўленне бальшавіцкіх армій, паспяхова наступаюць на Маскву і Ленінград. Рускае бездарожжа не дае магчымасці германскаму камандаванню ўвесці ў бой сваю магутную тэхніку. Але вайна хутка скончыцца. Пан камісар патрабуе захоўваць дысцыпліну і парадак, памагаць германскай арміі. Вам хутка дадуць зямлю, соль, гарэлку, махорку, запалкі. Усіх, хто не выконвае загадаў камандавання, мы будзем караць жорстка і бязлітасна.

Камісар узяў са стала стаўбунаватую шапку. Прамова была закончана нечакана, і начальства за сталом разгубілася. Стоцкі штосьці сказаў перакладчыцы, тая камісару, камісар ёй. Яна гучна, на ўсю залу, пераявяла:

— Камісар кажа: трэба кідаць старыя прывычкі. Не гаварыць, а рабіць трэба.

Стоцкі паспешліва закрыў нараду.

Ехалі назад памалу. Спадарожны вільготны вецер дзьмуў у спіны. Калёсы падскоквалі на перавітай карэннямі дарозе, густы суглей ліпнуў да колаў.

— А віць як ён іх падсёк, сукіных сыноў,— узрадаваўся Дзялендзік, прыгадаўшы камісаравы словы.— Што ты думаеш, можа, і навядуць парадкі. Нашым во якая рука трэба — жалезная.

— Эх, дзядзька, а галоўнае вы і не пачулі. Немцы хваліліся, што Ленінград забралі, што армію нашу разбілі, а выходзіць — мана. Чулі, што казаў гэты камісар? Застралі немцы ў Расіі.

— А віць ты праўду кажаш.

Міхась вярнуўся дамоў радасны: па-першае, яго не арыштавалі, па-другое, хоць што-небудзь даведаўся пра фронт.

## 9

Выцершы аб штаніны мокрыя рукі, Макар Сідаронак моўчкі ўзяў з рук пасыльнага паперку, мацюкнуўся, чытаючы кароткія, як загад, словы: «...з'явіцца ў валасную ўправу!»

— Ды ты не сярдуй, не з'ядуць, жывы астанешся. Раз мяне прыслалі, значыць, вельмі патрэбны.

— Мне па ўправах няма калі гойсаць. Там сядзяць тыя, хто прывык лёгкі хлеб есці, а я з мазаля еў.

— Дзівак чалавек,— усміхнуўся пасыльны.— Маё дзела цялячае... Садзіся во ў брычку, паедзем, а то заўтра пехатой папруць.

— Ладна, не пужай. Я — пужаны.

Макар не спяшаючыся пайшоў у хату, на парозе павярнуўся да пасыльнага:

— Ты пастой тут. Я зараз. Харчы сабяру, халера ведае, чаго клічуць.

Маці чакала яго.

— Чаго ён прыехаў? — запыталася дрыжачым голасам.

— З управы прыслалі. Сабяры чаго-небудзь у дарогу.

— Не ехаў бы, сыночак.

— Раз клічуць, трэба ехаць. Відаць, ад уласці і пад зямлёй не схаваешся.

— Баюся я, каб Каршукоў чаго не пагаварыў. Тваю неяк відзела. Кажа: «Усё роўна Макар за майго Стася сваёй галавой адкажа». Не саромеецца. Яе Стась!.. Эх, сынок, сынок, казала я табе тады, не бяры яе замуж — не паслухаў.

— Позні розум харошы — усе знаюць. А пра Ядвігу ты мне не напамінай. Крышка.

Маці паспешліва засоўвала ў торбу хлеб, сала, цыбулю, гуркі, употай плакала. Змалку Макар быў упарты, а душой як чыстае дзіця — кожны пакрыўдзіць. Цяпер упартасці прыдалося. Казала аддаць Ядвісі Сабіну — не паслухаўся. От і спаганяе злосць баба. Паспрабуй убеража ся ад яе і Каршукова, калі ходзіць па вёсцы чутка, што старшыня выдаў нейкіх парцейцаў і заадно цяпер з немцамі. І каровак таму прыгнаў. Такія людзі што хочаш зробяць — убярэжы ад іх, царыца нябесная.

— Ты ўжо, сынок, не кажы нічога і ні пра кога,— прасіла маці Макара.

Той пахмура перабіў яе:

— Сам вучаны. Бачыў такіх, што людзей тапілі, ды першыя і загінулі.

Не развітаўшыся, выйшаў у сенцы.

Ехалі на брычцы спіна да спіны. Пасыльны падганяў лейцамі чорную танканогую кабылу. Брычку ліхаманіла па разбітай, калдобістай дарозе. Абодва маўчалі. Сідаронак стараўся ўгадаць, навошта спатрэбіўся ён управе. «Не даюць, сволачы, пажыць спакойна. Пашлю іх к сякой-такой матары,— думаў ён, набіраючыся ўпартасці.— Што яны мне зробяць? Я, можна сказаць, ад савецкай уласці спакою не меў. Дык хоць цяпер няхай дадуць пажыць, як мне хочацца».

Як яму хочацца жыць, Макар і сам не ведаў. Спакойна — гэтым усё сказана. І яшчэ, каб Ядвіся адумалася, вярнулася да яго. Хоць і казаў маці, што забыўся на яе,— хлусіў. «Не было такой бабы ў свеце, як яна, і не будзе. Ах, Ядвіся, Ядвіся, хіба я не любіў цябе, не дагаджаў? Бывала, нанач ногі мыў, і ўсё таму што сказала аднойчы: «Штой-та ад цябе гноем пахне? Ці вады няма ногі памыць?» Мыў, стараўся. Цьфу ты, дурань!»

Брычка лёгка падкацілася да чырвонай драўлянай будыніны. Пасыльны выкуліўся, накінуў лейцы на стары калок.

На высокім ганку ўправы двое ў чорных паліто з белымі павязкамі на рукавах. «Паліцэйскія»,— здагадаўся Сідаронак.

— Прывёз? — запытаўся адзін з іх з тоўстай бычынай шыяй, быццам не бачыў, што Сідаронак — вось ён.

— Прывёз,— неахвотна адказаў пасыльны.

Макар выцягнуў з воза торбу, прывычна закінуў на плячо.

— Куды мне?

— Ідзіце, пан Сідаронак, да бургамістра.

Не разабраць, або паліцэйскія здзекуюцца, або ўсур'ёз завуць панам, як, бывала, засцянковая шляхта: хоць у лапцях, а пан.

Моўчкі прайшоў міма, ледзь не збіўшы торбай худога высакаватага паліцэйскага. Той вылаяўся ўслед.

Макар адчыніў першыя дзверы. Дужы шыракаплечы дзяцюк прыціскаў у кутку дзяўчыну. Яна хіхікала, адбіваючыся ад яго.

— Куды тут мне? Выклікалі...

Парачка спалохана разбеглася. Дзяўчына закрывала рукамі чырвоны, разгарачаны твар.

— А ты, хамло, чаго не стукаеш? Прывыклі ўрывацца, як у сваю хату. Хто выклікаў?..

— Хрэн іх ведае, хто выклікаў... Прыслалі падводу, я і паехаў.

— А-а-а, Сідаронак. Цябе бургамістр клікаў.— І, ужо ведучы Макара па калідоры, папрасіў: — Ты пра гэта, што бачыў, маўчы. Сам малады быў... Табе сюды. Пастукай спачатку...

За сталом, на два прасценкі, сядзеў бургамістр, падкручваў пышныя вусы. Падняўся, падаючы руку:

— Рад вас бачыць, Макар Лявонавіч, сядайце,— усміхаўся лісінай пяшчырай усмешкай.

«Бачылі мы такіх»,— думаў Макар, успамінаючы аднаго са следчых. Той таксама спачатку ўсміхаўся, а потым... Сеў, каб у другі раз не запрашалі. Было ў Макара мудрае правіла: рабі, што скажуць, але ў галоўным не паддавайся, тады выжывеш.

Бургамістр падводзіў размову здалёк, ка́паў на душу горкімі гарачымі словамі:

— Я, Макар Лявонавіч, многа пра вас чуў і нізка схіляю галаву перад вашымі пакутамі. Чалавеку, як Хрысту, усё належыць выцерпець. Вы свой цярновы вянок да канца неслі і таму пашану ад людзей заслужылі.

«Праўду кажа,— думаў Сідаронак.— Цярновы вянок на мяне Каршукоў усклаў. Такі вянок, што праз усё жыццё не забудзеш».

Слухаў бургамістра ўважліва, але зразумець не мог. Гаварыў той далей кругленькімі словамі. Здаецца, схапіў, а яно выслізне раптам, нібы бульбяная клёцка.

— ...Імператара Мікалая другога расстралялі. Думалі, без цара зажывём. Потым бога выракліся. А народу пастух патрэбны. Без пастуха статак разбрыдзецца па полі — не сабярэш.

Незразумелая прамова бургамістра мала кранала Сідаронка. Чакаў, калі той скажа, навошта ён, Макар Сідаронак, чалавек ціхі і ўжыўчывы, спатрэбіўся бургамістру. Бургамістр у сваю чаргу чакаў ад Макара нейкага слова ўдзячнасці ці хоць бы згоды.

— Цяпер зразумелі, навошта я вас паклікаў?

— Ніяк не магу ўцяміць,— прызнаўся Макар.

— Нам, Макар Лявонавіч, парадак нада ўстанаўляць. Немцы нам яго не ўстановяць. Вось так. І выклікаў я вас, каб прапанаваць месца ў паліцыі.

— На гэта я не магу пагадзіцца. У мяне маці хворая. Дачка. І зноў жа — гаспадарка.

— У нас ва ўсіх гаспадарка ёсць...

— Ды і не люблю: паліцыя, шмаліцыя. Адно знаюць, што гарэлку п'юць ды пратаколы строчаць. Мне па зямельнай часці жыць хочацца.

Макар падняўся, палічыўшы, што размова закончана: раз не згадзіўся, дык няма чаго дарэмна губляць час.

— Не, вы пачакайце,— спыніў яго бургамістр.— Вы за каго?

— Ні за каго. За сябе я.

— Вось і абараняйце сябе...

— Сябе я абараняю. А ў паліцыю мне няма ніякай вызвалкі ісці.

— Можа, падумаеце? У нас... Эй, Ганенка! — Ніхто не адгукнуўся. Бургамістр не па гадах порстка падбег да дзвярэй, яшчэ раз гукнуў нейкага Ганенку. Паявіўся той доўгі паліцэйскі, якога Макар ледзь не збіў з ног.— Пасадзі яго, Ганенка. Навошта чалавеку дарэмна боты таптаць, калі ў нас заўтра размова будзе.

Сідаронка заперлі ў халоднай, без мэблі каморцы з маленькім, галубіным акенцам. Ганенка доўга важдаўся з замком. Потым ягоныя крокі заціхлі ў пустым панурым калідоры.

«Бачыш ты яго, добранькім прыкідваўся»,— без асаблівай злосці думаў Сідаронак, развязваючы торбу.

Турма ці проста халодная, а есці трэба. Адкусваў зу-

бамі кавалак хлеба, потым сала. Як сэрца чула, што спатрэбіцца. Сядзеў бы цяпер галодны.

Разбудзіў яго знаёмы ўжо Ганенкаў голас:

— Эй ты, спіш, як у жонкі пад бокам.

Сідаронак прахапіўся. Сволачы, паспаць не даюць! Мулкімі спрасонку вачамі нядобра паглядаў на доўгага, як жэрдка, Ганенку.

— У цябе, можа, што закусіць знойдзецца? — пытаўся Ганенка, абапіраючыся па вушак дзвярэй.— Гарэлкі прынеслі, а закускі ні драбка.

Макар дастаў з торбы хлеб, цыбулю, гуркі, падаў паліцэйскаму, потым падумаў-падумаў, выцяг кавалак сала. Ганенка трымаў закуску ў прыполе, чамусьці марудзіў:

— Слухай, хадзем да нас. Яшчэ выспішся.

Пілі ўчацвярых: Ганенка, Сямён Агрызка, Яўхім Забуцька — паліцэйскі з бычынай шыяй — і Макар Сідаронак. У фарфоравым сподачку цьмяна гарэў кнот, расплаўлены стэарын ціха патрэскваў.

Сідаронак ахмялеў ад першай шклянкі, але развагу не страціў. Вялая п'яная размова то затухала, то ўзгаралася з новай сілай. Ганенка нечага падвуськваў Забуцьку, і той з п'янай настойлівасцю даказваў, што ненавідзіць «цілігентаў», яўрэяў і камуністаў.

— Мне цілігенты во як насалілі,— набычыўшы шыю, крычаў ён Ганенку.— Бывала, на танец запросіш — морду крывіць. Яўхім ёй не пара. Я дакажу ёй, хто каму пара.

— Яна і цяпер на цябе коса глядзіць.

— Хто? Маруська? Хочаш, я заўтра яе вазьму?

— Ну, гэта як сказаць. Хвалішся!..

— Я? Давай цяпер пойдзем, пабачыш.

— Пабачу, як яна цябе выганіць.

— Ды ты што? Забуцьку не знаеш? Я на кім хочаш жанюся. А то ўчыцелька... Цьфу! Ды няхай яна слова скажа, я яе заўтра немцам справаджу.

— Пад прымусам можна заставіць сабаку гарчыцу лізаць. Анекдот знаеш? Памаж сабаку гарчыцай пад хвастом — усю выліжа.

— Ды ну вас, надакучыла. Вып'ем.— Агрызка наліў шклянкі, першы выпіў да дна.

Потым Агрызка з Забуцькам спявалі блатныя, чутыя Сідаронкам у турме песні. А Ганенка забаўляў размовамі Сідаронка:

— Ты, дзівак чалавек, не брыкайся. Я табе шчыра кажу. Бургамістр, брат, калі што надумаў, дык не пераспра-

чаеш. Знаеш, Макар, абух бізуном не рассячэш — так і тут.

— А ён хто, гэты бургамістр?

— Псіх,— коратка і ясна адказаў Ганенка.— Убіў сабе ў галаву пасадзіць на царства нейкую дачку царскую. Звіхнуўся поп, вось і нясе акалесіцу. На які хрэн мне тая царыца? Але лепей не пярэч. Знаеш, як у нас кажуць: не варушы кучу, бо засмярдзіць. Работа ў нас не пыльная. Давай прыстройвайся, весялей будзе...

Макар не адказаў.

Потым спалі ўчацвярых на падлозе. Макар доўга не мог заснуць. Слухаў, як скрыгоча зубамі Забуцька, як сапе, чмокае губамі Агрызка. «Уцячы хіба? — думаў ён.— Але куды ты ўцячэш? Свет вялікі, а схавацца няма дзе. І змагацца з няпраўдай няма як. Зломяць. Тут трэба быць альбо дубам, альбо ніцай лазой. Лаза гнецца, а паспрабуй зламі яе!»

Раніцай Агрызка збегаў у вёску, прынёс яшчэ дзве бутэлькі самагону. Пахмяліліся. Галовы ўжо не балелі, наліліся свінцовым цяжарам.

— Ну, дык што надумаў? — запытаў Ганенка.

— Мабыць, і праўда: абух бізуном не перасячэш.

— Ну і лады,— ляпнуў яго па плячы Ганенка.

## 10

Тышкевіч няблага ведаў Падзвінне — скалясіў яго ўдоўж і ўпоперак. Працаваў не толькі ў самым Падзвінскім раёне, а і ў двух прылеглых: Красынскім і Ноўкаўскім.

Некалі дарога да Шчаўбоўскага бору не заняла б і аднаго летняга дня. Цяпер і дзень быў карацейшы і дарога расцягнулася: нацянькі не пойдзеш. Трэба абмінаць вёскі, рабіць заячыя петлі, выведваць, разведваць, прыглядацца ды прыслухоўвацца. Вайна ўскладніла ўсё — падарожжы таксама.

Самарос раіў прабірацца да Шамшуры па начах. Тышкевіч не пагадзіўся — на лбе ў іх не напісана, што партызаны. Бацька з дачкой вяртаюцца ў вёску Лапічы пад Ноўкай.

Лапічы гэтыя Тышкевіч запамятаў на ўсё жыццё.

На прыканцы дваццатых гадоў настаўнічаў там у аднакамплектнай школцы — чатыры класы на аднаго настаў-

ніка ў адну змену. Днём вучыў дзяцей. Увечары — вёў лікбез.

Было і так: правучыўшыся гады два-тры ў дзённай школе і дасягнуўшы жаніхоўскага ўзросту, вучні пераходзілі з дзённай школы на лікбез і ўжо там заканчвалі чатыры класы.

У той год зіма была снежная. Лапічы замяло па вільчыкі хат. Тышкевіч жыў, не выязджаючы з іх. На зімнія канікулы збіраўся паехаць дадому. Ды ўсё паляцела кумельгам.

Перад Новым годам гаспадар выпаліў лазню. Папарыцца з усімі Тышкевіч не паспеў — праводзіў рэпетыцыю драмгуртка. Але яму пакінулі і ваду і пару. Тышкевіч раскашаваў у лазні адзін, парыўся ад душы. Раптам здалося, нехта зайшоў у лазню. Азірнуўся — у парозе стаяў голы чалавек з абрэзам у руках. У Тышкевіча так і ёкнула сэрца — бандыты!..

Чалавек пасунуўся да палка, загадаў Тышкевічу: «Злазь, мяне парыць будзеш. Ды глядзі, не жартуй — прышыю. Мамонька не любіць жарты».

Значыць, сам важак банды зялёных Мамонька. Ён і праўда не любіў жартаваць. Забіваў усіх, хто сустракаўся яму на шляху. Тышкевіч саскочыў з палка і раптам, забыўшыся на Мамонькаву перасцярогу, нібы той вугор, выслізнуўся з рукі бандыта, кінуўся наўцёкі па снезе. Мамонька разоў шэсць стрэліў па ім, але бегчы ўслед не адважыўся. А Тышкевіч дабег да хаты, сарваў са сцяны гаспадарову стрэльбу і зноў кінуўся на двор. І толькі тады, калі выстраліў у бок лазні з абодвух ствалоў, успомніў, што ён голы... Мамоньку забілі ў той жа год. А ён адлежаў канікулы з запаленнем лёгкіх.

Выправіліся яны пасля абеду, каб нацямку пераскочыць цераз шашу, а там ужо недзе заначаваць. Гадзіны праз дзве з захаду насунуліся сівыя хмары і на зямлю густа аселі прыцемкі; усё злілося, сплюснулася да абмежаванай іхнім зрокам прасторы. А яна крокаў дзесяць, не больш.

Ісці ў такую цемрадзь было рызыкоўна. Прайшоўшы кіламетры чатыры, Іван Анісімавіч прапанаваў перасядзець ноч у лесе.

Ён адчуваў, што яны заблудзіліся, але не хацеў непакоіць Фаню. Прыйдзе раніца — разбярэцца...

Яны зашыліся ў маладым хвойнік, сярод якога расла

калматая яліна. Ляжалі на зямлі спіна да спіны. Сон змарыў толькі пад раніцу.

Прачнуўся Тышкевіч пад пошум дажджу. Скрозь густую заслону туману прабівалася на зямлю скупое світанне. І тады чорная сцяна лесу, што мроілася ім наперадзе, аказалася рэдкім альшэўнікам. Недзе за ім гулі машыны.

— Ты, Фаня, пачакай, пакуль я разведаю, дзе мы.— Тышкевіч пайшоў напрасткі, дзе гулі машыны.

Яго доўга не было. Шум машын замёр удалечыні. Адно лапатаў па голых кустах дождж.

Недзе, як побач, застрачыў аўтамат. Двайным стрэлам — пік-паф — біла нямецкая вінтоўка. Ламаючы кусты, падбег Тышкевіч.

— Уцякай!

Ён бег наперадзе, грузна гопаючы ботамі. Гоп-гоп, гоп-гоп. Фаня не адставала. За раўчуком, на ўзгорку, у ліпавых прысадах туліўся разбураны хутарок. Ад яго застаўся толькі маленькі катушок з паветкай на двух дубовых слупах і напалову разбураны склеп.

Пагоні не было. Ды немцы і не вельмі ганяліся па кустах за адзінокім чалавекам. Іван Анісімавіч вырашыў перадняваць тут. Самарос казаў праўду — трэба ісці ноччу.

Марудна цягнуўся панылы, змрочны дзень. Часам, калі набягалі хмары і цямнела, здавалася, надышоў чаканы вечар. Потым зноў святлела, і нават здавалася, што вось-вось выгляне сонца.

Не дачакаўшыся змяркання, яны рушылі ў дарогу. Краем абышлі невялікі лясок. Мясцовасць тут была ўзгоркавая. Недзе справа, удалечыні, відаць былі вёскі. Тышкевіч трымаўся далей ад іх. У вялікай вёсцы хутчэй нарашся на паліцэйскіх або немцаў.

За бярозавым рэдкім гаем трапілі на палявую дарогу: дзве зарослыя травой каляіны з шырокім конскім следам пасярэдзіне.

— Рызыкнём? — запытаўся Тышкевіч.

Фаня моўчкі кіўнула галавой.

Дарога крута ўзбягала на пагорак, адтуль спускалася да неширокай рэчкі з жоўтымі чаротамі. На тым баку рэчкі ляпіліся пад горкай хат пяць у яблыневых садах. Ля крайняй мокнуў пад дажджом нераспрэжаны конь.

Тышкевіч з Фаняй перайшлі дашчэнту разбураны масток. Не спяшаючыся падымаліся ўгору.

З хаты выйшаў нейкі мужчына. Назіраў за імі. Мужчына, па ўсім відаць, п'яны. На тоўстай шыі вялізная галава, чорныя касмылі выбіваюцца з-пад насунутай набакір шапкі.

Яны былі крокаў за пяць, не болей, як з хаты выйшаў яшчэ адзін. На рукаве белая павязка.

Паліцэйскі!

Тышкевіч схапіў Фаню за руку, кінуўся не назад да рэчкі, а направа, дзе тырчалі рэдзенькія кусты.

— Ганенка, наперарэз ім бяжы. Стой! Страляю! — крычалі ззаду.

Тышкевіч вырваў руку з Фанінай.

— Правей трымайся.

— Стой, маць вашу!..

Азірнуўшыся, Тышкевіч убачыў, як напярэймы яму бяжыць другі, цыбаты паліцэйскі. Тышкевіч выхапіў з кішэні лімонку, на хаду вырваў чаку. Кінуў і сам упаў. Выбух скалануў зямлю. Іван Анісімавіч бачыў, як цыбаты паліцэйскі падагнуў у каленях ногі, выпусціў з рукі вінтоўку і, падаючы на бок, прыкрыў яе сабой.

«Ага, злавіў?» — узрадаваўся Іван Анісімавіч і, падхапіўшыся, пабег. І ўжо тады, калі дасягнуў лесу, пачуў нечалавечы крык Фані. Ён адразу пазнаў, што крычыць яна, пранізліва, на адной ноце.

Фаня ляжала ля куста, спрабавала падняцца і не магла. Ён падбег да яе. Паліцэйскія засталіся недзе на полі. Яны, мабыць, баяліся наблізіцца да лесу.

Тышкевіч схіліўся над дзяўчынай, расшпіліў ватоўку. Белая кофта пад ёй увачавідкі афарбоўвалася крывёй. «Усё,— кальнула вострая, як змяінае джала, думка, а следам другая, суровая, як усё ў гэтай вайне.— Каб адразу, уцёк бы, а так яе не кінеш».

Тышкевіч паспрабаваў узяць Фаню на рукі, яе цела было вельмі цяжкае. Ён неяк узваліў усё ж на плечы. Фаня крыкнула, роспачліва і гучна над самым вухам, і заціхла, толькі чамусьці хрыпела іікала. Увішная хада адбірала сілы. Пад цяжарам гнулася галава, і Тышкевіч амаль не бачыў, куды ідзе.

— А-а-а, папаўся, бандзюга! — пачуў ён узрадаваны крык.

Тышкевіч узняў галаву. Да яго беглі двое: той, з тоўстай бычынай шыяй, і яшчэ вусаты стары чалавек у карычневым капелюшы. Таўстаморды стукнуў Тышкевіча ў грудзі прыкладам, і ён упаў.

— Забуцька, не трэба. Гэта, па ўсім відаць, важная птушка,— і камусьці загадаў: — Сідаронак, гані каня сюды.

Іх везлі на брычцы траіх: накрытага плашчом мёртвага паліцэйскага, непрытомную Фаню і здаровага, не параненага нават, Тышкевіча. Бургамістр, Сідаронак, Агрызка і Забуцька пляліся пехатой.

Забуцька хваліўся:

— Я іх цёпленькіх узяў бы, а тут Ганенка выйшаў. Яны — драла. Пастраляць іх прасцей простага было, але ж я жыўцом хацеў узяць.

— Узяў!.. Ганенку забілі,— панура азваўся Агрызка.

— У вайне без ахвяр не бывае,— спакойна зазначыў бургамістр.— Тут, галоўнае, лёс такі. Не паехалі б мы сюды выпіць, гэтыя па свеце швэндалі б і, можа, не аднаго Ганенку забілі б. Ад лёсу нікуды не ўцячэш.

Апрытомнела пад дажджом Фаня. Стагнала. Забуцька спыніў каня.

— Знімай жыдоўку, усё роўна не давязём, а каню цяжка. Памажы, Агрызка.

— Яе ў шпіталь трэба,— сказаў Тышкевіч.

— Мы табе пакажам шпіталь. Самога за ногі сцягнем ды аб сасну галавой.

Тышкевіч не азваўся болей. Чуў, як паліцэйскія знялі Фаню. Настала глухая, мёртвая цішыня, потым ціхі, мабыць, ва ўпор, стрэл, другі, трэці.

— Жывучая...— чыйсьці далёкі голас.

Зноў паехалі. Ля ўправы паліцэйскія нечага доўга спрачаліся. Потым бургамістр загадаў:

— Павязуць Забуцька з Сідаронкам. Ды ногі яму звяжыце.

Рукі былі звязаны раней нечым калянымі вострым, што балюча рэзала скуру. Пакуль Забуцька падцягваў папругу, папраўляў хамут, Сідаронак вязаў ногі. Рабіў ён гэта неахвотна, як і заўсёды, прытрымліваючыся сваёй думкі: шчыраваць няма чаго, падзяка адна. Разы два абкруціў вяроўчынай боты, канцы сунуў пад сена. Потым прынёс яшчэ сена, накідаў наверх.

«Няхай,— падумаў,— цяплей чалавеку будзе. Мокры наскрозь. Яшчэ прастудзіцца».

Вінтоўкі таксама паклалі пад сена. І ім няма чаго мокнуць. Чысці пасля.

Тышкевіч ляжаў галавой між двух задоў: паліцэйскія сядзелі, звесіўшы ногі, спіна да спіны. Канём кіраваў За-

буцька. Паганяў пугай, бо пачынала ўжо цямнець, а да горада далекавата.

Іх абганялі машыны, пакідаючы на шашы сухаваты след, які адразу ж зацярушвала дажджом. Сідаронку астачарцела мокнуць, і наогул усё, што рабілася сёння, выглядала як нікому не патрэбнае забойства. «Наліха было Забуцьку чапляцца да гэтых двух. Ідуць сабе людзі і няхай ідуць. За нос яны не бралі. Дык не, прычапіўся — і Ганенкі няма. А магло і мяне не быць. Вельмі проста, пабег бы я — каюк. Памінай як звалі. І Ганенку чорт папутаў. Чаго бег наўздагон. А яшчэ сам вучыў мяне не вытыркацца. Чалавека на смерць цягне. За руку трымай — вырвецца. І гэтых цягнула. Дзяўчына дык зусім маладзенькая. Можа, і яўрэйка. Што яна мне зрабіла? Нічога. І Забуцьку не яна ў турму садзіла. Суд садзіў. І не ён законы прыдумвае, а нехта іншы, каго і ў вочы ніколі не бачыш. Адказваюць жа тыя, хто ні ў чым не вінаваты, як Ганенка і гэтыя двое, асабліва дзяўчына. Няхай бы лепей Забуцьку кокнуў. Гэты гатоў увесь свет перастраляць. А чаго? Падумаеш, адседзеў тры гады. Не трэба было лаяць яўрэяў і па мордзе біць. Мяне нізашто трымалі, а во не злую».

І раптам успомніў, як ноччу на могілках, калі вяртаўся дахаты, таіў у душы крыўду на Каршукова, на Ядвісю. Дзякуй, што маці тады ўтрымала, а пасля і сам сваім розумам дапяў, што кроў толькі раз панюхай — пацягне. Трэба жыць як набяжыць. Супраціўляцца няма сэнсу. Чалавечая кроў не бывае не адпомшчанай. А што, калі іх прымусяць расстраляць гэтага?

Макар спалохаўся. От, ліха, не мог адмовіцца. Няхай бы Агрызка вёз. Дык не, выкруціўся, знаем мы, які ён хворы. Да сакратаркі спаць пойдзе — вось і ўся ягоная хворасць.

— Яўхім,— пачаў ён няўпэўнена,— можа, здамо яго немцам на машыну? Спынім якую і здамо.

— Знайшоў дурня, такі тавар нейкім немцам здаваць. Знаеш, за такую штучку немцы шнапсу не пашкадуюць. Паглядзіш, прэміруюць.

Тышкевіч прыслухоўваўся да размовы. Паварушыў адной нагой, другой, адчуў, што вяроўка зусім разблыталася. «Што, калі ўскочыць і пабегчы? Дагоняць! Рукі звязаны моцна». Прыўзняў галаву. Забуцька не азіраючыся тыцнуў локцем проста ў нос.

— Ляжы, падла.

Заляскатаўшы коламі, павозка быстра кацілася з гары.

Ззаду вырастаў на ўзгорку лес, як з-пад калёс, здавалася Івану Анісімавічу, бо ён ляжаў уверх тварам.

Забуцька нацягваў лейцы, ледзь не клаўся спінай на Тышкевіча, трымаў ашалелую ад напору павозкі кабылу. За мостам чамусьці спыніў яе, хрыпата сказаў:

— Загваздку, хай на яе, згубілі, як толькі кола не саскочыла, дзіву даюся,— і, па праву старэйшага, загадаў:— Шыбуй, Макар, у кусты, нясі якую затычку.

Сідаронак саскочыў з калёс, выламаў тоўсты дубец. Прыгнуўшыся ля кола, грыз зубамі палку, бо яна не лезла ў жалезную вось.

Тышкевіч скоса пазіраў на вяршаліны алешніку, што тырчалі як з-пад зямлі ля самых калёс.

Забуцька, звесіўшы ногі, сагнуўшыся, ледзь трымаўся на самай градцы калёс. Іван Анісімавіч бачыў яго выгнутую крутую спіну.

— Эх ты, галава, не мог танчэйшы прут зламаць,— лаяўся ён на Сідаронка.

Той нешта буркнуў.

«Цяпер ці ніколі»,— мільганула ў галаве шалёная думка. Наўкось чыркануў Забуцьку плячом, той кульнуўся пад калёсы, а Тышкевіч, ускочыўшы, як падкінуты спружынай, пабег, сарваўся ўніз. Там, на гары, нехта крычаў:

— Лаві яго.

Праз густату елак, якімі зарасло дно рова, убачыў чорную постаць на грэбені рова. Адступіў за елкі і, сарваўшыся, плюхнуўся ў ваду. Яна апякла, як варам.

Ручай быў неглыбокі, па пахі. Тышкевіч хацеў быў выбрацца з яго, але ўбачыў непадалёк падмыты бераг, пераплецены густой сеткай карэнняў. Пайшоў па вадзе, спатыкаючыся аб камяні. Баяўся ўпасці, бо ў вадзе нялёгка падняцца са звязанымі рукамі. Тачыўся галавой і нагамі пад чорную навісь берага. Недзе далёка трашчалі кусты, потым зусім блізка азваўся Забуцька:

— Ну скажы, як ён з такой кручы збег і шыі не звярнуў.

Недзе берагам прабеглі. З хлюпаннем падалі ў ваду ашмоткі зямлі. Падумаў: цяпер яго не бачаць. Трэба забрацца глыбей, каб і з таго берага не заўважылі.

Слізгаючы нагамі па абрыве, ён сяк-так ускараскаўся на тоўсты корань, падняў над вадой адну нагу, потым другую. Цяпер ён вісеў над ручаём. З гімнасцёркі падалі ў ваду звонкія кроплі.

Галасы зноў пачуліся побач, над галавой:

— Не мог ён, я табе кажу, далёка ўцячы. Недзе тут забіўся пад куст і дрыжыць, як заяц.

— Ты сабе як хочаш, а мне абрыдла.

— Не, будзем разам шукаць, пакуль не знойдзем.

— Ідзі ты, указчык. Я на такое не наймаўся.

— А ты на што спадзяваўся? Дудкі, трапіў у вараны, крычы, як яны.

Дробна ляскаталі зубы. Тышкевіч сціскаў іх, аж балелі сківіцы.

Лаючыся, паліцэйскія адыходзілі. Недзе загула машына, і далёкі, як з-пад зямлі, голас:

— Пойдзем машыну спынім. Немцы памогуць.

— Яны табе памогуць.

«Прывядуць немцаў, знойдуць»,— варухнулася ў Тышкевіча прыкрая думка.

Але не хапала смеласці выбрацца. Чакаў гулу машыны. Было ціха, як у сутарэнні.

Дрыжаў ад холаду і ад нервовай узбуджанасці. Балелі рукі і ногі, к горлу падступала надакучлівая ікаўка. Хацеў паварушыцца, але цела не слухалася. Яно было як чужое. Ледзь здолеў павярнуць галаву. Густыя прыцемкі туліліся над вадой.

Тады, не разважаючы больш, ён слізгануў з-пад абрыву ў ваду, зноў апёкся, аж захаланула сэрца, пайшоў па рэчцы, шукаючы адхонны бераг.

Выяснівала. Бледныя ў імглістым небе ціха гарэлі зоркі, далёкія адсюль, з рова. Ён ішоў, не разбіраючы дарогі, у той бок, дзе былі гэтыя дзве зоркі. У хадзе цяплела нагам, і толькі голая галава мерзла, аж калола ў скроні.

Роў цягнуўся бясконца доўга. І хмызнякі не адступалі, над самым ручаём чарнелі ў цемры, як страшныя няўклюдныя прывіды.

Потым было поле. А за ім свяціўся ўначы агеньчык. Тышкевіч баяўся, што агеньчык раптам патухне. Тады ён ужо не дойдзе. Агеньчык яшчэ падтрымліваў слабыя, на апошнім кананні сілы.

Перад вачамі плылі жоўтыя, аранжавыя кругі, засланяючы сабой кволы агеньчык. Тышкевіч спатыкаўся, падаў, апошнім намаганнем падымаў знячуленае цела і зноў соваўся, ледзь перастаўляючы ногі.

Дайшоўшы да адзінокай у полі будыніны, Тышкевіч абапёрся плячом на сцяну, хрыпла дыхаў. Хацелася ўпасці тут і ляжаць, быццам прыйшоў канец падарожжу.

Пайшоў, трымаючыся сцяны, убачыў дзверы, грукнуў у іх ілбом.

— Хто там?

— Адчыніце,— і ўпаў. На большае сіл не хапіла.

Ён ачнуўся ад гарачай цеплыні і болі ў руках. Вочы ўбачылі падлогу і дзве пары ног: жаночыя і дзіцячыя. Пакруціў галавой, каб разгледзець, дзе ён і што з ім робяць.

— Пацярпіце, Іван Анісімавіч, галубочак, пацярпіце.

Да болю знаёмы, родны голас. Дзе ён? Хто гэтая жанчына? Маша! Жонка!

— Пачакай, мама, я пілкай.

— Хутчэй, сынок.

Не, не Маша. Хто ж тады? Ён пакутаваў, што не можа здагадацца, хто гэтая жанчына. Хлопчык прынёс тоненькую пілку.

Пякучы, нечалавечы боль праціnaў цела. Тышкевіч кусаў перасмяглыя скрываўленыя вусны. Здагадваўся, пілуюць на руках дрот, якім звязаў яго паліцэйскі. Крыкнуць бы на ўсю моц, каб заглушыць боль. Нельга! Цвярозая развага перамагла гэтае неадольнае жаданне закрычаць.

Рука, як плётка, раптам сарвалася з-за спіны, і ўжо іншы боль, не пякучы, а востры, закалоў у пальцы і локаць. І не было сіл падняць руку. Ён толькі ўбачыў, як самі варушацца яго пальцы.

Цёплыя мяккія жаночыя рукі памаглі яму сесці. Пры цьмяным святле газоўкі на яго глядзела сіваватая змораная жанчына з дзіўна маладым тварам.

— Не пазнаяце, Іван Анісімавіч? Мікольскага памятаеце?

Тышкевіч яе пазнаў, але ўсё тое, што было звязана ў яго ўспамінах з прозвішчам Мікольскі, не дазволіла яму прызнацца адразу.

Многа ў свеце сцежак, а размінуцца на іх з чалавекам няма як. І бывае так, што зусім нечакана сустрэнеш таго, каго менш за ўсё хацеў бы цяпер бачыць.

Сцяпан Пятровіч Мікольскі! І тое выступленне, даўно ацэненае як непрадуманае, з якога былі зроблены такія крутыя вывады. Тут ні хвіліны нельга заставацца...

Ён паспрабаваў падняцца. Яго хістала, вяло ў бакі, і ён зноў сеў. Хацеў успомніць, як звалі жонку Мікольскага. Не мог. У галаве гуло, думкі скакалі, блыталіся. «Грамадзянка Мікольская, мы не можам вам даверыць выха-

ванне дзяцей». Даверыць. Праверыць. Паверыць. Не верыць. Гуло ў скронях.

— Вам пераапрануцца трэба,— сказала жанчына і, мабыць, думаючы, што ён саромеецца зняць пры ёй гімнасцёрку, узлавана крыкнула: — Кіньце вы цырымоніцца! Іван Анісімавіч цяжка працягнуў апухлыя сінія рукі.

— Божа мой, што ж я? Віця, дамажы дзядзьку раздзецца.

Худзенькі, круглатвары, як бацька, Віця сцягнуў з яго гімнасцёрку, штаны, бялізну, памог надзець цёплую сухую вопратку, напэўна, бацькаву.

Як у сне, Тышкевіч піў гарачы чай і нейкія вялікія белыя пілюлі, горкія на смак. А можа, яму здавалася, што горкія, бо ўсё было горкае.

Яго паклалі на печы. Нечым націралі, потым накрылі ватнай коўдрай, і ўсё патанула, растварылася ў забыцці.

Раніцай ён прачнуўся з пустой галавой і нясцерпным шумам у вушах. Жанчына стаяла ля печы, пазіраючы на яго зблажэлымі за ноч вачамі:

— А я так і не заснула, Іван Анісімавіч.

Цяпер ён успомніў, як яе завуць. Вера Паўлаўна. Як у Чарнышэўскага — Вера Паўлаўна. Імя здалося яму надзіва мілагучнае і прыгожае. І ён з ахвотай вымавіў услых:

— Я пайду, Вера Паўлаўна. Я ўсё разумею.

— У вас гарачка. Вы ўсю ноч трызнілі. Я вам малака з мёдам прынясу.

Яна пайшла. Тышкевіч паспрабаваў сесці. У галаве закружылася, і ён упаў на падушку. Жанчына паявілася зноў.

— Я вельмі баюся, Іван Анісімавіч, не давядзі бог знойдуць вас. За Віцю баюся.

Яна падала кубак гарачага малака. Ён нясмела ўзяў яго з рук, сказаў:

— Я зараз пайду. Я ўсё разумею, Вера Паўлаўна.

— Куды ж вы пойдзеце хворы? Піце ўжо. Я вас за печку схаваю. Тут жа немцы на дарозе, пост у іх. Часам заходзяць.

Апякаючы рот, ён піў малако. А яна стаяла перад ім, сашчапіўшы рукі.

— Ці злезеце самі?

Ён пасунуўся на край, дрыжачымі нагамі шукаў лаўку і ніяк не мог знайсці. Пальцы драпалі гладкую чарэнь печы, не маючы сіл утрымаць цяжкае цела.

Вера Паўлаўна падхапіла пад рукі, павяла ў кухню.

— Лезьце во сюды,— паказала яна на цёмны вузкі лаз між сцяной і печчу.— Толькі пастарайцеся не спаць, а то зноў пачняце трызніць. Мы пасцеражом вас, не бойцеся, Іван Анісімавіч.

Горкае пачуццё нейкай сваёй віны, найвялікшай удзячнасці і невыказнай пяшчоты было ў Івана Анісімавіча. Ён не ведаў, як выказаць тое, што адчуваў, што раптам нахлынула ў сэрцы. Узяў яе рукі, пацалаваў дрыготкімі вуснамі.

— Іван Анісімавіч, што вы!..

— Век не забуду вашай дабраты,— не хаваючы слёз, сказаў ён.

Лежачы ў цесным закутку, Тышкевіч прыслухоўваўся, як тупае па хаце гаспадыня, думаў, як у сне:

«Якія мы жорсткія! Жорсткія! І баязлівыя. Яна во не баіцца. А чаго мы баяліся?.. Чаго? І ці баяліся? Не. Мы ненавідзелі. Але ж яна не вораг. Яна — наш чалавек. Тады што ж адбылося? Вораг — Мікольскі. Шпіён і вораг! А яна — наша. Яна любіла ворага. Як яна магла любіць ворага? Не знала? Не, казала, што знала. А калі Мікольскі не вораг? Хто Мікольскі? Паліцэйскі. У яго вялікія вусы, як у Будзённага. Важная птушка! Я — птушка. Падняцца б да дзвюх зорак. Якія яны гарачыя. А рукі шурпатыя. Чаму шурпатыя рукі?.. Кроў. Фаніна кроў на іх. Мы ўцячом, Фаня!..»

Ён зноў трызніў, а ўшчэнт перапалоханая Вера Паўлаўна хадзіла па пакоі.

— Сынок,— пазвала яна Віцю,— збегай у Хацямлю да Кацуры. Скажы, каб прыйшоў пад вечар. Нічога больш не кажы.

Віця пабег, накінуўшы нейкую світку. Вера Паўлаўна засталася адна. Тышкевіч трызніў, крычаў. Яна разабрала завал, расштурхала Івана Анісімавіча, прымусіла выпіць аспірыну. Але ўседзець у хаце не магла. Замкнула дзверы і пайшла ў поле.

І там не знаходзіла месца. Прайшлася паўз чыгунку. У бункеры немцы спявалі песні. Гэта крыху супакоіла яе. Подбегам ішла дахаты. Прыслухалася, ціха. З бояззю заходзіла ў хату. «Калі памёр, тады што будзе?» Кінулася да запечка. Тышкевіч спаў.

Непрывычна марудна гаснуў кароткі дзень. Апускаліся на зямлю асеннія прыцемкі. Нарэшце прыйшоў Кацура. Бачком улез у дзверы, абтрос мокрую шапку.

— Я ўжо ўсё знаю, Вера Паўлаўна. Віця па дарозе сказаў. Ну як ён?

Вера Паўлаўна плакала. Напружаныя нервы здалі.

Тышкевіч праз дрымоту чуў нечы чужы голас. Але ён не хваляваў яго. Было хораша гойдацца на хвалях, чуць людскія галасы, далёкія, ласкавыя. Кагосьці суцяшалі, упрошвалі. Потым па вачах ударыла яркае святло.

— Як вы тут? — Голас чужы, мужчынскі.

— Як у бога за пазухай,— жартаваў ён, чамусьці вырашыўшы, што гэта спадабаецца незнаёмаму.

— А мяне вы пазнаяце? Кацура я...

Тышкевіч напружваў памяць. У свінцовай галаве ніводнага пробліску.

— Хадзіць вы можаце?

Ён прамаўчаў. Навошта хадзіць, калі так добра ляжаць, пагойдвацца. «Ага, я ў гамаку ляжу, а Маша па піва пайшла».

— Іван Анісімавіч, вам трэба пайсці. І Вера Паўлаўна баіцца. Не дай бог немцы — яе першую расстраляюць.

«Вера Паўлаўна! Мікольскі! Мне трэба ісці хутчэй. Яна добрая, слаўная. Я пайду, абавязкова пайду».

Сон, як ліпучае павуцінне, закрываў павекі. Іван Анісімавіч ледзьве перамог яго, памалу выбраўся з запечка. Стаяў на кволых нагах, разглядаючы незнаёмага чалавека.

— Нам трэба ісці, Іван Анісімавіч. Тут недалёка, вёрст пяць. Я памагу вам.

— Добра. Я сам хацеў... Пойдзем.

Яму далі нейкі дзіравы плашч, вялікаватую шапку. Трымаючыся за сцяну, выйшаў на вуліцу.

Дыхаць стала вальней. Паволі прыходзіў да памяці.

— Асцярожна, Лёня.

— Не бойся, Вера.

І яны пайшлі ўдвух, абняўшыся, як хлапчукі.

## 11

У горадзе на сценах моклі пад дажджом нямецкія загады: кароценькія, як вінтовачны стрэл, і доўгія, як сляпая кулямётная чарга. І тыя і другія абяцалі людзям адно: смерць.

На пачатку акупацыі загадаў баяліся, цяпер прывыклі. Чалавек прывыкае да ўсяго, нават да смерці. Паявілася

ў людзей нейкая насцярожлівая зухаватасць: парушалі загады на кожным кроку і выхваляліся гэтым...

Прусава прыпынілася ў далёкай радні па бацьку на ціхай ускраіне з нямошчанымі, як у вёсцы, вуліцамі. З акна відаць яўрэйскія могілкі — чорныя рады каменных пліт без адзінага дрэўца.

Братавая — Пятро Прусаў прыходзіўся Веры Гаўрылаўне траюрадным братам — паліла ў печы, лаяла мужа, які ўчора набраўся спірту і цяпер дрыхнуў на ложку ці, можа, прыкідваўся, што спіць, каб не адказваць на лаянку.

— Усе людзі як людзі,— скардзілася яна Прусавай,— а мой гультаіна ляжыць увесь дзень, а вечарам шукае, дзе б выпіць. Другія вунь на чыгунку пайшлі, гандаль свой заводзяць... Жыць як будзем, п'яніца ты пракляты?

Яна пырнула чапялой коўдру. Пятро павярнуўся, як мядзведзь у бярлозе, высунуў з-пад коўдры чорную кудлатую галаву.

— Ну і язык у бабы. Казалі, што вечны рухавік нельга прыдумаць. Лепшага рухавіка, як бабскі язык, не знойдзеш.

— Я цябе чапялой як урэжу, дык заварушышся...

Вера Гаўрылаўна слухала сямейную сварку з адчуваннем той няёмкасці, якая бывае ў людзей несямейных. Перад вялікай смяротнай небяспекай, што вісела над краінай, сварка выглядала нікчэмнай. Няўжо людзі не ведаюць, што чакае іх? Можа, заўтра пастануць над агульнай магілай і тады зразумеюць, што дарэмна спрачаліся, ды будзе позна. А можа, яны прымірыліся з акупантамі?..

Калі Прусава ішла ў горад, ёй думалася, што ўсё будзе інакш. Пятро адразу ж загарыцца яе палымянай ідэяй, сам прапануе свае паслугі, бясстрашна пачне ствараць падпольныя групы. Хто ж будзе ствараць, калі не ён, механік, рабочы чалавек, якому савецкая ўлада дала ўсе правы. Паліну, яго жонку, Прусава думала скарыстаць для работы сярод жанчын. Калісьці Паліна працавала на трыкатажнай фабрыцы, бегала ў чырвонай хусцінцы, а на дэманстрацыі ішла ў калоне ў форменным трыкатажным з начосам касцюме. Уласны домік, гарод, садок, дзеці адарвалі яе ад рабочай сям'і. Але ж павінен быў застацца ў жанчыны рабочы, пралетарскі гонар.

Цяпер Прусава, паслухаўшы надакучлівую нудную сварку, чамусьці баялася пачынаць размову. Каб было

куды, здаецца, уцякла б адсюль. Знайшла б такіх людзей, думкі якіх, уся сіла нянавісці звернуты толькі ў адным кірунку — на барацьбу з немцамі. Перабіраючы ў памяці сваіх знаёмых, Прусава нечакана падумала, што сяброў у яе няшмат і тыя адступілі з Чырвонай Арміяй. Можа, і засталіся дзе незнаёмыя сябры, аднадумцы, але паспрабуй знайдзі іх...

Паліна збіралася на барахолку. Запіхвала за пазуху маленькія пакецікі з сахарынам, нейкія медыкаменты, мабыць, нарабаваныя ў аптэках, калі гарэў горад. У сумку паклала некалькі пачак махоркі, запалкі.

— Хто смялейшы, дык ходзяць у мену, а мой жа ўсяго баіцца,— зноў скардзілася яна Веры Гаўрылаўне.— І памяняць што знайшлося б. Усё я прыпасла. Ён жа так і праседзеў у бункеры. Людзі вунь нажыліся за вайну. Магазіны з разяўленымі дзвярыма стаялі — бяры. Дык пакуль я хапілася, людзі парасцягалі што лепшае. Адна дрэнь засталася...

Ад яе размоў муціла, як ад нечага брыдкага, і Вера Гаўрылаўна ледзьве стрымлівала сябе. «Перараджэнка! Сволач, хоць і радня. Сядзеў у ёй кулацкі дух, і ніхто не бачыў... Сляпыя мы былі. Міндальнічалі з такімі. Каб вярнулася назад ранейшае жыццё, такіх людзей пясочкам прадраіць трэба... Так шураваць, каб ад кулацкага духу і паху не асталося...»

На сцяне весела цікаў пяцірублёвы гадзіннік. Чорны маленькі маятнік скакаў сюды-туды, нібы не знаходзіў сабе месца ад соннай глухаты хаты. З інкруставаных саломкай рамак пазіралі на Прусаву прылізаныя, з вырачанымі вачамі маладыя і старыя людзі, нават яна сама з букетам нежывых кветак. На маленькім дыване, што вісеў над ложкам, ляжала на жываце, задраўшы ногі, тлустая голая дзеўка, сінімі, навыкаце вачамі глядзела на белых лебедзяў, што плавалі ў азярку. Усё выклікала агіду.

— Ты чаму не ў арміі, а дома? — як следчы, пачала допыт Прусава, калі Паліна пайшла.

— Тут, панімаеш, Вера, такая аказія палучылася. Спачатку нас у ваенкамаце тры дні нечага марынавалі. Потым пагналі па Ленінградскай шашы. Вёрст дваццаць прайшлі — назад папёрлі. Толькі ў горад прытопалі, зноў каманда павярнуць на Ленінградскую. Чыстая пацеха. Хлопцы хутка разбягацца пачалі. Што мы — як статак бараноў. Ні вінтовак, ні начальства. Прызначылі з нашых

жа, мабілізаваных, камандзіраў, дык яны самі ні чорта не ведалі.

— Каму дорага савецкая ўлада, той знайшоў і вінтоўку і армію. У дэзерціраў усягды так — нехта вінаваты.

— Дык яно і ваяваць не было сэнсу,— ухмыльнууся Пятро.

— Як гэта не было! З-за такіх, як ты, немец пад Масквой стаіць.

— Па мне ён і вайны не пачынаў бы. Што ж ты паробіш, калі здрада кругом. Сам камандуючы акругай — нямецкі шпіён. Дзе ўжо нам, маленькім, немца ўтрымаць.

Апошнія словы, поўныя горычы, прымусілі Веру па-іншаму глянуць на Пятра. Зняверыўся чалавек, таму і нясе, што ў галаву лезе. Гарачае бальшавіцкае слова яго запаліць!..

— У паніку, дарагі таварыш, кідацца — апошняя справа. Успомні, што ў гісторыі партыі пішацца. Белыя на Маскву з усіх бакоў наступалі. Дзянікін пад Тулай стаяў, а партыя на чале з нашымі правадырамі ў паніку не кідалася. І тады здраднікі былі. Той жа Троцкі, Бухарын, Каменеў — подлыя ворагі рэвалюцыі — нашу пралетарскую ўладу пад корань хацелі знішчыць. А партыя ўсё перамагла, усіх ворагаў сакрушыла. І немца мы разаб'ём. Усю фашысцкую нечысць вымецем і тых, хто памагаў ім або ўбаку стаяў. У палітычнай барацьбе сярэдзіны не бывае. Хто не з намі — той вораг. Так што ўлічы, Пятро.

— Цішэй ты, дзеці ж!

— Так што, Пятро, вырашай,— з кім ты. З намі ці з немцамі?

— Пра што ты кажаш, Вера? Я хіба генерал які, што ты мне ультыматум ставіш? Я просты, маленькі чалавек, механік.

— Дык ты што, за немцаў?

— От прычапілася... Немцы... Немцы!.. Прагоняць іх, зноў на завод пайду.

— Не, ты не выкручвайся, адразу скажы, будзеш з намі працаваць ці не?

— З кім гэта — з намі?

— З камуністамі.

— Нешта ў галаву не вазьму, што ты ад мяне хочаш. І чаго ты прыйшла?

— Слухай, Пятро, ты добра ведаеш, хто я і якія ў мяне могуць быць размовы. Я табе як свайму кажу, памажы мне стварыць падполле ў горадзе. Знаёмых у цябе многа.

Створым падпольную арганізацыю, лістоўкі будзем выпускаць, на платах клеіць, каб людзі ведалі, што ёсць у горадзе савецкая ўлада. Дыверсіі будзем рабіць. У партызаны людзей з горада накіроўваць.

У Пятра ад Верыных слоў круглелі вочы. Па спіне поўз халадок страху.

— Ашалела ты, ці што? Цябе ж на першым слупе павесяць.

— На вайне без ахвяр не бывае,— спакойна парыравала Вера.

— Ты і думаць перастань такое. За аднаго салдата немцы сто чалавек расстраляюць. Загаду хіба не бачыла? Хай ён сам лепей здохне, каб за яго, паршывага немца, столькі нашых людзей гінула.

— Спалохаўся? Усіх не перастраляюць. А калі і перастраляюць, дык лепей памерці, чым жыць на каленях.

— Ну не! Я яшчэ жыць хачу. Я яшчэ канца вайны дачакаюся. І ты мяне на такое не падбівай. Жывасілам у пятлю я не палезу.

Прусава памаўчала, аблізваючы языком перасохлыя вусны. Разанула надзіва простая думка: такому выдаць немцам — раз плюнуць.

— Што ты такой сволаччу акажашся, ніколі не думала...

— Ты маё становішча зразумей...

— У кожнага аб'ектыўныя прычыны знойдуцца. А ваяваць хто будзе? Ну ды чорт з табой. Адно ўлічы, я ад свайго не адступлюся. А дзеля гэтага мне жыць трэба. Так што твая кватэра за мной. І не ўздумай чаго дурнога. Я не адзінокая, і таварышы за мяне адпомсцяць — гэта раз. А па-другое, я і сама без зброі не хаджу. Шэсць па ворагах рэвалюцыі, сёмую сабе ў лоб.

— Ды мяне ж разам з жонкай і дзецьмі павесяць! Ты разумееш, што кажаш?

— Усё разумею, таму і папярэджваю.

Яна хадзіла па вузенькім пакоі, знешне спакойная. «Як жалезабетонная»,— падумаў Пятро. Ламаў галаву над тым, як выправадзіць такую нечаканую госцю. Жонка, дык тая адразу ўгадала. «Няспросту,— кажа,— Верка прыцягнулася».

Кароткі асенні дзень увачавідкі гаснуў. Праз цюлевыя гардзіны лезлі ў пакой непрыветлівыя гарадскія прыцемкі. Прусава ўсё хадзіла па пакоі, плануючы сваю дзейнасць. Перш за ўсё трэба ў чыгуначнікаў пабываць. Прымушу

Пятра каго-небудзь прывесці. Бач, як напалохаўся, калі загаварыла пра зброю. Цяпер ён як міленькі будзе памагаць. Актыўнага змагара з яго, вядома, не выйдзе. Дробнабуржуазны папутчык! Але Ленін вучыў, што на нейкім пачатковым этапе трэба блакіравацца з такімі папутчыкамі.

Несусветная мешаніна цытат, лозунгаў, фраз, чутых ад лектараў і дакладчыкаў, запаўняла Верыну галаву. Сваёй была толькі шчырая любоў да савецкай улады і крутая нянавісць да яе ворагаў. Гэтага, выходзіць, мала было, не хапала і партыйнай гнуткасці і ўмення разбірацца ў акалічнасцях.

Але сама яна не адчувала гэтага. Яе дзеянні здаваліся ёй самой узорам рашучасці і рэвалюцыйнасці.

Звечара яна доўга не магла заснуць. Чула праз тонкую перагародку, як шэпчуцца Пятро з Палінай. «Каб ён чаго жонцы не наплёў»,— ужо засынаючы, падумала яна.

Раніцай яна заўважыла, што братавая хмурыцца і чамусьці хавае вочы. Пятро, як толькі Вера ўстала, недзе прапаў. Дзве чарнявыя, як бацька, дачушкі ціснуліся да матчыных ног, чапляліся за падол і са страхам пазіралі на Веру.

— Ці хутка Пятро прыйдзе? — запыталася Прусава, не звяртаючы ніякай увагі на злавесную цішыню ў хаце.

— А нашто ён табе? — У братавай трэсліся вусны, агаляючы белыя прыгожыя зубы.— Ты, Верка, лепей адчапіся ад нас. Слухай, кажу, ідзі адсюль, пакуль не позна.

«Сказаў!» — мільганула думка, але не напалохала, а толькі надала смеласці.

— Давай, Паліна, без дзяцей пагаворым...

Дзяўчаткі яшчэ шчыльней прытуліліся да маці, а яна абхапіла іх за плечы.

— Ты ў маёй хаце не распараджайся. Я сама ведаю, што мне рабіць. Ты прыйшла, каб адабраць у дзяцей бацьку? Каб іх пад нямецкія кулі паставіць? Табе што? Табе абы па-свойму зрабіць! Ты горш за немца. Тыя хоць чужыя. А ты свая, і табе дзеці нашы як шчаняты: захачу ўтаплю, захачу на развод пакіну.

— Памаўчы, контра! У імя тваіх жа дзяцей я сваім жыццём рызыкую. Не маеш ты права ставіць мяне на адну лінію з немцамі.

Паліна ўпала на калені, працягнуўшы рукі, папаўзла да Веры, дзіка выкрыкнула:

— Дачушкі, прасіце цётку, каб не губіла нас.— Яна

хапала Верыны рукі, плакала: — Хрыстом богам цябе прашу, адступіся. Ці ж у цябе каменнае сэрца? Пашкадуй жа іх, яны не вінаваты...

Яны вылі ў тры галасы, і ад іх плачу, ад слёз, а больш за ўсё ад таго, што яны прыніжаюць сябе, Веры Гаўрылаўне хацелася бегчы без аглядкі.

Яна апранулася хуценька, павязала хустку і без слоў, поўная жаху перад гэтай дзікай сцэнай, выбегла на вуліцу.

У хату зайшоў Пятро, азірнуўся.

— Пайшла?

— У мяне пойдзе. Я ёй усё, што думала, выказала. І ты харошы вельмі. Трэба было ўчора паперці.

Пятро сеў на лаўку, абхапіў галаву рукамі.

— Кругом няма жызні і не будзе.

## 12

Мястэчка з гары — як на далоні. Тры вуліцы і пяць завулкаў-тупікоў. Наводшыбе, з-за прысад, тырчыць жалезны комін прамкамбіната. Непадалёк, ля дарогі, дзве старыя будыніны МТС. Між прамкамбінатам і МТС жылы дом, у якім да вайны жыў Бандарэнка. Дом двухпавярховы, новы зусім. Колькі давялося пахадзіць, паплакацца, каб адпусцілі грошы, занарадзілі цэглу. Затое і радасці было многа. Два тыдні праўлялі па чарзе наваселле.

Злева падступае да самага мястэчка возера. Рыбы ў ім! Праб'еш зімой палонку і стаўляй палку — не патоне. Во колькі збіраецца рыбы, каб дыхнуць асвежанай вадой.

У цэнтры мястэчка, там, дзе калісьці стаяла славутая на сто вёрст царква Ягора Пабеданосца, школа. У царкве да вайны быў клуб. Два разы на тыдзень там круцілі кіно, перад святамі праводзілі ўрачыстыя вечары, а кожную нядзелю збіралася местачковая моладзь на танцы. Весела жылі.

Цяпер мястэчка як вымерла. Ля школы ходзіць затулены ў плашч вартавы, мокне пад дажджом. Яшчэ двое немцаў корпаюцца ў машыне. З-пад капота відаць толькі іх абцягнутыя зялёнымі штанамі зады.

Потым на вуліцы паяўляюцца трое цывільных, але з вінтоўкамі. Паліцэйскія, няйначай. Яны ідуць абняўшыся. Лёгкі ветрык даносіць песню. Але слоў і матыву не разабраць. Выразна далятае толькі «гэй», што вельмі часта паўтараецца.

Бандарэнка стараецца прыгадаць песню, у якой бы так часта паўтаралася «гэй». Рабіць усё адно няма чаго. Пакуль не сцямнее, у мястэчка не сунешся.

Немцы вылезлі з-пад капота, стаяць рукі ў бокі, глядзяць на п'яных бобікаў. «Цікава,— думае Бандарэнка,— хто пайшоў у паліцыю?» Адсюль паліцэйскіх не пазнаць. Факт, знаёмыя. За дзесяць гадоў ён кожнага сабаку ведаў. Выходзіць, не ўсіх. Гэтых трох прагледзеў.

Бандарэнка ляжыць у ельніку. Тут суха, хоць дождж зранку не пераставаў. Зрэдку хіба сарвецца кропля, грукне аб плашч. Затое шапку хоць выкруці.

Пад самы вечар, нацямку ўжо, выходзяць жанчыны па ваду на возера. Калонкі не працуюць. Дзіва што — электрычнасці няма. Пакуль быў тут Бандарэнка, і электрычнасць была, і калонкі працавалі.

Здаўна знаёмае местачковае жыццё абуджае ўспаміны. І Бандарэнку зусім не страшна немцаў, што ходзяць ля школы, і паліцэйскіх, што забраліся ў Ноханаву хату з сінімі ліштвамі. Там, на шашы, ён баяўся спачатку. А тут зусім не страшна. Ён дома і таму адчувае сябе самавіта.

Гусцеюць прыцемкі. Мястэчка патанае ў навісі дробнага дажджу. Яго абрысы расплыліся. Добра відаць толькі высокі прамкамбінатаўскі комін. Ён арыенцір. Хоць і без яго Бандарэнка ведае дарогу.

Ён вылазіць з-пад елак, абтрасае ігліцу, папраўляе мокрую шапку і не спяшаючыся ідзе ўніз. Паўз возера хмызнякі, і Бандарэнка ціснецца да іх. Пад ботамі чаўкае набрынялая вадой зямля. Дробныя хвалькі набягаюць на бераг, шумяць у чаротах.

Сям-там гараць лямпы ў хатах. Іх малочна-белае святло дасягае аж сюды. «Газы ў людзей хапае,— думае Бандарэнка, успамінаючы, як сам дзяліў запасы эмтээсаўскага і прамкамбінатаўскага гаручага, хоць быў строгі загад знішчыць гаручае.— Добра зрабіў, што раздаў. Сваім жа, не немцам. Сядзелі б цяпер упоцемках».

Свецяцца і вокны прамкамбінатаўскага дома, сяк-так, праўда, замаскіраваныя. Бандарэнка ідзе напрасткі да ганка і толькі цяпер пачынае думаць, да каго лепей зайсці. Усе былі харошыя, у кожнага піў чарку. Так і не вырашыўшы, заходзіць у пад'езд. Недзе справа за сцяной чуваць галасы. Хто ж тут жыў? Ага, Шаірка!.. Бондар, калеснік, цясляр, сталяр...

Намацаўшы ў цемнаце клямку, Бандарэнка адчыніў

дзверы, зажмурыўся на імгненне ад святла. Двое замурзаных Шаіркавых хлапчукоў сёрбалі з міскі малако з накрышаным у яго хлебам.

— Бацька дзе?

— У калты лэжуцца,— адказаў меншы.

— Хто там, праходзь сюды! — Знаёмы Шаіркаў голас.

Бандарэнка пераступіў нізенькі парожак. За сталом сядзела пяцёра: чацвёра яго, прамкамбінатаўскія, пяты трактарыст местачковы. У руках карты. Шаірка здаваў, яго рука замерла, дастаючы спадыспаду карту.

— Здароў у хату,— павітаўся Бандарэнка, быццам толькі ўчора расстаўся з імі.

— Хвёдаравіч! Ідрыць тваю тры, во, брат, лёгак на ўспамін. Мы толькі цябе ўспаміналі. Жонка сон бачыла. «Б'ецца, кажа, галубка белая ў акно. Пайшла адчыняць, а ты, значыць, стаіш на гары ў ельніку і хусткай махаеш». Ну, скажы на міласць, у руку сон.

— Толькі не галубка, а стары воран прыбіўся.— Бандарэнка сеў да стала.— У карты рэжацеся?

— А што рабіць? Ды ты адкуль?

— І не пытайся, з таго свету, можна сказаць. З-пад самага Ярцава іду. У палон быў трапіў, ды немцы адпусцілі: «Ідзі, кажуць, стары, усё роўна ніякай шкоды ты нам не зробіш». Ну я і пайшоў. Куды пойдзеш? Вот і прытопаў дамоў,— хлусіў Бандарэнка.— Сям'ю шукаю. Сюды не прыходзіла часам?

— Хадзілі чуткі, што твая жонка пад Веляшковічамі астадолілася,— падаў голас Крушына.— А тут не было.

— Дык што вы... Іграйце,— весела сказаў Бандарэнка, быццам узрадаваўся вестцы. Учора ён быў дома і пра сваю сям'ю ведаў лепей за Крушыну.— Можа, і мне падкінеце карту. Трохі грошай маю, праўда, савецкіх. На нямецкія не разжыўся.

— А ў нас ва ўсіх савецкія,— адказаў Кастусь Яльцаў.

Шаірка паклаў перад Бандарэнкам карту, сказаўшы:

— Табе, як начальніку, туза.

— А што, і туза...— сказаў Бандарэнка, пераварочваючы карту ўверх.

Сапраўды быў туз.

Мужчыны дзівіліся:

— Шанцуе.

— Ого, ён такі абчысціць.

— Некалі ж трэба, каб шанцавала...

Размова абарвалася. Толькі чуліся звычныя словы:

— Яшчэ кінь адну. Перабор.

— Давай мне на палову. Ціхенька пакладзі. Цяпер сабе.

Выйграў Андрэй Стаўлага і адразу ж пачаў здаваць карты.

— Яўрэяў пастралялі. Чуў? — прыцішаным голасам запытаўся Шаірка.

— Што ты? І Нохана?

— І Нохана. Усіх, за адзін раз. Страху было, як іх вялі.

— Залатыя былі рукі ў Нохана...

— Што ты, нянграматны, лічы, а любую машыну знаў. Цехнік.

— Не, ты скажы, Хвёдаравіч, што далей будзе? Навошта яны яўрэяў пастралялі?

— Спачатку яўрэяў, потым цыганоў, а там і за нас возьмуцца.— Бандарэнка працягнуў руку за картай.

Стаўлага марудзіў:

— Як гэта за нас? А хто ж тут застанецца?

— Немцамі засяляць. У іх, бачыш, раскрып такі ёсць,— увярнуў Бандарэнка для большай важнасці незразумелае слова.— Указ такі, калі па-нашаму сказаць: славянаў перастраляць, а ўсю нашу Беларусь засяліць немцамі. Ну, можа, каго і пакінуць, каб працавалі на іх, як за прыгонам было.

— Дудкі! Наш брат пачуе пра такое — у лес пабяжыць. Не пойдзе, як баран, пад расстрэл.

— Пакуль пабяжыць, дык позна будзе. Калі ўцякаць, дык цяпер,— падвярнуў Бандарэнка і дадаў: — Ну, давай карту. Перад смерцю хоць у ачко згуляем.

Гульня ішла вялавата. Бандарэнка адчуў, што ўзрушыў людзей сваімі словамі. Але на першым часе не хацелася падганяць падзеі. Паспешлівасць ніколі не памагае, цяпер тым больш.

Прыйшла Шаіркава жонка Каця, баявая, рухавая маладзічка. Дзівілася, што Бандарэнка, як з неба зваліўся. Але ў час. Хоць, можа, як бывала, пасароміць мужчын, а то самагонку п'юць ды ў карты гуляюць. Ну, проста свет дагары нагамі перавярнуўся, бо гаспадара няма.

— Так і жывём, а што рабіць будзеш? — апраўдваўся Шаірка.— Не жывём, а свет смуродзім.

— Свае ж яшчэ сволачы аб'явіліся. Паліцэйскія. Выслужваюцца. Кулінін сынок паліцэйскі. Здаецца, каб ра-

ней было, даў бы яму ў рыла, а цяпер маўчы — начальнік!..

— Толя Кулінін — паліцэйскі? — дзівіўся Бандарэнка.

— Ого, Толя! Яўрэяў пад канвоем вадзіў.

— Памаўчалі б вы...

— Маўчы ці не маўчы, адзін чорт.

— Наш брат маўчыць, маўчыць, а тады калі разыдзецца, ніякая сіла яго не ўтрымае.

— Гэта праўда...

Размова круцілася навокал аднаго — акупацыі. Мужчыны выказваліся шчыра, гаварылі тое, што думалі. Бандарэнка больш маўчаў. Няхай людзі выкажуцца. Ён яшчэ паспее, у яго часу шмат. Зрэдку кідаў рэпліку, як падкідаюць у касцёр палена сухіх дроў. Тады гаворка ўспыхвала з новай сілай.

Заседзеліся. Дзеці палеглі спаць. Мужчыны неахвотна сабіраліся дахаты. Косця Яльцаў, апранаючы замасленую скуранку, гаварыў ім:

— Вы, таго, пра Хвёдаравіча не балбачыце лішне. Ну, прыйшоў чалавек па сям'ю і пойдзе. А трапацца не варта.

— Не малыя, разумеем.

Косця затрымаўся ў хаце. Калі мужчыны пайшлі, сказаў Шаірку:

— А я думаю, Харытон Сямёнавіч, што Хвёдаравіч у мяне пераначуе. У цябе цеснавата, ды і дзеці...

— Як хоча. Можа і ў мяне,— азваўся Шаірка.

Удвух з Косцем яны ішлі на ўскраіну вёскі. У цемрачы Бандарэнка ледзьве бачыў чорны Косцеў сілуэт.

Алёнка, Косцева жонка, убачыўшы Бандарэнку, засыпала пытаннямі. Але Косця спыніў яе:

— Паесці чалавеку дай, гарачага чаго-небудзь. А можа, і па чарцы знойдзеш.

Яна пайшла. Косця круціў цыгарку, жмурыў хітраватыя вочы.

— А віць ты, Хвёдаравіч, брахаў,— нечакана для Бандарэнкі сказаў ён.— І пра палон, і пра армію. Боты вунь на табе новыя. А плашч твой стары...

— Назіральнасці табе не пазычаць,— спакойна адказаў Бандарэнка.

— Спачатку ты і мяне збіў з панталыку. Пасля папазіраў я за табой і бачу, лоўка брэшаш.

— І да чаго ж ты дадумаўся?

— Думаю, што за будзь здароў ты не стаў бы рызыкаваць. А?

— Таксама праўда. За будзь здароў не стаў бы...

— Во, і я так думаю... Мы тут праміж сабой гаварылі. Не муся быць, каб каго з парцейных не пакінулі тут...

— Пэўна...

Косця нахіліўся цераз стол, разганяючы рукой дым, зашаптаў:

— Нашы за ракой былі, вазілі лыжкі прадаваць, дык там, кажуць, партызаны паявіліся. Не чуў пра іх?

— Даводзілася...

— То, можа, ты ад іх?

— А што, пайсці хочаш?..

Косця задумаўся. Дасмактаўшы да самых пальцаў самакрутку, паклаў агарак у бляшанку з-пад цукерак — дзесяць такіх бычкоў і самакрутка.

— Пайсці лёгка. А во куды яна дзенецца?

— Гэта праўда,— згадзіўся Бандарэнка.— З сям'ёй нявыкрутка.

Алена прынесла бутэльку «смярдзюхі», закуску, увішна расстаўляла на стале. Бандарэнка помніў яе дзяўчынкай. Тоўсценькая такая і заўсёды байкі чытала са сцэны. «Ах, Алёнка, Алёнка, не ў пару ты сабралася замуж. Звязала Косцю рукі. Каб не ты, пайшоў бы ён са мной у лес, біў бы немцаў! А цяпер як яго ад цябе адарваць. Абаіх вас шкада. Цябе, Алёнка, больш за яго. Мужчына па закону ваяваць павінен, жанаты ён ці халасты. Але тут вайна асаблівая. Можа так быць, што ён застанецца, а ты загінеш, бо немцы цябе як заложніцу возьмуць. От тут і парай чалавеку».

Выпілі па чарцы. Самагонка і сапраўды як смярдзюха, нос затыкаць трэба, перш чым да рота паднесці. Бандарэнка адсунуў бутэльку. Косця, мабыць, зразумеў гэта па-свойму:

— Пагуляй, Алёнка, на кухні: нам тут пасакрэтнічаць трэба.

Алёнка вышмыгнула за дзверы, шчыльна зачыніўшы іх за сабой. Бандарэнка дзівіўся з такой амаль вайсковай дысцыпліны.

— Нашто ты яе выправіў?

Яльцаў не адказаў. Чамусьці ўкруціў кнот у лямпе, пакой як бы паменшаў. Сеў вярхом на лаўку, тварам да Бандарэнкі.

— Раскажы мне, Платон Хвёдаравіч, без утайкі ўсю нашу палітыку. Душа гарыць. Бывала, без газеты, без апошніх навін спаць не ляжаш, а цяпер во вісіць талерка



Алесь Асіпенка (злева) і брат Васіль. 1937 г.



Алесь Асіпенка (справа) з братам
і сябрам Васілём Каваленка
ў час вучобы на рабфаку. 1939 г.

на сцэне і ні гуку. Як у балоце на краі свету жывём.
— Дзівак ты,— усміхнуўся Бандарэнка,— я і сам мала ведаю.
— Дык чаго ж ты прыйшоў? Цямніш, Хвёдаравіч?
— Не цямню, Косця. Адкуль я прыйшоў, пра тое не пытайся, не паложана знаць...
— Цяпер бачу, не цямніш,— узрадаваўся Косця.
— А чаго прыйшоў, скажу. Народ на барацьбу з немцамі падымаць. Проста, ясна і, як бачыш, складана. Бывала, трэба нам план выцісnуць, сабяром сход, пагаворым, паднаціснем — і гатоў план. Цяпер не тое. Гавары ды азірайся. А самае галоўнае як табе скажаш: змагайся з немцам, калі ў цябе жонка, а хутка, бачу, і дзіця будзе.
— Ты мяне, Платон Хвёдаравіч, ведаеш. Скажы, падводзіў я цябе ці не? Не, ты скажы,— дамагаўся Яльцаў.
— Здаецца, ніколі.
— І цяпер не падвяду. Я з табой куды хочаш пайшоў бы, але сам бачыш.
— То-та ж...
— А я тут не прыгаджуся? Памагаць я заўсёды гатоў, будзь спок, Яльцаў не падвядзе. Скажы толькі, па адным бобікаў у возеры патопім.
Бандарэнка абняў Косцю за плечы, прытуліў да сябе з бацькоўскай пяшчотнасцю. Таму гэта не спадабалася: набычыў галаву.
— Эх, Косця, Косця, добры ты хлопец, а чыстае дзіця. Дазнаюцца немцы, што ты нам памагаеш, і табе, і Алёнцы тваёй — дарога адна.
— Няхай яшчэ дазнаюцца. Думаеш, я лапавухі? Я каго хочаш вакол пальца абвяду. Прыкінуся добранькім, а сам буду немцам харакіры рабіць.
Бандарэнка рагатаў, закінуўшы галаву. У пакой, мабыць, не верачы, што мужчыны вядуць сур'ёзныя размовы, заглянула Алёнка. Косця замахаў на яе рукамі — рана.
— Не думаў я, што ты да канспірацыі здатны.
— Ды і ты на падпольшчыка не падобны, грузны дужа,— падкалоў Бандарэнку Косця.
— Затое ніхто не здагадаецца, якая ў мяне крамола схавана.— І ўжо сур'ёзна сказаў: — От што, Косця, вайна — не забава. Ты свае піянерскія штучкі кінь. Помню, як ты шпіёнаў лавіў. Дзядзька ў кустах прысеў, а вы за яго і ў сельсавет — шпіёна злавілі. У нашай рабоце так: раз памылішся — сам загінеш і яшчэ многа людзей загубіш. Партыя такое не адобрыць. Тваё жыццё не табе на-

лежыць, а партыі. Загінуць проста. А якая ад гэтага карысць? Ніякай... Так што вуха востра трэба трымаць і на авантуры не кідацца. Дайшло?

— Да самага сэрца.

— Перш-наперш падбяры такіх хлопцаў, мужчын, з якіх можна арганізацыю стварыць. Знойдзеш такіх, па адным да мяне прывядзі. Трое будуць цябе знаць. І толькі трое, таму шукай самых правераных, моцных. Кожны з траіх падбярэ яшчэ па трое. Колькі будзе?

— Дзевяць,— не задумваючыся адказаў Косця.

— От бачыш! Думаць трэба. Дванаццаць, а ты трынаццаты. Баявое аддзяленне. А што далей рабіць, скажу пасля.

У лямпе сіпеў, патрэскваў кнот. Кволенькі агеньчык не мог разагнаць змроку, і ён запаланяў пакой.

Абодва маўчалі. Усё выглядала б па-будзённаму проста, каб за ўсёй гэтай знешняй прастатой не стаяла суровая праўда тых дзён. За чорным занавешаным акном недзе на пляцы мокнуў нямецкі вартавы, і калі б ён толькі здагадваўся, пра што ішла тут размова, ні хата гэта, ні людзі, што сядзелі ў ёй, не ўратаваліся б ад агню і смерці.

— Хвёдаравіч, во што я думаю. Пераначаваць пераначуй у мяне. А заўтра я цябе да цешчы на хутар завяду. Спакайней там. Чалавек ты парцейны, і не варта вось так казакаваць перад немцамі.

— А гэта дзельна,— згадзіўся Бандарэнка.

## 13

Сем лясных вёсачак, на подступах да якіх уладарыла бездарожжа, сталі прытулкам баталаўцаў.

Спачатку яшчэ цягнула ў лес, каб схавацца дзе-небудзь у гушчары на дзень. Пасля папрывыкалі да хат, да гарачых, як прысак, печаў. Немцы не трывожылі, паліцыя таксама. Ды і самі баталаўцы на ражон не лезлі. Жылі ў сваёй «рэспубліцы» як у бога за пазухай.

Сытае спакойнае жыццё, як іржа жалеза, раз'ядала і без таго расхістаную дысцыпліну. Баталаў трызніў пра вялікія баі і засады, але заўсёды натыкаўся на ўпартую сілу супраціўлення.

— А нам што, больш за другіх трэба?

— Сядзі, пакуль сядзіцца, бо пачнуць ганяць — у лесе не ўседзіш.

— Факт.

— Зробім шкоды на грош, а яны вёскі папаляць.

— З голаду падохнем.

Баталаў не адступаўся. Каб хоць крыху ажывіць атрад, пасылаў людзей у засады. Хлопцы вёрст на дзесяць па гравійцы павалілі тэлеграфныя слупы, разабралі драўляны масток цераз неглыбокую, у балоцістых берагах рэчку. Але ўсё гэта было не тое, што трэба.

Баталаў з жахам заўважыў, як тупее ў яго хлопцаў былая нянавісць. Лагоднасць і ленаватая спакойнасць авалодалі людзьмі, нібы цягучы наркозны сон.

У суботу раніцай, калі мыліся на двары ля студні, Шпарцюк ашаломіў Баталава навіной.

— Я, Саша, жанюся заўтра. Так што давай не плануй ніякіх паходаў,— сказаў ён.

— Чокнуўся ці ўсур'ёз? — вылупіўся на яго Баталаў.

— Перад смерцю хоць паспытаю, што яна за звер, жаніцьба.

— Нешта ты рана пра смерць заспяваў. Помніш, як мяне калісьці за такія думкі лаяў.

— А я і цяпер ад сваіх слоў не стану адракацца. Ты, Саша, да мазга касцей інтэлігент і мамчын сынок. Табе шырыні погляду не хапае. От і спалохаўся маёй жаніцьбы, як дабрачынны абывацель.

— Ну-ну, гэта ты кінь. Жонка табе абуза, а не памочніца. Знайшоў шчасце пад лаўкай.

Шпарцюк надзеў гімнасцёрку, зашпільваючы ззяблымі пальцамі каўнер, з'едліва ўсміхаўся.

— Зайздросціш, можа? Пагляджу я на цябе, Саша, і бачу: увесь ты, як багетавая рамка бронзай, правіламі прыстойнасці пафарбаваны. А сашкрабі з цябе пазалоту, тое самае, што і ва ўсіх, убачыш: страсць, любоў, подласць таксама. Думаеш, не чую, як ты ноччу заснуць не можаш. Плоць, яна свайго патрабуе — ясна?

— Ідзі ты да д'ябла, Сяргей. Развёў дыскусію. Цяпер ваяваць трэба.

— Што ж я, па-твойму, дэзерціругю? Ваяваць я буду. Толькі для мяне, Саша, вайна звычайная справа. І сваіх пачуццяў з-за яе я не стану за горла трымаць. Гэта вось такія, як ты, расклалі ўсё жыццё па палічках. Вайна, дык ваюй і не думай больш ні пра што. Палюбіў — на ўсё забыўся. Глупства,— і нечакана закончыў: — Дык як, Саша, пойдзеш за шафера?

— Ладна,— махнуў рукой Баталаў.— Толькі глядзі, не раскайвайся пасля. Жонка, брат, не пальчатка.

Шпарцюк рагатаў, закінуўшы стрыжаную пад бокс галаву, пабліскваў залатым зубам.

— Ну і ўмора з табой. Прычапі бараду — прарок Самуіл. Быў такі, кажуць, што яўрэям запаведзі пакінуў: не забі, не любі, не абдуры...

— Не Самуіл, а Майсей, дубіна.

Да Шпарцюковай жаніцьбы кожны аднёсся па-свойму. Разважлівы, ціхмяны Цімохін прамаўчаў: не зразумець, ухваляе ён Шпарцюка ці асуджае. Саханчук выказваўся шчыра і, як заўсёды, непрымірыма: «Рыба з галавы гніе». На вёсцы вяселле ўспрынялі як звычайную з'яву. Дзяўчаты зайздросцілі Галі — бач ты, камандзіра падхапіла,—і баязліва перашэптваліся: «Смелая Галя, у такую неразбярыху не баіцца замуж ісці. А калі ў яго жонка дзе-небудзь ёсць?..»

Валенда даведаўся пра жаніцьбу апошні. Доўга ківаў галавой, ухмыляўся, успамінаючы пра штосьці сваё. Вечарам ён пайшоў да Шпарцюка.

— Выйдзем на хвілінку,— папрасіў ён.

— Што ў цябе? Кажы тут — усе свае.

Валенда патаптаўся, скоса пазіраючы на гаспадара. Той, мабыць, зразумеў, што Віктар Васільевіч не хоча гаварыць пры ім, выйшаў, шчыльна зачыніўшы дзверы.

— Я, таварыш Шпарцюк, прыйшоў папярэдзіць цябе. Вось пры Баталаве скажу. Не жаніся.

— А табе што? — здзівіўся Шпарцюк.

— Я як старэйшы маладзейшаму раю. Выслухаць ты мяне абавязан. А там рабі як ведаеш. Не маленькі,— ён ямчэй усеўся на лаве, закурыў.— Ты думаеш, жонка вялікае шчасце?

— А што, не? — усміхнуўся Шпарцюк, неяк адразу пападобрэўшы.— Жонка, Віктар Васільевіч, друг на ўсё жыццё. Праўда, Баталаў?..

— Ты от старэйшага паслухай,— схітрыў той, чакаючы ад Валенды чагосьці смешнага.

— Во-во, таварыш Шпарцюк, іменна старэйшых трэба слухаць. Бабы, яны, брат, толькі і думаюць, як бы хлопца ашукаць, залезці на шыю яму ды ўжо на ўсё жыццё ехаць на ім. Я іх натуру во як вывучыў. Каварныя стварэнні, таварыш Шпарцюк, бабы. Вазьмі ты маё распраклятае жыццё. У васемнаццаць гадоў усунуў галаву ў пятлю. І рад быў. Ну, скажы, як бычок, ад радасці брыкаў. Наглядзецца не мог на сваю Мархвуту. І што мне больш за ўсё падабалася — ціхмянасць яе. Ну, скажы, слова, бывала, з яе не

выцягнеш. Сядзіць на ложку і маўчыць, а як гляне на мяне, дык сэрца заходзіцца. Ласкава так гляне. І баязлівая была. Вядома, з вёскі, глухамань там у іх дзікая. Як цяпер помню, зрэквізаваў я гармахвон у папа і, як дурань, праз увесь горад дамоў пёрся, хацеў сваю Мархвуту да культуры далучыць. Дык яна так напалохалася, што пад стол залезла, і хоць ты яе на шворцы адтуль выцягвай. Во якая ціхмяная ды баязлівая была. Пасля так да гэтай культуры прывыкла, што ўжо хацеў бы яе адцягнуць, дык яна ўпіраецца. Кіжлай, бобік, міліцэйскі пацук — іншых слоў і не чуў. «Я, кажа, без ціянтра жыць не магу». А таго зразумець не хоча, што ў мяне на тыя ціятры аднае вольнай мінуты не было. І днём і ўначы па раёне гойсаў, злачынцаў лавіў. Спрабаваў па-добраму гаварыць — як гарох аб сцяну. Ну, нібы галавешка пад хвост папала — панесла бабу пад кручу і не ўтрымаеш. На ўборы грошы давай, на пудрушмудру таксама, на марожанае і розныя ласункі кожны дзень патрабуе. «А не будзеш грошай даваць,— кажа мне,— дык я знайду такога, хто не скупы і рад будзе мяне ў рэстаран звадзіць». Во як павярнулася. А іць як мне было. Усе хлопцы пра тое ведалі. Кінуў я яе — думаеш, спакой знайшоў? Дзе там!.. Па судах зацягала. Восем гадоў адзін жыву і не нарадуюся. Ніхто цябе не клічыць. Ніхто цябе не лае. Любата. І калі пачую, што дарагі мне чалавек хоча хамут на шыю надзець, аж моташна становіцца. Наліха табе маладое жыццё нявечыць?

Баталаў, закрыўшы рукамі твар, смяяўся. Шпарцюк хмурыўся, але і ён часам не мог стрымаць усмешкі.

— Ну, брат Сяргей, пасля такой лекцыі я моцна падумаў бы,— пажартаваў Баталаў.

— А я і падумаў,— згадзіўся Шпарцюк.— Кожны пасвойму канчае самагубствам. Хай нам горш будзе...

Валенда падняўся, прайшоўся па хаце. На ягоным твары то блукала загадкавая ўсмешка, то паяўлялася суровасць.

— Ды каб дзеўка хоць,— спыніўшыся, пачаў ён.— Праўда, габарыты ў яе дай божа. І шчарбінка ў зубах. Такія на любоў лютыя. А паспрабуй усцеражы ты яе. Народзіць табе хату дзяцей, ды каб яшчэ ведаў, што ўсе твае.

Баталаў не паспеў апамятацца, як Шпарцюк схапіў Валенду за каўнер, паддаючы каленкам ззаду, штурхаў перад сабой. Недзе ў сенцах глуха бабахнулі дзверы, і ўсё сціхла. Задыханы, вярнуўся Шпарцюк. Баталава разбіраў смех. Дзівак, на Валенду злуецца. Сказаў:

— Ну за што ты яго? Ён жа па шчырасці.

— Ідзі ты з яго шчырасцю. Яшчэ раз палезе, я з ім інакш пагавару. Ясна?

— Ну і дзівак. На яго крыўдаваць грэх.

Партызанскае вяселле сабрала старых і малых з усёй Тычкі. Шпарцюк, чырвоны, як абвараны рак, сядзеў на дубовай лаўцы пад абразамі. Нявеста сарамліва апускала вочы, калі п'яныя, аўдавелыя вайной маладзіцы спявалі рызыкоўныя прыпеўкі.

Гулялі да ранку. Перапіўшыся, спалі ўпокат, паслаўшы на падлогу кулёў пяць саломы.

«А можа, Сяргеева праўда,— думаў назаўтра Баталаў, успамінаючы, як скакаў учора на вяселлі пад п'яныя прыпеўкі, што будзілі нездаровую пачуццёвасць.— Вайна можа адабраць жыццё. Усё астатняе яна ніколі не спыніць. Можа, нават абвастрыць толькі...»

— Ну што, кончылася твая вольная волечка? Два дні даю табе на любошчы, а там паганю, як чорта лысага, у засаду.

Шпарцюк, ленавата пацягваючыся, адказаў:

— Два дні во так хопіць.

## 14

Ваенная прафесія і вечнае імкненне быць на вачах начальства, каб не патануць у вірлівай будзёншчыне, вымагалі ад Сухарэўскага максімум педантызму па службе і стараннай праніклівасці ва ўсе дэталі службовага побыту. Назіраючы за тым, як ягоную групу рыхтуюць да дыверсанцкай дзейнасці, Сухарэўскі ўважліва прыглядаўся і да сваіх «хросных бацькоў».

Яму больш падабаўся обер-лейтэнант Хайслер — патомны ваенны, які ганарыўся гэтым і трымаў сябе са спакойнай упэўненасцю. Але пры ўсім тым Хайслер пабойваўся унтэршарфюрэра Вінкельберга, выскачку з самых нізоў германскага грамадства пачатку трыццатых гадоў. Сухарэўскі таксама недалюбліваў Вінкельберга, але вымушаны быў хаваць сваю нелюбоў пад маскай рабалепства і сляпога падначалення. Унтэршарфюрэру гэта падабалася.

Зрэшты, Сухарэўскі прыйшоў да высновы, што для контрразведкі абвера гэтая аперацыя была пабочнай, у нейкай ступені нават абразлівай і займалася яна ёю толькі таму, што камандаванне групы войск «Цэнтр» запатрабавала забяспечыць надзейнасць тылу на галоўным напрамку на-

ступлення нямецкіх армій. Таму і была падключана служба бяспекі.

Двайное падпарадкаванне непакоіла Сухарэўскага. Ён падазраваў, што па-добраму гэта не скончыцца. Асабліва яму стала не па сабе, калі аднаго разу унтэршарфюрэр Вінкельберг з усёй нямецкай просталінейнасцю сказаў:

— Сухарэўскі, забудзьцеся на тое, што вам прапаведуе палкоўнік Остар, а разам з ім обер-лейтэнант Хайслер. Яны робяць выгляд, быццам ваююць у белых пальчатках. Ну што ж, мы не ганарлівыя і не баімся крыві. Раю і вам таго ж, Сухарэўскі...

Цяпер Сухарэўскі добра ведаў, што любымі сродкамі павінен даказаць сваю адданасць унтэршарфюрэру, іначай ён можа і не спатрэбіцца таму ў другі раз.

На месца іх дастаўляў унтэршарфюрэр Вінкельберг у суправаджэнні шасцярых эсэсманаў — радавых службы бяспекі. Ехалі ў грузавой машыне з брызентавым верхам. Эсэсаўцы на лаўцы па адзін бок кузава, яны — па другі. У эсэсаўцаў — аўтаматы. У іх — карабіны.

Унтэршарфюрэр сядзеў у кабіне побач з шафёрам. Сухарэўскі ўсю дарогу ламаў галаву, чаму іх адзелі не ў агульнавайсковую форму, а пад работнікаў НКВД? Была ў гэтым нейкая небяспека, пра якую можна толькі здагадвацца.

Ягоныя хаўруснікі ўсю дарогу курылі папяросы «Беламорканал». Форма, зброя, папяросы і махорка Падзвінскай фабрыкі павінны былі стварыць ілюзію прыналежнасці групы да энкэвэдэ. Але якраз у гэтай ненавіснай яму форме Сухарэўскі адчуваў сябе вельмі няўпэўнена. Здаецца, і яго хаўруснікам форма не прыносіла вялікай радасці. Мабыць, і яны мелі справу з работнікамі карных органаў.

На прыцемку машына спынілася на ўзлеску ўдалечыні ад вёсак і хутароў. Эсэсаўцы першыя саскочылі з машыны. За імі вылезлі і дыверсанты. Унтэршарфюрэр запрасіў Сухарэўскага ў кабіну. Астатнія адышліся пад шаты лесу.

— Слухайце мяне ўважліва,— сказаў унтэршарфюрэр, разгортваючы на каленях карту Падзвіння.— Перад вамі стаяць тры задачы. Па-першае, выяўленне партыйнага падполля і партызанскіх банд. Па-другое, кампраментацыя дзеянняў бандыцкіх груп і бальшавіцкага падполля ў вачах мясцовага насельніцтва. Па-трэцяе, выяўленне груп чырвонаармейцаў і камандзіраў, пра якіх вам гаварыў Хайслер. Вось чаму вы абмундзіраваны ў форму энкэвэдыстаў. Насельніцтва хутчэй паверыць вам.

З тыдзень вядзіце разведку, завязвайце сувязі з насельніцтвам, забяспечвайце іх лістоўкамі, якія зараз атрымаеце. Потым нападзеце на самаахову ў вёсцы Камлі. Знішчыце яе самым зверскім спосабам, даўшы пры гэтым аднаму самаахоўцу ўцячы. Натуральна, пачуўшы, што ў зоне дзейнічаюць супрацоўнікі энкэвэдэ, з вамі пойдуць на кантакты. Але намацвайце сувязі і самі. Вось тут, у Камарове, будзе дзейнічаць спецыяльнае падраздзяленне, з якім вы будзеце ў пастаянным кантакце. Яно дапаможа вам вырашаць асноўную задачу. Але гэта не здымае з вас і ліквідацыю паасобных груп, калі на тое будзе неабходнасць. Раю трымаць строгую дысцыпліну. Справа надзвычай сакрэтная, а таму выдаванне яе будзе карацца самым жорсткім чынам...

Сухарэўскі аж здрыгануўся: як толькі яны стануць не патрэбныя службе бяспекі, іх зусім проста падвядуць пад расстрэл. І зноў ён падумаў, што павінен праявіць сябе, інакш можа загінуць.

Развіталіся яны самым цёплым чынам, нібы будучае пароднілі іх.

На зямлю паволі насоўвалася ноч. Цёмная, беспраглядная.

— Будзем шукаць начлег,— сказаў Сухарэўскі.

— Чаго шукаць?.. Усюды аднолькавы лес,— падаў голас маленькі вяртлявы Родзін.— Хіба ў вёску нельга. Да баб... Прыціснуў бы каторую...

Сухарэўскі даў Родзіну выказацца. Падышоў упрытык, не спяшаючыся развярнуўся, урэзаў па вуху. Родзін не ўстаяў на нагах, грымнуўся на зямлю. Сухарэўскі даў выспяткам пад зад.

— Устаць! — рыкнуў ён, а калі Родзін стаў на ногі, ужо звяртаючыся да ўсіх, важка сказаў: — Запамятайце, яшчэ хто ўздумае выказвацца, расстраляю. І нікуды вы не дзенецеся. Вы ў мяне во дзе,— ён сціснуў пальцы ў кулак.— А мая рука, не мая, а дзвюх найсакрэтных службаў. Так што і пад зямлёй вас знойдуць. Служыце і не рыпайцеся.

Спалі ў будане, сяк-так змайстраваным з яловых жэрдак, накрытым лапнікам і сухім папаратнікам. Прачнуліся ад сабачага холаду. У чыстым перадранішнім небе ярка вытрэшчваліся вялізныя зоркі. Сухарэўскі прайшоўся па траве. Яна каляна шамацела.

Адышоўшыся крыху ўбок, ён зрабіў колькі практыкаванняў: памахаў рукамі, папрысядаў і, што ні кажы, разагнаў кроў. Гімнастыка выклікала кволенькі сполах рас-

чулення ў сэрцы — да вайны ён рэгулярна займаўся гімнастыкай, якую перадавалі па радыё. Тое жыццё здалося дужа далёкім і нерэальным. Цяперашняе нагадвала пра сябе прымаразкам, няўтульнасцю асенняга лесу і шасцярыма супольнікамі, якім ён не давяраў.

Тыя грэліся па-свойму: штурхаліся, спрабуючы збіць адзін аднаго з ног. «Шпана»,— падумаў Сухарэўскі і закурыў, чаго не дазваляў сабе да вайны — курыў толькі паснедаўшы.

— Скарабагаценка, раскласці вогнішча,— загадаў ён марудліваму здаравяку.

Яму было прыемна бачыць, як Скарабагаценка, гэты вол без ярма, адразу кінуўся выконваць загад. Значыць, урок з Родзіным пайшоў на карысць. Сухарэўскі смяртэльна ненавідзеў сваіх супольнікаў, але ўлада над імі змякчала сляпыя прыступы нянавісці.

Для аперацыі ў Камлях Сухарэўскі выбраў нядзелю. Напярэдадні ў чацвер Сухарэўскі з двума супольнікамі праседзелі ў засадзе ля Камлёў гадзін шэсць, але дачакаліся таго, каго трэба — запаланілі дзядзьку па прозвішчу Дымок. Дзядзька быў на падпітку і з нейкай злоснай варожасцю кляпаў на сваіх аднавяскоўцаў абы-што, называючы іх то ворагамі савецкай улады, то недабіткамі імперыялізму і яшчэ чорт ведае якімі словамі. Ён паабяцаў памагчы Сухарэўскаму і сапраўды памог, калі ў нядзелю пад сховамі вячэрніх змрокаў атрад заявіўся да яго.

Менш як за паўгадзіны ўсе самаахоўцы з трыма бельгійскімі вінтоўкамі і пятнаццаццю да іх патронамі былі зведзены ў калгасную кантору наводшыбе вёскі. Набралася самаахоўцаў семнаццаць.

— Усе? — спытаўся Сухарэўскі, калі двое ягоных супольнікаў увапхнулі ў хату апошняга дзядзьку ў адной бялізне і сталі ля дзвярэй на варце.— Тады пачнём суд... Справядлівы і мудры...

Нехта з самаахоўцаў хіхікнуў. Нават перад тварам лысага злоснага вайскоўца, што сядзеў за сталом, ніхто не адчуваў небяспекі. Віны таксама.

Наляцелі неяк немцы, выстраілі мужчын на пляцы, выбралі семнаццаць чалавек, загадалі ахоўваць вёску па начах ад чужых людзей. Чужыя дасюль не заходзілі. Свае — бывалі. Прабіваліся за фронт акружэнцы, ішлі здаля, ад граніцы, цывільныя да родных і блізкіх — усім давалі прытулак.

Сухарэўскі гаварыў злосна, адрывіста, перасыпаў га-

ворку мацюкамі. Ад ягонай гэтай абвінаваўчай прамовы патроху выспявала трывога ў людзей.

— Дазвольце,— не сцярпеў адзін з самаахоўцаў,— вы, уласна кажучы, у чым нас вінаваціце? Мы ні савецкай уладзе, ні Радзіме не здраджвалі. Вінтоўкі ж можаце забраць. Яны нам без патрэбы. Ды і саміх нас таксама. Ваяваць з немцам-акупантам мы даўно гатовы і толькі чакалі зручнага часу.

Аглушальны стрэл перапыніў прамову. Самааховец паваліўся на бок і замёр, астатнія сядзелі не варушачыся, як і было ім загадана, каля глухой сцяны.

— Хто яшчэ хоча сказаць слова? — спытаўся Сухарэўскі і раптам загадаў: — Кладзіцеся на падлогу, сволачы. Мы з вамі пагаворым інакш...

Іх забівалі кавальскім паўпудовым молатам — Скарабагаценка крышыў галовы адным і вельмі прывычным ударам, як на бойні кароў і быкоў — абухом паміж рог. Акрываўлены молат пакінулі ў хаце як сведку.

Дымка забралі з сабой. Яго забілі, адвёўшы ад вёскі кіламетры за два, на мастку цераз невялічкую рэчку, стрэлам у патыліцу. Ужо ў лесе Сухарэўскі ўспомніў пра загад: аднаго з самаахоўцаў трэба было адпусціць. Вырашыў: наступны раз адпушчу...

## 15

У Тычку, адну з сямі вёсак, дзе атабарыліся баталаўцы, вестку пра падзеі ў Камлях прынесла жонка самаахоўца, бацькі якой жылі тут. Хлопца таго, за якім усяго два месяцы пабыла замужам іхняя дзяўчына, у Тычцы добра ведалі і не маглі даўмецца, за якую віну панёс той такую страшную кару.

Чутка пра забойства самаахоўцаў дайшла і да баталаўцаў.

— Брахня нейкая,— сказаў Шпарцюк Галі.— Не паверу, што нашы маглі пайсці на такое.

— А ты думаў, лялькацца будзем,— падаў голас Валенда і загадаў Галі выйсці.— Хай кожны ведае, што любое супрацоўніцтва з акупантамі ёсць здрада і караецца яна па ўсёй строгасці закона.

— Які тут закон — беззаконне,— заспрачаўся Шпарцюк.

— Такімі законамі мы толькі панясём шкоду парты-

занскаму руху,— падтрымаў Шпарцюка Баталаў.— За такое самаўпраўства судзіць трэба ваенна-палявым судом.

— Ого, як вы заспявалі,— Валенду панесла на ўхабы.— Здраднікаў стала шкада. Яно і зразумела. Заміж таго каб супраць акупантаў ваяваць, вы тут вяселлі наладжваеце. Абабіліся. Ды мы і да вас дабярэмся...

— Гэта ж да каго дабярэшся.— Шпарцюк рашуча палез па пісталет у кабуру.— Адседжваўся, пакуль мы цябе не выкурылі, а цяпер нас палохаеш...

— Шпарцюк, адставіць,— загадаў Баталаў.— І ты, Валенда, не лезь у бутэльку. Знайшлі час для спрэчак. Яшчэ немца выгнаць трэба...

Спрэчка атухла, як заліты вадой касцёр. Але ўвечары Валенда зноў загаварыў пра падзеі ў Камлях:

— Вы сабе як хочаце, а я павінен дасканала ведаць, што за атрад у раёне дзейнічае. У мяне такая пасада — начальнік раённага аддзела міліцыі, і абстаноўку ў раёне я павінен ведаць як свае пяць пальцаў.

— Добра, высвятляй,— пагадзіўся Баталаў.

Але Шпарцюк запярэчыў:

— Аднаму ісці, як чорту ў зубы глядзець. Бяры Саханчука і Міронава. Абодва хлопцы з галавой і, калі што, падстрахуюць.

Валенда пагадзіўся. Ён і сам разумеў, што дужа далёка зайшоў у спрэчцы, назад вяртання няма. Саханчука з Міронавым ён паважаў.

На другі ж дзень яны напалі на след атрада. У вёсцы Шырына нехта расстраляў чатырох хлопцаў, нібы за шпіянаж па немцаў. Пяты неяк уцёк.

— Почырк аднолькавы,— вызначыў Валенда.— Але ж і слядзяць калегі. Ніякай боязі.

— Што яны, павар'яцелі,— абурыўся Міронаў.— На якіх немцаў гэтыя хлопцы маглі шпіёніць, калі гарнізонаў на дзесяць вёрст у акрузе няма. Ды і хлопцы — камсамольцы. Нічога не разумею...

— Бо яшчэ малады, Хведзя,— паляпаў яго па плячы Валенда.— А я за свой век усяго пабачыў. Здарылася неяк у горадзе зверскае забойства. Усю сям'ю бандыты выразалі, апрача дачкі, якая недзе вучылася. Слядоў ніякіх. Няйначай вопытныя гастралёры наляцелі. Яны да нас з Растова і Адэсы даволі часта набегі рабілі. Паспрабуй разбярыся. Вядзём следства месяц, другі, трэці. Год мінуў, ніякіх зачэпак. Дачка забітых з мужам прыехала. Спадчыну афарміла і жыць тут стала. А потым і яны з мужам некуды

зніклі. Месяцаў праз шэсць знайшлі іх трупы, знявечаныя так, што не пазнаць...

— Ну і што? — не сцярпеў Саханчук.— У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька...

— А тое, што дачка гэтая была зусім не дачка і трупы былі зусім не іхнія трупы...

Міронаў махнуў рукой.

— Брэшаш ты, Валенда, як наняты. Ты лепей скажы, як мы на сувязь з гэтым атрадам выйдзем?..

Валенда паблажліва ўсміхнуўся:

— Зелянцы вы абодва. Я тут адну падазроную жанчыну запрыкмеціў. Калі меркаванні мае спраўдзяцца, заўтра будзем весці перагаворы з атрадам спецыяльнага прызначэння.

Валенду аж распірала гордасць за ўласны спрыт. У атрадзе і ў грош не цанілі ягоныя магчымасці. А ён лічыў сябе здольным на самыя адказныя справы, якія і не сніліся баталаўцам.

— Зноў брэшаш,— падначыў яго Міронаў.

— Ты б свой язык заткнуў куды-небудзь у менш зручнае месца,— агрызнуўся Валенда.— Ходзіш поруч, а ні чорта не бачыш. А ты падумаў бы сваёй яловай галавой, чаму вопытныя чэкісты так здорава наслядзілі? Ага, не разумееш! Яны шукаюць сустрэчу з намі. Ім наша дапамога патрэбна.

Назаўтра і сапраўды адбылася сустрэча ў закінутай леснічоўцы на беразе невялікага возера. Дамоўлена было сустракацца двое на двое. Валенда ўзяў Саханчука. Міронава пакінуў у засадзе.

Сухарэўскі прыйшоў з Лапшовым, рудым, белабровым, з чырвонымі ад запалення вачамі. Абодва былі ў форме супрацоўнікаў НКВД, але без знакаў адрознення.

Саханчуку з Лапшовым было даручана сцерагчы хату, у якой і меліся адбыцца перагаворы.

Саханчук выбраў месца на прызбе, з якога добра відаць было наваколле, а галоўнае, што і яго мог бачыць Міронаў. Лапшоў сеў пад паветкай на старую, падгнілую калоду, выцяг пачак «Беламору», доўга, са смакам пстрыкаў па нізе пачка, каб выбіць папяросу.

— Куры,— абыякава сказаў ён, даючы зразумець, что такога дабра ў іх хапае.

— За лінію фронту прабіраецеся? — як бы між іншым пацікавіўся Саханчук, беручы папяросу.— Мы таксама ад самай граніцы чэшам...

— Мы тут з асобым заданнем пакінуты,— як і вучыў Сухарэўскі, сказаў Лапшоў.

— А-а-а, дык гэта вы і выконвалі ў Камлях заданне,— здагадліва ўзрадаваўся Саханчук.— Нагналі страху...

Лапшоў як спатыкнуўся на роўным месцы. Троху спалохана глядзеў на Саханчука, як бы хацеў зразумець, ці шчыра той гаворыць. Саханчук усмак зацягваўся папяросай.

— Ты во што, малец, не сунь носа куды не трэба,— нарэшце параіў ён.

— Ды я без задняй думкі, па шчырасці,— пачаў апраўдвацца Саханчук.— У нас таксама строга. А ты, бачу, тутэйшы, падзвінскі...

— Дужа здагадлівы,— буркнуў Лапшоў. Яму надакучыла гэтая, падобная на хітрую пастку, размова.— Я, можа, здаля...

— Ды не! Малец — кажуць толькі тут, на Падзвінні...

— Назіральны...

— Само сабой... Няўжо не здагадваешся, што мы з аднай гаспадаркі?..

— Якой гаспадаркі?

— Аднаму богу служым і адно заданне выконваем...

Лапшоў і верыў і не верыў.

— Энкэвэдысты, значыць? — недаверліва спытаўся ён.

— Чэкісты, кум, чэкісты,— паблажліва растлумачыў Саханчук.— Толькі глядзі, не прагаварыся. У нас, дарагі таварыш, ніжэй лейтэнанта няма. Гэта я — лейтэнант. А ты ў якім чыне?..

Саханчук бачыў, як Лапшоў здрыгануўся.

— Я радавы... А многа вас?..

Саханчук паківаў пальцам перад тварам Лапшова.

— Правяраеш?.. Я сто разоў правераны. Вы ў каго фарміраваліся?..

— Гэта сакрэт...

— Які там сакрэт,— рагатнуў Саханчук.— На Беларусь у адным цэнтры спецатрады фарміруюцца — у Лыкове...

Лапшоў узрадавана паведаміў:

— Дык і мы там курс навук праходзілі.

— Ну во, бачыш, землякі!.. Дай яшчэ папяросачку. Мы свае пакурылі даўно. Боўтаемся тут каторы месяц...

Іхнюю размову перапынілі Валенда з Сухарэўскім, якія ледзь не ў абдымку выходзілі з хаты.

Увечары таго ж дня Валенда дакладваў Баталаву і

Шпарцюку пра сустрэчу. На стале чадзіла воскам самаробная свечка. Саладкаваты пах ад яе змешваўся з тытунёвым пахам папярос, пачак якіх міласціва на знак дамоўленасці даў Валендзе Сухарэўскі.

— Рэзон просты,— злуючыся на Баталава, які ўпарта не згаджаўся з ім, гаварыў Валенда.— У іх узбраенне дай божа: кулямёты, аўтаматы, а ў нас што? Аб'ядаемся, мацней па праклятаму фашысту ўдарым. Плюс да гэтага ў іх сувязь з Вялікай зямлёй. Рацыя ёсць. Так што шкурныя інтарэсы — хто ды кім будзе камандаваць — раю адкінуць...

— Я хоць зараз гатовы здаць свае абавязкі,— пакрыўджана сказаў Шпарцюк.

— Шкурныя інтарэсы тут ні пры чым,— спакойна заўважыў Баталаў.— Я хачу зразумець, для чаго трэба аб'ядноўвацца? Вялікі атрад лягчэй выявіць і разграміць. Яны гэтага хіба не разумеюць?

— Але вялікім атрадам можна праводзіць і вялікія аперацыі,— запярэчыў Валенда.

— Лапухі вы,— раптам вызверыўся Саханчук.— Ды ніякія яны не чэкісты. Я ўсё маўчаў, маўчаў... Думаў, вы здагадлівыя, кемлівыя... Лапухі!..

— Звар'яцеў ці так псіхуеш? — спытаўся Валенда.

— Цябе на голы кручок злавілі,— забегаў па хаце Саханчук.— Лапшоў гэты, які са мной вас вартаваў, прагаварыўся. Я кажу яму: мы, як і вы, чэкісты. Нас з Лыкова, дзе зараз цэнтр падрыхтоўкі чэкісцкіх груп, сюды накіравалі. Ён і папаўся. Сказаў, што і яны з таго ж Лыкова...

Вясёлы смех Валенды перапыніў гнеўную прамову Саханчука.

— Сам ты лапух зялёны,— нарагатаўшыся, сказаў Валенда.— А ты што думаў, сапраўдны чэкіст стане табе пярэчыць або пытацца, дзе тое Лыкова. Гэта ён цябе купіў, дурань!..

— Можа, і так,— пагадзіўся Баталаў.— Але і Саханчука паслухаць варта. Мы ў апошнія дні дужа бяспечныя сталі. Давай, Саханчук, выкладвай, што пабачыў...

Расказ Саханчука насцярожыў, але не вельмі: Валенда драў глотку, даказваючы, што чэкісты тыя сапраўдныя. На кожны довад Саханчука знаходзіліся ў Валенды свае контраргументы.

Спаць клаліся позна. Валенда перад сном яшчэ раз адчытаў Саханчука, што лезе не ў сваю справу. Саханчук агрызаўся вяла — хацеў спаць.

На досвітку Валенду разбудзіла гаспадыня.

— Вас нехта кліча,— сказала яна.

Накінуўшы на плечы скуранку, Валенда выйшаў на двор. Ля ганка маячыла незнаёмая постаць.

— Што нада? — незадаволена спытаўся Валенда ў чорнай постаці.

— Віктар Васільевіч, наш камандзір вас кліча,— напаўшэпт адказала постаць.

— Які камандзір? — вытрасаючы з галавы сон, спытаўся Валенда.

— Ну, які, той, што з вамі сустракаўся ў леснічоўцы... Валенда з цяжкасцю цяміў, пра што гаворыць незнаёмы.

— Мы ж дамовіліся сустрэцца заўтра,— сказаў ён.

— Вельмі тэрміновая справа... Паспяшайцеся, таварыш Валенда...

З-за вугла хаты выглянуў яшчэ нехта. У Валенды нядобра кальнула ў сэрца, але ён рашуча ступіў наперад.

— Куды нам?..

Яго павялі цераз гуменца да пуні. Каля яе стаяў вартавы з вінтоўкай.

— Здравія жадаю,— прахрыпеў ён, і Валенда супакоіўся: свае.

У пуні панавала цемра. Валенда запыніўся. З цемрадзі вынырнуў Сухарэўскі, без аніякіх вітанняў накінуўся на Валенду:

— Як жа ты, маёр міліцыі, разява, такую тваю разгэтакую, хацеў навесці на нас агентаў гестапа?

— Не разумею, таварыш старшы лейтэнант,— прамямліў Валенда.

— Ён не разумее!.. Дзіця горкае!.. І тое, што такой опергрупы ў прыродзе не існуе, таксама не ведаеш?..

Валенда спалохаўся не на жарт: во куды завяла Саханчукова брахня — старшы опергрупы даў запытанне ў Маскву, адтуль, натуральна, адказалі, што такой опергрупы няма. Цяпер паспрабуй дакажы, што Саханчук пажартаваў.

— Вінават, таварыш старшы лейтэнант,— казырнуў ён.— Саханчук самавольна надумаўся вас правяраць. Ну і ляпнуў наконт опергрупы.

— Дзе Саханчук? — адрывіста спытаўся Сухарэўскі.

— Спаў, калі я сюды ішоў...

— Спаў!.. Ах ты, дзярмо смярдзючае,— зноў успыхнуў Сухарэўскі.— Да яго вушы падвесілі, а ён не шманае. За

такія жарцікі расстрэльваць трэба без суда і следства. Знайсці Саханчука...

Двое, што прывялі Валенду, кінуліся выконваць загад. У Валенды дробна дрыжалі калені. Ён разумеў, што Саханчук вінаваты, але каб так грозна крычаць, не было падстаў.

— Таварыш старшы лейтэнант,— стараючыся паказаць сваю незалежнасць ад старонняй опергрупы, звярнуўся да Сухарэўскага Валенда,— Саханчук, вядома, вінаваты, але ўлічыце і тое, што ён сумленна ваюе і ўжо мае на сваім ліку...

— Маўчаць! — гаркнуў Сухарэўскі.— Увесь ваш атрад — фашысцкая агентура, і цябе за тое, што згубіў пільнасць, павесіць мала...

— Як вы смееце! — узлаваўся Валенда.— Я не дазволю...

— Дазволіш... Сам іх, гадаў, расстраляеш... На, чытай,— Сухарэўскі сунуў у Валендаву руку паперку, пстрыкнуў уключальнікам батарэйкі.

Жаўтаваты кружок святла асвятліў паперку. На ёй уверсе хімічным алоўкам буйнымі літарамі слова: «Шыфроўка».

Ніжэй тэкст, кароткі, як пісталетны стрэл: «Неадкладна ліквідуйце правакатарскую групу Баталава. Нарком...» Прозвішча наркома сапраўднае. Ці адзін раз Валенда чытаў яго пад загадамі.

— Вядзі да Баталава,— загадаў Сухарэўскі.— Ён у якой хаце?..

— Першай з таго краю...

— Бягом марш.— Валенда думаў, што каманда яму, аж каля яго прабеглі трое.

Яны беглі ў вёску з вінтоўкамі наперавес. Валенда стаяў як укопаны.

— Чаго стаіш? — Сухарэўскі штурхануў яго ў спіну, і Валенда таксама пабег, цяжка хаўкаючы ад задыхі.

...Грышка Саханчук чуў праз сон, як гаспадыня будзіла Валенду, але ніяк не мог адолець вязкую дрымоту. Толькі тады, як гулка грукнула клямка, ён падхапіўся, сеў на ложку. Гаспадыня стаяла каля акна, пільна да нечага прыглядалася.

— Хто там? — спытаўся Саханчук.

— А чорт іх ведае. Папрасілі паклікаць Віктара Васільевіча, а самі за вугал схаваліся. Як зладзеі...

Саханчук схапіў вінтоўку. Апрануў шынель.

На ўсходзе залачала неба, і начная цемра радзела, але ўсё яшчэ шчыльна аблягала зямлю. Толькі стрэхі хат выразна бачыліся на пахмурым небе.

На варце павінен быў стаяць Цімохін. Пост знаходзіўся за хатай на гарбыльку, у вішанніку. Здаля Цімохіна не відно. Нешта падштурхнула Саханчука забегчы да Дзячкова, які кватараваў у суседняй хаце з Цімохіным.

Хата не зачынена. Саханчук нават узрадаваўся: Цімохін пакінуў пост і сядзіць дома. Яму здалося было, што Цімохіна ўжо няма ў жывых.

— Дзячкоў, Цімохін, пад'ём! — крыкнуў ён.

Азваўся Дзячкоў:

— Чаго табе?..

— Цімохін дзе?

— На пасту...

— Бяры кулямёт і на двор...

Яны выбеглі на задворкі, дзе ў малінніку тулілася лазня.

— Толкам скажы, што здарылася? — спытаўся Дзячкоў.

Саханчук похапкам расказаў і пра свой паход на пошукі нейкіх чэкістаў, якія зусім не чэкісты, а варожыя агенты, і пра ўчарашнюю гаворку.

— Трэба Баталава папярэдзіць,— на канец размовы прапанаваў ён.

— Чаму ж Цімохін не ўзняў трывогі? — спытаўся Дзячкоў.

— Я і сам падзівіўся, баец нібы сур'ёзны.

Кароткімі перабежкамі яны дабеглі да вішанніку. Цімохін ляжаў тварам уніз, нялоўка падкурчыўшы пад сябе руку.

— Глядзі, нажом у спіну,— зашаптаў Дзячкоў.— Во табе і чэкісты.

Саханчук схапіў за руку Дзячкова, удвух упалі на мокрую, як пасля дажджу, траву. З гарбылька ўходжанай між лесу зямлі добра відаць была вёска, прывідная ў перадранішніх змроках, і нешта таямнічае, зладзейскае рабілася ў ёй. Абодва адчувалі гэта ўсім целам, набраклым нейма-верным цяжарам.

— Колькі іх? — спытаўся Дзячкоў.

— Чорт іх ведае...

— Бачыш, а яны хату, дзе Валенда на пастоі, ведаюць. Можа, і Валенда з імі заадно.

— Трапіў бы ён мне ў рукі,— прыгразіў Саханчук.

— Глядзі, глядзі, ці не яны,— шэптам сказаў Дзячкоў. Да крайняй хаты, дзе жылі Валенда з Саханчуком, беглі двое.

— Вася, часані па лесе,— здзівіў Дзячкова сваёй просьбай Саханчук.

— Па іх часануць бы...

— А калі ў лесе засада. Яна адгукнецца...

Дзячкоў часануў па лесе. Адтуль не адказалі. Затое тыя двое, што беглі да хаты, залеглі, адкрылі агонь па вішанніку.

На тым канцы вёскі таксама забахкалі стрэлы, а ў ранішнім сутонні выбліснулі над чыёйсьці страхой кволыя языкі полымя ў белым густым дыме. Глуха лопнуўшы, над вёскай завісла чырвоная ракета, і ўсё наваколле раптам набыло крывавы колер. Адстрэльваючыся, двое адыходзілі на заходні канец вёскі.

Дзячкоў эканоміў патроны, біў кароткімі чэргамі з трафейнага кулямёта.

Цяпер ужо добра было відаць, што гарыць хата, у якой кватаравалі Баталаў са Шпарцюком. Агонь шугаў ужо ў неба; у ягонай ненажэрнай пашчы гулка страляла высушанае марозам і сонцам бярвенне.

Саханчук з Дзячковым задворкамі дабеглі да ахопленай полымем хаты. Агонь выціснуў шыбы і пачварнымі клубкамі вырываўся цяпер з вокан. А страха на хляве толькі пачынала дыміцца, пад ёй, за шырокай дзвярынай, адзічала раўла карова, спалохана павіскваў і рохкаў парсюк, а на двары прывязаны на ланцуг па-ваўчынаму выў і скавытаў сабака.

Забыўшыся на ўсё, Саханчук кінуўся да хлява, адчыніў дзвярыну. Яна з грукатам ударылася аб сцяну і замерла. Каля Саханчуковых ног праскочыў рабы парсюк, кінуўся на агароды. Карова ж усё раўла, спалохана ціснулася ў кут. Саханчук схапіў яе за рогі, цягнуў да дзвярэй. Яна ўпіралася, але ён неяк выцягнуў яе, і яна таксама патрухала на агароды.

Агонь ужо ахапіў усю страху, стала горача, аж не стрываць. Саханчук спусціў з ланцуга сабаку. Той баязліва ціснуўся да ног, замінаў хадзе.

Ля Дзячкова стаяла простаўалосая жанчына, у парванай на плячы кофце, бязладна махала рукамі, расказваючы крыклівым, напалоханым голасам:

— Аняго ж, усіх іх пастралялі... Я вырвалася, а тут адзін, даўгалыгі такі, з ракетніцы пад страху як стрэліць,

дым і паваліў. А вашага міліцыянера гэтага таўкуць вінтоўкамі, перад сабой гоняць.

— Чуў? — убачыўшы Саханчука, спытаўся Дзячкоў.— Яны ўсю сям'ю разам з Баталавым і Шпарцюком пастралялі і хату падпалілі. Каб сляды схаваць...

— Дужа яны баяцца слядоў,— буркнуў Саханчук.

— Яна кажа, што іх не болей дзесяці было. Каб жа ведалі. Мы іх бы жыўём, гадаў, пабралі.

— Схопім,— узгарэўся помстай Саханчук.— Чакай, схопім...

На пажар з другіх вёсак збягаліся людзі. Спалохана ціснуліся пад хаты, глядзелі з жахам на пажар, у якім гарэлі застрэленыя бандай людзі.

Жанчыны плакалі ўголас, перадавалі адна адной пушчаную нейкай пляткаркай чутку: свае за ўласць перастраляліся...

Саханчук пачуў плётку, пайшоў на натоўп з выцягнутымі рукамі; вінтоўка з пляча з'ехала на локцевы сустаў, боўталася, як качарга.

— Хто там такі разумны?.. Якая ўласць?.. Немцы гэта пераапранутыя, здраднікі, правакатары. А вы? Эх вы!..

Чутка пакацілася назад, набываючы статус праўды.

З партызан уратаваліся яшчэ двое: Міронаў і Грышын.

— Во што,— сказаў ім Саханчук,— будзем даганяць, гадаў...

— Дагоніш ты іх,— засумняваўся Міронаў.— Ды і калі дагоніш?.. Нас шасцёра...

— Ну і што, калі шасцёра?.. Я і адзін з імі распраўлюся... А далёка ўцячы яны не маглі...

— Тады камандуй,— пагадзіўся Міронаў.

Каля самага лесу іх дагнаў дзядзька Халімон, двух сыноў якога таксама застрэлілі бандыты.

— Чакайце, хлопцы, не гарачыцеся. След трэба ўзяць. Я іх па следзе і на тым свеце знайду...

— Нюхам? — пажартаваў Дзячкоў.

— Нюх тут ні пры чым... Я ў слядах разбіраюся, як, скажам, ты ў грамаце. Чытаю сляды, нібы кнігу.

Ён і сапраўды вельмі хутка адшукаў след, павёў па ім, як па ўтоптанай дарозе. Бандыты не хітрылі, не пятлялі па лесе, пёрлі напралом па ходжаных сцежках, баючыся, відаць, заблудзіцца ў пахмурай раніцы.

— Палонны ім замінае,— растлумачыў дзядзька Халімон.— Яны яго, лічы, волакам валакуць. Недзе прыстрэляць ці зарэжуць. Нада быць насцярожы...

Саханчук толькі скрыгатнуў зубамі. Нагадак пра Валенду выклікаў у яго люты гнеў. З-за яго, Валенды, загінулі Баталаў, Шпарцюк, Цімохін, Бурэйка, Слімук — амаль увесь атрад. Ад бяссільнай злосці яму спірала дых, а паветра, як рашпіль, драпала горла.

Пахмурая, волкая раніца прарэдзіла змрокі, але ў лесе ўсё яшчэ таілася ноч — непрывыклае вока бачыла не далей дзесяці крокаў. Таму на Валенду яны наткнуліся знянацку. Ён вісеў над самай сцяжынкай, падвешаны на вяроўцы да дзвюх бяроз: іх спачатку прыгнулі да зямлі, як гальштукам, завязалі вяроўку на шыі, прывязалі канцы да вяршалін і адпусцілі бярозкі на волю. Вяроўка была караткаватая — бярозкі гнулі вяршаліны адна да адной у вялікай і няўцешнай жалобе.

Халімон пакратаў нябожчыка за ногі, сказаў у спакойнай, па-мужычы прастадушнай развазе:

— Яны зусім блізка... У нябожчыка ногі яшчэ цёплыя... Яны, па-мойму, на пераправу кіруюць. Тут сцежка балота агінае. Нам варта наперарэз пайсці. Балота сёлета падсохла — усё лета дажджоў не было...

Яны выйшлі да ракі хвілін за пяць да паяўлення банды. Залеглі ў ельніку. Чакаць давялося нядоўга. Бандыты ішлі ланцужком. Перад кладкай спыніліся. Саханчук адразу выдзеліў сярод іх Сухарэўскага і Лапшова. Сухарэўскі стаяў крыху далей, прыкрыты ад Саханчука Лапшовым. Саханчук стрэліў і тут жа ўбачыў, як пападалі на зямлю бандыты і толькі Лапшоў прадаўжаў стаяць, аберуч трымаючыся за ніз жывата. Але і ён паваліўся ад кулямётнай чаргі.

Пакінуўшы на беразе ракі чатырох забітых, Сухарэўскі з двума хаўруснікамі знік, і цяпер шукаць яго было марнай ды і небяспечнай справай. Саханчук загадаў вяртацца ў вёску, каб пахаваць забітых.

Увечары партызаны непрыкметна пакінулі вёску.

## 16

За тыя дні, пакуль Каршукоў таміўся ў засценках гестапа, Ядвіся пастарэла, асунулася. Пад вачамі чорным паўкругам ляглі глыбокія цені. Вышчыпаныя бровы раздаліся ўшыркі, над роўнымі тонкімі стрэлкамі кусціліся густыя рыжаватыя парасткі.

Дзень і ноч думала яна пра Каршукова, нават спрабавала маліцца, але чутыя ў дзяцінстве малітвы былі забыты.

Па прывычцы паліла ў печы, прыбірала ў хаце, потым садзілася ля акна, прагна ўглядалася ў панылы пагорак, цераз які пралягала дарога з горада,— чакала Каршукова.

За гэтым заняткам і застала яе цётка Клаўдзя. Усю дарогу цётка думала над тым, адразу сказаць пра Каршукова ці пасля, калі падрыхтуе пляменніцу.

— Плачаш усё? — здалёк пачала цётка.

Ядвіся залілася слязамі, выцірала ражком хусткі вочы, усхліпвала. У цёткі сціснула жалем сэрца.

— Не бядуй, плямутка мая. Жывы ён, жывы.

Навіна аглушыла Ядвісю. Ашалелая ад радасці, яна зірнула на цётку, убачыла ў яе вачах усмешку і раптам, шырока раскінуўшы рукі, грымнула на падлогу.

Цётка выліла на Ядвісю паўвядра вады, прывяла ў прытомнасць.

— Дзе ён?

— У мяне... Ды не шалей, Ядзечка. Змардавалася ты па ім, а хваляваццa табе вунь як шкодна.

Ядвіся не даслухала цётку. Як апантаная забегала па хаце, выкідвала з шафы плацці, чагосьці шукала і не знаходзіла.

Цётка ківала галавой, слухаючы бязладную гаворку Ядвісі. Доўга глядзела, як пляменніца launch ператрасае ў куфры скрыначкі.

— Пабойся бога, Ядвіська, навошта яму памада тая. Без памяці ён ляжыць. Паранены моцна і голадам знясілены.

...І пабеглі дні за днямі ў трывозе і роспачы. Кожны раз, калі Ядвіся паяўлялася на цётчыным двары, яна чула адно і тое ж:

— А мая плямутка, усё, як і ўчора. Нібы і не жылец на гэтым свеце. Душу яны яму паранілі. Перапуд у яго, і адзін паратунак тут — знахар. Калі ўжо дзед не паможа, дык і ці ачуняе калі. Пагавары ты, Ядвісенька, з ім. Мяне ён і слухаць не хоча. Маўчыць, і ўсё тут.

Ядвіся захлыналася ад жаласці. Станіслаў Цітавіч не вельмі быў гаваркі з ёю. Пасля турмы і ўцёкаў ён аціх, змарнеў, дашчэнту, здавалася, разгубіў свой зайздросны аптымізм. Ніпіто яго не кранала, нішто не выклікала ў ім ахвоты жыць. Ён згасаў на вачах, як дагарае ўвечары свечка.

Жыў ён не ў новай хаце з гаспадарамі, а ў старой, прапахлай яблыкамі і сенам. Аднаго вечара, пачуўшы Ядвісіны крокі, ён запытаўся чужым, незнаёмым голасам:

— Ці ты, Ядзя?

— Я...

— Ноч ужо?..

— А ты ўсё ўпацёмках ляжыш.

Яна запаліла ліхтар, паставіла яго на прыпечак напалову разбуранай печы, з бояззю і кволай надзеяй — авось разгаворыцца — глядзела на Каршукова. Той, як заўсёды, ляжаў, заклаўшы рукі пад галаву, глядзеў невідушчымі вачамі ў чорную столь.

Ядвіся прысела побач, да болю ўзіраючыся ў зямлісты твар любімага чалавека.

— Як ты? Можа, крыху лепей?..

— Думаю ўсё...

Яго вочы глядзелі ў зацемнены чорнымі ценямі куток за печчу.

— Пра што табе думаць? Папраўляйся хутчэй, тады разам падумаем, што будзем рабіць.

— Разам, Ядзечка, ні да чаго не дадумаемся.

Ядвісі да слёз было крыўдна. Думала, па-жаночы шкадуючы сябе: «Разлюбіў ён мяне, а сказаць не можа...» Хацелася закрычаць ад роспачы. Але яна стрымала сябе. Асцярожна прыпала да яго грудзей, горача зашаптала:

— Стасёк, пагавары ты са мной. Маўчыш усё. А я чаго толькі дома не перадумала. Можа, разлюбіў мяне? Скажы адразу. Сам ведаеш, я цябе без усякай карысці любіла і цяпер люблю, можа, мацней, як раней.

Яна прыціснулася да яго вуснаў сваімі, гарачымі і прагнымі. Але ён ляжаў абыякавы да яе пацалункаў. Непадатлівая халоднасць яго вуснаў і мёртвы ашклянелы позірк абуралі жаночы гонар. «Я да яго з ласкай, а ён — як пень яловы»,— і заплакала шчодрымі, гарачымі слязамі.

— Пайду я,— праз слёзы сказала Ядзя.— Відаць, не патрэбная табе стала.

— Цяжка табе са мной,— як рэха, адгукнуўся Каршукоў.

Было штосьці ў яго голасе новае, па-чалавечы шчырае і добрае, што Ядзя зноў прысела побач, узняла яго велікаватую, па-мужчынску цяжкую руку, прыціснула яе да грудзей.

— Што з табой, Стась? Ты як мёртвы...

Станіслаў Цітавіч уздрыгнуў і як бы ажывіўся, хоць у вачах па-ранейшаму туліўся смутак.

— Я і ёсць мярцвяк,— пакорліва згадзіўся ён.— Можа, нават горш за мерцвяка. Тыя не думаюць. А я ўсё думаю, думаю...

— Не смей,— заціснула Ядзя яму рот сваёй рукой.— А пра мяне забыўся. Кожны вечар бягу да яго, пакутую. Як ты мог сказаць такое?..

— І пра цябе думаю. Пра любоў нашу,— голасам асуджанага гаварыў Каршукоў.— А навошта? Прасвету не бачу. Любоў тады дарагая, калі наперадзе светла, а калі там адна чарната — любоў як кайданы катаржніку.

— Сам жа казаў, што нашы зімой вернуцца...

— Што нашы? — перапыніў яе Каршукоў.— Хоць саву аб пень, хоць пнём па саве, а саве крышка. Так і ў мяне. Немцы зловяць — павесяць. Нашы таксама не памілуюць. Кропка! Адгуляў Каршукоў!

— Што ты кажаш? Чаго баішся?

Каршукоў пашарыў рукой пад падушкай, выцягнуў акуратна складзены аркуш.

— Уладак табе нічога не казаў? Тады пачытай, што твой Стась піша,— адводзячы вочы, сказаў Каршукоў.

Гэта была нямецкая газета. Ядзя як толькі разгарнула яе, дык адразу ўбачыла партрэт Каршукова. Яна саскочыла з палацяў, падбегшы да ліхтара, прагна пачала чытаць няроўныя радкі. Напісанае даходзіла да свядомасці цяжка, аднак выклікала разгубленасць і страх.

— Няпраўда! Гэта няпраўда, Стась!

Ён прамаўчаў. Ядзя зноў пачала перачытваць артыкул. Здавалася, што ў ім напісана пра кагосьці другога, а не пра Каршукова. Але ўнізе стаяла прозвішча «Каршукоў».

— От бачыш, Ядзя...

— Але ж гэта няпраўда?

— А калі праўда?

Яна на імгненне сумелася.

— Не, хлусня,— сказала рашуча, адкідваючы прэч сумненні.— Тады яны не везлі б цябе на расстрэл.

— Хлусня, вядома.— Ён сеў, абхапіў вострыя калені доўгімі рукамі.— Усё ад пачатку да канца хлусня. А вось паспрабуй дакажы, што няпраўду напісалі...

У Ядвісіных руках дробна дрыжаў газетны ліст. Жаночым сэрцам адчула, што Каршукоў хвалюецца недарэмна, хоць, шчыра кажучы, не зусім разумела, чаго баяцца, калі напісанае — хлусня. Суцяшала Каршукова як умела:

— Мала чаго немцы набрэшуць. Хто ім паверыць? Да вайны ва ўсіх газетах пісалі, што фашысты на кожным кро-

ку хлусяць. Дурненькі ты, прыйдуць нашы, дык на гэты твой артыкул і не глянуць.

Яна старалася гаварыць бесклапотна і весела, абдымала Каршукова, як маці пакрыўджанае дзіця. Ён адвёў яе рукі.

— Не да таго, Ядзя,— і, ужо ажывіўшыся, як калісьці, паслядоўна пачаў расказваць ёй пра свае сумненні.— Перад партыяй, Ядзя, я чысты. Нічым сябе не запляміў. Гэта плюс — мой плюс. А калі падумаю, у які пераплёт трапіў, мароз прабірае. Кароў прыгнаў з адступлення — раз.

— Я ж табе казала...

— Пачакай. Заднім розумам кожны багаты. Думаў адно, а выйшла не так, як хацелася. Ну, ды гэта яшчэ паўбяды. Старастам згадзіўся быць — другая загваздка.

— А што я табе казала: пойдзем сюды адразу, дык не слухаўся...

— Не мог я пайсці. Людзей чакаў. Перадумаў я за гэтыя дні шмат і во да чаго дадумаўся: тады ноччу не Сідаронкавы дружкі прыходзілі і не правакатары, а мабыць, па мяне прыходзілі. Вось табе трэцяя загваздка. Але і не гэта галоўнае. Артыкул не дае спакою. Ёсць у ім адна праўда, ад якой не адкруцішся: я згадзіўся быў выдаваць партызан... Ды ты не бойся. Сябе ратаваў. Каму хочацца вось так за нішто гінуць. Думаў, што немцы памогуць мне партызан знайсці. Аж немцы мяне перахітрылі, а не я іх. Цяпер глядзі, што палучаецца. У турме я тыдзень адседзеў, ды і тут трэці валяюся. От і дакажы, што ты быў хворы, а не партызан выдаваў. Хтосьці ж выдае іх. Немцы так лёгка не адступяць. Адным словам, звязалі мяне так, што і чорт не развяжа.

— Ну і што? Прыйдуць нашы, ты ім, як мне, раскажы пра ўсё. Дрэннае ты не рабіў.

— А хто паверыць? — і раптам запытаўся: — Макар Сідаронак дзе цяпер?

— У паліцыі...

— Начальнікам?

— А божа, які з яго начальнік. Маці казала, схапілі Макара і ў халодную пасадзілі. Бургамістр, як звер, лютуе, сілком у паліцыю заганяе.

Каршукоў задумаўся. Выгаралыя, бялёсыя бровы туга сышліся над пераноссем.

— Можа, яму якую ўзнагароду далі?

— За што? — здзівілася Ядзя.

— От у тым і справа. Каб далі ўзнагароду або хоць бы начальнікам якім паставілі, мне лягчэй жылося б. А так усё нутро перакручвае... Я табе пра адзін выпадак раскажу. Дасюль не мог, а цяпер усё роўна. Мяне, як Сідаронка арыштавалі, нешта праз год следчы выклікаў. Пасля той размовы я з тыдзень як апалелы хадзіў. Знаеш, за што Макара арыштавалі? За шпіянаж на немцаў. От ты не верыш! Я таксама быў напачатку не паверыў. Што коні па яго віне прапалі — факт. І менінгітны конь таксама па яго дурасці ў статак трапіў. Тут, як кажуць, улікі жалезныя. А вось што немцы яго завербавалі... Дык на якое ліха ён ім патрэбен?.. Але і я паверыў. Я табе, Ядзечка, большае скажу: тваімі паказаннямі і я Макару гадоў пяток падкінуў. Ды і як было маўчаць. Помню, як цяпер, следчы ўсміхнуўся гэтак яхідна і кажа мне: «У вас, таварыш Каршукоў, палітычная пільнасць прытупленая. Пра тое, што Сідаронак фашысцкі разведчык і дыверсант, у нас ёсць неабвержныя ўлікі і паказанні. І мы ад вас не патрабуем пацверджання ўжо ўстаноўленай ісціны. Нам важна ведаць, што ён гаварыў, як дзейнічаў, каб глыбей вывучыць метады і формы іншаземных разведак. Пастарайцеся ўспомніць, пра што гаварыў Сідаронак...» Ну і ўспамінаў. А цяпер палучаецца, што ніякім шпіёнам Макар не быў. Нагаварылі на яго... А на мяне і нагаворваць не трэба. Каб сам сваю справу разглядаў, дык без скідкі на ўсю катушку ў Сібір, а можа, і да вышэйшай меры...

— Што ты выдумляеш? Думаеш, суд гэта — трах-бах і ў турму?

Каршукоў абняў Ядвісю за плечы, прытуліў да сябе.

— Хай бы і я нічога не ведаў... Прападзі ты пропадам, такая жытка.

У сене звонка, як над самым вухам, зазвінеў конік. Відаць, і яго дацінала адзінота, а выбрацца з хаты ён не ўмеў, ды і не было куды — на дварэ восень.

Каршукоў, раздражнёны самотным крыкам коніка, кінуў у стажок яблыкам. Конік адразу сціх, потым зноў азваўся.

Нізка схіліўшы галаву ад цяжкіх думак, маўклівая сядзела Ядвіся. Яна пакутліва думала пра тое, як дапамагчы бясконца дарагому чалавеку ў яго горы, і не магла нічога прыдумаць. Каб ведала, здаецца, адкуль паявіцца ліха, лягла б, загарадзіла б сабой дарогу.

— Ядзя, можа, у цёткі гарэлка ёсць? — перапыніў яе думкі Каршукоў.— Раней не верыў, што з гора запіваюць...

Ядвіся дзеля прыліку запярэчыла, хоць просьба Каршукова яе ўзрадавала. Значыць, яна яшчэ патрэбна яму, значыць, вяртаецца да іх харошае незабыўнае каханне. Яна нячутна вышмыгнула за дзверы. Потым увайшла з талеркай гуркоў, паўзверх якіх ляжаў кавалак сала і нарэзаны хлеб. З кішэні капота тырчала куртатае рыла бутэлькі.

Каршукоў выпіў паўшклянкі, адразу ахмялеў. Смешна варочаючы непаслухмяным языком, папрасіў:

— Выпі і ты, Ядзя.

Яна, узрадаваная яго просьбай, выпіла, папярхнулася і зайшлася ад смеху.

— П'яная, мабыць, буду. У нас з табой як заручыны...

— Заручыны і ёсць,— пагадзіўся Каршукоў.— Каб не ты, і жыць не варта. Калі нікога не любіш, дык які ты чалавек. Так, затычка...

Ядвіся лашчылася, стараючыся адарваць Станіслава Цітавіча ад маркотных думак, што дробненька моршчылі яго высокі лоб. Але Каршукоў неўзабаве зноў вярнуўся да таго, чым жыў усе гэтыя дні:

— Мне цяпер адно ў галаве, калі паміраць, дык з музыкай. Я такога нагледзеўся, што ў грудзях не сэрца, а піраксілінавая шашка. Тая ад удару разрываецца, а сэрца ад аднаго слова: немец. Людскага ў фашыстаў і на грош няма. Звяры яны. Да апошняй кроплі крыві буду ім помсціць. Смерці я не баюся. Паглядзеў ёй у вочы. Мне б толькі зброю ды чалавек дзесяць. Пагуляў бы я на нямецкіх хаўтурах.

— Хворы ты яшчэ, ды і зброю дастаць цяжка. Яна не хлеб, у суседа не пазычыш.

— Чуў я, што пад Хвалковічамі абоз наш немцы разбамбілі. Можа, што і засталося...

Ядвіся зразумела, куды гне Каршукоў, але не адказала. Рана яму пра зброю думаць.

## 17

У горы і клопатах не вельмі прыглядаешся да людзей. І Ядвіся неяк не заўважыла, што цішкаўцы змянілі да яе свае адносіны. Аднойчы, калі яна пайшла па ваду ў калодзеж, жанчыны сустрэлі прывычным: «Добрай раніцы» — і тут жа паспешліва разышліся.

«Здалося,— весяліла сябе Ядвіся,— мне, як гулящчай бабе, усё цемціцца, што пальцам паказваюць».

Але пад вечар завітала малодшая Мікалаішка — Ган-

ка, рабаватая, з лупатымі, як у агародняй жабы, вачамі. Прыбегла па гарачае вуголле, каб распаліць грубку.

Ядвіся выграбла на загнетку жар, запыталася:

— А пасудзіна твая дзе?

— Авой, Ядвісечка, забылася, хай на яго ліха. Можа, у цябе які чарапок знойдзецца?

Дастаючы з-пад печы бляшанку, Ядвіся гадала, чаго прывалаклася гэтая рапуха.

Ганка не спяшалася. Разоў пяць перавязвала хустку, мянціла языком, але Ядвіся бабскім чуццём разумела, што ёсць у яе прыпасеная найважнейшая навіна. Не падганяла, хай рабая сама загаворыць. Чорт яе разбярэ, лупатую, што ў галаве трымае. І Ганка не вытрымала:

— А ты, Ядвіська, як жыць думаеш? Як той казаў, за двума мужыкамі саламянай удавой век не працягнеш.

— Як-небудзь будзе. Цяпер удоў многа,— дыпламатычна адказала Ядвіся.

— Яно так. Божачка, божачка, што толькі на свеце робіцца? Макару, кажуць, дваццаць пяць шампалоў усыпалі. Арыштаванага нейкага выпусціў. Вядома ж, цямцюй быў, цямцюем і застаўся... А пра Каршукова не чуваць? — печакана запыталася яна.

Ядвісіны шчокі афарбаваліся густой, яркай чырванню. Адказала ціха:

— Як заарыштавалі яго, нібы ў ваду кануў. Хадзіла на першым часе ў горад, пыталася. Ніхто нічога не ведае. Зламыў, мусіць, галованьку...

Ганка падсела бліжэй, даверліва тулілася да пляча, зазірала ў вочы.

— Ой, Ядзечка, не хітры са мной. Каб расстралялі, ці так бы ты гаварыла. Уся вёска вунь ведае, што жывы Каршукоў і ў пашане вялікай... Паміж намі кажучы, лаюць Станіслава Цітавіча. А я так думаю, што свая кашуля бліжэй да цела. Пабрэшуць, як той казаў, і перастануць. А яму, кажуць, маёнтак далі.

— Брэшуць і людзі твае, і ты...

— Ведаеш, значыцца,— ахнула Ганка.— Во, бо скрытная. Я дык нядаўна пачула. У Парфіла Бабраўнічага газетка ёсць, і ўсё ў ёй апісана. Пашанцавала табе, Ядвіська, што з Каршуковым сышлася...

Ядвіся паспрабавала лагодна даказаць Ганцы, што ў газеце хлусяць, але не вытрымала:

— Бяры сваё вуголле ды матай з хаты, пакуль я табе вочы не выдрала...

Ганку як здула ветрам. Абпальваючы рукі аб перагрэтую бляшанку, выбегла з хаты, праклінаючы Ядвісю.

На прыцемку Ядзя пайшла да Бабраўнічых. Парфілава сям'я вячэрала. Парфіліха падхапілася з-за стала, змяла фартухом лаўку.

— Прысаджвайся, суседка, нешта ў апошні час заганарылася, не заглядаеш нават.

Ядвіся з ходу павяла размову:

— Я, Парфіл Міронавіч, не так сабе зайшла. Пакажы ты мне тую газетку, дзе пра Стася пісалі.

Парфіл так і неданёс лыжку да рота. На засланы цыратай стол палілася гарачая крупеня.

— Сам не ведаю, дзе яна. Здаецца, Хведар Восіпчык узяў.

Малодшы Парфілаў сынок Віцька здзіўлена паглядзеў на бацьку.

— І сто ты, татка, забыўся. Яна ў сталку лязыць.

Не паспеў Парфіл цыкнуць, як Віцька нырнуў пад стол, пабег у другі пакой і неўзабаве вынес адтуль газету.

Парфіл, дарэшты збянтэжаны, стараўся згладзіць прыкры выпадак.

— От памяць, скажы, стала.

Ядвіся затрымала Віцьку, туліла да крутога бядра.

— Парфіл Міронавіч, не крыўдзі хлапчука. Ён у нашых хітрасцях не дужа кумекае.

Парфіл толькі крактануў ад такой Ядвісінай шчырасці. А яна, быццам ніколі не бачыла газеты, бегала вачамі па радках, па-новаму цяпер успрымаючы кожнае слова.

— Што ты думаеш наконт гэтага, Парфіл Міронавіч? — з надзеяй на тое, што Бабраўнічы зараз жа абвергне напісанае, запыталася яна.

Адказала жонка:

— Нам што?.. Як людзі, так і мы...

Парфіл маўчаў, размазваў лыжкай пралітую крупеню.

— Што ж ты маўчыш, Парфіл Міронавіч? Няўжо і ты верыш?

— Чаго вушы натапырылі,— накінуўся Парфіл на дзяцей.— Марш на печку. Вам такое яшчэ рана слухаць.

Засталіца апусцела. Парфіл пасунуўся на край лаўкі, выцягнуў захватаны да бляску рукамі капшук. Ядвіся чакала яго прысуду з нецярплівасцю.

— Скажу я табе так, Ядвіга Казіміраўна, у іхніх газетах таксама не ўсягды хлусяць. Абдурыў нас Каршу-

коў і яшчэ не адзін раз вакол пальца абвядзе. Ты, Ядвіга Казіміраўна, не кіпяціся, пачакай, дай дакончыць. Знаю, што любіш Каршукова, Макара з-за яго не пашкадавала. Ну, гэта не нашага розуму дзела. А пра тое, мабыць, не ведала, што жонка яго былая, якую ён кінуў, у паліцыі цяпер служыць. А муж яе таксама ў немцаў не апошняя затычка. От і кумекай, куды яно і як усё павярнулася.

— Памаўчаў бы, дурань нястрыманы,— накінулася на Парфіла жонка.— Вечна язык свярбіць.

— Няпраўда гэта...— Ядвіся гатова была расказаць пра ўсё, што знала, але нейкая ўладная сіла і строгі наказ Каршукова — маўчаць — стрымалі яе. І яна пайшла.

Усю ноч праплакала над сваёй горкай доляй. Забылася пад раніцу ў цяжкім, як памарока, сне і тут жа прахапілася. Завязала ў хатулёк хлеб, гуркі, бульбу, забегла да Насці Турковай, з якой даілі кароў у калгасе, папрасіла глядзець за домам. На Насціна без хітрасці пытанне адказала злосна:

— Мужыка пайду шукаць, авось хоць задрыпанага знайду.

Нізкае, пахмурнае неба сеяла на зямлю золкі спорны дождж. У лесе сядзелі натапыраныя вароны, падстаўляючы чорныя глюгі ветру.

Пакуль дайшла да Хвалковіч, Ядвіся прамокла да ніткі. Набрынялая вадой спадніца ліпла да цела, путала зморaныя ногі. За каўнер па спіне цяклі халодныя кроплі.

Было няўтульна і мотапна. У лесе да ўсяго прыбавіўся страх. Здавалася, што з-за кожнага дрэва нехта сочыць за табой у сто вачэй, хоча схапіць доўгімі слізкімі рукамі. Было вельмі ціха, нават крокі заміралі на мокрай, пакрытай ігліцай зямлі.

Перамагаючы страх і адзіноту, Ядвіся ўсё глыбей зашывалася ў лес, спаўзала па крутых схілах на дно глыбокіх равоў, выбіралася зноў, з настойлівай упартасцю шукала зброю. Але нават слядоў разгромленага абозу не было відаць.

Ад доўгай хады і стомы звінела ў вушах. Злыя, роспачлівыя думкі крывянілі збалелае сэрца: «Вайна, каб на яе паморак, усё жыццё перакруціла, прападзі яна пропадам».

Да слёз хацелася забрацца куды-небудзь далёка-далёка, у глухамань, самую непраходную тайгу, дзе няма вайны, немцаў і праклятага надакучлівага дажджу.

Схаваўшыся пад маладую разлапістую яліну, яна развязала хатулёк, без смаку пажавала адсырэлы хлеб. Хацелася плакаць, а слёз не было.

Яе невясёлыя думкі перапыніла людская гамонка. Непадалёк, зусім, здалося, побач, бубнілі галасы. Яна зашылася пад елку, сціснулася ў камячок, насцярожыўшы і без таго вострый слых.

Размаўлялі хлапчукі, пазнала яна па ломкіх галасах. Прыгнулася, амаль прыпала да зямлі. Скрозь густоту зараснікаў убачыла тры пары ног, што ступалі ўразлад, як папала. Потым хлапчукі на адно толькі імгненне паявіліся ў вузкай прасецы, але Ядвіся паспела заўважыць, што яны нясуць нейкую скрыню, маток дроту і два салдацкія шынялі.

Радуючыся, як малое, яна паспешліва завязала хатулёк, пайшла ў той бок, адкуль, на яе думку, неслі здабытае хлапчукі. Цяпер яна не заўважала дажджу, не чула, як мокрая спадніца да крыві націраe ногі,— была занята адным: хутчэй знайсці разбіты абоз.

Глядзела сабе пад ногі і калі выцялася аб нешта, дык спачатку падумала: «Так і вочы нядоўга выкалаць» — і раптам ледзь не крыкнула ад радасці. На суку вісела ўніз руляй вінтоўка. Асцярожна, баючыся, каб вінтоўка не стрэліла, яна зняла яе, трымала на выцягнутых руках, як дарагую, але небяспечную цацку.

Недзе тут, побач, несумненна знаходзіўся і разбіты немцамі абоз. Яна ішла па кустах, не выбіраючы сцежак. Наткнулася на свежую, з роўнымі краямі яму, з мутнай вадой на дне. Зразумела, што гэта і ёсць варонка ад снарада ці бомбы.

На былую абозную стаянку яна натрапіла неспадзявана. На атуленай бярэзнікам паляне валяліся разламаныя скрыні, а сярод іх перавернутая набок гармата.

Тут, відаць, даўно гаспадарылі, і не толькі дзеці. Раскісаючы пад дажджом, мокнулі рассыпаныя макароны, бялелі ўтаптаныя ў зямлю ячныя крупы, усюды валяліся дошкі ад скрынак, папера, нейкія жалезныя ўтулкі, цвікі. Зброі, аднак, не было відаць.

Далёка пад кустамі, у самым гушчары, нешта чарнелася. Ядвіся рассунула мокрае голле, знямела ад знобкага жаху: абхапіўшы рукамі куст, ляжаў забіты. Да непрытомнасці жудасна бялеў абмыты дажджом чэрап...

Яна кінулася ўцякаць, згубіўшы па дарозе хатулёк і вінтоўку. Ісці шукаць іх не ставала смеласці. Здаецца,

нават пад прымусам яна не пайшла б цяпер на тое страшнае месца.

Неяк неспадзявана выбралася на лясную прасеку, з даўнімі выбоінамі ад колаў. Лес тут быў не такі глухі, як там, дзе ляжаў забіты. І яна пайшла памалу, адпачываючы пасля перапуду.

За пакатым узгоркам, у нізіне, метраў за дваццаць ад прасекі, стаяў грузавік з абгарэлымі коламі. Ядвіся прайшла паўз яго, баючыся зірнуць нават у той бок, каб зноў не ўбачыць што-небудзь страшнае. Але стрымала сябе, вярнулася.

Ад машыны застаўся чорны жалезны шкілет. Крыху далей, у ельніку, ляжалі белыя цынкавыя скрынкі і яшчэ адна доўгая, як труна, перавязаная жалезнымі стужкамі.

Ядвіся перавярнула скрынку, убачыла адтапыраны ражок вузкай металічнай палоскі, пачала цягнуць яго з усяе сілы. Палоска памалу аддзіралася.

Са скрынкі, з-пад тоўстай прамасленай паперы, на яе зірнулі востранькія галоўкі куль і яркія вочкі пістонаў.

На гэты раз знаходка не вельмі ўразіла яе, як тады, калі знайшла вінтоўку. Не спяшаючыся, яна пачала завіхацца ля другой, як труна, скрынкі.

Там ляжала дванаццаць вінтовак, густа змазаных маслам. Радасці ўжо не адчувала, проста паявілася гаспадарская разважлівасць і пільны клопат, як данесці гэтае багацце.

У пошуках хоць якой вяроўчыны яна аблазіла ельнік, знайшла кулямёт з двума ржавымі дыскамі, але вяроўкі не было. Адматала на машыне кавалак недагарэлага мяккага дроту. Яго хапіла толькі на тое, каб звязаць вінтоўкі. Тады яна адарвала ад спадніцы пояс, пацягнула вінтоўкі волакам.

Адышоўшыся кіламетры два, вярнулася за патронамі і кулямётам. Так паўтаралася многа разоў за рэштку дня і доўгую асеннюю ноч. Не перастаючы ліў дождж. Без адпачынку, як мурашка, цягнула Ядвіся зброю ў Цішкаўку. Выбівалася з сіл, калі валакла паклажу, адпачывала, вяртаючыся назад.

Перад світаннем яна была за дзве вярсты ад Цішкаўкі. Знайшла падмыты вадой бераг, схавала пад ім вінтоўкі і кулямёт. Скрынкі з патронамі прыхавала пад выварацнем. Прысыпала ігліцай, апалым мокрым лісцем. Каб не забыць месца, хацела зламаць верхавіну дзікай але-

шыны, але на гэта ўжо не хапіла сілы. «Знайду і так,— падумала яна.— Такое да самай смерці не забудзеш».

Дома яе сустрэла дашчэнту перапалоханая Насця Туркова. Пабачыўшы змораны, зблажэлы твар сяброўкі і падзёртую, вываленую ў гліне вопратку, толькі пляснула ў далоні.

— А божа, дзе ты так выкачалася?

— Дай чаго на зуб: з учарашняга дня макавай расінкі ў роце не было,— сказала Ядвіся, знімаючы мокрую, як выкруціць, спадніцу.

Насця палезла ў склеп па малако. Калі вылезла, Ядзя ўжо моцна спала, паклаўшы галаву на стол.

## 18

Каршукоў нецярпліва прыспешваў Ядвісю. Ён быў як апантаны, даведаўшыся, што зброя ёсць.

— Цяпер ты мне яшчэ адну службу саслужыш,— гаварыў ён, мераючы цыбатымі нагамі хату.— Людзей трэба.

— З цішкаўскімі хлопцамі пагутару,— паабяцала Ядзя.

Ён замахаў рукамі.

— Не, мне такія не трэба. Мне, каб, як і я, на ўсё гатовыя.

— А тады я табе ўжо і не патрэбна буду,— горка паківала галавой Ядзя.

Каршукоў цыкнуў на яе, як бывала, калі яна гаварыла што-небудзь наперакор яму. Раней такое не падабалася, а цяпер як маслам па сэрцы: значыць, зноў Каршукоў стаў Каршуковым. Яна такога і любіла.

— Ты вось што, Ядзя, схадзі на Барвін перавоз у лагер. Цётка казала, што там палонных адпускаюць, калі заплаціш.

— Добра ўжо, гора маё кудлатае, зраблю,— і абняла за шыю.— А цяпер забудзь на ўсё. Хоць адзін вечар ды мой, такі, як да вайны, калі ты, бывала, з праўлення па агародах прыбягаў.

Назаўтра яна набрала ў кошык хлеба, бульбы, палажыла ў кішэню загорнутую ў анучку залатую дзесяцірублёўку, што хавала на зубы.

Ішла ў лагер крыху з бояззю, хоць забалацкія жанчыны, што пабывалі там, шукаючы сваякоў, казалі — баяцца няма чаго.



Алесь Асіпенка — супрацоўнік газеты «Чырвоная змена» гутарыць з трактарысткай камсамольска-маладзёжнай брыгады Капыльскай МТС. 1947 г.

Як і заўчора, калі яна хадзіла па зброю, ліў дождж. Яшчэ з гары Ядзя ўбачыла высокую агароджу з дроту, а за ёй чорна-шэры клубок, што перакочваўся па полі. Палонных не кармілі, і яны перакопвалі бульбянішча, каб знайсці хоць адну ўцалелую ад галодных людзей бульбіну.

Ля будкі з вялікай брамай паходжвалі вартавыя ў рабых, зялёна-чорных плашчах. Цывільных не відаць. Аднай сунуцца на дарогу было страшнавата.

Берагам паўз рэчку Ядвіся пайшла да бярозавага гаю, адтуль па кладцы перабралася на другі бок. Да лагера аставалася паўвярсты, не больш. Яго хаваў ад вачэй пагорак, парослы ельнікам. Ядвіся пайшла напрасткі.

— Куды ты? Не хадзі,— спалохаў яе чыйсьці голас.

Яна азірнулася — пад купкай елак туліліся тры жанчыны. Ядзя падышла да іх.

— У лагер ідзеш ці так? — спыталася пасінелая ад холаду жанчына.

— У лагер хацела.

— Не ідзі,— папярэдзіла Ядзю другая.— Там цяпер Вернер дзяжурыць. Да яго ніяк не падступіцца. Фрыцу, таму сунеш дзесятак яек або масла, дык дазваляе да агароджы падысці.

— А я толькі хлеб ды бульбу прынесла,— спалохалася Ядвіся.

— Перадамо. Яно ж не важна, хто перадаў, абы было што перадаць.

— Не, мне самой трэба...

Трэцяя жанчына, што дасюль маўчала, запыталася:

— Таксама муж сядзіць?

Ядвіся кіўнула галавой, тоячы праўду.

— Во і ў мяне такое ж гора,— пачала жанчына. Расказвала, відаць, яна не першы раз, бо дзве другія бабы слухалі няўважліва.— Сама я з-пад Веляшковіч. Можа, чула пра Васіля Палуянчыка. Пра яго на сто вёрст кругом слава ішла. Гарманіст ён. Дык от я жонка ягоная, Алена Палуянчык.

— Ты адкуль будзеш? — перабіла Алену маладзейшая.

— З Цішкаўкі, недалёкая.

— Або, ці вашаму гэта старшыні маёнтак далі?

Ядвіся задыхнулася: вось табе, як дурная слава хутка па свеце бегае.

— Нашаму. Толькі, бабанькі мае, маёнтак яму далі, а самога ніхто і ў вочы не бачыў. Кажуць, немцы яго расстралялі, бо не хацеў ён акружэнцаў, што ў лесе хаваюц-

ца, выдаваць. Набрахалі на яго немцы, бо мёртвы за сябе ўжо не заступіцца,— з усіх сіл бараніла Ядвіся Каршукова.

— Дык жа і майго Васіля выдалі. Праз такіх сабак у лагеры сядзіць. Сем вёрст дахаты не дайшоў. Свае злыдні арыштавалі.

— Затое сёння дамоў павядзеш,— азвалася Варвара, пасівелая жанчына з недалёкай ад Барвінага перавоза вёсачкі Ляды.

— Адпускаюць хіба? — устрапянулася Ядвіся.

— Яшчэ і сама не веру. Абяцаў Фрыц адпусціць за дзве залатых. Во і вопратку прынесла...

— А вы таксама па мужыкоў прыйшлі?

— Не, мы так. Нашы недзе далёка. Можа, вось так, як мы, іх чужыя бабы кормяць.

— Без нас, бабанькі, мужыкам туга,— плаксіва гаварыла Алена Палуянчык.— Мы пра іх дзень і ноч думаем ды слёзы аб падушку сушым, а яны нас не ў горы прывячаюць. Мой злыдзень, бывала, усё па бабах ды па гулях бегаў. Слова не скажы, мацюком аблажыць — адвяжыся, агорклая. А цяпер убачыў — плача. Аленка, родненькая... Што, кажу, успомніў родненькую...

Маладзейшая жанчына з прыгожым, крамяным тварам (Паліна Суцей — даведалася потым яе імя Ядвіся) запярэчыла:

— Не ўсе такія, як твой. Я са сваім Косцем адно лецейка мілавалася. Як пайшоў на фінскую, дык шыняля не скідае. Затое на ўсё жыццё помніць буду, як ён мяне шанаваў.

У лагеры адзін за адным прагучалі тры стрэлы. Жанчыны сказалі, што мяняецца варта. Яны заварушыліся, пажвавелі. Алена ўзваліла хатуль на плечы, першая падалася да лагера. За ёй астатнія. Ядзя трымалася Паліны, падабалася ёй гэтая чарнабровая чырванашчокая маладзіца.

Палонныя, мабыць, таксама ведалі, што старэйшы наглядчык Фрыц не такі звер, як Вернер. Убачыўшы жанчын, што баязліва вылазілі з-пад елак (а іх у ельніку хавалася багата), палонныя рынуліся да дроту. Ядвіся бачыла, як паўзуць, чыкільгаюць, лезуць да агароджы шэрыя страшныя постаці. Яе ахапілі жах і жаласць да гэтых змардаваных няшчасных людзей. Затуманенымі ад слёз вачамі яна бачыла, як жанчыны па чарзе ідуць да немцаў, кладуць у кошыкі падарункі. У яе нічога не бы-

ло, і яна стаяла воддаль, прыціскаючы да грудзей такі маленькі на гэтую процьму людзей хатулёк.

— Хадзем, я і за цябе разлічылася,— пазвала яе Паліна.

Не зводзячы вачэй з натоўпу, што з таго боку працягваў рукі, моўчкі прасіў кавалачак хлеба — немцы адкрывалі агонь, калі хто прасіў,— Ядзя наблізілася да агароджы, ішла ля яе, заўважаючы толькі, як ва ўсіх палонных аднолькава раскрываюцца вусны: мне... мне... мне...

Яна пачала совадь у працягнутыя рукі кавалкі хлеба. Палонныя хапалі іх, хавалі ў рызманы: мне... мне... Кожнаму хацелася палучыць не адзін, а многа, вельмі многа такіх кавалкаў.

Раптам у натоўпе яна ўбачыла худога зняможанага чалавека з рукой на перавязі. Ён стаяў воддаль, быццам саромеўся прасіць, як другія. Час ад часу ён нешта гаварыў, і хоць было цяжка саўладаць з гэтымі галоднымі людзьмі, яго слухаліся.

— Вазьміце вось,— працягнула Ядвіся яму самую большую лусту хлеба,— а то вам нічога не застанецца.

Ён падзякаваў і сабраўся быў адысці. З-пад шырокіх чорных броваў зноў пільна сачылі за палоннымі яго гарачыя, як у ліхаманцы, вочы. Усім нутром Ядвіся адчула, што чалавек гэты моцны, такі, які патрэбен Каршукову. Рашуча паклікала яго.

— Можа, я вас выведу адсюль? — сказала, калі ён падышоў.

Чалавек на імгненне задумаўся, пранізваючы Ядвісю вострым, як брытва, позіркам.

— Вось што, выведзіце аднаго чалавека. Скажаце, што вы яго жонка.

Яна кіўнула галавой, згодная на ўсё, што ён ёй скажа.

— Яго завуць Чабаноўскі Аляксандр Нікіфаравіч.

Ядзя ў думках некалькі разоў паўтарыла прозвішча чалавека, якога павінна была назваць мужам. Ішла паўз агароджу, нічога не прыкмячаючы: яе апанавала страшэнная зморанасць і нейкая дзіўная абыякавасць да ўсяго на свеце. Лагер, агароджа, людзі, што прасілі есці галоднымі вачамі, натоўп жанчын, далёкая, як у сне, брама, нізкае хмурнае неба — усё на свеце было падобна на страшнае трызненне разгарачанай хваробай галавы.

Недзе басавіта выгукнуў немец, і людзі шарахнуліся ад дроту. Жанчыны кідалі цераз агароджу рэшткі прыпасаў — іх падбіралі шэрыя чалавечыя постаці.

Ядвіся не звяртала ўвагі. Ішла паўз агароджу да немцаў, што стаялі ля брамы. Ёй нешта крычалі, але яна не разумела, чаму на яе крычаць. Тоўсты, як саламяны куль, салдат наставіў у грудзі аўтамат, дзіка вырачыўшы вочы, шырока разяўляў рот. Яна спынілася.

— Пан! Пан! Мой муж! Там... Муж... Мой...

Відаць, яна была вельмі ўзрушаная і выглядала ў тую хвіліну такой прыгнечанай, што немец не прагнаў яе. Ён падышоў і нешта запытаўся на сваёй крыклівай незразумелай мове. Яна паўтарала адно і тое ж:

— Пан, мой муж. Там мой муж.

— Муж?.. О-о-о! Іст гут муж!

— Пан, пусціце яго...

— Нікс... Няможна. Найн.— Ён круціў галавой, але па яго вачах, па яго разгубленым твары яна адчула, што немец вагаецца.

Дрыжачымі рукамі яна дастала залатую дзесяцірублёўку, трымаючы яе на далоні, падала немцу. Ён узяў манету, паспрабаваў на зуб.

— Чыстая, пан, без ашуканства. Бяры, пан.

Ён паклаў грошы ў кішэньку штаноў і зноў пакруціў галавой:

— Сёння нікс. Заўтра...

За спінай у немца стаялі два кошыкі. Таўстаморды салдат браў з іх яйка за яйкам, разбіваў аб дужку і піў, закідваючы галаву. Ядзя разгублена глядзела на яго, у галаве, як смерч, круціліся трывожныя думкі: «Заўтра ён жа забудзе. Божа, што ж мне рабіць?»

Яна ссунула хустку на шыю, паспешліва адчапіла залатыя завушніцы: маленькія зорачкі з чырвоным каменьчыкам.

Немец трымаў завушніцы на далоні. Яны здаваліся вельмі маленькімі і яркімі.

— Ганс! Ком, Ганс! — паклікаў ён салдата.

Удвух яны доўга спрачаліся. Потым старэйшы, мабыць, гэта і быў Фрыц, запытаўся:

— Хто ест муж? Ён? — і паказаў пальцам за браму.

Ядзя толькі цяпер убачыла, што там стаіць той чарнабровы чалавек, які ўгаворваў яе вывесці з лагера кагосьці другога.

— Мой муж Чабаноўскі.

— Ты ёсць Чабаноўскі? — крыкнуў чалавеку салдат.

— Не, ён там...

Немец нешта залапатаў па-свойму, і чарнявы пабег да

гурту палонных. Неўзабаве адтуль паявіліся трое: два вялі аднаго. Пажылы, ужо сіваваты чалавек скакаў на адной назе, як падстрэлены верабей. Голыя грудзі былі чорныя ад крыві, галава перавязана бруднай анучкай, з-пад якой дзіка глядзела на свет шэрае вока. Яго худзізна ўразіла Ядзю, можа, больш, чым раны, бруд, зарослы сівой барадой твар. Здавалася, калі чалавек падскоквае, каб зрабіць крок, у яго гулка ляскаюць косці.

— Вось ён, пан афіцэр,— сказаў чарнявы, падтрымліваючы Чабаноўскага здаровай рукой.

Ганс зарагатаў і нечакана выразна, амаль па складах вымавіў:

— Да-ха-дзя-га!..

— Дахадзяга, пан,— згадзіліся за дротам.

Салдат адчыніў брамку, і Чабаноўскага вывелі на гэты бок агароджы. Ён, абапёршыся на слуп, цяжка дыхаў.

Ядвіся разумела, што трэба праявіць радасць ці хоць бы падысці да гэтага незнаёмага страшнага чалавека, але яна не магла зрушыцца з месца. Фрыц, мабыць, ужо заўважыў яе разгубленасць. Ён нешта гаварыў ёй, крыва ўсміхаючыся.

— Пан афіцэр кажа, што можа даць лепшага мужа,— перавёў ёй Чабаноўскі.

Яго лагодны, прыемны голас вывеў Ядвісю з утрапення.

— Не, не,— спалохалася яна і ўхапілася за Чабаноўскага.— Хадземце, ці, можа, вам цяжка?

Ён абапёрся на яе плячо. Ядзя абхапіла рукой яго спіну, праз тонкі шынель адчувала востры хрыбет. Чалавек быў лёгкі, амаль без вагі, здаецца, вазьмі яго на рукі і панясеш, як малое дзіця.

Аднекуль да іх падбегла Паліна, падхапіла Чабаноўскага з другога боку. Удзвюх яны вельмі хутка данеслі яго да ельніку.

— Знайшла ўсё ж мужа,— паспачувала Паліна.

— Маўчы ты... Пасядзі во лепей з ім, пакуль я збегаю ў вёску. Можа, каня дастану.

Ля іх збіраліся бабы. Круцілі галовамі, падціскалі сухія вусны, крадком выціраючы слёзы.

— Пастой, маладзічка,— затрымала Ядзю Варвара.— У Глінішчы коней немцы забралі. Прасі ў каго двухколку. Мы яго да Лядаў на двухколцы давязём, а там я памагу каня дастаць.

...На прыцемках Варвара прывезла Чабаноўскага і

Ядвісю ў Цішкаўку. Занеслі хворага ў хату. Ядвіся кінулася рассцілаць насцель, але Чабаноўскі папрасіў яе:

— Вы мяне на падлозе пакладзіце. Баюся, што я вам хату паразітамі затраўлю. Іх у мяне як мякіны на таку.

Ядзя падаслала саломы, накрыла яе старой насцілкай.

— Лажыцеся,— і выйшла следам за Варварай.

Тая па-мужчынку ўпіралася каленам у клешчы, зацягвала тужэй супонь. Павярнулася на Ядвісіны крокі.

— Штой-та вы ўсю дарогу выкаецеся, як чужыя?

— Чужы, Варвара, і ёсць.

— Або, навошта ж ён табе такі хворы. Смерць хадзячая, дый годзе.

— Можа, і твой дзе паранены ляжыць...

— Не давядзі бог, маладзічка.— Яна села на калёсы.— Бывай, Ядвіська. Яно і праўда, каб кожная баба па аднаму паранепаму вывела адсюль, колькі мужыкоў уцалела б...

Не заходзячы ў хату, Ядвіся пабегла праз агароды да Насці Турковай. Напалохала тую, адразу з парога загадаўшы:

— Палі, Насця, лазню...

— А цю, ашалела... Навошта табе лазня?..

— Пасля скажу, а цяпер часу няма. Да мяне прыходзь, як лазня гатова будзе,— і пайшла з хаты.

«Здурэла баба,— дзівілася Насця.— На ноч гледзячы лазню паліць,— і раптам пляснула ў далоні.— Ці не Каршукоў паявіўся? Мабыць, ён, во і носіцца Ядзя як учадзелая...»

Ад нецярплівасці хутчэй даведацца, што за госць у Ядвісі, у Насці свярбелі пяткі. Калі вада закіпела, а дровы ў печы амаль дагаралі, Насця не ўтрывала, пабегла да Ядзі.

У хаце было цемнавата. Пухнаты кнот больш курodыміў, чым асвятляў яе. Ядзя, стоячы на каленях, вялікімі нажніцамі, што стрыгуць авечак, зразала ў чалавека валасы. Твар чалавека хаваўся ў цяні ад Ядзінай рукі, але ў яго паставе, у згорбленай постаці было нешта знаёмае. «Каршукоў! Далібог, ён!» — здзівілася Насця, але, прыгледзеўшыся лепей, убачыла, што чалавек чужы, незнаёмы.

— Ой, хтой-та?

— Чалавек, не бачыш.— У Ядвісі быў непазнавальна суровы голас.— Памажы мне. Набяры попелу ды зрабі

шчолак. Газы ў бутэльку налі. Ад шчолаку і газы нечысць добра падыхае.

Насця ваўчком закруцілася па хаце. Муліла язык запытаць у Ядвісі, дзе яна падчапіла гэткага схуднелага чалавека. Але заўзятая маўклівасць Ядвісі і незнаёмага стрымлівала яе.

— У мяне гатова ўсё,— сказала яна.— Цяпер што загадаеш?..

— Твой ахламон, можа, бялізны якой кінуў. Чалавеку во пераапрануцца трэба.

— Знайду...

— Ну, то ляці ды санкі захапі. Па траве лепей за ўсё на санках везці.

Насця вярнулася ў адзін момант. Удзвюх яны вынеслі Чабаноўскага на двор, пасадзілі на санкі. Ядзя вярнулася ў хату за прасцiной, шчолакам, газай і марганцоўкай.

— Гэта вам давядзецца патрымаць,— звярнулася яна да Чабаноўскага.

— Шмат я вам турбот нарабіў,— першы раз за вечар пачула Насця яго голас.

— Рахавацца пасля будзем... Паехалі, Насця.

Дождж аціх. У прасветліны між хмар відаць было злавесна сіняе неба з чорнымі хмарамі. Дзьмуў халодны, вільготны вецер, збіваў з дрэў апошнія лісты, гнаў іх аж сюды, на агароды.

Жанчыны дружна цягнулі санкі за тоўстую вяроўчыну, нагіналіся, падстаўляючы ветру захутаныя ў хусткі галовы. Палазы выціскалі на траве роўны, як пад лінейку, след, у які адразу ж набягала вада.

З лазні патыхнула на іх утульнай цеплынёй і пахам бярозавага лісця. Жанчыны першыя зайшлі ў прылазнік, запалілі газнічку, скінулі верхнюю вопратку.

— Не чадна там, панюхай...

Насця папырскала венікам каменку — у прылазнік шыбанула сухая гарачая пара.

— Не чадна, па-мойму...

— Давай панясём. Толькі вопратку трэба на вуліцы скінуць. У ёй кішма кішыць.

Чабаноўскі без слова дазволіў зняць шынець, гімнасцёрку, а потым ужо запратэставаў:

— Дазвольце, я сам. Знаеце, неяк няёмка вас турбаваць.

Ядвіся выпрасталася, скрыжавала на тугіх грудзях рукі.

— Як жа, мілы чалавек, вы самі будзеце мыцца, калі сядзець не можаце? — І, пачуўшы, што Насця штурхае яе пад бок: няхай бы сам упраўляўся, зусім раззлавалася: — А ты, Насця, топай дамоў адразу, калі твае вочы дужа сарамлівыя. Не бачыш, колькі на ім ран анучкамі каравымі перавязана. Тут доктару на дзве гадзіны работы хопіць, а не тое што нам з табой.

Яна схапіла Чабаноўскага на рукі, панесла ў лазню. Паклаўшы на падлогу, сцягнула з яго рэшткі перапрэлай бялізны. Потым скінула з сябе сукенку.

— А ты чаго стаіш? — накінулася яна на збянтэжаную Насцю.— Скідавай плацце ды ваду нясі.

Гадзіны праз тры, вымыты і перавязаны, Чабаноўскі ляжаў ужо на ложку. Ядвіся і Насця сядзелі за сталом галава да галавы, шапталіся. Жаўтлявае полымя газніцы зрэдку пакалыхвалася, і тады на сцяне і столі варушыліся няўклюдныя цені.

Пасля лазні і малінавага чаю з мёдам у Чабаноўскага наступіла тое лагоднае пачуццё самазабыцця, калі спіш і не спіш, а ўсё на свеце здаецца такім дарагім і родным, што, здаецца, туліў бы яго да млосных ад любві грудзей. Ён спаў, зрэдку прахопліваўся ад нязвыклай цішыні і ўтульнасці, адкрываў цяжкія ад стомы павекі і кожны раз бачыў перад сабой жоўты агеньчык газнічкі ды дзве жаночыя постаці.

Прачнуўся позна. Ядвісяканчала паліць у печы. Яе ўвішныя рухі і сама яна, расчырванелая, такая зграбная і надзвычай прыгожая з рыжаватай касой, сабранай на патыліцы ў тугі жгут, выклікалі ў Чабаноўскага столькі пачуцця, што ён як зачараваны доўга глядзеў на яе з-пад прыплюснутых павек, баючыся паварушыцца, спалохаць гэтае дзіва. Яна выглядала намнога маладзейшай, як учора, калі ён першы раз пабачыў яе. Шчыра кажучы, учора ён не мог добра разгледзець яе, бо ўсё адбылося нечакана, неверагодна раптоўна. Але нават тады, калі б яна была старой, бяззубай, гарбатай і крывой, ён — гэта разумелася сэрцам — усё роўна лічыў бы яе дзівам, якое страчаецца толькі самым шчаслівым людзям на свеце.

Яго перапаўняла пачуццё вечнай удзячнасці і штосьці яшчэ больш значнае, чым гэтае звычайнае чалавечае пачуццё.

Ядвіся стаяла, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Твар чамусьці засмучаны.

— Што мне рабіць з вамі, сама не ведаю,— сказала яна, пабачыўшы, што ён прачнуўся.— Галава кругам ідзе. Усю ноч думала. Каб хоць лета было, дык у сене дзе перачакалі б, пакуль паправіцеся.

— Даруйце, што нарабіў клопату...

— Клопаты не бяда. Баюся, каб вас не знайшлі. Трапіце ў лагер — загінеце.

Ядвіся пачала сабіраць на стол.

— Можа, устанеце?

— Так, так. Вядома. Я цяпер зусім здаровы...

Ён, спяшаючыся, адзяваўся ў непрывычнае, з чужога пляча, цывільнае адзенне. За сталом, як на памінках, больш маўчалі. Чабаноўскі, згаладаўшы ў лагеры, еў шмат, адчуваў гэта і не мог стрымаць сябе. Ядвіся чамусьці хмурыла бровы.

— У мяне муж хворы,— пачала яна, і Чабаноўскі прымусіў сябе пакласці лыжку,— за ім наглядаць трэба. А тут вы...

— Я не ведаў пра мужа. Я ніколі б...

Размова атухла, як касцёр, калі на яго накідаеш сырых дроў. Снеданне ўжо было кончана, але абое сядзелі за сталом.

— Скажыце,— парушыла маўчанне Ядвіся,— ці можна ўцячы з лагера? З турмаў жа і то ўцякалі...

Яму здалося, што жанчына папракае яго і ўсіх тых, хто застаўся за дротам. «Няўжо яна не разумее, што такім, як я, ужо не да ўцёкаў?» — падумаў ён.

— Там усе параненыя...— сказаў ён.

Яны зноў памаўчалі.

Ядвіся штосьці абдумвала.

— Нам здаровыя патрэбны... Такія, каб ваяваць маглі...

«Пра што яна кажа?» — здзівіўся Чабаноўскі.

— На мой бабскі розум, дык лепей ужо ад кулі памерці, чым вось так пакутаваць...

— Гэта праўда... Толькі я не зусім вас разумею... Без зброі якія мы ваякі...

Яна горка ўсміхнулася.

— Пагублялі сваю зброю. Я вунь у лесе новенькія вінтоўкі знаходзіла.

Чабаноўскі хацеў запярэчыць, але зразумеў, што не варта: хіба растлумачыш, як усё здарылася.

— Муж прасіў,— памаўчаўшы, пачала Ядвіся,— каб я памагла яму таварышаў знайсці, ды такіх, што на ўсё гатовыя: і на барацьбу, і на смерць, каб, як і ён, немца ненавідзелі...

Чабаноўскі моўчкі слухаў яе і дзівіўся: якая жанчына сустрэлася яму ў жыцці!..

— Ядвіга Казіміраўна,— расчуліўся ён,— скажыце свайму мужу, я ўсё зраблю, што ён загадае...

Увечары таго ж дня Ядвіся адвезла Чабаноўскага да цёткі.

Два чалавекі, якім угатаваны быў суровы лёс, сустрэліся на глухіх няходжаных дарогах вайны, каб ніколі ўжо не разлучацца да самай смерці.

## 19

У лагер «Барвін перавоз», каб расследаваць справу аб уцёках, быў пасланы капітан Рыпшэ ў суправаджэнні двух матацыклістаў.

Нізкі, прысадзісты аўтамабіль прабіраўся па размытай гразкай дарозе. Дождж коса хвастаў па ветравым шкле, спаўзаў уніз імклівымі струменьчыкамі. Машына буксавала на крутых гліністых пагорках. Да лагера так і не даехалі — заселі на дарозе.

Рыпшэ перабраўся ў каляску матацыкліста. Туліў мокры азызлы твар у каляны, як бляха, чорны плашч, праклінаў дождж, гразь, дарогу і начальніка лагера Нойклінца, які нарабіў столькі клопату.

Расследаванне было праведзена хутка. Рыпшэ напісаў кароткае данясенне, на падставе якога камандаванне прыняло рашэнне ліквідаваць лагер.

У дзесяць гадзін раніцы ваеннапалонным загадалі строіцца на мокрым жытнёвым полі. Канвой не спяшаўся. Ваеннапалонныя дрыжалі ад холаду, цяжка параненыя падалі на зямлю.

Толькі гадзіны праз дзве нястройная шэрая калона рушыла ў апошні свой шлях, як на Галгофу, высцілаючы дарогу трупамі. Да самага горада не змаўкалі стрэлы, і пасля кожнага з іх нехта назаўсёды заставаўся ляжаць на мокрай зямлі.

У горад дайшло чалавек пяцьдзесят. Іх гналі па цэнтральнай вуліцы, але ўжо не расстрэльвалі на месцы — няхай народ бачыць, што немцы з палоннымі абыходзяцца добра.

Канцом падарожжа аказаўся стары таварны вагон, што стаяў на запасным пуці. Палонных загналі туды. Нехта з немцаў-канваіраў напісаў крэйдай на сценцы: тыфозны.

Праз тры дні вагон прычапілі да саставу, што накіроўвалі на спецапрацоўку, як казалі эсэсаўцы, у канцэнтрацыйны лагер. Але ў вагоне не было ўжо ніводнага жывога чалавека.

Аперацыя па ліквідацыі лагера ваеннапалонных закончылася данясеннем у Берлін начальніка групы лагераў падпалкоўніка Цыпліца.

«З выпадку масавых уцёкаў ваеннапалонных з лагера «Барвін перавоз», пра якія я дакладваў, паведамляю:

а) прынятымі мерамі ўсе, хто спрабаваў уцячы з лагера, злоўлены і расстраляны;

в) лагер ліквідаваны як непрыстасаваны для далейшага прыёму палонных;

с) ваеннапалонныя накіраваны ў канцэнтрацыйны лагер, згодна ўказання паліцыі бяспекі і СД для правядзення спецыяльнай апрацоўкі».

Пунктуальны Цыпліц памыляўся. Пяцёра палонных усё ж здолелі ўцячы.

## 20

Па звестках, якія меў Карл Ланге, тут, у горадзе, засталося не вельмі густое падполле. Кіравацъ ім павінен быў Петрыкаў, сакратар аднаго з гарадскіх райкомаў партыі. Цяпер у яго было другое прозвішча — Мікалай Сямёнавіч Філімонаў.

На канспіратыўнай кватэры, куды Ланге зайшоў на другі дзень свайго знаходжання ў горадзе, да яго аднесліся недаверліва. Баязлівая знерваваная гаспадыня спалохана пазірала на чужога невядомага чалавека, на прамое пытанне, дзе Філімонаў, закрычала: «Нічога я не ведаю... Не ведаю, кажу вам». На пароль перад гэтым яна таксама не адказала, хоць Ланге бачыў, што пароль ёй вядомы.

За станцыяй у пасёлку Елагі Карл Эрнставіч знайшоў запасную кватэру. Размяшчалася яна ў бараку, дарэшты цяпер заселеным пагарэльцамі. Стары вусаты чыгунačнік доўга маўчаў, пачуўшы пароль, прыглядаўся да Ланге так, нібы хацеў запомніць яго на ўсё жыццё. Нарэшце адказаў і тут жа прыклаў палец да вуснаў. Ланге зразумеў. Размаўляць аб справе ў бараку небяспечна. Сцены

тонкія, з дошак,— кожнае слова чуваць у суседніх кватэрах. Знарок гучна ён пачаў гаварыць пра такое, што не магло выклікаць падазрэння. Гаспадар штосьці адказаў неўпапад. Ланге шапнуў яму: пройдземся...

Яны пайшлі паўз станцыю між прысадзістых пакгаузаў і паркам чыгуначнікаў, выбраліся на вузкі брудны завулак, што вёў да перакіднога моста праз чыгунку. Перайшлі яго. Гаспадар канспіратыўнай кватэры ўвесь час азіраўся, і Ланге баяўся, што ён можа выклікаць падазрэнне ў немцаў.

За касцёлам святой Барбары яны зайшлі ў хату пры самай чыгунцы. Чарнявая кірпатая дзяўчынка, не пакідаючы гульні, сказала: «Мама поезд пайшла сустракаць. Зараз прыйдзе...»

Ланге прыглядаўся. «Ну і падбіраюць кватэры,— думаў ён,— ні адна не прыгодна. Тут вельмі проста засыпацца».

За сцяной прагрукатаў састаў. Ланге механічна лічыў перастук колаў на стыках. Састаў быў доўгі і цяжка гружаны. У пакой зайшла жанчына ў даваеннай чыгуначнай форме, нерашуча спынілася на парозе.

Вусаты правадпік пашаптаўся з ёй.

— Добра,— сказала яна і паклікала дзяўчынку: — Дачушка, пойдзем цягнік сустракаць.

Калі яны выйшлі, Лангаў праваднік адкрыў маснічыну, прыгнуўшыся, паклікаў:

— Андрэевіч, вылазь...

З-пад падлогі вылез аброслы чорнай барадой чалавек, заплюшчыў вочы ад рэзкага святла.

— Салаўёў,— падаў ён руку.

— Расказвайце,— загадаў Ланге.

Яму было шкада гэтага чалавека, зусім цывільнага, якому выпала доля працаваць у падполлі. Чаму пакінулі іменна яго? Што ён можа зрабіць тут?

— Не ведаю, з чаго пачаць,— прызнаўся Салаўёў.

— З самага пачатку. Карацей толькі.

— Добра,— згадзіўся той.— Я, значыць, у дарпрафсожы працаваў. Ну, выклікалі мяне. Кажуць, трэба тут застацца. Камуніст я, самі разумееце, згадзіўся. Другія адмаўляліся. У кожнага, вядома, свая прычына. А ў мяне не было прычыны — вось і застаўся... Баяўся крыху. Знаеце, з людзьмі ж працаваў... То пуцёўку не дасі, то яшчэ што, ну, самі разумеце, крыўдзяцца. Ды я, мабыць, не пра тое. Пасля вось што адбылося. Двое нашых, калі горад

ужо загарэўся, апошнім эшалонам выехалі. Я і сам хацеў, але пабаяўся. Пакідалі ж мяне тут, а я раптам паеду. Ну, яшчэ Клава Мялешка засталася, Петрыкаў, Любчанка — гэта, каго я ведаю. Клаву арыштавалі і павесілі на мосце праз чыгунку. Хто выдаў — не магу сказаць. Любчанка ў Полацк паехаў. Там у яго цешча жыве. А Петрыкаў прапаў. Яму яшчэ горш, як мне. Самі ведаеце — сакратар. Выступаў тут на кожным мітынгу. Не дай бог хто ўбачыць, дык нідзе ўжо не схаваешся. Ён тут усяго дзён пяць жыў, не больш, потым прыйшоў да мяне і кажа: «Я, Андрэевіч, на Панізоўе пайду, у Кужлянне». Хадзіў я ў тое Кужлянне, ды не знайшоў яго. Мабыць, па дарозе немцы забілі. Вось я і чакаў, усё спадзяваўся, што хтосьці паявіцца.

«Дзякуй табе, добры ты чалавек,— падумаў Ланге.— Да вайны цябе, мусіць, не вельмі шанавалі. Больш тых, што языком мянцілі. А ты — самы шчыры патрыёт».

— Што вы рабіць умееце? Можа, фатаграфаваць або сталярыць?

— Ды амаль нічога. Табурэтку сяк-так зраблю, вядома. А дазвольце даведацца, навошта вам...

— Трэба ж неяк легалізавацца. Пад хатай у склепе сядзець любы здолее.

— Да немцаў на работу ісці, значыць?

— І працаваць не абы-як...

— Гаварылі нам пра гэта. Толькі не проста ў іх давер’е заваяваць.

— Само сабой. Але трэба. Каб вы якое рамясло ведалі, адкрылі б для вас майстэрню.

— А шавецкае не падыдзе? Я калісьці добра рамантаваў абутак. Сам я фэзэо канчаў.

— Чаму ж вы не адразу сказалі? — усміхнуўся Ланге.

— Я і сам не ведаю. Неяк нечакана ўсё.

— Давядзецца прывыкаць...

— Мне абы ў склепе не сядзець.

Атрымаць патэнт — не заняло шмат часу. Гарадская ўправа ахвотна выдавала іх. Праз нейкі тыдзень Салаўёў лічыўся ўжо ўладальнікам шавецкай майстэрні з правам карыстацца паслугамі падмайстра.

Але гэта быў толькі пачатак. Ланге хацелася наладзіць сувязь з другімі падпольнымі групамі, якія дзейнічалі ў горадзе. А яны, безумоўна, былі. Ноччу раптам сарваліся з прычала плыты, як брытвай, зрэзалі адзіны праз раку пантонны мост. Неўзабаве загарэліся стагі з сенам. Потым

хтосьці спрабаваў падпаліць хлебазавод. Вартавы ўзнялі трывогу, і пажар патушылі.

Нябачны ланцужок звязваў усе тры дыверсіі з адной і той жа баявой групай. Але дзе яна прытаілася? Хто тыя смельчакі, што тройчы ўжо ажыццяўлялі баявыя аперацыі?

Ланге злаваў, што не ўдаецца натрапіць на верны след, і радаваўся: канспірацыя ў падпольшчыкаў выдатная. Тым больш хацелася сустрэць гэтых людзей.

Нечакана прыйшла трывожная вестка ад Людмілы — немцы ствараюць у горадзе сваё падполле. Пошукі давялося спыніць. Цяпер вельмі проста натрапіць на правакатара.

Рызыкуючы жыццём, Ланге двойчы выходзіў на сувязь з цэнтрам. Паспешліва перадаваў звесткі, потым адыходзіў загадзя намечаным маршрутам. Рацыю маглі запеленгаваць.

Горад зусім не падыходзіў да сталай работы. А тут як снег на галаву звалілася яшчэ адна падзея. Пра яе шмат і крыкліва пісала мясцовая газета.

Ноччу быў забіты бургамістр горада, немец па паходжанню і, мабыць, даўні рэзідэнт германскага абвера. Пачаліся аблавы, арышты, а вакол горада, на магістралях, дарогах і нават сцежках узніклі ахоўныя пасты.

Праз старога чыгуначніка, які звёў Ланге з Салаўёвым, Карл Эрнставіч здолеў стварыць на чыгунцы групу разведчыкаў. Была яна малалікая, нявопытная, але прыгодная для выканання прасцейшых заданняў.

Ланге збіраўся пакідаць горад. Людміла Герасіменя параіла перабрацца ў Кавалі да Міхася Ланкевіча, якога яна сустрэла на нарадзе старастаў.

Ветраным дажджлівым днём Карл Эрнставіч пабываў у Кавалях, распытаў у старасты пра Міхася. Звесткі, атрыманыя ім, задавальнялі.

Зрабіўшы крук па полі, Ланге агледзеў лес і глыбокі роў, што рассякаў яго на дзве роўныя часткі. У рове знайшоў разбураную старую цаглярню. Падумаў: «Найлепшае месца для рацыі».

Выбірацца з горада Ланге рашыў у нядзелю. А ў пятніцу, правяраючы «паштовую скрынку» — невялічкі тайнік у плоце інфекцыйнай бальніцы,— ён знайшоў запіску ад аднаго з удзельнікаў чыгуначнай групы Славіка Чыжа. Славік дамагаўся спаткання.

Сустракацца было небяспечна. Але падсвядомае пачуц-

цё разведчыка падказвала, што спатканне гэта незвычайнае. У суботу Ланге пайшоў.

Над горадам вісела шэрая каламуць. Бесперапынна ліў дождж, і вуліцы пуставалі. Зрэдку паспешліва беглі салдаты ў зялёных мокрых маскхалатах. На пляцы стаялі танкі, і вымаклы вартавы тупаў ля іх, самотна пазіраючы на мутныя ручаіны, што сцякалі сюды з Задунаўскай гары. На задворках штаба гулка лапатаў рухавік перасоўнай электрастанцыі. У вокнах штаба цьмяна былі відаць матава-белыя плафоны.

«Я, здаецца, губляю пачуццё меры і асцярожнасці,— думаў Ланге, бегучы па лужынах на спатканне.— Я не маю права рызыкаваць, а вось рызыкую. Баюся, можа? Хіба за сябе? За даручаную справу. Таму я не магу рызыкаваць. Галоўнае зроблена. Людміла працуе і хутка будзе забяспечваць камандаванне звесткамі. Салаўёў абсталяваў яўку, а на чыгунцы створана разведгрупа. Якога ражна яшчэ трэба?»

Але ён добра разумеў, што яму трэба. Думкі ўзнікалі проста таму, што ліў дождж, што цякло за шыю, што трэба было ісці на спатканне, не маючы пэўнага ўяўлення, што яно прынясе.

Зрэшты, Ланге яскрава ўяўляў, што цяперашнія звесткі, якія ён збірае, маюць пакуль што другараднае значэнне. Ён, Ланге, будзе выконваць сваю асноўную задачу тады, як Чырвоная Армія пагоніць фашыстаў на захад. Тады яму спатрэбіцца шмат разведчыкаў, што па крупіцы будуць збіраць звесткі аб нямецкіх узброеных сілах.

Слаўка чакаў не адзін. Ланге здалёк убачыў худзенькую дзявочую постаць, затуленую ў сіні прагумаваны плашч. Дзяўчына штосьці горача даказвала Слаўку, і таму яны не заўважылі, як Ланге звярнуў у загрувашчаны цэглай завулак.

«Падыходзіць ці не? — разважаў Ланге.— Па правілах — нельга. І што наогул усё гэта значыць? Чаму Слаўка прывёў на сустрэчу чужога чалавека?»

Было такое імгненне, калі Ланге рашыў вярнуцца дамоў. Але тут жа прымусіў сябе застацца.

Ён прайшоў ля іх, сказаўшы на хаду:

— Абганяйце мяне. Ідзіце ў руіны завода...

Прайшоўшы крокаў пяць, Ланге дастаў цыгарэту, затуліўшыся ад ветру, пачаў прыкурваць. Азірнуўся па баках. Вуліца пуставала. Слаўка з дзяўчынай абагналі яго.

Яны ішлі побач, плячо да пляча, як закаханыя на прагулцы. Лішні быў толькі дождж.

Ланге трапіў на завод з паўднёвага боку. Праз разбураны бомбамі фармовачны цэх выйшаў на вузкі дворык. Слаўка з дзяўчынай чакалі яго ў руінах склада. Карлу Эрнставічу захацелася падысці, надраць гэтаму хлапчуку вушы.

— Ты хацеў мне штосьці сказаць?

Слаўка падштурхнуў дзяўчынку да яго:

— Знаёмцеся. Гэта Таня...

— Пазнаёміць з Таняй можна было ў лепшае надвор'е.

— Яна вам сама раскажа... Гавары, Таня.

Ён зноў падштурхнуў яе ў плечы. Дзяўчынка, мабыць, саромелася. Пераступала з нагі на нагу.

— Яна ведае, хто падпальваў сена і хлебазавод,— не вытрымаў Слаўка.— Ну, расказвай, Таня. Не бойся, чаго ты?..

Тое, што Слаўка праявіў нейкую ўласную ініцыятыву, не на жарт спалохала Ланге. Хлапчук! Яму палажана сачыць за таварнай станцыяй...

— Расказвайце, Таня. Адкуль вы ведаеце гэтых людзей?

Таня пачала расказваць:

— Я панесла туфлі рамантаваць. Разгаварыліся з шаўцом. Ну, спачатку, як да вайны жылося. Ён таксама часта ў нашым чыгуначным садзе бываў. Вясёлы такі... Усё смяецца, кажа, што цяпер туфлі надоўга паслужаць, танцаў няма... Можа, я не так расказваю... Можа, не пра тое трэба...

— Не-не, якраз пра тое, што трэба...

— А потым ён і кажа мне: «Табе не сорамна адседжвацца, калі нашы бацькі і браты кроў праліваюць?» А вам, кажу, не сорамна? Вы ж мужчына. А ён мне кажа: «Ці чула, як пантонны мост быў разбураны?» Во, кажа, гэта людзі. Ну, адным словам, намякнуў ён мне, што ведае гэтых людзей. Толькі мала іх. Каб шкодзіць немцам, трэба вялікая арганізацыя. Ты, пытаецца, не ведаеш такіх, каб на ўсё былі гатовы, каб смерці не баяліся і немцаў ненавідзелі. Папярэдзіў, каб толькі такіх прыводзіла, якіх сама добра ведаю.

— Ты хіба згадзілася?..

— Не, я перапалохалася вельмі. Як ён пачаў гаварыць, дык у мяне душа ў пяткі схавалася.

Ланге і раней падазраваў, што шавецкі буданчык ска-

рыстаў не толькі ён, але і паліцыя бяспекі. Цяпер гэта пацвердзілася. Маўчаў. Было крыўдна, што адзін з разведчыкаў выйшаў з гульні: за Таняй будуць сачыць, а можа, ужо сочаць. Значыць, і за Слаўкам пачне цікаваць пільнае вока паліцыі бяспекі.

— Я, ведаеце, што думаю,— перарваў яго думкі Слаўка.— Шавец гэты ніякі не падпольшчык. Правакатар ён, вось хто.

Ланге здзіўлена паглядзеў на Слаўку. Вось ты які! Малайчына!..

— Чаму так думаеш? — запытаўся ён.

— Бо дурань толькі пачне з незнаёмым чалавекам пра такое гаварыць...

— Ну, гэта яшчэ не доказ...

— Не доказ?.. А што вы скажаце, калі я яго праверыў ужо... Не, я не дурны, каб самому ісці. Я Ваську да яго паслаў. Гэта мой сябар. Смелы хлопец. Дык шавец і яго цягнуў у гэтую групу. А Васька яму: ты, кажа, мяне не збівай з дарогі. Я сам ведаю, што рабіць. Мне, кажа, галава свая даражэй. Так раскрычаўся там, што яго арыштавалі. А ўчора ў той будцы новы шавец сядзіць ужо, таго і след прастыў.

— Праверку ты дарэмна зрабіў. Не твая гэта справа. Ну ды нічога не паробіш. А вось знайсці сапраўднае падполле трэба. Бярыцеся з Таняй, толькі асцярожна. Калі даведаецеся пра што-небудзь, сувязі не завязвайце. Ясна?

— Дзе ты яго знойдзеш,— расчаравана сказаў Слаўка.— Я лепей сваё арганізую. Хлопцаў у нас хопіць. Баявыя ўсе...

— А шукаць усё ж трэба...

Ідучы дамоў, Ланге думаў над тым, якая небяспека навісла над таямнічым гарадскім падполлем. Ці здолее яно абараніцца ад правакацый службы бяспекі?

Такое падполле вельмі было патрэбна Ланге. Але як яго знайсці?

## 21

Удзень Міхась хадзіў на работу. Хадзіў, каб паслухаць людзей, развеяцца ад хатняй нясцерпнай тугі.

Калгас яшчэ ў жніўні распараджэннем раённай управы быў ператвораны ў сельскагаспадарчую абшчыну, але людзі па-ранейшаму называлі сябе калгаснікамі. На ра-

боту, праўда, хадзілі неахвотна. Шчыраваць няма сэнсу. Стараста абшчыны Астап Дзялендзік упарта павёў, як ён кажа, «даваенную лінію»: засыпае насенны, кармавы, страхавы фонды. Але толькі дурань не можа зразумець, што гэтыя фонды дастануцца немцам. Людзі лаюць Астапа, а ён управу, бургамістра, якія, на яго думку, дрыжаць за свае партфелі, не хочуць спыніць абрабаванне вёсак нямецкім войскам. Дзялендзік лічыць, што вышэйшае нямецкае камандаванне нічога пра абрабаванне сялян не ведае і бургамістр павінен далажыць пра гэта, тады адразу будзе наведзены парадак.

...У Астапа Дзялендзіка пілі самагонку. Закусвалі салёнымі гуркамі. П'яны шумлівы стараста, гучна хрумстаючы гурком, філасофстваваў перад вяскоўцамі:

— Немцы, мужчыны, не ўжывуць тут. Кішкі тонкія — дзе ім!.. Немец прывык па асфальце хадзіць, а ў нас гразь па самыя вушы. Вы паглядзіце на іх, ледзьве дажджы пайшлі, дык яны ўжо абсаплівіліся. Я так думаю, што накладуць яны на нас кантрыбуцыю, падаткі браць будуць, як татары даніну бралі. Дык мы ж да падаткаў прывыклыя.

— Падаткі — дзесятае дзела. Не падаткаў страшна, а смерці.

— Смерці ўсё роўна не мінеш. А вот калі да яе напакутуешся.

— Пакуль жывём, а там пабачым.

— Тады позна будзе, калі, як статак бараноў, на расстрэл пагоняць.

Астап Дзялендзік зноў развёў філасофію:

— Я ў палоне быў, дык лепей за вас знаю, што такое немцы. Працаваць прымусяць — факт. А нам — во як гэта трэба. Разгультаіліся людзі. Працавітых яны не зачэпяць...

— А яўрэяў пастралялі...

— Тут другая стацця...

— Будзе і табе такая стацця...

Міхась, крыху ахмялелы, слухаў п'яныя размовы. Яны, як нож у сэрца, выклікалі боль. Дачакаўся, калі гамонка прыціхла.

— Немец — вораг,— сказаў ён.— Яму землі нашы патрэбны, хлеб, бо самі галадаюць. У Гітлера лозунг такі: гарматы замест масла. Во яны і нарабілі гармат, каб імі масла здабываць...

— А ты, пачакай, адкуль ведаеш пра гэта? — перапыніў яго Дзялендзік.

— З газет, вядома.

— Э-э-э, што ў газетах пішуць, дык толькі слухай... Чытаў я, што немцы галадуюць і з голаду пухнуць... А яны вунь якія распухлыя, толькі ад тлушчу.

— Ды то ж салдаты,— не супакойваўся Міхась.— Бачылі, што ў Рассеках нарабілі? Мала вам, дык усё яшчэ чагосьці добрага чакаеце.

Астап раптам падхапіўся, п'яным высокім голасам закрычаў:

— З-за вас, вось такіх, людзі загінулі. Аднаго немца ўхлопалі, і ўсю вёску пад корань. Камсамольцы!.. За сябе баіцеся. А мужыку няма чаго баяцца. На ягоную шыю ўсягды хамут будзе...

— А калі вяроўка?..— Міхась, узлаваны, вылез з-за стала, не развітаўшыся пайшоў дахаты. «Чорт мяне за язык пацягнуў... Хоць і цярпець няможна. Самі ж разумеюць, што для іх немец, а Дзялендзіка слухаюць. Усё на штосьці спадзяюцца. Не, праўду маці казала, мужыку пакуль не прыпячэ — не павернецца...»

Людзі мералі жыццё старымі ўяўленнямі. Дзялендзік — набытымі ў палоне назіраннямі, Міхась — ведамі, пачэрпнутымі з кніг. Было нялёгка паверыць, што немцы замахнуліся не толькі на людское дабро, але і на жыццё цэлага народа.

...Уночы савецкія самалёты прыляцелі бамбіць горад. Міхась прачнуўся ад шалёнага чокання скарастрэльных гармат і глухога гулу зенітак. Неба прашывалі чырвоныя трасіры снарадаў. У густых калматых хмарах цялёпкаліся ламаныя размытыя промні пражэктараў. Недзе над галавой гулі самалёты, здаецца, тры. «Вязу-вязу-вязу» — Міхась, здаецца, выразна чуў у гуле матораў гэтае слова. Было радасна.

Недзе, мабыць, на станцыі, разгараўся пажар. Чырвонае трапяткое зарыва злавесна адбівалася ў нізкіх хмарах. Потым Міхась убачыў, як скрыжаваліся ў небе пражэктары і там заблішчаў сярэбраны самалёцік, падобны на цацку. Ён ішоў, мабыць, нізка, і па ім білі з гармат.

Не паспеў Міхась ачомацца ад страшнага відовішча, як недзе над вёскай пачуўся свіст бомбаў і траскатлівыя выбухі. Самалёт, уцякаючы з-пад агню зенітак, скідаў бомбы куды папала.

Назаўтра толькі і было размоў, што пра савецкія самалёты. Пэўна, таму на бульбу выйшла як ніколі многа на-

роду. Самалёты раскідалі лістоўкі. Іх знаходзілі ў барознах, на поплаве, у ляску, за ровам, на імшарах.

Астап Дзялендзік загадаў хлапчукам сабраць лістоўкі — выконваў загад каменданта. Прынеслі іх не так ужо шмат, кожны хацеў прыхаваць для сябе. Дзялендзік сварыўся, палохаў, што паліцыя можа спаліць усю вёску, калі знойдзе такі лісток у каго-небудзь дома. Але людзі да пагроз папрывыкалі. На стараставу лаянку адказвалі смехам, жартамі.

Камусьці трэба было аднесці лістоўкі ў паліцыю. Дзялендзік абяцаў запісаць добраахвотніку палову працадня, але валачыся па гразі сем кіламетраў ніхто не хацеў. Астап павёз лістоўкі сам.

Работа на полі ні гарэла ні тлела. Дзяўчаты і хлопцы палілі касцёр, пяклі бульбу. Старэйшыя навыперадкі цягнулі бульбу дахаты — наглядчыка не было, і кожны імкнуўся скарыстаць зручны выпадак. Да вечара, аднак, дзве вялізныя кучы бульбы ляжалі сярод поля. Мужчыны вырашылі забуртаваць іх тут.

Міхась паехаў па салому з Ігарам Краснеўскім. Той недзе прападаў увесь дзень і толькі нядаўна прыйшоў на поле.

— Слухай, Міша,— таямніча пачаў Ігар.— Бомба адна не разарвалася, давай падскочым, завязём да мяне на двор.

— Ашалеў! — жахнуўся Міхась.

Але і самога Міхася пацягнула паглядзець на бомбу. Паехалі напрасткі па полі да Саўчынага хутара.

З зямлі вытыркаўся зялёны пагнуты стабілізатар. Узяўшыся за яго, яны выцягнулі бомбу наверх. Яна ляжала, доўгая, зеленавата-шэрая і зусім не страшная. Ігар хацеў пакласці бомбу на калёсы, але Міхась адгаварыў яго.

Вяртаючыся назад , Міхась сустрэў Астапа Дзялендзіка. Крывабока, як верабей, пераскокваючы лужыны, староста шыбаваў на поле. Спыніўся, убачыўшы Міхася.

Ішлі побач. Лянівы стары конь памалу цягнуў воз. Надакучліва рыпела задняе кола — Лямза забыўся змазаць вось. Гэтак жа рыпуча і нудна Астап Дзялендзік расказваў пра сваю размову з бургамістрам. Міхась слухаў няўважліва, думаючы над тым, як лёгка людзі мяняюць свае погляды. Яшчэ нядаўна Дзялендзік пакепліваў з сябе, а цяпер, глядзі, паверыў, што ён начальнік, і ўжо наводзіць нейкія парадкі. З крыўдай успамінаў, як Дзялендзік крычаў на яго, калі частаваліся гарэлкай.

— А я табе скажу, Ланкевіч, што немцы і самі зразумелі, далей так не можа быць...

«Пра што ён кажа?» — падумаў Ланкевіч і ўжо больш уважліва прыслухоўваўся, што кажа стараста.

— Бургамістр, я табе, Ланкевіч, скажу, чалавек не дурны. Я яму: так і так, значыць, дакуль жа мужык цярпець будзе — бяруць, каму ўздумаецца і што ўздумаецца. А ён мяне адразу з капытоў адным махам збіў. «У тую вайну, пытае, ваяваў?» Ваяваў, вядома. «А калі галодны быў, дык дзе харчы браў? Ага, у мужыка. Дык што ты хочаш, каб немец лепшы за цябе быў?» Ды ты слухай, што ён пасля гаварыў. «Немцы, кажа, парадак наводзяць. Загадалі ніякіх прадуктаў салдатам не даваць. Хто будзе браць без дазволу каменданта, той марадзёр. Такіх трэба затрымліваць і перадаваць каменданту». Во, брат, як павярнулася. Мы думалі, што рабуюць з дазволу начальства, а яно і не ведала. Управа нам цвёрды план давяла. Здамо хлеб, бульбу — і ніякіх там немцаў не ведаем. А то чортведама што рабілася.

— Што вы, дзядзька, зробіце — бралі і будуць браць.

Дзялендзік выцягнуў з аблавушкі паперу, памахаў перад носам:

— Во яна, грамата. Тут усё прапісана: і каму здаваць, і што здаваць.

Поле ахіналі шэрыя непрыветлівыя змрокі. З сіваватых павольных хмар церушылася на зямлю рэдзенькая імжа. Было зябка, волка. Жанчыны дакопвалі апошнія разагнаныя барозны. Мужчыны накрывалі бульбу саломай. Усе спяшаліся дахаты.

Гул матораў адарваў людзей ад работы. Дзве вялізныя машыны, крытыя брызентам, паволі адольвалі вясковую бездараж. Ля разабранага мастка яны спыніліся, потым павярнулі ў поле, выразаючы цяжкімі коламі глыбокі след на зялёнай траве.

Машыны спыніліся на ўзмежку. Цыбаты згорблены немец вылез з кабіны.

— Ком, ком,— паманіў ён пальцам людзей.

— Чаго іх прынесла? — здзівіўся Дзялендзік і першы пайшоў да немца.

За Дзялендзікам нясмела пасоўваўся натоўп цікаўных жанчын. Пайшоў і Міхась.

Прытрымліваючы рукой край плашча, немец зрабіў насустрач два крокі, запытаўся:

— Хто ест старост?

— Я...

Немец дастаў пачак цыгарэт. На ім — ярка-зялёная пальма і карычневы вярблюд пад ёй.

— Табе...

Астап трымаў цыгарэты ў руцэ, не ведаючы, што з імі рабіць.

— О, іст гут, харош махорка,— усміхнуўся немец і камусьці памахаў рукой. Шыракатвары ў зялёнай касцы салдат прынёс пляшку з доўгім рылам, падаў Дзялендзіку. Сам стаў побач з першым. Той зноў пачаў гаварыць і ўсміхацца:

— Іст гут шпанс. Іх афрыкэн — пуф-пуф. Нах Расія, камуніст — пуф-пуф. Вайна — капут. Іх нах гаўзе. Іх цвай тохтэр — дочка. Фарштэйн? Хорошо? Шнапс — афрыкэн. Фарштэйн. Іх прэзент пан староста. Зразумець. По-одарок.

— Ага, пан, зразумеў, гэта мне падарунак. Данка, пан.

Немец усміхаўся, ляпаў Астапа па плячы. Людзі асмялелі, абступілі яго цесным колам. Ён выцягнуў яшчэ адну пачку цыгарэт, пачаў частаваць мужчын. Бралі курыва ахвотна.

— А што, пан, хоча? Вас, вас нада?

— О, я зразумель. Нужен картофель, мясо. Старост должен памагаць. Ясно? Іх лейтэнант. Фарштэйн? Зольдат кушать, гам-гам надо. Картофель будзем браць.

Людзі загулі, адступалі, пакідаючы старасту сам-насам з немцамі. Далёка не адыходзілі, слухалі, чым закончацца перагаворы.

— Пан, нада распараджэнне, паперка каменданта,— тлумачыў Дзялендзік немцу.

— Камендант гут. Вас іст паперка?

— А тое, што без каменданта бульбы не дам. Цэтлік трэба. Фарштэйн? Камендант шрайбэн цэтлік — бяры. Нікс шрайбэн — кацiся к чортавай матары.

Немцы загергаталі, мабыць, раіліся, што ім цяпер рабіць. Дзялендзік зусім асмялеў. Размахваючы рукамі, ён зноў і зноў тлумачыў немцам, што бульбы не дасць. Жанчыны падбадзёрвалі старасту.

Лейтэнант пачынаў злаваць. Ён нешта крычаў, але ніхто не разумеў, што ён хоча, бо немец у гарачцы пазабываў усе рускія словы, якія вывучыў па салдацкім размоўніку.

— Пан лейтэнант,— спыніў яго Дзялендзік,— ты паслухай, не крычы. Камендант кажа, што забіраць без цэт-

ліка нікс гут. Такіх мы будзем затрымліваць і адводзіць яму.

Астап красамоўна паказаў лейтэнанту, як ён адбярэ ў салдат зброю і павядзе іх да каменданта. Лейтэнант адшпіліў кабуру. Тады Дзялендзік дастаў з шапкі паперу, падаў яе лейтэнанту. Той доўга глядзеў, як расплываюцца пад дажджом літары, потым скамечыў паперку, кінуў сабе пад ногі.

З машын павылазілі салдаты, стаялі, раскірэчыўшы ногі, аўтаматы напагатове.

— Ты будзеш давайт картофель? — злосна запытаўся лейтэнант.

— Не, найн. Я пайду да каменданта. Фарштэйн? Камендант вас пасадзіць во за рашотку,— Дзялендзік сплёў пальцы, паднёс да твару і, крута павярнуўшыся, пабег па полі.

Глухі стрэл узагнаў над гаем варон. Нехта з жанчын ахнуў, заглушыў далонню гатовы сарвацца крык. Дзялендзік спатыкнуўся, ціха, без крыку, апусціўся ў баразну.

Немцы абступілі людзей, загадалі грузіць бульбу. Людзі працавалі паспешліва, моўчкі, крадком пазіралі туды, дзе ляжаў мёртвы Дзялендзік.

Набраўшы бульбы, застрэліўшы двух кабаноў, з дзесятак авечак, немцы далі на развітанне залп угору, паехалі.

Міхась з сумам пазіраў, як знікаюць у прыцемках машыны, кусаў перасмяглыя вусны. «Залегчы б у Барку ды перабіць усіх фрыцаў! — Думка аб помсце выклікала прылііў бяссільнай ярасці.— Вінтоўкі ржавеюць, а я сяджу тут, як пацук пад свірнам. Калі-небудзь усіх пераб'юць, як Дзялендзіка. Не сядзець — ваяваць трэба...»

Крыху пазней ён пайшоў у вёску. У Дзялендзікавай хаце пры цьмяным святле газніцы жанчыны абмывалі нябожчыка, разглядалі на спіне малюсенькую, як камарыны ўкус, ранку. Ля печы, у качарэжніку, галасіла Астапава жонка. Пад вокнамі і ў сенцах стаялі людзі. Размаўлялі паціху, хвалілі Дзялендзіка: пра нябожчыкаў благое не гавораць.

Міхась пастаяў крыху, раздумваючы над чалавечым лёсам. «Хто ведае, дзе застане цябе смерць?.. Час цяпер такі, што можаш загінуць у любую мінуту... А жыць у сутарэнні невыносна цяжка. Таму трэба ісці насустрач небяспекам, бурам і вятрам. Так, гэта адзінае, што дастойна чалавека».

На дварэ ўжо была ноч, і вяртацца дахаты не хацелася. «Навошта? Спаць, каб заўтра зноў бясконца паўтараліся надакучлівыя думкі? Жыць, каб выжыць, ці выжыць, каб жыць? Не, жыць, каб змагацца; змагацца, каб перамагаць; перамагаць, каб жыць. У гэтым сэнс».

Нехта яго паклікаў, мабыць, пазнаўшы.

— Хто там? — запытаўся ён.

— Хадзі сюды...

Гэта быў Лёшка Лямза. Міхась звярнуў на вузкую, між кустоў агрэсту сцежку. У канцы яе, на агародах, стаяла Даўгялава лазня. Адтуль, з прылазніка, мільгануў і прапаў жаўтлявы агеньчык.

— Заходзь, Міхась.

Лёшка адчыніў дзверы, прапусціў Міхася. У прылазніку на падлозе сядзелі Ігар Краснеўскі і Мікола Шлычонак, абодва потныя, адпілоўвалі рулю вінтоўкі.

На лавачцы стаяў гармонік. «Дзіўнае суседства»,— падумаў Міхась.

— Навошта вінтоўку псуяце? — запытаўся Міхась.

— Га, не ведаеш? Урэзак будзе. Запіхнуў пад палу, і не відаць,— адказаў Мікола.

Лямза сеў на лаўку, пазіраў, як пілуюць хлопцы жалеза. Тонкая пілка агідна скрыгатала. З-пад яе сыпалася на падлогу жалезнае пілаванне.

— Слухай, Міша, а бомба па агні ўзарвецца? — спытаў Лямза.

— Мабыць, узарвецца,— адказаў Міхась.— А чаму пытаеш?

— Мы тую бомбу з Саўчынага хутара сюды прынеслі. Хочам узарваць яе.

І раптам Міхасю прыйшла думка: узарваць бомбай мост цераз рэчку. Тады немцы не прыедуць больш у вёску. Хлопцы яго падтрымалі.

Бомбу неслі па чарзе. Хлопцы як хутка ўзгарэліся, гэтак жа хутка і астылі. Лаяліся: наліха такая самадзейнасць, калі ніхто не ведае, узарвецца бомба ці не? Ігар Краснеўскі пабойваўся, хоць стараўся выгляду не падаваць.

Ля ракі трывожна шумелі лозы. Паныла хлюпала вада пад размытым берагам. За гарой, над горадам, зрэдку загараліся ракеты, цьмянае сінаватае святло далёкім водбліскам навальніцы дасягала сюды, у нізіну.

Міхась забраўся пад мост, прыладзіў бомбу да палі. Хлопцы нацягалі ламачча, склалі ў вялікую кучу. Мікола

паліў запалку за запалкай, але ламачча не загаралася. Міхась трос кішэні, шукаючы хоць якой паперыны,— пуста. Тады Лёшка Лямза выцяг з-за пазухі наган, дастаў патрон, зубамі выцяг кулю. Порах высыпалі на шматок кары, абклалі сушэйшымі галінкамі. Мікола паднёс запалку, порах успыхнуў яркім клубком агню, які адразу ж ахапіў галінкі.

Касцёр разгараўся. Яны адышліся ў лясок. Чырвоныя водбліскі адбіваліся на вадзе, здавалася, рака, набягаючы на агонь, загарaецца мітуслівым, дрыготкім полымем. Бомбы не было відаць, потым яна паявілася, пачарнелая ад агню і страшная, як смерць.

— Казаў жа я вам, што трэба больш ламачча,— узлаваўся Лёшка.— Пайшлі дабавім.

Ён падняўся. Агонь і выбух зноў паклалі яго на зямлю. Настала цемра, хоць выкалі вока. У ёй пахла порахам, дымам і сырой зямлёй. У ваду з плёскатам падалі абломкі моста.

Назад вярталіся полем. На агародах за вёскай развіталіся, наказаўшы адзін аднаму моцна трымаць язык за зубамі. Міхась чамусьці не верыў, што хлопцы выцерпяць. Яму і самому хацелася каму-небудзь расказаць пра загадкавы выбух.

Вёска ўжо спала. І Міхась аж узлаваў, што ніхто, мабыць, не чуў выбуху. Было б прыемна сустрэць каго-небудзь на вуліцы і разам дзівіцца начному выбуху, добра ведаючы, што ён азначае.

У сенцах ён пастаяў, потым рашуча адчыніў хату.

З печы забурчала маці, але сёння Міхась не крыўдзіўся на яе за буркатню.

— Асцярожней, там чалавек ляжыць,— папярэдзіла маці.

Ён быў здзіўлены. Які чалавек? Можа, Тышкевіч? Спяшаўся запаліць лямпу, доўга ўглядаўся ў нічым не прыкметны твар незнаёмага чалавека.

— Хто ён?

— Шавец, кажа. Вунь табе чаравікі папраавіў. Цяпер як новыя.

— Адкуль ён паявіўся?

— У Рыгу, кажа, ідзе. Латыш. Карл Эрнставіч завецца.

Міхась зноў заглянуў у твар соннаму чалавеку. Па ім хіба ўгадаеш, каго прынесла вайна ў іхнюю хату.

## 22

Фашысцкая Германія нагадвала вялізны сейф, нашпігаваны сакрэтнымі ўстановамі. Армія расчышчала ім шлях. Яна вырашала толькі палову той праграмы, якую намячала нацыянал-сацыялісцкае кіраўніцтва.

У стаўку генерала Крэйкембона амаль адначасова прыехалі доктар Густаў Рэдліх — прадстаўнік упраўлення імперскай бяспекі, і доктар Аксель — вядомы антраполаг з ведамства Грэйфельта. Абодва высокія, белакурыя, фанабэрыстыя. Абодва з адным і тым жа найсакрэтным заданнем.

Яшчэ ў канцы лета галоўнае ўпраўленне імперскай бяспекі распачало работу над генеральным планам «Отс», планам каланізацыі, масавага знішчэння народаў еўрапейскай часткі СССР і высялення так званых непаўнацэнных рас за Уральскі хрыбет.

«План Барбароса», складзены задоўга да вайны з Савецкім Саюзам, у агульных рысах намячаў тое, што павінна неўзабаве быць вырашана планам «Отс». Ужо ў сярэдзіне ліпеня сорак першага года Гітлер аддаў распараджэнне аб высяленні жыхароў Крыма, а генеральны камісар Крыма Фрауэнфельд неўзабаве склаў праект перасялення насельніцтва Паўднёвага Ціроля на крымскія землі. Ініцыятыва стараннага гера Фрауэнфельда адразу ж была падхоплена ўпраўленнем імперскай бяспекі. Пазней да складання і ажыццяўлення плана «Отс» далучылася і імперскае міністэрства Розенберга. Але фактычна ўдзел у падрыхтоўцы яго гебітскамісары акупіраваных абласцей прымалі значна раней.

Сярод фашысцкіх антраполагаў Аксель займаў самую крайнюю пазіцыю. На яго думку, народы Савецкага Саюза пагалоўна належаць да самай ніжэйшай расы з усімі вывадамі, якія адсюль вынікалі.

У суботу раніцай доктар Фрыдрых Аксель пад'ехаў на штабной машыне да рэзідэнцыі Ота Віцінга. На дварэ імжыў дождж, і халодны балтыйскі вецер то ўлягаўся сярод руін, то зноў паныла шумеў голым веццем бярозак, што высаджаны ўздоўж вуліцы. Нізкія шэрыя хмары шпарка беглі над горадам, здавалася, халоднае неба бурліць, як вада ў рацэ ля ўзарванага моста.

Ота Віцінг прадбачліва загадаў выпаліць у печы. Пакой нагрэўся, стаяла ў ім сыраватая затхлая цеплыня.

Доктар Аксель павітаўся стрымана, але ветліва. Грэючы азяблыя, сіняватыя рукі аб кафлю печы, сказаў:
— Сабачы холад, пан камісар.
— Папрашу выпіць чарачку каньяку.
Аксель гідліва паморшчыўся. Ад каньяку ў яго звычайна пачыналася пякотка.
— Што новага ў Берліне? — Віцінг прымерваўся да высокага госця, не маючы пэўнага ўяўлення, як трымаць сябе з ім.
— Зайздросцяць вам, пан камісар. Вам выпаў вялікі гонар несці нямецкі дух у гэтыя праклятыя богам землі.
Віцінг падумаў, што ім, бадай, ужо не зайздросцяць. Вясёлы бліцкрыг пагражаў ператварыцца ў жахлівую мясарубку.
— Мы бясконца рады аказанаму нам давер'ю,— сказаў Віцінг, з зайздрасцю пазіраючы на Акселя.
«Чорт пабяры,— думаў ён,— шанцуе ж людзям. Выберуць сабе самую недарэчную прафесію, і вось жа бачыце, кічацца ёю, а ты, Ота Віцінг, мусіш прымаць яго, як міністра па акупіраваных абласцях».
— Доктар Аксель, я чуў, што вы шмат працуеце над захаваннем чыстаты арыйскай расы. А ці можна наогул захаваць нямецкае панаванне ва ўмовах катастрафічнага прыросту насельніцтва?
Высокі госць неяк уціснуўся між вітых дужак у плюшавае нізкае крэсла. Сядзеў ён прама, паклаўшы рукі на падлакотнікі.
— Я лічу — можна.— Ён гаварыў, як бог, і Віцінг зноў пазайздросціў яго ўпэўненасці.— Нашы антрапалагічныя даныя, якімі карысталіся дасюль, устарэлі. Вось чаму я і прыехаў сюды...
— Вы лічыце, што антраполагі могуць рашыць гэтую складаную праблему? — падкалоў Віцінг.
— Толькі яны,— упэўнена, нават абурана адказаў доктар.— Старыя вымярэнні рабілі вучоныя, абцяжараныя грузам дэмакратычных забабонаў. Некаторыя з іх лічылі нават, што славяне маюць прызнакі нардычнай расы. Дазвольце спытаць, вы заўважылі ў іх гэтыя прызнакі?
Віцінг успомніў сваю перакладчыцу. У Германіі яна сышла б за немку.
— Рускія гультаі і п'яніцы,— сказаў ён, каб дагадзіць госцю.
— Дык вось, пан камісар, я прыехаў сюды затым, каб правесці антрапалагічныя вымярэнні мясцовага насель-

ніцтва. Спадзяюся, вы разумееце, як гэта важна для будучага Германіі.

— О так,— згадзіўся Віцінг, адразу зразумеўшы, пашта новыя антрапалагічныя вымярэнні спатрэбіліся ўраду.

Праз два дні Віцінга наведаў Густаў Рэдліх. Ад яго грузнай, цяжкай фігуры ў пакоі неяк зрабілася цесна і няўтульна. Ён хадзіў па кабінеце, чапляючыся за крэслы, нецярпліва адсоўваў іх нагой. Акуратны Віцінг з жахам глядзеў, як аднойчы ўстаноўлены парадак бурыцца ад кожнага руху Рэдліха.

Доктар Рэдліх то спыняў халодны позірк на Віцінгу, быццам праціналу яго наскрозь, то глядзеў у замурзанае дажджом акно.

— Камісар,— басавіта крычаў ён, нібы камандаваў штурмавікамі на вучэбным пляцы,— вы памыляецеся, калі лічыце, што вайна пачалася толькі для таго, каб разграміць ваенную магутнасць бальшавікоў. Тады не варта было б праліваць нямецкую кроў. Мы ваюем за сусветнае панаванне. Усё, што непрыгодна нам,— к чорту.

Ад яго слоў гуло ў вушах, быццам там званілі ўсе званы Страсбургскага касцёла.

— Доктар Аксель лічыць: рускіх трэба знішчыць.

— Аксель — асёл,— адрэзаў Рэдліх.— Мы захаваем столькі рускіх, беларусаў, украінцаў, колькі спатрэбіцца нам для бягучых работ. Мы будзем рэгуляваць іх размнажэнне, і магу запэўніць, камісар, што ўжо вядуцца навуковыя работы ў гэтым напрамку. Вам належыць вывучыць склад і колькасць насельніцтва Падзвіння для таго, каб мы мелі цвёрдае ўяўленне, колькі немцаў павінна быць перасялена сюды і колькі мясцовых жыхароў знішчана.

— Як жа тады разумець, доктар Рэдліх, указанне імперскага міністра доктара Розенберга, што мы абавязаны выступаць абаронцамі мясцовага насельніцтва і права?

Рэдліх на хвіліну спыніўся. У ягоных вачах пагардлівае здзіўленне: ну і асёл!..

— Указанне, пан Віцінг,— тактыка, выкліканая вайной. Прэс адразу не апускаюць, яго заціскаюць паволі.

— Вы думаеце, што немцы з ахвотай будуць перасяляцца сюды? — крыху памаўчаўшы, спытаў Віцінг. Будучае невыразна мроілася перад ім, і Віцінг чамусьці непакоіўся.

Рэдліх больш уважліва на гэты раз паглядзеў на Віцінга. «А ён не такі ўжо і асёл»,— падумаў ён.

— Я разумею, камісар, пра што вы кажаце. Немцы любяць свой дом, садок, сваё неба над галавой. Але яны павінны зразумець сваю ролю ў гісторыі і рабіць тое, што загадвае фюрэр. Хто не разумее гэтага — той не арыец.

Пасля, калі Рэдліх пайшоў, камісар доўга сядзеў у крэсле, маўклівы і насуплены.

За высокім акном лютавала непагода. Буйныя краплі дажджу барабанілі па шыбіне, сцякалі па шкле трапяткія пад ветрам ручаіны.

«Трэба было зрабіць камін замест печы,— чамусьці падумаў ён.— Цяпер пасядзеў бы ля агню». Ён прыгадаў сваё дзяцінства, стары дом сярод гор і лесу, камін з зыркім полымем і дзеда, які сядзеў перад ім. Тады яны яшчэ жылі ў вёсцы, і божа як не хацеў дзед, каб яны пераязджалі ў горад. Ён і памёр, каб не пакідаць гор, цяністага могільніка і сіняга, фарфоравага неба над галавой.

Ён, Віцінг, усё часцей, асабліва калі прыехаў сюды, успамінаў памятныя з дзяцінства мясціны, і штосьці трывожыла яго. «Няўжо давядзецца застацца тут па ўсё жыццё? Не, гэта жахліва! Я занадта стары, каб мог пражыць далёка ад радзімы». Ён падумаў, як цяжка будзе немцам пакідаць абжытыя землі, ехаць сюды ў чужы і варожы край, нават калі яго ўціхамірыць.

У кабінет зайшоў ад'ютант, паклаў на стол падрыхтаваныя паперы. Ад'ютант хадзіў нячутна, яго моцныя доўгія ногі лёгка пружынілі. Здавалася, ён вось-вось скокне, як барс, на сваю ахвяру.

— Вілі, вы засталіся б тут назаўсёды? — спытаў Віцінг, чамусьці чакаючы рашучага «не».

— Так точна, пан камісар,— сказаў ад'ютант, здзіўлена пазіраючы на шэфа.— Навошта ж мы сюды прыйшлі?

— Вы атрымаеце маёнтак, Вілі.— Крыху памаўчаўшы, Віцінг дадаў: — Як толькі кончыцца вайна.

Ён падпісаў паперы, пазіраючы на шырокую спіну ад'ютанта, падумаў: «Моладзь рызыкоўная, ёй і абжываць гэтыя землі. Для яе будучыні мы і пераносім гэты цяжар на сваіх плячах». Горды ад уласнай годнасці, Віцінг прайшоўся па пакоі. «Аксель — асёл,— падумаў ён словамі Рэдліха,— знішчаць усіх неразумна. Зрабіць з іх паслухмяных рабоў — вось што нам патрэбна».

## 23

Макар Сідаронак ляжаў на жываце, унурыўшы галаву ў падушку. Аднаго разу, калі нікога не было ў хаце, Макар падышоў да шафы з вялікім люстэркам на ўсе дзверцы, спусціў штаны, падняў кашулю і доўга ўглядаўся ў чырвона-сінія рубцы на целе, дзесяць надутых крывавых пісягоў, як агідныя змеі. Макар заскрыгатаў зубамі не ад болю, ад сораму, успамінаючы ганебную экзекуцыю.

Сек яго канчуром кабелю Сямён Агрызка. Біў нямоцна, але ўсё ж рассек скуру, і цяпер на тых месцах выраслі чорныя крывавыя струпы. Гэтакія ж чорныя струпы, здавалася, былі і на Макаравым сэрцы. Яно ныла нячутым дасюль болем. Было да слёз крыўдна, што білі яго свае, з усмешкай і несхаванай цікавасцю сачылі за тым, як ён, падняўшыся на ногі і крывячыся, дрыжачымі рукамі зашпільвае гузікі. Назаўтра, калі Макар прачнуўся, дык адчуў, што кашуля прыліпла да цела. Ён ірвануў яе, закрычаў ад гарачага вострага болю. Адразу ж прыбег Агрызка, п’яны, з чырвонымі ашалелымі вачамі.

— Выпі, брат, яшчэ,— параіў ён, а калі Макар адмовіўся, сказаў: — Вам яшчэ, лічы, пашанцавала. Бургамістр выручыў. Каб перадаў немцам, дык парылі б вы ў зямлі косці. А зад, ён жывучы, зарасце. Ды і біў я цябе шкадуючы. Забуцьку, таго на горкае яблыка змясілі. Хадзем да нас, вып’ем, і на ўсё забудзеш, толькі злосці прыбавіцца. Забуцька вунь п’е ды зубамі скрыгоча. «Цяпер, кажа, камуністаў жыўцом буду рэзаць».

Макар тады змоўчаў. Папрасіў, каб адвезлі дамоў. Бургамістр доўга не згаджаўся, паказваў сваю начальніцкую моц і бацькоўскую заклапочанасць Макаравым здароўем. Нарэшце здаўся. Аднекуль прывялі маладзенькую фельчарку. Яна ахнула, пабачыўшы крывава-сінія рубцы на целе.

— Божа, хто яго так? Немцы?

Бургамістр, закаціўшы пад лоб вочы, зашыпеў на фельчарку:

— Цс-с, дурная, што ты кажаш. Бандыты яго спаласавалі. Каб не паспелі, дык насмерць засеклі б. Ды глядзі, дарагая, маўчы. Ні гуку, што бачыла.

Макару было няёмка спускаць штаны перад гэтай мілай перапалоханай дзяўчынай. І яшчэ цяпер, успамінаючы ўсё да драбніц, Макар згараў ад сораму.

Лежачы на ложку, яму прыемна было ўспамінаць свае дзіцячыя бесклапотныя гады. Усё далейшае жыццё, дарэшты скрамсанае нягодамі, здавалася вартым жалю сном. Як бы і не жыў, а калі і жыў, дык невядома навошта.

Тады, дамагаючыся, каб яго адвезлі ў Цішкаўку, Макар спадзяваўся, што прыбяжыць Ядвіся, пашкадуе. На большае ён не разлічваў, ведаў, што Ядвіся не любіла яго ніколі, а толькі шкадавала. Але здарылася так, што на другі ці на трэці дзень Ядвіся знікла, звёўшы з сабой Сабінку. Сумную вестку прынесла Макарава маці, доўга плакала, выціраючы вочы падолам спадніцы. І Макар раптам адчуў, што ён застаўся адзін на свеце. Радаваўся тады, калі вырваўся з турмы на волю, а воля гэтая аказалася горшай за камеру-адзіночку.

У сенцах пачуліся галасы. Макар павярнуў галаву, убачыў, як бачком праціснулася ў хату старэнькая поснатварая бабулька. З парога перахрысцілася на абразы, сказала вясёлым голасам:

— З намі Хрыстос ныне, і прысно, і на векі.

За незнаёмай бабулькай стаяла маці, сашчапіўшы рукі на грудзях. Макар з цікавасцю пазіраў на старую. У яе абліччы было нешта такое, што выклікала прыхільнасць.

— Дык гэта і ёсць твой сынок? — запытала яна ў маці.— Харошы чалавек, па вачах відаць, што спакойны, і душа ў яго анёльская. Вочы, мая ты любая, як вада ў крыніцы. У іх усё відаць.

Маці запаліла грубку, напарыла нейкіх траў, і бабуля доўга абмывала настоем цела, потым захутала яго ў мокрыя анучкі. Ад таго ці не, але Макар хутка падняўся на ногі.

З таго часу Макар пачаў хадзіць да сектантаў. То была нейкая дзіўная секта, пра якую Макар не чуў нават у турме, хоць там розных сектантаў хапала. Яны маліліся па-праваслаўнаму, але не прызнавалі абразоў, свечак і лампад — толькі адзіны, чатырохканцовы крыж. Ні папоў, ні прэсвітэраў у іх не было. Маленнямі кіравала жанчына, якую звалі багародзіцай. У секце гэтай і шукаў Макар забыццё ад тлумнай несправядлівасці, што насцігала яго ў апошнія гады. Слухаў пропаведзі нейкіх незнаёмых людзей, што паяўляліся на дзень-два і знікалі. Гаварылі прапаведнікі прыгожа і, думалася Макару, чыстай вады праўду. «Каб усе людзі на зямлі,— думаў ён,— паверылі ў бога, палюбілі блізкіх сваіх, як сябе, не было б на свеце гора».

Аднойчы ён вяртаўся з малення. Рэдзенькі дождж церушыўся з неба. На захадзе, скрозь негустую пялёнку смугі, выяснівала неба. Там, на самым даляглядзе, дождж выглядаў ружовым. Макар упершыню за гэты год адчуваў спакойную прыгажосць прыроды.

Дзікі крык і рогат напалохалі яго. Ён паспешліва саскочыў з дарогі. Убачыў перад сабой задыханую конскую храпу, распісную лінейку і нейкіх п'яных крыклівых людзей. У наступнае імгненне ён пазнаў іх.

— Ура! Хлопцы, вось ён!

Забуцька саскочыў з лінейкі, абхапіў Макара дужымі, як клешчы, рукамі.

— Хрэснічак мой, сукін сын, дзе цябе чэрці носяць?

Макар хацеў вызваліцца з тугіх абдымкаў і не мог. З лінейкі саскочыў Агрызка і таксама палез абдымацца.

— Мне дамоў трэба,— збянтэжана казаў Макар, па шчырасці трохі ўзрадаваны сустрэчай.

Злавацца цяпер было грэшна. Закон ёсць закон, а згодна яго трэба дараваць абразы нават ворагам. Забуцька цягнуў Макара ў лінейку, нешта лапатаў п'яным, непаслухмяным языком. І Макар здаўся.

Гасцявалі яны на хутары. Гаспадар — рухавы жулікаваты старавер, з густой шырокай барадой — частаваў пацарску, паставіўшы на стол адразу вядро самагонкі. Макар паспрабаваў адмовіцца, панура растлумачыўшы паліцэйскім:

— Мне, browser, вера цяпер не дазваляе за губу класці.

Забуцька рагатаў, палічыўшы Макараву адгаворку за жарт. Гаспадар жа, мабыць, прыняў Сідаронкавы словы за праўду. Абняўшы Макара, ён пераконваў яго горача і ўмела:

— Вера-та адна ў нас, Хрыстова. А Хрыстос-та, бог наш, сам піў у Кане Галілейскай. Апяць жа прычасце та віно і хлеб, бо сказана ў пісанні божым: віно — кроў мая, хлеб — цела маё...

Макар слухаў гаспадара і дзівіўся: як ні павярні святое пісанне — усё апраўдаеш. Падумаў і пагнаў шклянку за шклянкай упоравень з другімі.

Ачнуўся ён з цяжкай галавой. Нібы праз туман прыпамінаў учарашнюю пагулянку, ярасную спрэчку з гаспадаром аб рэлігіі, нейкую наглаватую дзеўку, што ўсё лезла цалавацца, дзікую страляніну ў лесе па Агрызкавай шапцы, ашалелую скачку на конях, цьмяны агонь ліхтара і лямант чалавека, якога біў Забуцька.

Ён ляжаў на саломе ў паліцэйскім пакоі. Побач спалі астатнія. У кутку стаялі вінтоўкі, і нехта стагнаў за дзвярыма. Макар напіўся з вядра смярдзючай вады. Галава пачала балець яшчэ горш. Паспрабаваў разбудзіць Агрызку, але той быў у самым сне. Тады Макар адамкнуў дзверы, заглянуў у шэрую непрыветлівую бакоўку, дзе калісьці правёў першую сваю ноч у паліцыі. Аброслы каструбаваты чалавек ускочыў на ногі, спалохана забіўся ў кут.

— Хто будзеш? — запытаўся Макар.

— Палонны я, акружэнец.

Макар адступіў на крок у калідор, загадаў:

— Матай адсюль і не азірайся.

Чалавек порстка пабег міма яго. Макар заўважыў толькі чорны гузак пад вокам і тоўстую рассечаную губу. «Цяпер і мне пара зматвацца»,— падумаў ён, раптам цвёрда вырашыўшы, што заставацца тут небяспечна.

Дзён сем Макара хавала ў склепе пад хатай тая бабуля, што прыходзіла да яго ў Цішкаўку. Макар нікому не казаў, чаго ён хаваецца. За гэтыя дні ён аброс густой рыжай барадой. Зрэдку хадзіў на маленні, адмольваў нядаўні п'яны грэх. Разы два наведвалася маці, расказвала, што прыязджаў Забуцька, шукаў Макара, пагражаў, што павесіць, калі зловіць.

Макар цяпер жыў як у сне. Седзячы ў склепе, чытаў святое пісанне, шукаў у ім адказ на кожны свой крок.

Аднаго разу старая Домна паклікала яго ў хату. Ён вылез, здзівіўшыся, што цяпер дзень і няяркае сонца квола ломіцца на тоўстай наледзі акон. У парозе сядзела павязаная вялізнай хусткай жанчына.

— От, сынок, што мы тут парашылі. Трэба табе падалей адсюль схавацца. Сястра Усціння — адзінокая, і ты, можна сказаць,— бабыль. Там табе спакайней будзе. Прыгледзьцеся адно да аднаго ды і з богам жывіце.

Макар маўчаў. Разумеў, што тут яму і сапраўды заставацца небяспечна. Але не хацелася і пакідаць родныя мясціны, ісці ў свет з гэтай маўклівай незнаёмай жанчынай.

— Ды ты чаго маўчыш, як пень яловы? — запыталася Домна.

— Я, цётка, жанаты,— сказаў Макар.

Домна замахала рукамі:

— Авой, жанаты... Дзе яна ў цябе, тая жонка. Ды я і не сватаю цябе... Самі рашайце. А толькі і хаваць цябе не магу.

«Я цяпер — як ліст у полі,— падумаў Макар,— гоніць вецер, а куды прынясе, ніхто не ведае. Давядзецца ісці...»

Яны пайшлі, жанчына наперадзе, Макар за ёю. Абміналі вёскі, прабіраліся незнаёмымі Макару прасёлкавымі дарогамі. Жанчына маўчала, і Сідаронак быў рады гэтаму. Надакучыла чалавечая балбатня, адпачыць бы ад яе ў цішыні, далёка ад гэтага калгатнога свету. Людзі так многа гавораць, быццам хочуць схавацца за словамі сваю бездапаможнасць перад усемагутным рокам, ад якога нідзе не схаваешся.

Позна ўвечары яны падышлі да невялікай вёскі. Поўня сеяла над хатамі сінявата-бледнае святло, і шэсць пакрыўленых хацін у прысадах вербаў здаліся закінутым, дзіўным кутком. На звонкія ў начной цішы крокі недзе нясмела з ленаватай хрыпатой азваўся сабака.

— Ну, вось мы і дома,— сказала Усцiння ўпершыню за ўвесь дзень.

Яна паднялася па вузкай, пратаптанай пад гарой сцежцы на самы верх рова. Тут на выступе, як стрыжова гняздо, ляпілася хата на два акны пад чатырохскатнай саламянай страхой. Кволы агеньчык прабіваўся скрозь замураванае марозам акно на двор, здавалася, у ім адбіваецца нbyяркае месячнае святло.

Дзверы адчыніла круглатварая з распушчаныміваласамі дзеўка Адарка.

— Дай перакусіць чаго,— загадала Усцiння.

Яна скінула з галавы хустку, нанізаныя адна на адну дзве світкі і раптам прадстала перад здзіўленым Сідаронкам маладой і даволі прывабнай кабетай, абязвечанай толькі чырвона-сіняй барадаўкай на твары.

Адарка завіхалася ля печы, раз-пораз пазіраючы на Макара чорнымі звар'яцелымі і нейкімі ўдзячнымі вачамі.

— Цяпер можаш ісці,— сказала Усцiння, калі дзеўка паставіла вячэру на стол. Дадала, калі Адарка выйшла: — Напалохалі яе ў дзяцінстве, во і пакутуе, бедная... Ну, садзіся за стол.

Пад печкай звонка крычаў цвыркун, абуджаючы няўтульную цішыню хаты. Усё тут было нязвычна для Макара: і беднае ўбранства хаты, і маленькія падслепаватыя вокны, і ложак, засланы пярэстай, са шматкоў паркалю коўдрай, і вялізная печка з выступамі і мноствам пячурак, і напісаныя чырвонай і чорнай фарбай евангельскія прытчы, і тоўстыя лаўкі ля сцен.

Пасля вячэры Макар скінуў пінжак і палез на печ. Грэў адубелыя косці, слухаў, як паходжвае па хаце Усціння, мякка, амаль нячутна.

Ён чуў, як Усціння патушыла лямпу, чамусьці прыслухоўваўся да яе крокаў і не мог злавіць іх. Было глуха і цёмна, хоць выкалі вока. Потым ён пачуў яе дыханне. Усціння сядзела недзе побач, далятаў лёгкі шолах плацця.

— Замерзла зусім,— пачуў Макар з цемры яе голас.— Пасунься крыху...

Ён адсунуўся да самага коміна. Ляжаў, стомлены дарогай. Нават гарачае жаночае цела не будзіла ў ім якіх-небудзь адчуванняў.

— Так і будзеш ляжаць? — насмешліва спытала яна, разбудзіўшы задрамаўшага Макара.

Макар раптам успомніў чорную статную цыганку, спалохаўся: «Ці не падвох які?»

— Грэх жа...

Яна засмяялася, абхапіла Макара за шыю.

— Сам знаеш: не саграшыш — не пакаешся, не пакаешся — не ўратуешся.

## 24

Кацура Леанід Пятровіч, які прывёў Тышкевіча ад Мікольскай, таксама быў настаўнікам. Тышкевіч, аднак, яго не памятаў. Мабыць, Кацура ніколі не дакучаў сваімі просьбамі, як іншыя, што лезлі на вочы начальству,ドралі на трыбунах глоткі і вечна нешта прасілі або на кагосьці скардзіліся.

Хвароба надзіва хутка адступала — жалезны арганізм, парашкі, пілюлі, якія хтосьці даставаў у немцаў, паставілі Тышкевіча на ногі.

Аднойчы, калі Тышкевіч сядзеў на ўслончыку перад зыркім полымем грубкі, хтосьці зайшоў у хату. Тышкевіч чуў яго цяжкія крокі і басавіты голас:

— Добры вечар вам. На дварэ сцюжа, а тут як у бога за пазухай.

Кацура завёў чалавека ў залу. Тышкевіч здзіўлена пазіраў на мажнага асілка, што раптам запоўніў сабой пакой. Леанід Пятровіч побач з ім выглядаў нямоглым падросткам.

— Дазвольце прадставіцца,— загуў чалавек, па-вай-

сковаму шчыльна прыціснуўшы далоні да бёдраў.— Старшына звыштэрміновай службы Малахоўскі.

Ён паспрабаваў рукамі крэсла, сеў, яно схавалася пад ім і толькі парыпвала, калі Малахоўскі паварочваўся.

Размова не клеілася. Сядзелі абапал стала, вывучаючы адзін аднаго. Святла не запальвалі.

Неўзабаве паявіўся яшчэ адзін чалавек, дробны, тапканогі. Ён павітаўся з парога, падбег да грубкі, шморгаючы носам, пачаў адаграваць адубелыя і нейкія празрыстыя ад худзізны рукі.

— Крыві той са шклянку засталося, дык мерзну,— сказаў ён.

Тышкевіч здзівіўся. Што ўсё гэта азначае? Навошта Кацура запрасіў людзей?

— Гэта наш Толя Блажэвіч,— паспяшаўся Кацура прадставіць хлопца, што грэўся.

Іван Анісімавіч прыглядаўся да яго. Полымя асвятляла худы белы твар надзвычай тонкіх абрысаў, з вялікімі вачамі і доўгімі вейкамі, як у дзяўчыны. Прафесійным чуццём Тышкевіч здагадаўся, што хлопец гэты вельмі падабаўся настаўніцам за свой лагодны характар. Падумалася: «А гэты чаго прыйшоў? Мабыць, Кацураў вучань, хутчэй ягонай жонкі, Валянціны Сяргееўны».

Тышкевіч зноў перасеў на ўслончык да грубкі. Падкідваў кароткія паленцы дроў у агонь, наглядаў, як ліжа іх зыркае полымя.

Кацура паціху размаўляў з Малахоўскім пра штосьці такое, што было зразумела толькі ім. Хтосьці, мабыць, Валянціна Сяргееўна, зачыняў аканіцы, на гэтым баку Кацура ўмацоўваў прэнты сталёвым цвіком. У хаце стала зусім цёмна. Давялося запаліць лямпу. На кухні зноў пачуліся галасы. На гэты раз прыйшлі адразу двое. Волжскі гаварок перабіваўся ўкраінскай мовай.

Яны зайшлі і спыніліся ля дзвярэй, здзіўлена пазіраючы на Тышкевіча. Той таксама прыглядаўся да іх. Кацура запрасіў садзіцца, але чамусьці не назваў прозвішчаў.

Апошні быў Аркадзь Дайка, смяшлівы і хітраваты.

Людзі расселіся ля стала, адзін Тышкевіч грэўся ля грубкі. Ён думаў, што зборышча гэтае невыпадковае, і таму вырашаў, як яму трымацца.

— Мы тут часта збіраліся,— пачаў Кацура, і Тышкевіч зразумеў, што гаворыцца гэта дзеля яго. Ён павярнуўся спінай да грубкі, слухаў уважліва.— Вечары цяпер доўгія. Збяромся, гаворым, у карты скінемся, у шашкі па-

гуляем — усё хутчэй час ідзе. Пакуль вы, Іван Анісімавіч, хварэлі, дык вас не хацелі турбаваць, а цяпер зноў будзем, калі не пярэчыце.

— Я тут госць,— адказаў Тышкевіч.

Шэсць пар вачэй пільна сачылі за ім і, відаць, ухвалілі такі адказ.

— Гаворым мы шмат, а з размоў нашых толькі языку карысць,— падаў голас Дайка.

— От твой ніколі не маўчаў,— сказаў Блажэвіч, і ўсе чамусьці ўсміхнуліся.

— Пагаварыць карысна, гэта праўда...

Людзі перагаворваліся вяла, за няшчырымі ўразброд словамі хаваліся нейкія важныя думкі, а можа, і справы. Тышкевіч адчуваў гэта і таму вырашыў пакончыць з непатрэбнай гульнёй у таямнічасць.

— Думаю, таварышы, вы не так сабе збіраліся. А раз прыйшлі, дык будзем гаварыць шчыра.

Людзі разгублена пераглянуліся. Адзін Малахоўскі, здаецца, ацаніў такую шчырасць.

— Прызнацца, дык вы ўгадалі,— сказаў ён.— Раз вы пачалі, дык я прадоўжу. Вы самае большае тут начальства...

Тышкевіч усміхнуўся:

— Начальства цяпер — каменданты, бургамістры.

Настала няёмкае маўчанне. Тады загаварыў Кацура спакойным, нібы на ўроку, голасам.

— Нам, Іван Анісімавіч, у хованкі гуляць пазнавата. Можа, я і памыляюся ў чым-небудзь, але тое, што вы ад паліцэйскіх уцяклі,— факт. Значыць, свой чалавек, і таму я скажу, нічога не ўтойваючы. Але спачатку хацелася б ад вас пачуць слова.

— Калі пра тое, як мяне схапілі, калі ласка. Ішоў да радні, паліцэйскі нейкі пазнаў мяне. Вось і ўвесь расказ. Як уцякаў — думаю, гэта нецікава.

Ён заўважыў расчараванне на тварах і пашкадаваў, што не сказаў праўды. Людзі маўчалі, унурыўшы галовы.

— А я думаў, вы не проста Тышкевіч, а нешта большае. Ну, выбачайце...

У Кацуравых словах горыч, крыўда, быццам Тышкевіч падвёў яго.

— Дарагі Леанід Пятровіч, смешны вы чалавек. Сабралі людзей, як, бывала, да вайны, і штосьці хочаце пачуць. А час цяпер суровы. Зборышчы такія небяспечныя, і ў першую чаргу для вас. Мяне схопяць — палова бяды...

— А калі нас — другая палова,— басам падтрымаў яго Малахоўскі.— Цяпер смерць на кожным кроку пільнуе. Вы, можа, за фронт ішлі?

— Хацелася б,— адгукнуўся Тышкевіч.

— Значыць, вы адзін? — рубам паставіў пытанне Кацура.

— Можа, і не адзін быў,— адказаў Тышкевіч.

— Нехорошо,— устраў у размову валжанін,— нехорошо получается. Говорим, говорим, а пользы никакой. Ходить вокруг да около до утра можно. Я вас не знаю, а вот не побоялся, пришел, потому что верю:коммунист коммуниста поймет. Ты, Петрович, скажи товарищу, кто мы и что от него хотим. Скрываться нелепо. Оно, конечно, опасно, но мы здесь свои.

Была нейкая хвіліна разгубленасці, калі кожны рашаўся на той апошні крок перад прызнаннем. Першы пачаў гаварыць Кацура:

— Людзі, якіх вы бачыце, Іван Анісімавіч,— члены нашай падпольнай арганізацыі. Іх у нас шмат, ёсць і зброя, і радыё ёсць. Надакучыла нам займацца размовамі, чакаць прыходу нашых і нічога не рабіць. Вось і думалася, што вы паможаце з партызанамі звязацца. Калі вы былі непрытомныя, дык нешта пра партызан гаварылі. Таму я і сабраў людзей. Аднаму мне маглі не паверыць.

— Як там, на фронце? — не сцярпеў Тышкевіч.

— Пра гэта пасля. Пад Масквой баі.

— Што ж вам сказаць. Што я адзін — не схлусіў. Але і ў мяне ёсць сябры. Толькі, шчыра кажучы, дзе яны, не ведаю. Думаю, што вы самі партызаны. У поўным сэнсе слова. І задачы ведаеце: трэба біць немцаў, ірваць іх камунікацыі!..

З месца весела падхапіўся Блажэвіч.

— А я вам што казаў. Дык асцярожныя ж вельмі.

Кацура загадаў Блажэвічу сесці.

— Ты, Толя, паслухай старэйшых... Тут, Іван Анісімавіч, спрачаліся мы. Блажэвіч і Варачкін,— Кацура паказаў на валжаніна,— надумалі эшалон узарваць. А я супроць. Немцы могуць людзей перастраляць, і тады арганізацыя наша прападзе. Вось тут і выбірай.

— Революция без крови не бывает,— сказаў Варачкін.

— Тады давайце, таварышы, па парадку,— сказаў Тышкевіч і перасеў да стала.

Ён сеў на вольнае крэсла ля вузкага канца стала і тым самым нібы ўзяў на сябе старшынства.

— Прашу вас, Леанід Пятровіч, здаецца, вы тут за галоўнакамандуючага.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чыгунка ахоўвалася блага. Аркадзь Дайка падвёў падрыўнікоў да самага палатна. Варачкін, Блажэвіч і нехта яшчэ, невядомы Тышкевічу, узабраліся на насып. Было чуваць, як яны шалахцяць сапёрнай лапатай аб жвір.

Снарад ляжаў у кустах, сярод людзей, што заляглі тут. Удзень Тышкевіч пабываў у пуні на далёкім хутары, дзе Блажэвіч і Варачкін нешта мудрагелілі ля снарада. З усіх тлумачэнняў Тышкевіч зразумеў толькі адно: хлопцы зрабілі нейкае хітрае прыстасаванне, якім снарад будзе ўзарваны на чыгунцы. І ён тады радаваўся, быццам хлопцы зрабілі нейкае надзвычай важнае вынаходніцтва. Цяпер ён пачынаў хвалявацца: а раптам снарад не ўзарвецца.

Варачкін і Блажэвіч вярнуліся па снарад, асцярожна павалаклі яго на насып. Зноў шалахцеў жвір, потым усё сціхла, і неяк адразу Тышкевіч убачыў два прыгорбленыя цені, што хутка шыбавалі да іх.

— Чаго вы там корпаліся? — глушачы голас, запытаўся Малахоўскі.

— Вушка, хай на яго, не мог прыладзіць,— спакойна адказаў Блажэвіч.

— Шнура хопіць?

— Хопіць...

Яны пачалі адпаўзаць да ручаіны. Заляглі ў лазовых кустах.

Хваляваліся. Дождж то надціхаў, то зноў лапатаў у голлі. Было зябка, мокра. Хуталіся ў каўняры. Хукалі на адубелыя рукі, каб сагрэцца. Хацелася курыць.

Тышкевіч успамінаў сваю першую засаду на шашы. Усё як бы паўтаралася, і было боязна, што і гэта пройдзе няўдала. Недзе за горкай успыхнула ракета, і чорныя цені шпарка пабеглі па яркай віднаце. Потым недалёка пачуліся галасы. Бубнілі двое. Тышкевіч прыгледзеўся і ўбачыў, як па насыпе ідуць людзі. «Ну, вось і ўсё. Прапала наша работа»,— падумаў ён.

Немцы гаварылі нямоцна. Слоў было не разабраць. Зрэдку ў іх руках пабліскваў ліхтарык і тут жа гаснуў, нібы яго тушыў вецер.

Немцы мінулі тое месца, дзе ляжаў снарад, нічога не заўважыўшы. За паваротам успыхнула яшчэ адна ракета.

І тады Тышкевіч пачуў лёгкі гул зямлі. Аднекуль з усходу ішоў цягнік.

Ён паявіўся нечакана.

— Падрыхтавацца,— пачулася каманда.

За паравозам ішлі асветленыя вагоны. На шкле выразна былі відаць нейкія цені.

— Санітарны, здаецца,— пачуў Тышкевіч чыйсьці голас.

Паравоз ляцеў на снарад. Тышкевіч адчуў, як наструнілася цела, як моцна прыціскаецца яно да зямлі, чакаючы выбуху. Гулка аддаваўся ў вушах лязгат колаў, дробна дрыжала пад грудзямі зямля. «Раз, два, тры, чатыры, пяць...» — Тышкевіч чамусьці адлічваў у думках імгненні. Паравоз разварочваў вагоны на кругавіне, і цяпер ужо яны настырна лезлі ў вочы асветленымі вокнамі. У адным з іх прамільгнула высока ўзнятая ў белай гіпсавай павязцы рука.

Тышкевіч чамусьці збіўся лічыць і таму пачаў зноў спачатку: раз, два, тры, чатыры, пяць...

— Што там у цябе? — Злосны насцярожаны бас Малахоўскага прагучаў надзіва недарэчна ў мяккім перастуку колаў.

— Нічога.

Апошні вагон, гулка праляскатаўшы на стыках, свяціў у цемры чырвоным ліхтарыкам. Паволі атухаў дробны перастук колаў. А Тышкевіч усё яшчэ чакаў выбуху.

— Разява, тваю косць... Што там у цябе?..

— Санітарны ішоў, таварыш старшына,— чамусьці здзіўлена адказаў Блажэвіч.

— Ну і што?

— Дык жа там параненыя, Кузьма Васільевіч.

— Параненыя, дык і чорт з імі.— Малахоўскі стараўся стрымаць свой гнеўны, раз’ятраны бас.— Слізняк чортаў...

— Дык жа ўсё роўна я не на той каляі паставіў снарад...

— А чаго дражнішся?

Тышкевіч для сябе адзначыў, што Блажэвіч схлусіў, але ў думках пахваліў яго. «Няхай немцы не думаюць, што мы супроць параненых ваюем».

Яны чакалі яшчэ з гадзіну.

Скрозь шапаценне дажджу зноў даляцеў далёкі гул, потым глухое сапенне паравоза і ўжо недалёкі перастук колаў.

— Цяпер жа не праваронь, рыла,— сказаў Малахоўскі, падсоўваючыся да Блажэвіча.

— Будзь спок, не прапушчу.

## 25

Торфазаводскі пасёлак Лісіныя ямы быў абжыты надзіва хутка. Народ сабраўся спрытны, бывалы, адчайны. Знаёміліся неахвотна, пра сябе стараліся не расказваць: больш цікавалі за другімі.

Удзень працавалі ў канышоўскім калгасе. Жалі за дзесяты сноп. Капалі бульбу за дзесяты кошык. Назапашваліся.

Уночы ездзілі ў здабыткі: чысцілі фермы, якія ніхто не пільнаваў. Дабро цяпер нічыё і ўсё роўна немцам дастанецца — красці было нябрыдка.

Сцепаніда не адставала. Па-мужчынску варочала справамі, за якія баяўся брацца нават звераваты, зарослы да вачэй чорнай барадой Трахім Цыпля. Пасля ўдачы піла нароўні з мужчынамі гарэлку і сама дзівілася — хмель не браў, толькі паяўлялася рызыка.

У катушку за хатай, які зрабіў Трахім, Сцепаніда трымала двух кабанчыкаў і шэсць авечак. Карову паставіла ў сенцах. Перакручанае вайной жыццё паволі запаўнялася клопатамі: былы страх адступаў перад імі.

Валасное начальства Сцепаніда не баялася — ведала, што пастаіць за сябе, ды і людзі ў крыўду не дадуць. На ўсякі выпадак, аднак, расстаралася ў Канышах два абразы. Яны віселі на покуці, аздобленыя папяровымі гірляндамі.

Можна было жыць. Тады, як Самарос надумаў кідаць хату, Сцепаніда праплакала ўсю ноч. Цяпер яна нават радавалася, што яго няма. Даводзілася б калаціцца кожны раз, як прыязджала паліцыя. Усё думалася б, што прыехалі па яго.

Але адна неадчэпная думка тачыла Сцепаніду. Ад яе не было спакою, асабліва тады, калі Сцепаніда, ахмураная гарэлкай, клалася спаць. Здавалася тады, што недзе ў цеснай лясной зямлянцы, у гэты ж самы час, з Мікітам лажыцца Прусава. Ад такой думкі помстай кіпела кроў. Ведала б, дзе тая зямлянка,— пайшла б, нарабіла б крыку на ўвесь свет.

Раніцай прачыналася разбітая, знясіленая і злосная. Хадзіла па хаце, як чорная хмара над лесам, прыдумвала

самую лютую кару Прусавай. «Цяпер ты мяне контрай не спалохаеш,— шаптала яна, барвавеючы ад няёмкага ўспаміну пра даўні выпадак, калі спалохалася Прусавай.— Цяпер я табе ўсе космы павыдзірала б».

У працы забываліся сляпыя помслівыя думкі. Круцілася Сцепаніда ў клопатах як белка ў коле. Аднастайна паўзлі цяжкія ваенныя дні.

Ноччу, калі прынеслі параненага Самароса, яна не спала, быццам чакала яго з далёкай дарогі. Загаласіла. Чужы, незнаёмы мужчына цыкнуў на яе. Яна змоўкла, адразу зразумеўшы, што разам з Мікітам у яе хату ўвайшоў, як няпрошаны госць, новы клопат.

Мікіту палажылі ў прыбудоўцы за сенам. Сцепаніда прыглядалася да людзей, хацела даведацца, з імі Прусава ці не. Можна было б запытацца, але людзі, нечым устрывожаныя, спяшаліся.

Пасля, калі яны засталіся ўдваіх, нябачныя адно аднаму ў цемры, Сцепаніда не вытрымала:

— Ну што, пагнаўся за сваёй краляй, а лячыць да жонкі прынеслі.

— Што ты выдумляеш? — пачула яна абражаны і нейкі вінаваты Мікітаў голас.

Зрабілася шкада яго. Кінулася тварам на грудзі, доўга плакала, уздрыгваючы ўсім целам. Шаптала:

— Цяжка мне, Мікіта... Ой цяжка.

Самарос, крыху счакаўшы, асцярожна адхіліў яе.

— Дзеці як?

— Што дзеці... Яны ў доглядзе. А мне прыгарнуцца няма да каго,— дадала злосна.— А гэта ж сука пабаялася вочы паказаць?

— Ну і дурная ты,— з дакорам сказаў Самарос.— Ды Прусавай тут і не было ніколі. Ну хто ў лес жанчыну возьме, сама падумай, неразумная твая галава.

Сцепаніда паверыла. Узрадавалася. Прынесла з хаты коўдру, захутала Мікіту, прыціснулася да яго гарачым, аслабелым адразу целам.

— Баліць?

— Цяпер не вельмі. І рана не цяжкая. Крыві шмат страціў.

— Ну, гэта не страшна. Я цяпер багатая. Карміць цябе буду так, што паправішся.

— Мне гэта і трэба. Людзі чакаюць.

— Ну, не, цяпер я цябе не пушчу. Няхай другія ваююць. Не маладзён ужо, а дзяцей куча.

Самарос прамаўчаў.

Пацяклі надакучлівыя, аднолькавыя, як блізняты, дні і ночы. Ноччу асабліва было няўтульна. Са страхі безупынку падалі ў лужу кроплі: цмок, цмок, цмок. Зрэдку праз шчыліны ўрываўся ў прыбудоўку вецер, глуха шамацеў сенам.

Самарос хутаўся ў тоўстую ватную коўдру. Ляжаць яму абрыдла. Днём, калі было ціха (дажджы залілі Капышоўскія балоты, і немцы сюды не прыязджалі), Самарос вучыўся хадзіць. Кульгаў здорава, хоць нага ўжо не балела. Было крыху дзіўна, што ніхто не наведвае яго: забыліся, мабыць, чэрці. Самарос не крыўдаваў — ведаў цану ваеннага часу. І ўсё ж было нясцерпна адзінокa.

Мікіта распытваў у Сцепаніды пра суседзяў. Хто? Адкуль? Жонка падоўгу расказвала, як ездзілі ў былы саўгас па каровы, як кралі бульбу, колькі ў каго дзяцей. Найчасцей Сцепаніда расказвала пра Трахіма Цыплю. Выспяваў у Мікітавым уяўленні прыгожы вобраз гэткага асілка-праўдалюба.

Аднаго разу, калі адзінота, як мыльная пена, ахутала душу, моцна шчыплючы яе, Самарос паклікаў Сцепаніду:

— Трахім Цыпля пра мяне ведае?

Сцепаніда збянтэжылася:

— Гаварыла пра цябе. Але дзе ты быў, не ведае.

— Пакліч яго.

Той прыйшоў і, здаецца, не здзівіўся, што Самарос кульгае.

— Шчасліва вырабіўся, Мікіта Лявонавіч. Дзе гэта цябе шкуматнула?

— Было дзе,— неахвотна адказаў Мікіта.— Ну, як вы там з немцамі ладзіце?

— Любоў у нас з імі такая: менш бачым — радуемся.

— Часта даводзіцца бачыць?

— Цяпер не. Рэчка разлілася, дык ні праехаць ні прайсці. А як суха было, прыязджалі.

— Што людзі гавораць?

— Кожны сваё гне — не наслухаешся.

— А сам што думаеш?

Госць хаваў вочы, вытрымліваў паўзу. Самарос падумаў: «Мужык ён такі — аціхла крыху, над галавой не капае, ну і не рыпаецца».

— Я табе так скажу, Мікіта Лянованіч: ад размоў языкі распухлі. Баба што-небудзь збрэша, і панеслося па вёсцы. Увечары тая ж баба пачуе сваю брахню і ўжо са-

ма верыць, што праўда. А немца, відаць, языком не спалохаеш...

— Яно так, дык, мусіць жа, і яшчэ што прыхавана.

— Як табе сказаць. Наш брат запаслівы.

— Ну, а ў самога?

— Мне навошта...

— А калі спатрэбіцца?..

— Тады тое і будзе.

— Я цябе, Трахім Васільевіч, папрасіў бы пагаварыць з людзьмі.

— А мы што?.. Нагаварыліся... адзін аднаго ведаем.

— Усё ж сабрацца не шкодзіла б. Пагутарылі б, можа, што і вырашылі б.

Трахім, здаецца, не адобрыў Мікітаву прапанову. Маўчаў. Самарос запытаўся:

— Ну, дык як? Шмат народу не трэба, а такіх, хто адданы.

— Слухаю я цябе і дзіўлюся.— Трахім паглядаў кудысьці ўбок.— Хіба ты яшчэ за сваё старшынства ў сельсавеце не нагаварыўся? Ну, што вы гэтага мужыка, як капрызную дзеўку, угаворваеце ды ўсё прыспешваеце, каб замуж ішла? Быццам мужык сам нічога не разумее.

Самарос ужо раскайваўся, што павёў размову. З мужыком па-добраму не згаворышся. Яго, чорта, пакуль не прыціснеш, усё будзе ўпірацца. Спакваля паспрабаваў адступіць.

— Не хочаш, ніхто цябе жывасілам не цягне,— пачаў ён.— Я к таму сказаў, што немец — вораг і ўсе, каму наша Радзіма дарагая, мусяць змагацца за яе незалежнасць. Мы гэтую савецкую ўладу ў крывавых баях з контррэвалюцыяй адстаялі, і селянін першы выйграў ад гэтай перамогі.

— А я нічога супраць і не маю. А толькі ніхто табе не скажа, што рабіць...

— Зброю ў рукі браць трэба. Лясы вялікія...

Трахім крута павярнуўся да Самароса.

— Ваяваць... ваяваць. Вунь з Веляшковіч паваявалі і вярнуліся.

Самарос ведаў, што веляшкоўцы пайшлі дамоў, але першы раз чуў аб гэтым ад пабочнага чалавека. Выходзіць, у вёсках ведаюць, дзе яны былі.

— Ну і што?..— спытаў Самарос.

— Анічога... Прыйшлі, і ўсё.

— А немцы?..

— Што немцы... Немцам тыя замінаюць, што ў лесе, а хто прыйшоў, той не страшны. А ты кажаш — ваявадь. Зіма, Мікіта Лявонавіч, на носе. Дзе ты ў тым лесе ўсе-дзіш...

«А мы тады гаварылі,— падумаў Самарос,— што немцы іх адразу забяруць. Аж тут вунь як павярнулася».

Ён ужо няўважліва слухаў Трахіма. Штосьці трывожыла яго, прыгнятала. «Хутчэй бы Тышкевіч прыходзіў. Зноў бы ў лес пайсці. Там смялей».

Трахім пайшоў. Сотні думак апанавалі Самароса. I ніводнай светлай.

Сцепаніда бразгала начыннем, сабірала абедаць. Дзеці ўжо сядзелі за сталом, стукалі лыжкамі.

— Ідзі ўжо.— Сцепаніда падсунула табурэтку да стала, чакала, пакуль Мікіта сядзе, павяла атаку: — Ты от што, Мікіта, з'ездзі ў воласць. Так і так, скажы, вярнуўся. Спакайней будзе.

— Жыўцом я ім не здамся,— упарта сказаў Самарос.

— Ну, тады я сама схаджу.

— І табе не дазволю. Пакуль мяне не чапаюць, бо не ведаюць. Думаеш, Самароса памілуюць?

— А што ты ім зрабіў?..— здзівілася Сцепаніда.

Самарос з жалем паглядзеў на жонку. Балюча і крыўдна зрабілася яму, хоць плач. Век звекавалі пад адным дахам, на адным ложку спалі, а не зблізіліся — чужыя людзі.

Прусава такое не сказала б: ідзі ў воласць... Каб задумаў пайсці, дык не пусціла б. А Сцепаніда гоніць: сама пайду. Няўжо не разумее, што немцы толькі таго і чакаюць, каб прыйшоў? Не, не разумее... Нават каб яны мяне не пасадзілі, усё роўна не магу я пайсці рэгістравацца. Ну, хоць гэта да яе дойдзе? Дзе там!.. Прыносіў бы ёй грошы, у час дамоў вяртаўся — большага яна і ведаць не хоча. Падруга жызні — раскачай яе...

За гэтыя месяцы Сцепаніда раздабрэла. Шчокі набраклі чырванню, зрабіліся тугія. Сцепаніда, здаецца, не ходзіць, а валюхае, як укормленая качка, лае даваенныя парадкі, новыя хваліць. Што сталася з жанчынай? Ну, спачатку рэўнасць яе згрызала. Дык не адна ж тут рэўнасць вінаватая, што Сцепаніда гатова цяпер немцам прыслужваць? Ды і ці задумваецца яна, каму служыць? Радуецца, што гаспадарку займела. Ну і дурная...

У Самароса клякоча ў грудзях злосць на Сцепаніду і на сябе таксама. Другіх выхоўваў, вучыў, а ўласную жон-

ку прагледзеў. Хоць чорт яе перавыхавае! Відаць, змалку яна такая была.

Пакрыўджаны Самарос прыгадвае толькі тое, што выкрывае Сцепаніду. Харошае цяпер не лезе ў галаву. «Не пойдзеш сам у воласць, дык я пайду». І пойдзе. Самарос упэўнены, што пойдзе. Сцепаніда такая. Хадзіла ж яна ў райвыканком скардзіцца на яго. У самую чыстку хадзіла. Прывучылі жанчыну, ледзь што не па ейнаму — бяжы, скардзіся. Табе веры няма, а ёй верацъ. Навухрылася, думае і ў немцаў так, як у нас было. А яны цябе за шкірку. Вымоў у іх не даюць. Адразу ў турму. Дык паспрабуй дакажы дурной бабе.

Сцепаніда спадылба цікавала за прыціхлым Самаросам. «Няхай памаўчыць, цяпер не тое, што да вайны. Цяпер я — гаспадыня. Я цябе кармлю,— думала яна.— І нікуды ты не дзенешся. Хопіць, нацярпелася да вайны. Брындаў па сельсавеце, па нарадах, нічога не скажы, бывала. Жылі нібы старцы якія. Усё з капейкі, а капейка ж не дужа вялікая. Думалася, камісар, у скуранцы ходзіць, хоць пажыву паняй за ім. Крамнік і той лепей жыў... А вось, дурань, трымаецца за мінулае. Чаго трымацца? Дабра хіба назапасіў? Дулю. Я за месяц набыла столькі, што надоўга хопіць. У лес яго зноў цягне. Ведаю чаго. Прусава там. Во з-за каго ён гатоў дзяцей вырачыся. Не, галубок, у лес табе дарогі няма. Не пушчу, хоць ты трэсні, а не пушчу...»

— Я ўжо гаварыла наконт цябе з бургамістрам. Кажа, няхай смела прыходзіць. Выпішам яму пашпарт, і жывіце на здароўечка.

— Як гаварыла? Навошта?!

— Не хавацца ж табе ўсё жыццё. Вунь дроў няма ўжо, а хто іх мне прывязе?

— Хто табе дазваляў пра мяне балбатаць? — У Самароса гнеўныя вочы. Гэтага сталёвага, злоснага позірку Сцепаніда заўсёды баялася. Адразу змяніла голас.

— Мікітка, ну сам падумай, хто ж пра цябе паклапоціцца. Ты думаеш, я так з чух-чубарахты павяла гаворку. Я не дурная. Кажу яму, бургамістру, значыць, жанчына адна, кажу, плача ўсё, бо мужа яе звялі ў лес. Хоча ён дамоў вярнуцца, ды баіцца, што вы арыштуеце...

Самарос павольна паднімаўся з лаўкі, адсунуў нагой стол, не спускаючы вачэй з жонкі, працадзіў скрозь зубы:

— А табе хто сказаў, што я хацеў з лесу вярнуцца?..

Калі ты яшчэ раз у тую ўправу пойдзеш — запомні... Гэта табе не ў райком насіць скаргі...

— А божачка, ну чаго ты?.. Ну, не пайду я... Хацелася ж як лепш...— спалохана адступілася Сцепаніда.

Бясспрэчная ўлада Самароса была зноў устаноўлена ў хаце.

За ўладу, як і належыць, даводзілася плаціць. Разам з Трахімам Цыпляй Самарос сабраў са старызны хляўчук для каровы. Засталося толькі накрыць страху.

Саломы не было. Трахім са Сцепанідай прывезлі воз чароту. Раніцай Сцепаніда паехала з мужчынамі ў здабыткі. Мікіта забраўся на хлеў, прыгадваючы даўняе, забытае за гады службы рамяство, стаў ладзіць страху: вязаў пучкі чароту, выкладваў роўным радком, прывязваў іх да латаў добра выпаранымі лазовымі прутамі.

Рабілася яму ў ахвотку, хоць і церусіў дробны надакучлівы дождж. Са страхі Мікіту адкрываліся, як бы іншыя, шырокія далягляды: торфазаводскі пасёлак, кар'еры, залітыя зеленаватай вадой, штабялі торфу, а за імі хутары пры лесе, да якіх слалася чорная, у выбоінах дарога.

Па той дарозе нехта клыпаў сюды, а можа, і не сюды. Цяпер не разбярэш, хто і куды ідзе. Адзін ён прывязаны сваёй кульгавасцю да аднаго месца.

Самарос якраз завяршаў страху, калі чалавек звярнуў з дарогі, пайшоў між кар'ераў, цяпер ужо і вельмі пэўна, што сюды. Лепей прыгледзеўшыся, Самарос убачыў, што падарожнік — жанчына.

«Прусава!» — у думках выгукнуў ён, ашалелы ад радасці.

Ён паспешліва стаў спаўзаць са страхі, але адразу згубіў Веру з вачэй і зноў палез на страху. Вера ўжо выбіралася з балота. Самарос добра бачыў яе твар, і ў яго саладзела на душы ад прадчування жаданай сустрэчы.

Яна, мабыць, таксама ўбачыла яго — дадала хады і неўзабаве ўжо стаяла пад хлеўчуком, задраўшы мокры ад дажджу твар, глядзела на Самароса. Ён па-маладому, забыўшыся на параненую нагу, саскочыў з лесвіцы, скрывіўся ад болю і, адолеўшы яго, падбег да Веры, абняў за плечы, парыўна пацалаваў у мяккія цёплыя губы.

— Божа, я зусім зачакаўся,— выдыхнуў ён, зморany сваім шчасцем.— Расказвай...

Прусава закрыла твар рукамі, згорбілася, прыгнулася да каленяў.

— Не магу я, не магу...

Самарос зноў абняў яе, як умеў супакойваў. Ад жаласці балела сэрца. Ведаў, калі ўжо заплакала Вера, дык, мусіць, давялося нясоладка...

— Пойдзем у хату,— прапанаваў ён.— Ты ж уся вымакла, ніткі сухой няма.

Яны сядзелі ў зальцы і гаварылі, гаварылі, ніяк не маглі спыніцца.

Дзверы некалькі разоў адчыняліся, і хтосьці з дзяцей заглядаў у пакойчык. Самарос адмахваўся: пачакайце.

Ён быў зноў замахаў рукамі, каб не перашкаджалі. На парозе стаяла Сцепаніда. Ён убачыў яе барвовыя шчокі, гнеўныя вочы і зразумеў, што зараз штосьці здарыцца. Сцепаніда гулка ляпнула дзвярыма, паклікала з кухні:

— Самарос, хадзі сюды.

— Ты, Вера, пачакай, я зараз,— зашаптаў Самарос.

Калі ён выйшаў на кухню, дык пачуў, як Волечка казала маці: «...а тата яе абнімаў, чэснае слова».

Сцепаніда ўперлася рукамі ў мясістыя клубы, шырока расставіла тоўстыя ногі пад кароткай спадніцай. Закрычала, каб пачула Прусава:

— От што, міленькі, каб гэтай сцервы ў маёй хаце не было! Раз і назаўсёды кажу. Паявіцца — сама немцам заяўлю.

— Цішэй ты! Ашалела!..— Ён схапіў яе за рукі і толькі цяпер зразумеў, што яна п'яная.

## 26

Восем чалавек, апранутыя ў ватоўкі і панашаныя шынялі, завіхаліся ля моста на старым Кацярынінскім шляху. Збоч дарогі весела патрэсквала вогнішча. Сіні дымок слаўся над кустамі, не паднімаючыся ў захмаранае неба. Ля кастра панурыўся конь, запрэжаны ў калёсы. На возе двое курылі з люлькі самасад. На дарозе ля моста тупаў падкаванымі ботамі немец, але да кастра не падыходзіў.

З раніцы шаша пустуе. Як кінуць вокам белае роўнае палатно. Першы снег прыкрыў з ночы брук, і ні адна машына яшчэ не праклала па ім следу.

Рабочыя правяць мост. У ранішняй цішы чуваць шоргат піл і звонкі перастук сякер. Але людзі працуюць неахвотна. Работа пасоўваецца павольна.

Пасля снядання пачынаюць ісці машыны, нягуста, найбольш цугам, гружаныя нейкімі скрынямі, цюкамі з сенам, бочкамі гаручага. Перад мостам машыны спыняюцца. Вы-

сокі хударлявы немец, блытаючы нямецкія словы з рускімі, загадвае пакласці ў пралом не абчэсаныя яшчэ бярвенні. Лаецца, што рабочыя працуюць ленавата, падганяе іх крыкам. Мужчыны не спяшаючыся робяць сваю справу.

Машыны, асцярожна намацваючы коламі насціл, перабіраюцца на другі бок. Тады мужчыны зноў выцягваюць бярвенне.

Праз пралом у мосце відаць па́лі і чорная вада. Немец спыняецца над праломам, доўга глядзіць у павольную плынь ракі і высоўвае язык, дражніць свой няўклюдны адбітак. Зноў паяўляюцца машыны, і зноў мужчыны цягнуць бярвенне, засцілаюць пралом у мосце.

Нейкі час шаша пустуе. Мужчыны круцяць цыгаркі, насмешліва пазіраюць на немца, які тупае азяблымі нагамі. Той дастае з кішэні памяты пачак цыгарэт, не зважаючы на кплівыя ўсмешкі, хукае на нягнуткія пальцы.

Запальнічка не загараецца, і нехта з рабочых кліча немца:

— Пан, пан, хадзі прыкуры ад папяроскі...

Немец усё шоргае і шоргае колцам запальнічкі, з-пад яго густа ляцяць іскры, але кнот не загараецца. Потым немец хавае запальнічку, выплёўвае так і непрыкураную папяросу.

— Работаць! — крычыць ён.

Мужчыны спакваля бяруцца за сякеры. Азіраюцца. На ўзгорку паяўляюцца дзве легкавыя машыны, ныраюць уніз.

Немец становіцца на абочыну. Мужчыны жвава цюкаюць сякерамі, азіраюцца на немца. Той стаіць, выпучыўшы грудзі, рукі моцна сціскаюць аўтамат.

Адна за адной машыны ўзлятаюць на пагорак перад спускам у даліну, лятуць на мост, не збаўляючы хуткасці.

Немец уздымае руку. Рыпяць тармазы. Афіцэрская шапка вытыркаецца з машыны.

— Вас іст гі-ір? — пытаецца афіцэр.

Немец, выцягнуўшыся ў струнку, дакладвае, што сяляне рамантуюць мост па загаду каменданта Кранцбюлера, і тут жа ашалела крычыць на мужчын, каб хутчэй зрабілі насціл. Тыя спяшаюцца, мітусяцца. Наглядчык падганяе іх. Першае бервяно кладзецца на бэлькі без прыгод. Немец зноў бяжыць да машыны, каб далажыць, што паны афіцэры хутка паедуць. А на мосце тым часам затор: бервяно падае ў ваду, задзіраецца ўгору, як свечка. Наглядчык зноў крычыць, лаецца. Нецярплівы афіцэр вылазіць з

машыны. За ім астатнія. Яны закурваюць, пазіраюць, як выцягваюць бервяно з вады. Да немцаў падыходзіць барадаты здаровы чалавек.

— Пан, цыгарэтку, бітэ, айн цыгарэтку.

Немцы прыглядаюцца да яго, смяюцца.

— О, сапраўдны рускі мужык,— кажа адзін.

— Гэта, паны, партызан,— рагоча другі немец.— Тып, які рэдка сустрэнеш. Пачакайце, я яго сфатаграфую. Дайце яму ў рукі сякеру.

Наглядчык загадвае ўзяць сякеру. Чалавек ахвотна становіцца на краі канавы, трымаючы ў руках калун, старанна пазіруе. Мякка пстрыкае затвор, і адразу ж гучыць спакойны голас:

— Хендэ хох.

Афіцэр хапаецца за парабелум, не разумеючы яшчэ, пажартаваў хто ці ўсур'ёз загадвае падняць рукі. Аўтамат немца-наглядчыка трымае афіцэраў на мушцы. З-пад моста і ад павозкі бягуць людзі з рускімі паўаўтаматамі наперавес.

— Іваноў, адбяры зброю,— загадвае ахоўнік барадатаму.

Дзіўна, але немцы не супраціўляюцца. Іх абяззбройваюць, туга вяжуць вяроўкамі, запіхваюць у машыны. Усё адбываецца імкліва. Гэтак жа імкліва людзі кладуць насціл. У машыны садзяцца двое, астатнія бягуць да павозкі.

Машыны імчаць спачатку па шашы, потым зварочваюць на дарогу. За лесам, каля цагельні, спыняюцца. Пасёлак пустуе. У двух уцалелых бараках няма ні акон, ні дзвярэй.

Афіцэраў зацягваюць у барак, а машыны гоняць далей, туды, дзе даўнія выпрацоўкі і глыбокія, як азёры, старыя кар'еры. Адну за другой іх топяць у кар'ерах. Глуха плюхаецца вада.

Немцам нарэшце развязваюць рукі. Яны стаяць спалатнелыя ад страху, але самаўпэўненыя і знешне спакойныя. Толькі адзін з іх трасецца, як у ліхаманцы. На кончыку яго пабялелага носа вісіць празрыстая кропелька і таксама дрыжыць, гатовая вось-вось сарвацца.

— Хто вы і што вам трэба? — пытаецца адзін з афіцэраў у таго, што іграў ролю наглядчыка.— Вы — немец? Я абяцаю даравацъ вам жыццё... Усім...

Былы ахоўнік смяецца.

— Вы памыляецеся, пан афіцэр, я рускі. І партызан, як вы, мабыць, ужо здагадваецеся.

Чабаноўскі гаворыць спакойна, назіраючы, якое ўражанне зрабіла на немцаў прызнанне.

— Ты бандыт! — закрычаў афіцэр.— Вы свіныя падонкі. За нашу смерць вас будуць рэзаць, паліць вёскі.

Адзін з чыноў узяў афіцэра за плячо.

— Фрыдрых, вы ж не ў гестапа. Толькі шкодзіце сабе і нам.— Потым звярнуўся да Чабаноўскага: — Я салдат, як, спадзяюся, і вы. Таму прашу адправіць мяне ў палон, як і кожнага афіцэра, што трапляе ў рукі непрыяцеля. Вайна павінна весціся па строгіх правілах, думаю, вам гэта вядома.

Чабаноўскі кіпеў ад гневу, стрымліваў сябе намаганнем той волі, якая заўсёды давала яму перавагу над іншымі.

— Што ён кажа? — не вытрымаў нудных незразумелых перагавораў Каршукоў.

— Кажа, што ваюем не па правілах. А вунь той, што па-ваўчынаму скаліць зубы, пагражае нам смерцю. Відаць, чын нейкі з гестапа.

У руках у Каршукова шырокі, вінтовачны кінжал. Цыбата пераступаўляючы няпнуткія ногі, Станіслаў Цітавіч зрабіў чатыры крокі, сіпавата загадаў:

— Скідай адзежу, сволач, фашысцкая гадзіна!..

Афіцэр не разумеў, што ад яго хочуць. Ён адступаў задам, крывавымі вачамі цікуючы за Каршуковым.

— Загадана зняць вопратку,— пераклаў яму Чабаноўскі.

— Нізашто! — Афіцэр пастараўся трымацца незалежна.

Каршукоў, спрытна перакінуўшы кінжал у левую руку, з усяго маху ўдарыў афіцэра кулаком у твар, потым, калі ён упаў на падлогу, пачаў біць нагамі пад бакі.

Яго адцягнулі. Немцы спалохана пазіралі на Каршукова. У вачах асуджанасць, страх. Толькі капітан яшчэ трымаў такі-сякі спакой.

— Я прашу, калі ўжо даводзіцца памерці, расстраляць мяне як салдата...

Чабаноўскі жорстка прыжмурыў вочы:

— Перад кім вы гуляеце ў прыстойнасць, гаўптман? Вы, што паліце нашы вёскі і забіваеце людзей? Якія з вас салдаты? Разбойнікі з вялікай дарогі.

...Калі ўсё было кончана, Чабаноўскі выцер шапкай твар.

— Вады б цяпер... Мотапіна,— і, памаўчаўшы, дадаў: — Ніколі не думаў, што забіваць так страшна... А яны ж кожны дзень забіваюць... Звар'яцець можна.

Ранняя зіма надзейна схавала сляды аперацыі. Замяло снегам дарогу, па якой каршукоўцы везлі нямецкіх афіцэраў на цагельню, мароз скаваў кар'еры, дзе пад сіняватым лёдам знайшлі апошняе прыстанішча нямецкія чыны.

Зіма спакойна ўлеглася і на Забалацкіх хутарах. Дзён сем каршукоўцы адлежваліся па хатах. Ніхто з хутаран і не здагадваўся, каму яны далі прытулак. У той год нямала астадольвалася па вёсках акружэнцаў: салдат і камандзіраў, апалчэнцаў з-пад Вязьмы, маўклівых людзей невядома якіх пасад і рангаў, бежанцаў з горада — усякага люду, што не хацеў або не меў магчымасці вяртацца дахаты.

Каршукоў з Чабаноўскім жылі ў халоднай старой хаце. Дні для іх цягнуліся бясконца доўга з аднымі і тымі ж абрыдлымі размовамі. Усё гэта было падобна на турму. Абодва пакутавалі ад нясцерпнага суму. Каршукова цягнула да Ядвісі, але з таго часу, як разам з ім пасяліўся Чабаноўскі, Станіслаў Цітавіч стараўся стрымліваццa ў сваіх пачуццях. Ядвіся злавала на Чабаноўскага: хоць бы адлучыўся калі. Мірылася. Далікатна, амаль незаўважна, толькі позіркам ды нібы выпадковым крананнем рукі, лашчыла любімага чалавека.

На хутарах неяк паявіўся пануры лысаваты акружэнец. Асеў у крайняй ад балота хаце, хоць збіраўся ісці кудысьці на Смаленшчыну. Днём акружэнец корпаўся на двары: сек дровы, насіў ваду, рамантаваў паваленыя ветрам плот. Вечарам ішоў да каго-небудзь на пасядзелкі. Гаварыў ён найбольш пра палон, пра здзекі немцаў з палонных. Пасядзеўшы крыху, ішоў дахаты. Такая ж, як і ён, куртатая Вікторыя — удава з фінскай вайны — хвалілася пастаяльцам:

— Не чалавек — золата. Што ўжо работнік, акураціст, дык і слова благога не скажаш.

Пасля вячэры, калі Чабаноўскі з Каршуковым выйшлі на вуліцу і любаваліся яркімі ў цемры зорамі, прыбег Лёнька Выганец, той чорнавалосы сібірак, што ўпрасіў калісьці Ядвісю забраць Чабаноўскага з лагера.

— Не падабаецца мне гэты тып,— пачаў ён, не павітаўшыся.— От не магу яго бачыць, і ўсё тут. Пачне гава-

рыць пра палон, ну, скажы, як з чужых слоў гаворыць. Быццам сам і не быў там ніколі.

— Думаеш, на след напалі? — спытаў Чабаноўскі.

— Чорт яго ведае...

Каршукоў зябка пацёпаў плячыма.

— Пойдзем у хату.— А калі зайшлі і селі ў цемры адзін ля аднаго на сена, сказаў: — Я цяпер у што хочаш паверу. Подласці чалавечай няма межаў. Мне б з ім з вока на вока пагаварыць.

— Гэта не падыходзіць,— адрэзаў Чабаноўскі.— Не маглі немцы пра нас пранюхаць. Выпадак.

— А мы за ім панаглядаем,— паабяцаў Выганец.

Дзён пяць было спакойна. Потым зноў прыйшоў Лёнька. Раніцай. Лёг на сена, раскінуў рукі.

— Застукаў я яго, сволача. Сёння ён пад вашай хатай стаяў. Усё да чагосьці прыслухоўваўся.

— А мы ж да позняга не спалі,— сказаў Каршукоў.— Усё рашалі, што далей рабіць.

— Ну, а я хіба не казаў вам? Цяпер давядзецца зматваць вудачкі.

— Без панікі,— спыніў яго Чабаноўскі.— Ён дома яшчэ? Хто сочыць?

— Васіль з Андрэем.

— Ідзі да старасты, няхай затрымае яго і пасадзіць у лазню пры лесе. Мы з ім там і пагаворым.

Выганец выскачыў з хаты, моцна грукнуўшы дзвярыма. Адкінуўшы падушку, Чабаноўскі дастаў парабелум, адабраны ў варожага капітана.

— Першы раз гэтая штучка саслужыць святую службу,— задумліва сказаў ён.

— Думаеш, шпіён?

— Там будзе відаць. Па ўсім — не наш. Пакліч Уладака.

Яшчэ праз паўгадзіны Каршукоў з Чабаноўскім задворкамі сядзібы дабраліся да старэнькай лазні. На варце стаяў Лёнька Выганец.

— Ну як там? — спытаў Чабаноўскі.

— Сядзіць як міленькі. Напалохаўся.

— Табе, Станіслаў Цітавіч, давядзецца пабыць на варце. Мы з Лёнькам правядзём допыт.

— Я з ім пасля пагавару,— паабяцаў Каршукоў.— Дужа мяне цікавіць, што такі чалавек у сваё апраўданне скажа. На мой розум, дык калі ўдалося табе выбрацца ад немцаў — цікай падалей, каб сам чорт не знайшоў...

Чабаноўскі з Лёнькам зайшлі ў прылазнік. Дзверы ў лазню падпёрты яловым колам. Лёнька паставіў кол у кут, адчыніў дзверы. У лазні гусцелі змрокі, трохі прарэджаныя святлом з маленькага акенца.

Акружэнец сядзеў на лавачцы пры палку. З акенца на ягоны твар падала сiняватае ад чыстага, аж блакітнага, снегу святло. Твар акружэнца здаваўся таксама сiняватым.

Убачыўшы Чабаноўскага і Лёньку, акружэнец злосна зыркнуў вачамі.

— Вы што, пашалелі? — накінуўся ён на Чабаноўскага і Лёньку.— Чаму мяне ў гэтую блыхарню пасадзілі?..

— Не мы, а стараста,— сказаў Лёнька.

— Не дуры галаву, быццам я не разумею, што вы мяне ў чымсьці западозрылі. Кажыце, у чым?..

— А ты сам скажы, адкуль і для чаго сюды прыдыбаў? — адказаў Лёнька.— Хто цябе паслаў і з якой мэтай?

— Вунь яно што,— акружэнец ускочыў, замахаў рукамі.— Сволачы, вы ўжо зусім звар'яцелі ад страху перад немцамі. Кожнага гатовы за правакатара палічыць. З лагера ўцёк, думаў, скончыліся пакуты, аж дзе там, свае гатовы пад шыбеніцу падвесці. Хаваецеся тут, як пацукі, замест таго каб з ворагам ваяваць. Смелыя дужа, схапілі чалавека і нізавошта гатовы яго немцам аддаць. Ну, вядзіце да іх, вядзіце, хай яны мяне павесяць. Хай! Вам што, смялей жыць будзе?..

Чабаноўскі не зводзіў з яго ўважлівых вачэй.

— Ну, вось што, хопіць маскараду,— нечакана і груба прагучаў голас Чабаноўскага.— Кажы, сволач, паспеў данесці?..

— Не...

Лёнька ашалела глядзеў на яго. Значыць, праўда. Значыць, ён шпік, здраднік!..

— Пра што вы? Я нічога не ведаю...— залепятаў затрыманы. У яго раптам перасмяглі вусны, а твар стаў шэры.

— Ты, друг, не фінці,— прыйшоў на дапамогу Чабаноўскаму Выганец.— У цябе яшчэ ёсць шанец на жыццё. Дык бяры яго, пакуль просіцца ў рукі. Ясна?

Акружэнец гэты, ці ліха ведае хто, раптам стаў абыякавы і спакойны. Ён неахвотна зірнуў на Лёньку, паморшчыўся.

— У мяне шанцаў няма. Хіба вы паверыце? Чорт з ва-

мі, расстрэльвайце. Лепей ужо ад сваіх загінуць, чым ад немцаў.

— Ды зразумей ты, дурная башка,— гаварыў Чабаноўскі,— што ты нам зусім не страшны. Мы сёння ж уходзім з Забалоцця. А толькі людзі чаму за нас адказваць павінны? Ты ж разумееш, што людзі пра нас нічога не ведалі, як і пра цябе. Ну, давай шчыра гаварыць. Мы, усе, каго бачыш, і яшчэ чацвёра з лагера ўцяклі. Думалі сваіх дачакацца. А цяпер з-за цябе трэба ў свет як у капейку ісці.

— Я вам нічога не зрабіў...

— Ды кажы — данёс на нас ці не...

— Не даносіў я.

— А калі павінен данесці?..

— Ды што вы, не шпіён я. Няўжо ў вас вочы павылазілі, свайго ад шпіёна не адрозніце?

У допыце настаў той крытычны момант, які часта здараецца ў юрыдычнай практыцы, калі ў следчага няма верных доказаў. Следчы раптам пачынае верыць чалавеку пад следствам.

— Чаму ж ты падслухоўваў? — спытаўся Чабаноўскі, раптам засумняваўшыся ў сваім падазрэнні.

— Вунь яно што.— Акружэнец як бы скінуў з плячэй цяжар, плюхнуўся на лаўку.— А я думаў... Ну і чэрці, ліха матары вас!.. Думаю, праваліў заданне... З цэнтра я. Па арганізацыі партызанскай барацьбы прыляцеў. Мальцаў маё прозвішча... Я — не адзін. Нас група. У кожнага свая зона... Ну, ды цяпер не пра гэта. У нас загад — ствараць партызанскія групы, выводзіць у лес. Усенародную вайну супраць акупантаў трэба ўзнімаць, каб зямля наша гарэла пад нагамі акупантаў...

— Што ж вы адразу не сказалі,— памякчэў Чабаноўскі.

— Нас вучылі дзесяць разоў праверыць, а адзін раз паверыць,— сказаў Мальцаў, канчаткова заваёўваючы давер і Чабаноўскага і Лёнькі.— Я ўжо ведаю, што ў вас ёсць свая арганізацыя. Хто старшы? Вы?

— Ёсць і старшы,— адказаў Чабаноўскі.— Пайшлі...

Ён прапусціў паперадзе сябе Мальцава. Той выйшаў з лазні, спыніўся на імгненне як укопаны і раптам сігануў убок, пабег укосікі к лесу.

— Трымай яго,— крыкнуў Каршукоў і таксама пабег цяжкім задыхлівым трушком.

Чабаноўскі сагнуў левую руку ў локці, паклаў на яе даўгаватую рулю парабелума, злавіў на мушку яркую на

белым снезе постаць уцекача, плаўна націснуў на курок. Стрэл прагучаў амаль нячутна, але ўцякач спатыкнуўся, потырч паляцеў у снег, падхапіўся і зноў пабег, адплёўваючыся ярка-чырвонымі плямамі ўздоўж пяроўнага ланцужка слядоў.

Каршукоў дагнаў яго, з ходу секануў па спіне цесна сплеценымі кулакамі. Мальцаў паваліўся. Каршукоў перавярнуў яго на спіну.

— Ну што, Сухарэўскі, перасекліся нашы сцежкі-дарожкі? — сказаў ён.

Гадзіны праз дзве Каршукоў з Чабаноўскім вярнуліся ў Забалоцце. Каршукоў выцер рукавом узапрэлы лоб, ссунуў на патыліцу шапку.

— Ах, чорт,— з прыкрасцю сказаў ён,— галоўнага я так і не дазнаўся. Ну чым ён кіраваўся, што на душы ў яго было, калі ішоў на подласць?

— Нічога ў яго не было на душы. Пуста. Такіх заўсёды і на любую подласць можна скіраваць.

— А мне ўсё думаецца, што чымсьці ён быў незадаволены, ну і помсціць.

— Глупства, Станіслаў Цітавіч, глупства. Каб у нас адны незадаволеныя ішлі да немцаў на службу — не бяда. Шмат і такіх, што пры любой уладзе любяць наверх узбірацца. І лезуць... па трупах.— Ён раптам рэзка памяняў кірунак гаворкі.— Трэба нам развітвацца з гасціннай вёскай. Думаю, Сухарэўскі гэты важная птушка ў немцаў. Хопяцца яны яго хутка. Тады і наляцяць. А мы бой не здолеем прыняць. Не гатовы.

— Яно так, але куды дзенешся. Лясы тут наскрозь хаджаныя. Пажывём тыдзень, памяркуем.

За вокнамі старой хаты падвываў у застрэшшы сцюдзёны на мароз вецер.

**27**

Шавец прыжыўся ў Міхасёвай хаце. Знайшлася для яго і работа: спачатку для гаспадароў, потым і для суседзяў. Шаўцоў не было, а Карл Эрнставіч браў невялікую плату.

Зрэдку шавец адлучаўся з дому. Прападаў дзень-два, потым паяўляўся нечакана і, нібы выходзіў з хаты на хвілінку, моўчкі браўся за работу.

Міхась спачатку прыглядаўся да шаўца, чакаючы нейкай з ім прыгоды, потым перастаў звяртаць увагу. Чала-

век як чалавек. Абыякавы нейкі, нават цельпукаваты і, мабыць, недалёкі.

Маці часам жартавала:

— Ажэнім цябе, Карла, паглядзіш, ажэнім. Удоў цяпер хапае.

Шавец сарамліва ўсміхаўся, не падымаючы ад калодак галавы, прасіўся:

— Пачакайце, гаспадынька, крыху падзараблю, тады ўжо будзем думаць пра вяселле.

Міхась, як толькі пачыналася размова аб Карлавай жаніцьбе, уцякаў з хаты. Абураўся: з такімі, як шавец, немца не выганіш.

Па вёсцы паўзла няпэўная пагудка пра іх начны паход з бомбай. Міхась хваляваўся, злаваў: хто ж прагаварыўся? Хлопцы кляліся, што не яны. Тайны раскрываліся самі сабой. Гэта абурала Міхася. Спачатку. Потым ён спалохаўся не на жарт.

Аднойчы, калі маці кудысьці выйшла, а Міхась застаўся з Карлам Эрнставічам, той адклаў малаток, апёк хлопца нечаканым пытаннем:

— А вінтовачкі, малады чалавек, навошта трымаеш?

Міхась пабялеў, зайшоўся ад страху.

— Якія вінтоўкі? Ніякіх вінтовак не бачыў.— Ён хлусіў і адчуваў, што выдае сябе разгубленасцю, няўпэўненым і нейкім дрыготкім голасам.

— А тыя, што ў прылазніку, пад падлогай, хіба не твае? Я, хлопец, шмат знаю. І тое, як вы мост узарвалі. Розум у вас кароткі, а язык доўгі. Балбочаце залішне. А час цяпер такі, што дапытвацца надта не стануць.

Шавец прыбіваў драўлянымі цвікамі падэшву, а Міхасю здавалася, што гэтыя цвікі ён бязлітасна заганяе ў яго сэрца. Шалёная думка была мільганула ў Міхася — цюкнуць шаўца табурэткай па галаве — і канцы ў ваду.

Карл Эрнставіч узняў шэра-блакітныя пажвавелыя вочы, усміхнуўся прыхільна, па-сяброўску:

— Ды ты не палохайся, хлопча. Добра, што я дазнаўся, а не немцы. Мне напляваць, што ты хаваеш. Маці тваю шкада. Ты от кідай гэтую важданіну з хлопцамі і вінтоўкі далей схавай, ды і забудзем на непрыемную размову. Я, брат, тайны хаваць умею, не турбуйся. Ды і табе раю лішняга не балбатаць. З дзеўкамі пра любоў гавары, а не пра палітыку. Ясна?

«Нюрка прагаварылася,— злосна падумаў Міхась.—

Шчасце маё, што чалавек харошы трапіўся, а каб шпік які...» Зрабілася холадна ад такой думкі.

— Дзякуй вам, Карл Эрнставіч,— сказаў Міхась і тут жа аблаяў сябе: выходзіць, усё ж прызнаўся, што вінтоўкі яго і мост узарваў ён. Збянтэжыўся, не ведаў, што сказаць яшчэ, як выкруціцца з няёмкага становішча.

— Толькі маці не кажыце...— папрасіў шаўца.

— Навошта ж ёй казаць? Мы па-мужчынску самі ўсё вырашылі. Можа, і пасябруем па-мужчынску. Ты як на гэта глядзіш?

Міхась быў згодзен на ўсё.

З таго прыкрага дня Міхася не пакідала адчуванне, што ён трапіў у нейкую хітра расстаўленую пастку. Нешта павінна было здарыцца і не здаралася. Няроўная, дзіўная дружба прыгнятала яго. Але шавец выглядаў абыякавым, быццам забыўся на тую размову. Толькі дапытлівы, быстры позірк наста́леных вачэй гаварыў пра тое, што нічога не забылася.

Некалькі дзён Міхась хадзіў як учадзелы. І тады, калі наступіў нарэшце спакой, шавец зноў звярнуўся да яго.

Было гэта пад вечар. Яны пілавалі дровы. На захадзе, як на мароз, выяснівала неба, і халодны, пранізлівы вецер апякаў голыя рукі. Працавалі ўвішна, каб сагрэцца. Было не да размоў. Міхась думаў, як пойдзе сёння да Нюры, як будуць яны ляжаць абняўшыся, і раптам адчуў, што гаварыць ім цяпер няма пра што.

Шавец, нібы ўгадаўшы яго думкі, запытаўся:

— Можа, Міша, саслужыш мне адну службу? Па старой дружбе. Тавар мне патрэбны, а ў горад часу няма ісці.

— Чаму ж, схаджу,— адказаў Міхась.

— Тут, разумееш, закавыка адна ёсць. Тавар, сам знаеш, крадзены. А што, калі немцы зловяць?

Міхась задумаўся. Што шавец аказаўся звычайным злодзеем, Міхася ўзрадавала. Баяцца яго не варта. Дасюль хлопца тачыла неадступная думка: шавец працуе на немцаў і калі не даносіць на Міхася, дык, напэўна, мае нейкае іншае заданне.

Міхась падумаў, што службу ён шаўцу саслужыць адзін раз, як кажуць, баш за баш — паслуга за паслугу.

— Трэба, каб не злавілі,— адказаў ён.

— Гэта найлепш...

Размова абарвалася, хоць Міхасю не цярпелася хутчэй даведацца, да каго трэба ісці за тым таварам і чаму шавец выпраўляе яго. Хадзіў жа раней сам.

— Перакурым, можа? — запытаўся шавец і, не чакаючы Міхасёвай згоды, сеў на калоду.

Ён падаў Міхасю цыгарэту, трымаючы ў жменьцы кволы аганёк запалкі, даў прыкурыць.

— А дзе ж цяпер Тышкевіч? — спытаў ён.

Міхась ледзь не адхіснуўся ад паслужліва паднесеных рук. «Гэта ўжо матчына работа,— прамільгнула думка.— Добра, што яна большага не ведае».

Прыкурыў, узняў галаву. Шавец прыкурваў сам з абыякавым выглядам, быццам не ён, а нехта іншы задаваў каварнае пытанне.

— Вы пра Івана Анісімавіча? Казаў, што за фронт пойдзе. А чаму вы запыталіся? — Ён стараўся быць спакойным, і гэта яму, мабыць, удавалася.

— Маці казала, што ён харошы чалавек... Ну, давай яшчэ папрацуем.

Назаўтра Міхась пайшоў у горад. Шавец доўга, цярпліва тлумачыў, дзе знайсці яго друга, што сказаць. Чамусьці прымусіў паўтарыць, што ён будзе гаварыць, і толькі тады выцягнуў пачак нямецкіх марак.

— Купіш, хлопча, цыгарэт, а калі спірту расстараешся — зусім добра. Шаўцы, брат, любяць выпіць,— і падміргнуў.

Горад здаўся Міхасю больш людным, чым тады, калі ездзіў з Дзялендзікам на нараду. На кожным кроку сустракаліся немцы. Толькі яны, здаецца, нікуды не спяшаліся, цывільныя ж хадзілі подбегам і чамусьці азіраючыся. На Міхася ніхто не звяртаў увагі.

Шаўца, да якога ішоў за таварам, Міхась знайшоў не адразу. Сяк-так злепленая з паржавелых лістоў бляхі і дошак маленькая будачка ўціснулася між руін на скрыжаванні дзвюх вуліц і вузенькага, загрувашчанага цэглай завулка.

Нізкі непрыкметны чалавечак з акулярамі на лбе абыякава зірнуў на Міхася і чамусьці ссунуў акуляры на нос.

— Што скажаце, малады чалавек?

Міхась сумеўся: было нязручна вось так адразу расчынаць гаворку пра хром, падэшвы, усцілкі. Але, добра памятаючы наказ кватаранта, адважыўся:

— Карл Эрнставіч, ваш знаёмы, прасіў даведацца наконт хрому. Можа, дасталі? Ён вельмі чакае, бо работы ў яго шмат.

Шавец уссунуў акуляры на лоб, недаўменна ўставіўся на Міхася. як баран на новыя вароты. Хлопцу здалося, што

ён, Міхась, усё пераблытаў і, бадай, трапіў да кагосьці другога, які нічога не ведае пра Карла Эрнставіча.

— Значыць, ад Карла Эрнставіча? Як ён там, стары хрэн, пажывае? Плаціць мне не збіраўся?

Усё было так, як казаў Карл Эрнставіч. Міхасю пачала падабацца гэтая гульня ў таямнічасць. Забыў нават, што гэта звычайная махінацыя. Уяўлялася нешта ўзвышанае, гераічнае.

— Казаў, што праз тры дні заплаціць.

— Ты, хлопча, зайдзі праз паўгадзінкі, а я тым часам тавар падрыхтую. Схадзі на базар, бо па вуліцах шпацыраваць небяспечна: аблавы бываюць.

Праз паўгадзіны, купіўшы цыгарэт і спірту, Міхась зноў увайшоў у цесную шавецкую будачку. На высокім услоне сядзеў мажны афіцэр у высокай шапцы, курыў цыгарэту. Шавец увішна чысціў боты.

— Яшчэ не зрабіў,— злосна сказаў ён.— Пагуляй хвілін пятнаццаць... Прашу, пан афіцэр, другую нагу. Божа, які тавар на вашых ботах!..

Шавец прыцмокнуў языком. Заўважыўшы, што Міхась усё яшчэ стаіць, узлаваўся:

— Чаго тырчыш! Сказаў, што зраблю, дык зраблю. Паноў афіцэраў мы абслугоўваем без чаргі.

Міхась адчуў сябе абражаным. Падумаеш, афіцэры! Мог бы ветліва сказаць...

Пачакаў на вуліцы, пакуль афіцэру чысцілі боты. Вяртацца ў будку не хацелася. «У апошні раз я сюды прыходжу»,— думаў ён, стоячы пад халодным пранізлівым ветрам.

Афіцэр неўзабаве выйшаў. Паволі прайшоў ля Міхася, змерыўшы яго ўважлівым, пільным позіркам, і ўсміхнуўся, як здалося Міхасю, пагардлівай усмешкай.

Шавец сустрэў яго ўзрадавана: «Маладзец! Я баяўся, што ты з парога ляпнеш пра тавар». Ён дастаў аднекуль з-пад сядзення скрутак, перавязаны шпагатам.

— Перадасі яго Карлу і скажы, каб хутчэй дасылаў плату, а то наш снабжэнец раззлуецца і паедзе. А вось гэтыя тры цыгары — мой падарунак. Занясі іх абавязкова, ды глядзі не скуры па дарозе.— Ён пагразіў пальцам, заўсміхаўся. Было не зразумець, жартуе шавец ці ўсур'ёз папярэджвае. Калі ўсур'ёз, дык варта пакрыўдзіцца — Міхась на чужое не сквапны.— Ну, дык чакаю цябе праз чатыры дні. Перадавай прывітанне, скажы, што я адчуваю сябе добра, доктар кажа, што трывожыцца ўжо не варта.

Ён доўга ціснуў руку, як даўні шчыры сябар. Міхась, абласканы яго словамі, поціскам рукі і сяброўскім позіркам, па-дзіцячы радасны пайшоў дамоў. Што ні кажы, а таямнічасць захапляла яго, хоць яна і падобна на нейкую смешную гульню.

На выхадзе з горада, перад Дзюндзеўскім полем, Міхася абагналі дзве машыны. Ён спалохана саступіў з дарогі: у кузавах поўна жанчын і дзяцей, а ля бартоў зялёныя постаці палявых жандараў з аўтаматамі напагатове. Машыны пранесліся, як вецер, пакінуўшы ў Міхасёвых вушах нямы крык. Яму здалося, што адтуль, з кузава, нехта роспачліва крыкнуў: «Прашчайце!» — і Міхась зразумеў усё. Стаяў у гразі, не маючы сіл ісці. Баяўся ўбачыць, як будуць расстрэльваць людзей, баяўся і яшчэ чагосьці, можа, таго, што і яго схопяць і таксама заб'юць.

Ён крута звярнуў на Дзюндзеўскае поле, паспешліва шыбаваў па ім, каб абмінуць страшны Ілаўскі роў. На Білеўскай гары азірнуўся. Далёка, там, дзе роў злучаўся з глыбокай цяснінай рэчкі, стаялі машыны. Людзей не было відаць. Ён прыслухаўся і, хоць чакаў стрэлаў, здрыгануўся, калі раптам пачуў далёкую, прыглушаную ветрам траскатню аўтаматаў.

І чамусьці адразу, як самае дарагое з мінулага, прыгадаўся першы год яго жыцця ў горадзе. Хатка з трыма вокнамі на вуліцу і яго, Міхасёў, цёмны пакойчык, дзе ён спаў пад адной коўдрай з гаспадарскім сынам Мэерам, галавастым маўклівым хлопцам, які вечна майстраваў прыёмнікі і перадатчыкі да позняй ночы. Потым, падлазячы пад коўдру, ён зморана казаў Міхасю:

— Ты, Мішка, соня. Праспіш калі-небудзь сусветную рэвалюцыю...— і засынаў як забіты.

А ранічкай бег у яўрэйскую школу на тым баку ракі, перад гэтым абавязкова будзіў Міхася, баючыся, што ён праспіць урокі.

Яшчэ прыгадаў стройную, з капой цёмна-медных курчавых валасоў Бэлу, па-гарадскому баявітую і гарэзлівую. Яна жыла насупраць стараверскіх могілак, густа зарослых кашкай, акацыямі і старымі бярозамі. З Бэлай ён аблазіў усе скляпенні, пабываў у цёмнай, змрочнай капліцы, пад купалам якой было поўна кажаноў, у закінутай вадакачцы, дзе вадзіліся галубы, і ў стараверскай царкве, дзе са сцен на іх пазіралі строга посныя вочы святых і ўгоднікаў. Там, у гэтай царкве, аднаго разу Бэла, спалохаўшыся чагосьці, прытулілася да яго гнуткім трапяткім целам. Ён,

ратуючы Бэлу ад нейкай нябачнай небяспекі, абняў яе за плечы, і тады нечакана проста яна пацалавала яго; чорная ікона, старэнькае панікадзіла, царскія вароты і вузенькі промнік сонца — усё раптам знікла. Перад яго вачамі, блізка-блізка, былі яе чорныя вочы, ледзь прыкрытыя доўгімі вейкамі. Адно імгненне толькі, а потым вейкі ўздрыгнулі, у зрэнках успыхнуў страх, і яе рукі адштурхнулі яго. Было сорамна і соладка. У звонкай цішыні гулка білася сэрца.

Назад яны вярталіся сарамлівыя. Не размаўлялі, бо штосьці перашкаджала вымаўляць звычайныя словы.

А на высокім ганку стаяла ўжо Бэліна маці, трымаючы пад фартухом сашчэпленыя рукі.

— Ой, Міша, хай ты здаровы будзеш, як ты ёй не даеш часу рыхтаваць урокі.— І калі Бэла прабягала міма, штурхнула ў плечы, але не злосна, а так, дзеля парадку.

Міхасю здалося, што ў першай машыне ён убачыў Бэліну маці, і цяпер ужо выразна чуў яе апошні, развітальны крык. Яна, мабыць, пазнала яго. «Што яна падумала пра мяне? Што думаюць у такія хвіліны людзі? Што можа думаць чалавек пра таго, хто нічога не робіць, каб загарадзіць дарогу смерці?»

Міхасю захацелася кінуць скрутак са скурай, цыгары, цыгарэты, спірт — увесь набытак, што ён цягнуў у дом. Яго жыццёвыя турботы і клопаты цяпер выглядалі нікчэмнымі перад гэтым прывідам чужой смерці. Да д'ябла ўсё! На чорта жыць чалавеку, калі ён бездапаможны, як чарвяк?!

Машыны хутка ішлі ў горад. Жандары стаялі ля борта. Міхась бачыў аўтаматы на іх і нагрудныя бляшаныя жэтоны. На жэтонах, Міхась гэта ведаў, драпежныя арлы...

Ён пайшоў малаходжанай сцежкай, несучы невымоўны боль у грудзях, смутак, жаласць да сябе і людзей і зноб-кую, бездапаможную ярасць.

Дома яго чакаў шавец. Міхась убачыў абыякавы яго твар, што прыліп да шыбы, рашуча зайшоў у хату. Без слоў кінуў на лаўку скрутак, паклаў на стол цыгары, цыгарэты, запалкі, паставіў пляшку са спіртам, па-вучнаму павярнуўшы галаву, працяў шаўца зняважлівым позіркам.

— Што здарылася, Міша? — спакойна запытаў той.

Міхася ўзарвала. Ах, гніда праклятая, яшчэ пытае!.. Не стрымаўся, закрычаў:

— А тое, што подла, подла...

— Што подла?

— Жыць, піць спірт, курыць цыгары, красці скуру. Людзі галовы кладуць... Фашысты малых дзяцей страляюць. Дзве машыны людзей... жанок, старых, маладых — усіх падрад... А тут з-за праклятых скур, цыгарэт трэба рызыкаваць... Подла гэта...

Карл Эрнставіч наліў шклянку спірту, разбавіў вадой, падаў Міхасю.

— Узвінціў ты сябе... Выпі! Бяры, бяры! Гэта праходзіць. Усё, брат, праходзіць.

Міхась выпіў. Спірт апаліў грудзі, млявая цеплыня разлілася па целе. Зрабілася шкада сябе. Абуджаная хмелем чуллівасць і жаласць не месціліся ў грудзях.

— Наша пакаленне,— пачаў ён, адчуваючы, што скажа нешта важнае,— наша пакаленне не можа так жыць. Яно не згодна. Вы разумееце гэта? Не, вам не зразумець. Вы не такія, як мы. Мы жылі марай і подзвігам. А хто мы цяпер? Мы як параненыя і сляпыя. Але мы ўсё разумеем. Думаеце, лёгка, калі табе ломяць душу? Вы не ўсміхайцеся. Хто будзе лячыць тых, што бачылі, як паміраюць людзі? Ці, можа, нікому няма да нас справы? Добра. Што ж будзе з намі? Думаеце, мы змірымся? Станем абыякавыя? Не, мы лепей загінем...

Карл Эрнставіч перапыніў яго:

— Мой друг Аркадзь, не гавары прыгожа...

Спакойны голас шаўца і гэтае вядомае з падручнікаў выслоўе, як вядро халоднай вады, астудзілі Міхася. Ён адчуў, што і праўда гаварыў залішне прыгожа, але не сказаў і сотай долі таго, што было ў яго на сэрцы. Ды, зрэшты, перад кім ён выварочваў сваю душу? Хто можа зразумець боль у чалавечым сэрцы? І хто паможа супакоіць яго? Ніхто...

Міхась прысеў на лаўку, адчуваючы неверагодную стомленасць. Хапіла сілы толькі на тое, каб сказаць шаўцу:

— А ў горад я болей не пайду.

— Як хочаш,— абыякава азваўся шавец.

Ён узяў цыгары, пайшоў у свой закутак і там пачаў крышыць іх, змешваць цыгарны тытунь з дробным цыгарэтным.

Міхась выйшаў на двор. Перадвячэрняя вёска, як і заўсёды, жыла па-свойму. Рыпелі над калодзежамі жураўлі, недзе ў Мартысёнкавых пілавалі дровы, і звон пілы далятаў сюды. А на тым баку вёскі, з Кулінінай хаты, выходзілі на вуліцу хлопцы з дзяўчатамі, і, мабыць, Лёшка Лям-

за іграў на гармоніку. Кволая мелодыя старадаўняга вальса «Бярозка» была падобна на хаўтурны марш. Яна балюча адгукалася ў Міхасёвай душы.

Ён стаяў і слухаў гэты знобкі боль і чамусьці радаваўся, што адчувае яго.

Перад прыцемкамі на захадзе высвятлілася неба, ярка разгаралася барвовымі сполахамі. Толькі над галавой і аж да самага далягляду на паўночны ўсход вісела чорна-бурая хмара.

Зямля гатова была заснуць на зіму. Лёгкія рэдкія сняжынкі ўжо мітусіліся ў астылым паветры. А на маленькіх крыштальных лужынках увачавідкі паяўляліся танюсенькія блакітнаватыя марозныя стрэлкі. Цвярдзела зямля пад нагамі, калянымі, нежывымі станавіліся кволыя травінкі, што ўсё яшчэ цягнуліся, шукаючы сонца. І нястомна дзьмуў калючы вецер.

Міхась адчуваў гэтае дыханне зімы, і боль душы не сціхаў пад яе павевамі, а станавіўся ўсё мацнейшы. І думалася самотна, і хацелася перамагаць самоту.

Ён пастаяў яшчэ крыху. Успомніў, як цвіў чабор на ўскрайку лесу, ля Рассек, дзе ляжалі забітыя карнікамі людзі. «Жывое будзе вечна існаваць. Фашыстам яго не знішчыць. Такі закон»,— падумаў ён і вярнуўся ў хату.

Вячэралі пры цьмяным святле газніцы. Зрэдку перакідваліся пустым словам. Потым маці пачала слаць пасцелі.

— Можа, пройдземся, Міша? — запытаўся шавец.— Спаць нешта не хочацца, а работу ніколі не пераробіш.

Яны выйшлі на двор. У чорнай вышыні ўпершыню за восень ярка блішчалі зоркі. У гэтым бясконцым сусвеце Міхась раптам адчуў сябе маленькім, як пясчынка, але не слабым, а моцным сваім розумам, які памагае яму ахапіць гэты неаглядны сусвет.

— Пройдземся, Міша, да лесу,— сказаў шавец.

— А можа, лепей па полі?..

— І полем пройдземся. Люблю цішыню...

Ішлі і абодва маўчалі. Пад нагамі шамацела трава, прыхвачаная марозам. А недзе ў вёсцы чуліся галасы. У марозным паветры галасы звонкія, выразныя.

За хутарам Сцепуржынскага, ад якога застаўся толькі садок, Карл Эрнставіч звярнуў направа, у глыбокі роў. Міхась заўважыў гэта толькі тады, калі яны пачалі спускацца пад адхон.

— Там глуха і цёмна,— сказаў ён.

— Не бойся, пойдзем.

Міхасю было ўсё роўна, абы ісці. Яны спусціліся ў роў, прайшліся над ручаём па вузкай сцежцы, атуленай кустамі, потым пачалі падымацца ўгору, хапаючыся рукамі за халодныя галіны. Міхась здагадаўся, што яны прабіраюцца да старой смалярні Сцепуржынскага.

— Ну вось і прыйшлі,— ціха сказаў шавец.— Ты пастой тут, я зараз.

Карл Эрнставіч знік у цемры. Потым ён паявіўся з чымсьці вялікім у руцэ.

— Узлезь, Міша, на гэту вось елку,— папрасіў ён.

Міхась ускарабкаўся. Шавец падаў яму канец дроту, папрасіў ускінуць на сук дзе-небудзь вышэй. Калі Міхась злез, шавец ужо сядзеў у руінах смалярні, нешта рабіў. Потым успыхнулі зялёны і чырвоны агеньчыкі, як два рознакаляровыя вочкі, і белы, пад брыльком, які скіроўваў святло ўніз.

— Садзіся, Міша, паслухаем Маскву.

Міхась, анямелы ад здзіўлення, ціха прысеў на кукішкі. Усё было так нечакана, дзіўна, як у сне. Але ў прыцемку ўжо суха патрэсквалі разрады. Міхась прыклаў навушнік і адразу пачуў знаёмы голас:

— Говорит Москва. Передаем последние известия.

Словы балюча і радасна адгукнуліся ў сэрцы. Масква! Усё як да вайны! Дыктар трохі самотным голасам гаварыў пра баі. А можа, гэта толькі здалося, што голас быў самотны.

Слухалі моўчкі. Потым моўчкі Карл Эрнставіч забраў навушнік, перавёў нейкія рычагі, доўга настройваўся, выхапіў блакнот і пачаў нешта пісаць.

Міхась сядзеў, зачараваны яго спакойнымі ўпэўненымі рухамі, зялёным і чырвоным вочкамі, што паблісквалі ў цемры, трэскам разрадаў, таямнічасцю, незвычайнасцю ўсяго, сведкам чаго ён стаў.

Карл Эрнставіч нешта перадаваў, увішна працуючы радыёключом, утаропіўшы вочы ў папяросную паперку.

— Уключыце яшчэ Маскву,— папрасіў Міхась.

Карл Эрнставіч паслухаўся. Перадавалі песні, якіх Міхась не чуў, і яны абуджалі ў ім сілу.

— Хопіць, брат, трэба ісці,— сказаў Карл Эрнставіч і забраў навушнік.

## 28

З Вялікай зямлі прыляцелі два парашутысты. Дзьмуў моцны вецер, і парашутысты прызямліліся далёка адзін ад аднаго. Карл Эрнставіч і Міхась ледзьве знайшлі іх.

У Кавалі вярнуліся на досвітку. Выпілі па чарцы разбаўленага спірту, сядзелі ўпоцемках. Карл Эрнставіч шэптам расказваў пра абстаноўку на Падзвінні. Потым слухалі парашутыстаў і радаваліся: Масква стаіць, як стаяла, і нават рыхтуецца да наступлення.

Парашутысты прывезлі загад: Карлу Эрнставічу прадпісвалася перабазіравацца ў горад.

— Яны там што, абстаноўкі не знаюць? — абураўся Ланге.— З рацыяй у горадзе доўга не ўседзіш, а на кожны сеанс выбірацца з горада — лішняя рызыка. Адсюль мне ўсё як на далоні відаць.

— Там таксама нешта думаюць,— сказаў адзін з парашутыстаў.

— Чым думаюць — не знаю, толькі не галовамі. У горадзе не вельмі разгонішся. У эсдэ таксама не дурні сядзяць.

— Наша справа перадаць табе загад, а ты як хочаш. Горад — важны вузел, абстаноўка можа змяніцца нечакана. Ясна?

— Куды больш ясна. А вы таксама ў горад?

— Туды.

— Кватэры гатовы? — запытаў другі.

— Пра гэта не турбуйцеся. Дакументы свае таксама выкіньце — пападзецеся з імі. У мяне на ўсякі выпадак падрыхтаваны няліпавыя.

— То добра.

Раніцай Міхась адвёз парашутыстаў у горад. Немецвартавы доўга круціў пропускі, прапусціў за шлагбаум — бярозавую жэрдку. Міхась высадзіў парашутыстаў на былым сенным пляцы, павярнуў назад.

Карл Эрнставіч чамусьці марудзіў з пераменай кватэры. Міхась не распытваў: навучыўся стрымліваць хлапечую цікаўнасць. Бачыў толькі, што Карл Эрнставіч нервуецца, заўсёды спакойны, развважлівы, ён у апошнія дні страціў раўнавагу, асунуўся, учарнеў.

Аднаго разу Міхась пайшоў у горад. На ўскраіне, дзе некалі быў стадыён, гараджане капалі акопы. У цэнтры, на плошчы, стаялі нямецкія танкі, пафарбаваныя ў белы колер. Салдат як быццам прыбавілася.

Шавецкая будка была на замку. Міхась убачыў гэта здалёк, але на ўсякі выпадак прайшоў міма. Нешта трывожыла яго. Трэба было ісці дамоў. Але вяртацца з пустымі рукамі Міхась не хацеў. Давялося чакаць.

У горадзе ішлі аблавы. Нечакана абкружалі кварталы, аднекуль, як саранча, налятаді паліцэйскія і жандары, хапалі ўсіх, хто трапляў пад рукі.

Першую аблаву Міхась пераседзеў у сутарэнні згарэлага дома. Забіўшыся ў цёмны смярдзючы кут, чуў, як наверсе страляюць з вінтовак, як крычаць, плачуць людзі, як лаюцца паліцэйскія. Потым настала магільная цішыня. Міхась пачакаў крыху, баязліва азіраючыся, вылез наверх. Вуліцу як вымела.

Ісці назад да шавецкай будкі не мела сэнсу. Розум падказваў — вяртайся дамоў. Але было б сорамна сказаць Карлу Эрнставічу, што заданне не выканана.

З гэтага боку будку загароджвала вышчарбленая сцяна. Праз пралом у ёй відаць кавалак вуліцы, замеценай снегам, і чырвоныя камяніцы турэмнага двара. Ля камяніцы паходжваў нейкі тып. Міхась перабег бязлюдную вуліцу, перамагаючы баязлівасць, пайшоў яму насустрач. Дробны непрыкметны твар, насунутая на вочы кепка, а з-пад брылька раптам пільна зыркнулі шэрыя вочы.

Адразу ж адпала ахвота ісці да будкі. Разміналіся на вузкай слізкай сцежцы. Міхасю хацелася азірнуцца, але ён стрымаў сябе. Адчуваючы за спінай чужы насцярожаны позірк, стараўся не збіцца з кроку, не пабегчы. Усё ж не вытрымаў, звярнуў у завулак, адтуль праз руіны зноў выйшаў на галоўную вуліцу. Шавецкая майстэрня цягнула да сябе, як прынада цягне ў пастку лісіцу.

Бязлюдныя было вуліцы зноў ажылі. З сутарэнняў, з руін вылазілі на божы свет людзі. Спяшаліся: вось-вось магла пачацца яшчэ адна аблава.

На людзях Міхась павесялеў. Яшчэ раз рашыў паспытаць шчасця. Звілістай сцежкай, што пракладзена праз руіны, Міхась выйшаў у вузкі завулак Святціцеля Мікалая. Адсюль два кварталы да шавецкай будкі.

Цішыня завулка прыгнятала. Зноў апанавала насцярожанасць, а разам з ёю лез за каўнер ліпучы надакучлівы страх. Абвостраны слых злавіў ззаду таропкія крокі, амаль нячутныя на мяккім снезе. Знаў, што ў такія хвіліны нельга азірацца, але не вытрымаў, павярнуў галаву. За ім, крокаў на пяць, ішла перакладчыца гебітскамісарыята Людміла Герасіменя.

Яна дагнала, прыцішана, усхвалявана сказала:

— Не хадзіце туды. Ідзіце за мной.

Крута павярнуўшыся, яна пайшла наперадзе. Новыя даваенныя галёшы на высокім абцасе пячаталі на снезе два малыя, у рубчык сляды.

«Куды яна вядзе? — думаў Міхась, чакаючы, што недзе за вуглом яго схопяць.— Сігану ў руіны, няхай паспрабуюць злавіць».

Дзяўчына азірнулася, схавалася пад аркай разбуранага дома.

«Тут і схопяць»,— абыякава падумаў Міхась.

Яна была адна. Узяла яго за руку, пацягнула ў глыбіню вялізнага, загрувашчанага цэглай пакоя. Праз вузкі пралом у сцяне яны выбраліся на акуратны дворык, адтуль у руіны Мікольскай царквы.

Пад нагамі гулка трашчала шкло, прысыпанае снегам. Проста над галавой паволі раскачвалася ржавае, пакарэжанае выбухам панікадзіла. Дзяўчына спынілася.

— Слухайце, Ланкевіч, уважліва. Вы павінны зараз жа адправіцца дамоў. Шавец, да якога вы хадзілі, арыштаваны. Перадайце гэта таму, хто вас паслаў сюды. Скажыце, што трэба неадкладна мяняць яўкі. Вы, Ланкевіч, пастарайцеся ў горад не хадзіць. Зразумелі? Перадайце вось гэта. Калі схопяць, пастарайцеся знішчыць... Ясна вам?

Міхась дробненька дрыжаў ад яе слоў. Стрымліваючы агідны ляскат зубоў, запытаўся:

— А як жа майстэрня? Спачатку была замкнёна, а потым адчынена...

Дзяўчына перамянілася ў твары.

— Вы хіба былі там? Чаго ж маўчалі?.. Зараз жа ідзіце дамоў... За вамі сачылі?

— Не ведаю...

— Зусім кепска... Выходзьце праз двор. І не азірайцеся, чорт бы вас пабраў.

Яна падштурхнула яго ў плечы. Міхась баязліва пайшоў. Чакаў нечаканага стрэлу ў спіну.

...Карл Эрнставіч, як здалося Міхасю, выслухаў непрыемныя навіны з зайздросным спакоем. Ні адзін мускул не ўздрыгнуў на яго твары. Не чалавек — крэмень.

Нейк паспакайнеў і Міхась. Можа, і сапраўды не так страшна, як здалося ўчора. Але Ланге нечакана сказаў:

— Сітуацыя, Міша, незайздросная, шчыра скажу. Мне трэба сёння ж перабрацца на новую базу. А ты... табе, Міша, дзякуй. Памог ты нам... вельмі памог.

Ён разгарнуў тонкую паперку, якую перадаў яму Міхась, доўга прыглядаўся да яе, вывучаў. Міхась пакутліва думаў над сваім далейшым лёсам. Было крыўдна. Кожны выкарыстоўвае яго дапамогу і пакідае ў самыя цяжкія хвіліны.

— А вось гэта вельмі цікава... Слухай, Міша, а ты не памятаеш, ці гаварыў Тышкевіч больш падрабязна пра здраду Каршукова.

— Не,— паспяшаўся адказаць Міхась.— А чаму вы пытаецеся?

— Тут, бачыш, якая загадка. Месяц назад знікла група нямецкіх афіцэраў на чале з кіраўніком спецатрада СС. У гестапа гэты выпадак звязваюць з імем Каршукова. Дзіўна, гэта той Каршукоў ці мо хто другі?

Ён задумаўся. А Міхась адчуваў сябе вельмі ніякавата. Не было дзе прыткнуцца ў роднай хаце. Было такое адчуванне, быццам пакідае яго самы блізкі і дарагі чалавек.

Пад вечар Карл Эрнставіч развітаўся з Міхасём. Маці, калі ён адыходзіў, чамусьці заплакала. Выціраючы ражком хусткі вочы, сказала:

— Заходзьце, Карл Эрнставіч, як пацішэе на свеце. Прывыклі мы да вас, і няхай вам шчасліва жывецца. Добры вы чалавек, спакойны...

Міхась, затаіўшы ўсмешку, падумаў: «Каб ты ведала, які ён спакойны, напэўна, была б рада, што кватарант нарэшце пакідае хату».

## 29

На Плёсах па калена снегу. Праз голы бярэзнік добра відаць пахарашэўшая пад снежным покрывам хаціна. Дзверы наросхліст. Тышкевіч ніяк не мог успомніць, зачыніў ён тады дзверы ці не. Калі зачыняў, дык хтосьці тут пабываў.

Асцярожна ў адзін след ішлі палянай. Няяркае сонца адбівала на ёй празрыстыя фіялетавыя цені. Пад нагамі рыпеў снег. На дрэвах ценькалі сініцы. Недзе справа на сасне з сухім верхам стукаў дзяцел.

У хаціне поўна снегу. Накрыж перакрэсленая аконнай рамай, ляжала на падлозе жоўтая сонечная пляма.

Тышкевіч, зайшоўшы ў хаціну, пашукаў за вушаком — пуста. Значыць, нікога не было. А па часе павінны прыйсці або пакінуць аб сабе вестку.

— Заходзьце, хлопцы. Хоць не шыкоўна, але жыць можна.

Высокі Малахоўскі прыгнуўся па парозе нізкіх дзвярэй, ваўкавата азірнуўся.

— Тут я ўсю столь вушанкай вытру.

— Пока снег убрать надо,— адгукнуўся Варачкін.

Ад мінулай начоўкі засталіся дровы, небагата, але сухія. Пакуль Дайка распальваў нізенькую, без коміна, печку, вымелі падлогу, пазатыкалі саломай шчыліны. Дым выядаў вочы, выганяў на двор. Ён сачыўся праз шчыліны, паволі плыў угору, таяў.

Цяпер, сярод аціхлага, як бы соннага лесу, чамусьці зноў прыгадвалася іх дыверсія на чыгунцы. Дорага абышоўся той эшалон. Праз два дні наляцеў на вёсачку карны атрад. Дзесяць чалавек былі схоплены як заложнікі, а хаты спалены. І таму, што сярод заложнікаў не было нікога вінаватага, і таму, што іх напэўна ж расстраляюць, у Тышкевіча ныла сэрца. Ведаў, што выйсця не было, а ўсё роўна пагана на душы.

Ноччу, перамагаючы нечалавечую стому і сон, Тышкевіч пайшоў да Самароса.

На ахмараным небе нёс варту месяц-поўня. Выскокваў з-за ўтульных хмарак, паспешліва перабягаў голае неба і зноў хаваўся ў хмарах.

Тышкевіч трымаўся хмызнякоў. Злаваў на месяц, на хрусткае рыпенне снегу, але ішоў наперад.

Ён быў здзівіўся, што яму адчынілі адразу. Сцепаніда стаяла ў кажуху наапашкі, асветленая месячным святлом. Тышкевіч павітаўся і дзеля прыліку назваў сябе.

— Паклічце Мікіту...

Яна стаяла захіленая ў кажух і дрыжала. Ён адчуў, што нешта здарылася.

— Дзе ён?

— За-абра-а-алі яго-о-о! — Яна загаласіла, і Тышкевіч, баючыся, што іх могуць пачуць, паспешліва ўскочыў у сенцы, зачыніў дзверы. Падштурхваў яе ў хату, прасіў:

— Цішэй вы, цішэй.

У сенцах пахла гноем і кароўей поўсцю. Было цёмна, і Тышкевіч чыркнуў запалку. Знайшоў клямку, адчыніў дзверы.

— Калі забралі?

— З тыдзень назад... Што ж я рабіць буду? Дзетачкі мае любыя...

Сцепаніда заходзілася ад нястрымнага плачу. І Тышкевіч не ведаў, як можна суцешыць яе.

— Не ведаеце, хто выдаў? Мы гэта так не пакінем.

Яна адразу сціхла, быццам захліпнулася слязамі.

— Яны ж тут, у суседзяў, трэцюю ноч сцерагуць.

— Хто?

— Паліцэйскія.— І яна зноў пачала галасіць і, як здалося Тышкевічу, ірваць на сабе вопратку.

«Трэба ўцякаць,— мільганула думка.— Яшчэ раз не пашанцуе».

— Прусава не заходзіла?

— Не-е-е,— крыху памаўчаўшы, адказала Сцепаніда.

«Веляшкоўцы выдалі,— падумаў Тышкевіч.— Яны — сволачы. Ах, як дрэнна выйшла. А на Плёсах людзі. Цёпленькіх узяць могуць...»

Ён заспяшаўся. Адчыніўшы дзверы сенцаў, азірнуўся. Тое ж роўнае, бліскуча сіняе святло залівала снег. Ціха.

Асцярожна зняў карабін, загнаў у патроннік патрон. Хацеў быў шыбануць з сенцаў, як пачуў прыглушаны шэпт Сцепаніды:

— Хлеба ж вазьміце. Можа, галодныя.— Яна совала яму пад паху бохан хлеба.

— Дзякуй... А вы не гаруйце. Пастараемся што-небудзь зрабіць.

Сцепаніда заплакала. Душыла цяпер рыданні. Ён, заціснуўшы пад пахай хлеб, паспешліва нырнуў у цень хаты, пабег.

Ужо ў дарозе Тышкевіч надумаў, што варта зазірнуць у роў, у старыя, так і не абжытыя як след зямлянкі. «Давядзецца зрабіць добры крук, але карысць відавочная — праверу, ці цэлыя яны і ці не можна выкарыстаць іх, калі навісне небяспека над Плёсамі».

Пад раніцу ён спускаўся па строме ў роў метраў за трыста ад зямлянак: асцерагаўся засады. Спачатку пайшоў па ручаі, скаваным лёдам. Лёд звонка трашчаў. Давялося выбрацца на бераг. Але і там крокі не пацішэлі — прыхоплены марозам, снег рыпеў, як у піліпаўку. Тады Тышкевіч лёг і папоўз.

Месячнае святло мякка клалася на снег, друкавала на ім мудрагелістыя ўзоры — адбіткі голых заснулых дрэў. Зямлянкі туліліся ў ценю ялін. Нехта прадбачліва выбраў для іх месца. Тышкевіч паназіраў за зямлянкамі — здаецца, няма нікога. Дастаўшы гранату-лімонку, ён стаў на но-

гі, крадком, выбіраючы гусцейшыя цені, пасунуўся да зямлянак.

— Стой, хто ідзе? — раптам спыніў яго глухі прастуджаны голас.

Тышкевіч паваліўся на зямлю. На ўсялякі выпадак адказаў:

— Свае...

— Іван Анісімавіч!.. Вы як з таго свету... Шчасце, што я дзяжурыў, а то мог бы не пытаючыся на той свет адправіць...

Тышкевіч не пазнаваў голасу. Баяўся стаць на ногі. Чуў, як у зямлянцы адчыніліся дзверы і знаёмы голас Чаротнага пацікавіўся:

— Мяншоў, ты з кім там перагаворы вядзеш?..

— Са мной,— адказаў Тышкевіч і пайшоў да зямлянкі.

## 30

Прусава ніколі не сніла сноў, а тут заваладаў адзін і той жа, нібы збрыдзелая памарач: незнаёмая ўзгоркавая мясціна падпірала свінцова-шэрае неба нянаскімі вастраверхімі хатамі, сагнанымі ў бязладную кучу. Хаты пуставалі, а ёй абавязкова трэба было распытаць дарогу ў Жыжана, і яна аж пакутавала ад страху, што не знойдзе сваю хату, у якой памірае маці. А ўжо насоўвалася ноч і агромністая хмара чорным крылом ахінала палову неба. Вера пабегла па краі стромы, заміраючы ад страху, што сарвецца. Але яна неяк абмінала небяспечныя мясціны, здалося, мінула небяспеку, і раптам пакаўзнулася, папаўзла на дно цясніны, разам з абвалам, які прыціснуў яе мокрай і халоднай зямлёй.

Ад жаху перад уласнай і такой недарэчнай смерцю Прусава прахапілася і яшчэ больш жахнулася: сон як бы не быў сном. Нешта цяжкое мокрае, халоднае душыла яе, заціскаючы рот смярдзючай бляшанай покрыўкай.

Неяк злаўчыўшыся, яна кусанула тое, што заціскала рот,— дыхнула на ўсе грудзі.

— Яна, сука, яшчэ кусаецца,— чалавечым голасам сказаў нехта над яе вухам.— Вазьмі пушку... Падымайся, падла...

Цяпер яна адразу здагадалася, што трапіла ў лапы немцаў ці паліцыі — адзін чорт, канечне,— і перастала супраціўляцца. Але стаць на ногі не пажадала.

Яе звалаклі ўніз па лесвіцы, якую, мабыць, забыўся

прыбраць Самарос. Якая недарэчнасць! Зрэшты, гэта ўжо не мела значэння. Самая недаравальная памылка, што яна засталася нанач. Другая, што моцна заснула, не пачула, як адчынялі дзверы ў хляўчук, як лезлі на вышкі. Каб не спала, яна ім не далася б жывой у рукі. Ды яшчэ двух-трох не далічыліся б нямецкія бобікі. Цяпер кусай локаць. Браўнінг ляжаў у кішэні плюгавага паліцэйскага, гэткага няўклюды, аж брыдка за сваю бездапаможнасць.

Яна стаяла пасярод двара пад парыўным халодным ветрам. Ад холаду ў яе дробна кляцалі зубы. Вера моцна сціскала губы, каб не падумалі, што зубы кляцаюць ад страху. Яна пераконвала сябе, што нічога не баіцца.

Паліцэйскіх было трое: барадаты дзядзька гадоў пад пяцьдзесят, той, што наваліўся на яе і абяззброіў, па ўсім начальнік астатнім дваім; нізенькі, нібы прыдуркаваты мужчына з азяблым сіняватым тварам і крывымі нагамі ў хромавых ботах і дзяцюк з пушком пад носам. Дзяцюк глядзеў на Прусаву перапалоханымі, але і цікаўнымі вачамі.

Як і ўчора, парывамі хлястаў дождж. Нізкія, пашкуматаныя ветрам хмары беглі навыперадкі за недалёкі лес. Недзе, мабыць, на суседнім двары, крычала варона, няйначай папярэджваючы сваіх таварышак пра небяспеку — паліцэйскія смалілі па воронах з вінтовак дзеля забавы, і тыя вельмі хутка здагадаліся, каго трэба асцерагацца. А ў хаце панавалі цішыня і нерухомасць. Дзеці і тыя не выглядалі з вокан.

Прусава спалохалася: няўжо з-за яе парашылі ўсю Самаросаву сям'ю? А ўсё Самарос! Угаварыў яе застацца: «Куды ты нанач гледзячы пойдзеш, ды яшчэ наскрозь мокрая. Пераначуй, а заўтра абое зматаем вудачкі».

Яна адчула, што патрэбна яму, і засталася. На вышках яны прагаварылі да другіх пеўняў. Самарос расказваў пра план разгортвання партызанскай барацьбы, які склаўся ў ягонай галаве, пакуль Самарос ляжаў прыкуты да ложка.

План быў просты. Іхняя група — Тышкевіч, Бандарэнка, Чаротны з сябрамі і яны двое — правядзе мабілізацыю ўсіх мужчын па вёсках, дзе няма паліцыі. За тыдзень можна стварыць атрад чалавек у сто. А з ім ужо разграміць спачатку меншыя, а потым і вялікія паліцэйскія гарнізоны, далучыць людзей да актыўнай барацьбы з акупантамі.

Былі ў гэтым плане прывабныя акалічнасці. Найперш тое, што можна вызваліць даволі вялікі лясны край ад акупацыі, аднавіць у ім савецкую ўладу. Па-другое, мабілізацыя давала магчымасць сем'ям апраўдвацца перад карнікамі, калі яны здолеюць пранікнуць у зону, што іх бацькоў, мужоў, сыноў мабілізавалі, як у армію. Немцы ж дакляравалі, што не чапаюць сем'і чырвонаармейцаў і камандзіраў, бо тыя не самахоць пайшлі на вайну. Па-трэцяе, мабілізацыя можа стаць штуршком для іншых распачаць масавы партызанскі рух.

Слухаць Самароса было вельмі цікава. Галава! І вось цяпер Прусава стаяла перад трыма паліцэйскімі, страшэнна перажываючы за Самароса і ягоных дзяцей. Пра Сцепаніду яна не думала. Сцепаніда — баласт на нагах барацьбіта за волю народа.

— Хто будзеш? — спытаўся барадаты, сцвярджаючы Верыну здагадку, што ён тут за старшага.

— Заблудзілася я... Ноччу наткнулася на гэты двор, зайшла ў хляўчук, а там лесвіца. Рашыла пераначаваць.

— А куды пуць дзержыш? — пацікавіўся плюгавы.

— Да цёткі...

— Пушка твая?..

— Якая пушка?..

— Пісталецік во гэты,— плюгавы дастаў яе браўнінг, падкінуў на далоні.— Падарунак цёткі нясеш?..

— Знайшла я яго...

— Ну і сука! Брэша і не чырванее,— плюгавы падскочыў, неяк незаўважна садануў кулаком пад вока.

Апляўуха рассыпалася ў Верыных вачах снапом розпакаляровых іскраў.

— Цётачка, прызнавайцеся,— заенчыў дзяцюк,— а то мы цябе застрэлім...

— Не так хутка, Міця, не так хутка застрэлім,— супакоіў яго барадаты.— З такіх прыблуд скуру трэба драць і на барабан нацягваць. Яны вунь у Камлях галовы самаахоўцам молатам разбівалі. А хіба тыя самаахоўцы былі вінаватыя ў чым?.. Сука гэтая з іх пароды...

Барадаты скрыгатнуў зубамі. Прусава чакала, што ён аплявушыць яе, мабыць, так бы і было, ды на двор уз'ехала падвода — бястарка, у якой возяць з поля бульбу. Малады франтаваты паліцэйскі ў доўгім модным паліто і наваксаваных ботах лёгка саскочыў з калёс, насмешліва казырнуў плюгаваму:

— Ваша благароддзе, заданне выканана, карэта пада-

дзена,—і, убачыўшы Прусаву, як бы знямеў ад здзіўлення: — Баба!.. І з фарай. Чаму з адной?.. Я табе, мілаха, другую прыстрою...

Ён кашачай хадою набліжаўся да Веры, смеючыся і крыўляючыся, так што Прусава не паверыла ягоным абяцанням падбіць яшчэ адно вока, але ён раптам размахнуўся, Вера пачула дзікі боль, і ўсё пацямнела, нібы настала ноч.

Ачнулася яна ў дарозе.

У галаве гуло. Перад вачамі скакалі чорныя сняжынкі. Яна прыўзняла галаву і вочы ў вочы сустрэлася з Самаросам. Той сядзеў згорбіўшыся, звесіўшы ногі з бястаркі. Яна ляжала ўдоўж на голых дошках. Ногі наскамі ўверх масціліся на заднім борце бястаркі. Яны былі як чужыя — амярцвелі. Вера паспрабавала падкурчыць іх — дзікі боль пранізаў усё цела. Самарос моўчкі пахітаў галавой. Вера крадком пагладзіла Самаросаву руку, якая трымалася за край борта. Рука была цёплая. І гэтая чалавечая цеплыня прыдала Веры сілы. Яна двойчы пазмоўніцку плюснула вейкамі, каб Мікіта ведаў, што яна разумее яго і падзяляе ягоны боль, заклікае да мужнасці.

Іх везлі ў суседні гарадок, былы райцэнтр, дзе меліся турма, паліцыя і палявая жандармерыя.

Калісьці, яшчэ да рэвалюцыі, Самарос быў у гэтым падзвінскім гарадку, падобным на вялікую вёску з царквою, крэпасцю і турмою. Царкву ў канцы дваццатых гадоў закрылі, скінулі крыж з купала, але прымянення будыніне так і не знайшлі. Крэпасць была ператворана ў ільнасклад, які дзейнічаў да самай вайны. Турму на пачатку трыццатых перавялі ў акруговы горад.

Цяпер царква была адноўлена, але з драўляным крыжам на купале. У крэпасці размяшчаўся нямецкі гарнізон. Бесперабойна працавала і турма.

Бястарка з двума арыштаванымі і пяццю паліцэйскімі, чацвёра з якіх ахоўвалі арыштаваных, а пяты кіраваў канём, прагрукатаўшы па бруку кіламетра паўтара, ціха прамінула крапасную браму, спынілася на невялікім пляцы. На пляцы размяшчаліся казарма і дзве будыніны для гарнізонных службаў. Бястарка спынілася перад адной з іх. На ганак адразу выйшаў нейкі нямецкі чын. Ён стаяў, упёршыся кулакамі ў клубы, шырока расставіўшы ногі.

— Хто ёсць такі? — спытаўся ён, не вельмі ўпэўнена валодаючы чужой мовай.

— Пан, то іст партызанен... Бандытан... Пуф-пуф,— чамусьці каверкаючы словы на нямецкі лад, паспешліва гаварыў плюгавы.— Злавілі во... Са зброяй...

— О-о-о, іст зер гут... Очень хорошо.— Чын павярнуўся да дзвярэй і некага гукнуў.

З будыніны выскачылі два аўтаматчыкі, пачалі спіхваць з бястаркі Самароса і Прусаву.

— Ну, вы, паасцярожней — жанчына,— абурыўся Самарос.

— Што ён кажа? — пацікавіўся чын.

— Патрабуе, каб падалікатней з імі абыходзіліся,— угодліва сказаў барадаты.— Пан, цвай цыгарэтан...

— Нікс,— адказаў чын, так і не зразумеўшы, чаму абураўся немалады ўжо бандыт.

Абодва яны — мужчына і жанчына —не былі падобны на тых барадатых зверуг, якіх малявалі на карыкатурах у прапагандысцкіх лістоўках. Чын з цікавасцю глядзеў на іх, пакуль абаіх не ўвапхнулі ў каморку пад лесвіцай.

Калі зачыніліся дзверы, Самарос абапёрся шорсткім падбародкам на сагнутыя ў каленях ногі, сказаў асуджаным голасам:

— Здаецца, амба... пагулялі...

— Як яны пра мяне дазналіся? — спытала Прусава.

— Сутнасць не ў гэтым,— вяла адказаў Самарос.— Дурнавата выйшла. Трэба было ўлічыць факт рэўнасці і хмелю...

— Няўжо Сцепаніда? — толькі цяпер пачала здагадвацца Прусава пра ролю Самаросавай жонкі ў іхнім арышце.

— Дурная баба, што ты хочаш...

— Контра яна была і засталася,— адрэзала Прусава.— А вось ты, Самарос, не разгледзеў яе подленькае нутро. Фактычна сам сабе здрадзіў. Сам сябе здаў ворагу ў рукі.

— Цяпер не час рахавацца...

— Крыўдна...

— Думаеш, мне лёгка?

— Табе горай, як мне. Ты з ёй у адной пасцелі мілаваўся. Як гадзюку на грудзях песціў. У гэтым твая віна, Самарос.

— Віны не чую,— запярэчыў Самарос.— Сам бачыў...

— А жыў...

— Дужа ты разумная... Пра дзяцей забылася?..

— Яны ж не па міласці божай паяўляліся,— падчапіла Прусава.

Самарос ніякавата крактануў, як той качар.

— Любіў яе.

— За што?

— Мабыць, было за што,— ухіліўся ад прамога адказу.

— Не любоў гэта, Самарос,— упэўнена сказала Прусава.

— А што?

— Самцоўская пажадлівасць,— як сякерай з-за пляча секанула Прусава і раптам летуценна сказала: — Любоў — гэта калі прыгожа. Калі ў абаіх адны погляды і справы. Калі за любімым гатоў ісці ў агонь і ваду.

— А ты адкуль ведаеш? — усміхнуўся Самарос.— Кніг начыталася?..

— Не, Мікіта, не з кніг гэта, а адсюль,— яна паклала руку на грудзі.— З душы... Вось ты больш за мяне пражыў, а сапраўднай любві так і не пабачыў. Як сляпы жыў.

— Ты бачыла...

— Бачыла, Мікіта. Я сваю любоў з сабой пранесла і цяпер чую яе. Ты, Мікіта, смерці не бойся. Канечне, хацелася б хоць адным вокам на шчаслівае наша жыццё пасля вайны глянуць, але ты смерці не бойся. Мы сваю справу як умелі зрабілі. Людзі нас не забудуць. Ну, а калі і забудуць, дык што. Усіх не запомніш. Важна сваю справу зрабіць. Мы ж і жывём для тых, хто за намі прыйдзе. Праўда?..

— Кінь ты галасіць,— перапыніў яе Самарос.— Можа, выбавімся неяк...

— Я не галашу... Я думаю... Любіла я цябе, а ты не заўважаў. Так і людзі, можа, і не заўважаць, забудуць...

— Я заўважаў...

— І маўчаў?.. Як жа ты мог?..

Самарос паклаў руку на яе плячо, прытуліў Прусаву да сябе.

— Такая во механіка,— сказаў ён.— Балаўства не хацеў, распусты.

— А я з-за цябе і замужам не пабывала...

— Здурэла...

— Цяпер нас смерць пажэніць...

Самаросу здалося, што Вера трызніць. Ён мацней прыціснуў яе да сябе, прачула сказаў:

— Не смей так гаварыць, не смей...

Яны так і сядзелі, шчыльна прытуліўшыся адно да

аднаго, пакуль не загрукала засаўка на дзвярах. Іх клікалі на допыт.

Усю дарогу ад Лісіных ям Самарос рыхтаваў сябе для допытаў. Ведаў, што не абыдзецца без катаванняў. Баяўся ён не за сябе, за Прусаву. Ці вытрымае яна здзекі? Як перанясе катаванні? Калі па іх прыйшлі, Самарос найперш падумаў пра Веру цяпер з асабліва вострым болем. Узрадаваўся таму, што на допыт іх павялі разам. У цёмным калідоры ён знайшоў яе руку, пацікнуў, заклікаючы да мужнасці. Яна шапнула: «Я не баюся».

Іх прывялі ў вялізны пакой з канцылярскім сталом і драўлянымі венскімі крэсламі каля сцяны. За сталом — следчы. Хто ж яшчэ! На крэслах нейкія ваенныя і цывільныя.

— Прозвішча, імя, імя па бацьку? — як толькі яны зайшлі ў пакой, спытаўся следчы.

— Навошта? — Самарос пастараўся адвесці пытанне ад Веры.

— Так паложана. У вашых следчых органах допыт пачыналі такім жа чынам,— усміхнуўся следчы.

— У нашых органах найперш прапаноўвалі сесці,— сказаў Самарос.

— Не заўсёды, пан Самарос, не заўсёды. Мы не збіраемся вас доўга затрымліваць...

У Самароса прабліснула нейкая надзея.

— Прозвішча маё — Самарос,— сказаў ён, думаючы, што хавацца няма чаго, бо паліцыя даклала, хто ён і адкуль.— Імя — Мікіта, па бацьку — Лявонавіч, дзевяцьсот другога года нараджэння, ураджэнец Падзвінскай акругі, старшыня Жыжанскага сельсавета. Усё, здаецца.

— Можа, хочаце нешта сказаць пра бандыцкія свае справы?..

— Я не быў бандытам...

— Самарос, гэта смешна хаваць ад нас тое, што мы і самі ведаем,— сказаў следчы.— Вось гэтыя паны афіцэры хацелі б пачуць ад вас канкрэтныя дэталі засад, нападзенняў, забойстваў...

— Я быў паранены ў першым баі,— прызнаўся Самарос.

— А вы ў якой групе былі? Баталава?.. Шамшуры?..

Самарос быў ашаломлены. Хто сказаў ім пра Шамшуру? Хто такі Баталаў? Чаму следчы не памянуў Тышкевіча?..

— Пра такія групы я чую першы раз.

— А хто ў вас быў камандзірам?..

— Не ведаю... Там усе называлі адзін аднаго па імені, а можа, клічцы. Васька, Дзед, Руды, ну, і яшчэ пазнаму.

— Жанчыну гэтую ведаеце?..

— Як жа, ведаю... Разам працавалі...

— Яна да вас ішла?..

— Ішла па сваіх справах. Зайшла па знаёмству, пераначаваць папрасілася,— гнуў прыдуманую імі версію Самарос.

— Ну што ж, падпішыце пратакол допыту і адпраўляйцеся дамоў,— сказаў следчы.

Самарос не паспеў ачомацца ад нечаканасці, як яго выпхнулі на калідор, а там канваіры ўзялі яго пад варту і павялі. Самарос адчуў, што з ім абышліся так, каб пасеяць у Прусавай сумненне, і ён спалохаўся за Прусаву, быццам дасюль была нейкая надзея на добры зыход.

Яго тут жа адправілі ў турму. Запіхнулі ў вялікую камеру, у якой было поўна мужчын і жанчын.

— Яшчэ адзін смяротнік прыбыў,— сустрэў Самароса чыйсьці асуджаны голас. Самарос паваліўся на падлогу, застагнаў, як цяжка паранены.

Назаўтра ў турму прывезлі Прусаву. А сярод дня іх пагналі ў вапнавы кар'ер на расстрэл. Самарос і нейкі дзядок у лапцях вялі Прусаву пад рукі. Яна нешта гаварыла ім, але твар і губы яе былі так разбіты на допыце, што Самарос не мог зразумець ніводнага слова.

Яму было балюча і сорамна: ён ішоў на расстрэл без адзінай драпінкі.

## 31

На прыканцы кастрычніка ў суботу Ота Віцінг наладзіў невялікі прыём у гонар фон Лейме-Тротшэ, інспектара ўсходняга аддзела Ваенна-эканамічнага ўпраўлення галоўнага камандавання. Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ, высокі, белатвары, з чорныміваласамі, старанна прычасанымі на касы прабор, і маленькімі вусікамі на кароткай адтапыранай губе, належаў да той старадаўняй арыстакратыі, якая хоць і страціла ў апошнія гады ключавыя пазіцыі, але ўсё яшчэ адыгрывала немалаважную ролю ў ажыццяўленні планаў Гітлера.

У свой час Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ быў блізкі да Гельмута Мольтке, графа і праўнука вялікага Мольтке —

паплечніка Бісмарка і настаўніка Вільгельма I. Казалі, што старэйшы за Гельмута Мольтке Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ чамусьці пасварыўся са сваім маладым сябрам і з таго часу яны ніколі не бачыліся.

Ота Віцінг, які здаўна адчуваў дзіўную сарамлівасць і няёмкасць пры сустрэчах з нашчадкамі некалі славутых сем'яў, які пабойваўся іх і ў душы ненавідзеў, бо тое, чаго ён, Ота Віцінг, дамагаўся ўпартасцю і працай, ім даставалася лёгка і проста, усё ж ганарыўся сваім знаёмствам з Зігфрыдам фон Лейме-Тротшэ. Іх пазнаёмілі тады, калі Ота Віцінг чакаў свайго прызначэння пры штабе генерала Зімерынга. Знаёмства адбылося ў генерала на яго раскошнай кватэры ў нейкім маленькім гатэлі з вузкімі стрэльчатымі вокнамі. Ота Віцінг тады з захапленнем сачыў, як свабодна і прыгожа трымае сябе Зігфрыд сярод старэйшых па званні. Ён, Ота Віцінг, адчуваў сябе няёмка, а новенькі гарнітур звязваў кожны яго рух. Ён пацеў і, адчуваючы ліпучы пот на далонях, злаваўся: хіба ён хлапчук, хіба не яго заўважылі і вылучылі на такую вялікую пасаду? Чаму ён такі нясмелы? У яго няма славутасці роду, але хіба цяпер галоўнае радавітасць? Не, цяпер усё вырашаецца працай і вернасцю фюрэру. Пад канец вечара Ота Віцінг перамог няёмкасць і нават хвілін пяць гаварыў з Зігфрыдам пра паляўнічыя прыгоды ў Цыролі.

Раніцай, калі Зігфрыд прыляцеў самалётам на аэрадром, а ён, Ота Віцінг, сустрэў яго, яму падумалася, што абавязкова трэба наладзіць прыём. Ён думаў пра гэта ўсю дарогу да ўпраўлення, загадзя вызначаючы, каго запрасіць на гэты прыём. Потым чамусьці падумалася, што фон Лейме-Тротшэ не прыме запрашэння, і гэтая думка занепакоіла яго. Але пан інспектар ахвотна згадзіўся пасядзець «у вузкім коле сваіх сяброў па зброі і агульнай барацьбе».

Каб за сталом госці адчувалі сябе па-сямейнаму, Ота Віцінг рашыў папрасіць перакладчыцу быць у гэты вечар гаспадыняй стала.

— Паклічце да мяне фройляйн Людмілу,— загадаў ён ад'ютанту, крыху, аднак, сумняваючыся, ці згодзіцца яна прыслужваць за сталом.

Людміла як заўсёды спынілася на парозе, пакорліва схіліла галаву набок.

— Слухаю, шэф...

Ён пачаў здаля, напомніўшы ёй, што заўсёды высока цэніць яе стараннасць, і вельмі прасіў бы — о, гэта просьба, не больш,— каб яна памагла яму прыняць гасцей.

Ота Віцінг бачыў, што перакладчыца як бы збянтэжылася, нават пачырванела і крыху паспешліва дала згоду, сарамліва сказаўшы:

— Я не ведаю... Мне не даводзілася прыслужваць...

Ён ацаніў і яе збянтэжанасць і сціпласць. Зразумеў, што яна пачырванела ад таго даверу, які ён аказаў ёй. Яму было прыемна бачыць гэта.

З тыдзень назад Ютнер выклікаў Людмілу ў гестапа, Віцінг пра гэта не ведаў. Пасля ўжо яму далажыў ад'ютант, якому расказала Людміла пра тое, як з ёю абышоўся Ютнер. Штурмбанфюрэр загадаў ёй быць перакладчыцай на допыце двух затрыманых і, не чакаючы яе згоды, раптам паставіў перад нейкім чалавекам, якога яна не ведала і які не ведаў яе. Яна чакала пытанняў, але ніхто не задаваў. Чалавека вывелі, а на яго месцы паявіўся другі. Гэтаму яна задала ўсяго адно пытанне. Яго таксама вывелі. А яе адпусцілі дамоў.

Віцінг тады размаўляў з Ютнерам, і той сказаў, што яны і сапраўды падазравалі перакладчыцу ў сувязях з савецкай разведкай і праводзілі эксперымент. Ён зразумеў, што эксперымент гэты нічога не даў, бо гестапа не выпусціла б перакладчыцу.

Цяпер Віцінг быў задаволены, што фройляйн Людміла аказалася не заплямленай і што давер, які аказаў ёй Віцінг, толькі яшчэ больш наблізіць дзяўчыну да яго.

У клопатах незаўважна надышоў вечар. Госці сабраліся акуратна ў шэсць. Пілі, гаварылі тосты і прамовы, але чаканай весялосці не было. Нават па-свецку вытанчаны Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ гаварыў нешта банальнае, хоць і з уласцівай яму дасціпнасцю.

Калі вячэра кончылася і ўзрадаваныя госці разышліся, Віцінг адпусціў ад'ютанта і перакладчыцу. Яны засталіся з Зігфрыдам удвух у вялікім і не зусім утульным кабінеце. Абодва сядзелі ў вялізных нязручных крэслах абапал маленькага століка. На ім ляжалі пачак цыгар, маленькія нажніцы і дзве попельніцы. Пасярэдзіне гарэла свечка, празрысты стэарын сцякаў на медны танканогі падсвечнік.

Яны закурылі. Віцінг пакутліва думаў аб тым, якую тэму размовы запрапанаваць госцю. Не знайшоў нічога лепшага, як паляванне ў Ціролі.

Зігфрыд ляніва смактаў цыгару. На тонкім кашчавым пальцы з доўгім пазногцем зіхацеў пярсцёнак з маленькім, як кропелька расы, брыльянтам.

— О, гэта сапраўды цудоўна, Ота. Дазвольце мне так называць вас? Ці давядзецца толькі нам зноў абудзіць горы Ціроля паляўнічым рогам?

Ён чароўна ўсміхаўся, і верхняя губа яшчэ больш закапылівалася ўгору.

— Вам не вельмі падыходзіць песімізм, Зігфрыд,— адважыўся Віцінг назваць фон Лейме-Тротшэ па імені.

— Вайна, пан камісар.

— Вайна вечна не бывае.

— Гэта праўда. А вы не задумваліся, Віцінг, чаму раптам спыняецца машына, якая ідзе з хуткасцю сто кіламетраў, і што ў такіх выпадках адчуваюць пасажыры?

— Калі машына раптам спыняецца — гэта аварыя, катастрофа.

— Мы, Ота, спыніліся пад Масквой...

Віцінг раптам адчуў, што тыя аднастайныя і туманныя паведамленні з фронту, якія вось ужо каторы дзень ён чытаў, азначаюць штосьці большае, чым яму здавалася дасюль.

— Гэта што-небудзь сур'ёзнае?

— Разумеецца, дарагі Віцінг, наша размова застанецца ў гэтым пакоі. Я шчыра паважаю вас як друга і школьнага таварыша генерала Зімерынга.

«А якое дачыненне да ўсяго гэтага мае Зімерынг? — падумаў Віцінг.— Ах, так, яны давяраюць адзін аднаму. Ну, вядома...»

— Тое, што мы спыніліся, можа перарасці ў штосьці горшае,— прадоўжыў фон Лейме-Тротшэ.

— Я думаю, што фюрэр не дапусціць,— асцярожна напомніў Віцінг.

Фон Лейме-Тротшэ абтрос попел на крышталёвы сподак, у якім адлюстроўвалася дрыготкае полымя свечкі.

— Дарагі Віцінг, вы пераацэньваеце... Ёсць дзве сілы, здольныя вырашыць лёс нацыі: армія і партыя. На жаль...— Ён запнуўся і, каб запоўніць гэтую непрыемную паўзу, зацягнуўся дымам.

Віцінг маўчаў. Ён адчуваў, што фон Лейме-Тротшэ чагосьці не дагаварвае, і не таму, што не давярае яму, Віцінгу.

— Я, як і вы, Віцінг, бясконца адданы сваёй нацыі, радзіме і той вялікай місіі, якая выпала на долю герман-

скаму народу. Нацыянал-сацыялізм абудзіў дух нацыі перад пагрозай сусветнага камунізма і анархіі. Аднак, дарагі Ота, перад гэтай пагрозай мы не мелі права ваяваць на два франты. І потым... потым амаральнасць... вы разумееце, Ота, я хачу сказаць, што для дасягнення адной і той жа мэты могуць быць розныя сродкі.

— Вы думаеце, што мы залішне бязлітасныя?

— На жаль, Ота... На Захадзе не пойдуць насустрач, пакуль не будзе гарантыі, што цвярозасць і развага сталі асновай палітыкі.

— Наша камандаванне настроена аптымістычна.

— О-о-о! Зразумела. Хто-небудзь усё ж будзе вінаваты.

— Так бывае заўсёды...

— Мне прыемна, Ота, што мы разумеем адзін аднаго. Залішняя вера асляпляе, ці не праўда?

— Цвярозасць — адметная рыса немцаў.

— Бадай, не цяперашніх. Вядома, немцы тут не вінаваты.

— Вядома,— згадзіўся Віцінг.

— Цвярозасць павінна перамагчы.

— Хочацца спадзявацца.

Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ пасядзеў яшчэ крыху, пачаў сабірацца ў гатэль, дзе яму з раніцы яшчэ былі падрыхтаваны два пакоі. Ад'ютант Віцінга пайшоў суправаджаць пана інспектара да машыны.

Ота Віцінг прайшоўся па пакоі. Нешта трывожыла яго. І раптам працяла страшная здагадка: яго цягнуць у змову супроць самога фюрэра.

Ён сеў у крэсла, уражаны гэтым адкрыццём. Божа, штосьці трэба рабіць неадкладна. Пазваніць Ютнеру? Але хто такі Ютнер? І чым усё гэта скончыцца? Лепей бы не заставаўся гэты фон Лейме-Тротшэ.

«Спакойна, Ота! Спяшацца ніколі не варта,— супакоіў ён сябе.— Гэтыя тытулаваныя асобы маюць далёкі нюх».

Да контрнаступлення Чырвонай Арміі пад Масквой заставалася менш як два тыдні. У стаўку Гітлера ўсё яшчэ паступалі пераможныя рэляцыі. Але прадбачлівыя палітыкі ўжо здагадваліся, што летняя наступальная кампанія праваліласа, і пачыналі ўжо думаць над тым, як ратаваць сваю шкуру.

## 32

У снежных завеях непрыкметна падкралася лютая на маразы піліпаўка. Шчыраваў над Падзвіннем паўночны пякучы, як воцат, вецер, пералапачваў гурбы дробнага, востранькага, нібы шрот, снегу, раўняў успучаную пагоркамі, зрэзаную равамі і раўчукамі прастору. Часам вецер мяняў накірунак, дзьмуў з недалёкай Балтыкі, гнаў перад сабой нізкія, цяжарныя на ападкі хмары. Тады дні тры запар ляпіў густы, камякамі па лапцю, снег, засыпаў і без таго занесеныя дарогі. Ні праехаць ні прайсці!

Ды гэта нікога не засмучала. Ездзіць не было куды. Ды і хадзіць таксама. Жыццё ваеннай пары замыкалася ў рамках сваёй вёскі. Хіба дужа важная справа магла штурхануць чалавека на падарожжа.

У завірушлівую ноч на самым прыканцы лістапада, калі раніцу з вечарам вяжа вузенькая перамычка з хмарнага дня, у Лісіныя ямы прыйшоў на лыжах Платон Бандарэнка, і не адзін, а з дзецюком у кажушку і заячай шапцы. Платона доўга ціскалі ў абдымках, з цікавасцю пaглядалі на дзецюка: хто такі і чаму Платон узяў яго на сакрэтную базу?

Калі першыя парывы радасці прайшлі, Бандарэнка пазнаёміў з хлопцам:

— Косця Яльцаў, першы мой памочнік і сакратар падпольнай камсамольскай арганізацыі...

З выпадку прыходу гасцей у зямлянцы запалілі «смаркачку» — у пузатай бутэлечцы з газай — кнот. Звычайна ўначы палілі жалезную печ, зробленую з бітона; яна давала і святло і цеплыню.

Кволенькі агеньчык «смаркачкі» нясмела разганяў густы змрок, скупа асвятляў аброслыя барадамі, учарнелыя ад сажы твары. Чыста паголеныя, чырванашчокія з марозу госці нагадвалі аб іншым жыцці, аж крывяніліся ад зайздрасці сэрцы.

Прадбачлівы Бандарэнка прынёс сала, печаную бульбу, цыбулю, свежы хлеб, а ў дадатак і біклагу самагонкі. Сядзелі паўкругам на нарах вакол хліпкага на раскірэчаных ножках стала з ежай. Тышкевіч наліў кожнаму грамаў па сто, не болей, рэшту пакінуў «на ўсякі пажарны выпадак», як ён растлумачыў партызанам.

— Расказвай, Платон Фёдаравіч, якія навіны на белым свеце? — папрасіў Тышкевіч, калі людзі крыху пад-

мацаваліся прынесенымі прысмакамі.— Мы, сам бачыш, жывём як пад каўпаком...

— Абстановачка, шчыра скажу, вартая ўвагі і роздуму,— не спяшаючыся пачаў Бандарэнка, і ўсе прыціхлі, быццам ён прынёс навіны бог ведае з якой далечыні.— Немцы з Высачан, Глоданікаў, Веляшковіч і Камарова, аж да самай Смаленскай шашы, выбраліся яшчэ на пачатку лістапада. Так што ўвесь край у тысячу з гакам квадратных кіламетраў ахоўваецца толькі паліцыяй.

— Мусіць, у іх нявыкрутка пад Масквой? — выказаў здагадку Дайка.

— Масква наступіла Гітлеру на горла, факт,— адказаў Бандарэнка.— У Падзвінску на цэнтральнай плошчы каля абкома немцы яшчэ ўлетку зрабілі вялізную карту фронту і адзначалі на ёй, як ён рухаецца на ўсход. Дык вось тыдні два, калі не больш, шнур гэты раптам запыніўся на адным месцы, потым ці то вецер, ці самі немцы яго скінулі, але цяпер ніхто ўжо не адзначае, як лёгка іхнія войскі займаюць нашы гарады і вёскі.

— Пагоняць іх, як піць даць пагоняць,— весела выгукнуў Мяншоў.

— Можа, гоняць, ды мы нічога не ведаем,— выказаў думку Чаротны.

— Народ як? Што думае? — спытаўся Тышкевіч.

— Жыве паціху. Чакае вызвалення. У вёсках шмат моладзі. Акружэнцаў. Кожны дзень вечарынкі. Можна падумаць — скокі ў бокі, але ж вечарынкі і магчымасць збірацца разам, згуртоўвацца, аб'ядноўвацца. У перамогу немцаў ніхто не верыць, а што рабіць, не ведаюць...

— Паўстанне трэба падымаць,— сакануў Яльцаў.

Тышкевіч і сам некалі пеставаў такую ідэю, але адкінуў як лішне кніжную.

— Супраць каго паўстанне, калі самі кажаце, што немцаў да самай шашы няма, а там нам дадуць па зубах,— пажартаваў Чаротны.

Жарт, аднак, быў успрыняты ўсур'ёз.

— Паліцыю і ўправы найперш разагнаць трэба,— сказаў Бандарэнка.— Савецкую ўладу аднавіць, каб па нашай зямлі розная брыда не поўзала.

— Ну добра, вызвалім раён, як вы кажаце, а далей што? Немцам з намі расправіцца — раз плюнуць. Ім на танках з Падзвінска гадзіна ходу...

— Рызыка, вядома, ёсць,— пагадзіўся Бандарэнка.

— Без рызыкі вайны не бывае,— дадаў Яльцаў.— Па зямлянках хавацца таксама мала радасці.

Людзі абурана загулі. Яльцаў мімаволі закрануў балючую струнку іх побыту. Ці раз яны шукалі выйсця ў спрэчках, гаварылі адзін аднаму і больш крыўдныя словы — на чалавека адтуль, з уладжанага побыту, пакрыўдзіліся.

— Вы, малады чалавек,— калі гоман аціх, сказаў Тышкевіч,— лішне па-кніжнаму ставіцеся да вельмі складанай і сур'ёзнай справы.

— А вы лішне ўскладняеце яе,— не здаваўся Яльцаў, і Бандарэнка не перашкаджаў яму, а паблажліва слухаў, як бы заклікаючы да спрэчкі з начальствам.— Вялікіх сіл немцы на нас цяпер не кінуць, бо сілы тыя ім пад Масквой патрэбны, а малыя мы разаб'ём. Людзі сваю хату, сям'ю будуць абараняць. А гэта патройвае сілы.

— А зброю, боепрыпасы дзе возьмем? — спытаўся Чаротны.

— Нашы людзі запаслівыя,— усміхнуўся Бандарэнка.— Толькі ў нас, у Муравічах, знойдзецца станкавы кулямёт ды два ручных. Нават гарматка на прыкмеце маецца. Пачнём дзейнічаць, зброя будзе. Нам, дарагія таварышы, без канкрэтных прапаноў вяртацца дамоў забаронена...

— Кім забаронена?..

Бандарэнка падсунуў «смаркачку», дастаў з-за пазухі складзеную ў чатыры столкі паперу, разгарнуў яе, стаў чытаць:

— «Рэзалюцыя. Камуністы і камсамольцы мястэчка Муравічы, сабраўшыся на падпольны сход, абмеркавалі сітуацыю, што стварылася на часова акупіраванай тэрыторыі Падзвіння, і, улічваючы важнасць бягучага моманту і настойлівую неабходнасць узмацнення барацьбы з ворагам з мэтай набліжэння канчатковай перамогі над гітлераўскімі полчышчамі, рашылі: першае, даручыць таварышу Бандарэнку звязацца з падпольным райкомам партыі па ўзгадненню планаў узброенай барацьбы. Другое, давесці да ведама падпольны райком партыі, што камуністы і камсамольцы трымаюць курс на ўсенароднае паўстанне на Падзвінні з мэтай устанаўлення савецкай улады на тэрыторыі Падзвіння. Трэцяе, прасіць райком партыі ўзначаліць паўстанне як у плане палітычным, так і ваенным...»

Бандарэнка кончыў чытаць, перадаў рэзалюцыю Тышкевічу.

— Я не райком,— сказаў Тышкевіч.— Ды і няма яго, калі пічыра прызнацца...

— Як няма? — здзівіўся Бандарэнка.— А ты?..

— Я — не райком, адзін з яго работнікаў, і толькі...

— Значыць, райком,— павесялеў Бандарэнка.— Нам без райкома не абысціся.

...Аперацыю па разгрому паліцэйскага гарнізона ў Муравічах прызначылі на шостае снежня. Кароткі зімні дзень пятага снежня цягнуўся дужа марудна. З раніцы ў вершалінах хвой загуляў заходні вецер, абяцаючы к начы завіруху. Беглі па шызым небе бурыя цяжкія хмары. Зрэдку ў прасветы між хмар выглядала замурзанае чырванаватае сонца, слепа тыцкалася ў снежныя сумёты і тут жа зноў хавалася за хмары.

Пад вечар з Муравіч прыйшоў сувязны, які павінен быў весці атрад на месца збору. Атрад адразу ж рушыў у дарогу.

У полі ўжо круціла завіруха. Снегу па пояс. Ісці адна пакута. Адвыклыя ад хады людзі задыхаліся, цёк па спіне цурочкам пот.

Пад Муравічамі выбавіліся на санную дарогу. Пайшлося лягчэй. Хоць і дарогу перапаясвалі снежныя заносы. Было цёмна: ні зорачкі ў небе, ні агеньчыка на зямлі... Толькі завея, снег, вецер...

Сувязны неўзабаве звярнуў з дарогі. Зноў правальваліся па пояс у снег. Потым пад нагамі глуха загуў лёд. На тым беразе возера ў чаротах іх чакаў чалавек. Ён нешта шэптам сказаў сувязному, пайшоў з ім поруч.

Ад іхняга гэтага перашэптвання, ад таямнічасці, чарнаты, што ахінала іх, а найбольш ад таго, што адвыклі ад прасторы, у Тышкевіча глуха заныла сэрца, тысяча бязглуздых думак прамільгнула ў галаве, і кожная магла прывесці да роспачы. Ды неўзабаве наперадзе зачарнеліся нейкія пабудовы, завіруха раптам аслабла, і яны апынуліся перад дваром з шырока разяўленымі варотамі. На двары снег не круціў, як у полі, а падаў вялікімі камякамі, бязважка апускаўся на зямлю.

Сувязны адчыніў дзверы ў хату — адтуль пырснула яркім жаўтаватым з панадворка святлом. За сталом, засланым белым абрусам, сядзелі двое: Бандарэнка і мужчына ў гімнасцёрцы з цёмнымі плямамі ад пятліц. Затое партупея была новенькая, яе рамяні зарыпелі, калі вайсковец павярнуўся на гук адчыненых дзвярэй. На абрусе ляжала карта.

— Як дабраліся? — спытаўся Бандарэнка.— Завіруха...

— Дабраліся.— Тышкевіч паціснуў руку Бандарэнкі.

— Знаёмся, Дубавец,— сказаў Бандарэнка, паказваючы на вайскоўца.

Цеснаватая прыхожая ўраз напакавалася прастудным кашлем, каляным з марозу шоргатам вопраткі. Здарожаныя людзі садзіліся на падлогу, круцілі азяблымі пальцамі самакруткі.

Тышкевіча зябіла. Ён прысеў да стала на шырокую лаўку. Побач з ім прымасціўся на венскім крэсле Чаротны.

— Дазвольце збольшага дакласці план аперацыі,— сказаў Дубавец і, не чакаючы дазволу, пачаў дакладваць: — Аперацыя прызначана на дваццаць адзін нульнуль. Ваш атрад праводзіць арышт паліцыі і ўправы. Усіх паліцэйскіх зводзім у памяшканне ўправы.

— Як нашы таварышы знойдуць хаты паліцэйскіх? — спытаўся Тышкевіч.

— Дзеля гэтага з нашага боку створаны атрад пад камандаваннем Яльцава. Падрабязнасці арышту паліцыі ў яго. Прапануецца размясціць штаб у памяшканні ўправы. Там сёння дзяжураць двое: Крупня і Толік Аўдзяёнак. Аўдзяёнак — сволач. Удзельнічаў у расстрэле яўрэяў.

У хату парыўна забег Яльцаў. На ім кажушок, перапаясаны партупеяй.

— Усё гатова,— казырнуў ён, троху няўмела, але з форсам.— Прашу за мной...

Людзі не паспелі яшчэ сагрэцца, таму падымаліся неахвоча. Калі апошні партызан выйшаў за дзверы, Бандарэнка дастаў з нагруднай кішэні масіўны кіраўскі гадзіннік на ланцужку, сказаў:

— У нас яшчэ хвілін дваццаць. Зойдзем у залю...

Ён адчыніў філянговыя дзверы, прапусціў Тышкевіча і Чаротнага наперадзе сябе ў вялікі пакой з шырокім ложкам, горкай падушак на ім, шафай і лапушыстым фікусам пад самую столь. Ні слова не кажучы, ён дастаў з шафы амаль новую хромавую тужурку з футравым каўняром.

— Навошта? — разгубіўся Тышкевіч.

— Можа, ты людзям у гэтых рызманах пакажашся? — усміхнуўся Бандарэнка.— Камандзір, прадстаўнік партыі і ўрада, а з выгляду — галадранец. Цябе людзі павінны

паважаць і баяцца, з аднаго позірку бачыць, што ты начальства, а не так сабе збоку прыпёку...

Другую скуранку Бандарэнка ўдружыў Чаротнаму.

Праз чвэрць гадзіны Тышкевіч, Чаротны, Бандарэнка і Дубавец крочылі ў валасную ўправу. Завіруха зусім аблюцела: у снежнай кругаверці нічога не відаць, хоць вылалі вока, а вецер налятаў з такой сілай, што яны ледзьве трымаліся на нагах.

У валасной управе цьмяна свяціліся два акны. Чаротны, як было і дамоўлена, першы забег у памяшканне, нема крыкнуў:

— Ні з месца!.. Устаць! Рукі ўгору, сволачы!..

Калі Тышкевіч пераступіў парог управы, трое, а не двое, як дакладваў Дубавец, паліцэйскіх стаялі, узняўшы рукі ўгору. На стале валяліся замусоленыя карты. Дзве рускія і адна бельгійская вінтоўкі месціліся ў куце за спіной паліцэйскіх.

— Таварыш камандзір,— казырнуў Чаротны,— тры здраднікі Радзімы абяззброены. Загадаеце расстраляць?..

Тышкевіч аж здрыгануўся: пытанне Чаротнага застала яго знянацку, хоць думаў ён над ім, праклятым, не адзін раз. Ды ўсё пазбягаў адказу, хаваўся пад крыло ўласнай нерашучасці. Чаротны прыпёр яго да сцяны — не выкруцішся.

Трое паліцэйскіх, бязвусыя яшчэ хлопцы і зусім бяскрыўдныя, нават па-ваясковаму безабаронныя, стаялі абапал канцылярскага стала. Пад пахай у кажушку аднаго з іх — прарэха. З яе тырчала чорная бародка поўсці. У паліцэйскага дробна дрыжалі рукі. У правай руцэ заціснуты карты. Другі — нямоглы, з востранькім носам — зябка ляскаў зубамі. Левая яго штаніна ўвачавідку макрэла. Толькі трэці, здалося, валодаў сабой, хоць і яго выдавалі ногі. Яны ўсё падгіналіся ў каленях.

Тышкевічу не верылася, што адзін з іх удзельнічаў у расстрэле яўрэяў. Каторы? Мабыць, гэты, больш спакойны. Дык жа зусім дзіця. Няўжо вось такія маглі забіць Фаню, яго, Тышкевіча?.. Бязвусыя хлопцы выклікалі злосць, агіду і спагаду. Што іх прымусіла ўзяць вінтоўкі супраць сваіх людзей? Якая злая сіла штурханула на здраду? Можа, яны і не здагадваюцца, што служаць злу? Ці мала падросткі робяць глупстваў. Але ж то не глупства, а злачынства. Дык што павінен сказаць ён, Тышкевіч, нядаўні настаўнік вось такіх бязвусых хлапцоў?..

— Апусціце рукі, брыдка на вас глядзець,— загадаў

ён і вельмі ўзрадаваўся, што сказалася само, без прынукі, але якраз тое, што адпавядала ягонаму характару.

Паліцэйскія паслухмяна апусцілі рукі і, мабыць, адчуўшы, што небяспека мінавала, загаварылі ўразнабой:

— Гэта ўсё Чарніца...

— Пагражаў...

— Мы не хацелі...

— Сашлём, кажа, у Германію, не вернецеся...

— Хто такі Чарніца? — пацікавіўся Тышкевіч, адчуўшы, што той Чарніца і ёсць злая воля, якая штурханула хлопцаў на здраду.

— Начальнік паліцыі...

— Ён не наш — прышлы...

— Прымак Нюркі Захарышкі...

— А вы, значыць, не вінаватыя?.. Не забівалі, не рабавалі? — спытаўся Чаротны, хаваючы ў вачах чорны агеньчык злосці.

— Што вы, мы не...

— Адпусціце нас, мы больш не будзем...

— Каб не Чарніца, мы хіба пайшлі б у паліцыю,— сказаў паліцэйскі з мокрай калашынай.— Ды мы толькі вінтоўкі нас...

Ён раптам замоўк, быццам праглынуў апошняе слова. Тышкевіч азірнуўся — у хату заходзіў Дубавец. Абодва яны — Бандарэнка і Дубавец — як і было дамоўлена, чакалі на двары, пакуль абяззброяць паліцэйскіх.

— Што, Толік, паджылкі затрэсліся? — У голасе Дубаўца Тышкевіч пачуў не толькі яхідства, але нешта большае — суровы прысуд.— А як яўрэяў расстрэльваў, паджылкі не трэсліся?..

«Дык во хто гэта — Аўдзяёнак,— падумаў Тышкевіч.—Ніколі не паверыў бы, што гэта ён. Папрывыкалі да вайны ворагаў па карыкатурах бачыць. Здаровыя, мурлатыя, з лютым позіркам вачэй. А вораг во які... Моль».

— Я не расстрэльваў,— залямантаваў Толік.

— Дзядзька расстрэльваў? — усё з той жа яхіднасцю спытаўся Дубавец.— Ах ты, выпаўзень... Слімак дохлы... Ягоная рука ліхаманкава спрабавала адшпіліць кабуру.

— Адстаўце,— Тышкевіч перахапіў руку з наганам, сціснуў мёртвай хваткай.

Дубавец неяк адразу абмяк, адышоўся да дзвярэй.

— Закурыць знойдзецца? — звярнуўся ён да Чаротнага.

Тышкевіча ліхаманіла. Ён зрабіў два крокі да Аўдзяёнка.

— Дзядзечка, я жыць хачу,— кінуўся той у ногі Тышкевічу.— Злітуйцеся, дзядзечка. Не вінаваты я, не вінаваты. Усё Чарніца. Даў вінтоўку і кажа: страляй, такую тваю, а то самаго ў гэтую яму...

Чаротны выспяткам падняў Толіка з падлогі.

— Свяценькі!.. Жыць яму захацелася... Ён не вінаваты!.. Сунулі вінтоўку, і ўзяў, дзіцятка горкае. А дзеля чаго, падумаў?..

Мабыць, Чаротны не стрымаўся б, аплявушыў Толіка, ды на двары пачуліся чалавечыя галасы, і ў памяшканне ўправы ўваліўся чалавек год за трыццаць у суконнай тужурцы і фетравых бурках.

— Не маеце права!.. Пусціце мяне,— крычаў ён, але не дужа заўзята вырываўся з рук Малахоўскага і Варачкіна.

— Начальнік паліцыі,— далажыў Малахоўскі.

— Хто камандзір?.. Вы? — Начальнік паліцыі спыніўся перад Тышкевічам.— Настойліва прашу выслухаць мяне без сведак...

— Чаго захацеў,— зарагатаў Малахоўскі.

— Яшчэ раз прашу выслухаць, бо гэта вельмі важна,— сказаў начальнік паліцыі.

— Дзе мы можам пагаварыць? — пад ягоным напорам здаўся Тышкевіч.

— У маім кабінеце.— Начальнік паліцыі дастаў ключ, адчыніў філянговыя дзверы ў бакоўку.— Сядайце, таварыш камандзір,— запальваючы лямпу, прапанаваў начальнік паліцыі, быццам Тышкевіч быў простым наведвальнікам.

— Што вы хацелі паведаміць? — не спускаючы з Чарніцы пільных вачэй, спытаўся Тышкевіч.

— З кім маю гонар? — спытаўся Чарніца і зноў з тым няўлоўным пераўзыходжаннем, якое ставіла Тышкевіча ў залежнае становішча.

— Камандзір,— стараючыся не згубіць вытрымку, адказаў Тышкевіч.— Дык што вы хацелі паведаміць?..

— Я пакінуты тут са спецзаданнем,— панізіўшы голас да шэпту, сказаў Чарніца.

— Якім заданнем? — спытаўся Тышкевіч.

— Не маю права выдаваць ваенную тайну...

— А чаму я павінен верыць вам? — спытаўся Тышкевіч, спрабуючы адгадаць, хто перад ім: сапраўды развед-

чык ці звычайны авантурыст, які любымі сродкамі хоча зберагчы шкуру.

— Не мне, майму сумленню,— адказаў Чарніца.— Вы сарвалі надзвычай важнае заданне і будзеце мець справу з маім камандаваннем. Але цяпер я хацеў вас папярэдзіць, што Дубавец, якога я бачыў у пакоі, агент эсдэ і правакатар.

— Мы ўлічым,— сказаў Тышкевіч.— Ну а гэтыя, што дзяжурылі тут па вашым загадзе?.. Яны хто?..

Чарніца як бы спатыкнуўся, кароткім пільным позіркам слізгануў па твары Тышкевіча.

— Прызнацца вам, дык я расстраляў бы ўсіх, хто пайшоў служыць у паліцыю. Сволачы і здраднікі. Ну, ды зараз пра іншае. Як вы думаеце выкарыстаць мой багаты вопыт разведчыка? Раю прызначыць мяне начальнікам контрразведкі...

— На жаль, па штату такой пасады няма,— сказаў Тышкевіч.— А што вам нельга заставацца тут, дык гэта праўда...

Яму надакучыла непатрэбная і недарэчная размова. На што мог разлічваць Чарніца?.. На дурня ці вельмі ўжо недасведчанага чалавека?..

— Вачэй з яго не спускаць,— сказаў ён Дубаўцу.— Страляць без папярэджання, калі што-небудзь западозрыце...

Пад раніцу атрад чалавек пад шэсцьдзесят з чацвёркай гружаных саней пакінуў Муравічы, загубіўся ў непраглядной каламуці са снегу і цемры. Тышкевіч ехаў на санях. Кіраваў імі чалавек няпэўных гадоў у шапцы-аблавушцы.

— Назусім едзеце,— спытаўся ў яго Тышкевіч,— ці вернецеся дамоў?

Чалавек хехекнуў, нібы Тышкевіч спытаўся ў яго пра нешта недарэчнае.

— Куды вяртацца, дарагі чалавек? Я за гэтыя месяцы акупацыі жыў, як заяц: ледзь што — наўцёкі. Не, вяртацца нам не выпадае... Я толькі во што хацеў спытаць у вас. Чарніцу гэтага пры атрадзе пакінеце?..

— Судзіць яго будзем,— сказаў Тышкевіч.

На падыходзе да Альшэўскіх хутароў, дзе атрад меўся спыніцца на дзень перад чарговай аперацыяй, у хвасце калоны пачуліся тры стрэлы. Тышкевіч саскочыў з саней. Калона рухалася, не збаўляючы тэмпу. Здавалася, што

ніхто і не пачуў тых трох стрэлаў, якія ўстрывожылі Тышкевіча.

— Што здарылася? Хто страляў? — убачыўшы Чаротнага, спытаўся ён.

— Нічога, Іван Анісімавіч, абсалютна нічога,— адказаў Чаротны.— Двое паліцаяў, ну, каторы начальнік і Толік Аўдзяёнак, уцякаць задумалі...

— Нядобра як, без суда і следства,— сказаў Тышкевіч.

— Дык уцяклі б яны, во і дагані потым іх. А шкоды наробяць...

Тышкевіч падняў каўнер тужуркі, пакрочыў побач, адганяючы ад сябе ніякаватае пачуццё сваёй далучанасці да расстрэлу двух паліцаяў.

Альшэўскія хутары сустрэлі атрад брэхам сабак і крыкамі пеўняў.

Неўзабаве забіліся аб аконныя шыбы жаўтаватыя светлячкі лямп ваеннай пары. Зарыпелі дзверы, упускаючы і выпускаючы людзей.

Чаротны з Дубаўцом размяркоўвалі людзей па ротах, узводах і аддзяленнях. Размеркаванне праводзілася з прыцэлам, што ў наступныя ночы атрад павялічыцца ўтрая і больш.

Раніцай крыху аціхла завіруха. Задымілі коміны над стрэхамі, забразгалі вёдры каля калодзежаў. Каб не вартавыя на ўскраіне хутароў, ніхто і не здагадаўся б, што тут атабарыўся партызанскі атрад.

Тышкевіч чакаў, што немцы пашлюць супраць іх войска. Але ім і сапраўды, мабыць, было не да партызан.

За дзесяць дзён паліцэйскія гарнізоны і валасныя ўправы былі знішчаны ў трох былых сельсаветах і паліцэйскія пасты ў добрым дзесятку вёсак. На адзінаццатыя суткі атрад выявіў у лясной вёсачцы невялікую групу акружэнцаў пад камандаваннем Саханчука. Ад яго Тышкевіч і даведаўся пра лёс яшчэ аднаго члена пяцёркі Віктара Васільевіча Валенды.

Таго ж шостага снежня сорак першага года, калі атрад Тышкевіча правёў першую аперацыю па вызваленню ўсходняга Падзвіння, часці Чырвонай Арміі пачалі магутнае контрнаступленне на пазіцыі фашысцкіх войск пад Масквой, якое неўзабаве закончылася поўным разгромам гітлераўскіх полчышч.

## 33

Голад прымушаў рызыкаваць.

Па занесеных снегам дарогах аж да самага Папізоўя прабіраліся галодныя жыхары Падзвінска, каб абмяняць небагаты скарб на хлеб, бульбу і нават макуху. Вёска спажывала ўсё: соль, махорку, газу, запалкі, абутак і тканіны, бялізну і вопратку. На гарадскіх палявалі паліцэйскія і проста дробныя зладзеі, гатовыя пажывіцца на чалавечым горы. Але нішто не спыняла людзей.

Тры гарадскія жанчыны, вяртаючыся з мены, папрасіліся адпачнуць у Ядвісінай цёткі. Тая частавала жанчын добра ўпараным густым, як каша, бульбяным супам з баранінай. Жанчыны дзякавалі цётцы навінамі. Навін у жанчын поўны прыпол. Найбольш старалася гаваркая чарнявая маладзіца. Расказвала пра цуд з крынічкай, якая аднойчы заструменілася гарачай крывёю. Пра чорнага і чырвонага пеўняў, якіх стравіў дзядок, і як чырвоны певень перамог чорнага. Пра маладзіцу, якая апоўначы прыснiла мужа ў палоне аж недзе пад Полацкам. Раніцай сабралася, паехала туды і сапраўды знайшла мужа ў лагеры.

У мор — намруцца, у вайну — налгуцца, так спрадвеку казалі ў народзе. Ядвіся ляжала на печы, слухала бабскія балабоны, якія не закраналі яе. З таго часу, як Каршукоў з Чабаноўскім перайшлі жыць на выселкі да дзядзькі Уладака, яна як бы страціла спакой, кожную хвіліну думаючы, ці не здарылася з імі што дрэннае. Наведвацца да Каршукова кожны дзень было рызыкоўна — можна навесці на след. Ды Каршукоў і забараніў часта бываць у яго — не да любошчаў.

Маладзіца чамусьці прыглушыла голас: так гавораць толькі па вялікім сакрэце. Ядвіся напружыла слых.

— Толькі пасадзілі нас снедаць, як шусь у хату людзі і ўсе ўзброеныя. Адразу да нас. Хто такія? Чаго ходзіце?.. Прыглядаемся: быццам і не паліцыя. Але хто іх разбярэ. А тут на парог іхні начальнік. Уважыцельны такі камандзір. «Партызаны мы,— кажа нам,— але вы пра тое, што нас бачылі, не гаварыце нікому». А каму мы будзем гаварыць?.. Во, хіба вам, па сакрэту... А так, нікомачку...

Ядвіся па-кашачы спрытна саскочыла з печы. Павіталася.

— І многа іх? — спыталася яна.

Маладзіца запнулася.

— Не бойся, бабанька, то мая пляменніца,— супакоіла яе цётка.

— Хто ж іх ведае, не лічылі, але, відаць, многа, бо днём па вёсках шастаюць. І коні ў іх, і сані, а на санях, сама бачыла, кулямёт...

Маладзіца стала вылазіць з-за стала. Паклала на грудзі тры дробныя крыжыкі перад іконай на покуце.

— Дзякуй табе, гаспадынька.

— А вы ж у якіх краях мянялі? — спыталася Ядвіся, спрабуючы як найбольш выпытаць пра партызан у маладзіцы.

— Дык пад Муравічамі,— адказала другая жанчына, старэйшая і не такая гаваркая.

— У Муравічы нас не пусцілі. Там, кажуць, галоўныя іхнія сілы стаяць,— дадала чарнявая.

— Можа, яны не партызаны, а звычайныя вайскоўцы? — папытала Ядвіся.

— Дык жа самі казалі, што партызаны,— адказала маладзіца.

Ядвіся ледзьве дачакалася, пакуль жанчыны выбраліся з хаты, пабегла да Каршукова.

Станіслаў Цітавіч боўтаўся па хаце, як гадзіннікавы маятнік па сцяне. Чабаноўскі ляжаў на ложку, паклаўшы ногі ў шарсцяных панчохах на спінку, чытаў.

Важная навіна, якую прынесла Ядвіся, узрушыла абодвух.

— Што ж ты іх не затрымала? — папракаў яе Каршукоў.— Мяне паклікала б. Тут кожная драбязінка важная.

— Ды нічога яны больш не ведалі,— апраўдвалася Ядвіся, адчуваючы ўсё ж за сабой немалую віну.

— На сувязь трэба ісці,— прапанаваў Чабаноўскі і нібы кінуў агонь у стог сухога сена.

— Я пайду,— узгарэўся Каршукоў.

Чабаноўскі спусціў ногі з ложка, стаў нацягваць боты.

— Табе ісці не трэба,— важка сказаў ён.

— Чаму?.. Я абсалютна ўпэўнены, што там дзейнічае нехта з нашай групы. Тышкевіч, Валенда, Прусава... Хутчэй Валенда. У яго хватка. І асабістыя кантакты тут крайне неабходныя.

Чабаноўскі нацягнуў боты, прайшоўся па хаце. Новыя боты рыпелі.

— Будзем прабівацца разам,— сказаў ён.— Або ў разведку павінна пайсці жанчына...

Каршукоў быў запярэчыў, але Ядвіся падтрымала Чабаноўскага.

— Я пайду,— рашуча заявіла яна.

Яны абодва пагадзіліся.

У далёкую дарогу рыхтавала Ядвісю цётка. Паклала ў торбачку соль і розныя транты, выдзеліла з уласных прыпасаў трохі сахарыну, дала два брусочкі мыла. Важна было стварыць бачнасць, што жанчына ідзе не ад добрага жыцця ў страшны і жорсткі свет.

Ранічкай Ядвіся выбралася ў дарогу, тую, па якой улетку гналі кароў з адступлення. Цяпер дарогі не пазнаць. Мёртвая бель снегу і пустыннасць наводзілі на Ядвісю страх. Хоць бы ўзяла каго ў таварышкі. Усё не так моташна было б на зімовай дарозе. Ды каго возьмеш?..

Гадзіны праз дзве яе затрымала паліцыя. Дапытваў стары ўжо чалавек з кусцістымі бровамі і шырокім носам.

— Як жа вы без дакументаў надумаліся ісці,— адчытваў ён Ядвісю, як строгі настаўнік.— Час цяпер суровы. Жыццё чалавечае — капейкі не каштуе. Раіў бы вам вярнуцца, запасціся пропускам...

— Дзе ж яго дастаць, той пропуск? — спыталася Ядвіся.

— У каменданта, ці хоць якую даведку ад валасной управы ўзялі б...

Ядвіся не спрачалася. Яе адпусцілі. Цяпер яна ішла больш абачліва. На хутарах распытвала пра паліцэйскія пасты і гарнізоны, абыходзіла іх. Пасля абеду наляцела завіруха. Здалося, апусцілася на зямлю шэрае ў хмарах неба, а зямля стала дыбкі, засланючыся ад пранозлівага ветру.

Дарогу ўраз замяло. Ядвіся намацвала яе нагамі: дзе не праvalьвалася ў снег, там і дарога. Потым ішла па цаліку — толькі б прыбіцца ў вёску. Яна ўзнікла нечакана старой, прыпалай да зямлі хатай і разяўленым хлявом. Ядвіся зайшла ў хату. Чацвёра паліцэйскіх сядзелі за сталом, жлукцілі гарэлку.

— Глянь, баба,— сказаў адзін з іх, што сядзеў на покуце.

Гарбаносы і доўгі, як почап, паліцэйскі падняўся з-за стала, падышоў да яе, павагаўся на насках ботаў.

— Куды, курносая, ідзеш?.. Можа, на спатканне? — спытаўся ён.

— Мяняць іду,— адказала Ядвіся, азіраючыся па баках.

Ёй зрабілася страшна, аж абдало холадам. «Няўжо ў хаце жанчыны няма?» — падумалася ёй. Жанчына, аднак, была. З-за паркалёвай заслоны, што аддзяляла ложак ад хаты, пачуўся яе голас:

— Хто там, ці не Ганначка?..

Ядвіся кінулася туды, шукаючы збавення.

— Чаго табе? — убачыўшы Ядвісю, крыкнула старая нямоглая кабета.

— Пераначаваць хацела...

— Ату яе,— зноў крыкнула жанчына.

Ядвіся, не памятаючы як, выскачыла на вуліцу. Пабегла па ёй, чуючы вар'яцкі голас жанчыны. На скрыжаванні дзвюх вуліц стаялі салдаты. На грудзях у іх бляшаныя арлы. Дзіўна, але немцаў Ядвіся не спалохалася. Адзін з іх аклікнуў яе.

— Ты ёсць жыхар гэтай вёскі? — спытаўся ён.

Ядвіся хацела схлусіць, ды пабаялася.

— Не, я іду мяняць...

— Што ёсць мяняць?..

— Соль, пан, соль...

— Дакумент ёсць?..

— Дакумента няма...

— Ідзі наперад,— сказаў немец.

Яна пайшла.

Сярод вёскі, на пляцы каля царквы, абкружаныя немцамі, стаялі людзі. Ядвісю далучылі да іх. І адразу, нібы толькі і чакалі яе, немцы загадалі натоўпу рухацца.

— Куды нас гоняць? — спыталася Ядвіся ў маладой жанчыны.

— Куды? Няйначай у турму,— адказала жанчына.— А ты як сюды трапіла?

— Мяняць ішла...

— Не пашанцавала,— пахітала галавой жанчына.— Нас во заложнікамі схапілі.

Іх апынілі ў нейкім мястэчку. Заперлі ўсіх — і жанчын і мужчын — разам у старэнькай школцы на чатыры класы. У памяшканні сабачы холад. Мужчыны зламалі колькі парт, запалілі круглую печ-галандку, абабітую бляхай.

Недзе за сценкай чуліся галасы. Хтосьці спяваў. Потым настала цішыня. Людзі ладкаваліся спаць, хоць ніхто не спадзяваўся на сон.

За сценкай зноў пачалі гаманіць. Здалося, што там спрачаюцца, а можа, нават б'юцца. Штосьці моцна грукнула, і ўсё заціхла.

Па той бок дзвярэй хтосьці шарыў па сцяне рукой. Гулка бразнуў засоў. У адчыненых дзвярах з ліхтаром у руцэ стаяў доўгі хударлявы паліцай.

— Эй ты, прыгажуня, пойдзеш са мной,— сказаў ён, тыцкаючы з парога ліхтарыкам у куток, дзе сядзела Ядвіся.

— Ідзі, ідзі, што ж ты,— зашаптала бабуля, што ляжала побач з Ядзяй.— Не абазляй іх, а то яны горш разззлуюцца.

Ядзя паднялася і, думаючы, што паліцэйскі п'яны, што, напэўна, яе будуць біць, сціснулася ад страху.

У тым пакоі, што за сцяной, усё прапахла гарэлкай і цыбуляй. На стале кавалкі хлеба, сала, у місцы квашаная капуста.

— Садзіся, краля, пагутарым,— сказаў паліцай.— Мяне Восіпам завуць. Запомніш? А цябе як?

— Ядвісяй, напрыклад. Толькі навошта гэта?

— А вось чаму я спытаў. Я тут усіх ведаю, а цябе не. Ды і з выгляду ты як бы не вясковая. Вось і захацеў пазнаёміцца. Поняла?

— Я і праўда нетутэйшая. Прыйшла мяняць, а мяне затрымалі. Вось і сяджу тут, а дома дзеці чакаюць. Адпусціў бы мяне...

— Ну, ты гэта не загінай. Гэта ты немцам можаш загінаць. Яны павераць. Я табе не паверу.

— Як хочаш, але я праўду кажу...

— А ці ведаеш, што з вамі будзе?.. Не? Ну от бачыш. Заўтра вас усіх тра-та-та, і крышка. Гэта точна.

— За што?..

— Цябе першую расстраляюць. Поняла?..— Ён пасунуўся да яе, паклаў руку на плячо. Рука цяжкая, свінцовая.— Хочаш, уратую цябе. Ну як? Згодна?

— Не вінаватая ж я...

— От дурная. Заложнікі вы. Поняла?.. А заложнікаў заўсёды расстрэльваюць. Але я цябе ўратую. Хочаш? Ну, чаго маўчыш?

— Як ты мяне ўратуеш?..

— Ты Восіпа не ведаеш. Восіп усё можа. Поняла?.. Есці хочаш? Еш. Можа, вып'еш? Ну, гэта як хочаш, я не прымушаю.

«Што яму трэба?» — думала Ядвіся, нясмела беручы хлеб і сала.

Восіп наліў сабе самагону, выпіў:

— Дарма адмовілася. Не п'юць толькі дурні.

Ён пазіраў на яе неяк зусім па-іншаму, як раней. Ядвіся пачынала здагадвацца, чаго чакае ад яе паліцэйскі, і не магла зразумець, няўжо ён спадзяецца, што яна згодзіцца на тое без прымусу. «Лепш ужо загінуць, чым з такім брыдкім быць побач».

— Ну дык як, згодна?

— Калі ты чалавек, дык адпусці цяпер, і няма чаго валаводзіць. Мяне дзеці чакаюць.

— І ночы не пабаішся? Смелая.

— Дык ты ж за гарнізон правядзеш?..

— Правяду, абавязкова. Ну, дык згодна? Лямпу гасіць ці, можа, пры святле, га?

— Ідзі ты!.. Знайшоўся...

— Ага! Значыць, Восіп табе не падыходзіць. Ах ты, сцерва!.. Са мной не хочаш, з усімі паспытаеш...

Наздзекаваўшыся, яе павялі да заложнікаў той жа Восіп і маладзенькі паліцай, годны ёй у сыны. Малады баязліва скуголіў:

— Ой, пападзе нам ад немцаў, ой, пападзе, як дазнаюцца...

Восіп цыкнуў на яго:

— Заткніся. Іх раніцай у распыл пусцяць. Верна кажу. Понял?..

Ягоныя словы анічуць не закранулі Ядвісю. Пасля перажытага самы раз самой залезці ў пятлю. Гвалтоўная смерць ад немцаў здалася збаўленнем ад абраз і ганьбы.

Восіп адамкнуў дзверы школы, паблажліва ляпнуў Ядвісю даланёй пад зад.

— Радавацца, краля, нада, што перад смерцю...

Ядвіся, ужо стоячы на парозе школы, драпанула яго па твары з ілба да падбародка.

— Гад смярдзючы,— крыкнула яна, зачыняючы за сабой дзверы.

Яна думала, што паліцаі выцягнуць яе на двор, заб'юць там, аж яны моўчкі пайшлі. Парыпваў пад нагамі працяты марозам снег. Ядвіся прысланілася тварам да вушака, забілася ад рыданняў, якія яна глушыла ў сабе, каб не пачулі людзі.

Позняй раніцай іх выгналі са школы, пад моцным кан-

воем паліцыі і немцаў павялі па Кацярынінскім шляху ў бярозавых прысадах.

Жанчыны плакалі, паціху перагаворваліся:

— У Падзвінск гоняць, каб іх чэрці на тым свеце так ганялі...

— Глядзі, каб у Духаўшчыну не прыгналі...

— Не дай бог...

— Памаўчалі б...

— І нашы бобікі з імі...

— Свой ды шалёны страшней за ўсё...

Кіламетры праз два заложнікаў павярнулі ў поле з адзінокай на галу разбуранай цагельняй. І адразу завылі ўголас, загаласілі нема і страшна жанчыны, глушачы крыкам каманды канвою.

З радаборддзя хмар над асмужаным, з невыразнымі абрысамі даляглядам часам выбіваўся жаўтлявы праснак сонца, а над цагельняй у шэрым небе кружылі крумкачы. Ядвіся няўцямна крочыла сярод незнаёмых ёй людзей, і гэта асабліва прыгнятала і дзейнічала на свядомасць.

«І развітацца перад смерцю не будзе з кім,— самотна, адлучана падумалася ёй.— Даруй, Стасёк, што не спраўдзіла тваёй надзеі, не дабралася да партызан. Не памінай благім словам...»

Яна і не чула, як па шчацэ скаціліся дзве слязінкі, застралі ў ражках хусткі.

На тым баку цагельні — ланцуг варожых салдат, якія падковай ахінаў снежную прастору да самага лесу. У цэнтры падковы, над кручай кар'ера стаялі мужчыны, даўно няголеныя, схуднелыя, учарнелыя ад бяды, што спасцігла іх. Нехта, што стаяў побач з Ядвісяй, штурхануў локцем суседа:

— Глянь, акружэнцы...

— Зарэгістраваліся, дурні... Казалі ж ім — уцякайце, дык пайшлі рэгістравацца...

Нямецкі афіцэр нешта крыкнуў салдатам. З натоўпу акружэнцаў, як удар набата, звонкі голас:

— Людзі, прашчавайце...

Два кулямёты секанулі па акружэнцах. Ядвіся заплюшчыла вочы, закрыла іх рукамі. Кулямёты раптоўна замоўклі. Ядвіся адняла рукі ад твару: некалькі паліцаяў скідалі ў кар'ер людзей, што засталіся наверсе. Двое немцаў ішлі па краі кар'ера, стралялі з аўтаматаў уніз, няйначай па тых, хто быў яшчэ жывы.

«Божа, памажы мне памерці адразу»,— прашаптала Ядвіся.

То была яе апошняя разважлівая думка. Усё астатняе праходзіла як у тумане.

Штурхаючы нагамі і прыкладамі карабінаў, іх пагналі на месца тых, каго ўжо скінулі ў кар'ер. З натоўпу раптам вырвалася ўскудлачаная, звар'яцелая ад страху жанчына. Двое паліцэйскіх схапілі яе, павалаклі да кар'ера, паставілі на ногі, загадалі двум мужчынам трымаць тую жанчыну.

Ядвіся трапіла ў самую сярэдзіну натоўпу. Наперадзе яе стаяў нейкі дзядзька ў балахоне з плашч-палаткі. Яна бачыла ягоную шыю, чорную ад летняга загару, парослую кучаравымі валасамі. Шыя была напружана, а рукі бездапаможна апушчаны і троху адведзены назад.

Нямецкі афіцэр, які ўсё хадзіў за двума кулямётчыкамі, раптам спыніўся, і жанчыны перасталі плакаць. Толькі чулася перарывістае дыханне ды нейчы прастудны кашаль. Напружаная цішыня доўжылася, можа, адно імгненне. Яе парушыў кулямётны голас: та-та-та-та...

Краем вока Ядвіся бачыла, як злева ад яе паляцелі ў прорву кар'ера людзі, і ў тое ж імгненне мужчына, што стаяў наперадзе, выпрастаўся, паваліўся на яе. Яна адступіла на крок, сарвалася, паляцела ў бездань.

Ачнулася яна ад холаду, што ціснуў на грудзі. Было цёмна. Яе галава тулілася сярод нейкай цясніны. Замёрзлая памяць ляніва вярталася да яе. Дзе яна, што з ёй, чаму галава заціснута і яе немагчыма ўзняць?

Але як толькі вярнулася памяць, усё цела працяў гарачы страх. Яе левая рука лёгка вызвалілася з-пад нечага мяккага, пачала мацаць навокал. Пальцы натыкаліся на каляную тканіну і такія ж халодныя валёнкі. Потым яны намацалі халодны мокры нос і мокрыя пад ім вусы. Яе страсянула ад гэтай ліпкай макрэчы. Яна ўжо ведала, што ляжыць сярод трупаў і тыя трымаюць яе за ногі і правую руку.

Памалу яна вызваліла спачатку руку, а потым і ногі. Але галава ўсё яшчэ была заціснута, і яна з цяжкасцю павярнула яе, глянула ўгору. Там у небе, адзіная на ўвесь сусвет, гарэла зорка і весела падміргвала ёй.

«Божачка, што ж я ляжу жывая сярод мёртвых»,— раптам падумалася ёй, і такая прага да жыцця ахапіла яе, што яна папаўзла, баючыся стаць на ногі. Здавалася,

мерцвякі будуць хапаць яе за ногі, не даючы магчымасці выбрацца з кар'ера.

Вочы патроху прывыкалі да цемры. У кар'еры нават было светла ад бялюткага снегу. Чарнела толькі гара трупаў ды схіл стромы, па якой падалі расстраляныя людзі.

Адпоўзшы крокаў на пяць ад гары трупаў, Ядвіся паспрабавала стаць на ногі і правалілася па пояс у пульхны снег.

«А след?.. Я ж пакіну след у снезе,— у роспачы падумала яна, і ёй не захацелася выбірацца адсюль.— Заснуць бы тут і не прачнуцца. Трэба паўзці, дык немцы не здагадаюцца...»

Затоенае ў грудзях цяпельца ўжо не хацела гаснуць. Ядвіся папаўзла па снезе, туды, дзе гарэла адзіная на небе зорка. Па схіле кар'ера тут рос малады беразнячок, голы і кволы ў такую пару. Але Ядвісю ён утрымліваў. Можа, праз гадзіну яна выбралася з кар'ера, пайшла па краі кручы і неўзабаве натрапіла на ледзь прыкметную сцежку, якая і вывела яе на дарогу.

Яна ішла, не задумваючыся, куды ідзе, ды і не было сэнсу ў тых развагах — Ядвіся не ведала гэтых краёў. Неўзабаве дарога прывяла яе ў лес. Стала зацішна і вельмі холадна рукам. Яна засунула рукі за пазуху, прымусіла сябе ісці.

Ужо недзе пад раніцу яна ўбачыла два агеньчыкі ў цемры, пайшла на іх, баючыся, што не дойдзе, падганяючы сябе ўпартым словам: ідзі, ідзі...

## 34

Пасля запозненага снядання ўсе забраліся на печ — у хаце было холадна, ля парога пакрысе раставала лужа. Міхась пайшоў на двор. У снежнай смузе ярка свяціла чырвонае сонца, нізкае і халоднае. Шалёны вецер круціў снег, над стрэхамі курыліся бліскучыя пад сонцам слупкі снежнага пылу.

Мароз, здаецца, мацнеў, было цяжка дыхаць і балюча глядзець на яркую віднату поля, якое чамусьці плыло, пераліваліся хвалямі — як кінуць вокам паўзлі, падвівалі хвастамі снежныя сувоі.

У Даўгяліхі як заўсёды поўна дзяўчат і хлопцаў. Сярод хаты на табурэтках сядзелі двое дзіўных людзей. Мі-

хась ніяк не мог угадаць, хто яны. Ваеннапалонныя? Але чаму ў нямецкай форме?

Нізенькі і рыжаваты чалавек, пабачыўшы Міхася, ускочыў з табурэткі, замахаў рукамі, выгукваў нешта незразумелае. Міхась са страхам пазіраў на яго. Вар'ят нейкі! Парваны стары шынель, падпяразаны брудным ручніком з вышытымі па краях чырвонымі пеўнямі. На нагах саламяныя чуні. Галава абматана шарсцяной хусткай. Але найбольш Міхася ўразіў выраз твару. У чалавека палахлівыя вочы, якія ўсё бегаюць, мітусяцца, быццам шукаюць ратунку. Вусны перасмыкаюцца, а левая шчака, чамусьці пачарнелая, торгаецца.

— Алес — капут... Война — капут. О майн гот! Іх бін зольдат... Фарштэйн? Афіцырэн загт: комэн зі форвертс... Іх віль ніхт штэрбен!..

Міхась разгублена слухаў немца. Чаго ён хоча ад яго? Тады з табурэткі падняўся другі немец, доўгі, худы, у нейкім жаночым паліто. Ён схапіў чорнай абмарожанай рукой свайго таварыша, сілком пасадзіў яго на табурэтку.

— Шпрэхен зі дойч?

— Шлехт...— адказаў Міхась.

Немец, павoлі вымаўляючы словы, памагаючы жэстамі і мімікай, пачаў расказваць пра сябе. Міхась збольшага разумеў яго.

— Што ён кажа? Што? — наперабой пыталіся хлопцы.

Міхась перакладаў.

...Афіцэры казалі, што рускія разбіты. Маскву абараняюць смяротнікі, якіх прыкавалі ланцугамі да кулямётаў і гармат. Афіцэры хлусілі. Рускія не разбіты. Яны бамбілі. У іх новыя гарматы. О, гэта трэба перажыць. Зямля становіцца чорнай. Мы адышлі. Казалі, што гэта новыя пазіцыі. Раніцай на пазіцыі наляцела конніца. Галовы ляцелі на снег. Мы з Петэрам адразу кінуліся ўцякаць. Вайна прайграна... Гітлер звар'яцеў, калі ўздумаў перамагчы рускіх. Мы з Петэрам ідзём дамоў. З нас хопіць.

— А божачка, дык хіба ж яны дойдуць? — здзівілася Даўгяліха.— Замерзнуць жа, чэрці.

— Няхай замярзаюць, было ім сюды не перціся,— адказаў Лёшка.

Немцы між тым, ухапіўшыся за Міхася як за чалавека, што хоць крыху ведае мову, спрабавалі высветліць, як лепш прайсці, каб абмінуць горад. У горадзе іх зловяць

і расстраляюць. Міхась спрабаваў растлумачыць, але, відаць, яго дрэнна разумелі — гаварыць па-нямецку ён амаль не ўмеў.

— Лёшка, можа, у цябе карта ёсць? — запытаўся ён у Лямзы.

Той прыпёр падручнік па геаграфіі. Па маленькай карце Міхась стараўся паказаць немцам, як лепей абысці горад. Даўгалыгі салдат узіраўся ў карту і, здаецца, разумеў, што хацеў давесці яму Міхась. Ён схапіў Міхасёву руку, доўга ціснуў яе, потым паляпаў па плячы.

— Данке, данке шон,— і штосьці быстра пачаў гаварыць свайму таварышу.

— Няўжо пайдуць? — запытала Даўгяліха.

— А куды ім дзявацца...

— Драпаюць.

— Дачакаліся і мы, што яны ўцякаюць.

— Прышыць бы іх тут...

— Знайшоў каго прышываць.

— Далёка яны не адыдуць.

— Дзіва што...

Даўгяліха адчыніла скрыню, дастала бохан хлеба.

— На, бяры... З голаду ж падохнеце,— сказала яна, падаючы хлеб доўгаму.

Той разгублена міргаў белаватымі, як бы выцвілымі вачамі. Потым упаў на калені, стараўся схапіць Даўгяліхіну руку, а яна спалохана хавала яе за спінай. Немец нешта закрычаў на таго, што сядзеў на табурэтцы, потым падхапіўся, палез да яго за пазуху. У яго каструбаватых пальцах раптам бліснуў тоненькі залаты пярсцёнак. Немец соваў пярсцёнак Даўгялісе, а яна адштурхоўвала яго руку. Ён, відаць, зразумеў, што пярсцёнка жанчына не возьме.

Тады ён прыпаў да яе рукі вуснамі.

— Іх вердэ эс ніхт фэргесен,— сказаў ён.

— Што ён кажа? — запыталіся ў Міхася.

— Што ён ніколі не забудзе гэтага...

— Дзіва што такое запомніш.

— Калі жывы застанецца.

— Далёка ім ісці...

Калі яны нарэшце пайшлі, Даўгяліха сказала:

— Буду я ў яго пярсцёнак браць... Можа, з забітага зняў, во і хоча аддаць.

## 35

Роўна а дзесятай гадзіне пунктуальны гебітскамісар Віцінг прыязджаў у рэзідэнцыю камісарыята. Царква, дзе размяшчаўся камісарыят, жэрла безліч дроў, але ўсё роўна ў ёй было холадна.

Чыноўнікі камісарыята хадзілі ў шынялях наапашку, хоць гэта і супярэчыла статуту. Многае цяпер супярэчыла статуту: шарсцяныя світэры і кофты, абыякавыя вітанні, перашэптванні, якія спыняліся, калі паяўляўся камісар.

Удар Чырвонай Арміі пад Масквой адгукнуўся ў тыле пакуль што не вельмі выразным рэхам, але дастаткова моцным для чуйнага вуха Віцінга. Гебітскамісар адчуваў, як пахіснулася дысцыпліна, і аднаго разу на свае вочы пабачыў поўную машыну дэзерціраў, якія беглі куды глядзяць вочы. Двух малодшых афіцэраў па загаду Ютнера расстралялі, астатніх накіравалі на фронт крывёй выкупіць сваю віну перад рэйхам і фюрэрам.

Ліха пабяры, нібелунгі, арыйцы, уцякаюць, як статак бараноў.

Ота Віцінг усё часцей прыгадваў сваю размову з Зігфрыдам фон Лейме-Тротшэ. Цяжкія непаслухмяныя думкі апаноўвалі гебітскамісара. На што намякаў гэты нашчадак прускай знаці? Якіх гарантый чакаюць на Захадзе? Ад каго? І хто перад кім будзе адказваць у канцы вайны?

Канец вайны ўяўляўся яму звычайным, як і кожны канец усіх войнаў, што вяліся дасюль: заключэнне міру, кантрыбуцыя, страта тэрыторый. А што, калі зараз будзе нейкі іншы канец? Бо і вайна ідзе інакшая і не зусім па правілах, як казаў Зігфрыд.

Цяпер ён раскайваўся, што спалохаў Зігфрыда. Не так сабе той усчаў небяспечную размову. Нешта было ў яго такое, што напэўна дапамагло б у будучым. Ды страчанага ўжо не вернеш.

Першы, хто зайшоў да яго, быў Ютнер. Ён сеў у крэсла з пахмурым выглядам чалавека, якому не шанцуе.

— Што-небудзь здарылася, штурмбанфюрэр? — спытаўся Віцінг.

— Я прыйшоў развітацца,— сказаў Ютнер.— Мяне адклікаюць у рэйх.

Гебітскамісар ведаў, што берлінскае начальства нездаволена Ютнерам. Як яны ні стараліся схаваць два вялікія

ачагі партызанскіх дзеянняў на Падзвінні, Берлін пра гэта даведаўся. Але Віцінг ніколі не думаў, што справа прыме такі круты паварот.

— Віншую, Ютнер,— няшчыра сказаў ён, хаваючы ад Ютнера сваю дасведчанасць.— Нават самая маленечкая нямецкая вёска лепей за руска-азіяцкі горад...

— Я заўсёды рабіў там, куды пасылала мяне Германія і фюрэр,— урачыста, але з адценнем незадаволенасці адказаў Ютнер.

— Мне шкада, Ютнер, што вы пакідаеце нас. Мы нядрэнна служылі вялікай Германіі,— таксама крыху ўрачыста сказаў Віцінг.

— На маё месца прыязджае штандартанфюрэр Цільсман,— не рэагуючы на Віцінгавы словы, паведаміў Ютнер.

— Цільсман?..

— Вы знаёмы са штандартанфюрэрам? — Ютнер пільна паглядзеў на Віцінга, і той зразумеў, што Ютнер падумаў, нібы ў ягоным ад'ездзе вінаваты ён, гебітскамісар.

— Я крыху ведаю штандартанфюрэра,— прызнаўся ён.— Баюся, мне будзе цяжка працаваць з ім...

Віцінг адчуў, што Ютнер паверыў яму. Ён сапраўды быў задаволены Ютнерам і не хацеў бы мяняць яго на ганарлівага Цільсмана.

— Так, мы няблага працавалі,— памякчэў Ютнер.— На жаль, там не разумеюць ці не хочуць разумець нас. Жадаю вам поспехаў, пан гебітскамісар, і хачу папярэдзіць вас, што я пакінуў для штандартанфюрэра незакончаную справу на вашу перакладчыцу. Я ўсё ж падазраю яе...

— Дзякуй, Ютнер... Але дарэмна вы... Зрэшты, справа бяспекі выяўляць варожыя нам элементы...

Ютнер пайшоў, а Віцінг стаў думаць над сітуацыяй, што ўтварылася з прызначэннем Цільсмана на месца Ютнера.

Ота Віцінг даражыў сям'ёй, гэтай маленькай цытадэллю вялікага рэйха, любіў хатнюю ўтульнасць, хоць карыстацца ёю выпадала вельмі рэдка. Ды, папраўдзе, і ягоная Эльза належала да тых сучасных нямецкіх жанчын, якія не вельмі любілі займацца хатнімі справамі, аддаючы перавагу партыйнай дзейнасці. Яны і пазнаёміліся аднойчы на мітынгу, дзе выступаў кумір жанчын, прыгожы і даступны Генрых Герынг. Эльза любіла вайскоўцаў, асабліва тых, што належалі да авіяцыі, але выйшла замуж за Ота Віцінга, і ён даражыў гэтым.

На вольнасці фрау Эльзы Віцінг глядзеў скрозь пальцы. У вышэйшым свеце гэта непазбежна. Ота Віцінг ведаў, што ў фрау Эльзы ёсць друг і заступнік штандартанфюрэр Цільсман. Але ён верыў, што іхняя дружба не выходзіць за рамкі прыстойнасці.

Лейме-Тротшэ троху пахіснуў гэтую ўпэўненасць. З вясёлай усмешкай ён сказаў аднойчы, што Герынг захапляецца артысткамі балета. А калі Віцінг запытаўся, ці ведае пра гэта фюрэр, Лейме-Тротшэ сказаў, што і сам фюрэр дазваляе сабе песціцца ў абдымках прыдворнага фатографа Евы Браўн.

— Ота, вы можаце сабе ўявіць нашага фюрэра без штаноў? — спытаўся ён у Віцінга.— Я, напрыклад, не магу...

Гэта ўжо было непрыстойна, і Віцінг тады рашуча спыніў фрывольную размову.

— Дарагі Зігфрыд,— сказаў ён,— нават каралі мелі дзяцей.

Выйшла так, нібы Віцінг паставіў фюрэра ніжэй каралёў, але Зігфрыд перамяніў тэму гаворкі.

Прызначэнне Цільсмана стварала нейкую нязручнасць для Віцінга. Ён спрабаваў здагадацца, што гэта за нязручнасць, але ў галаву лезла рознае глупства. Трэба было пазваніць у Берлін. Як здарылася, што Ютнер едзе раней, чым Цільсман прыняў ад яго справы? За гэтай перастаноўкай нешта хавалася.

Дзяжурны прынёс зводку. Чырвоная Армія за ноч прасунулася больш як на трыццаць кіламетраў. Вар'яцкі тэмп. Калі так пойдзе, дык з Цільсманам яны сустрэнуцца на паўдарозе да Берліна.

Афіцэр сувязі сказаў, што яго выклікаюць па прамым провадзе. Ён узяў трубку.

Званіў Цільсман. Віцінг павіншаваў яго з прызначэннем. Цільсман прыняў віншаванне без асаблівага энтузіязму.

— Дарагі Ота,— лішне ўжо фамільярна звярнуўся ён да Віцінга,— вы не будзеце супраць, калі са мною да вас завітае фрау Эльза. Яна вельмі сумуе па вас, ды ў яе ёсць і справы...

Віцінг і ўзрадаваўся, і нечага спалохаўся.

Ён паклікаў дзяжурнага, прыказаў:

— Паклічце да мяне фройляйн Людмілу.

Перакладчыца не прымусіла доўга чакаць. Яна зайшла і спынілася ў парозе.

— Слухаю, пан гебітскамісар,— сказала яна.

Віцінгу падабалася яе сціпласць і дзявочая сарамлівасць. А Ютнер выдумвае чорт ведае што. Гэтым супрацоўнікам тайных службаў заўсёды нешта здаецца.

— Фройляйн Людміла,— сказаў Віцінг, чамусьці не пазіраючы на перакладчыцу,— я надакучыў вам сваімі просьбамі. Але гэта ў апошні раз. Да мяне хутка прыязджае жонка.

— Віншую вас, пан гебітскамісар,— адгукнулася перакладчыца.

— Трэба было б навесці парадак у маёй халасцяцкай кватэры...

— Але я прыбрала яе ўчора...

— Я думаю пра грунтоўнае яе пераабсталяванне,— сказаў Віцінг.— Па вашым густу. Цяпер кватэра, даруйце, пахне казармай.

— Мне адной будзе нялёгка...

— Я распараджуся, каб вам памаглі...

Ноччу ў абсталяванай па густу перакладчыцы кватэры ў былым архірэйскім доміку на беразе ракі Віцінгу прысніўся дзікі сон.

Яго ў берлінскім кабінеце прымаў сам фюрэр. Фюрэр стаяў за сталом, на якім ляжалі парабелум і чорныя пальчаткі.

Віцінг прывітаў фюрэра, але той закрычаў на яго:

— Ты прывёз мне тое, што абяцаў?

Віцінг ніяк не мог успомніць, што ён абяцаў фюрэру прывезці.

Фюрэр выбег з-за стала, і тады Віцінг з жахам пабачыў, што фюрэр без штаноў. У адных падштаніках.

— Ты чаму не па форме адзеты? — Фюрэр паднёс кулак да твару Віцінга.— Кінуў фронт і прыбег сюды...

Віцінг азірнуўся — ён стаяў перад фюрэрам зусім голы.

— На фронт яго,— фюрэр штурхнуў Віцінга пад бок.

Віцінг расплюшчыў вочы.

Ля ягонага ложка стаялі два афіцэры і перакладчыца Людміла. У аднаго з афіцэраў — ліхтарок, які скупа асвятляў ложак.

— Што такое? — Віцінг сеў на ложку.

Яму хацелася ўстаць, але было няёмка перад перакладчыцай. І ён ніяк не мог зразумець, чаму афіцэры прыйшлі разам з ёю.

— Што такое? — паўтарыў ён ужо строга і незадаволена.

— Спакойна, пан гебітскамісар,— сказала перакладчыца.— Мы прыйшлі выканаць прысуд народа за вашы крывавыя справы...

— Хто вы?..

— Народныя мсціўцы,— сказаў старэйшы з афіцэраў.

У яго было пядрэннае вымаўленне.

— Мне трэба апрануць гарнітур,— звяртаючыся толькі да старэйшага афіцэра, сказаў Віцінг.

— Вам хочацца памерці як салдату,— сказаў афіцэр,— але на гэта ў вас няма права. Вы загінеце як забойца і кат.

Ён узняў руку і тройчы стрэліў у грудзі.

Віцінг паваліўся на падушку. Яго ашклянелыя вочы глядзелі ў столь.

...Ноччу ў дзверы нехта пастукаў. Міхась Ланкевіч падбег да дзвярэй, дрыготкім голасам спытаўся:

— Хто там?..

— Міша, свае,— Міхась адразу пазнаў гэты голас — Карл Эрнставіч Ланге.

На двары стаяў запрэжаны ў вазок конь. Ланге ў форме нямецкага афіцэра папрасіў паставіць каня ў хлеў.

— Мы ў цябе пераднюем,— сказаў ён.— Немцаў не бывае?

— Даўно не было, з самай восені,— адказаў Міхась, прыглядаючыся да двух астатніх.

Мужчына быў яму незнаёмы. А жанчыну ён пазнаў адразу — Людміла Герасіменя.

Пад вечар госці пачалі збірацца ў дарогу. Міхась здагадваўся, што яны ідуць насустрач фронту, і яго аж распірала ад жадання папрасіць Карла Эрнставіча, каб узяў яго з сабой. Ды ўсё не хапала смеласці.

— Вазьміце і мяне з сабой...— адважыўся ён нарэшце і засмуціўся, калі Ланге сказаў яму:

— Ты патрэбны тут... Праз тыдзень прыкладна да цябе прыйдуць. Пароль такі: ці даўно вы былі ў Падзвінску? Ты адкажаш: а што там рабіць? Табе тады павінны сказаць: у горадзе ўсе навіны... Запомніў? Толькі сам цяпер у горад не хадзі. Можаш у бяду трапіць.

Яны паехалі, пакінуўшы ў душы Міхася надзею на нейкія вялікія справы.

Карл Ланге, Людміла Герасіменя і Славік Чыж на другія суткі шчасліва прыехалі на леснікоў хутар пад Лісінымі ямамі, дзе некалі Галай разам з гаспадаром і ягоным госцем прынялі бой з дыверсантамі.

## 36

Праз густую наледзь акна ў хату прабівалася сіняе месячнае святло, зусім кволае, каб разагнаць начныя пацёмкі. Было дзіўна, як Каршукоў абмінае рэчы, мераючы пакой сваімі нягнуткімі цыбатымі нагамі.

Дзён пяць Чабаноўскі супакойваў Каршукова, прыдумваў розныя акалічнасці, якія маглі затрымаць Ядвісю. На шосты дзень ён прамаўчаў. І тады Каршукоў закружыўся па хаце.

Яны прадаўжалі жыць на выселках, займалі ўдвух чыстую палавіну вялізнай хаты з вокнамі на панылы поплаў. Гаспадар, Уладакаў дзядзька, зрэдку заходзіў да іх, расказваў пра навіны. Навіны не радавалі. А тут яшчэ навалілася сваё гора.

У глухой цішыні грукалі абцасы. Грук-грук-грук-грук-грук. Паварот. І зноў: грук-грук...

— Саніслаў Цітавіч, прысядзь ты, калі ласка. Ну што ты ўсё ходзіш?..

Чабаноўскі пакутаваў не менш за Каршукова... і ўсё ж не так востра і балюча, як ён. «Чорт мне собіў дадумацца, каб пасланць на сувязь Ядзю,— роспачліва думаў Чабаноўскі.— Цяпер і самі сядзім як прыкаваныя. Трэба было пайсці ўсёй групай. Ды і ён адразу згадзіўся. Чаму?..»

Каршукоў усё мераў пакой: удоўж, упоперак, па дыяганалі. У месячным святле яго постаць здавалася высокай, няўклюднай і жахлівай, як здань. Яна то насоўвалася на Чабаноўскага, то аддалялася.

«Нядобра выйшла,— прадаўжаў разважаць Чабаноўскі.— Сем мужчын, а жанчыну ў разведку паслалі. От, чорт пабяры, джэнтльмены. Няхай бы Лёньку паслаў, гэты з любой бяды выдзерацца. А можа, дарэмна хвалюемся. Магла ж яна затрымацца. Факт, магла. Усё роўна брыдка... Бегае вунь, як воўк у клетцы».

На другой палавіне чагосьці спрачаліся гаспадары. Гулкія крокі перашкаджалі слухаць, чаго спрачаюцца старыя. Хоць і гэта няважна. А што важна? Вайна. Хай ёю чорт падавіцца...

— Я ўсё разумею, Станіслаў Цітавіч,— загаварыў ён.— Вінаваты, вядома, я, і ты сябе не карай. Мне тады ўзбрыла ў галаву гэтая ідэя. Думалася, жанчыне лягчэй будзе прайсці паўз гарнізоны... Давай закурым, Станіслаў Цітавіч...

— Не хачу.— Каршукоў захадзіў спарней.— Дараваць

чалавеку вунь як велікадушна. Знаю. А сам сабе калі дарууш?

Ён нечакана падышоў, сеў ля Чабаноўскага. Рукі заціснуў між каленяў. Чабаноўскі прыпаліў самакрутку, паднёс Каршукову, сілком усунуў у рот.

— Куры, дзівак чалавек... Катавацъ сябе таксама лёгка.

— Думаеш, я сябе караю. Род людскі — во каго. Да чаго ж подла свет збудаваны. Ды ты не дзівіся. Думаеш, той, каго мы тады шлёпнулі, з падгопцам на гэту афёру бег? Скруцілі яго ў барані рог і сунулі, як рака ў кіпень. Мы яго шлёпнулі, а той, хто яго пасылаў, новага шукае. А ты сам ідзі, калі табе падабаецца подласць.

— Чакай, чакай,— спыніў яго Чабаноўскі,— ты ж не стаў сволаччу, як той, а цябе ж вербавалі.

— Во, во,— падхапіў Каршукоў,— чаму свет так пабудаваны, што чалавек не можа сам сабой распараджацца? Чаму я павінен ад кагосьці залежаць?

— Ну і загнуў,— абурыўся Чабаноўскі.— Свет цяпер сам сябе адстойвае ў барацьбе з фашызмам. А фашызм — гэта самая агалцелая дыктатура манапалістычнага капіталу супраць рабочых.

— Палітграматай хочаш мяне даканаць. Давай, давай,— згадзіўся Каршукоў.— Толькі я табе, Аляксандр Нікіфаравіч, вось што скажу, па-свойму, па-мужыцку. Непарадак гэта, калі моцны слабага прымушае рабіць тое, што слабаму не хочацца. А па якому праву прымушае?

— Я табе растлумачу зараз...

— Знаю, што ты скажаш. Бацькаўшчына. Абавязак. Гонар. Слоў такіх шмат. І кожны народ лічыць, што яго бацькаўшчына найлепшая, яго гонар найвышэйшы. А таго не разумеюць, што некалькі палітыканаў увесь свет баламуцяць. Даць бы ім па шапцы. Не перашкаджайце нам жыць.

— Умора з табой, Каршукоў. Зусім заблытаўся...— ад душы засмяяўся Чабаноўскі.

— А можа, не я, а ўвесь свет у трох соснах заблытаўся. Ну ты мне скажы, хіба хоць адзін народ хоча вайны? Ды наліха яна яму.

— Ну, мы ведаем, за што ваюем.

— Ды я не пра даную сітуацыю, а наогул.

— Ідзі ты!.. Знаеш, Каршукоў, паслухаўшы цябе, дык анархіст ты махровы, во хто. І гаворыш так таму, што Ядвіся пайшла на сувязь і пакуль не вярнулася. А сам жа яе па зброю ў Хвалковічы пасылаў і за мной таксама.

— А па якому праву?

— Ну, ведаеш, па праву савецкага чалавека, па таму праву, што хтосьці людзей згуртоўваць павінен, на барацьбу іх за лепшую долю ўзнімаць. Што ж, па-твойму, камандзір не мае права байца ў разведку паслаць? У атаку не можа падняць? Так, ведаеш, свет сапраўды, чорт яго напішы, куды дакаціўся б.

— У камунізм дакаціўся б,— спакойна сказаў Каршукоў.

— А гэта ўжо наіўна. Утопія. Былі такія філосафы, якраз як і ты мыслілі.

— Значыць, былі? — скрушліва запытаў Каршукоў.— А я думаў, што першы да такой мыслі дайшоў. Ну і што яны?

— Нічога, лопнула іх утопія. Кожнае жывое, Станіслаў Цітавіч, у муках нараджаецца — новае грамадства таксама. За камунізм змагацца трэба, па божаму хаценню ён не паявіцца. Зразумеў?

— Зразумеў... Толькі, брат, усё роўна свет не на той капыл зроблены. Цесна.

Чабаноўскі ўзяў за правіла вучыць Каршукова звычайнай палітграмаце. Той слухаў уважліва, але вельмі часта збіваў свайго настаўніка з тропу нечаканым і, здавалася, вельмі наіўным пытаннем. Тады ўзгаралася спрэчка, якая магла цягнуцца гадзінамі.

Яны сядзелі ля акна, пазіраючы на поплаў і шэранькія кусты над рэчкай. За ракой, кіламетраў за сем, відаць была вёска Глінішча — доўгая, раскінутая па шашы. Сонца ўжо зайшло, і вечарэла хутка. Толькі на захадзе ўсё яшчэ гарэла кромка неба.

Пачулася далёкая траскатня кулямётаў, і не паспелі яны ачомацца, як у Глінішчы ўспыхнуў пажар. Яны выбеглі на двор, забыўшыся на перасцярогу. Гаспадар ужо стаяў там.

— Што гэта? — здзівіўся Чабаноўскі.

Гаспадар увагнаў сякеру ў яловы чурбан, разважліва адказаў:

— Па ўсім відаць, нашы ідуць. Трэба было б скаціну ў лес схаваць. Калі бой разгарыцца, дык і тут не ўседзіш.

Яго спакойны, упэўнены голас адразу развеяў сумненні. «Божа, як усё звычайна. А я ўсё думаў, як гэта адбудзецца»,— прамільгнула ў галаве Чабаноўскага.

— Стась, пайшлі ў хату,— загадаў ён Каршукову.

На кароткай нарадзе было вырашана ісці на дапамогу

арміі, якая вяла бой за Глінішча. Пакуль збіраліся да кучы, бой аціх. Ніхто не ведаў — немцы выбіты з Глінішча ці не. Але ўсё ж вырашылі ісці туды.

З-за лесу падымаўся чырвоны шчарбаты месяц, акружаны марозным ззяннем. Дзьмуў рэзкі, шчыпучы вецер, і мароз, здаецца, набіраў моцы.

Над Глінішчам зрэдку ўспыхвалі ракеты. Яркая відната то рассоўвала мройную сінізну, то зноў уступала ёй наваколле.

Каршукоў сабраўся пайсці ў разведку. Чабаноўскі не стаў пярэчыць — Каршукова не адгаворыш. Астатнія залеглі ў снег. Чакаць давялося доўга. Здавалася, Каршукоў ужо ніколі не вернецца. Ісці яму насустрач было рызыкоўна. Адубелыя рукі ўжо не хацелі трымаць зброю.

Нарэшце ён прыйшоў. Апусціўся ў снег, схапіў прыгаршчы снегу, выцер твар.

— Пабілі іх,— хрыпла сказаў ён,— чалавек трыццаць, кажуць.

— Дык што,— яны з неба зваліліся?

— Кажуць, лыжнікі прарваліся, а з горада падмацаванне падкінулі. Ну іх і акружылі... Немцаў таксама шмат бітых.

— От табе і адказ на нашу размову,— напомніў Чабаноўскі.— Я так мяркую, што лыжнікі — разведка, а галоўныя сілы недзе кіламетраў за дваццаць стаяць. А можа, і бліжэй. Трэба ісці насустрач.

Гуляў па полі вецер, гнаў сухі калючы снег. І раўнадушна на зямлю пазіраў шчарбаты месяц.

Каршукоў задумліва глядзеў на яго, маўчаў. Было ў ягоным маўчанні штосьці трывожнае.

— Вы ідзіце,— нарэшце сказаў ён.— Чуеце, як грыміць кананада? І стужка вогненная неба апаясала. Фронт зусім блізка. Дойдзеце... Па вогненным гэтым азімуце дойдзеце.

— А ты? — здзівіўся Чабаноўскі.

— Мне туды рана,— адказаў Каршукоў.— Ды і Ядзю хачу дачакацца. А не дачакаюся, скажыце там, што Каршукоў сумленне сваё не прадаў.

— Тады і мы не пойдзем,— запратэставаў Чабаноўскі.

— Вы пойдзеце,— рашуча адказаў Каршукоў.— Вы там патрэбны. У вас свой абавязак, у мяне — свой.

Як яго ні ўгаворвалі, а Каршукоў вярнуўся назад.

## 37

З печы Ядвіся бачыла, як недацёпісты рослы гаспадар, шырока растапырыўшы локці, цадзіў праз брудную анучку малако і незадаволена бурчаў пад нос:

— Эста таго, апяць няпоўны збаноцак. Бозацка добры, бозацка мілы, рай ёй светлы, а толькі на стоз кароўку было порціць...

Ядвіся ўжо ведала пра нечаканую смерць гаспадыні і пра тое, што гаспадар баяўся яе і мёртвую. Лічыў ён яе ведзьмай і верыў, што яна з таго свету шкодзіць яму. Быў ён з выгляду баязлівы, зацюканы і бяскрыўдны, ажно не верылася, быццам ён мог атруціць жонку. Ядвіся шкадавала яго: народзіцца вось такі недарэка сабе на пакуты, а людзям на смех, валачэ лямку пра усё жыццё без патрэбы і сэнсу.

Пра жонку ён расказваў скупа, часам хваліў яе:

— Эста таго, мілацка, яна ў мяне была бабацка спрытная. Бывала, засціс або чаго не пацуес, дык так і перасвенціць цым папала, царства ёй нябеснае. Харосая была зонка.

У гаспадара было старасвецкае імя — Харлампій і прозвішча Чыж. Але прозвішча ён не выгаворваў.

— Я, мілацка, Харлампій Цыс,— назваўся ён у першы дзень знаёмства.

Качыха так і звала яго — Цыс.

Тады, уначы, калі яна, не памятаючы як, дабралася да гэтай лясной, у глухамані вёсачкі, яе прытуліла немаладая бабылка па мянушцы Качыха. Яна і сама называла сябе так — Качыха.

Колькі дзён адлежала Ядвіся ў непрытомнасці, яна не ведала. Аднаго разу ачнулася і падзівілася: дзе яна, што з ёю? Плыў у галаве цяжкі, як пасля чаду, туман. Яшчэ праз два дні Качыха прысела да яе на ложак, сказала:

— Скажы дзякуй, што дасюль глядзела. Цяпер табе корм патрэбны, а я сама пабіраюся. Паслухай, што я табе скажу. Ёсць тут у нас прыдурак адзін, Цысам дражняць. На вёсцы брэшуць, што ён жонку атруціў. Ты людзей не слухай. Ён чалавек смірны. Пагадзіўся ён узяць цябе. Адкормішся, а там сама пабачыш, што рабіць...

Ядвіся напалохалася.

— Я дамоў пайду,— падхапілася яна з ложка і не ўстаяла на нагах.

— Куды табе,— сказала Качыха і, як ні прасілася Ядвіся, адвяла яе да Цыса.

Хата паволі затуманьвалася змрокамі. Яны падымаліся з закуткаў, з-пад лавак, з-пад стала, а насустрач ім такія ж шэрыя змрокі апускаліся са столі, з заседжанай мухамі бажніцы. Усё тут было чужое, ненавіснае.

Цыс працадзіў малако, наліў у конаўку, падаў Ядвісі.

— Эста таго, выпі, Ядвіська, сырадою,— стоячы каля печы, гаварыў ён.— Малацко дуза пальзіцельнае. Я, калі мальцонкам быў, на галаву хварэў. Маці мяне малацком адпаіла. Вызыў, толькі гаварыць па-людску развуцыўся. Язык не слухаецца...

Ядвіся піла цёплы сырадой, лежачы на баку. Над ёй нізка-нізка вісела чорная столь. Ядвіся аж жахнулася: столь, сцены і халодная ўжо чарэнь печы — усё было падобна на труну.

Яна не дапіла малако, аддала конаўку Цысу.

— Сто с ты? — сказаў Цыс, забраў конаўку, паставіў на лаўку, пачаў запальваць лучыну. Чырванаватыя водсветы ад яе загулялі трапяткімі языкамі па сцяне. Калі лучына дагарэла, водсветы зніклі.

«Вось так і жыццё — дагарэла, стала цёмна»,— падумалася Ядвісі.

У галаве зароіліся змрочныя думкі. Навошта яна такая Стасю?.. Каму яна наогул зараз патрэбна, хіба вось такому Цысу. Дык лепей ужо не жыць. Такое жыццё на сухі лес...

Цыс запаліў яшчэ адну лучыну. Стаў віць вяроўку. Ядвіся бачыла толькі ягоны агромністы няўклюдны цень на сцяне і столі. Страшны, пачварны цень. Ён варушыўся. Але не так цень, як палохала Ядвісю песня, якую спяваў Цыс. Ён сам яе выдумаў, складаючы на хаду, ці чуў дзе?

Ты, вяровацка, удавацка мая,
Абнімі за сыю моцна ты міня.
Крэпка, крэпка прыласкайся, прыгалуб,
Не зыццё, а катарга мне тут.

Дзікай была нават не песня, а думка, што працяла Ядвісю:

«Гэта ж ён для мяне ўе вяроўку. Ну і няхай. Шаўковай не прычакаеш. Божа, страшнай буду пасля смерці. Вісельнікі ўсе страшныя».

Яе пачала біць ліхаманка, хацелася закрычаць ад страху. Але яна толькі накрылася з галавой, каб не чуць коснаязыкую песню Цыса.

Цыс доўга не клаўся спаць, хадзіў па хаце, а калі лёг, усё варочаўся, гаварыў сам з сабой. Нарэшце ён заснуў.

Ядвіся адчула палёгку. Але тут жа за печчу азваўся цвыркун, завёў бясконцую песню. Як Цыс.

«У сенцах, мабыць, холадна,— падумала Ядвіся і сама здзівілася, што ліхая думка моцна застрала ў галаве.— Холадна будзе толькі спачатку».

Цяпер пра смерць думалася звычна. Але не ставала сіл падняцца. Як хто прыціснуў да печы. Цыс хроп. Спаборнічаў з цвыркуном.

Стараючыся не нарабіць шуму, Ядвіся злезла з печы, у непрагляднай цемры намацала вяроўку, зняла яе.

«Якая яна доўгая»,— мільганула ў галаве.

Перад апошнім крокам пастаяла, падумала, што трэба было б перахрысціцца, але рука была занятая вяроўкай.

Дзверы зарыпелі моцна. Цыс прадаўжаў храпці. У сенцах гуляў вецер. Ён секануў спачатку па нагах, потым неяк адразу ахапіў усё цела. Пад нагамі марозная наледзь. Падэшвы прыстаюць да падлогі. Даводзіцца тупаць, каб зусім не прымёрзлі.

Дастаць да бэлькі было немагчыма. Ядвіся перавярнула бочачку, забралася на яе. Дно бочачкі таксама ў шорсткай наледзі. Яна стала на пальчыкі, перакінула вяроўку цераз бэльку. Зашмаргнула яе. Зрабіла пятлю.

Усё рабілася як чужымі рукамі. Толькі тады, як прасунула галаву ў шырокую і калючую пятлю, зрабілася горача, а рукі перасталі слухацца.

Ёй зрабілася страшна. Ногі не хацелі трымаць, а надзетая на шыю пятля балюча рэзала шыю.

Яна нема закрычала, але крык не заціснула пятля. У вачах бліснуў агонь. І нечы голас прарэзаўся з глухаты. Ёй здалося, Цысаў.

Ачнулася яна на ложку ў хаце. Перад ёю ў святле лучыны стаяў Цыс, скрыжаваўшы на грудзях рукі.

— Бозацка, бозацка,— лямантаваў ён.— Сто с ты надумала? Маглі с падумаць, сто я цябе павесіў...

Цыс кідаўся па хаце, калоў трэскі, каб развесці вогнішча на прыпечку, бег да ложка, каб захутаць Ядвісю ў коўдру. Гэтак жа бесталкова ён нешта гаварыў, суцяшаў Ядвісю. Але гэта не зашкодзіла яму напарыць малака, наліць яго ў конаўку, абгарнуць ручніком, каб не горача было трымаць конаўку ў руцэ.

— Выпі малацка, сагрэйся,— казаў ён, пазіраючы на яе напалоханымі вачамі.— Каму хацела сагразіць? Сабе. Зызня стане лепшай, наладзіцца зызня. А цябе магло не быць. От, дурненькая. Памерці ніколі не позна.

Ядвіся вымушана была піць малако, і кожны глыток яго саграваў яе.

— Клопату я табе нарабіла,— павінілася яна.— Даруй, ды не магла іначай...

— Я ўсё разумею, усё,— сказаў ён.— Я сам напакутаваўся.

— Дзякуй табе...

— Цалавек цалавеку дабро павінен рабіць,— сказаў Цыс, і Ядвіся здзівілася, што разважае ён разумна, хоць і прыкідваецца дзіваком.— Душу табе палячыць трэба. Тут у нас прарок жыве. Я табе днём прывяду яго. Паспаведуешся — лягчэй стане.

Пасля снядання Цыс апрануў кажух, абуў валёнкі, пайшоў, а неўзабаве паявіўся з тым пракокам.

Ядвіся ляжала тварам да сцяны. Чула, як Цыс гаворыць прароку:

— Намуцылася яна, святы прароца, ой намуцылася. Душу ёй лячыць трэба.

— Верна, не пра цела нада думаць, пра душу,— сказаў прарок, і Ядвіся аж страпянулася.

Голас быў да болю знаёмы.

Яна павярнулася тварам на хату, знямела ад таго, каго пабачыла: сярод хаты стаяў, зарослы барадой, крыху атлусцелы Макар Сідаронак.

Ён, мабыць, таксама пазнаў яе, але выгляду чамусьці не паказаў. Падышоў да ложка, паклаў халодную далонь на Ядвісін гарачы лоб.

— Ізыдзі смутак з душы і чорныя думкі з галавы,— сказаў ён, і Ядвіся аж сціснулася ад ягонага дотыку і недарэчных слоў.— Схадзі, Харлампій, у крыніцу, прынясі вады ў прыгаршчах. Калі падыдзеш да дзвярэй, пастукай валёнкам. Сам ты не адчыніш. Ваду разальеш,— загадаў ён Цысу.

— Не трэба, Харлампій, не хадзі,— закрычала Ядвіся, баючыся застацца на адзіноце з былым сваім мужыком.

— Каму сказана, ідзі,— загадаў Макар, і Цыс паслухмяна выйшаў за дзверы.

Яны засталіся ўдваіх. Не маглі адвесці вочы адно ад аднаго.

— Ты тут у паліцыі? — спыталася яна.

— Я ўцёк з паліцыі,— адказаў Макар.— Прарокам раблю...

— Ты — прарок? — Ёй стала смешна, але яна стрымала ўсмешку.

— Я ведаю, ты ўцякла з-пад расстрэлу,— сказаў ён.— Як ты апынулася тут?

— Навошта табе?..

— Я цябе ўсюды помніў...

— Дзеля чаго?..

— Не знаю... Кручаная ты, а я ўсё пра цябе думаю,— прызнаўся Сідаронак.

— Жыццё ў нас кручанае,— сказала Ядвіся.

— Куды ты ішла?..

— Партызан шукала,— прызналася яна.— Не чуў пра іх?..

— Чуў...

— Дзе яны?..

— Нашы вунь ідуць, чырвоныя... Дык партызаны няйначай да іх рушылі...

— Нашы?..

— Уначы грыміць і зарава на ўсё неба... Ідуць...

Ядвісю як хто штурхнуў у спіну. Яна прыўзнялася, села на ложку.

— Макар, не адмоў у просьбе. Прашу цябе... Можа, ведаеш якую жанчыну. Хай яна сходзіць да аднаго чалавека, скажа, што я тут. Сама не магу ісці. Не стае сіл.

— Да Каршукова?..

— Не... Хоць і да яго... Не адзін ён там... Людзі з ім. Добрыя людзі. Зрабі ласку, знайдзі жанчыну. Жанчыне лягчэй дабрацца...

— Знайду,— паабяцаў Макар.

— І яшчэ, Макар, забяры мяне адсюль, забяры... Баюся я гэтага Цыса...

— Чаго не магу, таго не магу,— рашуча адмовіў Макар.— А па Коршака твайго пашлю жанчыну. Пашлю... Заўтра яна да цябе зойдзе. Дамаўляйся сама...

У дзверы мякка пастукаў Цыс. Прынёс ваду ў прыгаршчах.

— Палі мне рукі ёю,— загадаў Сідаронак.

Цыс растапырыў пальцы. На Макаравы рукі ўпала колькі кропляў крынічнай вады. Мокрымі рукамі Макар пагладзіў Ядвісю па галаве.

— Божа цябе засцеражы зрабіць гэтай жанчыне дрэнна,— сказаў Макар Цысу.— Святасць яе не паруш ні словам, ні справай, ні позіркам...

Ён пайшоў, пакінуўшы Ядвісю ў разгубленасці. Ці можна верыць Макару? Праўда, іншых дарог да Каршукова ў яе не было, але і гэтая здавалася дужа пагібельнай.

Праз тыдзень, калі асабліва лютаваў мароз, дзверы ў хату адчыніліся, на парозе паявілася спачатку захутаная ў хустку жанчына, а за ёй пераступіў парог Каршукоў. Ён зняў шапку. Ядвіся аж зайшлася ад жалю — Каршукоў быў сівы, як стары, стары дзед.

## 38

Ударныя арміі, выйшаўшы на беларускае Падзвінне, згубілі сваю наступальную сілу. На лясных заснежаных дарогах застралі тылы. Парушыліся забеспячэнне і сувязь. Лыжныя батальёны, разведка, конніца, пяхотныя падраздзяленні глыбока ўклініліся ў варожы тыл, на многія кіламетры адарваліся ад асноўных часцей. А за іх спінай яшчэ трымаліся нямецкія гарнізоны, з якімі вяліся жорсткія крывавыя баі.

Між тым нямецкае камандаванне імкнулася спыніць наступленне савецкіх войск хоць бы на галоўных магістралях. Танкавы корпус асядлаў абедзве шашы: на Смаленск і Сураж. Для савецкіх войск, што наступалі між гэтых дарог, паўставала пагроза трапіць у пастку. Паволі, але няўмольна савецкія войскі пераходзілі да абароны.

У размяшчэнне аднаго з такіх перадавых лыжных батальёнаў і вывеў Тышкевіч свой атрад. Батальён размяшчаўся ў Малых Луках, сяле на беразе балоцістай рачулкі.

На ўскрайку лесу партызан затрымаў дазор. Нечакана аднекуль з-пад елкі падняўся чалавек у белым маскхалаце, загадаў: «Адзін да мяне, астатнія на месцы пастойце. Ды не дурыце».

Тышкевіч, перамагаючы хваляванне, падышоў. Чырвонаармеец быў невысокі, моцны, кірпаносы. Ён стаяў, шырока расставіўшы ногі, неяк асабліва прыгожа трымаючы ў руках аўтамат.

— Вы хто і адкуль? — запытаўся ён, стараючыся надаць голасу строгасць.

Тышкевіч глядзеў на яго і ўсміхаўся. Яму хацелася абняць гэтага кірпатага хлопца, які з такой сур'ёзнасцю нясе службу.

— Сакратар Падзвінскага райкома,— далажыў ён.

— Партызаны, значыць. Давядзецца пачакаць.— Ён гукнуў кагосьці: — Лаўрэнцьеў, перадай там, што партызаны ў раёне паста затрыманы.— І ўжо зусім па-свойску спытаў: — Ну, як ён тут у вас — лютуе?

— Лютуе,— адказаў Тышкевіч.

— Адным словам, фашысты,— удакладніў вартавы.— Ну, ды цяпер нядоўга ім нашу зямлю таптаць.

У тыл іх прапусцілі толькі хвілін праз сорак. Вусаты старшына размясціў партызан у вёсцы Вялікія Лукі, папрасіў Тышкевіча крыху пазней зайсці да камандзіра батальёна.

Тры першыя дні партызаны прывыкалі да ціхага жыцця. Мыліся ў лазнях, адаграваліся ў цёплых, па-сямейнаму ўтульных хатах, шмат елі, яшчэ больш спалі. Тышкевіч трымаў сувязь з батальёнам. Нізенькі каржакаваты камандзір батальёна падпалкоўнік Чарамісаў паведаміў штабу пра Тышкевіча і яго атрад.

— А зрэшты, дарагі Іван Анісімавіч, дарэмна хвалюецеся,— гаварыў ён, пагладжваючы рэдзенькія рыжаватыя валасы.— Адпачывайце, набірайцеся сіл. Не будзе ўказанняў, забяру вас з сабой. Нашаму батальёну яшчэ давядзецца па тылах гойсаць. Ну, а вы з гэтай тактыкай добра пазнаёміліся. Так што за мілую душу залічу вас у свой батальён.

Але гойсаць па нямецкіх тылах не давялося: батальёну прыйшоў загад адысці.

— А нам што рабіць? — спытаўся Тышкевіч.

Мучыла яго неакрэсленае становішча, быццам яны нікому не патрэбны, быццам пра іх і ведаць ніхто не хоча. Вайна вайной, але ж некага павінна было б зацікавіць, што там за атрад выйшаў з варожага тылу.

— Заставайцеся пакуль тут, а я далажу ў штаб арміі.

На тым і пагадзіліся. Сталі чакаць.

Пасля пякучых мікольскіх маразоў завітала на Падзвінне хрышчэнская адліга з мяккім паўднёвым ветрам, з асмужаным бясхмарным небам, з малапрыкметным, але і адчувальным падаўжэннем дня.

Недзе на паўночным усходзе ішлі баі: грымела артылерыя і глуха рваліся снарады, часта і злосна стракаталі кулямёты. І без таго няпэўнае становішча атрада з кожным днём ускладнялася. Жыхары вёскі, якія так гасцінна сустрэлі партызан, цяпер паглядалі на іх коса, нецярпліва чакаючы, калі ж нарэшце кончыцца гэтае няпрошанае гасцяванне. Усё часцей узнікалі інцыдэнты, і Тышкевічу ўсё цяжэй было гасіць іх.

Новы год сустракалі па старым стылі — у ноч на чатырнаццатага студзеня. Багатая куцця была багатай і на падзеі.

Увечары, калі зімовае сутонне пачало апускацца на за-

снежаныя прасторы, вартавыя на паўднёва-ўсходнім краі вёскі ўзнялі трывогу. У вёску рухаўся нейкі абоз, які суправаджалі коннікі. Яны нечакана вынырнулі з-за пагорка, паволі з'ехалі ў нізіну. За імі пакаціўся абоз, падобны на бежанскі. У вячэрніх змроках абоз здаўся ўтрая большым, і аддзяленне, што размяшчалася ў крайняй хаце, дало драла.

Усчалася паніка. Людзі выганялі на вуліцу жывёлу, запрагалі коней, каб схавацца ў бліжэйшым лесе ад напасці. У гэтай неразбярысе Тышкевіч неяк сабраў атрад, падзяліў яго на тры часткі. Адну павёў насустрач абозу агародамі па аселым у адлігу снезе, каб сустрэць яго з поўдня, другую з Чаротным паслаў у абход злева, а трэцюю з Дубаўцом кінуў у лоб па вузкай вясковай вуліцы.

Абоз тым часам перасек ужо лог, і коннікі памалу падымаліся па пакатым схіле, каб метраў праз сто ўвайсці ў вёску.

Партызаны падаспелі ў час. Часанулі па абозе і справа і злева. Абоз запыніўся. Ашалелыя ад страляніны коні самі на хаду паварочвалі аглоблі, каб уцячы туды, адкуль прыйшлі. Коннікі ж занялі кругавую абарону, адкрылі аўтаматны і кулямётны агонь. Партызаны заляглі. На іхнім баку была перавага, і коннікі неўзабаве сталі адыходзіць, пакінуўшы партызанам трое саней і двух коней. Двое саней напакаваны свінымі і баранімі тушамі, у трэціх — сувоі палатна, даматканыя посцілкі, вышываныя абрусы, ручнікі і два малочныя бітоны з нейкай вадкасцю. Партызаны прынюхваліся, прыцэльваліся. Баяліся: можа, нейкая атрута.

Тады наперад выбраўся пусцяковы такі чалавечак з мясцовых, папрасіў:

— Дайце мне для вобшчаства пастарацца. Калі падохну, значыць, атрута, а выжыву, дадзіце гарнец...

Яму сунулі конаўку, на паўлітра, не менш, ён зачэрпнуў той вадкасці, шырока раскірэчыў ногі, моцна дыхнуў і выдыхнуў, як бы збіраўся з духам, пачаў жлукціць вадкасць. Партызаны стаялі затаіўшы дыханне, чакалі, што будзе. Чалавек выпіў, аддыхаўся, паматаў галавой:

— Гарэлка, халера ёй у бок, моцная, толькі клапамі смярдзіць. Здорава смярдзіць, халера, але піць можна...

У ноч пад Новы год па старым стылі партызаны зноў памірыліся з мясцовымі. Ледзь не ў кожнай хаце гарэлі агні, людзі сустракалі Новы, сорак другі год. Нічога, што са спазненнем на чатырнаццаць дзён.

У хаце на дзве палавіны, якую ўсе называлі штабам, сабралася камандаванне атрада. За стол селі рана, задоўга да поўначы — так сказаць, спачатку выпрашылі правесці стары год. Скупаватая гаспадыня за сувой палатна, посцілку і пару ручнікоў наварыла бульбы, насмажыла сала і каўбас, падала на стол капусту з мочанымі яблыкамі — не сказаць, каб дужа прыдатная закуска пад каньяк, але па ваенным часе найлепшая.

Тышкевіч не стрымаўся, сказаў прамову. Заканчваўся ліхі на благія падзеі год, які пад канец парадаваў перамогай пад Масквой. Яму дружна паапладзіравалі.

Пілі адной шклянкай па крузе. Каньяк прыемна кружыў галовы. Гаварылі мілае глупства, у якім, аднак, быў свой патаемны сэнс. Адзін Платон Бандарэнка панура маўчаў.

— Ты чаго? — нахіліўшыся да яго, спытаўся Тышкевіч.

— Думаю...

— І пра што?..

— Э-э-э, Іван Анісімавіч, чаго захацеў. Вартыя ўвагі думкі трымаюць пад замком, нявартыя — выстаўляюць людзям.

— Незразумела гаворыш...

— Дужа не падабаецца мне ўсё гэта — валтузня з намі. Прыйшлі як героі, а сустрэлі, як падазроных ці злачынцаў...

— А мне, думаеш, падабаецца? — сказаў Тышкевіч.

А назаўтра ў Вялікія Лукі нечакана з'явілася штабное начальства. Было яно невялікага рангу, але затое брала нахрапістасцю. Асабліва стараўся старшы лэйтэнант, па многа раз пытаючыся пра адно і тое ж, нібы стараўся злавіць Тышкевіча на нейкай хлусні. Надакучлівыя допыты гэтыя раздражнялі. Але даводзілася цярпець: Тышкевіч даказваў і людзям і сабе, што такія допыты непазбежны, бо на лбе ў партызан не напісана, што яны сумленна служылі Радзіме, а пільнасць зараз неабходная ўмова перамогі.

Атраду было загадана здаць зброю. Не дазволілі нават пакінуць пісталеты камандаванню. Зброю згрузілі ў адрыне, паставілі каля яе вартавых. Партызанам было забаронена без справы хадзіць па вёсцы да асобага распараджэння, і гэта асабліва было абразліва. Усе спробы Тышкевіча самому паехаць у штаб кончыліся безвынікова. Старшы лейтэнант умеў трымаць дысцыпліну.

Так доўжылася чатыры дні. На пяты нешта памянялася. Старшы лейтэнант раптам памякчэў, загаварыў з камандаваннем пачціва і нават угодліва. Тышкевічу, Чаротнаму і Дубаўцу была вернута зброя. Жыць стала весялей, хоць не перастявала грызці крыўда.

Яшчэ дні праз два ў Вялікія Лукі прыехаў асобаўпаўнаважаны ЦК, палкавы камісар Стрыжак. Атрад быў расфарміраваны. Яму загадалі рухацца на Старое Сяло і Селязні, дзе атрад уліваўся ў рэгулярную армію. Тышкевічу прапанавалі пакінуць пры сабе дванаццаць партызан па выбару. Выбіраць асабліва вялікага клопату не было; Тышкевіч пакінуў тых, хто жыў з ім у зямлянцы Лісіныя ямы, ды яшчэ Дубаўца і Яльцава. Прапаноўваў застацца і Бандарэнку. Той панура маўчаў, пазіраючы сабе пад ногі.

— Не ўжо, адпусці з атрадам ісці,— нарэшце сказаў ён.— Разам у тыле ваявалі і на фронце будзем разам.

Яго прызначылі старшым па атраду.

Развітанне прайшло скупа і суха. Калі атрад рушыў у дарогу, Тышкевічу здалося, што ён губляе нешта вельмі дарагое і незваротнае. Падумалася, што трэба было б і яму зрабіць так, як Бандарэнка,— трымацца сваіх. Можа, і пашанцавала б, пакінулі б іх разам. Разумеў, што спадзяванне гэта наіўнае, але хацелася верыць у лепшае.

Тышкевіч пісаў справаздачу. Заняты ёю, не вельмі ўваходзіў у падзеі, што разгортваліся вакол яго. Аднаго вечара да яго завітаў Чаротны, сеў пры стале на лаўку, закурыў. Ягоныя пальцы дрыжалі.

— Параскідалі наш атрад па армейскіх часцях,— сказаў ён, на штосьці намякаючы.

— Ну і што? — спытаўся Тышкевіч.

— А тое, што не давяраюць нам. Нямецкім тылам мечаныя. І, можа, так на ўсё жыццё.

— Не кажы глупства,— абурыўся Тышкевіч.— За табой грахоў няма.

— А як дакажаш?.. Вось-вось, доказаў няма. Варта ж некаму навесці цень на пляцень, і замучаюць праверкамі. Знаеш, што мне старшы лейтэнант аднойчы сказануў? Вы, кажа, усе здраднікі. Ніхто не ведае, па якой прычыне ў тыле немцаў апынуліся. Можа, хацелі прымерыцца да фашысцкіх парадкаў. Я ледзь стрымаўся.

— Добра, што стрымаўся,— адказаў Тышкевіч.— А на тое, што сказаў табе старшы лейтэнант, плюнь. Палкавы камісар інакш думае. Па сакрэту скажу табе, будуць прадстаўляць нас да ўрадавых узнагарод. А ты кажаш...

Калі супакоены Чаротны пайшоў, Тышкевіч перачытаў справаздачу і акуратна выкрасліў усё, што напісаў у ёй пра здраду Каршукова. Справаздачу давялося перапісваць нанава.

Стрыжак наогул быў немнагаслоўны.

Неяк ён паклікаў Тышкевіча, спытаўся:

— Вы пра Каршукова што-небудзь ведаеце?..

Тышкевіч на імгненне разгубіўся: баяўся, што Стрыжак правярае ягоную сумленнасць.

— Не...

— У размяшчэнне нашых войск на поўдзень ад Вярэчча выйшла група пад камандаваннем савецкага камандзіра Чабаноўскага. Ён сцвярджае, што ў іхняй групе да апошняга знаходзіўся Каршукоў. Але за лінію фронту з імі не пайшоў.

— Можа, хлусіць...

— Але ён называе прозвішчы ўсіх членаў вашай пяцёркі...

— Пяцёрку мог ведаць толькі Каршукоў,— сказаў Тышкевіч.

— І яшчэ адна дэталь,— як бы не пачуўшы Тышкевіча, сказаў Стрыжак.— Ёсць разведдадзеныя, што Каршукоў з нейкімі людзьмі правёў аперацыю супраць немцаў, якая вельмі іх напалохала. Калі не вы з ім праводзілі тую аперацыю, дык хто тады? Чабаноўскі?

Тышкевіч яшчэ раз парадаваўся, што не паспеў навесці на Каршукова цень падазронасці.

Вечарамі яны збіраліся ўсе разам, строілі планы, спрабавалі ўгадаць свой далейшы лёс.

— А я так думаю,— сказаў аднойчы Малахоўскі,— зноў нас у тыл пашлюць. Вось пабачыце. Фронт стабілізаваўся. Наступленне наўрад ці пачнецца. А трывожыць варожыя тылы вельмі важна.

Тышкевіч пра такі паварот неяк не думаў. Прывык да думкі, што пойдзе ў рэгулярную армію. Але Малахоўскаму паверыў. Толькі ніяк не мог узяць у разлік, навошта было расфарміроўваць атрад.

— Трэба табе, Іван Анісімавіч, адкрыта пагаварыць з палкавым камісарам,— прапанаваў Дубавец.— Даганяць ды чакаць — найгоршая справа. Табе можна гаварыць. Не тое што нам, грэшным. Ты партыйны кіраўнік, табе і карты ў рукі.

Назаўтра Тышкевіч пайшоў да Стрыжака.

— А я толькі збіраўся па цябе пасылаць, а ты сам лёгкі на паміне...

Тышкевіч прысеў на венскае крэсла.

— Слухаю вас, Сцяпан Сяргеевіч,— знарок па-цывільнаму сказаў ён.

— Давядзецца вам у тыл вяртацца...

— Калі?

— Заўтра прыбывае група Чабаноўскага. Ноччу трэба будзе ісці...

— Навошта ж было атрад забіраць? — паскардзіўся Тышкевіч.

— На фронце таксама людзі патрэбны. Дарэчы, ваююць партызаны здорава.

Тышкевіч паверыў і не паверыў ягонаму паведамленню: атрад раскіданы па ўсёй лініі абароны, што займала армія. Хіба будзеш ведаць, як і хто ваюе? Але ўсё роўна скупое паведамленне гэтае адгукнулася ў сэрцы гонарам за сваіх хлопцаў.

— Ну што ж, будзем вяртацца,— пагадзіўся Тышкевіч.

Стрыжак разаслаў карту Падзвіння. На ёй чырвоным алоўкам абведзена акружнасць. Напалам яе рассякала чорная стужка чыгункі Падзвінск — Смаленск.

— Будзеце асвойваць вось гэты стратэгічна важны плацдарм,— сказаў Стрыжак.— Трэба вывесці са строю шашу і па магчымасці чыгунку. Стварайце партызанскую зону, каб у вас былі моцныя тылы. Ну, ды вы гэта ведаеце лепей за мяне. Цяпер давай, Іван Анісімавіч, памяркуем наконт кіраўніцтва атрадам. Твая місія ясная — сакратар райкома і камісар. Згодзен?..

— Пярэчыць не стану...

— А каго камандзірам?..

— Чаротнага... а можа, Дубаўца...

Стрыжак мяўся, не даваў згоды.

— Я прапаную Чабаноўскага,— сказаў ён.

— Яго не ведаю...

— Чаротны драбнаваты, калі падыходзіць з прыцэлам на будучае. Справа ў тым, што вам давядзецца расці... Ну, скажам, у полк ці брыгаду. Абстаноўка потым пакажа. Не пацягне Чаротны такую махіну. Дубавец таксама. А Чабаноўскі спелы кадравы камандзір.

— Хай будзе Чабаноўскі, хоць, папраўдзе, не хацелася крыўдзіць сваіх хлопцаў.

— Для іх пасады знойдуцца,— павесялеў Стрыжак.— Намеснік камандзіра, начштаба, камандзір разведкі, ды і

камандзіры атрадаў спатрэбяцца. Яльцава бяры сабе ў памочнікі па камсамолу.

— Пра яго я і сам думаў,— прызнаўся Тышкевіч.

— Тады пачнём выклікаць людзей ды гаварыць з імі канкрэтна. Цягнуць сілком нікога не будзем. Не захоча ў тыл ісці, хай застаецца ў арміі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тройчы атрад Чабаноўскага спрабаваў перайсці лінію фронту, але ўдалося гэта толькі на чацвёртую ноч.

У самую поўнач атрад падышоў да гравійкі пад Лісінымі ямамі, доўга ляжаў пад пранізлівым ветрам, пакуль разведка шукала месца для пераходу.

Была марозная ноч. У небе мігцелі яркія зоркі. Сонная цішыня вісела над дарогай. Разведка ў белых маскхалатах паявілася, як прывіды ў месячную ноч. Атрад ціха падняўся, пайшоў. Пад нагамі рыпеў снег. За іх спінамі ў чорным небе ўспыхвалі ракеты. Недзе далёка палыхала зарыва выбухаў. А наперадзе ляжала чорная глухая цемра. Ноч. Невядомасць...

**Асіпенка А.**

А90 Збор твораў. У 3 т. Т. 1. Вогненны азімут: Раман/Прадм. Л. Савік.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 446 с. [5] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00303-5.

Осипенко А. Х. Собрание сочинений. Том 1. Огненный азимут: Роман.

У сваім рамане аўтар шырока і праўдзіва расказвае пра падзеі першых шасці месяцаў вайны, не хавае разгубленасці, нявопытнасці, адчаю людзей, што апынуліся пад фашысцкай акупацыяй.

Адарваныя вайной ад мірных заняткаў, пяць камуністаў застаюцца ў тыле ворага. Раман мнагапланавы, вострасюжэтны, глыбока псіхалагічны.

А $\frac{4702120201-110}{М302(03)-89}$ 97—89 **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

ОСИПЕНКО
Александр Харитонович

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ТРЕХ ТОМАХ

**Том 1**

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

АСІПЕНКА
Аляксандр Харытонавіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У ТРОХ ТАМАХ

**Том 1**

**Раман**

Рэдактар Г. В. Роліч. Мастак М. У. Суства. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Маслоўская.

ІБ № 3133

**Здадзена ў набор 08.09.88. Падп. да друку 16.03.89. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,52+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 24,47. Ул.-выд. арк. 26,46. Тыраж 5600 экз. Зак. 1801. Цана 2 р.**

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.